№4(71)
/ліпень-жнівень/ 2014

Дзе

дзеяслоў

ЗМЕСТ

Сяргей Дубавец



...калі ты не сумняваешся –
ты або труп, або помнік,
або робат...

# Вайна і мір. Справаздача

*Праца аспіранта сцэнарных курсаў Марціна Віктаровіча па выніках экспедыцыі ў адселеную зону*

Вёска Дачнае знаходзіцца ў адселенай зоне на паўднёвым усходзе краіны. Па сутнасці гэта й не вёска ніякая, а ўсяго дзве жылыя хаты на розных канцах колішняга паселішча. У хатах гэтых жывуць два гаспадары, якія не схацелі адсяляцца.

У рэестрах адселеная зона называецца UNIFIN – паводле праграмы ААН для ліквідацыі наступстваў трэцяй сусветнай вайны.

Уласна вайной мы яе называем умоўна. Тады, калі яна адбылася, яе называлі глабалізацыяй. Усё прыводзілася ў аднолькавы выгляд з умовай, што ўзор для ўніфікацыі будзе брацца найлепшы.

Але ў тыя часы было шмат інтарэсаў, пошукаў выгады, і зусім не найлепшыя атрымлівалі ўладу над гэтымі працэсамі. Таму дзесьці ўсё рабілася аднолькавым паводле

найлепшых узораў, недзе паводле сярэдніх, а дзесьці нават паводле найгоршых. Прычым найгоршыя былі найбольш актыўныя і агрэсіўныя. Яны нападалі на найлепшых і падпарадкоўвалі іх сваім найгоршым узорам. І калі такое падпарадкаванне адбылося, тады й сталі называць гэта вынікамі трэцяй сусветнай вайны, бо яны інакш і не выглядалі. А калі ёсць вынікі вайны, значыць, іх трэба ліквідоўваць. Так і ўзнікла праграма UNIFIN.

***

Гаспадары Кромлех і Глюкліх – адзіныя, хто застаўся з вялікае арміі ліквідатараў, што некалі працавала ў адселенай зоне. Яны не толькі жывуць тут і працуюць, але й жорстка варагуюць паміж сабой.

– А каб табе пяткі вывернула, каб ты! – крычыць Кромлех.

– А каб ты жыватом ездзіў! – адказвае Глюкліх.

– А каб ты прайшоў навылет зямлі, каб ты! – крычыць Кромлех.

– А каб табе ў галаве мышы гнёзды вілі! – адказвае яму Глюкліх.

– А каб ты тое з’еў, што сказаў, каб ты! – крычыць Кромлех.

– А каб ты быць не ведаў! – адказвае Глюкліх.

У абавязкі абодвух насельнікаў уваходзіць догляд старога кароўніка. Тым не менш, яны ніколі нічога не робяць разам, бо да глыбіні душы не любяць адзін аднога. Адкуль гэтая нелюбоў? – спрабаваў высветліць я.

– А хай ён не лезе, – сказаў Кромлех.

– А хай ён не лезе, – сказаў Глюкліх.

Вы спытаеце, як ліквідатары могуць працаваць без кантакту міжсобку? Аказваецца, на закінутым кароўніку ёсць рэпрадуктар, які апавяшчае, што і каму рабіць. Пра гэта мне ўдалося даведацца, напрасіўшыся ў госці да Кромлеха. Ён жыве ў невялікім драўляным будынку, які нагадвае шпакоўню.

Сціплае памяшканне здзівіла адсутнасцю якіх-небудзь слядоў цывілізацыі. Адзінае, што нагадвала пра колішняе жыццё тут – гэта нашыўка UNIFIN на рукаве Кромлехавай куфайкі і абрыўкі колішніх ідэалагемаў у мове самога гаспадара.

– Мы адраджаем зямлю! – казаў Кромлех. – Мы – дзеці галактыкі!

На пытанне пра адносіны да Глюкліха (у яго адсутнасць) рэакцыя Кромлеха была непрадказальнай:

– Гэта ж мой брат! Мы адзін без аднаго ніяк. Бо мы беларусы.

– А як жа вы жывяце, адзіныя на ўсю зону, – спытаўся я.

– Мы жывем, пакуль доўжыцца наша спрэчка, наша супрацьстаянне, – быў адказ.

На пытанне «Ці не хацелася вам пакінуць зону, як гэта зрабілі іншыя ліквідатары, і выправіцца ў шырокі свет?» Кромлех адказаў лаканічна:

– Лепей там, дзе нас няма, і пакуль нас там няма, там лепей.

Высветлілася, што праграма UNIFIN мела на мэце не толькі ліквідацыю наступстваў трэцяй сусветнай вайны, але і развіццё, па-магчымасці, новай цывілізацыі. Для чаго тут і пакінутыя былі незлічоныя войскі ахвочых. Але за прамінулы час амаль усе любымі спосабамі паўцякалі ў шырокі свет. Засталіся толькі Кромлех і Глюкліх.

– Мы засталіся, – сказаў Кромлех, – бо гэта наша радзіма. Простыя словы, простыя рэчы.

***

Назаўтра пасля начоўкі ў гасцінным Кромлехавым жытле я разам з гаспадаром рушыў на агляд закінутага кароўніка з рэпрадуктарам са спадзевам сустрэць там і распытаць Глюкліха. А заадно паглядзець, як адбываецца «ліквідацыя наступстваў».

Адразу за домам Кромлеха мы спусціліся ў лагчыну і скіраваліся бітай сцяжынаю ў бок бярэзніка. Вакол буяла расліннасць і, апроч сцяжыны, нішто не сведчыла пра існаванне тут чалавека.

За бярэзнікам я і пабачыў кароўнік – невялікую будыніну на паўсотні галоў.

На пытанне «Як гэты будынак не развальваецца, бо слядоў рамонту на ім не відаць?» адказ быў: «А чорта яму не станецца».

Развітаўшыся з Кромлехам, я пайшоў да Глюкліха, які ўвіхаўся на падворку. На пытанне «А што вы робіце?» ён сказаў:

– А што скажуць, тое і робім. То падсцілку ў кароўніку мяняем. То абкошваем вакол, то смятану б’ем з малака...

Апошнія словы збілі мяне з тропу. Выходзіць, кароўнік быў не закінуты. Аднак усё аказалася не так проста.

– Мы даглядаем ласёў, дакладней, ласіх, – сказаў Глюкліх, – тыя самыя каровы. Мы п’ем іх малако, запрагаем іх у вазок, ямо іх мяса і шыем абутак з іхнай скуры. Мы калісьці нічога гэтага рабіць не ўмелі. Але рэпрадуктар кіруе намі.

З далейшых роспытаў я дазнаўся, як працуе рэпрадуктар. Рэч у тым, што «кропка» або правадное радыё, таксама патрапіла пад глабалізацыю і натуральна існуе тут як частка ўсяго гэтага жыцця, як паветра. І адтуль, з рэпрадуктара, ідуць указанні кшталту ранішняй зарадкі. «Рукі на шырыню плеч» і ўсё такое. Пакуль я рабіў гэты запіс, рэпрадуктар пракерхаўся і загаварыў мужчынскім голасам: «Увага! Перадаем важнае ўрадавае паведамленне. Грамадзяне і грамадзянкі! Вайна!».

Пасля гэтых словаў Кромлех і Глюкліх кінуліся выграбаць з кароўніка ласіны гной, каб замяніць яго свежай саломай.

Я спытаўся ў іх: «Слухайце, голас з рэпрадуктара не казаў мяняць падсцілку. Што вы робіце?».

– Не казаў? – здзівіўся Кромлех. – А што ж ён казаў?

Гэтыя людзі дзейнічалі на свой розум, і толькі падмацоўвалі свае рашэнні спасылкамі на голас з рэпрадуктара, які гучаў невядома адкуль, невядома чый і невядома навошта.

– Ведаеце, чалавек складаецца з сумневаў. – Растлумачыў Глюкліх. – І больш ні з чога. Усё астатняе – цела, розум, душа – не мае значэння. Толькі згустак сумневаў – гэта і ёсць чалавек. Калі ты не сумняваешся – ты або труп, або помнік, або робат.

***

Так я трапіў дахаты Глюкліха. Звонку яна нагадвала човен, а сцены ўсярэдзіне былі памаляваныя сінімі хвалямі.

– Ведаеце, я, колькі сябе памятаю, марыў пра мора. У маленстве ў мяне нават санкі былі марскія. Ну, так я іх называў. І відэлец таксама быў у мяне марскі. Але ў нас няма мора. Даўно ўжо няма. Гадоў тысячу. І я чамусьці застаўся тут. Але ў мяне няма адчування, што мая мара не здзейснілася.

Вот. Калі залезці на дах кароўніка, бывае такі час, што навакольныя лясы аж за далягляд адліваюць блакітам, я бачу мора...

– А Кромлех, – спытаўся я, – ён не марыў пра мора? І ад гэтага ваш разлад?

– Ведаеце, Кромлех – горны чалавек. Ён марыць пра горы. І кажа, што нашы славутыя балоты – гэта горы, перавернутыя ўніз. Таму і ён тут. І яго ўсё задавальняе таксама. Хоць, па-мойму, балоты – ніякія не горы, а якраз тое, што засталося ад колішняга мора.

Далей у часе апытання высветлілася, што ў адселенай зоне прысутнічае яшчэ адна асоба. Прычым асоба без галавы.

– Вядомая гісторыя, – усміхнуўся Глюкліх. – Януш Чартарыйскі застаўся ў зоне. Бо куды ж з'едзеш без галавы? Цябе проста не возьмуць.

На мае роспыты былы ліквідатар распавёў, што Януш Чартарыйскі згубіў сваю галаву падчас асады Пскова ў 16-м стагоддзі. Калі шляхта пайшла ў наступ, прыяцель Чартарыйскага Саламярэцкі ў запале бітвы знёс Янушу галаву. Пскова яны не ўзялі, а калі вярталіся дадому, Саламярэцкі ўзяў за сябе Янушаву жонку, у якую быў закаханы даўно. Януш не змог дараваць такога падступства і шукае былога прыяцеля, каб адпомсціць яму.

– А ён не памёр? Без галавы? – спытаўся я.

– Не-е, што вы! Пакуль ён не знойдзе Саламярэцкага, ён не памрэ. А паколькі ён яго не знойдзе ніколі... Ну дык вот.

У часе далейшага дазнання высветлілася, што Чартарыйскі сапраўды ходзіць па мясцовасці і махае мячом, зносячы ўсё на сваім шляху. Калі ён набліжаецца да сядзібаў Глюкліха і Кромлеха, яны залазяць пад падлогу, бо ён можа сячы сваім мячом толькі тое, што знаходзіцца на лініі гарызонту, але не вышэй і не ніжэй.

– Ці магчыма яго пабачыць? – спытаўся я.

– Ведаеце, гэта непрадказальна, – быў адказ.

Наступныя роспыты паказалі, што Чартарыйскі прыходзіць прыблізна раз на месяц, але цяпер ужо не было яго месяцы два. У мяне з'явіўся шанец і я пастараўся скарыстацца ім. Глюкліх ласкава згадзіўся цярпець мяне ў сваім паселішчы колькі спатрэбіцца.

***

Доўгім вечарам гасцінны гаспадар распавядаў мне гісторыю адселенай зоны, якую ён памятаў на сваім вяку.

Аказваецца, некалі тут была адмысловая вытворчасць. Яе зладзілі ліквідатары, калі іх яшчэ заставалася шмат. Працаваў там і Глюкліх. Называлася вытворчасьць Робатацэх, бо выпускалі там робатаў. Прычым, лічылася, што робаты павінны быць з душамі. Таму за ўзор бралі славутых паэтаў. Лічылася, што гэта будуць новыя насельнікі зоны.

– У газетах тады смяяліся з нас, што мы ажыўляем помнікі.

Адзін з ліквідатараў, маёр, адразу сказаў, што робаты не будуць жыць вечна, але яму не паверылі і ён нават аб'явіў байкот вечнасці.

– Як гэта?

– Ведаеце, ён вырабіў сабе надмагільны помнік і доўгія гады трымаў яго ў сябе ў спальні. Ён глядзеў на яго і як бы сам пераконваўся ў канечнасці існавання. Перакананасць – вось што для яго было самым галоўным у жыцці.

– Чаму?

– Ён жа быў камуніст і ў душы – глыбока савецкі чалавек.

Так ці інакш, але робаты зношваліся, бо нішто рукатворнае не можа быць вечным, толькі калі яно зліваецца з прыродай. А бясконца мяняць ім дэталі не было сэнсу, дый не стала каму, бо ліквідатары паступова адправіліся ў шырокі свет.

– А што ж робаты рабілі?

– Як што? Ездзілі па школах і выступалі з вершамі. Гэта ж паэты.

***

Аднойчы падчас ранішняй кавы мы пачулі незвычайны гук, падобны да гуку ротарнай жаткі. Шум імкліва нарастаў.

– Ведаеце, гэта Чартарыйскі! – сказаў Глюкліх. – Хутчэй на дах!

Апынуўшыся на даху, мы пабачылі велізарнага дзяціну з біцэпсамі, у кальчузе на голае цела. Ён набліжаўся, зносячы аграмадным двухручным мячом усё, што траплялася на шляху. Калі меч быў занесены над рогам нашае хаткі, Глюкліх раптам закрычаў жаночым голасам:

– Пане Чартарыйскі! Я заўсёды была верная вам! Памятаеце, як я вас праводзіла на асаду Пскова? Мы мілаваліся аж чатыры разы!

Рыцар спыніўся ў сваім руху. Выглядала, што ён пачуў крыкі Глюкліха. Але і Глюкліх апынуўся ў далікатным становішчы.

– Пане Чартарыйскі! – крыкнуў ён ізноў.

Рыцар схамянуўся.

– Не люблю сябе і ніколі не любіла. Толькі вас, – крычаў Глюкліх.

Рыцар устаў на калені.

– Вы пазбаўляеце яго несмяротнасці, – шапнуў я.

– Але ж нам трэба гэта зрабіць, – шапнуў Глюкліх, вачыма шукаючы паразумення.

– Навошта? – здзівіўся я.

– Навошта? – здзівіўся Глюкліх.

Я паспрабаваў растлумачыць Глюкліху, што тады б знікла жывая матывацыя для ўсіх. Бо мы ўсе жывем, пакуль нашы мёртвыя – як жывыя. Так у сям'і, так і з цэлымі народамі. І гэта, насамрэч, вялікі здабытак, што такі Чартарыйскі ходзіць па наваколлі і будзіць нас. Інакш чаго б гэта вы мянялі падсцілку ў кароўніку? Мы б усе проста ляжалі і нічога не рабілі. Нашы ворагі не тыя, хто будзіць, а тыя, хто прысыпляе.

– Ведаеце, нам, пакуль ён стаіць на каленях, трэба хуценька пабегчы ў сутарэнні, бо ён устане і можа знесці хатку, – сказаў Глюкліх, быццам і не пачуўшы маіх словаў.

Але рыцар тым часам падняўся з калень і па грудзёх яго было бачна, што ён рыдае. Ён рыдаў, бо адчуў нашу размову. Невядома як і чым, але адчуў. І, відавочна, стала яму бядотна. І тады ён павярнуўся да нас і сказаў шыйнай трубкай, проста пратрубіў, нібы слон:

– Вы непапраўны народ! Я, ваш далёкі продак, не магу вас абудзіць. Мы змагаліся за гэтую зямлю, думаючы пра вас. Але вы аказаліся га...ном.

І сышоў.

***

Калі час маёй экспедыцыі падыходзіў да канца, я вырашыў паспрабаваць замірыць двух непрымірымых гаспадароў. На тое прыдалася ўзятая

з сабой пляшка. Спачатку мы выпілі з Кромлехам, пасля я пайшоў да Глюкліха і, выпіўшы з ім, вярнуўся да Кромлеха. Цяпер угаворваць яго адправіцца на госці да брата доўга не прыйшлося.

Гаспадары гнеўна пазіралі адзін на аднаго, але пасля каторай чаркі сцішыліся. Яны як бы аглядалі сваё жыццё. Быццам гэта і не іх жыццё, а – від збоку. Раптам вусны іх раскрыліся і я пачуў дзівосны спеў. Загучала старадаўняя, народная, відаць, песня:

Ёсць надзея у мяне,
у мяне,
у мяне
Што аднойчы ўсё міне,
ўсё міне,
ўсё міне.
Мы палічым айн-цвай-драй,
айн-цвай-драй,
айн-цвай-драй.
І пасядзем у трамвай,
у трамвай,
у трамвай.
Паляцім за далягляд,
далягляд,
далягляд.
У радзімы фатэрлянд,
фатэрлянд,
фатэрлянд.

Галасы іх узвышаліся, пакуль не загучалі над усёй прасторай, аж да неба, якое ўначы рассыпалася мільярдамі зорак. І чамусьці я заспяваў разам з імі.

Назаўтра я развітаўся з Кромлехам і Глюкліхам, пакінуў Дачнае і самалётам прыбыў у сталіцу.

*Аспірант сцэнарных курсаў*
*Марцін Віктаровіч.*



Галіна Дубянецкая



...Хай гадуюцца пад сонцам Сысы,
як у Заспе на Дняпры гарбузы!..

# Крылы, альбо Памылка стваральніка

*Гарэзіі*

## КРЭДА

Ад Слова – мудрасці чакаем,
што прасвятляе навылёт!
А скуль, пытаю, мудрасць тая
ў паэты ў дваццаць год?

Калі набуду – не схаваю,
аддам усю, як ёсць.
А покуль вам дару, што маю:
праменістую Прыгажосць.

*1985*

## ВОЧЫ

Глядзяць з аднае істоты
два змоўцы: стары й дзіця –

ды іншае бачаць употай
праз тое, на што глядзяць...

Што ж вы ўбачылі, вочы,
праз веяў маіх трыснёг?
Вір, дзе д'ябал рагоча?..
Вырай, дзе тужыць Бог?..

Чаго вы шукалі, вочы?..

*1984*

### ПЕРАКЛАД

*(Мільён вякоў цягнулася расстанне...)*
Прыемна бачыць Вас, шаноўны пане.
*(Паветра не ставала для дыхання...)*
Сумуецца ў краёх чужых, мой пане.

Што бачыла?..
*(Твой позірк – дзе ні гляну...)*
Што ўсё падобна скрозь, вядома й пану.
Як бавілася?..
*(Ды з тваёю зданню...)*
...упадабала мройныя блуканні.
Што вынайшла?...
*(Што лекаў ад кахання*
*нямашака...)*
Што дома лепш, мой пане.

*(А ты? Ці згадваў? Ці прыспешваў дзень*
*спаткання?..)*
А Вы як маецеся, мой шаноўны пане?
*(О Сілы! Сумаваў!! О мой непараўнаны!!!)*
То дзякую на добрым слове пану.

.................................................

Так шмат пагляду меў сказаць пагляд...
"Ўратаваў" сінхронны пераклад.

*1986*

### ПОМСТА

Дзікі ў косах мак палымнеў,
дзікі ў сэрцы выбухнуў гнеў:
наглыталася сэрца слёз,
узбунтавалася сэрца ўсур'ёз.

Гэй, мой вораг! Прад помстай дрыжы!
Што з ім зробім? – душа, скажы.
Вызнач кару такую, якой
сапраўды заслугоўвае той,
хто на вольнасць тваіх дзяржаў
ланцугі начапіць пагражаў;
той, хто кінуў цябе у змрок
і сям-там запальваў знарок,
да гульні адчуваючы смак,
за фальшывым фальшывы маяк,
чый няпэўны агонь праз гады
вёў цябе ад бяды да бяды;
той, хто цешыўся болем тваім,
нібы цацкай, – што зробім з ім?

І душа абвясціла прысуд:
калі горшых не хочаш пакут,
якім не ўяўляеш мяжы, –
беражы Яго. Беражы!

*1986*

## *АПОШНЯЯ (НА СЁННЯ) СЕРЭНАДА*

Маім палкім серэнадам[1] – *ой-ёй-ёй!* –
не шанцуе на спагаду – *ой, божа ж мой!* –
дзень пры дні шліфую штыль,
сам во ссох, бы той матыль, –
*ой, божа ж мой!*

А яна, мая Рэджына,[2]
горш за дзікую ажыну:
таргане брыво ўгару –
і чакае, што памру.

Ой вы, вочы, – вуглі з пекла:
бліська! – і мову як адсекла:
лёзы позіркаў-нажоў –
слёзы ёлупаў-мужоў.
*Ой, ой, ой, ой,*
*ой, божа ж мой!*

Да таго ж – ратуй, мадонна[3]! –
кпіны сыплюцца з балкона,
быццам колкіх дзідаў рой,
проста ў сэрца мне, авой!

І завошта, мамма мія[4],
здзекі я цярплю такія?!

Бач, ахвяру штоначы
ўжо пільнуюць крумкачы.
*Ой, божа ж мой!*

Кара[5] ты мая, карына[6]!
Не чакай, пакуль загіну,
бо тлумачыцьмеш бяду
найвышэйшаму суду.

Там на небе з пракурорам
не дамовішся, сіньёра[7], –
атрымаеш у чарзе
тое, што й забойцы ўсе.
*Ой, божа ж мой!*

Ці ж мая лягчэй правіна –
што цябе абраў багіняй!
Разам пекчыся ў вагні
ўсё адно нам... адчыні!

---

1. serenata (*іт.*) – вечаровая песня, вячорка
2. regina (*іт.*) – каралева
3. Madonna (*іт.*) – Маці Божая
4. mamma mia (*іт.*) – мамка мая
5. cara (*іт.*) – дарагая
6. carina (*іт.*) – даражэнькая
7. signora (*іт.*) – пані

*1985*

## КРЫЛЫ, АЛЬБО ПАМЫЛКА СТВАРАЛЬНІКА

Зляпіўшы свой вобраз з гліны,
Ён з намроенага чагосьці
напаследак прыладзіў... крылы:
залётвай, маўляў, у госці.

...І надумала смелая гліна
узняцца на тых бязважкіх...
Ды схібіў Творца ў разліках:
надта ўжо крылам цяжка.

Гліна – глінаю –
плясь! –
у гліну!
Былі зоры бліжэй хвіліну.
Рвуцца крылы з апошняе сілы –
ды не ўзняць над глінаю гліну.

Круціць пальцам ля скроні Розум:
гэй, супынім скок нецвярозы.
(Што яшчэ ён адкажа на кпіны?
Розум – таксама з гліны...)

...І валочыцца недарэчы
за плячыма дарунак боскі...
От жа ўеўся, зараза, ў плечы...
Замінае паўзці па коўзкім...

*1984, 1994*

### ПАЧАТАК

Штось падсподнае вее пялёсткамі,
наплывае ломкімі ўсплёскамі,
ад начэй забірае змрок,
на світанні замгляе зрок,

смокча моцы з душы без літасці...
О, якую б замову вынайсці,
каб сагнала смугу-каламуць,
каб дазволіла ў квет зазірнуць?

Квет мой келіх, расой маціцоваю
цябе поўніць ясво месяцовае –
аніяк цябе не ўхапіць
ні расы твае хмельнай адпіць...

Раптам шума гарой надзімаецца,
і вышэптвае, нібы ў сне:
"Вецер дужае, хвалі ўздымаюцца,
і калышуцца перлы на дне..."

І – сыйшло. І ні яскі не высветліць...
Як жа казку з палону вызваліць?
Ледзьве месяц выплыве зноў –
пачынаюцца ловы слоў.

"Вецер дужае, хвалі ўздымаюцца..."
Вось жа, вось яно мільгане!...
Нізка крохкая разрываецца –
"і калышуцца перлы на дне".

Таямніца ў пупышку сцінаецца,
неспазнаная ў сэрцы жыве.
Дзядзька Колас у вус пасміхаецца,
шызы голуб на галаве.

*1985, 2010*

## ПРЫЧАПЛЮ МУЗЫКУ

*Ірынцы*
*(наследаванне сама-ведаеш-каму)*

1. Дзе пяюць кухлікі ў трубе,
адгарну зыркую дзіру.
Падбяру музыку табе –
як цябе кемлю, падбяру.

2. Ты не ў сне бокам пры вакне,
стрымгалоў думаеш эсэй.
Незнарок згадаеш пра мяне –
паплыве музыка з вушэй.

3. Прычаплю музыку вушам,
прышпілю музыку хвасту...
...Быў адзін плёў Мурзакатам,
што пісаў музыку Лісту.

*Прыпеў:* Патрывай пад музыку маю,
прыгадай, чаго ў нас не было.
Уссядай, нарэшце, на крыло...
на памяло...

4. Не засне з місай пры вакне,
Хто не спаў з лыжкай ля вакна.
Падляціць... ветліва піхне
нас усіх музыка адна.

5. Ла-ла-ла скінецца з крыла
пры каце, згодна пухаце.
Каб зусюль музыка плыла,
прышчаплю музыку лухце.

*Прыпеў:* Не сумуй пад музыку маю,
падзіві-
ся, колькі наплыло...
Да яе ты словаў падбярэш
(хоць) 100 кіло...
100 кіло...

*1995*

## ДА ЗАТВОРЦЫ Ў ВАБІЦЕЛЬ

*пасланне*

Мы Зніча згадаці рады
(бо старыя камарады)

хоць – да слова, хоць – без слоў,
а пад кроплю – й пагатоў.

Ды лянота-абібочка
не дае піснуць радочка:
так і свішча, як на грэх,
адусюль з усіх прарэх.

Адпусці ты нас, лянота,
як балота – бегемота,
бо даўно паслаць пар*а*
прывітанне да сябр*а*.

...Мы ўсе жывы і здаровы,
разам стрэлі Год Каровы, –
ці Каровы, ці Быка,
ці вазёраў малака.

Бык – той часу не марнуе,
у навуцы зноў працуе,
ходзіць каштаваць прадукт
і выносіць свой вердыкт.

Цмок блішчыць у роднай хаце,
пачынае сумаваці;
бельгі візу не даюць,
бо ў мазгох іх – каламуць.

Тоха брата ўспамінае,
лёг-на-боцтва не спыняе,
і пры гэтым шмат *вяшчыц*
паспявае падмачыць.

Галька Знічавы пісанні
знесла ў важнае выданне,
там рэдактар пагартаў,
сёе-тое ўпадабаў.

Вось такія ў нас падзеі.
Дужа цешымся з надзеі,
што прыедзе дзядзька Зніч
і вясёлы скажа спіч.

*1997*

### ***СЯРГЕІХА***
*(Велічальная)*

Як Галінку Сяргей палюбіў –
ён ёй шчупакоў налавіў.
Як прашпектамі з мілай гуляў –
на вячэру ёй грыбоў назбіраў.

Як пад дожджыкам ён мок – не раскіс,
ні ў бару яго камар не загрыз!
Колькі зімак адгавеў – не азыз!
От такі ў мяне Сяргей, Божы Сыс.

Ты – жыцця майго найбольшы сюрпрыз,
мы наведаем з табой Парадыз!
Хай гадуюцца пад сонцам Сысы,
як у Заспе на Дняпры гарбузы!

*2012*



Лідзія Арабей



...тэлебачанне дало фору
бабулькам-пляткаркам,
што сядзяць каля дома на лавачцы
і абгаворваюць сваіх суседак...

# Пошукі ісціны

***Абразкі***

## Сведка

Я была сведкай, як разбуралі, знішчалі цэрквы, касцёлы, а сёння я сведка, як адбудоўваюцца саборы і як вялікае начальства жагнаецца і абдымаецца са святарамі.

Я была сведкай, як узводзіліся пампезныя помнікі Леніну, Сталіну і была сведкай, як тыя помнікі знішчалі.

Я была сведкай, як партыя камуністаў лічылася недатыкальнаю, калі ў камуніста адбіралі партыйны білет, то гэтым самым знішчалі яго маральна, пазбаўлялі будучыні, а потым была сведкай, як самі камуністы спальвалі, знішчалі свае партыйныя білеты.

Я была сведкай, як шальмавалі Сахарава, Салжаніцына, а потым іх імёнамі называлі плошчы.

Я была сведкай, як абвалілася каменная глыба – Савецкі Саюз.

Якая ж ты непрадказальная і пакручастая, нашая гісторыя.

## Воля

Мы не па сваёй волі прыходзім у гэты свет і не па сваёй волі сыходзім у іншы.

## Навекі

Яны шмат гадоў пражылі разам, але яна ніколі не была за ім шчаслівая. Быў ён вельмі памаўзлівы, да яе даходзілі чуткі – то там, то там у яго раманы. Жыла пад вечнаю трывогаю – аднойчы пойдзе і не вернецца.

Ён памёр у даволі маладым веку. А праз нейкі час памерла і яна. Як законную жонку, яе пахавалі побач з ім.

Вось цяпер нікуды не дзенецца, нікуды не пабяжыць. Цяпер навекі разам.

## Хто?

Калі нехта і стварыў гэты свет, то хутчэй за ўсё не Бог, а д'ябал. Вельмі шмат у ім жорсткага і несправядлівага.

## Віншаванні

Адна творчая арганізацыя вырашыла павіншаваць сваіх членаў з Новым годам і разаслала паштоўкі. У іх пажадалі новых творчых поспехаў, моцнага здароўя і тым членам, якія даўно памерлі.

Мабыць нябожчыкі былі вельмі ўдзячныя свайму кіраўніцтву за такую да іх увагу, і за тое, што залічылі іх да ліку бессмяротных.

## Аповед змаёмай

– У мяне загінуў сын. Трапіў пад трамвай. Васямнаццаць гадоў было хлопчыку...

– Божа мой, – жахнулася я. – Які трэба было ўчыніць грэх, каб так за яго паплаціцца?

– Быў грэх, – з горыччу прызналася знаёмая. – Я разбурыла сям’ю... Звяла мужа...

За ўсё ў жыцці трэба плаціць...

## Час

Час – катэгорыя незалежная, яна ні ад кога не залежыць, яна аднолькавая для пана і для лёкая, для цара і для халопа. Яго нельга прыспешыць альбо затрымаць, ці вы спіце, ці сядзіце, ці ляжыце, ці бяжыце, ці вам добра, ці вам кепска – час мерна і нязменна адлічвае хвіліны, гадзіны, вякі.

## Усе разам

Каторы раз успамінаю, як сядзелі мы групкаю ў выдавецтве «Мастацкая літаратура», пра нешта гаварылі, і тут прыйшоў чалавек і сказаў:

– Памёр Мележ.

– Чаму гэта добрыя людзі паміраюць, а нягоднікі жывуць, – з горыччу сказала я.

– І нягоднікі паміраюць, – сказала Вера Палтаран.

Сапраўды, і праведнікі, і нягоднікі спакон веку начыняюць сваімі парэшткамі зямлю і разам з ёю круцяцца ў космасе.

## Меркаванне

Мужчыны кажуць, што галоўнае ў жанчыны – постаць, фігура, а твар можна і намаляваць. А мазгі жанчыне наогул непатрэбныя.

## Палёгка

Калі памірае чалавек, то гэта гора, бяда для тых, хто яго любіў, каму ён быў патрэбны. А самому чалавеку смерць – палёгка, асабліва ў пажылыя гады.

Ён пераступіў ужо той парог, які наканавана пераступіць кожнаму.

Для нас той крок яшчэ наперадзе.

## Беднасць

Як добра, што я не багатая. Багатыя ездзяць на курорты ў Еўропу, на Філіпіны і часам адтуль не вяртаюцца, бо трапляюць у катастрофы, у розныя цунамі. Вунь што рабілася нядаўна на тых жа Філіпінах, тайфун загубіў сотні тысячаў людзей, у тым ліку і тых, што прыехалі туды адпачываць.

Мяне абараняе мая беднасць.

## У дарозе

Мы ехалі з Мінска ў Нізок, дзе жыла тады яшчэ мая бабка – маміна маці. Спачатку цягніком да станцыі Негарэлае, а далей – бабуля прыслала за намі падводу. Ад Негарэлага да Нізка кіламетраў дваццаць. Мне тады было гадоў пяць.

І вось мы едзем, едзем, і раптам маці кажа:

– Што крок – бліжэй да дому, што дзень – бліжэй да смерці.

І яшчэ яна сказала:

– У Нізку нас будзе сустракаць бабка – пацалуй ёй руку.

Прыехалі. Бабуля і праўда нас сустракала. Паслухмяная дзяўчынка, я пацалавала ёй руку.

Гадоў праз пяцьдзясят, я, пажылая ўжо жанчына, спытала ў мамы:

– А ты помніш, як мы ехалі на кані з Негарэлага ў Нізок, і ты сказала: што крок – бліжэй да дому, што дзень – бліжэй да смерці?

– Не, не памятаю, – адказала мама.

А мне, пяцігадовай, запомнілася гэта на ўсё жыццё.

## Боская кара

Мая суседка, пажылая жанчына, неяк мне сказала:

– Жыццё пасля дзевяноста – гэта боская кара за грахі.

Яна дажыла да дзевяноста і памерла. Быццам сама сабе загадала – ад кары ратавалася.

## Позна

Адышлі ў іншы свет самыя блізкія мне людзі – муж, маці. І цяпер, па часе, так шмат хацелася б у іх спытаць, так шмат хацелася б ім сказаць. Але позна, нічога ўжо ў іх не спытаеш, нічога ўжо ім не скажаш.

Дык не пазніцеся ж.

## Свята

Ці даўно мы святкавалі кожную гадавіну Кастрычніцкай рэвалюцыі, хадзілі на дэманстрацыі.

Сёння мы святкуем кожную гадавіну нараджэння Хрыстова, а народ спраўляе хрэсны ход з харугвамі, абразамі. І мой тэлевізар не чырванее ад сораму за такую перамену на сваім экране.

## Узнагарода

Міхаіл Калашнікаў удастоены звання Героя Расіі і меў яшчэ шмат якіх узнагародаў. А ўсё за тое, што сканструяваў выдатны аўтамат. А каб хто падлічыў, колькі людзей забіта з таго аўтамата, і не толькі ворагаў Расіі.

Сам Калашнікаў дажыў да дзевяноста чатырох гадоў і быў пахаваны з вялікім шанаваннем.

## Падвышэнне

Калі сядзіш ўсё жыццё, як мыш пад венікам, нікому не замінаеш, ніхто табе не зайздросціць, то можаш спакойна пражыць свой век.

Але калі цябе не дай Бог падвысяць і ты вылезеш з-пад веніка, так і пасыплюцца на цябе плёткі, нагаворы, і будзеш ты адбівацца, апраўдвацца, даказваць, што ты не вярблюд, і праклянеш той дзень, калі згадзіўся на падвышэнне.

## Дарога

Цяпер, больш як праз семдзесят гадоў, калі ўспамінаю тую дарогу, мне робіцца страшна, а тады, здаецца, страху і не было.

З торбачкаю за плячыма я, шаснаццігадовая дзяўчынка, у час вайны ішла праз цёмны лес – зімою цямнее рана – з Узды ў вёску Нізок, каб памяняць тое, што ляжала ў торбачцы на нейкую ежу.

Кепска ведаючы дарогу, ішла, куды вяла сцежка, спадзеючыся, што прыйду ў родную вёску.

Кругом стаяла цішыня, толькі бліскаў на небе між соснамі месяц ды бялелі пад елкамі лапінкі снегу.

Я даверылася сцежцы, і яна прывяла мяне ў родную хату. Цётка Маня вельмі здзівілася.

– А бо-о, дзіця, адкуль ты ўзялося, і ваўкі цябе не з'елі.

Сёння я думаю: «А праўда, чаму мяне тады ваўкі не з'елі?!»

## Крапіва

Тады яшчэ ў Беларусі гаварылі па-беларуску, і чыталі па-беларуску, і на памяць ведалі байкі і вершы Крапівы, глядзелі ў тэатры ягоныя п'есы, у якіх выкрывалася цемрашальства, тупыя чыноўнікі, ілжэвучоныя, самаўпраўства.

Як жа сёння нам не хапае пякучага слова Кандрата Крапівы.

## Карабуціха

У час вайны ўдава Карабуціха на лапінцы зямлі каля нашага дома пасадзіла з дзясятак бульбін. Калі бульба вырасла, прыйшоў немец з рыдлёўкаю і пачаў тую бульбу выкопваць.

– Панок, – кінулася да яго Карабуціха, – не забірай маю бульбачку, у мяне дзеці маленькія, няма чым карміць...

– Што ты яму гаворыш, ён жа нічога не разумее, – сказаў нехта з суседзяў.

– Як не разумее? – здзівілася Карабуціха.

Яна не магла ўявіць, што такія простыя словы нехта можа не зразумець.

## На машыне

Настаўнік у школе выкладае фізіку ў старэйшых класах. Часта, ідучы на работу, ён бачыць, як каля школы спыняецца белая «Вольва», як з яе выходзіць хлопчык гадоў дзесяці з рукзачком за плячыма і павольна, важна ідзе ў школу. Вадзіцель, мусіць, бацька, нейкі час глядзіць хлопчыку ўслед, потым заводзіць матор і паволі ад'язджае. А настаўнік успамінае, як некалі ён, такі самы хлопчык, як гэты, што прыехаў на машыне, кожны дзень хадзіў у школу за пяць вёрст, і зімою, у мароз і мяцеліцу, і вясною ў разводдзе, не прапускаючы ніводнага дня, спяшаючыся, каб не спазніцца на першы ўрок. А гэтага возяць на машыне, і жывуць жа, мабыць недалёка. Няйнакш, каб прывучыць сваё дзіця да адчування перавагі над іншымі.

А ён, настаўнік, дасюль не мае машыны.

## Пад нож

Убачыўшы маршчынкі на сваім яшчэ нядаўна такім свежым і прывабным тварыку, жанчына прыходзіць у адчай і кідаецца ратаваць сваю маладосць. Яна смела, адчайна кладзецца пад нож хірурга. Бывае, што адной аперацыі не хапае, каб вярнуць прыгажосць, і яна кладзецца на аперацыйны стол другі раз і трэці раз, а потым губляе лік тым спосабам у барацьбе са старасцю, траціць вялікія грошы, але што можа быць даражэй за маладосць і прывабнасць.

І ўсё гэта робіцца для таго, каб не страціць увагі мужчынаў, каб не адракліся ад яе прыхільнікі.

А ці варты гэтыя мужчыны і прыхільнікі, каб цярпець дзеля іх такія пакуты і траціць такія грошы? І ці можна гэтым утрымаць? І мужчынаў, і маладосць?

## Лячэнне

“Хуткая дапамога” прывезла хворага ў бальніцу, у прыёмны пакой. Яго завялі ў кабінет і загадалі чакаць. Ён чакаў гадзіны дзве. Часам да яго заходзілі дактары і мералі ціск, бралі аналіз крыві, выслухоўвалі, мацалі тыя месцы, якія не балелі, і абыходзілі тыя месцы, якія балелі.

Яшчэ праз дзве гадзіны чакання да яго прыйшла доктарка і сказала, што ў тым аддзяленні, куды яго трэба пакласці, няма месцаў, але яму могуць паставіць прыстаўны ложак альбо завезці назад дадому.

Хвораму прыстаўны ложак чамусьці не спадабаўся, і ён папрасіўся дамоў. З цяжкасцю падняўся на свой чацвёрты паверх, не распранаючыся, лёг у ложак. І адчуў палёгку. Бальніца дапамагла.

## Прысвячэнне

У стольным Мінску, дзе я пражываю
І дзе спраўляю свае дажынкі,
Я не самотна, я кнігу маю
З друкарні пана Кастуся Цвіркі.

## Сукенка

Кабета кволілася, хварэла і вырашыла пашыць сукенку на смерць, каб у труне выглядаць прыстойна. Купіла тканіну, прыйшла да краўчыхі, растлумачыла, навошта ёй абнова. Краўчыха зняла мерку і хутка заказ быў гатовы.

Прыйшла кабета па сукенку, памерала і нешта муляецца, потым кажа краўчыце:

– Нешта пад пахамі, здаецца, крыху цісне...

– Міленькая, – кажа ёй краўчыха – калі ты будзеш ляжаць у гэтай сукенцы ў труне, то табе нічога не будзе цiснуць.

## Закваска

Распароўся чахол на коўдру і я ўзялася яго зашываць. І так цяжка давалася мне работа, так пакутліва. Раззлавалася сама на сябе: на якое ліха я рамантую гэты чахол, калі магу яго выкінуць і купіць новы!

Але закваска з беднасці: як гэта выкінуць рэч, калі яе можна адрамантаваць?

І я прадоўжыла пакуты.

## Дзве лыжкі

Трыццатыя гады мінулага стагоддзя. У крамах – пуста, няма ніякіх прадуктаў. Але ёсць таргсіны, у якіх маецца ўсё, што хочаш, толькі там прадаюць не за савецкія грошы, а за золата і срэбра. А тут я, пяцігадовая, захварэла. І няма чым карміць.

Не ведаю, адкуль у мамы былі дзве срэбраныя лыжкі. Мама панесла іх у той таргсін. І далі ёй за гэтыя лыжкі з паўкіло макаронаў. Макароны былі нейкія беленькія і як празрыстыя. Мама зварыла іх і мяне пакарміла.

Так, мусіць, выцягвалі з насельніцтва золата, срэбра, міжволі неслі людзі ў таргсін пярсцёнкі, завушніцы ці, як мая мама, – лыжкі.

## Плата

За ўсё ў жыцці трэба плаціць – і за добрае, што зрабілі табе людзі, і за кепскае, што ты ім зрабіў.

## Канец

Якое б ні было шчаслівае жыццё, канчаецца яно заўсёды трагічна – старасць, хвароба, адзінота і смерць.

## Знакаміты

Аднойчы ішлі мы з Максімам Танкам па лесвіцы ў яшчэ старым Доме друку, на чацвёрты паверх, дзе ў той час размяшчаліся літаратурныя рэдакцыі. Па дарозе Максім Танк пытаецца ў мяне:

– Ці ведаеце вы, хто ў нас самы знакаміты паэт?

– Не ведаю, – адказала я, падумаўшы.

– Няхай, – сказаў Максім Танк. – Бачыце – усюды лозунгі: «Няхай жыве...», «Няхай жыве...»

## Спрэчка

Яны ў добрай згодзе пражылі больш чым сорак гадоў і раптам пасварыліся. Цяпер і ўспомніць цяжка, што было прычынаю той сваркі, але нагаварылі адно аднаму крыўдных слоў.

А праз якія два тыдні ён памёр. Не, сварка не была прычынаю яго смерці. Ён даўно хварэў, але сёння яна не можа сабе дараваць, што дапусціла тую спрэчку, быццам сапсавала іх хвіліну развітання, быццам запэцкала брудам чыстыя сцены сваёй хаты.

## Хвароба

Яна была цяжка хворая, паўтара года не ўставалася з ложка, яе абслугоўваў сацыяльны работнік, але калі ёй прыносілі пенсію, яна старанна пералічвала ўсе купюры, клала іх у канверт, а канверт пад падушку, і радавался, што ад мінулай пенсіі ў яе засталіся грошы, і ад пазамінулай засталіся.

Яна была адзінокая, ёй не было каму пакінуць сваё дабро, яна даўно не купляла сабе ніякай абновы, бо нікуды не хадзіла. Яна шкадавала грошай, каб купіць сабе нешта смачнае, ды нічога смачнага ёй і не хацелася. Але яна складала і складала тыя купюры ў канверты і радавалася іх прыбаўленню.

## Шанец

Акацілася котка, прывяла пяцярых кацянят. Гаспадыня кажа сваёй сяброўцы:

– Вазьмі кацянятка...

– Ай, навошта яно мне – лішні клопат.

– Ну, то прыйдзецца ўтапіць.

– Як утапіць? – жахнулася сяброўка.

– А вось так, бо і мне яно не патрэбна, – тых аддала, а гэтага не бяруць.

Сяброўка ледзь не заплакала з жалю – гэта ж такога маленькага, бездапаможнага ды ўтопяць! І забрала кацянятка. Пачала гадаваць. Вырасла прыгожая котка – любіміца ўсёй сям'і.

Так бывае і з людзьмі. Пашанцуе катораму – і выручаць з бяды. А не сустрэне спагадлівай душы – то і патоне.

## Бабулька

Мы з сяброўкай ішлі па тратуары. Насустрач нам, здалёк убачылі, ішла бабулька – у абедзвюх руках па кіёчку, а за плячыма – рукзачок. Мы параўняліся з бабулькаю і ветліва ёй усміхнуліся. І яна нам усміхнулася, прыпынілася, сказала:

– Во, дзевяноста гадоў, а хаджу.

І пайшла далей.

Была ж у яе патрэба некуды ісці... Была ж патрэба нешта несці ў тым рукзачку. Бабулька жыла сваімі патрэбамі і клопатамі.

Ёй было цяжка ісці, успіраючыся на два кіёчкі, але яна ішла.

Шчаслівай дарогі табе, бабулька.

## Парада

Хварэю. Жалюся сяброўцы:

– Так кепска сябе адчуваю, усё чакаю, што заўтра будзе лягчэй, а яно ніяк не лепшае.

– А ты не чакай, што заўтра будзе лепей, прасі Бога, каб горш не было, – параіла разумная сяброўка.

## «Ты»

Адзін інтэлігентны чалавек сказаў:

– Я гавару чалавеку «ты», калі ведаю, што і ён мне можа сказаць «ты».

Нешта мы не чуем, каб нашаму Прэзідэнту нехта казаў «ты».

## Мае разважанні

Чалавека, ды і ўсю прыроду стварыў геніяльны творца. Хто ён – мы ніколі не даведаемся, але будзем бясконца дзівіцца яго мудрасці.

Усё жывое жыве, пакуль можа пакідаць сваё семя – і жывёла, і травінка, і чалавек – каб не звёўся род. Як толькі страчваюць яны магчымасць размнажацца – паміраюць, больш яны прыродзе не патрэбны.

Органы ў чалавека, як тыя дэталі ў машыне, кожны выконвае сваю функцыю – сэрца ганяе кроў, лёгкія дыхаюць, страўнік пераварвае ежу, а мазгі – гэты кавалачак мяса – утрымліваюць мільёны ўсякай інфармацыі.

Калі той творца так геніяльна ўсё стварыў у свеце, то чаму нам не дапусціць, што ён і лёс кожнага з нас запраграмаваў, і лёс усяго чалавецтва пад яго ўладаю, запраграмаваны нават войны.

І нікуды нам ад гэтага лёсу не падзецца.

## Тэлевізар – пляткар

Больш чым дзве гадзіны эфірнага часу аддало тэлебачанне на маральнае знішчэнне Юлі Цімашэнка, – вось што значыць замахнуцца на пасаду прэзідэнта. Спачатку заяўлялі, што яна была не чыстая на руку ў сваім бізнэсе, потым перабіралі мужыкоў, з якімі яна нібыта спала і па галовах якіх прыйшла ў палітыку.

Гэтага здалося мала, пачалі шукаць яўрэйскія карані ў яе радаводзе. Знайшлі. Нейкі яе прадзед меў імя Абрам. Здавалася б, тут ужо поўны накаўт. Але і гэтага здалося мала, і ўзяліся за дачку «жанчыны з касой». Аказваецца, яна і не белая, і не пушыстая.

Тэлебачанне дало фору бабулькам-пляткаркам, што сядзяць каля дома на лавачцы і абгаворваюць сваіх суседак.

## Мова

Пуцін заявіў, што тыя, хто гаворыць па-руску, – расіяне, а значыць, іх трэба далучыць да роднага дома – Расіі.

Можа, беларусы нарэшце зразумеюць, што значыць – мова. Няма мовы – няма сваёй дзяржавы і кожны захопнік можа падгрэбці яе пад сябе.

Беларусы! Беражыце мову!

## Капліца

Адна шуфлядка майго стала служыць мне нібы капліца. Я трымаю там фотаздымкі дарагіх мне людзей, якіх даўно няма на свеце.

Староннія людзі ў тую шуфлядку не заглядаюць, бо ім не цікава. Я таксама рэдка яе адчыняю, бо мне баліць.

Іх няма на свеце, але яны былі, ёсць і будуць у маім сэрцы.

## Пачастунак

Некалі я, працуючы ў выдавецтве, рэдагавала кнігу ўспамінаў Заіра Азгура. Калі кніга выйшла з друку, аўтар падарыў мне экзэмпляр з цёплым аўтографам і запрасіў мяне з мужам у госці.

Мы сядзелі, размаўлялі, а на стале стаяла вялікая ваза з піражнымі. Каля стала, на падлозе сядзеў вялізны сабака і спакойна пазіраў перад сабою разумнымі жоўтымі вачыма.

Заір Азгур часам браў з вазы піражнае, кідаў сабаку, і той лавіў пачастунак зяпаю і са смакам жаваў.

Потым і мы, разам з сабакам, частаваліся тымі піражнымі.

Нічога кепскага не хачу сказаць пра Азгура. Ён быў выдатны скульптар, харошы чалавек і добра пісаў.

## Свята

– Што ж вы Пасху святкуеце, вы ж у Бога не верыце.

– Мы і ў камунізм не верылі, а святкавалі...

## Вядучы

Часам мне здаецца, што я не сама іду па жыцці. Не сама выбіраю сцежкі, а нечая рука вядзе мяне па дарогах, цераз лясы і балоты, праз каменныя завалы і раптам прыводзіць да бездані. Яшчэ адзін крок – і я звалюся ў тую бездань, але тая самая невядомая рука бярэ мяне за каршэнь і адцягвае ад бездані, ратуе мне жыццё. І я зноў іду праз лясы і балоты, праз каменныя завалы і калючы дзядоўнік, покуль зноў не спыняюся над безданню.

І калі я саджуся пісаць, то часам здаецца, што пяром маім нехта водзіць, прыдумвае нешта за мяне.

Дык няўжо мы не самастойныя ў жыцці, не можам кіраваць самі сабою, выбіраць свой шлях, нехта гэта робіць за нас, а мы ідзем за тым, хто трымае нас за руку і выводзіць то на светлую паляну, то спыняе перад безданню.

## Новы дзень

Не разумею, чаму я кожны вечар з нейкай прыемнасцю адрываю ў календары лісток пражытага дня, быццам ад таго дня, што надыйдзе заўтра, я чакаю добрай нечаканасці. Але прыходзіць той новы дзень і нічога прыемнага, цікавага не прыносіць. І я зноў з нейкім задавальненнем адрываю ў календары лісток і гэтага дня.

## Сум

Калі я думаю пра лёс беларускай мовы, літаратуры, мне робіцца так сумна, быццам я хаваю дарагога мне, роднага чалавека.



Зянон Пазьняк



...Мой дом –
мая Айчына...

# Святло Айчыны

### *БОСКАСЦЬ*

Хараство Зямлі,
З чым цябе параўнаць?
А ні з чым,
Бо нават самае багатае ўяўленне
Не сягае вышэй
          за зямную красу.

*4. 02. 2007*

* * *

Жыццём мы павязаны з маці,
А духам з Айчынай.
Як добра, што Айчына ёсць!

*XI. 2012*

### *ЗА МЯЖОЙ*

Куды ні глянь –
Усюды свет чужы.
Але жыве мая Айчына.

*22. 07. 2013*

### *РОД*

Найвялікшы твор
Кожнай жанчыны –
Гэта калі яна падорыць
 для нацыі
Новага чалавека.
Найвялікшая праца мужчыны –
Гэта калі ён
Выхавае гэтага чалавека,
Які будзе разам з бацькамі
Шанаваць мову, Айчыну
І свой народ.

*24. V. 2013*

* * *

Калісьці ў Бацькаўшчыне
Пад шэпт дажджу
Заснуў я глыбокім сном.

*10. 01. 2013*

### *РАЦЫЁ*

За Радзіму
 не страшна памерці.
Страшна толькі,
Калі з гэтага
Нічога не стане,
Акрамя тваёй смерці
Ворагам на пацеху.

*16. 01. 2013*

### *НОЧ ПАСЛЯ ДАЖДЖУ*

Гром прагрымеў уначы.
Калі я выйшаў на двор,
Пахла мокрай травой,
І далёка гудзеў матор.

*28. 08. 2012*

## *МАЛАНКА*

Над летняй Гаўёй
Заспеў мяне дождж у начы.
Калі бліснула маланка,
На імгненне ўбачыў,
Што ад кропляў вада бурліць.

*III. 2013*

## *ВОБЛАКІ*

*(З нізкі "Жоўтыя воблакі")*

Воблакі над вадой,
Як некалі.
І часам здаецца:
Вось яна, Айчына,
За небаспадам.

*11. 04. 2012*

## *ВЕЧАРЭЕ*

*(З нізкі "Жоўтыя воблакі")*

Канчаецца дзень,
І лета канчаецца.
І жоўтыя воблакі над вадой.
Як шкода,
Але што зробіш.

*11. 04. 2012*

## *СВЕЖЫ ДЗЕНЬ*

За паўдня
з поля збег
Снег вясенні.
Ходзіць грак
Па адталай раллі.
І ты ў памяці маёй, вандроўнік.

*5. IX. 2007*

## *НАСТАЕ САКАВІК*

Ручаінкі цякуць,
Растае снег,

І між белі
Чарнеецца ў полі ралля.
І дуб разгалісты, шырокі,
Як рыцар збройны
Без папроку,
Стаіць над вешняю зямлёй
Далёка там, у Беларусі.

*10. 03. 2009*

### САКАВІК НА ЧУЖЫНЕ

*(жонцы)*

Ізноў вясна і сакавік,
Ізноў у Беларусі
Сцякаюць кроплі з ледзяшоў,
Спаўзае з даху снег
Пад спеў шпачыны.
І грак на бярозе сядзіць,
Чакае сваіх гракоў.
Толькі нас там яшчэ няма,
Бо надта цяжкі
Наш шлях.

*10. 03. 2011*

### СВЕТ ДАЛЁКІ

Уранні ветразь адзінокі
Ўсплывае рыбкаю са дна.
І што мне гэты свет далёкі,
Калі ўжо блізкага няма!
Усплывае ветразь адзінокі.
Мне далячынь – мая труна.
Мінаюць дні, гады, імгненні,
Не вып’ю мора я да дна.
І што мне гэты свет далёкі,
Калі ўжо блізкага няма.
Вось над вадою чарадою
Ляцелі гусі – свіст крыла.
Можа, хоць гусі з Беларусі,
Мо, не прывід, мо, не мана?
Ах, што мне гэты свет далёкі,
Калі ўжо блізкага няма!

Ужо зоркі ў небе заблішчэлі.
Над акіянам зноў зіма.
Вакол Зямлі плыве Тытанік:
Наліце моцнага віна!

Ім лёс, як песня пра капусту,
Як келіх, выпіты да дна.
Дык што мне гэты свет далёкі,
Калі ўжо блізкага няма.
Дык што мне гэты свет далёкі!..

*22. X. 2011*

## *СВЯТЫ ВЕЧАР*

Над заснежанай хатай
Кружацца сняжынкі,
І цішыня, і ні душы. Каляды.

*2012 г.*

## *ХОЧАЦЦА ІСЦІ*

Калі глядзіш удалячынь,
Заўсёды бачыцца надзея,
І хочацца туды ісці.

*20. 04. 2013*

## *ДАРОГА ПРАЗ РОДНЫ ДОМ*

Ідучы па дарозе
Праз лес,
У халодную цёмную ноч,
Я прыйшоў у свой дом, якога няма.
На руінах стаялі
Маркотныя людзі.
– Вы тут хто?
– Свае.
– Дык пайшлі,
Бо ёсць шлях,
Бо йшчэ мусім ісці
Да свабоды.

*06. 02. 2012*

## *САКУРА*

Сакура ў Нью-Ёрку цвіце.
Паглядзеў – і пайшоў.
Чужое ўсё.

*11. 04. 2012*

## АПОШНЯЕ БЫЦЦЁ ЎДОМА

Мой дом – мая Айчына.
Калі я прыехаў сюды зімой,
Холадна пад ветрам
Шуршэла сухая трава
Перад зачыненымі дзвярыма
І нежывымі вокнамі.
У цішыні – адзінокі мой дом.
Не брахаў мой сабака,
Якога няма.
Не чутно галасоў.
І над гэтай карцінай
Задумаўся я
Аб сваім існаванні.
Шэрыя хмары
Наперад плывуць
Далёка за небаспад.
Трэба брацца.
Трэба брацца за клямку –
Увайсці ў былое жыццё,
Дзе выйсця з яго не бывае,
Як толькі наперад ісці.

*24. 05. 2013*

## ВЕЧНЫ КУРГАН

*(Памяці Каліноўскага паводле выпадку)*

Было іх дванаццаць –
Увесь іх аддзел,
Што застаўся жывы.
Ім трэба на Вечны Курган.
А там – адпачнуць.
І сілы адновяць,
І порах прасушаць.
Загояцца раны,
Свая ж бо зямля.

Вясковая вуліца –
Доўгі прасцяг
І хаты, бярозы, дубы.
– Дзе Вечны Курган?
Вочы ў дол.
– Дзе Вечны Курган?
Як ісці?
Ўсе маўчаць.
І вочы адводзяць убок.

– Каго баіцёся?
Маўчаць.
Толькі дзеткі ўслед,
Што бягуць чарадой,
З захапленнем на стрэльбы глядзяць.
(На стрэльбы – адна на дваіх.)
– Гэй, дзеці, дзе Вечны Курган?
– А там, дзядзька, там.
За вёскай, паночку.
За дубам – туды,
А потым – сюды
І проста балотам
Далёка да лесу ісці.

І тупаюць боты ў пыл.
І веецца прапар.
І словы ў крок:
– Дзеля вас.
Дзеля вас і ваюем, малыя.
Для вас.
Хай прышласць за вамі ідзе.

*9. 06. 2013*

***З нізкі «Святло Месяца»***

***МЕСЯЦ НА НЕБЕ***

Ці бачылі вы,
Як з-за хмар
Выплывае над морам
ліпеньскі Месяц?

* * *

Месяц за хмарамі,
нібы жывы.
Змяняе аблічча,
Плыве і плыве
над Зямлёй.

* * *

Вецер свішча.
Пад пірсам прыбой.
Як зграя варон,
набягаюць на Месяц
чорныя хмары.

* * *

Даўно-даўно,
калі ехалі мы
ўначы,
Успамінаю,
Як выплыў з-за хмараў
ліпеньскі Месяц.

*28. 08. 2012*

## НАЧНЫ ДОЖДЖ

Дождж прашумеў.
Ліхтар у бярозавым лісці,
Нібы захмараны Месяц свеціць.

*28. 08. 2012*

## МЕСЯЦ У ВАКНЕ

Месяц, Месячка,
Ты наш прыгожы,
Сто гадоў цябе не бачыў
У сваім вакне.
Ізноў ты свеціш мне
Праз белыя фіранкі.
І ўспамінаю я Айчыны дом,
Калі над вішнямі даўно-даўно
Блішчэла ўсім твая краса.
Недзе там, за Гаўёй,
За сінім лесам і небаспадам,
Далёка-далёка,
Дзе нас не было,
Дзе толькі звон касцельны
Звініць
над вячэрнім
полем.

*1. 05. 2012*

Уладзімір Міхно



...Кот павінен паводзіць сябе па-чалавечы?

А як жа!..

# Галавеш

***Апавяданне***

*Толькі чорнаму кату і не шанцуе...*

*Дванаццатага студзеня.* Зноў спрабую нешта пісаць... Праклятая наркаманістая прафесія... Усё – завязаў жа, зарок сабе даў, і колькі гадоў ужо не пішу. Не пісаў... І, галоўнае, дзякаваць Богу, не цягнула. На пачатку – было! Ламіла-круціла, як тога няшчаснага наркамана – згрызоты сумлення, абавязак, складнік поспеху... Ці нават зайздрасць: як жа – яны там – кніжачкі выдаюць, а я тут – ці то лох які, ці й сапраўды няўдачнік – не рэалізаваўся. Які нахер поспех – "з падлізанай ж...пы" кніжкі выдаваць, нікому не патрэбныя, апрача саміх аўтараў, у каго вечна нерэалізаваныя амбіцыі. Усё болей, болей, ледзьве не спаборніцтва наладзілі – па "выдачы на гара" гэтай макулатуры. А Гілевіч вунь, каму ёсць што выдаць, на апошнія пенсіянерскія прыстараўся, да смешнага сціпла, як змог, не схацеўшы хадзіць ды кланяцца-пабірацца. Дык

то ж Гілевіч! Ён, на шчасце, у іншую эпоху нарадзіўся, нарадзіўся быць паэтам тады, калі творчасць яшчэ была патрэбная народу... Ён з мазалямі крывавымі ўвесь век свой шлях да Беларусі церабіў. Ці працерабіў?! Ад хлеба адламіўшы, выдаў свае кніжкі, каб ужо як-небудзь самому пры жыцці завяршыць свой высокі і годны стог, а то ж яшчэ могуць так завяршыць, што і стога свайго не пазнаеш... А вы што носіцеся ў кароткіх майтках ля падножжа волатаў з бліскучымі кніжачкамі-пустышкамі ў той час, як вашае заўтра ўжо даўно стала ўчора, а новыя патэнцыйныя чытачы вашыя ўселіся чытаць каменты “Укантакце”! Ім тыя каменты цікавей, чым вашыя творчыя патугі...

Я зламіў сябе праз калена і змусіў перастаць пісаць, зразумеўшы, хоць і пазнавата, што жыццё адно і не Бог ведае, якое доўгае, і кніжачкі “з-пад ж...пы” яшчэ не ёсць поспех у жыцці. Так што няхай там сабе “рэалізоўваюцца” на здароўе. Думаў – пасяджу, памаўчу, падумаю, азірнуся. Божачкі, мне ж пяцьдзясят ужо, а я ці што бачыў, акром паперы, друкавальнай машынкі, а пасля “клавы” і “моніка”, як кажуць дзеці. Ай не, яшчэ ж гэтая клятая раённая журналістыка боўтаецца паміж ног... Журналістыка для бабулек. Пішаш левай задняй тое, што дыктуе “сітуацыя пераломнай і лёсаноснай эпохі”, а цікаўныя дзівакаватыя бабулькі пальцам вышукваюць у газеце сябе ці суседку і – кайфуюць ад шчасця. Дзіва – ім падабаецца твая лабуда. Табе, вядома, за яе сорамна і за іх – таксама, але ж – з нечага трэба хлеб есці...

Пасядзеў я, памаўчаў, агледзеўся – і ўбачыў так шмат цікавага. Вунь сінічкі ў сад прыляцелі, падселі да маіх “кілбасаў”, падвешаных на антонаўцы, і выдзеўблі з іх усё зерне. “Кілбасамі” называю суслы, што апускаю ў бутлі, калі стаўлю ўвесну на квас-бярозавік. Падсмажыш зерне на маленькай патэльнечцы да карычневай корачкі, завернеш у бялюткую марлю, моцна перавяжаш, каб атрымаліся такія доўгія змеі-Гарынычы кшталту папяровых змеяў, такія худзенькія, каб занырнулі ў гарлянку бутля. А пасля туды галінак смародзіны пахучай. І летам у спякоту атрымлівай халодненькі з істопачкі рэзкі кіславаты квасок – сапраўдны напой багоў! Квасок вып’ем, а змейства гарынычавае на яблыньцы паразвешваю сушыцца. Хай будзе сінічкам зімою забава, а людзям цікаўным – рэбус на шнурку. Нізашто не здагадаюцца!

– А што гэта ў цябе на антонаўцы? Кілбасы вэндзіш?!

– Не, калекцыя фаласаў.

Сінічкі і тыя разумнейшыя – разабраліся. Чалавек жа самае цікаўнае, зайздроснае і бязмозглае стварэнне ў Бога. Дзіва што Бог чалавека стомлены, на шосты дзень рабіў...

Прыляцелі сінічкі да яблынькі – падзея. Першым снегам зацерусіў студзень бліжэй да Вадохрышча. На копанцы, што летась літасціва выкапаў мне добры бульдозер, высака паднялася вадзічка, хутка ўжо ў беражкі ўбярэцца. Так і гоніць яе знекуль са дна, са, здавалася, сасмяглай праз засушлівую восень зямелькі. Мусіць, дзесьці там, глыбака, добры бульдозер крынічку падчапіў каўшом. А халодная, а празрыстая вадзічка! Вось гэта сапраўдная навіна з тэлетайпа! Ну, адным словам, цэлы блок навінаў жыцця – тут табе і дапытлівае, і сенсацыйнае, і неверагоднае. А я, дурань, гэтулькі гадкоў над папераю гібеў, свету белага не бачыў. Дзеля чаго? Дзеля прывіднай славы пры жыцці і сумніўнага бессмяроцця пасля, якога я ўжо не ўбачу. Хай лепей хвалу мне праспяваюць пры жыцці сінічкі...

Разагнуў пісьменнік плечы, уздыхнуў вальней, скінуўшы цяжар жыццёвай умоўнасці, дыхнуў водарам вішнёвай квецені, што запоўніў яго любімую альтанку ў садзе. І душа быццам эліксіра гаючасці напілася. І – ажыў ён для зусім іншага жыцця, для жыцця сапраўднага, раптам усвядоміўшы, што ён ёсць не нейкі там паўзучы нявольнік рэальных абставінаў ці закладнік напісанага ім слова, але найперш – ЧАЛАВЕК, вольны, горды і таму шчаслівы. І паляцелі-закружыліся на скрут галавы зімы і вёсны, адна адну абганяючы. І ў гэтым шчаслівым калаўроце не заўважаў ён ні шэрых будняў, ні гнятлівага жыццёвага надвор'я. Сам быў наўздзіў лёгкі і шпаркі, адчуўшы на схіле веку маладую моцу для зусім іншага свайго зямнога прызначэння...

Чакай! Уся гэтая шчаслівая мроя, выходзіць, доўжылася роўна-роўненька да сёння... Ці то казка, ці то сон. Ці то і сапраўды – трызненні якія наркаманскія... Я думаў, творчая ломка закончылася. Аказваецца, яна толькі-толькі пачынаецца...

*Дванаццатага студзеня.* Божа! Няўжо я зноўку – пісьменнік? Што ж гэта за наўра такая, што ж за кара нябесная! Ці хто маю свядомасць кандаламі прыкуў да гэтага пастылага кампутара-эшафота, які цяперака замяняе чысты ліст паперы. Дастаткова было аднаго невялічкага штуршка – і я праз гэтульні гадоў – сарваўся... За акном імжыць снег, абяцаючы спраўдзіць светлыя згадкі сіноптыкаў пра зіму, што нарэшце нібыта наступіць заўтра. Значыць, усе сёння будуць сустракаць яе – зіму, а я – зноў развітвацца... На гэты раз з зацягнутай восенню, якая, зрэшты, мне зусім не надакучыла, бо зімовыя халады ненавіджу змалку. Усе толькі сустракаюць, а я толькі развітваюся...

Развітвацца з восенню і – з Галавешам. Галавеш – той самы штуршок, які аказаўся вызначальным...

Быў у мяне Кот. Бываюць проста сабе каты, якія ходзяць, мяўкаюць, трапляюць недарэчна пад ногі і за гэта атрымліваюць, часам ловяць мышэй, а часам ласуюцца смятанкаю, неабачліва забытаю гаспадаром на абедзенным стале. Зрэшты, на тое яны і каты. Праўда, часцей цяпер для чалавека кот – жывая цацка ці нават прадмет культавага пакланення: мыюць іх, шарсцінаўкі расчэсваюць, у косачкі заплятаюць і самі сабе цешацца, як дзеці. Ну што ж, у розных людзей розныя забавы. Я не з кашатнікаў, не цалуюся з катамі, не мілуюся, часам спраўджваю за дзверы, калі кот дапячэ, а часам магу і пад зад паддаць, калі не ў гуморы. Каты ўвогуле хітрыя стварэнні, бачаць яны чалавека навылет, адчуваюць яго – і яго характар, і звычкі, і сённяшні настрой. Бывае, і слова яшчэ не скажаш, а кот ужо ад цябе хаваецца. Ведае – лепей сёння да гаспадара не падыходзіць. Я прыхільнік таго адвечнага пастулата, што кот і сабака – не цацка, кот павінен мышэй лавіць, а сабака – дом пільнаваць. І, у адрозненне ад каторых гарадскіх, у сентыментальныя гульні з катамі не гуляю. Такім чынам, строга: кот – для мышэй, сабака – вартаўнік. І нічога іншага. І колькі ж я ўжо катоў пахаваў! Адны здыхалі самі, іншым дапамагалі машыны – шашэйка зусім побач з маёю хатаю, ці проста якія жыццёвыя варункі. Нягоднікі-падшыванцы, было і такое, наздзекуюцца з ката – не заб'юць, дык калекам пакінуць. Што ж, такі іх, катовы, век кароткі, такі лёс. Пакорміш, выпусціш на вуліцу. Божа збаў – кату ў вёсцы ў хаце начаваць, гэта ў горадзе іх прывучаюць ці на паперку, ці нават на ўнітаз хадзіць, і ледзьве не змываць за сабою. Тут, у вёсцы, альбо кот пад

печ ходзіць, альбо за дзверы просіцца. Калі не, значыць, кот бамжуе на вуліцы. Падпечча ў мяне няма, пяску не набярэшся зімою, ды і ў хаце не напрыбіраешся пасля паскуднага ката – смуроду не абярэшся. Тут як і ў людзей – адны парадку пільнуюцца, а іншыя толькі паскудзяць. А парадак урэшце не ў тых, хто прыбірае, а ў тых, хто не паскудзіць. Так і ў мяне з катамі было заўсёды – джэнтльменская дамова: альбо, выбачайце, будзьце людзьмі, альбо будзем паступаць па-зверску. Правілу гэтаму я ніколі не здраджваў, таму, мусіць, і каты ў мяне не прыжываліся.

Кот павінен паводзіць сябе па-чалавечы? А як жа!

А што, калі ён і ёсць... чалавек?! Не верыце? Смеяцеся?

І я таксама раней бы пасмяяўся ды пальцам ля скроні пакруціў, калі б у мяне не паявіўся Галавеш...

Аднойчы на базары ў сваёй даўняй сяброўкі, якая гандлюе, убачыў каробачку, у якой сядзела маленькае недалужнае стварэнне. Акрамя чатырох чорных лапак і такой жа чорнай, як смоль, галавы, не было там на чым і позірку запыніцца. Хіба што вачаняты зырчэлі-свяціліся сіня-зялёнымі ліхтарыкамі. Ласкавыя-ласкавыя, хоць і крыху хітраватыя. Стварэнне мяне зацікавіла, як кажуць, з першага пагляду заінтрыгавала. Чорны? Ну і што! Толькі чорнаму кату і не шанцуе – успомніў я словы з некалі папулярнай папсовай песенькі. А я хоць і прымхлівы, але не настолькі. Ну, а Наташа, сяброўка мая, і рада. Яна ля катоў ды сабак ужо сабаку з'ела. Горнуцца яны да яе – чорныя і пярэстыя, рудыя і сівыя, тыя хто не мае хаты ці ў каго ёсць гаспадары, ды бесталковыя. Горнуцца ды хінуцца бедныя істоты да Наташкі, бо сваімі звярынымі пачуццямі беспамылкова пранюхалі ў ёй свайго чалавека, адчулі добрае вялікае сэрца. І бедная Наташка ўжо сама, мусіць, не рада, бо ўрэшце апынулася ў шчыльных катова-сабачых абдымках. Сабрала вакол свайго ралета цэлы прытулак для чацвераногіх. Бегае, купляе ім корм, лечыць ад хваробаў і нават на складаныя аперацыі возіць небаракаў, грошы не шкадуючы. Але ж хіба можа ахапіць яе сэрца, хай сабе і вялікае-вялікае, неахопнае? Хіба дапаможаш усім, каго шкадуеш і хто чакае тваёй дапамогі? А народ розны. Адны смяюцца з Наташкі – кашатніца. Іншыя пальцам каля скроні пакручваюць. Людзі – у адрозненне ад катоў і сабак – звяры! І не толькі брахаць навучыліся, але часам і кусаюцца балюча. Ды Наташка, насуперак людскому злу, зайздрасці, кпінам шчодра і клапатліва ахутвае сваіх пестункоў дабрынёю, радуецца, калі ўдаецца ўладкаваць іх да добрых людзей, у добрыя рукі аддаць. І яе выхаванцы з дабром ёй штодня і мяўкаюць і гаўкаюць і павільваюць хвастамі, пазіраючы на сваю збавіцельку з самаробных буданчыкаў і каробачак, якімі ўстаўлены ралет. А Бог, якога жанчына строга пільнуецца – ён усё бачыць.

Наташа і радая была, што спадабаўся мне яе чорны Малы. Тут жа, каб я нават і раздумаць не паспеў, знайшла машыну і даставіла нас абодвух з помпаю ў вёску, яшчэ і розных "віскасаў" у даважак напіхала. Хто прыдумаў катам тыя "віскасы", калі ў хаце вясковай "віскасы" па ўсіх куткак бегаюць ды пішчаць, яшчэ й за шпалерамі шкрабуцца, нягоднікі. Разлянуецца кот, патлусцее – ні да кошак не захоча, ні да мышэй, і трымай яго тады заміж мяккай цацкі на канапе...

Адным словам, "віскасы" засталіся ў той частцы жыцця, калі мой кот быў Малым. А як стаў ён Галавешам – такое новае імя ўдружыў яму гаспадар-пісьменнік, дык стаў вельмі любіць чорны хлябец з малачком.

Мой Галавеш і напраўду вельмі любіў... чорны хлеб. Хаця не адмаўляўся і ад прысмакаў, якія ўвесь час перакідвала яму Наташка, сустрэўшы мяне ў горадзе. І калі я хаваў рукі ў кішэні, а вочы за каўнер ад сораму, яна ўсё роўна, бывала, усутычыць пакуначак:

– Гэта не табе. Гэта – Малому.

– Ды які ж ён малы, калі растлусцеў вунь, як барсук, – апраўдваўся я.

У мяне б мо і не раздруз гэтак, бо на чорным хлебе з малаком не надта разгавеешся, дык жа мой чорны, як галавешка, хітрун, умудрыўся спадабацца суседзям. Чорных катоў не любяць. А гэты падласціцца-падліжацца, хвастом вільне, спінкаю патрэцца і гасцінец атрымае. Скажы, што не з чалавечым характарам кот!

– Не, браток, не па гаспадару ты ўдаўся! – часам нязлосна ўшчуваў я свайго Галавеша, – выціраць падэшвы і муркаць дзеля кавалка кілбасы? Ды як табе не сорамна?

Кот вінавата апускаў вочы, як бы згаджаўся са мною, праўда, рот раскрываў, акурат збіраўся нешта мне запярэчыць. Але сказаць па-чалавечы не мог... А ці я яго не мог па-чалавечы зразумець. А неўзабаве мой кот усё роўна праз тын і – да суседзяў.

Пазней я зразумею Галавеша... Але гэта будзе пазней, калі мы ўжо з ім навучымся разумець адзін аднаго з паўслова. Я вывучаў характар ката, ён – мой. І цяжка сказаць, хто з нас справіўся з гэтай задачаю найлепш. Гэта была чыста мужчынская дружба двух амаль роўных асобаў – суровая, з канкрэтнымі правіламі паводзінаў, строгім распарадкам жыцця і размеркаваннем абавязкаў. Мы з Галавешам ніколі не праяўлялі залішніх эмоцыяў і нават не ліберальнічалі, не пацiраліся спінкамі, не гулялі ў бусенькі-стужачкі і нават не сядзелі за чаркаю разам за сталом. А кожны з нас ведаў сваю частку адказнасці. Таму Галавеш стаў першым са шматлікай маёй катовай дывізіі, хто без прыгодаў увесь час жыў у хаце. Чаму ж не пусціць у хату ката, які паводзіць сябе па-гаспадарску, акуратна і з розумам? Але ж і па вуліцы Галавеш гуляў колькі яму заўгодна было.

Неўзабаве зразумеў: Галавеш – з тых, хто імкне да людзей не па кавалак кілбасы, ён проста верыць людзям і любіць іх – усіх і кожнага паасобку. Таму што не можа не любіць. Таму што Бог яго такім стварыў ласкавым, узнагародзіўшы рэдкім нават і між людзей пачуццём любіць бліжняга. Ці кожнаму чалавеку дадзена такое шчасце!

*Дванаццатага студзеня.* Пасля тлустай кропкі, якую глыбака ўвагнаў у свядомасць і для трываласці падпёр тоўстым клічнікам, раптам зноў зрываюся на няўпэўненае шматкроп'е, спрабуючы з чыстага ліста пачаць тое, што ці варта пачынаць. Мой чысты ліст – мой нераспачаты новы дакумент у Word'зе.

*"Быў Новы год... А ці ён быў? Калі трыццаць першага дапозна пасеш бараноў на працы – бо што яшчэ можна рабіць на працы трыццаць першага снежня? З другога студзеня дзень працоўны штогод пераносяць, каб алкашы хаця працверазець паспелі. А хто падумаў пра тое, калі людзям рабіць навагодні стол? Альбо тыя, хто прымае законы, упэўнены, што ва ўсіх навагоднія сталы робяць пакаёўкі?"*

Не-не. Не тое. Вось дык павярнуў сюжэцік! Як рыдлёўкаю высек там, дзе трэба акуратненька выразаць разцом ці падправіць хаця лобзікам. Нельга пісьменніку доўга маўчаць – раз'есць іржою. Так і прэ, так і струменіць з цябе твая палымяная раённая публіцыстыка. Тады хіба вось так:

*“Быў Новы год. Катлеты сквірчэлі на патэльні яшчэ аптымістычна, бо яны нічога не ведалі. І таму атрымаліся чырванашчокімі і радаснымі. Салату алiўе і ўвогуле замешваў сябар, які нечакана не знайшоў сабе кампаніі і вырашыў сустрэць Новы год са мною. Ну і што, што вось так: са мною, бо не знайшоў... Галоўнае – затое разам. А разам любое алiўе можна замясіць без праблем. А потым – потым сябар-сусед пабег у лазню. У іх там традыцыя – яны кожны раз пад Новы год у лазні мыюцца. Ха-ха! Дзесьці пра гэта ўжо... Ды не, сусед мой – не Жэнька Лукашын, у Ленінград не ўцячэ. Памыецца – вернецца... Вярнуўся... Сеў на канапу, схапіўся за галаву. Няўжо ўсё ж і яны там, у лазні, кагосьці ажанілі?.. Ды раптам мне патэлефанавалі. І пакуль я прымаў чарговую порцыю віншаванняў з новым шчасцем, маё прывіднае шчасце сённяшняе паціху паднялося з канапы ды па-здрадніцку выслізнула праз дзверы. Так я застаўся ў адзіноце. Відаць, сусед мой усё ж знайшоў сабе кампанію, і я яму не спатрэбіўся. І для каго я ўгрохаў мільён на стол святочны? Алiўе раптам пашэрхла, густа пачырванела сёмга. Бутэлька шампанскага са стала кісла з дакорам паглядвала на гаспадара, быццам пыталася здзекліва: “А помніш, як ён цябе пакінуўаднойчы ў лесе з елкаю? Было... Выправіліся з сябрам-суседам у лес па елку. Мы ж тут у маленькіх аддаленых вёсачках – дужа страшныя браканьеры. У лесе жывеш – хіба папрэшся ў той горад на елачны базар? А потым як елку з горада – на таксі везці ці на аўтобусе? Сякеру пад паху і, як той заяц, у лес, вушы наставіўшы. Хіба ўжо мы і бясплатнай ялінкі пад Новы год не заслужылі? Ды мы іх болей тут панасаджалі, чым ссячэм. Каб таго ў краіне было злачынстваў, што селянін елачку ў лесе пад Новы год ссячэ...”*

Што ты будзеш рабіць, ізноў паплыў мой творчы камбайн па шырокай ніве айчыннай публіцыстыкі... З’есць цябе газета, заглыне і не падавіцца, калі яшчэ не заглынула. Як добра, што ёсць у кампутары Backspace ці Delete – усё сатрэ, усё выдаліць, за што чырванееш. Можна сцерці з памяці кампутара, але ці выдаліш яго з жыцця?..

*“...Выправіліся з суседам па елку. І пакуль я бухаўся ў гурбах снегу ды хакаў, спраўляючыся з асаблівасцямі сваёй хібнай сардэчна-сасудзістай сістэмы, сябрук псіхануў і... збег паціху, пакінуўшы мяне аднаго сярод лесу цёмнага – хочаш елку шукай, хочаш так вяртайся, абы ногі прынесці. Не спадабалася сябруку, што доўга елку выбіраю – мне ж, ведама, трэба пышная ды прыгожая. Пакуль цягнуў, язык на плечы паклаўшы, елку тую, кляўся-бажыўся, што ніколі болей з суседам у разведку не пайду... Але ж пажывеш – Кузьму бацькам назавеш...*

*Сябры-сябры... Адзін не даехаў да майго навагодняга стала. На аўтобус не паспеў. Ці то не схацеў паспець? Іншыя проста адводзілі вочы ўбок і шчыра прызнаваліся, што будуць сустракаць Новы год у іншых кампаніях. Казалі б найпрост – у весялейшых, дзе льецца ракою гарэлка, граюць іх любімыя “клубнякі” і стрыгуць вочкамі за сталом маладзенькія дзяўчаткі, канкрэтна намякаючы, што сустракаць Новы год можна ў абдымку не толькі з тэлевізарам пад папсу Кіркорава з Пугачовай. Я састарэў у свае пяцьдзясят, а сябры мае яшчэ вунь якія маладыя... Ці то не сябры?.. Ці то не мае?..*

*У адзінаццаць вечара я канчаткова зразумеў, што давядзецца сустрэць Новы год, мабыць, з Пуціным. Выпілі з ім па бакале шампанскага. На тым і развіталіся. Расейскі прэзідэнт і той не падзяліў маёй кампаніі. У яго*

*былі свае “замороки”. Да таго ж ён надта далёка, аж на Далёкі Усход з’ехаў. Я закусіў расейскі Новы год кавалкам “российского” сыру. А бліжэй да паўначы і далей ад ліха і ўвогуле пераключыўся на “Белсат”. Праўда, і там не злавіў нічога цікавага. “Альтэрнатыўныя” цягнулі навагоднюю гуму, болей падобную да жуйкі, хоць і адрознівалася яна ад расейскае папсы, але не надта весяліла. Ці не паўзці мне ў сеціва ды клікаць да навагодняга стала самога Папу Рымскага, раптам заінтрыгую яго райпоўскімі мандарынамі? Але ж я не святы: стрэліў во бутэлькаю шампанскага і збіраюся яе да раніцы асушыць.*

*У гэты час у акно нехта грукнуў, ці не Дзед Мароз прыпёрся, а калі дакладней – ціха, нібы вінавата, нехта пашкрэбаўся. І зноў з’явілася прывідная надзея, што ў мяне ўсё ж ёсць сябры. Адчыніў дзверы. На ганку сядзеў Галавеш. Дык вось хто мой сапраўдны сябар! На душы пацяплела. Да дванаццаці заставалася некалькі ўдараў кацінай лапаю. Я хуценька напоўніў бакал шампанскім, выбраў самы прыгожы скрыдлік вэнжанае кілбасы “Мядовая”, прапанаваў кату. Галавеш толькі панюхаў, але есці хіміі не стаў, ён уважліва пазіраў, здавалася, высверваў мяне вачыма, пранізваючы паразуменнем маю агорклую душу. Падняўшыся, я асушыў бакал – да дна. Шампанскае чамусьці апякло горла. Ну, зусім як пярцоўка! Сеў на канапу. Падчапіўшы відэльцам скрыдлік сялёдкі, хацеў адправіць у рот, бо было ўжо без розніцы, чым закусваць салодкую пярцоўку. Сялёдка наважылася замяніць мне шакалад. Пякучаю пярцоўкаю апаліла, пакаціўшыся па шчацэ скупая адзінокая слязіна, салёная, як “Маціяс”. Рот я закрыць не паспеў ад здзіўлення. Галавеш знячэўку скочыў мне на калені, затым на плячо, імгненна злізнуў слязіну і тут жа пачаў вылізваць шурпатым языком маю шчаку. Ад здранцвення я выпусціў з рук відэлец. Такога Новага года я яшчэ не сустракаў, як і не сустракаў у жыцці ТАКОГА сябра...”*

...Прыгожае-прыгожае пісьменства... І чаго толькі не збрэндзіць хвара-вітая пісьменніцкая фантазія... А ў жыцці ўсё бывае, між іншым, нашмат празаічней. Той Новы год я і сапраўды сустрэў у кампаніі з відэльцам. Іншых ахвотнікаў падзяліць са мною “новае шчасце” не знайшлося. Нават Галавеша не было. Таксама дзесьці бегаў, балазе, на вуліцы стаяла сакавіцкая цеплыня, і ці не зацікавіўся мой хлопец паненкамі? У хату не прасіўся, не такі ён дурань, ведаў, што гаспадар не пусціць нізавошта, бо на стале ласункі. Тым болей, што і за самім сабою Галавеш адчуваў грашок – ніколі не прапусціць ён магчымасці на стале пагаспадарыць, калі б толькі гаспадар куды адхінуўся.

Усё выглядала нашмат болей празаічным. Пакрыўдзіўшыся на свет цэлы, я адключыў мабільны, раздражнёна вырваў з разеткі штэкер хатняга тэлефона. Болей не хацелася нікога ні чуць ні бачыць. Не хацелася, каб людзі жадалі мне новага шчасця, калі я яшчэ не паспеў пракаўтнуць старое. І мне здавалася, што такім чынам я змагу парваць сувязь з цэлым Сусветам, адгарадзіўшыся ад яго гострым відэльцам. Я тупа давіўся шампанскім, баючыся, што яно ніколі не скончыцца, і глядзеў на гадзіннік, які, здавалася, стаяў на месцы.

Наконт Сусвету я пралічыўся. Праз гадзіну ён раптам весела ірвануў мне насустрач – зазваніў ў браму, загрукаў у вокны. Усё пайшло амаль па сцэнару Эльдара Разанава. Вось толькі, у адрозненне ад герояў яго камедыі, на званкі я не адгукаўся і на настойлівыя грукі дзверы не адчыняў. Мне было цяпер усё роўна, ці хто пажадае ў мяне “дагнацца” за

сталом, ці хто літасціва наведае, як хворага ў бальніцы, прыцягнуўшыся з пакетам мандарынаў – па абавязку этыкета. Розум адчайна пярэчыў мне, маўляў, у людзей ёсць шмат фармальных рытуальных завядзёнак, нельга іх ігнараваць, ды і ўвогуле Ільіч казаў, што жыць у грамадстве і быць свабодным ад яго немагчыма. А сэрца... сэрца ўзбунтавалася – ды пайшлі яны з тымі рытуаламі... услед за сваім уласным шчасцем... Гэта быў бунт адчаю!

*Дванаццатага студзеня*... За акном палахліва цярусіць сняжок у чаканні зімовых пераменаў... Змрочна і адчайна як на вуліцы, так і на душы. Застыў перад бялютка-чысцюткім, як той першынец-сняжок, экранам манітора ў гнятлівай нерашучасці.

Толькі што я пахаваў Галавеша. Ах, гэтая проза жыцця! Усё ў ёй зусім не так, як у творах майстроў прыгожага пісьменства. Учора мой кот не прыйшоў дадому, і я адразу ж захваляваўся. Было, днямі не вяртаўся з гуляў, і я хоць бы хны. А тут – нешта стала неспакойна... Клікаў яго, клікаў. Галавеш не адгукнуўся. Звычайна прыбяжыць – і колькі ж радасці – гатовы на шыю кідацца. Каб гэтак радаваліся мне пры сустрэчы людзі!.. Сёння пайшоў шукаць на шашэйку, што непадалёк ад хаты... Катка свайго я пазнаў адразу... І што ён рабіў па той бок небяспечнай шашэйкі?!.. Ужо вяртаўся дадому, імкнуўся вярнуцца туды, куды яму болей не суджана было вярнуцца... Галавеш ляжаў, расцягнуўшыся ва ўвесь рост на асфальце, і машыны акуратна аб’язджалі яго, а мне здавалася, што яны аддаюць апошнюю даніну павагі майму хвастатаму сябруку.

Пахаваў я Галавеша пад яблынькай у садзе. Мы, вяскоўцы, не прывыклі хаваць катоў, як генералаў, стаўляць ім надмагільныя помнікі. Проста ўзяў рыдлёўку, механічна выкапаў неглыбокую ямку, апусціў туды спруцянелае цельца. Па смерці Галавеш не быў такім прыгожым, як пры жыцці... Даруй, сябрук! Ад лёсу не ўцячэш... Увесну белай квеценню засмяецца яблынька, а вясною буду памінаць цябе сакаўнымі галавешавымі “грапштэйкамі” – сёлета год абяцае быць яблычным...

На гэты раз скупую слязіну з маёй шчакі не было каму злізаць... Так і кацілася, пакуль не арасіла і без таго сырое зямлі.

Дарэчы, пра слязіну... Думаеце, пісьменнік выдумаў той прыгожы сюжэцік за навагоднім сталом дзеля аздобы? Памыляецеся. Усё аднойчы здарылася насамрэч, хіба што толькі не на Новы год. Вось пасля гэтага я і запаважаў Галавеша. А цяпер думаю: што калі і сапраўды душы здольныя перасяляцца, і пад аблiччам ката можа хавацца душа чалавека?..

А пісьменніку толькі і заставалася, што прыкласціся чароўнай палачкай, пастараўшыся, каб грубая і непагабляваная жыццёвая проза стала смачненькай навагодняй цукерачкай у прыгожай бліскучай абгортачцы. Маўляў, якія толькі цуды не здараюцца ў гэтую чароўную ноч.

Ноч скончылася, а светлы дзень так і не наступіў. Маё святло ў акне зноў звузілася да памераў кампутарнага манітора. Толькі вось навошта я парушыў зарок не пісаць больш ніколі і нізашто? Усё роўна ж не Траяпольскі. Сентыментальнага Белага Біма з майго чорнага Галавеша не атрымаецца. І бліскучыя кніжачкі “з-пад ж...пы”, як у цяперашніх новых “класікаў” – таксама занятак не для мяне. То навошта? Навошта?...

Віктар Жыбуль




...Ноч падкрадаецца і ціха б’е
драўляным малатком па галаве...

# Вуха бліжняга

* * *

Жыве ў цябе ўнутры
непаслухмяны ген:
не здзьмуць яго вятры,
не выведзе пурген.

Перад сябрамі,
блізкімі, знаёмымі
хваліся лішкавымі
храмасомамі.

Сагрэй любоўю
ненавісны свет.
Прадай здароўе,
каб купіць імунітэт.

* * *

асвяжыць у памяці даўняе пачуццё
часам цяжка
бо цвіль парослая на ім
выглядае каларытнейшай і прывабнейшай
за былую свежасць

вось і хочацца
выжлукціць яго нагбом як тыднёвы рассол
згрызці як нацёрты часныком сухар
злушчыць як заляжалую на печы семку
зжаваць як сыр альпэн блю
выпадкова прыгатаваны ў хатніх умовах

## *ШЭРАЯ ВАЗА*

адна шэрая-шэрая ваза
ўсё жыццё хацела разбіцца
іншыя вазы не разумелі
навошта разбівацца
калі жыццё такое цудоўнае

і аднойчы гэта здарылася
ваза грымнулася з шафы
і разляцелася на сотню
каляровых аскепачкаў
вось так менавіта
сама шэрая а аскепачкі каляровыя

венік і шуфлік хацелі
ўсё гэта падмесці
аднак
усе іншыя вазы
а з імі рондалі міскі кубкі
бутэлькі відэльцы лыжкі сказалі
не прыбірайце аскепкі
з імі жыццё такое цудоўнае

## *СОН БЕЗБІЛЕТНІКА*

Нявыспаны
еду ў тралейбусе.
Эх, вось бы зараз падрамаць!
Але неадчэпныя думкі пра непрабіты квіток
упарта лезуць у галаву,
не даючы заснуць.

Ну, напраўду:
раптам на наступным прыпынку
ўломяцца кантралёры?
Калі своечасова заўважу іх –
ёсць шанец хутка выскачыць з тралейбуса
і такім чынам пазбегнуць штрафу.

Але дзеля гэтага трэба
ўвесь час глядзець у вакно
з рызыкай звіхнуць шыю,
бо мне патрапілася месца,
павернутае спінай да кіроўцы.
Ну, і як тут паспіш?

У стромкім напружанні
мінаю прыпынак,
другі, трэці, чацвёрты...
І вось нарэшце разумею,
што наступны – мой.

Усё, баяцца болей няма чаго, –
з палёгкай уздыхаю я,
заплюшчваю вочы
і паглыбляюся ў салодкі сон.

* * *

у трыццаць сёмым
тралейбусе
едучы ўвечары па вуліцы
названай імем пісьменніка
які любіў паўтараць
што чалавек гэта цэлы свет
ледзь паспяваю зазіраць
у вокны дамоў што мільгаюць
за тралейбуснай шыбінай
уяўляючы сабе
як там жывуць людзі
быццам сам мяняю кватэру
кожную секунду
быццам мяняю вопратку
кожную палову секунды
мяняю цялесную абалонку
кожную чвэрць секунды
а разам з ёю
мяняю пол узрост нацыянальнасць
прафесію сацыяльны статус

вядома ж усё гэта толькі ў думках
але кажуць што думкі матэрыяльныя
калі так дык яны павінны
цягнуцца падобна тралейбусным правадам
пранізваючы сцены столі падлогі
працінаючы дамы й іх жыхароў
ператвараючы вуліцу ў матрыцу
а кварталы ў фракталы да тае пары
пакуль я еду па гэтай вуліцы
і пакуль я еду па наступнай вуліцы
і пакуль я іду дадому

калісьці я згубіў тут
свой стары мабільнік Siemens A55
яго падняў невядомы
паклаў у сваю кішэню і знік
я прасканаваў гэтага чалавека наскрозь
і вылічыў ягоныя пол узрост нацыянальнасць
прафесію сацыяльны статус
але гэта не дапамагло
мабільнік мне не вярнулі

* * *

Высокая старая бяроза
працягвае сваё галлё
ў вокны школы
для дзяцей з паніжаным зрокам,
быццам кажа:
– Я хачу вам паказаць зблізу
свет прыроды –
ведаю, што здалёк не пабачыце.
Зірніце, якое прыгожае маё ўбранне
ўвосень!
А хто не можа і зірнуць –
дык вазьміце памацайце:
можа, мудрасць векавую вычытаеце
па атожылках маіх лісточкаў.

Але сярдзітая настаўніца
гучным вокрыкам вяртае ўсіх за парты:
– Дзеці, адыдзіце ад гэтай бярозы!
Яна ж хоча вывесці вас на вуліцу праз вакно!
Яна заклікае да самагубства!
Хіба не чуеце? –
І з грукатам зачыняе шыбіну.

* * *

Каб адганяць кепскія думкі,
прыдасца мухабойка,
звычайная танная мухабойка,
якая прадаецца ў гаспадарчай краме.

Кепскія думкі спалохаюцца
і адлятуць з хаты праз фортку,
а тыя, што застануцца,
будуць забітыя і змытыя ва ўнітаз.

– Мухабойкі скончыліся, –
сказала мне крамніца
і прапанавала ліпкую стужку-пастку
з прывабным для кепскіх думак пахам,
якую можна падвесіць пад столь.

...Цяпер я сяджу дома і гляджу,
як на стужку з усіх бакоў
злятаюцца кепскія думкі,
прыклейваюцца і, не ў стане адляпіцца,
варушаць, варушаць, варушаць, варушаць
бруднымі лапкамі.

* * *

пароль:
– мужчынская рыфма
адказ:
– жаночая рыфма

аперацыю
па незаконнай дастаўцы
чарговага
кантрабанднага верлібра
можна лічыць
паспяховай

## *УНУТРЫВЕННА*

...А можа, яно так і трэба:
каб навакольны свет
накрапваў праз кропельніцу
ў тваё нутро,
мінуючы глотку, стрававод
і нават сам страўнік?

Можа, гэтая дазаваная
пастаўка навакольнай рэчаіснасці
дазволіць пазбегнуць
выпадковага самаатручвання
альбо згвалтавання* вострых прадметаў.

...А камусьці гэтая рэчаіснасць
паступае раз на дзень праз шпрыц.
...А камусьці – раз на тыдзень
праз клізму.
...А хтосьці ўвогуле здаровы
і ніякая рэчаіснасць яму не патрэбна.

* Вядома ж, слова "згвалтавання" з'яўляецца абдрукоўкай па Фройдзе, а маецца на ўвазе "заглытвання".

## *ВУХА БЛІЖНЯГА*

Шапчы, шапчы на вуха бліжняму
аб тым, што ён самы бліжні ў свеце –
схлусіць тут не атрымаецца:
адлегласць ад вуснаў да вуха
пры шэпце сапраўды мінімальная.

Крычы, крычы на вуха бліжняму
аб тым, што ён самы бліжні ў свеце –
і самы бліжні стане самым далёкім:
ну каму прыемна,
калі хтосьці крычыць у самае вуха!?

Маўчы, маўчы на вуха бліжняму...

## *АРКТЫЧНАЕ ЛЕТА*

тут чайкі крычаць галасней за нашых
каб лепей чуць адна адну
праз плёскат хваляў ф'ёрда
што фарбуюць каменне ёдам

тут можна зляпіць у чэрвені снегавіка
навучыцца кідаць ласо
прайсціся па кіламетровым мосце
і пасядзець у кавярні за півам
звараным на самым паўночным бровары свету

праблема падзелу сутак на часткі
тут вырашаецца з дапамогай фіранак

адгарнеш фіранку – настане дзень
загарнеш фіранку – прыйдзе ноч

гэта ў доме

а на вуліцы
ноч здаецца не прыйдзе ніколі

і толькі ўзімку
будзе ўсё наадварот
уключыш лямпачку /пстрык!/ – настане дзень
вымкнеш лямпачку /пстрык!/ – прыйдзе ноч

напэўна таму ў Тромсё
такая прыгожая крама  “ELEKTRISK”

люблю гэтыя цёмныя дні
гэтыя белыя ночы
і гэтыя каляровыя сны

*Чэрвень 2013 г., паўночная Нарвегія*

* * *

Ты не разумееш,
чаму гэтую глухую-глухую сцяну
я называю рэшатам.

Проста ў гэтай глухой-глухой сцяне
ёсць маленькая-маленькая дзірачка,
якую бачу я,
а іншыя не бачаць.

Паглядзі:
вунь тонкі-тонкі сонечны праменьчык
імкнецца выслізнуць праз гэтую дзірку.
Я яго заўважыў,
а іншыя – пакуль не.

І няма гарантыі, што сонца не прастрэліць
дзясяткамі, сотнямі, тысячамі промняў
гэтую сцяну
наскрозь.

## ***ФУГА***

І чаму праходзячы пад гэтымі белымі яблынямі
ўсе пазіраюць угору,

з трывожнымі круглымі вачыма пазіраюць угору?
Быццам хочуць выцягнуць вочы
на манер тэлескопаў ці мікраскопаў
і пабачыць у небе нешта развеянае,
нешта рассыпанае на мільярды атамаў?

І правільна, людзі, турбуйцеся,
недарэмна, людзі, турбуецеся:
у небе над белымі яблынямі
кружляе крэміраваны генерал.

Ён кіруе нябачным войскам,
што боўтае нябачнымі нагамі
ў бялізне, развешанай на балконах,
ловіць сакрэтныя радыёхвалі
талеркамі, што грувасцяцца
ў брудных рукамыйніках.
У моры яблыневай квецені
купаецца крэміраваны генерал.

Тут кожная кветка пахне не мёдам,
а гукамі пахавальнага аркестра.
Тут у кожным бутоне міна,
ад якой узлятаюць увысь
сотні вайсковых фуражак.
Пялёсткі скручваюцца ў трубачкі,
вырастаюць у трубы, трамбоны і тубы,
а песцікі й тычынкі –
у цяжкія барабанныя палачкі.
Пчолы ў вулеі выкладаюць з сотаў
ордэнскія планкі.
Уюцца чмялі –
маленькія махнатыя бамбардзіроўшчыкі –
і ўзрываюць маленькія махнатыя бомбы,
а белы голуб – сімвал міру –
нясе гаўбіцу ў дзюбе.
Сонца цяжкім медалём
вісіць над усімі намі,
вось толькі ці ўсе мы заслужылі
такую вялікую ўзнагароду?

Над садам, лугам і старымі дварамі
лётае крэміраваны генерал.
Яму зверху ўсё бачна.

## *РОЗДУМ ЛЯ ПУСТОГА АКВАРЫУМА*

*Калі я сяджу на кухні, – думаю ці чытаю, –*
*халадзільнік*
*ля боку вуркоча, лагодна і мірна, бы кот.*
Міхась Стральцоў

Ці можа вада адчуваць чалавечы сорам?
– Можа, – упэўніўся я,
калі хацеў моцна вылаяцца,
ды стрымаўся,
бо пасаромеўся акварыумных рыбак,
толькі потым узгадаўшы,
што рыбак у акварыуме яшчэ няма,
няма нават раслінаў,
але булькание вады,
прапушчанай праз фільтр,
стварае ўражанне
прысутнасці кагосьці жывога.
І прыйшло ўсведамленне,
што гэта фільтруюцца
мае думкі й словы,
ачышчаючыся ад лішняга смецця.
Ці можа тэхніка адчуваць чалавечы сорам?
Можа.
І не абавязкова ёй пры гэтым быць
дэтэктарам хлусні.

* * *

Атрымліваючы грант на ўдасканальванне свету,
мы часта выдаткоўваем яго на ўдасканальванне сябе.
Скажаце, ён траціцца не па прызначэнні? Стоп!
На саміх сабе мы трэніруемся любіць бліжняга.
Недзе там, за мяжой, ужо запушчаныя ў вытворчасць
формы для адліву з біямасы людзей новай фармацыі.
Хочаце паглядзець? Хутчэй займайце чаргу
на атрыманне міжгалактычнае візы!

Мая чорная паласа святлейшая за вашыя белыя,
і ўзніклая ў вуснах усмешка распаўзаецца па ўсім целе,
бо мой шлях распісаны на некалькі пакаленняў наперад.
А што б вы думалі!? Ну які ж засмечаны ўнітаз
не марыць засмактаць у сябе воды сусветнага акіяна?

## *ЁГА*

Чалавек, чый дух загартаваны,
нат у пекле ўвойдзе ў стан нірваны.

Чалавека ж, у якога дух гнілы,
лёгка пілаваць і без пілы.

* * *

Эх, дзіўныя людзі істоты –
абіраюць шляхі пакутныя.
Мінаючы 99 ягад, сотую
глытаюць – як наўмысна, атрутную.

Усё падвешваючы на бязмен,
не спакушаныя полем без мін,
эфемерных чакаючы змен,
забываюць, як пахне язмін.

Яны паядаюць бочкамі дзёгаць,
адмахваючыся ад лыжкі мёду.
Яны без самазнішчэння не могуць,
і ім не патрэбна Свабода...

* * *

Як добра часам непрыкметна
сярод лясоў, балот, палян
нагой намацаць шлях сакрэтны
і адысці на задні план!

Ды ў краі прывідным суседнім
няма куды сябе падзець:
Быў задні план, а стаў парэдні,
бо – гледзячы як паглядзець.

* * *

З кожнай адзінкаю інфармацыі
мы бавімся, як з улюбёнаю цацаю.
Усе байкі свету вы нам набайце,
а мы іх умесцім у гігабайце.

Дах знясе і мазгі ўзарве
ўсё, што скінулі мы на CD-RW.
Толькі драпіна скараціла век дыску.
Ён ужо непрацоўны, і я на ім рэжу радыску.

Ды... вольнае месца на дыску С
вычарпана. Здох журавель у руцэ.
Засталася толькі сініца ў небе,
дый тая паляцела па вялікай патрэбе.

Мы сядзім, працягваючы Радзіму славіць,
чакаючы, пакуль сініца патрэбу справіць.

Месца няма і на дыску Е...
Няўжо нас навала нуды скуе?
Не! Заўтра прыйдзе ўсіх шэфаў шэф
і выдзеліць месца на дыску F!

Наканавана блукаць то туды, то сюды нам,
бо гэты дыск F аказаўся здымным!

### *СНЕГАЛІСЦЕСЛЕД*

і лісце нападала
і снег нападаў
і снег на лісце
і лісце на снег
і снег на лісце

і след на снег
і лісце на след
і след на лісце
і снег на след

і след на след
і снег на снег
і лісце на лісце

Вось так сустрэліся
лістапад і снежань
яшчэ ў кастрычніку

*28 кастрычніка 2012 г.*

* * *

Паэзія высокага накалу
зашые пашчы тыгру ды шакалу,
завяжа ў вузел полаза з пітонам
брахікаланам і асіндэтонам.

Паэзія магутнага напору
засее пад асфальт грыбную спору,
каб у стамлёных душ нямую глыб
прарос вясёлы галюцынагенны грыб.

* * *

Ноч падкрадаецца і ціха б'е
драўляным малатком па галаве.

І вось, паколькі малаток драўляны,
ты не забіты падаеш, а п’яны.

Прачнешся зранку зачарпнуць вады глыток,
а галава сама трышчыць, як малаток.
А потым будзе на працягу дня
з яе патроху высыпацца парахня.

Што ж, асвяжыся і працверазей:
сусвет багаты й разнастайны, як музей.

* * *

Было іх двое: Плявок і Кропля Сіропу.
Яны паўзлі па ссушанай сонцам дарозе.
“Я – горкая праўда! Я – канцэнтрат амброзіі!” –
казаў Плявок і ў свет вывяргаў ізатопы.

“Я гора ў жыцці хлебануў па самыя гланды, –
Плявок верашчаў, – чаго і табе жадаю!”
А Кропля Сіропу маўчала – прыгожая, маладая –
і ў думках далёкія зоркі сплятала ў гірлянды.

“Ты хочаш зведаць жыццё? Жыві сярод гнідаў!” –
так павучаў Плявок неслухмяную Кроплю.
А Кропля хоць у бульбу, хоць у каноплі
схавацца гатовая ад інфернальных флюідаў.

Падножны пыл прыдарожны раптам узняўся ў буру:
шафёр-дальнабойшчык гнаў масіўную фуру.
Не бачыў ён ні Пляўка, ні Кроплі Сіропу,
а ціха ехаў сабе кудысь... у Еўропу...

* * *

Галава трашчыць ад перагрузу
ведамі, напханымі па вушы.
Вось. А тут яшчэ прыходзіць Муза,
шэпча: “На вярбе растуць ігрушы...”

Галава рыпіць ад перадозу,
і не ведаеш, куды падзецца.
Муза кажа: “Станавіся ў позу”.
Станаўлюся, а яна кладзецца.

Галава гарыць ад пераследу
нейкіх неўсвядомленых жаданняў...
Але Муза абувае кеды
і бяжыць кудысь на спецзаданне.



Алесь Емяльянаў



...Свабода –
элементарнае (ня)веданне таго,
што ты несвабодны...

# Тэлепаэтыка

***Рытарычныя адказы***

*Тэлепаэтыка – штосьці сярэдняе паміж тэлепатыяй і тэлефоннай паэтыкай. Так некалі пачыналася прадмова да кніжкі, якая планавалася ў суаўтарстве з адной паэткай. Але планы так і засталіся планамі. Можа, яны калісьці й ажыццявяцца, а пакуль, спадзяюся, нічога благога не будзе, калі я скарыстаюся з назвы і ідэі. А ідэя палягае ў тым, што два чалавекі, неабыякавыя адно да аднаго, дакладней, у іх ёсць моцная, ледзь не тэлепатычная (а можа, й такая мае месца!) сувязь. Акрамя таго, ім дадзена яшчэ адна сувязь – тэлефонная, якая ў выніку і становіцца тым каталізатарам, які прыводзіць да тэлепаэтыкі. Што было спачатку – патыя (у сэнсе і тэле-, і сім-) ці паэтыка, цяжкавата вызначыць нават мне. Мажліва, усё адначасна. Лірычныя замалёўкі, якія захоўваліся ў тэлефонных чарнавіках, а пасля з пэўнай перыядычнасцю адсылаліся адрасату праз электронную пошту ці паведамленні сацсетак, я вырашыў назваць рытарычнымі адказамі, бо яны, як бачна з назвы, не патрабуюць адказаў. Гэта назіранні, якія дапамагаюць лепш зразумець адно аднаго...*

### 1. Паміж

Восеньскае сонца самае гарачае і небяспечнае. Ягоныя халодныя промні, што ледзь кранаюць паверхню сваім скупым святлом, выпальваюць знутры. Так і абыякавасць чалавека, якога кахаеш, немагчыма трываць. Лепей ужо самае гарачае ліпеньскае надвор'е з задухаю і брыдкім ліпкім потам на ілбе і грудзях. Знаходжуся паміж апякаючай зоркай надзеі і ганарыста-халоднай зоркай зняверанасці.

### 2. Ісціна

Сёння зразумеў, што ісціна не ў віне – маёй ці тваёй – не вінаваты ніхто, тым больш віно. Мацней за віно п'яняць вочы маладой кабеты і бярозавы сок. Наконт першага – едучы з Наталкай Кучмель і Віктарам Слінкам у аўтобусе, заўважыў вочы кандуктаркі – і патануў без шанцу на ратаванне і асабліва не спрачаючыся са стыхіяй: "У Вас вочы, як у німфы", – яна ўсміхнулася і запыталася: "А хто гэта?" – "Русалка" – адказаў я. – "Ваш квіток."

Бярозавы сок можа ператварыцца ў гарэлку. Гэтаму цуду мяне навучыў Віця. Галоўнае ўявіць, што п'еш не бярозавы сок, а гарэлку. Паспрабуйце – сапраўды хмяліць.

### 3. Агонь

Не ўпершыню ўжо, ідучы на спатканне (хаця кожны раз, натуральна, як першы), купляю кветкі. Сёння ў маіх пальцах барвова-вінныя хрызантэмы. Хаця й заходзіў часцяком у гэтую краму на плошчы Перамогі, але не бачыў такіх кветак, а магчыма не звярнуў увагі. Гэты колер падаўся мне вельмі дарэчы, бо ён у мяне тоесніцца з жарсцю – не жывёльнай, не, а жарсцю, з якой агонь з'ядае дровы – закахана абдымае іх і трапеча, быццам вабячы да сябе, ён іх таксама кахае, і паважае, але не ў стане стрымліваць сябе. Але агонь шчыра ненавідзіць дым, ад якога няма аніякай карысці. У гэтым сэнсе любое маленькае цяпельца зайздросціць Вечнаму Агню, ля якога, між іншым, мы і прызначылі сустрэчу. Але Вечны Агонь – нежывое, штучнае, рафінаванае камфорачнае полымя, якое існуе, пакуль не скончылася блакітнае паліва.

Агонь нашых целаў цёплы, дым нашых душаў пакуль белы і чысты, з прыемным водарам жывіцы – уздымаецца ў нябёсы і застаецца там... У ім жывуць нашыя летуценні...

Цяпер мне адкрылася тлумачэнне Эклезіяста пра тое, што няма нічога вечага пад поўняй – на ўвазе меўся Вечны Агонь...

### 4. Паветра

Ад чаго плачуць дзеткі? Хто ад чаго – у кагосьці жывоцік баліць, камусь не купілі жаданае цацкі, а вось некаторыя плачуць, калі застаюцца адны, альбо з якімі-небудзь чужымі людзьмі (маю наўвеце сваякоў, сяброў, знаёмых і г. д.). Даволі часта даводзілася бачыць, што варта маці кудынебудзь выбегчы – да суседкі, у краму на пяць хвілінаў ці па якой іншай справе, – а малёнак ужо румзае, плача, крычыць, аж заходзіцца. Чаго?

Я не разумею такіх паводзінаў, бо ў маім уяўленні і ў малечым, і ў цяперашнім я не прывязаны да родных. Бабуля працавала з восьмай раніцы да дзвюх, а пасля прыходзіла дадому. Тыя гадзіны, што заставаліся, яна адпрацоўвала ў суботу. Матулі не было з сямі да шасці. Першую палову дня я заставаўся адзін (за выключэннем, калі мяне даглядала цётка, ці дзядзька, ці яшчэ хтосьці), і быў вольным у сваіх занятках. Часцей за ўсё ўключаў тэлевізар і альбо глядзеў мульцікі, альбо йшоў у іншы пакой. Самым істотным было не заставацца без сумоўніка (хаця б і тэлевізара). Але ж мне было не прынцыпова, хто будзе сёння, і хто калі прыйдзе.

Але нядаўна я сам апынуўся ў такім стане. Калі ты сыходзіш, альбо я па якіхсьці справах бягу, лячу, еду невядома куды, мне робіцца настолькі самотна, хоць галаву ў пясок закопвай. Пачуваюся пяцігадовым хлопчыкам, які ўсё не хоча адпускаць матулю, трымае яе за мезенчык і пазірае так жаласліва і тужліва...

Я сапраўды твой маленькі і неразумны, капрызны дзіцёнак, які не хоча дзяліць цябе ні з кім і ні з чым...

### 5. Рэдактура

Калі быў маленькі, заўсёды здзіўляўся, чаму я ўмею размаўляць, а котка ці сабака так не могуць. Як яны адно аднаго разумеюць? Котка ж не скажа свайму кату: “Я сумую, мой любы...”, а сабака не прамовіць: “Не магу без цябе!”

Шмат пазней дайшоў, што й жывёлкі валодаюць мовай, ды яшчэ як! Самай дасканалаю ў свеце – мовай рухаў, дотыкаў і позіркаў. Людзі ўпэўненыя, што пераўзышлі сваіх субратцяў, бо ўмеюць з дапамогаю тых гукаў, што вылятаюць з ротавай адтуліны, давесці самыя галоўныя рэчы ў свеце. Але памыляюцца, бо набыўшы адно – губляеш другое, дакладней, мяняеш адпачаткавае на другаснае. І мы амаль развучыліся размаўляць без словаў. Але дзіўная жывёльная мова не мёртвая, проста складаная й крыху забытая, а людзей заўсёды палохалі цяжкасці.

Тое, што можна сказаць словамі, нашмат складаней сказаць моваю цела. “Я кахаю цябе!” зразумееш толькі тады, калі адчуеш на сваёй шыі мяккі дотык маіх вуснаў. І я даведаюся, што ты кахаеш мяне, калі пачну чытаць рукапіс паэтычнай кнігі твайго цела, перагортваючы бачынку за бачынкай, і, спыніўшыся на адной з іх, прыгублю журавінавы сок тваіх смочак, а пасля занурыся ў чарговы чароўны верш, убіраючы прахалоднапрыемную, нібы марозіва з вафельнага ражка, соладка-сунічную метафару твайго ўлоння. А тваё цела будзе дыхаць жарсцю і заміраць ад шчасця.

І так штодня чытаць, перачытваць, удасканальваць, падкрэсліваць чырвоным алоўкам языка асабліва ўпадабаныя месцы, – хіба гэта не ёсць лепшым у свеце заняткам – па-рэдактарску захапляцца найпрыгажэйшым паэтычным зборнікам твайго пяшчотнага дзявочага цела.

### 6. Умоўны лад

Калі на халаце не хапае гузіка, другі ледзь трымаецца на нітачцы, а трэці паспеў ужо адчуць імгненне свабоднага палёту і радасна тыцнуўся аб падлогу, а ты падбіраеш небараку, кладзеш машынальна ў кішэню, каб прышыць пасля, і па сканчэнні змены разумееш, што паскуднік выслізнуў

праз не знойдзеную раней дзірачку ў той самай кішэні, – усё гэта сведчыць пра тое, што варта альбо купіць новы халат, альбо шукаць іншую працу...

## 7. Надзя

Ніколі не трэба губляць надзеі. Надзея – маленькая дзяўчынка, якая сама згубіцца – пойдзе да якога-небудзь іншага дзядзечкі, і колькі не клікай – Надзюша, Надзя, не падыдзе. Гарэзіць, усміхаецца, а не йдзе. Таму не ўскладай на яе кволыя дзіцячыя плечыкі вельмі цяжкія валізкі жаданняў і мараў.

Не варта спадзявацца на сонца, бо пры нашых заробках і ўменні за іх існаваць – сонца можа выйсці, а можа й не выйсці на працу, і яго падменяць дажджом, ці нейтральным надвор’ем, ды й сіноптыкі такія ж людзі, і працуюць за такія самыя грошы. Але якое раптам шчасце і напоўненасць з’яўляецца, калі сонца паказваецца на гарызонце, ці хаця б какетліва намякае: ”Можаце чакаць – хутка буду!”

Што можа быць лепш за прадчуванні сонца і ягоны прыход? Калі йдзеш па печыва ў невялічкую краму (якая, бадай, адзінае мейсца, дзе можна купіць хоць штось з ежы на гэтай выспе Несвабоды, – у месцы, дзе я жыву, амаль ніводнае крамы, бліжэйшая – 3 кіламетры), якую ўтрымлівае сям’я прадпрымальнікаў – прыгожых і добрасардэчных прыемных людзей – разлічвай, што яны могуць працаваць, а могуць і зачыніцца, пагатоў у іх праз пару тыдняў выходзіць ліцэнзія, якую ім не падоўжаць. Але ты цешышся, раптоўна застаўшы на месцы абоіх – такіх усмешлівых і ласкавых, што дождж на вуліцы, як цёплы прыемны лёгкі душ з дарогі.

...І вось, ідучы з крамкі, ты ўжо бачыш – дзесьці там на адлегласці дзевяці крокаў па калюжынах бяжыць маленькая дзяўчынка ў пунсовых гумовых боціках – тых самых, з твайго дзяцінства – дзіравенькія гумовыя боцікі дваццаць трэцяга памеру. “Надзя! Надзечка!” – дзяўчынка паварочваецца на імгенне, пасміхаецца і бяжыць далей, рапырскваючы тысячы і тысячы празрыстых кропляў.

## 8. Вершатоп

Люблю менскія вуліцы. Але ж не ўсе, а толькі з цікавымі паэтычнымі назвамі. Да прыкладу, такімі, як Сонечная. Згадваю гэтую назву, бо калісьці з сябрынай ладзілі там кватэрнік. Не памятаю, натуральна, у якім будынку, але было гэта 31 траўня 2010 года – дакладнасць даты не выклікае сумневу, бо канцэрт быў прысвечаны развітанню з вясною. Вось такі сонечны дзень, ці лепей сказаць, вечар, меў месца на вуліцы Сонечнай.

Другой па значнасці для мяне з’яўляецца вуліца Вясёлкавая або аднайменны прыпынак грамадскага транспарту. Хаця трэба сказаць, што ў народнай памяці гэты куточак сталіцы замацаваўся пад наркамаўска-калгаснаю назвай “Радужная”. Менавіта на гэтым прыпынку я раней сядаў у прыгарадны аўтобус, які ходзіць на Менскае мора, дзе я некаторы час меў гонар жыць, хаця жыць не зусім дакладна, як казаў адзін знаёмы: “Ты на Менскім моры хіба на ільдзіне жывеш?” Тут больш падыходзіць польскае слова mieszkać, якое ёсць і ва ўкраінскай мове.

плыве мой прыгарадны шатл
на мора, быццам на Салярыс,
дзе першаснай з'яўляецца бязважкасць
душы. і цела, быццам не маё,
і толькі свечак-соснаў шаты
маімі думкамі ўладараць...

– напісалася ад нямачагораблення.

Яшчэ гэтая вуліца адметная тым, што зусім побач, варта толькі прайсці праз пару арак, як апынаешся ля дома Аксаны Спрынчан, маёй сяброўкі і паэткі.

Вуліца Прыгожая знаходзіцца побач з Магілёўскай. Таксама яшчэ адна маленькая вулачка, на якой мо з пару-тройку будынкаў назбіраецца. Чым яна адметная – відаць, толькі назвай. А яшчэ тым, што я гандляваў там малінамі ў адно лета.Такія незвычайныя назвы для вуліц мог адшукаць толькі паэт, імя якому – народ. Цяпер я разумею, чаму словы некаторых песень народныя. Чалавек, які бачыць прыгожае там, дзе іншыя гэтага не заўважаюць, і дае вуліцы назву "Прыгожая", можа скласці і песню пра гэтую вуліцу, ці проста скласці песню, а народ будзе яе спяваць, нават забыўшыся на імя аўтара.

А ёсцека ў сталіцы і вуліцы, якія амаль паўтараюць цыкл "Паравіны года" – Летняя, Асенняя і, што б вы думалі, Зімняя! Не хапае толькі Вясенняй, але спадзяюся, яе прыдумае яшчэ які-небудзь паэт.

Не магу абмінуць і Саламяную, на якой таксама ніколі не быў, а толькі праходзіў побач, бо ізноў-такі назва прыпынку, як і шмат дзе ў Менску, прывязаная да назвы вуліцы. Дык вось, калі вы едзеце на трыццаць сёмым аўтобусе і чуеце, як аўтаінфармавальнік (такая паскудная прылада для паляпшэння працы кіроўцаў, што кажа за іх механічна-электронным брыдкім голасам назвы прыпынкаў) прамаўляе: "Вуліца Саломенная" (ізноў лаянка з майго боку ў бок☺ і непаразуменне наконт саўдэпаўскага-трасянкавага гучання) – адразу ж сыходзьце і, абмінуўшы амбасаду Летувы, патрапіце на вуліцу Захарава 64, дзе жыве адзін з самых цудоўных і незвычайных людзей, мая сяброўка, паэтка Наталля Кучмель.

Увогуле для мяне вуліца Захарава – паэтычная, бо тут і па сённяшні дзень знаходзіцца рэдакцыя часопіса "Полымя", а раней яшчэ і рэдакцыя "Маладосці", куды я прыйшоў першы раз у 2007 г. і прынёс на публікацыю адзіны вершык, толькі што напісаны па-беларуску. Таму я б перайменаваў яе ў "Вуліцу Спаткання з Літаратурай".

Зласліўцы і крытыкі ўмомант знойдуць тут плагіят і прыгадаюць "Вуліцу Першага Пацалунку" Л. Дранько-Майсюка, але чаму, скажыце мне, нельга ўпрыгожыць сваё жыццё хаця б такімі маленькімі радасцямі. Прыйшла паэту ў галаву назва вуліцы – і хай сабе. Усё адно ўрэшце рэшт пазнішчаюць усе назвы, і не застанецца, бадай, такіх паэтычных вуліц. Дык няхай хоць у маім абразочку яны існуюць. Хаця б для дзяцей маіх, а далей ужо неістотна, што адбудзецца. Галоўнае, што былі і, дзякаваць Богу, пакуль ёсць. Усе вулачкі, якія я прыгадаў тут, – збольшага прыватны сектар, а ўлічваючы, якімі тэмпамі йдзе ў наш час будаўніцтва новых шматпавярховых шклобетонных саркафагаў ды нішчацца найпрыгажэйшыя сталічныя вулкі, то праз некаторы час і яны могуць знікнуць. Можна толькі спадзявацца, што гэта адбудзецца не пры мне. А нядаўна патрапіў на вуліцу Літаратурную, якую

разам з іншымі вулкамі прыватнага сектара ў раёне вуліцы Багдановіча, бліжэй да Зялёнага луга, забудуюць шматпавярховікамі, пусцяць трэцюю лінію метро. Назвы вуліц, натуральна, пакінуць, але гэта будзе зусім іншая гісторыя – вуліца Гало стане няпоўнай без аўтэнтычнай брукаванкі, а астатнія вуліцы страцяць сваю таемнасць, нейкую прыцягальнасць, адмету яшчэ таго, пасляваеннага горада.

Вось мы жывем у Сухарава, твае бацькі каля Каменнае Горкі, а што тут было раней? Чаму менавіта так, а не іначай называліся гэтыя вёсачкі? Прыгожа-невядомыя назвы засталіся, а дух страчаны. Як чалавек, ад якога засталося толькі імя, а ўсё астатняе страчана – ані хаты, ані роду, ані племені.

### 9. Свабода

Свабода – элементарнае (ня)веданне таго, што ты несвабодны. Бяру (ня)веданне ў дужкі, бо ведаеш ты ці не ведаеш, што адпачаткава несвабодны, ужо нічога не вырашае. Унутраная ілюзія свабоды больш істотная, чым вонкавая, г. зн. няведанне мае права на існаванне. І лепш цешыцца з таго, што маеш хай сабе каліўца свабоды хаця б у кубічным ангстрэме сваёй галавы. Для мяне свабода – гэта сям'я, агмень. Нават у знятай у спальным раёне сталіцы аднапакаёўцы час ад часу мне мроіцца, што я ў вялікай драўлянай хаціне, на двары чамусьці зімовая завіруха, а ў коміне (у маёй мроі менавіта ён) агонь і святло па ўсім покоі, зыркае, але такое лагоднае і ненавязлівае, нібы сонечнае, і так цёпла. Побач ты і дзеці. З'яўляецца адчуванне, што ва ўсім свеце анікагуткі. Магчыма, я атаясамліваю свабоду са стабільнасцю, хай бы й так. Стабільнасць з'яўляецца тады, калі ёсць што губляць. І Свабода там недалёка. Мая Свабода там, дзе ты...



Віктар Слінка



... Дождж гасіць вогнішча,
а вогнішча хоча гарэць, –
так, што лішнія:
і позірк, і той, хто глядзіць...

# Узыходжанне

### *PROMENADE*

пакуль у друкарцы даспявала папера вострая бляха
якой абабіты карніз разрэзала мне кашулю
ад ключыцы на дваццаць сантыметраў уніз
не закрануўшы цела яна выйшла пад пахай
і адбылося гэта калі я паварочваў з цяністага завулка
на сонечны праспект на рагу дома прайшоўшы занадта
блізка павярнуў уверх цэлы і не магло быць іначай
бо не было падставы застацца сплываць крывёй
таму хто ішоў напяваў ды мармытаў адначасова
і з яго крыві не выпарыліся павевы кавы з вяршкамі
у першы дзень па прыездзе з райскага адпачынку
дзе на выселках паміж дамамі ластаўчыныя гонкі
без узроставых абмежаванняў і дзе на вуду яму
патрапіўся юны качар якога ён адпусціў

*31 ліпеня 2012*

## *ТАКІЯ ДОЎГІЯ ДНІ…*

Такія доўгія дні – нібыта даўгі невядома каму, доўгія дні.

Вось куды прывялі сляды і ўсё, што гарэла і грэла, – і падавалася сродкам!..

Дарога да мэты й была – аказалася – мэтай, ды бачна гэта стала толькі пасля, – ц я п е р.

“Весці кладку – закончыліся камяні, лямцаваць коўдру – мерынос апошні астрыжаны й зарэзаны яшчэ на мінулы Байрам,” – так (у тваім
пераказе) было ў дагестанца, з якім смажыў качку ў вуголлях вогнішча адгарэлага.

Нешта, не знаеш куды, але кліча, не ведаеш навошта, але вядзе.

Пабіўшы люстэркі навокал сябе, каб не бачыць уласнага твару, абрынуўшы сцены, каб не гуляў у падман з табой голас, памножаны на рэха, ты сапраўды ўбачыў, пачуў: ёсць яно, іншае, што падае голас, ёсць яно, існае, што пакідае знак.

Але – ці мае патрэбу ў сабе той, каму неабходны ты?

*3 снежня 2012*

## *ПАХОДНІ*
## *(Відзежа)*

бы з чэрапа вулканава агні
гараць і расцякаюцца агні
і свецяць тым хто бачыць іх агні
і грэюць хто паўзе да іх агні
калі ён быў каструбаваты корч
як некалькі плугоў адзіны корч
з балота выцягнуты той магутны корч
на жвіры высыхаў тады й пяску
сцяжына бегла і гублялася ў ляску

дзяўчына адхінала валасы
празрыстая дзяўчына валасы
цялесная дзяўчына валасы
з адлівам незвычайным валасы
яна хавалася за смочкамі грудзей
дзве чашы невялікія грудзей
латынь жывая чулася з грудзей
няўзнак яму руку на карані
паклала й значыў рух абарані

ён знак падаў тады перасцярозе прэч
нудоце і чужым прамовам прэч

хто выцягнуў ім дзякуй зараз прэч
што іншым стаць перашкаджае прэч
“карчом ты быў калі й не быў карчом” –
страшней за ўсё пачуць карчом карчом
карчом ты быў калі й не быў карчом
ды вось гадзюку бокам прышчаміў
што для кідка звівалася – спыніў

прамовіўшы Празрыстасці кахаю
прамовіўшы Цялеснасці кахаю
аднойчы Увасобленай – кахаю

*14 лістапада 2012*

* * *

Калі б ты стала ягонай шаснаццаць гадоў таму,
У вас бы ўжо вырас, напэўна, амаль паўналетні сын.
Глянь – тапалі ў вэлюме снегу. Ліхтарня, што выгінам шыі –
Белая лебедзь. Паверхня ракі – цвёрдаю стала яна. Рушаць алеяй
У адзіноце жанчыны, крэсляць на снезе таемнае, шукаюць сустрэч.
Натуральна яно – ніхто ж не піша алеем карціну,
дзе вугалем – праўдападобней!..
Ды глыбейшаму гуку не адшукацца, як трэскае лёд
Пад крокам дваіх; адзінку вагі перамнож на адзінку плошчы.

Бо часам выратаванне – выратаванне, але, на жаль, не працяг.

*21 студзеня 2013*

* * *

“Ты не ведаеш – дрэнна, а ён не ведае – добра.
Адін напаткаў сцяжыну? З дружынай харобрай?
Скажы мне, дзе гэтак добра вучаць не ведаць,
Што застаецца адно – жаданне абедаць?
Пакуль ты не ведаеш – дрэнна, ідзі і паруш грыбніцу
Бледных паганак”, – гавораць кнігі з паліцы.

*2013*

* * *

Менавіта пайсці – не вярнуцца
(Нікуды вярнуцца нельга)
У сённяшні дзень – і ранак
Сабою не абмінуць.
Сустрэчы – няхай сустрэчы,
Расстанні – няхай расстанні,
Пацалункі – ну што ж, таксама
Часам патрэбная рэч.

Ды потым, калі збяруцца
Шпарчэйшыя за імгненні,
Выслізнуць са шкарлупін
Яшчэ непражытыя дні,
На брук пазачасавы ступіць
Нага; але ж не супыніць
Блуканне сваё балота.
Дрэвы кінулі якар.
Падпальваюцца смалякі,
Якімі абкладзена хата,
Самі; альбо – быць можа –
Ліхтарыкамі светлякоў.

*2010*

## ***бераг няіснага мора***

чорная хата паточаная жамярою
прыязджаюць калі ўнучка з мужам разам з дачкою
ля дрывотні дзядуля кладзецца спаць у старой прыбудове
цягне ад хаты провад уключае радыё і засынае ў схове
а з іншага боку дрывотні сталярка з яе начыннем
падлога – трава й каменне – засыпаная пілавіннем
і на цвіках пад столлю на скрутках дроту
ды ланцугу ад ровара час мае сабе работу
ранкам дзяўчо басанож навокал хаты кружляе
ловіць хрушчоў ля выспаў кратовых свой крок спыняе
кліча – бабуля! – знайшоўшы мядзведку ў кустах агрэсту
белая студня груша ў двары а ў небе статак пярэсты
чорная хата паточаная жамярою

яхта ля плота стаіць і чакае прыліву? прыбою?

*23 траўня 2013*

* * *

Сканер прасторы і сталкер –
Паняткі адрозныя, але падабенства
Блішчыць у вачах. Адлівае сінім
Валасоў чарната.
У адбітках губляецца тварнасць.
Аж да непамыснасці – знаеш –
табою адноўлены свет.

Што ж рабіць? Расстаўляць на дошцы фігуры?
Усё, чаго ты хацеў – адгарадзіцца й займець
Свет уласны. Цяпер, быццам цар,
Ты па спадчыне маеш падданых –
С л о в ы т в а е.

На падмурак іх ставіш,
                                        на вецер пускаеш ты іх.

Але – ад цябе незалежна –
Адцвілі на шпалерах кветкі, зацвілі ў полі.

Перанесці ў наваколле прагнеш,
Бо душа прарошчвала – жыццё.

*Лістапад 2012*

* * *

Пайду праведаю дамы
І дрэвы – як стаяць, растуць;
Праверу, як цячэ рака,
І, камертон дастаўшы, гук
Усім, хто мае крылы, дам.

...я знайшоў іржавую жалязяку
на няроўна абрэзаным пні
папрасіў у кельнера з бліжэйшай рэстарацыі
белую сурвэтку і загарну ў яе
патрэбную мне на сёння
гэтую рэч

Канфедэратку мне пашый,
О Восень, з лісця, – я прашу,
Каб скрыжавання прамінуў
Дарункі. Шчырасці яшчэ
Хоць каліва аддзеліш, Бог.

...на гэтым пні жалязякай адкрывалі
бутэлькі альбо проста адбівалі рыльца
пераліваючы напой з гарла
прама ў рот
без дотыку вуснаў
бутэлечны бой навокал асфальт піктаграмы
трэшчын

Пратуберанцавы агонь,
Смалу ў катле, – яна кіпіць;
Выпрабаванні, жыцці, – хто
Адчуў дарэшты вас, прыдбаў,
Адвечна стоячы ўбаку?

...сурвэтка адбіткі пальцаў маімі
застануцца толькі маімі
на нешта прыдасца рэч унутры яе
ды клейкая нованароджаная лісціна

што наліпла
на адпрасаваную калашыну пройдзе крыху са мной

*2012*

* * *

Будзеш хацець шукаць, –
Толькі каб не знайсці!
Будзеш хацець ступаць, –
Толькі каб не пайсці!

Вымерлыя арлы?
Снежнасць? Віхура? Бор?
Пілавінне? Палын?
Шклянка – і промні зор?

Дзэн асягае дзень.
Спаліш сухі памёт.
Цела сваё надзець? –
Хочаш саграэць палёт.

*1 снежня 2013*

* * *

Несувымернасць. Жаль. Адбітка – і няіснае рукі несупадзенне.
Адзенне шэрае, якое пакідалі мерцвякі, мы не краналі.
Цвяліла Невычэрпнасць нас, нібыта называла фонам,
фонам бляклым,
Каб промень чым ярчэй заззяў, нам бачным стаў.
А вузкае лязо тваёй далоні – умела быць і гэткім, і любым.
Бязмоўя плён вачам невідавочны. Зачыненыя ў пастцы скразняка,
Мы раздарожжа сцераглі, што згрэбла хціва нас аднойчы
ў жменю Часу.
А дбайнасць? клапатлівасць? – і апякаў, і грэў
нічыйны жар вуголляў тых.
Вачам невідавочны плён бязмоўя – толькі знакі, знакі толькі,
Рассыпанае рысавае зерне на падлозе склепа. Мышка знойдзе,
Знясе, быць можа, згубіць – у зямлю?
А наваколлю, што гатова надысці, і – узараць сябе руінаў плугам,
Я – прывітанне, як вітаюць нас: Несувымернасць, Жаль... і
Невычэрпнасць.

*21-22 лістапада 2013*

## *БЕЗНАЗОЎНАМУ ЦЕНЮ*

Дождж гасіць вогнішча, а вогнішча хоча гарэць, – так, што лішнія: і позірк, і той, хто глядзіць.

Не вымаўлю шоргату кроку.

Бібліятэчны тамбур; сцены – дзверы:
на вуліцу – і ўнутр.

Кнігі чытаюцца так, каб датыкалася фарба,
але не пэндзаль.

У цёмным двары – квадрат тратуарны. Смерць,
прысядзь на кукішкі, зірні, як гасне недапалак
чужы, міма якога прамазаў плявок.

Дождж – ён пагасіў агонь, але выбліснула
маланка.

*2013*

## УЗЫХОДЖАННЕ

Нешта ўнутры,
нібыта
адасобленая дарога,
а паабапал яе – ты;
змяняюцца поры года,
табою збіраецца й звозіцца на вазах
Штодзённасці і Святочнасці
н е к у д ы ўраджай.
А ты – старонні?

Камень – праверыць,
ці не чарвівы, –
хваля ўздымае на самы грэбень,
каб шпурлянуць у скалу.

Занадта ўжо крута цяпер; прастора –
адмоўны градус
горнага схіла.
Пакінь альпеншток;
надзея на моцныя пальцы,
на скрыначку крэйды за спінай.

Няўжо ты – старонні?
Бо льецца, крывавіцца словам:
“Штосьці павінна быць
таксама і мне...”

*27 сакавіка 2014*

* * *

На лінолеуме падлогі –
светлая пляма вакна.

Па ніжнім краі
няспынна
прабягае цёмная хвалька, –
гарачае паветра
в і д а ц ь.
Чаму
па ніжнім краі,
па-над рысай, праведзенай ценем,
чапляючыся
за святло?

*2 красавіка 2014*

* * *

Недзе знайду
тое, чаго
няма, –
і яно
будзе;
блізкае водгулле
вечназалёнага лісця;
перасцілае дотык
падлогу скуры
ад макаўкі – і да пят.
Не, я не
таямніца! – увесь адкрыты табе,
не ўяўную матрыцу –
існую рэчаіснасць
перабіраю вуснамі
крокам за крок,
пацалункам
за пацалунак.

*21 красавіка 2014*

* * *

Ізноў з табой карункавая пані.
Ад ранку і да вечара яна
Пазногцямі займаецца, прычоскі
Узводзіць вежу. Шараю гадзінай
Яе выводзіш на адвечны шпацыр...
На астравах сягоння халадно.

Бывае так: агністыя пачаткі
Запалымнеюць на чацвёрты ўздых.
Яна – от так сабе, без дай прычыны
Смяецца, мовіць: хлопчык-нерваед;
Без патасу, – не ўспамінайма сэрца.

Падыме голку, да грудзей прышпіліць
Суплёт лістоў: асіна, клён, бяроза;
Асілкам будзь, не выпусці з вачэй
Дарогу, шлях, – без вынятку, да кроку.
І ступакамі – разам, адпаведна:
Не абгані, паспей спазніцца з ёй.

*3 траўня 2014*

## НЯДОЎГІ СОН ШПАКОЎНЯЎ СПАРАХНЕЛЫХ

*1*

Быццам нешта ўзышло-прайшло,
Статак пасвіцца на руінах;
Быццам нешта павінна стаць
Малаком і гноем.

*2*

Цвіці з нябыту. Грэй рукамі прэнт,
А потым выцягні яго з вантроб уласных
І аджыві. Сусвету непагаснасць
Гучыць услых, – і страчвае акцэнт

Жыцця і Смерці, што не зналі Рэха.
У мерзлаце кайло шукае, свеціць ветах.

*2013-2014*

* * *

Ненадоўга прымусіла спыніцца спеў
голуба ад'едзеная галава.
А навокал яна, – і там, і праз дзесяць крокаў, –
Вузкасць іх, гэтых самых
шчылін, за якія чапляе рант
новых, тыдзень таму купленых чаравікаў.
Ля лаўкі знойдзены мною грэцкі арэх, –
яго падкідваў і дазваляў яму ўпасці
на тратуарную плітку з  малюнкам,
падобным да абрысу ляза
старадаўняй сякеры.
Арэх – сумневу няма – мясцовы: злева – бяроза,
справа – каштан.
Расколаты – восьмым разам, і я ашчадна
з'еў яго змесціва.
Цяперака вось
сяджу, чакаю на лаўцы,
як яно будзе далей, – з голубам, мною,
словамі спева.

*14 траўня 2014*

* * *

Свае прароцтвы мусіш
Толькі сам
Ты спраўджваць;
А значыць – успрымі
Лятункі ўсе, якія памяць не абтрэсла
З галін сваіх,
Як мэту: дзеяць.
Пара ўжо, досыць ка́зані казаць
Вадзіць каравым пальцам па цыраце
Стала чужога, госцем быць –
І блазнам.
А што́ цяпер пара? –
Ты знаеш, браце, сам.
.............................................................................
Вузельчык з соллю развяжы,
Выкочвай трэскай
З вуголля бульбіну, пакрытую, нібыта
Мэтэарыт, акалінай... Ламі,
Макай распараную ў соль;
Ды не засні, як той, мінулы раз, –
Дзесяцігоддзе потым легла кладкай
Над багнаю, дзе пахаваны дні.
.............................................................................
Ты знай: навокал, тут –
Т в а я з я м л я.
І рупіцца не трэба, каб займець
Вайсковай славы – і васковай свечкі
Хаця б як успамін...
Ты – здзейсні.

*15 траўня 2014*

* * *

Камусьці – гняздо, камусьці – кубло,
Але гэта адно толькі збоку відаць;
Маляты растуць на вылет.
Вільгаццю, плесняю тхне ў двары,
Хоць (альбо таму што)
Працінаецца аркай
Прастакутнік, пастаўлены старчма:
Гмах.
На бетоне сцяны ў пад’ездзе, там,
Дзе засведчаны пацалунак
Змрокам,
Кроплямі – кандэнсат.

Можна падняцца наверх,
Але потым, уніз – пралёты,

У якія цягне глядзець,
Нават калі табе
Абяцанае шчасце.

Той, хто здольны ўтрымаць
Кіпень жаданняў
Да неабходнага дня,
Проста – садоўнік і сад
Адначасова,
Атожылкі – і нажніцы.

А ты, якая спаткалася з гэткім,
Навошта хочаш між імі стаць?

*21-22 траўня 2014*

* * *

для народжаных неадменным лічылі закон:

процівагаю кастрычніцкай пазалоце
счарнелых лістоў
у воблачнай бутлі
неадкаркаваны снег

а ты –

свет ператвораны ў кавалак пароды
там у кароне кратара
дзе межы вугальнага брыкету
вызнаў агонь

разам з птушкаю-пешаходам
у месцы спецыяльна не абазначаным
для птушынага пераходу
каб спазнаць рэчы падчас іх з’яўлення
пераходзіш

нарэшце яно цяпер:
сапсаваныя моўныя фільтры
выводзяць з ужытку
радар варожы

чуеш? – табе гаварылі:
*трымай сваю пайку свабоды*

аспрэч

*2-6 чэрвеня 2014*

* * *

П’янкія вішні ў голлі –
Не паспелі
Іх на драбінах зняць
Бабуля й дзед;
Дзяўбуць шпакі іх.
Прэлаю саломай
Усланы дол наўкруг кустоў агрэсту,
Парэчак і малінаў.
Угнаенне, – і берагуцца гэтак карані
Ад замаразкаў
Напачатку траўня.
І з тых часоў ляжыць яна, салома,
Ажно і да цяпер.
Зварушвае дачушка,
Крычыць: о татка, глянь, каго тут ёсць!..
І мнаганожкі, і жукі, –
Усё цікава. Трава зялёная
выпроствае нажы
Ласкавых цел, – і трызніць
Так высока!..

*2014*

## СТАРАДАЎНІ МАТЫЎ

Калі чалавек у табе адмірае,
Матыль-адмірал
Уздымае свой сцяг над тваім паміраннем.
Нараджаецца новае, промнямі грае.
Не дае і не просіць парады.

Мы – пылок на руках, на нябеснай далоні.
Нашы лёсы – і дні, і здабыткі: ссівелыя скроні.
Уцякач – і глядач: ты стаміўся? згубіўся? адбыўся?
Ты запомніў мясціну адну, дзе ўволю напіўся.

З поўнай кайстраю сёння ты йдзеш па жабрачых дарогах.
Бо сваё ты забраў адусюль! – засталося нямнога:
Дзьмухавец ля пшаніцы, мяжа, што аддзелена сцежкай.
І – магіла на ўзмежку.

*15-16 чэрвеня 2014*



Людміла Рублеўская



...яны абое проста з тых заблукалых дзяцей
гэтай зямлі, якія не ведаюць, хто яны,
і вераць тым, каму не варта...

# Дагератып

***Дэкадансны раман***

*Заканчэнне. Пачатак у №3 (70).*

### Раздзел шосты. Ваўкалак і ягоны доктар

Прыстойная паненка ў Вялікім Княстве Літоўскім, нават калі яна дачка магната, павінна была ўмець спячы свянцоную бабку. Сама, уласнымі рукамі замясіць цеста, паставіць у печ. І пасля госці, пакаштаваўшы прысмакаў, дружна захапляліся: добрая гаспадыня атрымаецца! Сармацкіх звычаяў пільнуецца дзяўчына, значыць, можна сватоў засылаць.

У Швецыі ў тых жа мэтах паненка мусіць умець прыгатаваць дэсерт “Прынцэса”, шматслойны, з тварожным начыннем і абавязкова з зялёнай міндальнай глазурай.

Багуслава навучылася запякаць у гліне мяса трапна падбітай каменем качкі, смажыць дзічыну на прутках і, калі што, некалькі дзён абыходзіцца без ежы.

На гэтым яе кулінарныя здольнасці, што наўрад уразілі б нават самага непатрабавальнага шляхціча, заканчваліся.

І што? Яна не з тых, каму дораць лілеі, плятуць флердаранжавыя вяночкі і чакаюць ля алтара з належным хваляваннем.

А булкі Манькі-Мінервы ўсё роўна пераўзысці нельга. Варта толькі запарыць да іх гарбаты. Агонь Багута магла здабыць нават з пяску, імбрык на графскай запыленай, запавуціненай кухні адшукаўся...

Апрытомнеў Каганецкі якраз тады, калі Багуслава зайшла ў пакой з двума кубкамі гарачай гарбаты ў руках. Паколькі трэцяй рукі ў госці не мелася, прытрымаць дзверы не ўдалося, і яны зачыніліся за спінай з задаволеным і падступным грукатам...

Каганецкі падхапіўся і сеў на ложку, напяты, як напалоханы звер. Вочы, якія зрабіліся ўжо нармальнага шэрага колеру, абшнарвалі пакой, нібыта шукаючы шлях да ўцёкаў, пальцы камечылі коўдру, русявыя валасы рассыпаліся па плячах, як быццам імі нядаўна падмяталі падлогу.

– Не раю выскокваць у вакно, рамы наўрад праломіце, – ветліва прагаварыла Багута, паставіўшы кубкі на трумо, што какетліва прысела на выгнутых ножках. Ніхель, які сядзеў на канапе, як звычайна зашпілены на ўсе гузікі, і ўважліва прагортваў сшытак Масевіча, кінуў праз акуляры востры позірк на графа:

– Добрай раніцы, ваша светласць. Галава не баліць? У вачах шымпанзэ не скачуць, у барабаны не б’юць? Павіяны сонцу не моляцца пасярод пакоя?

Каганецкі як не чуў насмешак, а ўзяўся нервова і пільна разглядаць уласныя рукі, быццам думаў убачыць на іх, як ледзі Макбет, чыюсьці бязвінную кроў.

З рук крывавыя дарожкі не крапалі, пад пазногцямі не застралі шматкі чужой скуры, таму на смуглявым аблíччы адбілася палёгка.

– Дзе вы мяне знайшлі? – глуха спытаў, не падымаючы вачэй, заолаг, нібыта баяўся пачуць адказ.

– Там, куды вы сябе засадзілі, – спакойна адказаў Ніхель, адклаў сшытак і падняўся, як настаўнік перад вучнем, што не вывучыў урок. – І вельмі хачу пачуць адказ, чаму адукаваны чалавек гэтак шчыра лічыць сябе пачварай з народных казак? Вы Праспэра Мерымэ начыталіся? Ёсць у яго апавед “Локіс”, у якім такі ж граф, як вы, толькі больш дагледжаны, ператвараецца ў мядзведзя і задзірае каханую нявесту. Эпілепсія і наркатычнае ап’яненне такога эфекту, мушу вас расчараваць, не дадуць.

– Гэта не падстава для насмешак...– глуха прамовіў граф, выціраючы дрыжачай рукой лоб. – Гэта малавывучаная хвароба, якая робіць мяне вельмі небяспечным. Панна Багуслава, выйдзіце...

Апошнія словы Каганецкі прагаварыў такім здушаным тонам, што Багута здагадалася абсалютова правільна і хуценька падсунула бліжэй да графа, які схіліўся з ложка, парцалянавую начную вазу – ваўкалака ванітавала. Прычым ён так энергічна махаў рукой у бок фатографкі, што тая чыста ад шкадобы сапраўды палічыла за лепшае выйсці і даць чалавеку паразмаўляць пра высокае з фаянсавым сябрам.

Калі праз нейкі час Багуслава вярнулася, вакно было – неверагодна – але расчыненае, павута, што назапасілася між рамамі, звісала неахайнымі махрамі, у пакоі гарэзаваў восеньскі вецер, а Каганецкі, трохі зеленаватага колеру, сядзеў, намагаючыся трымаць спіну прама.

– Пан Ніхель распавёў мне, што вас змусіла вярнуцца, кранальны апавед пра разбітыя негатывы, – прагаварыў ён да фатографкі здушаным

голасам, у якім, аднак, чуўся гнеў. – І мушу прызнацца, не лічу гэта вартым апраўданнем.

– Баіцеся, што ператворыцеся ў звера на нашых вачах? – насмешна прамовіла Багуслава, хаваючы за іроніяй няёмкасць.

– Любыя страшныя паданні маюць у аснове нешта цалкам рэальнае, – трохі хрыпата заявіў Каганецкі. – Думаеце, вурдалакі – гэта казкі? Але ёсць рэдкая хвароба парфірыя, пры якой парушаецца склад крыві. Скура робіцца бледнай, пасля – цямнее, не выносіць сонечнага святла, ад якога пакрываецца пухірамі і трэскаецца. Пашкоджваюцца храшчы – а значыць, пачварна змяняюць форму нос, вушы, пальцы. На зубах з'яўляецца брунатны налёт, дзёсны робяцца сухімі і жорсткімі, ад чаго здаецца, што павялічваюцца зубы, асабліва калі агаляюцца разцы. Арганізм не ўспрымае часнаку з-за сульфонавай кіслаты, якая там утрымліваецца. А калі хворы парфірыяй памірае, праз нейкі час змены, выкліканыя хваробай, праходзяць, і тады можа ўсчацца вэрхал: нябожчык выглядае лепей, чым пры жыцці! Зубы пабялелі! Значыць, альбо галаву яму адсячы, альбо асінавы кол у грудзі, каб не смактаў па начах кроў.

У акулярах Ніхеля люстравалася постаць пазелянелага Каганецкага.

– І ў чым праяўляецца ваша хвароба?

– Я забіваю людзей, – глуха прамовіў граф і прыўзняўся. – Выбачайце, але мне трэба на другі паверх, у свой пакой.

Дапамогі ён не прыняў, ішоў, гайдаючыся, сам, але і загадваць гасцям, каб не сунуліся за ім, не стаў. Або разумеючы, што зваліцца можа ў любы момант, або проста мала што кеміў у хворым тумане, ці сіл не было сварыцца.

Гаспадарскі пакой не вызначаўся ні асаблівай раскошай, ні велічынёй. Вузкі ложак з драўлянай спінкай, засланы бела-карычневым пледам, пісьмовы стол з двума стаўбуркамі, які мог бы стаяць у кабінеце сярэдняй рукі чыноўніка, ды кніжная шафа, што не змяшчала ўсіх сваіх багаццяў. Кнігі грувасціліся на яе версе, былі запхнутыя паўзверх таварышак, якім пашанцавала заняць месца на паліцах. Хіба што на камодзе, як адносная прыкмета раскошы, стаяў адмысловы бронзавы гадзіннік з надпісам "Tempus fugit", "час бяжыць". Гадзіннік быў зроблены ў выглядзе паравоза "ў анфас", перад ім атлет з паголенай галавой, трымаючыся за цяжкія кольцы, спрабаваў спыніць наступ бязлітаснай машыны. Справа атлета, вядома, была ад пачатку безнадзейная. Побач, на пульхным альбоме для фотакартак, як на п'едэстале, святлеў партрэт у белай авальнай рамачцы: вельмі прыгожая дзяўчына, падобная да гераінь моднага мастака Вільгельма Катарбінскага, спевака Смерці, млява нахіліла твар, яе цёмныя вочы-вішні здаваліся такімі даверлівымі, сумнымі, але адчувалася, што маленькія вусны любяць усміхацца...

Багуслава заўважыла, што партрэт быў першым, на што паглядзеў граф, калі зайшоў у пакой. Гэта яшчэ больш прыгнятала, бо са сваёй цяперашняй госцяй Каганецкі нібыта назнарок намагаўся не сустрэцца позіркам.

А вось закратаванае вакно спрыяла змрочным развагам.

Заолаг, хістаючыся, як марак на палубе ў шторм, падыйшоў да камоды, дастаў з шуфлядкі знаёмую бутэлечку з цёмнага шкла, адкаркаваў, паднёс да вуснаў...

Ніхель нездарма па-ранейшаму лічыўся лепшым баевіком партыі. Праўда, і Каганецкі цяпер быў зусім саслабелы, хоць і бадзёрыўся. Праз пару

секундаў ён аказаўся не па сваёй волі ўсаджаны ў фатэль, а бутэлечка паблісквала ў руках фатографа.

– Зараз жа аддайце!

Граф ускочыў, але Ніхель толькі дакорліва паматаў галавой і мякка штурхнуў хворага на месца:

– Не варта нервавацца, дарагі пан Шымон, усё роўна вы зараз не баец.

– Маіх сіл яшчэ хопіць, каб зладзіць з вамі!

Кулакі графа сціснуліся, ён падабраўся, нібыта каб скочыць – што ж, нават паранены тыгр небяспечны, калі яго дражніць. Багуслава ціха прагаварыла:

– Калі ласка, супакойцеся. Мы прыехалі не для таго, каб вам нашкодзіць.

Граф кінуў на госцю незразумелы позірк і зноў утаропіўся ў Ніхеля:

– Забіраць мае лекі – гэта не шкода?

– Вы хоць ведаеце, наколькі яны атрутныя? – сур’ёзна папытаўся фатограф.

– Ведаю. І змірыўся з пабочнымі эфектамі. Пранцы таксама лечаць атрутным мыш’яком, а гангрэну ўвогуле – агнём і пілой.

Каганецкі перавёў позірк на падлогу, нібыта на гэтым пашарпаным паркеце былі вымаляваныя сакрэтныя руны, і глуха паўтарыў:

– Аддайце.

– Добра, я вярну вам вашу атруту, хаця каб я ноччу не зрабіў вам укол атрапіну – вы б не прачнуліся... Але вярну, калі вы дакажаце, што яно таго вартае.

– Вартае? – хрыпла закрычаў Каганецкі і ўскінуўся, як апошні абаронца крэпасці, які не жадае, каб вораг здагадаўся, што сцены засталіся без вояў. – Хочаце пераканацца?

І нечакана бесцырымонна ссунуў з ложка плед, падушкі, коўдру, агаліўшы драўляную спінку, пакрытую цёмна-бурштынавым лакам.

Багуслава з непаразуменнем і міжвольным жахам заўважыла на паверхні выразныя драпіны, па некалькі паралельна, быццам тачыў кіпці вялікі звер. Прыгледзеўшыся ўважліва, дзяўчына пабачыла, што такія драпіны ёсць на ўсіх драўляных дэталях.

– Стары ложак увогуле давялося выкінуць, – змрочна заявіў Каганецкі.

Ніхель пакратаў драпіны ў дрэве.

– І вы хочаце нас упэўніць, што гэта – вашых рук... пардон, пазногцяў справа?

Каганецкі зноў глядзеў у падлогу, плечы былі апушчаныя, як у Атласа, тытана, якому ўзвалілі на спіну звод нябёсны.

– Паверце, я хацеў бы знайсці любое іншае тлумачэнне. Але, калі прачынаўся пасля прыступаў, было... вось такое. Шчасце яшчэ – апошнім часам толькі раз на год, блізу таго дня, калі загінула мая маці. Пані Антаніна прызнавалася, што такімі начыма да мяне баяліся заходзіць. Я... выў, усё крышыў, часам выскокваў праз акно – пакуль не паставілі краты. Я не ведаю, што рабілася ў такія моманты з маёй косцевай сістэмай, з сілай цягліцаў. Бо не памятаю. Затое памятаю, як прачынаюся – а ў маім роце смак крыві. Чужой. Быццам я грыз свежае мяса. І на руках кроў, пад пазногцямі... Скрываўленае птушынае пер’е на падушцы, ці звярыная

поўсць... Страшней за ўсё, праўда, калі пер'яў і поўсці не было, толькі кроў. Гэта сведчыла, што я мог напасці на...

– На чалавека, – працягнуў Ніхель. – Вельмі цікавая гісторыя. І калі пачаліся вашы прыступы?

– Пасля выпадку ў царкве, пра які я распавядаў вашай дачцы. Калі выскачыў праз вітраж пасярод службы. Да гэтага была проста эпілепсія.

Граф стамлёна ўсеўся і счапіў рукі, сціснуў так, што збялелі костачкі.

– Удакладню: пасля таго, як ваш бацька ажаніўся, і вы пачалі прымаць лекі, падрыхтаваныя братам вашай мачыхі? – роўным тонам прагаварыў Ніхель, які ўсеўся ў крэсла насупраць.

Каганецкі адказаў злосным позіркам:

– Разумею, на што вы намякаеце. Што сваяк мяне труціць. Але ягоная мікстура вылечыла мяне ад эпілепсіі, і замест таго, каб гібець тут, усімі пагарджаным вар'ятам, я змог скончыць універсітэт, аб'ехаць увесь свет, заручыцца з цудоўнай дзяўчынай. Вы думаеце, я не спрабаваў ратавацца? Я заняўся біялогіяй, каб зразумець, што са мной адбываецца. Звяртаўся да святароў і наведваў святыні. Крыж спакойна цалую, ад прычасця мяне не курчыць. Хадзіў да дактароў – усе, як адзін, казалі, што я здаровы, як навабранец у гусары. Толькі раз на год прыязджаю сюды, каб перачакаць некалькі дзён прыступу і не прынесці шкоды.

– І для гэтага зрабілі клетку ў сутарэннях, – сцвердзіла Багута, ледзь стрымліваючы гнеў. – Чыя была ідэя?

– Пана Людвіга, – спакойна прамовіў Каганецкі. – І лепей я буду сядзець у клетцы ці на ланцугу, чым... Я шмат думаў пра містычны бок гэтай справы. Згадзіцеся, майго дзеда і бацьку, гледзячы на іх калекцыю, цяжка назваць нармальнымі. Любы святар сказаў бы – прадалі душу д'яблу. Магчыма, іх грахі адбіліся на мне. Я б даўно... скончыў з гэтым, калі б не верыў, што ўтвару яшчэ большы, недаравальны, грэх. Я – пакаранне сваёй радзімы, панове. Але не смею несці ў іншае месца свой праклён. Гэтак пракажоны вяртаецца да маці, і тая яго не праганяе. Да таго ж, гэты дом, напоўнены злом, самае месца для пачвары.

На вакне паблісквала кволае павуцінне, і малы шэры павучок з усяе моцы намагаўся зрабіць сваё сіло больш смертаносным. Што ж, для якой-небудзь мошкі ён і сапраўды быў неадольнай бязлітаснай пачварай. Вось толькі хутка дом, пакінуты гаспадарамі, выстыне так, што і павучок, і ягоныя патэнцыйныя ахвяры стануць нічым, як сурокі і праклёны даўніх гадоў.

– Вы казалі пра забойствы... Вы дакладна ведаеце, што кагосьці забілі? – Ніхель быў настойлівы, як імператарскі следчы. Пан Шымон падняў на яго памутнелыя ад пакуты вочы.

– Я нікому пра гэта не расказваў... Мой бацька памёр, сказалі, ад хваробы сэрца. Пані Антаніна прывяла мяне ў пакой, дзе стаяла труна, і пакінула сам-насам з нябожчыкам, каб я мог развітацца без сведкаў. І я заўважыў пад кепска зашпіленым каўнерам бацькі глыбокія крывавыя драпіны ад кіпцюроў. Мачыха на мае пытанні адказвала так ухіліста, пазірала на мяне з такім жахам...

– ...што вы зрабілі "правільныя" высновы, – сярдзіта працягнула Багута.

– Зрабіў, – памаўчаўшы, прамовіў Каганецкі. – А што б вы на маім месцы падумалі? А аднойчы, праз гады, хлопчык з суседняй вёскі,

рудзенькі такі кірпаносы смаркач, пачаў кідацца ў мяне шышкамі і крычаць: “Пераварацень!” І я даўмеўся, дарослы дурань: жартам пагразіўся, маўляў, калі я пераварацень, дык хай цяпер баіцца, што я яго загрызу. А хлопчык спалохаўся, расплакаўся і ўцёк. Думаю, паскардзіўся бацькам. Пані Антаніна тады вельмі на мяне сварылася – навошта самому падкідваць ежу пляткарам? Потым настаў страшны для мяне час. Я прачнуўся ўвесь у крыві. Чужой, зразумела, крыві. Памятаю вочы прыслугі, якая гэта ўбачыла. А потым мне расказалі, што хлопчык, які пакрыўдзіў мяне, знік. Нібыта пайшоў у лес па арэхі, адстаў ад сябрукоў... Гэта бацька таго хлопчыка пільнуе мяне з ружжом са срэбнымі кулямі, пакляўся забіць. Дарэчы, усе пра гэта ведаюць.

Голас графа гучаў стамлёна, як бы ён расказваў пра нудныя будзённыя справы. Багуслава злавіла скептычны позірк Ніхеля.

– Чаму вы думаеце, што датычныя да знікнення дзіцяці?

– Зразумела, дакладна не ведаю, бо нічога не памятаю, – раздражнёна адказаў Каганецкі. – Бог літасцівы да мяне хаця б тым, што дае забыццё.

– А ваша нявеста здагадваецца пра гэты... данс макабрэ? – Багуслава пастаралася, каб у пытанні не прагучала ценю асабістай зацікаўленасці. Граф кінуў хуткі позірк на партрэт на камодзе.

– Вы можаце ўявіць сабе маладога чалавека, які расказвае паэтычнай дзяўчыне, у якую закаханы, што раз на год можа з’есці жыўцом зайца альбо прыпозненага мінака? Калі мы пазнаёміліся, гэта быў самы шчаслівы для мяне час. Я вучыўся ва ўніверсітэце, не адчуваў ніякіх сімптомаў хваробы, нават прапусціў візіт сюды – быў у вельмі цікавай экспедыцыі, і – нічога, абышлося. Сустрэў Кацярыну, якая прыехала з бацькамі ў Вену з Расіі... Яна адказала на мае пачуцці, нягледзячы на маё калецтва. Я напісаў радасную навіну мачысе. Пані Антаніна параіла ўсё-ткі прыехаць у небяспечны дзень у Жухавічы. Прыехаў, але, шчаслівы тым, што пазбавіўся праклёну, нават лекі не піў – і тут здарылася гісторыя з хлопчыкам. Вядома, я не стаў рызыкаваць жыццём каханай і паўтараць сюжэт Праспэра Мэрымэ. Яна выйшла замуж за іншага дзесяць год таму.

Сорамна, але Багуслава адчула пры гэтай звестцы палёгку.

– І цяпер вы добраахвотна з’яўляецеся сюды штогод і, напіўшыся атруты, па некалькі дзён праседжваеце ў клетцы? – ветліва папытаўся Ніхель.

– Так. Пан Людвіг прыглядае за мной.

Ніхель пабоўтаў перад вачыма вадкасць у бутэлечцы.

– А добрая штука... Яшчэ і языкі развязвае.

І пільна паглядзеў на графа, як зыгаршчык на сапсаваны гадзіннік, перш чым назваць кліенту цану за рамонт.

– Я правільна разумею, што вы згодныя на ўсё, каб вырашыць сваю... ікластую праблему?

– Вы сумняецеся? – халодна прагаварыў Каганецкі і абцёр рукой лоб. – А цяпер дайце лекі...

– Не раней, чым перагавару з вашым доктарам, – упэўнена заявіў Ніхель і ўзняўся. – Вы ўжо абавязаныя нам жыццём, пан Шымон. Калі я дапамагу вам ацаліцца... раз і назаўсёды, вы можаце паабяцаць, што выканаеце маю просьбу?

Заолаг кінуў на Ніхеля іранічны позірк:

– Вы не толькі фатограф, але і экзарцыст-аматар?

Але, памаўчаўшы, глуха адказаў:

– Гэта падобна да казкі, у якой невылечна хворы дае падобнае абяцанне самазванаму лекару. Але мы не ў казцы. Тэарэтычна – так, магу паабяцаць. Просьбу выканаю. Калі гэта не будзе заказ на забойства ці кашчунства. Я, як вы правільна зразумелі, даведзены да той ступені адчаю, што каб перада мной стаяла непісьменная жабрачка альбо юрад з цвінтара і дэкляравалі мяне вылечыць, паабяцаў бы тое самае. Але маё ацаленне застаецца тэорыяй, спадарства.

– Толькі і ў мяне ўмова! – заявіў Варакса. – Вы не станеце ўмешвацца ў маю размову з панам Людвігам, не раскажаце пра тое, што мы знайшлі вас у клетцы і пасвечаныя ў таямніцу вашай хваробы, і не будзеце прымаць ніякіх лекаў з рук доктара да сканчэння нашай з ім гутаркі.

– Усе вашы падазрэнні дарэмныя, шаноўны Пінкертан, – стамлёна прамовіў Каганецкі. – Доктар Людвіг – чалавек з бездакорнай рэпутацыяй, дабіўся ўсяго ў жыцці сам. Думаеце, ён стаў бы рыхтаваць лекі, экспертыза якіх скасавала б яго кар'еру? Не думаю. А цяпер дазвольце мне пабыць аднаму...

Ніхель рашуча ўзяў Багуславу пад локаць і вывеў з пакоя.

– Ну, дарагая, давай працаваць. Тут, вядома, мала што пазаставалася – але трэба заказ выканаць, каб студэнты адчапіліся. А ваўкалаку нашаму варта адаспацца.

Але важдацца з фотаапаратам Ніхель пакінуў Багуту. А сам узяўся за даследванне змесціва забранай у графа бутэлечкі. Разліў вохкую празрыстую вадкасць па шклянках, нешта даліваў, змешваў... Не дарэмна ў іх асяродку жартавалі, што Ніхель можа зрабіць бомбу нават з аўсянай кашы і рондаля.

Чаму ж насамрэч у гісторыі пана Шымона можна верыць? Багута памятала, як адна пансіянерка, кволенькая ціхмяная дзяўчынка з падслепаватымі вачыма, якія вечна слязіліся, трапіла ў карцэр за нюханне эфіру – распаўсюджаная звычка ў пансіянерак, толькі ніхто больш не папаўся, акрамя гэтай недарэкі. Якая да таго ж не выносіла цемры і замкнутых памяшканняў. У карцэры з ёй надарылася нервовая гарачка. Дзяўчынка крычала страшна, не сваім голасам, і кідалася ў бакі з такой сілай, што яе не маглі стрымаць некалькі дарослых выхавацелек. Усе шапталіся пра бесаў і апантанне... Але, звязаная ручнікамі і напоеная святой вадой, небарака проста заснула, а пасля не памятала нічога. Толькі вырваная з дзвярэй ручка нагадвала пра здарэнне.

Дык чаму ў юнака не магла падчас нервовага прыступу гэтак жа ненатуральна, па жывёльнаму, павялічыцца сіла?

Багуслава адлюстравала на бромжэлацінавай пласцінцы стод з галавой каня. Праўда, пра тое, што гэты абрубак дрэва – галава каня, фатографка нізавошта б не здагадалася, каб не колішнія тлумачэнні этнографа ды археолага. Радасць будзе Калоцкаму... А больш мала чым можна было парадаваць. Дробныя экспанаты разам з прывязаным да іх старажытным злом знайшлі сваю вогненную смерць, нібы граф старанна працягваў традыцыі мясцовых шмальцоўшчыкаў, вось каб яшчэ патрапіў наладаваць попелам бочкі. Шафа, дзе захоўвалася зачараванае адзенне, стаяла пустая, як труна вурдалака, які выйшаў на паляванне. Згарэлі чарадзейныя кнігі і шаманская вопратка, лялькі ў скрынцы і калядныя маскі. Засталіся егіпецкі камень ды паламаны саркафаг, але якім чынам могуць яны паспрыяць захаванню гісторыі края – невядома.

Што ж, няхай студэнты-шантажысты падзякуюць і за тое. Будуць яшчэ і каменныя стоды зазнятыя, што стаяць ля прысадаў. Незразумела, якім чынам іх збіраюцца знішчыць – але Багуслава падазравала, страх і нянавісць мясцовых жыхароў дасягнулі такой мяжы, што калі гаспадар штосьці і пакіне цэлым, знойдуць спосаб даламаць. У дрыгву завалакуць, урэшце. Тутэйшая дрыгва чаго толькі не прымала... Кажуць, цэлыя палацы ў яе нетрах хаваюцца.

Таму першай новага госця якраз і сустрэла фатографка, якая здымала прытулены пад бярозай, як пачварна павялічаны грыб, чырванаваты камень з высечанымі ў ім вачыма і ротам-шчылінай. Другі камень, пляскаты, быў пакладзены на яго ў якасці “капелюша”.

Госць пад’ехаў на двуколцы, запрэжанай сытай рудой кабылай. І нічогенька ў ім не нагадвала ні Яга, ні Макбета. Звычайны такі інтэлігентны сівы дзядзечка ў капелюшы з мяккімі брыламі, з чорнай жалобнай стужкай на рукаве, з абвіслымі вусамі на мяккім твары з носам-бульбінай.

Дзядзечка з цяжкасцю вылез з экіпажа, дастаў з кішэні вялікі ключ і звыкла адамкнуў замок на браме. Цяпер ясна, чаму Каганецкі нідзе не скарыстаў засовы – чакаў візіту. Госць заехаў на двор і... Відовішча кабеты с фотаапаратам, якая спакойна працягвала займацца сваёй таямнічай справай, змусіла прыезджага ледзь не перажагнуцца, як пры з’яўленні прывіда.

– Што... што пані тут робіць? Гэта прыватная ўласнасць!

Багута акуратна падкруціла колца на апараце да патрэбнага ўзроўню і толькі тады павярнулася да госця.

– Са згоды пана Шымона Каганецкага ў маёнтку працуе этнаграфічная экспедыцыя. З кім маю гонар размаўляць?

Дзядзечка быў не просты і не баязлівы, але не адразу змог схаваць сваю разгубленасць і незадаволенасць.

– Я брат нядаўна памерлай мачыхі пана Каганецкага, доктар Людвік Боўнар. І я вельмі здзіўлены, што сваяк, які да таго ж і мой пацыент, прымае гасцей. Яго здароўе апошнім часам пагоршылася.

– А мы нічога падобнага не заўважылі, – як мага больш шырока ўсміхнулася Багуслава. – Падаецца, пан Шымон цалкам здаровы.

Як фатографка і разлічвала, гэтая заява зусім збіла пана доктара з тропу. Ён нават на нейкі час страціў мову. Але нездарма доўгія гады меў справу з вар’ятамі, таму, звыклы да выкрунтасаў чужой логікі, адперхаўся ды асцярожна папытаўся:

– Ці дазволена мне будзе даведацца, літасцівая пані, калі вы апошні раз бачылі пана Каганецкага, і дзе менавіта?

Гаворыць – як масла мажа, а ў вачах трывога, быццам у касіра ў час раптоўнай рэвізіі. Ясна, пан быў упэўнены, што сваяк наглытаўся мікстуры ягонага прыгатавання і ціха загінаецца ў клетцы ў сутарэннях. Не будзем спадара расчароўваць. Ці будзем? Багута зноў узялася наладжваць фотаапарат і знарочыста няўважна адказала:

– Ды пару гадзін таму мы ўсе каву пілі ў гасцёўні.

Доктар зноў заперхаўся... Ад такіх нечаканых заяваў у яго, глядзіш, і сухоты ўваб’юцца.

– Яшчэ раз прашу прабачэння, літасцівая пані, а ці многа вас у экспедыцыі? Пану Шымону шкодзіць тлумная кампанія, да таго ж у доме жалоба.

А гэта ўжо называецца рэкагнасцыроўка. Колькі ворагаў, дзе, што за яны...

– Ды мы яму не перашкаджаем, – ветліва адказала фатографка, цяпер пільна вывучаючы каменны стод з ротам-шчылінай, быццам менавіта гэты пачварны камень быў паважаным госцем, а той, што сядзеў у таратайцы – каменным бескарысным балванам. – Займаемся кожны сваёй справай, служым вялікай навуцы. – Багута падпусціла ў голас пафасу – калі гаворыш такім тонам, абавязкова трэба закаціць вочы ўверх. А цяпер пасентыментальней. – Пан Шымон, сам навуковец, вельмі гасцінны і мілы гаспадар, мы так удзячныя яму за дапамогу. Выбачайце, пан Людвіг, у нас яшчэ шмат спраў.

Вызначэнні "гасцінны і мілы" да пана Шымона на фоне Жухавіч гучалі дзіка.

Багуслава зноў узялася за маніпуляцыі з фотаапаратам, усім сваім выглядам намякаючы: а ехаў бы ты, дзядзька...

І той тузануў лейцы. Нават слова на развітанне не сказаў, небарака.

І зараз аб'явіцца ў доме раптоўна, як восеньскія грымоты.

А вось гэта кепска... Трэба тэрмінова папярэдзіць Ніхеля, каб госць не заспеў яго за хімічнымі доследамі. Багуслава не доўга думала, улюбёны пісталецік сам сабой слізнуў у руку.

Ад стрэлу ўсхадзіліся вароны, як гандляркі на Ніжнім рынку. Рудая кабылка, відавочна не прывучаная да баявых умоваў, ледзь не перакуліла таратайку і, замест таго, каб паперці да дома, пачала кідацца ўбакі. Доктар, з усяе моцы нацягваючы лейцы, ашалела азірнуўся. Багуслава шырока ўсміхнулася і няспешна сунула пісталет за пояс:

– Выбачайце, але надта ж вароны псавалі кадр. Мастацтва і вялікая навука вымагаюць ахвяраў!

Пан Людвіг праявіў годную для доктара па нервовых хваробах вытрымку, здушыў словы, што рваліся з ягоных вуснаў, і нарэшце змусіў спалоханую кабылу везці яго да дома з гербам з ваўчынай пысай.

Фатографка, аднак, зараз жа страціла цікавасць да несапсаванага варонамі кадра і хуценька пачала спакоўваць маёмасць фотаатэлье "Ніхель і К°".

Вядома, джэнтльмен не павінен быў бы дазволіць кволай дзяўчыне цягнуць на плячы цяжкі апарат з трыногай.

Але джэнтльменаў каля дома не назіралася, драўляны бог Хорс мог толькі па галаве, паваліўшыся, стукнуць, а Багуслава ніколі не лічыла сябе кволай. Неяк не да таго ўсё жыццё было. Таму і данесла ўсё да будынка сама, ды яшчэ подбегам.

І якраз патрапіла на душэўную бяседу між Ніхелем і панам Боўнарам, які трымаў у руках абавязковую доктарскую прыналежнасць – скураны саквояж. Фатограф і доктар паспелі адзін аднаму прадставіцца і займаліся слоўнай эквілібрыстыкай, прычым Боўнар увесь час касавурыўся ў той бок калідора, дзе знаходзіўся ўваход у сутарэнні. Відаць, карцела пераканацца, што там няма сваяка.

Багута акуратна паклала фотаапарат на стаўбурок, прыхінула да сцяны падстаўку.

– А вось і мая дачушка, Багуслава! – радасна заявіў Ніхель, ні на драбніцу не выклікаўшы радасці ў адказ ад субяседніка.

– Мы ўжо знаёмыя з паненкай, – пакланіўся трохі сухавата пан Людвіг, пад капелюшом якога хавалася палыселая макаўка. – Прыемна бачыць,

як жанчыны асвойваюць здабыткі прагрэсу. Думаю, фатаграфія можа добра паслужыць медыцыне. Напрыклад, дазволіць зафіксаваць міміку хворых, калі...

Доктар перарваў прамову пра бліскучыя перспектывы шлюбу медыцыны і фатаграфіі, таму што з другога паверха па лесвіцы з дужа рыпучымі прыступкамі спускаўся гаспадар уласнай графскай персонай. У ясным пане Шымоне Каганецкім нічога не нагадвала ні змучанага патэнцыйнага ваўкалака, які валяўся на каменнай падлозе сутарэння, ні спрытнага воя, які лёгка ўхіляўся ад стылету шалёнай фатографкі ля каміна “шаманскай залы”, ні змрочнага тыпа, падобнага да лясніка, які сустрэў этнаграфічную экспедыцыю ў Жухаве... Чорны жалобны касцюм зашпілены на ўсе гузікі, беллю першаснегу ззяюць каўнер і манжэты кашулі, шаўковы гальштук колеру восеньскай ночы завязаны на дасканала цвёрды вузел. Русявыя валасы акуратна зачасаныя, рукі арыстакратычнай формы, але зусім не кволыя, не спешчаныя, лёгка кратаюць парэнчы... Каб не загар ды не перабіты нос – зусім быў бы рафінаваны гжэчны пан. Вось цяпер верылася і ў ягонае прафесарства.

Да задавальнення Багуславы, пан Людвіг не кінуўся да сваяка з абдоймамі, пацалункамі і шчаслівым мармытаннем наконт незямнога шчасця бачыць. Гаспадар і госць пацiснулі адзін аднаму рукі цалкам па-сяброўску, але дастаткова стрымана.

– Рады, што ты добра сябе адчуваеш, Шымон, але лячэннем пагарджаць з твайго боку – недаравальна.

– Я памятаю, – адрывіста сказаў Каганецкі, апускаючы шэрыя вочы.

– І я ў чарговы раз прапаную: кладзіся ў маю бальніцу... Дарэчы, твой персанальны дон Радрыга, той няшчасны вар’ят з ружжом, які ў цябе страляе, зноў сядзіць у палаце для шаленцаў, напоены бромам, і я вельмі шкадую, што паслухаўся цябе мінулы раз і выпусціў яго. Але давай пагаворым сам-насам, пайшлі наверх, я цябе агледжу...

Боўнар гаварыў так, як павінен гаварыць доктар: уладна-даверліва. Ну як такому адмовіць... Багуслава разгублена паглядзела на Вараксу: няўжо нельга не дапусціць, каб добры доктар, якому яна давярала не больш, чым гаспадыня ювелірнай крамы – сарокам, застаўся сам-насам з гаспадаром?

Але Ніхель толькі тузануў куточкам рота, маўляў, хай сабе.

– А пасля мы ўсе вып’ем гарбаты! – радасна прагаварыў Варакса. – Не так часта ўдаецца пасядзець у інтэлігентнай, навуковай кампаніі, каб абмеркаваць апошнія навіны прагрэсу!

Каганецкі кінуў на фатографа змрочны позірк і моўчкі пайшоў наверх са сваяком.

А калі праз нейкі час лесвіца сумленна зарыпела, папярэджваючы, што па ёй спускаюцца, Ніхель спрытна перакуліў над адным з расстаўленых на стале парцалянавых кубкаў, упрыгожаных намаляванымі пазалочанымі кветкавымі гірляндамі, бутэлечку з цёмна-бурштынавага шкла.

Сталоўня цяпер больш нагадвала сваё першапачатковае прызначэнне, пазбавіўшыся практычна ад усіх змрочных экспанатаў. Нават драўляныя стоды пасля фатаграфавання былі вынесеныя з дома дзеля не вельмі ўрачыстага аўтадафэ. Толькі бронзавы гонг маўчаў сабе, так і спакушаючы хоць лёгенька стукнуць у ягоныя шырокія грудзі і абудзіць нетутэйшыя гукі нябёсных гор. Граф змрочна пацягваў гарбату, у якую Варакса шчо-

дра дадаў вохкіх зёлак, і нават не спрабаваў удаваць з сябе гасціннага гаспадара і падтрымліваць салонную гаворку. Затое доктар стараўся, як мог – расцягваў вусны ва ўсмешцы, абмяркоўваў з Ніхелем ідэі маладога Зыгмунда Фройда наконт лячэння жаночай істэрыі, няслушнасць жывёльнага магнетызму і фізіягномікі.

– Ну чаму ж, фізіягноміка мае пэўныя практычныя доследы! – запярэчыў Ніхель. – Вось па вашым твары, пан Боўнар, я вызначыў бы, што вы – арыстакрат, дваранін з радаслоўнай у некалькі стагоддзяў. Ці не так?

Вочы доктара зрабіліся чамусьці жорсткімі, трохі адвіслая ніжняя губа на імгненне пагардліва прыўзнялася.

– Я не вельмі веру, што прыналежнасць да старажытнага роду і высакароднасць натуры – тоесныя паняцці, а значыць, фізіягноміка тут бяссільная. Наш род дастаткова старажытны, але быў пазбаўлены дваранства.

Ніхель трохі памаўчаў, нібыта просячы прабачэння за тое, што закрануў балючую тэму, але асцярожна працягнуў:

– Многія патрыятычна настроеныя, смелыя людзі патрапілі ў такое ж становішча трыццаць з лішнім гадоў таму...

– Гэта здарылася раней, – цвёрда заявіў Боўнар. – Мой дзед быў удзельнікам падзеяў у Віленскім універсітэце.

– Надзвычай цікава! – Ніхель падкруціў вусы і захоплена ўсміхнуўся. – Значыць, прадзед пана Каганецкага і ваш дзед разам бралі ўдзел у высакароднай барацьбе за свабоду роднага краю і шчасце народа!

Багуславу трохі перасмыкнула ад пафасу, які ліўся гарачай цукровай глазурай. Але разлік Ніхеля быў дакладны: Боўнара таксама перасмыкнула.

– А як звалі вашага паважанага дзеда, пан Людвіг?

– Альдон, – неахвотна адказаў доктар. Даведаўшыся ад Каганецкага, што прадзед таго іменаваўся Радаслаў, Ніхель пачаў спектакль пад назовам “колькі сентыментальнага пафасу можна змясціць у адзінку часу”.

– Альдон і Радаслаў! Магчыма, яны былі не проста баявымі таварышамі, а братамі па духу, як Гектар і Ахіл. І ратавалі адзін аднаму жыцці, і кляліся ў вечнай дружбе! Нездарма ж сем’і параднілiся...

– Мне нічога не вядома пра такую сувязь, – сур’ёзна адказаў Каганецкі. – Ні бацька, ні мачыха на гэтую тэму пры мне ніколі не гаварылі, не думаю, што нашы продкі добра ведалі адзін аднаго.

– Я веру ў руку лёсу! – заліваўся салаўём Ніхель. – Напэўна, вы, пан доктар, былі рады, калі ваша сястра, няхай зямля ёй будзе пухам, выйшла замуж за такога ж героя, як ваш дзед?

– Героя? – доктар нарэшце трохі страціў раўнавагу, на ягоных абвіслых шчоках з’явіліся ружовыя плямы. – Так, героем быў наш дзед, які змагаўся да апошняга з царскімі войскамі, які ледзь не згніў у Бабруйскай крэпасці, дзе яго трымалі ў каменнай яме, але каты не змаглі дабіцца ад яго ні слова раскайвання. Ён памёр на катарзе, а ў нас адабралі ўсё – маёнтак, шляхецтва, магчымасць атрымаць добрую адукацыю. Нават прозвішча давялося змяніць – на прыдомак да яго. Мы калісьці былі Трапацкія-Боўнар. Бацька змушаны быў вывучыцца на ляснічага, а чаго каштавала мне паступіць у медыцынскі інстытут і дабіцца права выехаць пасля за мяжу для ўдасканальвання практыкі – гэта толькі які-небудзь Стэндаль можа апісаць. А Радаслаў Каганецкі быў самым шараговым здраднікам.

Граф рэзка паставіў кубак на сподак, аж недапіты напой выплюхнуўся на белы абрус.

– Пан Людвіг, папрашу вас...

– Прасіць можаш, але гісторыі не перапішаш, – жорсткая ўсмешка перакрывіла твар Боўнара, здавалася, доктар пастарэў на дзесяць гадоў. – Праўда рэдка бывае прыемнай. Я добра ведаю працэс філаматаў. І ад сведкаў, і з дакументаў. Радаслаў Каганецкі быў маладым магістрантам і асістэнтам прафесара Бекю, які ўзначальваў выяўленне змоўшчыкаў. А паколькі многія філаматы знаходзіліся з панам Каганецкім у добрых адносінах, і неаднойчы ён трапляў у кампаніі, дзе вяліся шчырыя гаворкі – ну а што з захопленых юнакоў узяць, ён змог добра дапамагчы следству.

– І вашага дзеда ён таксама выдаў? – удакладніў фатограф.

Пан Людвіг памаўчаў, кусаючы ніжнюю, трохі адвіслую губу, быццам дужа не хацеў даваць адказ, але выціснуў з сябе:

– Так.

– Чаму вы пра гэта мне ніколі не расказвалі? – Каганецкі ўскочыў з-за стала і адыйшоўся да вакна, разбітае срэбнай куляй шкло ў якім было застаўлена дошкай.

– А навошта? – пан Людвіг счапіў далоні ў замок, як бы адгароджваўся ад сумоўцаў. – Ты ж такі разумны... Мог бы і сам скласці два і два. Усе філаматы – хто на катарзе, хто ў высылцы, хто ў выгнанні, хто ў магіле, а твой дзед атрымлівае пасаду ў Маскве, чын за чынам, ордэн Святога Станіслава і становіцца графам. У той час, як нават падазрэнне ў дачыненні да бунтаўнікоў касавала кар'еры. Вядома, срэбранікі Бекю, расплаўленыя пакаральным агнём, апынуліся ў гэтым доме не выпадкова. Дзед твой, містычна настроены, пералякаўся, калі даведаўся пра смерць старэйшага здрадніка. Лічыў сябе праклятым. А як па-мойму, такім і быў.

– Чакайце, пан Людвіг, як жа вы дапусцілі, каб ваша сястра выйшла замуж за сына таго, хто стаўся прычынай няшчасцяў сям'і? – не вытрымала Багута. Плямы на шчоках доктара зрабіліся ўжо барвовымі, вочы ліхаманкава блішчэлі.

– Мы і блізка не падышлі б да Каганецкіх. Пан Антон сам пачаў заляцацца да маёй сястры. Яна таксама, як і ён, цікавілася акультызмам, круцілі недзе разам стол, духаў выклікаючы, прабач, Божа... Не, я не падзяляў захапленняў Антаніны. Але і не перашкаджаў – я супраць рэзкіх дзеянняў, калі маеш справу з маніяй. І калі яна захацела выйсці замуж за Антона Каганецкага, які збіраў чаразейныя кнігі і паганскія стоды... Што ж, гэта было справядліва. Хаця б камусь з Трапацкіх-Боўнар вярталася дваранскае званне і радавы маёнтак, маю на ўвазе Пагневічы.

– Не можа быць... Пагневічы заўсёды належалі Каганецкім... – прамармытаў, захінаючы твар рукамі, пан Шымон. Боўнар злосна засмяяўся.

– Толькі пяцьдзясят гадоў, насамрэч. Ты мусіў чуць, што сканфіскаванае ў інсургентаў перадавалася добранадзейным грамадзянам імперыі.

– Вы ж ведаеце, пан Людвіг – мне нічога тут не трэба, – прагаварыў Каганецкі. – Каб не тастамент бацькі, які забараняў штосьці тут мяняць да смерці пані Антаніны, я б даўно панішчыў калекцыю, а дом перадаў пад бальніцу. І Пагневічы будуць вашы.

– Я ведаю, што ты шчодры і шчыры чалавек, Шымон, – нейтральна прамовіў доктар. А Багуслава ўсхадзілася:

– Таму вы і не маглі дапусціць, каб ён жыў нармальна, завёў сям'ю?

– Панна Багуслава, вы занадта шмат сабе дазваляеце! – здушана пра-

мовіў Каганецкі, зрабіўшы некалькі крокаў ад цяпер ужо бяспечнага вакна. Вочы доктара прыжмурыліся.

– Я часта маю справу з хворымі фантазіямі пацыентаў, падобна, цяпер той жа выпадак. Не ведаю, што вы напрыдумвалі, мілая паненка, але Шымон быў сур'ёзна хворы задоўга да нашай з ім сустрэчы.

– Лікантропіяй? – насмешна прамовіла Багута.

– Маніяй, – адказаў доктар, які ўсё больш і больш страчваў раўнавагу. – А я за час сваёй практыкі бачыў столькі розных маній, што перастаў чамусьці здзіўляцца. Чалавек можа лічыць сябе зэдлікам і суткамі стаяць, скурчыўшыся ў адной позе. Можа ўявіць сябе оперным спеваком – і ў яго раптам з'явіцца дасканалы барытон, які знікне, варта толькі хваробе адступіць. Лунатык у сне бегае па карнізах і нацягнутых дротах, хаця пабудзі яго – па адной дошцы падлогі не пройдзе. Думаю, вы ведаеце пра тое страшнае здарэнне з ваўкамі, якое перажыў у дзяцінстве Шымон. А тут яшчэ родавыя паданні – вы ж бачылі ваўка на гербе Каганецкіх, страшныя мясцовыя казкі... Я не здзіўлены, што ў няшчаснага хлопчыка развілася менавіта такая манія.

– Але я ні разу не чуў, каб маніі лячылі мескалінам, які выклікае самыя моцныя і праўдападобныя галюцынацыі, – нечакана жорстка заявіў Ніхель, маска ветлівага жыццярадаснага паночка зляцела з яго... Як з доктара – маска добразычлівага павятовага лекара. Пан Людвіг пачырванеў, ягоныя пальцы ўвесь час сціскаліся і расціскаліся, нібыта ловячы нябачную жамяру.

– Не разумею, пра што пан гаворыць.

– Я зрабіў аналіз мікстуры, якой вы лечыце графа. Вядома, рэактываў у мяне пад рукой няшмат, і нават каб былі – калі б дагэтуль я не сустракаўся з гэтым надта рэдкім у нашых краях рэчывам, я б яго не пазнаў. Але вось. Вылічыў... – Ніхель не ў знак сабой ганарыўся. – І так у вашы лекі накалбачана сродкаў, якія паслабляюць кантроль свядомасці, выклікаюць панічны стан, а плюс конская доза мескаліну... Ад яе нават апошні флегматык пачне лавіць бесаў альбо ўявіць сябе варонай у палёце.

– Вы кажаце няпраўду! – ускінуўся Каганецкі. – Каб не гэтыя лекі...

– Вы былі б здаровым чалавекам, – запэўніў Ніхель.

– Не веру!

Каганецкі перавёў позірк на доктара, які ўвесь пакрыўся потам і ўтаропіўся ў адну кропку, быццам бачыў, як набліжаецца штосьці жахлівае, але там была толькі старасвецкая камода з бронзавымі ручкамі.

– Што вы зрабілі з панам Людвігам!

Граф гатовы быў ухапіць Ніхеля за грудкі, але той толькі прымірэнча развёў рукамі:

– Усяго толькі правёў эксперымент! Доктар запэўніваў, што прыгатаваныя ім лекі бяспечныя, а вы ж ведаеце, што добрыя, самаахвярныя дактары нярэдка выпрабоўваюць свае рэцэпты на сабе. Таму ён і прыняў, праўда, не ведаючы таго, уласную цудадзейную супраць-ваўкалацкую мікстуру.

Доктар неяк дзіўна затросся і споўз на падлогу, падтрыманы Каганецкім.

– Вы ні разу не бачылі, граф, як пераўтвараецеся ў ваўка. Ну вось і паглядзіце збоку.

Варакса стаяў, злёгку пагойдваючыся ўзад-уперад, як настаўнік, які

вырашае, якую задачку зараз даць прыціхламу класу для кантрольнай, і з навуковай цікаўнасцю назіраў, як вочы доктара пад напалову апушчанымі павекамі круціліся, цягліцы патузваліся...

– Зараз ён упэўнены, што рухаецца... Знешнія праявы часовыя – пасля будзе проста глыбокі сон. Але свядомасць працягне бачыць прыдуманую рэальнасць. Мескалін ужываюць індзейцы Чылі, каб перажыць досвед выхаду са свайго цела... Звычайна ўяўляюць сябе ў выглядзе жывёлы альбо птушкі. Прычым галюцыянацыі падлягаюць кіраванню. Яны паўтараюцца, чалавек можа ў прымроеным свеце бачыць сябе ў тым аблiччы, у якім хоча, вярнуцца ў тое ці іншае месца. Гэтым карыстаюцца жрацы, скіроўваючы паддоследных, скажам, у краіну мёртвых, на сустрэчу з патрэбным духам.

Голас Ніхеля гучаў спакойна і ўпэўнена.

– Адкуль такія веды? – глуха прагаварыў Каганецкі, які стаяў на каленях ля доктара, падтрымліваючы яго галаву.

– І мне давялося таксама шмат дзе падарожнічаць, пан заолаг. Тым больш наш зямляк Ігнацы Дамейка, філамат і ўдзельнік паўстання 1830-га, зрабіўся рэктарам Чылійскага ўніверсітэта, і я меў да яго рэкамендацыйныя лісты. Трэба было мне нейкі час пабыць удалечыні ад Расійскай імперыі...

Багуслава прысела побач з Каганецкім.

– Давайце аднясем доктара ў ложак. Думаю, ён не хутка прачнецца.

Граф асцярожна вызваліўся, паклаўшы галаву Боўнара на падлогу, узняўся. Удзячнасці на ягоным твары не было і следу.

– Вы разбуральнікі! Я не веру ніводнаму вашаму слову! Я ведаю вас тры дні, а пана Людвіга – амаль трыццаць гадоў! Апаілі чалавека, якому я абавязаны жыццём, абвінавачваеце яго ў змове супраць мяне... Каб ён хацеў мяне забіць – даўно забіў бы. Мог проста не садзіць у вар'ятню таго небараку з ружжом, і я даўно спачываў бы ў радавым склепе са срэбнай куляй у вантробах.

– Ну, кулю празэктары дасталі б, – холадна адпрэчыў Ніхель. – А хто тады напісаў бы тэстамент? Вы былі патрэбныя доктару жывым, але залежным толькі ад яго. А вось цяпер за вашае жыццё я не даў бы і дзіравага шэлега.

– Глупства! – закрычаў граф, валасы ўпалі на ягоны твар, і ён адкінуў іх рукой, вярнуўшы сабе неахайнае дзікаватае аблічча вандроўніка. – Пані Антаніна столькі перажыла з-за мяне... З такім, як я – страшна! Сёння – тая самая ноч! За апошнія гады я толькі адзін раз правёў яе прытомны. Я не ведаю, што магу вытварыць, і ведаць не хачу. Лепей – так, у блёкаце... Дайце мне мае лекі, або забяру сам!

Ніхель моўчкі паставіў на стол саквояж доктара, адчыніў. Бутэлечкі колеру цёмнага бурштыну, напоўненыя таямнічай вадкасцю, стэтаскоп, малаточак ды іншыя звыклыя медыцынскія прылады... А таксама рэвальвер на шэсць набояў, зараджаны, як пераканалася Багута. А Ніхель дастаў нешта, загорнутае ў анучу. Разгарнуў... Зблiснула нешта вельмі падобнае да маленькіх садовых грабляў, з вельмі вострымі зубчыкамі.

Фатограф пакруціў прыладу ў руках.

– Нічога не нагадвае?

І, не дачакаўшыся адказу ад графа, пераступіў праз цела доктара і пайшоў хуткім крокам на другі паверх. Багуслава кранула змрочнага заолага за рукаў:

– Ну што ж вы, пойдзем за ім... Праўду трэба ўмець прымаць.

Вось і падрапаны ложак. Ніхель з сілай правёў сталёвымі грабелькамі па драўлянай спінцы... І там утварыўся дакладна такі самы след, як іншыя, быццам ад кіпцюроў.

– Вось і сакрэт вашай хваробы, пан Каганецкі.

## Раздзел сёмы. Пакаранне звера

Ранейшыя ліцвіны ведалі: каб у безвыходным становішчы выклікаць чароўнага каня, які знясе цябе на край свету, трэба падпаліць тры шматкі авечай поўсці: чорнай, шэрай і рудой, абстрыжанай абавязкова на свята Настусі, апякункі авечай.

Невядома, ці быў у калекцыі графаў Каганецкіх гэты набор для выклікання прывіднага каня, але апошні з роду, падобна, быў зараз гатовы ім скарыстацца. Пан Шымон трывожна глядзеў на сваяка, што кідаўся на ложку, дзе яшчэ нядаўна ляжаў ён сам, вызвалены з клеткі.

– Не атруціцца, не пераймайцеся, ягоная доза была меншай, чым ваша, атрыманая ў некалькі заходаў, – спакойна патлумачыў Ніхель. – Магу прысягнуць – і кроў, у якой вы прачыналіся, і птушынае пер'е на падушцы – дэкарацыі. Як і драпіны на шыі нябожчыка. І ў вакно ў царкве вы скочылі, таму што вас умела накіравалі.

– Можа, скажаце, што і зніклага хлопчыка мачыха з братам спецыяльна забілі, каб на мяне зваліць? – нервова прагаварыў Каганецкі.

– Ну што вы, – усміхнуўся Ніхель, шкельцы ў ягоных акулярах здаваліся двума магічнымі люстэркамі. – Боўнары, на мой погляд – не такія брутальныя злачынцы. Бедны хлопчык, напэўна, сапраўды заблукаў, а гэта выкарысталі. Пан Людвіг прафесіянал, ён жа вас вылечыў ад першапачатковай хваробы. Проста адны і тыя ж лекі, у залежнасці ад канцэнтрацыі таго ці іншага рэчыва, дзейнічаюць па-рознаму. І нічога выключнага ў вашай гісторыі няма. Адзін з маіх кліентаў, што прыходзіў у атэлье дзеля кабінетнага партрэту, гэткі “высакародны бацька” з сівымі бакенбардамі, расказваў пра выпадак у суседнім павеце. Там таксама адзін шляхцюк з-за спадчыны спрабаваў давесці да вар'яцтва пляменніцу. Зарганізаваў з'яўленне прывідаў паводле родавых легендаў... Але нешта перамудрыў, так, што выклікаў бунт мужыкоў, якім штучныя прывіды таксама бяды нарабілі. У свой час нават Марціна Радзівіла, магната з уласным войскам, сваякі абвесцілі вар'ятам і ўзялі над ім апякунства. А вы, сірата з эпілептычнымі прыпадкамі, увогуле лёгкая здабыча. Дарэчы, параіў бы вам яшчэ зрабіць эксгумацыю цела вашага бацькі... Ды не тузайцеся так, што ж вы такі нервовы. Ну, а цяпер вы гатовы выканаць маю просьбу, як абяцалі, граф?

Каганецкі з цяжкасцю адвёў вочы ад доктара Боўнара, які доўжыў прыгоды ў толькі яму бачным свеце, і сумна ўтаропіўся ў суразмоўцу. Ягоны смуглявы твар, здавалася, трохі збялеў.

– І што вы ад мяне хочаце, Пінкертан, за ваша расследванне?

– Каб вы ажаніліся з Багуславай. Узялі шлюб у царкве.

Не, фатограф зусім не жартаваў. Як кажуць на Украіне, барані нас, Божа, ад пана Яна, казінага кажуха, саламянага капелюша, вярбовых дроў.

– Лухта! – Багута адчувала сябе, быццам яе аблілі гарачай смалой і вось-вось зверху высыплюць мех пер'я. – Навошта табе гэта, Варакса?

Ніхель супакойліва пагладзіў яе па плячы, дзяўчына сярдзіта скінула яго руку.

– Ну-ну... Вам не абавязкова гуляцца ў сямейную пару, закупляць каптуры з карункамі і дзіцячыя хадункі. Але Багуслава павінна атрымаць статус законнай графіні Каганецкай. А тады вы, пан Шымон, адразу выправіце ёй пашпарт, з якім можна ездзіць за мяжу. Думаю, не трэба вам ужо тлумачыць, хто мы і чым займаемся. Тым больш падрабязнасці я магу распавесці толькі ў тым выпадку, калі вы згодзіцеся стаць адным з нас, ці калі мне давядзецца вас пасля забіць.

– Баюся, ні першае, ні другое не варыянт, – насмешна пакланіўся граф. Ніхель гэтак жа пакланіўся ў адказ.

– Таму спынімся на вашым, так бы мовіць, ліберальным сузіральным спачуванні. Якім бы вы ізгоем у гэтай краіне сябе ні лічылі, граф, ваш тытул застаецца сапраўдным і адкрывае дзверы ў такія месцы, куды чалавеку простаму не патрапіць ніколі. Для нас такі легальны спосаб проста неацэнны. Калі ў вас ёсць забабоны наконт гонару рода – дык ваша нявеста шляхцянка, і па маці, і па бацьку, і народжаная ў законным шлюбе.

Каганецкі разгублена зірнуў на Багуславу, і ад позірку ягоных шэрых вачэй у душы паднялася гарачая хваля, вось-вось затопіць, не вынырнуць...

– Я адмаўляюся! – выдыхнула дзяўчына. – Што за фіглярства... Мяне ўсё адно могуць выкрыць! Абыходзіліся дагэтуль фальшывымі пашпартамі, будзем і далей...

– Ты павінна да Калядаў стаць сапраўднай графіняй Каганецкай, – жорстка прамовіў Ніхель. – Граф прадставіць цябе як сваю жонку у так званым вышэйшым крывасмоцкім свеце... І няхай тады з'язджае па навуковых справах. Згубіць такі шанец?

Багуслава разумела, што Ніхель вельмі нават мае рацыю. Бакалаўру, не драмайце, бярыце пірог ды кусайце... Легальны пашпарт! Статус графіні! Як гэта прыдасца... Да таго ж яны з Ніхелем ужо колькі біліся, спрабуючы патрапіць у спіс дапушчаных на ўрачыстыя мерапрыемствы, калі прыедзе хтось з імператарскай сям'і на адкрыццё дрэваапрацоўчага заводу! Ніхель усе надзеі ўскладаў, што яму дазволяць здымаць там, але пайшлі чуткі, што гэтага гонару будуць удастоены толькі спецыяльна прывезеныя з Пецярбурга майстры камеры абскуры. А наваспечаная графіня Каганецкая, да якой прыцягнутая, няхай і нядобразычлівая, цікавасць усяго павета, несумненна будзе сярод ганаровых гасцей – трэба ж мець магчымасць абгаварыць выскачку, папрыніжаць яе, маўляў, дарагая залатовачка, каля рубля ляжала.

Але Багута не магла... Ну проста не магла пагадзіцца... Гэта было ўсё роўна як доўга чакаць, пакуль апусціцца проста ў рукі срэбрагалосы жаўрук, а добры дзядзечка са стрэльбай кінуў яго табе скрываўленым камяком, які ўжо ніколі не зможа ні ўзляцець, ні заспяваць.

– Вы таксама зацікаўленыя, граф, – ветліва звярнуўся Ніхель да Каганецкага. – Калі ў вас будзе законная жонка – без яе згоды вас не змогуць гвалтам запхнуць у лячэбніцу, прызнаць нядзеяздольным, адабраць маёмасць. Не ведаю, ці здагадваецеся вы, што ваш сваяк, на выпадак, калі адмовіцеся добраахвотна легчы ў ягоную бальніцу, падаў прашэнне аб прымусовым змяшчэнні вас туды як небяспечнага для самога сябе і бліжніх маньяка.

Каганецкі нервова прайшоўся па пакоі, кінуўшы змрочны позірк на цела Людвіга Боўнара.

– Згаджайцеся! Ціхае вянчанне, некалькі кароткіх сумесных візітаў – і адпраўляйцеся ў Вену. Як альтэрнатыва – палата для шалёных у павятовай лячэбніцы, уціхамірвальная кашуля, паголеная галава, ледзяны душ, электрашок і замглёная хімікаліямі свядомасць... Вы ж бачылі неаднойчы, як згасаюць у няволі жывёлы. Вам хочацца такой жа долі для сябе? Да таго ж, – твар Ніхеля неяк дзіўна тузануўся. – Можаце мець яшчэ і прыемнасць... Вас жа з Багуславай фізічна цягне адно да аднаго... Яна дастаткова прывабная ў ложку.

Апошнія словы, напоўненыя жоўцю, нібыта міжволі вырваліся ў Ніхеля – няўжо банальная рэўнасць? Багуслава сцялася, як ад холаду. Граф ірвануўся да фатографа:

– Не смейце гаварыць у такім тоне пра панну!

– Ну вось, вы самі прызнаеце, што яна вам неабыякавая! – прымірэнча развёў рукамі Ніхель. – Згаджайцеся, выбару ў вас няма.

Каганецкі вінавата глянуў на Багуславу, якая стаяла, утаропіўшыся некуды ў кут, і адчувала, што яшчэ трохі – і ганебна расплачацца.

Граф змрочна загаварыў:

– Адчуваю сябе Сехізмунда, прынцам з п’есы Кальдэрона, які паводле прадказання зорак павінен быў стаць жорсткім, як звер, і таму бацька трымаў яго на ланцугу ў вязніцы, дзе той, аднак, паказваў сябе як філосаф і паэт. Тады яго пашкадавалі, перанеслі ў палац, запэўнілі, што вязніца – толькі сон, а ён – магутны кароль. Аднак атрымаўшы ўладу, Сехізмунда якраз і праяўляе сябе, як жорсткі звер. Таму я пагаджуся на вашы ўмовы – але толькі пасля апошняй праверкі... Былі ў маім жыцці непрыемныя выпадкі, якія я аніяк не магу вытлумачыць падступнасцю пана Людвіга. Чакайце...

Каганецкі выскачыў з пакоя, пачуліся ягоныя няроўныя паспешлівыя крокі на лесвіцы. Багуслава са сціснутымі кулакамі падыйшла да Ніхеля:

– Ненавіджу! Як ты можаш гэтак прыніжаць мяне?

Фатограф на імгненне адвёў вочы, але ягоны інтэлігентны твар зноў выказваў толькі ветлівасць:

– За свае непрыстойныя словы прашу прабачэння. Гэта было нявартa рэвалюцыянера. На нейкую хвілю прачнуліся патрыярхальныя інстынкты – аддаю сваю жанчыну другому... Прабач...

Ніхель схіліў галаву ў пакаянным паклоне.

– А ўсё астатняе – мусіш прыняць. Не дазваляй, каб дурныя жаночыя слабасці ператварылі цябе ў здрадніцу. Ты ведаеш, што мы робім са здраднікамі.

Багуслава ўскінула на настаўніка светлыя вочы – калі бывае ільдзяны агонь, гэта пра яе пагляд.

– Ты мне пагражаеш? Пасля ўсяго...

– Я хачу, каб ты не забывалася, хто ты! – жорстка прамовіў Ніхель. – І хто – ён. Слабак, нашчадак здраднікаў. Табе падабаецца ягонае дужае цела, дзікае аблічча вандроўніка... Скарыстайся! Спатоль цялесную прагу, каб яна не перашкаджала на шляху, але каб галава заставалася халоднай, каб прынесці карысць Справе! Помні, хто ты!

Я – забойца... Багуслава сціснула тонкія вусны... Чамусьці словы Ніхеля, такія справядлівыя, падаліся ёй няправільнымі. Скарыстацца... Так, як

Ніхель даў ёй свае паслугі ў ложку – і прыняў наўзамен яе. У, так бы мовіць, гігіенічных мэтах.

Якія яны ўсё-ткі пачвары. Міхал Калоцкі меў рацыю.

Між тым вярнуўся граф, трымаючы ў руцэ спісаную паперчыну. Русявыя валасы звязаныя ў хвост, вочы глядзяць асуджана-сумна.

– Вось...

Ніхель паправіў акуляры і ўчытаўся ў акуратныя літары:

– "Я, Шымон Антонавіч Каганецкі, па ўласнай волі сыходжу з гэтага жыцця..." Што за блёкат?

– Гэта на ўсялякі выпадак, – цвёрда патлумачыў граф, адабраў у Ніхеля паперку, акуратна склаў і дэманстратыўна сунуў у кішэню. – Я не стану піць лекі, але гэтую ноч правяду ў клетцы. І папрашу вас, Багуслава, аказаць мне паслугу... – граф зірнуў на навязаную яму нявесту. – Вы паназіраеце за тым, што са мной адбываецца. І калі пераканаецеся, што я ўяўляю небяспеку для людзей, што мяне не вылечыць – зрабіце ласку, пастаўце свінцовую кропку. Думаю, не абавязкова срэбную, пазначаную крыжам – свінец таксама добры сродак. Лячэбніца – гэта сапраўды... пакутна. А калі я застаюся маньякам – на свабодзе мяне пакідаць нельга. Можаце паабяцаць, што зробіце гэта? Пасля ўкладзеце зброю мне ў руку, а пан Людвіг засведчыць самазабойства. Калі верыць вашым высновам – з задавальненнем.

Багуслава стаяла, знешне спакойная, але ўнутры ўсё трымцела.

– Перастаньце ламаць камедыю, граф, – раздражнёна прамовіў Ніхель. – Разумею, вас так запалохалі, што вы ўласным вачам і адчуванням не дасцё веры. Адпраўляйцеся ў вашу клетку, абрастаць поўсцю. А раніцай, ужо выбачайце, калі пабегаць ваўком не здарыцца, пойдзеце пад вянец. Думаю, мне ўдасца ўгаварыць аднаго папа на тэрміновае вянчанне.

У сутарэннях было халадней нават, чым на вуліцы, і сыра. Здавалася, любая рэч за некалькі гадзінаў тут павінна пакрыцца плесняй. А гукі набывалі незвычайную выразнасць. Кожная кропля падала на камяні, як свінцовы шарык, галасы мацнелі, як у храме. Багуслава прымацавала ліхтар на адмысловы крук на сцяне, і цені спалохана шуганулася па кутах, быццам нават яны, бясплоцевыя, баяліся дзвюх жывых істотаў, якія прыйшлі на заходзе сонца сюды.

– Дзякую, што не адмовілі мне, – патэнцыйны ваўкалак, стоячы перад клеткай, узяў Багуславу за руку цёплай сухой рукой, раптам схіліўся і пацалаваў яе далонь. – Я буду благаслаўляць вас... дзе б раніцай ні апынуўся.

– Не магу сказаць пра сябе тое самае, – Багута пастаралася, каб голас прагучаў як мага больш насмешна і холадна. – У мяне надзвычай арыгінальнае спатканне з... жаніхом.

– Прабач, я ведаў, што раблю табе балюча... Але хачу, – я эгаіст, я пачвара, – каб цяпер са мной была менавіта ты, – Каганецкі раптам абхапіў далонямі твар Багуславы і пацалаваў яе... І вусны яго былі гарачымі і пяшчотнымі, а сам ён быў моцны і адчайны, і гэта ўсё было ўпершыню. Бо тое, што зведала Багуслава дагэтуль – мужчынскія дотыкі, пацалункі, ласкі – было як пясочныя кулічыкі, няхай і ўпрыгожаныя кветачкамі ды каменьчыкамі, у параўнанні з сапраўдным хлебам. І ўсё было вельмі правільна: ягоныя пальцы, што сціскалі яе плечы так, што, напэўна, застануцца сінякі, і ягоныя ўладныя вусны, і тое, што ў двух людзей не было будучыні.

Пры любым раскладзе.

Ён паглядзеў у яе светлыя вочы:

– Паабяцай, што ў цябе хопіць мужнасці... Калі што...

– Як толькі ў цябе вырасце хвост, прыстрэлю, не хвалюйся.

Багуце хацелася дзіка засмяяцца ад абсурду сітуацыі. Каганецкі тройчы перахрысціўся, прачытаў кароткую малітву, залез, сагнуўшыся, у клетку, выпрастаўся.

– Замыкай.

Яна павярнула два разы ключ у адтуліне цяжкога ангельскага замка і паклала яго ў кішэню кардыгана.

Граф і тэрарыстка глядзелі адзін на аднаго праз краты.

– Што цяпер? – яе вусны гарэлі.

– Ну, у нас як бы ноч перад вяселлем. Можам уявіць, што гэтыя прэнты – аналаг мяча, які ў сярэднявеччы рыцары ноччу клалі між сабой і дамай сэрца, каб не спакусіцца. Будзем весці духоўныя бяседы, – Каганецкі белазуба ўсміхнуўся.

– Пра норавы шымпанзэ?

– Не горшая тэма... Галоўнае, ні ў якім разе не адчыняйце клетку, нават калі я раптам пачну маліць аб гэтым, не падыходзьце занадта блізка, трымайце навідавоку пісталет, – зноў перайшоўшы на шляхетнае “вы”, Каганецкі шчыльней захінуў чорнае паліто і ўсеўся проста на падлогу, абапершыся спінай аб сцяну, і глядзеў на тэрарыстку адсланёна, як мастак на рамантычны пейзаж.

– А калі вам у прыбіральню захочацца? – рэзка папыталася Багута, каб зруйнаваць гатычны пафас.

– Тады я папрашу вас адвярнуцца, – насмешна адказаў Каганецкі. – Мне падаецца, вы звыклі да паходнага жыцця, як і я, дзе не да ўмоўнасцяў і этыкету.

Звычка да паходнага жыцця, аднак, не ўратуе ад раматусу, які вельмі верагодна падорыць сядзенне на халодных камянях. Багуслава падсунула бліжэй да клеткі, да адной з калонаў, пустую скрынку, з тых, што грувасціліся ў куце... Нармальны пункт назірання. А граф што, так і збіраецца валяцца на падлозе?

– Самы кепскі мой начлег быў не тут, – паведаміў Каганецкі. – А ў Малайзіі. Мы пацягнуліся ў джунглі, каб паназіраць за снамангамі – так называюць там гібонаў... Дождж ідзе, як быццам яму за гэта плоцяць. Зямлю хаваюць расліны, падобныя да папараці, але зваротны бок пяшчотных светла-зялёных карункавых лістоў увесь усыпаны вострымі калючкамі, якія раздзіраюць скуру да крыві. А на зямлі – п’яўкі. Варта спыніцца дзесь на адкрытым месцы, і вакол цябе – быццам жывы дыван. Спаўзаюцца, заразы, ці на цяпло, ці на трымценне глебы... Паўзуць, ды яшчэ ўвесь час падымаюць галовы, як маленькія змеі, каб лепей зарыентавацца, і залазяць паўсюль. А калі жывёлы знаходзяцца побач і трэба не варушыцца і маўчаць... Пекла!

– Аднойчы я прасядзела дзесяць гадзінаў на карнізе чатырохпавярховага дома, трымаючыся за скульптурную выяву багіні цнатлівасці Артэміды, – прамовіла Багуслава. – Быў сакавік, ноч і дождж, і ў мяне так скалелі пальцы, што я не адчувала іх і прывязала сябе да багіні шалікам. У кватэры, дзе мы спыніліся, быў пeратрус, каля дома дзяжурылі жандары. Пад раніцу яны сышлі, і мне ўдалося залезці на дах і спусціцца па пажарнай лесвіцы на другую вуліцу.

– Мабыць, жандары ўсё ж небяспечней, чым п'яўкі, – задумліва прамовіў Каганецкі, не выявіўшы ніякага жадання распытаць пра падрабязнасці рэвалюцыйнай дзейнасці. – Але і тыя, і другія рэагуюць на нейкі рух, на нечае цяпло... Не, сярод п'явак мне камфортней, чым пад людскім надзорам.

– Добрае выйсце – з'ехаць і забыцца... – горка прамовіла Багута. – Мы з вамі – часцінкі лістабою, які ўвесь час учыняе бура на гэтай зямлі. Зрывае і зрывае лісты, і зносіць іх па ўсім свеце. Мой бацька быў чалавек здольны і смелы. Ён, распавядаў Ніхель, у сваім маёнтку зладзіў мануфактуру па вырабе сілікатнай цэглы – запрасіў майстроў з Галандыі. Што б яшчэ карыснага змог зрабіць – не ведаю... Але быў сасланы на катаргу – і сібірская зямля паглынула яго, як і маю маці, рамантычную шляхцянку... А колькі іх, таленавітых, у сібірскай зямлі! А я – хто? Сваякоў не засталося, маёнткі канфіскаваныя, вырасла ў Сібіры. Мне здаецца, я дасюль прывыкаю да гэтага краю, які да шаснаццаці гадоў не бачыла. Ніхель увогуле лічыць сябе "грамадзянінам свету"...

– А вось гэта глупства, – прамовіў граф, які сядзеў на камянях вязніцы, быццам ля падножжа дуба пасярод жывапіснай паляны. – Не бывае жывых істотаў "увогуле" – хіба ўсялякія стыхійныя духі, прыдуманыя сярэднявечнымі алхімікамі. Кожны звер, птушка, жамяра маюць свой род і арэол бытавання. Птушка з выраю вяртаецца да адной і той жа няўтульнай скалы, Адысей мкнецца да неўрадлівай Ітакі... Ёсць вельмі падобныя між сабой віды птушак, на выгляд не адрозніш, але калі яны спяваюць сваім абранніцам начныя серэнады, спевы розных відаў адрозніваюцца ў некалькіх трэлях... І ў такіх выпадках птушкі адна адну не зразумеюць і не спароўваюцца. Гэта значыць – Гасподзь не хоча, каб нейкі род знікаў. У кожным родзе, у кожным народзе закладзены ахоўны код: мова, вера, традыцыі, характар....

– А дзе ж гэты код у тутэйшых? У беларусаў, як называюць жыхароў гэтай зямлі Калоцкі і Масевіч? – з горыччу спытала Багуслава. – Людзі мясцовыя нават не ведаюць, як сябе называць! Мая маці казала, што мы – палякі. Бацька – ведаю са слоў маці, якая яго абагаўляла – называў нас ліцвінамі. У пансіёне мне ўнушалі, што я руская.

– І ўсё-ткі мы належым гэтай зямлі, – задумліва прагаварыў Каганецкі. –На нас – яе пячатка, яе блудных дзяцей, якія дораць свае здольнасці каму заўгодна, толькі не ёй. У нашым універсітэце, у Вене, шмат выхадцаў адсюль. Я не памятаю, каб хоць хтосьці з іх назваў сябе беларусам. Адзін я здзівачыў, назваўшыся.

– А што толку? – прамовіла Багуслава. – Хто будзе памятаць вас тут? Вось, дзесьці за сто вёрст адсюль – родавы маёнтак маіх продкаў, дзе жывуць іншыя людзі, прыхадні, якія праз пакаленні будуць лічыцца карэннымі мясцовымі, а я – назаўсёды – чужынка.

– Як і я... – задумліва прагаварыў Каганецкі, раптам перасунуўшыся бліжэй і схапіўшыся тонкай моцнай рукой за краты. – Паслухайце... І ўсё адно мы – беларусы. Мой бацька, я, Людвіг Боўнар, Калоцкі, Масевіч, няшчасны Панас са сваймі срэбнымі кулямі, вы, Ніхель... Магчыма, у гэтым, у трывушчасці, у здольнасці прыстасавацца, выжыць, прытаіўшы сапраўдную сваю сутнасць, і ёсць наша асаблівасць, наш крыж, таўро, выпаленае на нас сотнямі войнаў, мільёнамі пакутаў? Тут было скрыжаванне культур, кожнае мястэчка – гэта царква, касцёл, сінанога, мячэць

ды яшчэ і кальвінісцкі збор... Тут змешваліся розная кроў і розная вера, сустракаліся візантыйская дэспатыя і еўрапейскае вальнадумства... У гэтай алхіміі не магло не выплавіцца нечага адметнага, непаўторнага. І яно не можа проста так знікнуць. Паглядзіце: паўстанне за паўстаннем, у выніку лепшыя – ці загінулі, ці апынуліся за межамі, забарона на вышэйшую адукацыю – тысячы таленавітых юнакоў зноў з'язджаюць... І ўсё адно – аднекуль тут бяруцца таленты, якія жывяць іншыя культуры!

– Ваша праўда, – задумліва прагаварыла Багуслава. – Ніхель згадваў паўстанца Ігната Дамейку, які стаў нацыянальным героем Чылі... Адольф Янушкевіч даследваў побыт казахаў. Вы, пан Каганецкі, друкуеце навуковыя працы ў Аўстрыі і ў Германіі.

Багуслава прысунулася таксама бліжэй, цяпер граф быў ад яе на адлегласці выцягнутай рукі, глыбокія цені надавалі ягонаму твару сумную ўрачыстасць.

– Нашы знаёмцы, Калоцкі ды Масевіч, страшэнна мяне раздражнялі, але пасля знаёмства з імі мне ўпершыню прыйшла ў галаву такая думка... Калі-небудзь тут узнікне ўніверсітэт, дзе ўсё будзе на беларускай мове, – раптам сказаў Каганецкі. – Я не дажыву. Але ў гэтага народа хопіць моцы нарадзіць тых, хто напоўніць яго сцены сваім талентам.

– А для гэтага павінна абрушыцца імперыя, – упэўнена прагаварыла Багуслава. – Павінна разбурыцца сістэма, якая знявольвае і асобнага чалавека, і асобныя народы. Якая знішчае ўсіх, хто думае не так, верыць не так і карыстаецца не той мовай. Сістэма, якая трымаецца на гвалце, страху і мане, у якой чалавек не мае права жыць, дзе хоча, толькі таму, што ён іншай веры, а таленавіты юнак не можа атрымаць адукацыю, бо не таго саслоўя. Калі галодны бунт уціхамірваецца кулямі, а паэту забараняецца пісаць, як дыктуе яму талент. Мы зробім усё дзеля таго, каб гэтая сістэма абрушылася.

Каганецкі мацней сціснуў прэнт.

– А якім коштам? Якімі сродкамі, Багуслава? Няўжо вы думаеце, што калі заб'еце пэўную колькасць людзей у гэтай дзяржаве, астатнім будзе жыць больш шчасна? І хто прыйдзе на змену цяперашнім уладарам? Былыя тэрарысты, для якіх жыццё чалавека – парушынка?

Багуслава ўскочыла са сваёй скрынкі – цяпер яны былі зусім блізка адно ад аднаго.

– Адразу відаць, што вы – унук здрадніка!

– А я і не гуляю ў праведніка, – жорстка адказаў Каганецкі. – Мае продкі пакаленнямі трымалі прыгонных, сцябалі іх на стайні, садзілі ў рагаткі... У экспедыцыях я міжволі выконваў “місію белага чалавека”, і колькі заўгодна можна спачуваць непісьменным бедным плямёнам, але калі ад сквапнасці, падлючасці і баязлівасці наймітаў можа загінуць экспедыцыя, калі бачыш, што тубыльцы вось-вось ператворацца ў гіенаў, а падлай станеце вы, белыя, сытыя, багатыя, уладальнікі такіх каштоўных бліскучых прадметаў... Я не саромеўся ўжываць сілу, якую некаторыя неразвітыя розумы толькі і шануюць. – Граф сціснуў кулак, і Багуслава ўявіла, як у стэпу ці ў гарах у ім заціснуты пісталет, шабля ці нагайка. – Людзі не павінны так абыходзіцца з людзямі, згодны. Я ведаю, што самадзяржаўе мусіць абрушыцца, што так, як цяпер – нельга, ганебна... Але што прапануеце вы, Багуслава? Бомбы? Раздзяленне на прыгнятальнікаў і прыгнечаных, і першых усіх – пад нож? Каму сталася лепей, калі забілі

Аляксандра Другога? Ён рыхтаваўся да ліберальных рэформаў, а пасля ягонай гібелі прыйшоў час цемрашальства, падазронасці...

– З-за такіх, як вы, і пануе цемра! – Багуславу калаціла ад гневу. – Па вашаму, трэба сядзець, чакаць, пакуль усё само зменіцца? Не чапаць катаў, няхай яны нас вешаюць, б'юць бізунамі, ссылаюць у Сібір?

– Ёсць іншыя шляхі дзеля зменаў у грамадстве, акрамя брутальных забойстваў, якія толькі даюць падставу для ўзмацнення рэпрэсій, – упэўнена сказаў Каганецкі.

– Агітацыя, прапаганда, мірныя мітынгі, несупраціў... Вы, можа, талстовец, ваша светласць? Ну, напісаў Леў Талстой ліст Аляксандру Трэцяму з просьбай памілаваць царазабойцаў, і што, цар прыслухаўся? Ненавіджу “пакутнікаў за народ” на словах! Някрасаў сачыніў кранальны верш пра тое, як бедны хлопчык пакутліва загінуў, калі ўскочыў на запяткі карэты, дзе па звычаі былі насованы цвікі дзеля абароны ад такіх спрытных мальцоў. На наступны ж дзень верш абляцеў увесь горад, усе павыдзіралі са сваіх карэтаў гэтыя злашчасныя цвікі... Раптам людзі бачаць – едзе адна, з цвікамі на запятках. Абураны натоўп спыніў шыкоўны экіпаж, і з яго выйшаў... Хто б вы думалі? Аўтар згаданага верша Мікалай Някрасаў!

Каганецкі паківаў галавой.

– Вы самі здзівіцеся, калі пераканаецеся, колькі фарысеяў у вашых жа колах. Людзі паўсюль аднолькавыя, Багуслава. Дарвуцца да ўлады – і пачнуць ператварацца ў такіх самых дэспатаў, якіх звалілі, ці яшчэ горшых. Вы вельмі мала бачылі ў жыцці добрага, і мала ведаеце жыццё. Праўда, мне і самому не выпадае асабліва чым тут пахваліцца... Але ўсё ж – не толькі я сяджу зараз у клетцы, але і вы. Не толькі я жыў дасюль пасярод маны – але і вы. Каб было не так – вы не мелі б таго пачуцця віны, якое пячэ вас знутры і змушае да цынізму. У вас самой няма перакананасці ў справядлівасці таго, што робіце, і вас гэта прыгнятае.

Як чорта ні хрысці, усё адно: “У балота пусці”.

– Граф Шымон Каганецкі, ягоная светласць! – здзекліва прасіпела Багуслава скрозь зубы. – Ніхель мае рацыю, вы сапраўды – наш вораг.

– Ну дык забіце мяне. Зброя ў вас пад рукой, – сур'ёзна прамовіў заолаг. Багуслава, калоцячыся ад гневу і незразумелай тугі, наставіла на яго пісталет. Каганецкі не зварухнуўся, трымаючыся абедзвюма рукамі за краты і не апускаючы нахабных шэрых вачэй, у якіх адбівалася цьмянае святло лямпы.

– Прычакаю, калі ў вас хвост адрасце, – рэзка кінула дзяўчына і ўселася на скрыню, паклаўшы пісталет на калені. Пасля ўспышкі гневу па скуры, як заўсёды, прайшлася марозная хваля.

– Што ж, хутка поўнач, – прамовіў Каганецкі і таксама ўсеўся на старое месца, падпершы спінай вільготную сцяну. – Магчыма, мне не доўга ўдасца падтрымліваць... чалавечую гаворку.

Багуслава пастаралася выраўняць дыханне – Ніхель вучыў гэтак вяртаць кантроль над эмоцыямі. А ён жа баіцца... Граф сапраўды баіцца – гэтай ночы, сябе, таго, што можа адбыцца... Магчыма, таму і завязаў гэткую гарачую дыскусію! Падобна, што ён гатовы быў справакаваць заўчасны стрэл!

– Вы што, сапраўды верыце, што ў вас вырастуць поўсць і хвост? – усё яшчэ злосна прамовіла Багута. Каганецкі стамлёна заплюшчыў вочы і адкінуў галаву.

– Не ператварайце мяне зусім ужо ў дурня. Зменіцца не фізіялогія, а паводзіны. Свядомасць. І як гэта будзе выглядаць...

Так, яму сапраўды страшна. Злосць адпусціла Багуславу.

– Вы ж заолаг, біёлаг, павінны быць знаёмыя і з псіхалогіяй не толькі жывёлаў. Спраўджваецца тое, чаго чакаеш, чаго баішся. Пераадолейце свой страх – і пазбавіцеся ад фобіі!

– Я ведаю, – апусціў галаву граф, валасы неахайна звесіліся на сіратліва падняты каўнер паліто, так, што можна было прыняць заолага за жабрака. – Але больш за ўсё мы баімся таго, чаго не ведаем. Сведчанне – экспанаты нашай сямейнай калекцыі. А я з дзяцінства жыву сярод аповедаў пра ваўкалакаў. Бачылі наш герб?

– Так... – ускінулася Багута. – І доктар згадваў пра нейкія родавыя паданні. У вас што, сапраўды былі ў продках ваўкалакі?

– Былі, – сур'ёзна сказаў Каганецкі. – Магчыма, гэта проста водгулле паганскіх часоў, калі хтось з прапрадзедаў быў жрацом або правадыром у племені, дзе татэмам прызнаваўся воўк. Герадот апісваў, быццам у тутэйшых лясах жылі неўры, якія маглі ператварацца ў ваўкоў. Магчыма, мае продкі валодалі дарам берсеркерства – як скандынавы. У беларусаў такое апантанне падчас бойкі таксама было распаўсюджанае, і таксама лічылася, што чалавек ператвараецца ў звера. Толькі звярыныя здольнасці ў сямейных сагах падаваліся як станоўчыя – яны прачыналіся ў нас, калі трэба было бараніць радзіму ад чужынцаў. Нібыта як толькі ворагі спыняліся побач на начлег падчас поўні, старэйшы ў нашым родзе ператвараўся ў ваўка і забіваў прыхадняў.

– Сапраўды, карысная здольнасць, – згадзілася Багуслава. – Магчыма, вам варта ...як гэта модна цяпер гаварыць? – прымірыцца са сваім унутраным зверам? Тым болей – вы заолаг, у вас гэта лёгка атрымаецца... І замест таго, каб баяцца сваёй другой натуры – зможаце яе выкарыстаць. Уяўляеце, спатрэбіцца вам паназіраць за якой рэдкай жывёлінай – раз, на чатыры лапы сталі – і падкрадайцеся, колькі ўлезе... І прыпасаў не трэба ў экспедыцыю браць. Дачакаліся поўні, выраслі іклы – і па здабычу... А як рамантычна можна выгульваць свайго мужа, такога чатырохлапага, у шыкоўнай пухнатай скуры, на ланцугу!

– Спадзяецеся выдрэсіраваць ваўка? – фыркнуў Каганецкі, які, на шчасце, не зазлаваў на чорны гумар рэвалюцыйнай нявесты. – Няўжо вы з тых эмансіпэ, якія прымаюць мужчын толькі пасаджанымі на ланцуг і ўтаймаванымі?

Багуслава задумліва пакруціла ў руках пісталет – свой улюбёны, з інкрустацыяй з зялёнага перламутру ў выглядзе ліста папараці.

– Я чытала кніжачку адной такой паэткі, што ходзяць у шалях і капелюшах і робяць выгляд, быццам пад іхнімі нагамі камяні Вальгалы, а не местачковая запляваная шалупіннем семачак брукаванка. Ну, вы самі ведаеце такую паэзію, манерна-містычную, дзе ў кожным радку Дыянісіі да Цытэры, Даэроны ды Тамрыелі. Але адзін верш цудоўненька можа пакласціся на нашу сцэну... Ён напісаны на аснове антычнага падання: калі пры сустрэчы воўк першым пабачыць чалавека, чалавек знямее.

Багуслава страсянула стрыжанымі валасамі, быццам яны яшчэ былі светлымі і доўгімі, і прадэкламавала, напачатку па-блазенску, але потым усё больш сур'ёзна:

– Воўк, ты ўбачыў мяне не першым.
Я не страціла слоў – о, не.
Мне здалося, што ты залежаў,
Дзікі звер, ад хатняй мяне.
Шкода бачыць, як ты, магутны,
Па траве, як вужака, поўз,
І пагляд твой зрабіўся мутны
Не ад злосці – адчайных слёз...

Фатографка як бы мімаволі ўстала і наблізілася да клеткі, адкуль на яе глядзелі ўважлівыя шэрыя вочы.

– Звер, скуголіў ты так, бо ведаў,
Што ў мяне, пяшчотнай такой,
Столькі жорсткасці воўчай гэткай,
Колькі ўлады ёсць над табой.

Багуслава наблізілася ўшчыльную да клеткі і ўзялася за краты. Пісталет адцягваў кішэню кардыгана.

– Не здыму я з цябе, ваўчышча,
Зачараваны ланцужок,
Каб вярнуўся ў сваё аблічча,
Каб ізноў да людзей прыйшоў,
Каб устаў, малады, прыгожы,
Засмяяўся, пацалаваў...
На Купалле так лёгка можна
Заблукаць між высокіх траў...

Словы злавесна гулка раздаваліся пад нізкімі зводамі сутарэння, быццам гучала старажытная замова.

– Не! Забуду, пераступіўшы,
Праз пакуту тваю – на ўсё.
Як свяціліся, быццам вішні,
Вочы, поўныя воўчых слёз,
Як стагнаў ты, не змогшы болю,
І завыў на мае сляды.
І кацілася рэха полем
У далёкія гарады...

Апошнюю страфу Багута прагаварыла амаль шэптам, углядаючыся ў свайго звера:

– І каціліся з неба знічкі,
І вянкі па рацэ плылі...
Ты ў ваўчыным жывеш абліччы,
Мой... адзіны... на ўсёй зямлі...

Ён ўстаў і паклаў гарачыя далоні паўзверх ейных, што сціскалі халодныя прэнты.

– Я ж табе гаварыў, не набліжайся... Гэта небяспечна...

– Я ведаю.

Пацалунак скрозь краты, з якіх ты вольны выйсці – усё роўна што ананасы ў шампанскім... Прыгожа да манернасці...

– Нагадвае сцэну з оперы... – з некаторай няёмкасцю прамовіў Каганецкі, які, адарваўшыся ад вуснаў сваёй магчымай забойцы, адразу ж адыйшоўся, прытуліўся спінай да халоднай сцяны. – Прабачце... Сам

парушыў правілы бяспекі. Думаю, лепей будзе памаўчаць, каб не правакаваць нешта падобнае.

– Добра, давайце памаўчым, – нягучна згадзілася Багуслава, якой таксама было няёмка. Урэшце, яна не сентыментальная дзяўчынка, і не такое яшчэ бачыла ў жыцці, каб перажываць з-за неўрастэнічнага арыстакрата, які спрабуе вызначыць, вар'ят ён ці не. Няшчаснаму жаўнеру, якога прыгаварылі з-за нязначнай правіны да шпіцрутэнаў, такія б праблемы!

Багуслава зноў уселася на сваю скрынку, прытулілася спінай да калоны... Тут было так ціха... Як у чэраве біблейскага кіта, які праглынуў прарока Іова за тое, што не хацеў ісці пракракаваць смерць грэшнаму гораду. Дзесьці ішлі дажджы, выў вецер, злодзеі задумвалі свае нядобрыя подзвігі на пагібель добрым людзям – а тут было ціха... Так, што Багуслава нават задрамала.

Пабудзіў яе стогн... Ці рычанне?

А-ёй, гэта ж не адна гадзіна прамінула... Што там робіцца з яе паднаглядным?

Багута зняла з крука лямпу, падкруціла як мага болей кнот, каб дадаць святла, і паднесла да клеткі. Граф ляжаў на спіне, проста на камянях, павярнуўшы набок галаву, заплюшчаныя вочы пад павекамі круцяцца... Вось – зноў стогн скрозь зубы... Нейкі... нечалавечы?

А раптам ён сапраўды ператвараецца ў звера? У пачвару? Багуслава разумела, што гэта глупства, забабоны, графская манія, але... На хвілю нават захацелася, каб тут быў Ніхель, рацыянальны, рашучы, нязломны... Што ж рабіць? Зразумела, Варакса строга наказаў – што б ні здарылася, графа не прыстрэльваць... Пакуль не ажэніцца. Вось ажэніцца, выправіць пашпарт – тады хоць скуру з яго лупі на дыванок.

І ўсё-ткі... Раптам...

Пакуль яшчэ не лапа, рука: роўна падстрыжаныя пазногці, пальцы прыгожай формы, але не слабыя, і здрапаныя па-пралетарску – ясна, столькі стодаў пасек граф уласнаручна за апошнія суткі... У куточках вачэй намеціліся зморшчынкі... Адна, глыбейшая – між броваў, густых і прамых – такія бываюць у людзей, якія не ўмеюць хітрыць. На ўпартым падбароддзі ўжо, здаецца, прабіваецца шчэць... Ці поўсць?

Каганецкі зноў застагнаў-захрыпеў і адвярнуўся да сцяны. Спіць? Перакідваецца ў звера? Ці... паміраe? Мінулай ноччу ледзь не памёр жа! А раптам і сёння трэба даць яму ўкол? Ну чаму Ніхель пра гэта не падумаў...

Нешта зусім ціха ляжыць... Дыханне амаль не чутно... Не чутно?

Багуслава доўга не раздумвала, ключ двойчы павярнуўся ў замку, і вось яна ўжо ў клетцы са зверам.

Фатаграфка паставіла лямпу на камяні падлогі і нерашуча схілілася над мужчынам. Зноў яна разглядае яго, вывучае з нейкай хваравітай цікаўнасцю... Быццам першы раз у жыцці ўбачыла іншага чалавека. Здавалася, за сузіраннем гэтага зусім не класічнай прыгажосці аблічча Багуслава магла праседзець вечнасць... Як углядаючыся ў плынь вады ці ў танец полымя.

Вядома, чалавек заўсёды знойдзе, як сябе апраўдаць. Я гэтага хачу, значыць, мне гэта трэба, а раз мне гэта трэба, я гэтага дамагуся.

Багуслава апраўдвала сваю прагную цікаўнасць... ну, скажам, медыцынскім наглядам.

Та-ак, поўсць не расце... І кіпцюры не вылазяць – а Багуслава ўжо так ярка ўявіла, як гэта адбываецца, і яе хапае за горла страшная лапа...

За руку яе ўсё-ткі схапілі, але не лапай, а рукой. Граф глядзеў у яе светлыя, як лёд, вочы сваімі шэрымі вачыма, у якіх не было, на шчасце, вар'яцтва:

– Вырашылі ўсё-ткі прыстрэліць мяне?

Трэба ж, калі яна паспела прыставіць пісталет да ягонай галавы? Цела зноў само спрацавала...

Багуслава павольна апусціла зброю.

– Вы стагналі. Мне падалося, што...

– Што перад вамі воўк? – Каганецкі сеў – у клетцы было занадта мала месца для дваіх, і яны апынуліся непатрэбна блізка адно ад аднаго. – І вы не прыдумалі нічога лепей, чым залезці сюды?

– Праспявалі трэція пеўні. Поўня страчвае сваю сілу, – прашаптала Багуслава, чамусьці не робячы спробы вызваліць руку.

– Першыя пеўні пяюць, калі ўзыходзіць зорка Канопус, – таксама шэптам сказаў Каганецкі, не адводзячы вачэй. – Другія пяюць – калі зорка гэтая хаваецца за далягляд. Трэція – на золку, але насамрэч – у чатыры гадзіны ночы... У кастрычніку ў гэты час да сонца яшчэ далёка.

– Але пеўні праспявалі, і цемра больш не мае над табой моцы.

– Наша цемра ў нас... – яго вусны здрыгануліся, і Багуслава зразумела, што зараз зноў пачнецца спектакль пад назовам "я пачвара, прэч ад мяне".

– І святло ў нашых душах ёсць. Ты ж сам казаў...

Каганецкі асцярожна – як прыручаюць лясное кацяня – правёў рукой па яе шчацэ, адсунуў чорную пасмачку валасоў.

– Ніколі не думаў, што да мяне ў клетку аднойчы падсадзяць пару...

– Ной знайшоў жа па пары кожнай тварыне Божай...

Яна сама наблізіла свае вусны да ягоных... А потым... потым было ўсё роўна, што вакол – сталёвыя прэнты, вільготныя камяні сутарэння, напоўнены чужым злом маёнтак і чорны лес, што страсаў апошнія залатыя лісты, быццам раскаяны грэшнік, які рыхтуецца прыняць схіму і адмаўляецца ад зямной любасці і прыгажосці.

Вось яно як бывае... Аказваецца, і так бывае – калі... кахаеш, хаця пра каханне не было сказана ні слова... Проста пасля такога ніколі больш не захочаш інакшых дотыкаў і ласкаў, бо гэта будзе такая мана, ад якой памрэ сэрца.

– Думаю, больш гатычнай шлюбнай ночы не было ні ў кога, – задыхана прамовіў Шымон, раскінуўшы рукі так, што адна высунулася праз краты за межы клеткі, а другая абдымала атынкаваную сцяну з вільготнымі рагамі. – Ніводны раманіст не прыдумае!

– Ты і праўда збіраешся ўзяць са мной шлюб? – адсланёна папыталася Багута, чыя растрапаная галава ўтульна ўладкавалася на аголеных грудзях няздзейсненага ваўкалака.

– Панна Багуслава, вы згодны выйсці за мяне?

Прагучала так урачыста, што фатографка не стрымала смеху:

– Нешта наш раман з табой раскручваецца ў адваротным напрамку. Прапанова рукі і сэрца пасля ночы кахання... Цяпер, напэўна, будзем знаёміцца?

– Някепская ідэя... – ягоная рука слізганула па яе плячы, пад расшпіле-

ную кашулю, перашкаджаючы думаць пра штосьці іншае... – І як вас, ясна панна мая, насамрэч завуць?

Багуслава страсянула галавой ад казытлівага шэпту над вухам:

– Багуслава Кленчыц.

– Хутка ты станеш графіняй Каганецкай, – ён уладна прыціснуў яе да сябе. – Не таму, што мяне змушае слова, дадзенае пану Ніхелю. А таму, што не хачу цябе адпускаць. Я так вырашыў яшчэ тады, перад камінам, калі ты мяне ледзь не зарэзала. Але ж хіба я думаў, што ў мяне з'явіцца сэнс жыць? Цяпер – ён у нас абодвух ёсць.

На хвілю ў гэта паверылася... Але дзяўчынка са светлай касой, з пукатымі блакітнымі вачыма, у карычневай гімназічнай форме ўстала з травы і пагразілася пальцам, шыя яе была ненатуральна скрыўленая.

Не забывайся, хто ты!

– Мяне не так лёгка затрымаць, Шымон, – Багуслава выслізнула з ягоных абдоймаў і паднялася, зашпіляючы кашулю. Гарсэтаў рэвалюцыянерка не прызнавала, але на жаночым адзенні ўсё роўна мелася, як на яе густ, зашмат гузікаў, аплікаў і шнурочкаў, так, што часам хацелася іх паабрываць, як цяпер. – Я не з тых, каго можна пасадзіць ля агменю і пакласці на калені вышыванне.

– Я ведаю... – ён таксама ўзняўся і абхапіў яе за плечы. – Зразумей, мне ўсё роўна, хто ты, што зрабіла і мяркуеш зрабіць. Нават калі аднойчы зноў палічыш патрэбным забіць мяне. Я таксама не анёл. Але калі ваўкі абіраюць сяброўку, гэта на ўсё жыццё. Я буду з табой. Захочаш ты ці не, дазволіць гэта Ніхель, ваша арганізацыя, паліцыя, Трэцяе аддзяленне, міжнародная ліга суфражыстак і хто заўгодна, ці не.

Ён няўважна сунуў рукі ў рукавы змятай кашулі, не клапоцячыся пра зашпільванне гузікаў, падняў з падлогі сваё шматпакутнае чорнае паліто і глыбока ўздыхнуў, быццам наважваўся на страшнае.

– Ну што, час выйсці з клеткі... І прызнаць, што ўсё-ткі Боўнары – навалачы, а я – даверлівы дурань. Да таго, як развіднее, яшчэ колькі гадзінаў. І хаця для нас абоіх, як я разумею, не ў навіну праводзіць ночы на голай зямлі і камянях, усё-ткі прапаную перабрацца ў больш традыцыйны ложак.

## Раздзел восьмы. Пачвары местачковага жыцця

Гадзіннік на камодзе графскага пакоя, у выглядзе паравоза, які дарэмна срабуе спыніць атлет, празвінеў ажно дзевяць разоў. Неба за вакном пачало з чорнага рабіцца сумна шэрым, як мокрая тынкоўка альбо радно, якім мастак завесіў сваё палатно.

Таму што неадольна хацелася верыць, што за гэтай шэрасцю, варта тузануць за яе краечак, адкрыецца каляровы сваточны пейзаж.

Толькі ніхто не мог знайсці, дзе ж край панылай завесы.

Багуслава млява разглядала сябе ў пачэпленым на сцяне невялікім авальным люстэрку, якое нібыта было закрапанае дажджом – адслаілася амальгама.

– Напэўна, ты ўсё-ткі звер, вось, пакусаў мяне, нягоднік...

Каганецкі гнутка ўзняўся з ложка, падышоў са спіны, правёў па яе шыі рукой, потым вуснамі:

– Гэта пацалункі, а не ўкусы, мадам. А ў вас такая неверагодна пяшчот-

ная... м-м-м... скура... што на ёй павінны заставацца сляды ад найлёгкага дотыку.

– Ай, ты калючы... – вывернулася яна, усё яшчэ не ў змозе адвесці вачэй ад свайго аблічча, з якім рама люстэрка з'яднала аблічча яшчэ некалькі дзён таму незнаёмага чалавека. Ёй падавалася, што з яе адлюстраваннем адбылася складаная хімічная рэакцыя, быццам праявілі негатыў, ды ў атрыманае светлае фота яшчэ і дадалі фарбаў.

– Вось гэта – укус, – страшэнна задаволены Шымон прадэманстраваў люстэрку чырвоную пляму на сваім плячы.

Якраз да пары следу ад ваўчыных зубоў на ягоным жа перадплеччы, прысаромлена падумала Багуслава, па чыёй віне і з'явілася адмеціна на смуглявым графскім целе.

– Дзякую... – раптам ціха сказаў Каганецкі і пацалаваў яе ў раскудлачаную макаўку. – Падумаць толькі – я рыхтаваўся да самай страшнай ночы ў маім жыцці... – ён перарывіста ўздыхнуў, быццам яму не хапала паветра. – У некаторых відаў жамяры ёсць звычай, паводле якога самка пасля... працэсу з'ядае свайго партнёра, і мне заўсёды падавалася гэта неверагодна агідным і страшным. Ведаеш, я, здаецца, так цябе кахаю, што лёгка пагадзіўся б нават на такі сыход.

– Дзякую за неверагодна вытанчаны камплімент, – з'едліва прагаварыла Багута, не ведаючы, смяяцца ці абурацца, што яе толькі што назвалі людажэркай.

Але словы і кпіны не мелі значэння, бо яны прамаўляліся як бы павярхоўна, так, лухта, бязглуздае шалупінне, якое прыкрывае сапраўдную размову, хвалюючую лучнасць.

– Трэба здабыць табе белую сукенку, – задумліва прамовіў Каганецкі, не адрываючы позірку ад іх постацяў у люстэрку. – Хачу, каб усё было, як належыць.

Багуслава, не паварочваючыся, падняла руку і запусціла тонкія пальцы, якія дасканала ўмелі забіваць, у ягоныя зблытаныя доўгія валасы. Ёй з першай сустрэчы хацелася так зрабіць.

– Ага, вясельную сукенку, яшчэ з аб'ёмістым турнюрам, ста футамі карункаў і кошыкам шаўковых ружаў... Не дурэй. Калі хочацца белага – магу загарнуцца ў прасціну. Хаця прасціны ў тваім маёнтку пахнуць склепам.

– Можна паглядзець сукенкі ў куфрах, што засталіся ад маці, – трохі памарудзіўшы, прамовіў Каганецкі. – Я ні разу туды не зазіраў, бацька, па-мойму, таксама.

Багуслава азірнулася, правяла рукой па ягонай няголенай шчацэ: гэта была кранальная, цяжкая для яго, напэўна, прапанова... Сэрца сціснулася ад таго, што ўсё роўна яна не зможа апраўдаць такі давер. Не зможа застацца з ім. Яна, забойца, належыць Справе, якая толькі яе і апраўдвае.

– Чакай, пагляджу, ці на месцы тыя куфры.

Шымон улез у нагавіцы і, як быў, басанож, агалены да пояса, з распушчанымі валасамі да плеч, смуглявы, з належным наборам шнараў на кандацьерскім целе – быццам перанесены сюды з нейкіх экзатычных выспаў, выйшаў за дзверы. Багуслава пачула ягоныя па-звярынаму ці папаляўнічаму лёгкія крокі па калідоры. Вось жа кульгавасць не перашкаджае яму ні спрытна рухацца, ні падарожнічаць на далёкія адлегласці. А можа, ён усё-ткі пераадольвае слабасць і боль, толькі не паказвае?

Нявеста... Ёй даводзілася выдаваць сябе за жабрачку, прасталытку, сястру міласэрнасці, свецкую даму, багемную мастачку... Прымяраць белы вэлюм яшчэ не здаралася.

І так хацелася забыць, што гэта ўсяго толькі гульня... Дзеля Справы...

Здаецца, паненка, ты загразла ў гэтай дрыгве так, што любыя спробы выбрацца толькі зацягваюць глыбей. Таму што і выбірацца не хочацца. Бо там, на дне, чакае Вужыны Кароль і бурштынавы палац.

Графу Каганецкаму пасавала б іншая нявеста. Вось такая, з чыстым, незамутненым злачынствамі і прагай помсты позіркам, з цнатлівымі вуснамі, з пяшчотнай ручкай, што падпірае яшчэ па-дзіцячы пульхную шчаку... Багуслава ўзяла ў рукі партрэт былой графскай нявесты, што стаяў на камодзе побач з гадзіннікам, на альбоме для фота. Вядома, рэўнасць была зусім недарэчы. Недарэчы было і злавацца на гэтую невядомую дзяўчыну, але Багуслава не здолела здушыць гнеў. Як магла гэтая красунька, якой дасталося каханне Шымона Каганецкага, адмовіцца ад яго? Яна што, не адчувала ягонай пакуты? Губы закапыліла і адступілася? Суцешылася з іншым... Ды каб хтосьці разумны, настойлівы, шчыра неабыякавы да лёсу кульгавага хлапца з ліцвінскай пушчы распытаў у яго пра ягонае жыццё, сабраў некаторыя факты, зрабіў пэўныя высновы, дык інтрыга Боўманаў скончылася б ужо даўно, і ў пана Шымона Каганецкага быў бы іншы шлях.

І не зірнуў бы ён на цябе, дачку катаржаніна, забойцу...

Багуслава паставіла на камоду партрэт і ўзяла альбом у скуранай вокладцы з металёвымі накладкамі ў выглядзе кветак. Сямейныя здымкі... У самой Багуславы, акрамя аднаго дагератыпа, нічога з мінулага не мелася.

Яна села на ложак, дзе граф столькі разоў прачынаўся ў жаху, і адгарнула старонку... Вось маленькі Шымон Каганецкі. Апрануты, як дзяўчынка, у доўгай кашульцы з фальбонамі, на каленях у прыгожай кабеты ў светлай сукенцы з каўняром пад горла, з высокай прычоскай... Багута ўявіла, як у гэтую схаваную каўняром тонкую шыю ўгрызаюцца ваўчыныя зубы... Не, лепш не ўяўляць. А вось, пэўна, старэйшы Каганецкі – прадстаўнічы мужчына, вусы, бакенбарды, вочы, як у Шымона, толькі вусны з пагардлівай такой складкай, дыхтоўны касцюм, з кішэні звешваецца тоўсты залаты ланцуг гадзінніка.

Сямейныя здымкі былі толькі да таго часу, калі здарылася страшнае на лясной дарозе. Пасля адразу пачыналіся сведчанні студэнцкіх гадоў Шымона Каганецкага. Маладыя дзёрзкія твары, прыўнесеныя ў кадр атрыбуты навукі: кнігі, мікраскопы, нават шкілет, на чэрап якога хтосьці са студыёзусаў, што згрувасціліся побач, уздзеў капялюш, а ў вышчэраныя зубы ўставіў люльку. А вось Шымон у экспедыцыях. На фоне гор, з ружжом за плячыма, у скуранай куртцы, з барадой, толькі вочы свецяцца... У стэпу, трымаючы за аброць каня, нагружанага хатулямі... І, зразумела, са сваімі ўлюбёнымі звярамі: вітаецца за руку з шымпанзэ, трымае на каленьках маленькую пуму – заўсёды ж яго цягнула да блізкага знаёмства з драпежніцамі, вось пазіруе, седзячы на слане, не раўнуючы раджа.

І ён без гэтага таксама не зможа, – ясна ўсвядоміла Багуслава. Без падарожжаў, без прысмаку волі і небяспекі. Будзе рвацца нават з залатой клеткі.

Як і яна.

І калі б іх удваіх адпусцілі на волю... Падарожнічаць па заснежаных сцежках і распаленых сонцам травах, спаць у намётах, прыціснуўшыся адно да аднаго, цалавацца ў засені платанаў, смажыць на вогнішчы ўздзетую на пруткі, толькі што злоўленую ў празрыстым халодным ручаі стронгу...

Не, гэтага не будзе ніколі. Багуслава страсянула галавой, каб адагнаць блюзнерскія марэнні, і перагарнула старонку альбома.

А вось і рамантычная частка біяграфіі. Шымон са сваёй нявестай. Урачыстыя, шчаслівыя... Вось яна адна – у альтанцы, з карункавым парасончыкам, прыціскае да твару букет. Фу, якая банальная кампазіцыя... Багуслава не ўтрымалася, каб не дастаць асцярожна фота і не зірнуць на адварот: так і ёсць, сентыментальны подпіс, маўляў, вечна буду помніць, вечна твая...

Ага, нядоўга трымалася твая вечнасць, паненка!

На апошніх старонках месцілася некалькі групавых здымкаў. Шымон на нейкіх навуковых канферэнцыях, у кампаніі з панамі, якіх можна было ўявіць толькі за кафедрамі ці ў прэзідыумах, а вось, пэўна, ён з сямействаm сваёй будучай жонкі...

Погляд на гэты просты здымак, ад якога так і патыхала мяшчукоўскім ціхім шчасцем, змусіў Багуславу здранцвець.

Побач са шчаслівай нявестай, якая цнатліва паклала ручку на сагнуты локаць жаніха, стаяла паўнаватая дзяўчына з круглым тварам, трохі пукатымі светлымі вачыма і радасна ўсміхалася, паказваючы буйныя зубы.

Грукнулі дзверы, адчыненыя без усялякага піетэту босай нагой.

– Вось што знайшоў... Можа, табе закароткае, але можна неяк задрапіраваць, ці што...

Шымон Каганецкі занёс у пакой на выцягнутых руках светлую старасвецкую сукенку, ад якой патыхала нафталінам так, што нервовая моль магла страціць прытомнасць, нават знаходзячыся на іншым паверсе.

Пабачыўшы, на што ўтаропілася Багуслава, граф нахмурыўся, кінуў сукенку на ложак і паспрабаваў узяць альбом з ейных рук.

– Не варта над гэтым перáймацца. Усё прамінула, усё адбалела.

– Чакай... – змярцвелым голасам прамовіла Багуслава. – Хто гэта, вось тут, на здымку?

Каганецкі ўгледзеўся ў альбом.

– Ды проста адна дзяўчына, нават не сваячка Кацярыны. Яе ўдачарылі бацькі Каці пасля нейкага няшчаснага выпадку, расла ў іх доме, як кампаньёнка адзінай дачкі. Яны, здаецца, выдалі яе замуж, далі добры пасаг.

– Не памятаеш, як яе завуць?

Голас Багуславы гучаў так, што Шымон спалохаўся.

– Ды што з табой? Ніякім бокам гэтая паненка ні да мяне, ні да нашага краю не датычная. Вельмі шараговая асоба, ніякай містыкі. Завуць... Вольга, так, дакладна, Вольга Паніна. Ды што з табой робіцца? Ты як прывіда ўбачыла.

Багуслава выпусціла з рук альбом, які тут жа падхапіў устрывожаны Каганецкі.

– Проста я трынаццаць гадоў пражыла ва ўпэўненасці, што гэтую дзяўчыну забіла.

Ніхель стаяў на першым паверсе з імбрыкам у руках, як быццам знарок чакаў, пакуль пан Шымон і Багуслава сыдуць па лесвіцы. Ягоная ўсмешка была шчырай, як банкаўская аблігацыя.

– Ну што, даражэнькая мая, бачу, табе ўсё ўдалося! Я ў табе не сумняваўся! Віншую! І вас, граф, з тым, што выйшлі на дзвюх, а не на чатырох канечнасцях. Пап'ем кавы, і ў дарогу!

Багуслава прымружыла вочы, бо ёй здавалася, што нават позіркам яна зараз можа забіць свайго настаўніка. Мала той страшнай праўды, якая ёй адкрылася... Некалькі цынічных словаў – і ўсё напружанне, увесь жах і шчасце гэтай ночы зведзеныя да задання, якое Багуслава паспяхова выканала. Спакусіла ненармальнага графа і ўзяла на кароткі ланцуг.

Толькі тое, што Шымон цвёрдай рукой сціснуў яе плячук, дапамагло стрымацца. Яшчэ настане час усё з'ясаваць і звесці рахункі.

А ў пакоі, тым самым, са стодамі, гонгам і разбітым вакном, дзе чакаў на занадта доўгім стале сціплы сняданак, сядзеў, як нічога не было, на венскім крэсле пан Людвіг Боўнар, быццам на доктарскім кансіліуме. Твар доктара пажаўцелы, пад вачыма прыпухла, але погляд досыць цвёрды. Ніякага раскайвання, сораму, боязі Багута, як ні хацела, не заўважыла ў гэтых азызлых рысах. Толькі змрочная іронія.

– Цябе можна павіншаваць, Шымон? – такім ветлівым голасам пасля гульні ў карты, жадаючы захаваць годнасць, звяртаюцца да таго, хто выйграў усе твае грошы. – Не думаў, што ты наважышся ажаніцца, але гэта тваё права.

– Пра мае правы лепш не разважай, – скрозь зубы прамовіў Шымон і цырымонна падвёў Багуславу да крэсла.

Ніхель ззяў, як успышка магнэзіі.

– Пан Людвіг цалкам згадзіўся, што сямейнае жыццё стане найлепшымі лекамі для ягонага пацыента, тым больш у такім выпадку не пацерпіць рэпутацыя пана Боўнара. Рэпутацыі ж так лёгка разбураюцца... Людзі ахвотна вераць нават чуткам, што хтосьці з дактароў дае пацыентам атруту. – Фатограф кінуў позірк на адрасата намёкаў, пераканаўся, што той адпаведна тузануўся, і працягваў далей размову з падвойным дном. – Мы з дачкой аднойчы праязджалі мясцовасцю, дзе быў халерны бунт. Няшчасных медыкаў, якія змагаліся з эпідэміяй, абвінавацілі ў тым, што яны атручваюць студні і не лечаць людзей, а заражваюць, і небаракаў-эскулапаў лавілі, збівалі ды кідалі ў тыя студні. Доктар-забойца – гэта, я вам скажу, персанаж, які асуджаны на агульную нянавісць.

Пакой, ачышчаны ад экспанатаў містычнай калекцыі, здаваўся пустэльным і няўтульным, як Рым пасля адыходу гунаў. Боўнар акуратна наліў сабе ў кубак гарбаты, паднёс да носа, прынюхаўся і спакойна адсёрбнуў.

– Так, доктар-забойца персанаж не самы прыемны.

Багута міжволі адчула недарэчную павагу да гэтага чалавека, які не саромеўся здзекавацца з безабароннага хлопчыка. Але баязліўцам гэты нягоднік дакладна не быў. Нават тое, што прыехаў правяраць свайго паддоследнага адзін, без сведкаў, у такую глухмень – сведчыла пра смеласць. Наяўнасць зброі ў саквояжы – пра тое, што рыхтаваўся абараняцца. А цяпер ён п'е ці не з таго кубка, у якім яму паднеслі атруту, цудоўна ўсведамляе, што яго могуць зараз забіць ці здаць у паліцыю – але і не ўспацеў...

– А судовае разбіральніцтва, следства – гэта так непрыемна і доўга... Нават калі ёсць рэчавыя доказы і адпаведныя фотаздымкі, – гэтак жа бязвінна працягваў Ніхель. Доктар толькі крыва пасміхнуўся.

– Маеце рацыю, шаноўны. Разумны чалавек стане пазбягаць такога на любых умовах.

– Скажыце мне толькі адно, пан Людвіг, перш чым мы развітаемся з вамі раз і назаўсёды, – раптам цвёрда сказаў Шымон Каганецкі. – Ад чаго насамрэч памёр мой бацька?

Боўнар зірнуў на чалавека, якога труціў доўгія гады, і ўсё-ткі адвёў вочы.

– Можаш забіць мяне, Шымон, але да смерці твайго бацькі я не датычны. Тваё пытанне варта было задаць маёй сястры.

Каганецкі ірвануўся з крэсла, схапіў сваяка за грудкі, ледзь не прыўзняўшы над падлогай, правалок праз увесь пакой і так прыклаў да сцяны, што са столі пацерушыўся век не мецены пыл.

– Што з ім зрабіла пані Антаніна? Гавары! Ці мне і праўда патрабаваць эксгумацыі, апаганіць бацькаву магілу?

Доктар у моцных руках заолага цяжка дыхаў, але не спрабаваў вызваліцца і не выказваў панікі.

– Ты нічога не давядзеш, Шымон. Ні атрутных рэчываў, ні прыкметаў гвалтоўнай смерці не будзе, я ж у свой час іх не знайшоў. Сястра мая знесла свае грахі на той свет. Адзінае, што магу выказаць – мой швагер памёр ад моцнага спалоху.

– Так, я помню выраз ягонага твару, калі ён ляжаў у труне, – прагаварыў Каганецкі, страсянуў галавой, быццам жадаючы пазбавіцца страшнага ўспаміну, і гнеўна ўтаропіўся ў сваяка.

– Я не буду падаваць на вас у суд.

Яшчэ раз прыклаў таго да сценкі і грэбліва выпусціў з рук, быццам драпежнік, які пераканаўся, што здабыча не толькі мёртвая, але і пачала гнісці, адыйшоўся.

– Дажывайце свой век у Пагневічах – я напішу дарчую, чужога мне не трэба. Але ў тэстаменце маім вас не будзе. І вас, спадзяюся, больш у маім жыцці не будзе. – Каганецкі адкінуў рэзкім рухам валасы, што закрывалі твар, і дадаў больш стрымана, але з не меншым гневам. – Я цаню, што вылечылі мяне ад дзіцячай хваробы, таму дарую, што калечылі мяне, дарослага. Каб больш я вас не бачыў. Іначай мне цяжка будзе справіцца з жаданнем засадзіць вас у тую клетку, дзе я правёў не самыя лепшыя ночы свайго жыцця, і забыцца вас адтуль выпусціць.

Ніхель задаволена падкруціў вусы, нібыта яму паказалі прыемную аперэтку. Багуслава апусціла руку, якой намацвала ў рукаве стылет. Крывавага фіналу ў гэтай амаль класічнай трагедыі не будзе. Вядома, Шэкспір ці Сыракомля перапісалі б усё па-свойму, але далучаць паліцыю было апошнім, на што б кожны з прысутных пагадзіўся.

Шымон усеўся на месца, Боўнар нервова папраўляў каўнер і гальштук, гледзячы ў падлогу.

– І не раю спрабаваць абвесціць Шымона вар'ятам, – скрозь зубы прагаварыла Багуслава. – Іначай і трупа вашага не знойдуць.

Пан Людвіг падхапіў саквояж, у якім больш не мелася ні пісталета, ні фальшывых кіпцюроў, ні бутэлечак з мескалінам.

– Веру. На вяселле напрошвацца не буду.

Рушыў да дзвярэй, але ля выхаду затрымаў крок, азірнуўся і нібыта неахвотна загаварыў:

– І ў якасці вясельнага падарунка – добрая парада. Ты не можаш адмаўляць, Шымон, што я ўсё-ткі не аднойчы за гэтыя гады ратаваў тваё жыццё. Паталогія ў табе ёсць, спадчынная псіхічная хвароба, і ты мне быў

цікавы як навуковы прэцэдэнт. Вы ўзялі з майго сакваяжа разам з іншым нататнік Радаслава Каганецкага. Раю вам, панна Багуслава, пачытаць яго, перш чым звязваць свой лёс з кімсьці з гэтага роду. Можа, клетка для вашага жаніха, унука згаданага Радаслава, падасца вам сумнай неабходнасцю. Я не забойца. Таму і папярэджваю: у горад Б* у бліжэйшыя два дні не ездзіце. Калі меркавалі вянчацца там, лепш адкладзіце свой шлюб. Я разумею – вы зараз жа збіраецеся да алтара, бо баіцеся ўсё-ткі, што я магу перашкодзіць.

– Цябе ніхто не баіцца, – важка сказаў Каганецкі, таксама ўзняўшыся. – Насмелься толькі стаць паміж мной і гэтай жанчынай – знішчу. Якая небяспека, па-твойму, чакае нас у горадзе Б*?

Доктар уздзеў капялюш і крыва пасміхнуўся:

– Непарадкі з уціхамірваннем.

Багуслава і Шымон трывожна пераззірнуліся, Ніхель перастаў усміхацца:

– З чаго вы ўзялі? Мае назіранні пра гэта не сведчаць.

– Вашыя назіранні значаць не больш, чым ёд для лячэння сіфілітычнай язвы, – пагардліва кінуў доктар, як сапраўдную манету побач з фальшывай. – Вы ж ведаеце, хутка адчыніцца гэты выбітны завод, пра які кожны дзень стракоча павятовая газетка. Прыедуць важныя персоны са сталіцы, калі не імператар – дык хтосьці з вялікіх князёў. У чаканні ўрачыстасцяў мясцовыя чыноўнікі гатовыя платы і брук уласнымі языкамі вылізаць, калі будуць ведаць, што іх старанне заўважаць. Вось камусьці прыйшло ў галаву – а можа, даслалі з Пецярбурга таемны ўказ – ачысціць горад наколькі магчыма ад небяспечных элементаў, а гэта значыць – іншаверцаў, іншаземцаў, вальнадумцаў ды ўсіх падазроных.

– Вось у гэта веру, – з нянавісцю прагаварыў Ніхель. – Да гвалту ўлады заўсёды гатовыя.

Боўнар пацiснуў плячыма – маўляў, хочаце – верце, хочаце – не.

– Горад жа з гісторыяй, у сямнаццатым стагоддзі бараніўся ад маскоўскіх войскаў так, што расейцы гарматамі сцены на друз паразбівалі, а тады палову месцічаў выразалі. Затое гараджане, што засталіся жыць, пасля адыходу асноўнага войска выразалі ноччу маскоўскі гарнізон да апошняга барабаншчыка. Мае продкі таксама пастараліся, – ганарыста пасміхнуўся доктар. – Падазроны горад. Не ведаю дакладна, што адбудзецца: ці шчырыя энтузіясты “за веру, цара і Ацечаства” пойдуць яго ачышчаць, ці шпегі падбухтораць купку пралетарыяў ды студэнтаў пабіць вокны эксплуататарам, лавачнікам няшчасным. Галоўнае, вынік: падстава ўладам умяшацца, хуценька навесці парадак, пра што зухавата адрапартуюць. А тады пачнецца расправа. Ператрусы ўчыняць, кагось з горада выселяць “для іхняй жа бяспекі”, кагось арыштуюць. Многія і самі паз’язджаюць – на час ці назаўсёды. Мне ў бальніцу, ва ўсякім выпадку, даслалі сакрэтны ліст, каб не ўздумалі хаваць у сябе пад выглядам хворых падазроных людзей. Цяпер ламаем з калегамі галавы, як спрытней замаскіраваць няправільных пацыентаў. Ну ўсё, бывайце!

– А мы з вамі яшчэ пабачымся, пан Людвіг, як дамаўляліся, не забывайце! – кінуў у спіну доктару Ніхель. Боўнар злосна адказаў цераз плячо:

– Хацеў бы, не забудуся.

І сышоў, больш не намагаючыся трымаць спіну прама.

Багуслава зразумела, што Варакса, маючы на руках доказы Боўнара-

ва злачынства, збіраецца таго выкарыстоўваць для Справы бязлітасна і бессаромна.

І шкадаваць доктара не хацелася.

А навіна, якой шчодра, як атрутай, падзяліўся доктар, была страшнай.

– Ідыёты, – Ніхель нервова хадзіў па пакоі, як быццам ваўкалакам стаў ён. – Спадзяюцца трымаць усё пад наглядам! Ды ніколі натоўп, які ап'янеў ад гвалту і беспакарання, сам не спыніцца!

Цень слізгаў за ім па сцяне, як старанны шпег.

– Гэта ж ваш улюбёны народ, дзеля якога вы гатовыя лезці ў пятлю! – з'едліва заўважыў Каганецкі.

– Натоўп – не народ, не блытайце, – няўважна кінуў Ніхель, заняты сваймі думкамі. – Багуслава, на пару словаў!

Ніхель схапіў падапечную за руку і вывеў у калідор, не зважыўшы, як тая грэбліва вызвалілася з ягонага захопу. Па калідоры блукаў скразняк, быццам прывід пакутліва шукаў выйсце з няўтульнага дома.

– Як хочаш, але ўгавары графа, што нам трэба тэрмінова вяртацца ў Б*! – загадна прамовіў пан Варакса.

– Навошта? – недаверліва папыталася Багуслава, якая ведала, што старэйшы таварыш не адыходзіў ад планаў ні на крок.

– Ты ўяўляеш, што будзе, калі падпаляць наша атэлье? – жорстка спытаў Ніхель. Багуслава збляднела. Запас бомбаў, нітрагліцэрыну, дынаміту ў іхняй лабараторыі быў такі, што разнясе цэлы квартал. Толькі што пазбавіўшыся ад цяжару забойства, не хацелася ўзвальваць на сябе новы, яшчэ большы.

– А што да нашага дома дабяруцца, вельмі верагодна, – працадзіў скрозь зубы знерваваны Ніхель. – І калі гаспадароў не будзе, дакладна залезуць. Лабараторыя наша для мясцовых цікаўных невукаў – як завадная лялька для дзіцяці, так і карціць зламаць і паглядзець, што ўсярэдзіне. Правакатары знойдуцца. І тады – канец усім планам. А з-за тваіх любошчаў мы так хутка выправіліся ў шлях, што я не паспеў схаваць хімікаліі ды рыштунак, усё для вырабу дынаміту пакінуў на стале, толькі газеткай накрыў.

– Не можа быць! – вохнула Багута, бо не магла прыпомніць, каб Ніхель падобным чынам памыляўся. Варакса з прыкрасцю цыкнуў скрозь зубы:

– І стары карась на кручок трапляе. А Параска павінна прыйсці прыбірацца, і хоць я ёй забараніў спускацца ў лабараторыю – чаму бабе не залезці туды з лепшымі намерамі? Ці ўнук яе, падшыванец Колька, ушчыміцца, і не дай Бог што там зачапне, выкліча хімічную рэакцыю... З тым поспехам маглі адразу студэнтаў прыкончыць ды з'ехаць, не ўлазячы ў жухавіцкую драму.

– І што мы зробім, калі вернемся і будзе напад? З пісталетаў адстраляемся? – халодна папыталася Багута. Ніхель задумліва крутануў у руцэ пісталет, які заўсёды хаваўся ў рукаве.

– Паглядзім па абставінах. Карацей, трэба ехаць. Ты ж з графам збіраешся вянчацца? Вось і павянчаецеся. А ён нам, калі што, будзе выдатным прыкрыццём. Абшукваць графа, уладальніка маёнтка, прафесара Венскага ўніверсітэта, ды графскіх амаль сваякоў – не тое самае, што двух прыхадняў-фатографаў.

Каганецкі пакаваў свае сумкі для падарожжаў верхам. Рэчаў у яго было

няшмат. Калі ў пакой зайшла Багуслава, ён якраз засоўваў у сядзельную сумку матчыну белую сукенку.

– Адпраўляемся ў Вену. Галоўнае – да вакзала дабрацца. Не пакіну цябе з гэтым вусатым вупыром ні на хвілю. Фактычна, слова, дадзенае яму, стрымаю – абвянчаемся, пашпарт табе выпраўлю... Але ад сябе не адпушчу, хай не спадзяецца.

Багуслава разумела, што ён сто разоў мае рацыю. Што цяпер, калі выкрыты падман Ніхеля, яна можа і мусіць змяніць сваё жыццё. Але не магла... ну проста не магла вось так адразу адрынуць усё, ува што верыла доўгія гады, што было сэнсам яе жыцця, дазваляла глядзець у вочы юнаку на дагератыпе і казаць: “Я за цябе адпомшчу”. І баялася таго, што можа ў выпадку аслушэнства ўчыніць Ніхель.

– Нам трэба вярнуцца ў Б*, – нежыццёва прагаварыла Багута.

– Ты жартуеш? – Каганецкі падыйшоў і страсянуў яе за плечы. – Ты ведаеш, што такое непарадкі і іхняе ўціхамірванне ў гэтай дзікунскай імперыі? Зараз жа на коней – і рушым у супрацьлеглы бок. Калі гэты, твой так званы бацька, паспрабуе нас затрымаць – пашкадуе.

Багуслава сумна ўсміхнулася: так, Шымон спрытны і дужы, і справіўся падчас бойкі з ёю, але з Ніхелем... Ніхель умее забіваць нават гузікам альбо аркушам паперы і ніколі не вагаецца.

– Разумееш, могуць загінуць людзі... Я павінна ехаць. І Ніхель – так, ён страшны ў сваёй бязлітаснасці. Але ён з трынаццаці гадоў быў для мяне ўсім. Бацькам, настаўнікам, таварышам, каханкам...

Апошняе слова яна вымавіла цераз сілу – і Каганецкі нахмурыўся, пачуўшы. Але ілгаць не хацелася.

– Ён столькі разоў ратаваў мне жыццё... Вылечваў, калі прастывала. Дапамагаў выбіраць сукенкі... Калі я захацела атрымаць адукацыю – уладзіў на Бястужаўскія курсы, хаця для гэтага трэба была куча падробных дакументаў і грошай, і мне ўдалося амаль два гады пахадзіць на лекцыі, пакуль нешта не западозрыла камісія Валконскага па выяўленні нядобранадзейных курсістак. Ніхель займаўся са мной хіміяй, навучыў фатаграфіі... Зразумей – я не магу проста так узяць і ўсё кінуць, асабліва калі належыць прадухіліць страшны выпадак. – Багуслава пагладзіла шчаку Шымона, абвяла пальцам цвёрды абрыс ягоных вуснаў. – Уяві: ты падчас вельмі важнай, дарагой табе справы ўспамінаеш, што пакінуў у зачыненым пакоі непатушаную свечку, і ад яе вось-вось загарыцца дом, поўны бездапаможных людзей... Няўжо ты зараз жа не адкладзеш усё і не вернешся?

Каганецкі цяжка ўздыхнуў:

– Цябе не пераканаць, разумею. Добра, з’ездзім у Б*. Чакай...

Ён пакорпаўся ў кішэні і дастаў залаты пярсцёнак, цьмяны, падрапаны, з дробнымі чырвонымі каменьчыкамі, якія складаліся ў кветку, падобную да вяргіні.

– Фамільнае... Дзед не паспеў прайграць у карты, а бацька – памяняць на чарговую мумію.

Пярсцёнак якраз уздзеўся на безыменны палец Багуславы. Шымон пацалаваў яе тонкую руку і прамовіў, гледзячы неяк тужліва:

– Я чуў песню пра чалавека, якому наваражылі, што ягоны лёс вырашыць нехта па імені Такен, які жыве высока ў гарах. І хаця ўсе ўгаворвалі не будзіць ліха, смяльчак узброіўся і адправіўся шукаць невядомага Та-

кена, каб выклікаць на бой. Прыйшоў у горы і ва ўвесь дых выкрыкнуў страшнае імя. Ад рэха здарыўся абвал, пад якім небарака і загінуў. Я цяпер адчуваю сябе, быццам адпраўляюся да Такена.

Багуслава, не ў змозе справіцца з трывогай і жалем, абняла Шымона, прыціснулася да яго, як да апошняга паратунку, прапусціла праз пальцы пасмы русявых валасоў, як скнара – залаты пясок:

– Я не хачу жыць, калі з табой што здарыцца. Давай так... Ты будзеш чакаць мяне на вакзале ў Вільні...

Падняла вочы... І пабачыла з-за пляча Каганецкага акуратнага ветлівага Ніхеля, які праз прачыненыя дзверы скіроўваў пісталет у спіну графа.

Пан Варакса ўсміхнуўся, і Багуслава цвёрда прагаварыла, каб чуў нязваны сведка:

– Едзем у горад Б*. Там царква, дзе нас павянчаюць. Ад лёсу не схаваешся.

Дажджу не было, затое ўсчаўся вецер. Ён выў, нібыта празрысты злы воўк, страсаў халодныя кроплі з ігліцы, кідаўся на мінакоў, быццам юрад, выпрошваючы капейчыну або спрабуючы паведаміць страшнае прымроенае прароцтва. Шлях размок, як хлеб у місе з квасам. Там, дзе па абодва бакі дарогі была дрыгва, глеба стала пругкай, адчувалася, што пад коламі – грэбля, насцеленая над безданню і прысыпаная пяском, і вось-вось бездань паглыне гэтыя жаласныя спробы абмежаваць яе прагу ахвяраў і волі.

Вецер біўся ў шчыльную тканіну навеса над брычкай, як у ветразь, так, што здавалася, быццам экіпаж вось-вось ператворыцца ў віціну і паплыве наўзбоч дарогі. Багуслава завязала шаль паўзверх капелюша, канцы адчайна трапяталіся ў паветры. Дарогай амаль не размаўлялі. Багута баялася, што Ніхель адчуе яе расчараванне і агіду, і здагадаецца, што яна больш не хоча ягонай улады над сабой. Не хацелася, і каб слухаў іх з Шымонам размовы. Урэшце, вочы таксама могуць шмат сказаць. Багуслава проста прыхінулася да краю брычкі і глядзела на вершніка, які ехаў то побач, то трохі апярэджваючы экіпаж, у залежнасці ад дарогі. Вецер матляў ягоныя русявыя валасы, змушаў час ад часу прыгінаць галаву, калі сцябаў проста па вачах... І больш за ўсё хацелася, каб зноў пад'ехаў блізка, і працягнуць насустрач руку, каб на імгненне адчуць дотык ягонай...

Усяго толькі дотык – а быццам электрычнасцю працінае ўсё цела, і быццам у гэтай адной кропцы цялеснага кантакту на імгненне засяродзіўся вялікі сэнс вялікага сусвету.

У такія моманты Ніхель упарта насвістваў арыю Папагена з оперы Моцарта.

“Я ўсім вядомы птушкалоў...”

Але Багуслава больш не баялася быць злоўленай птушкай.

Яны абодва вырваліся са сваіх клетак – кульгавы нашчадак здраднікаў, якому з дзяцінства даводзілі, што ён звер, і дачка пакаранага інсургента, звыклая да думкі, што яна – забойца.

А яны абое проста з тых заблукалых дзяцей гэтай зямлі, якія не ведаюць, хто яны, і вераць тым, каму не варта.

Бо так спаконвеку тут рабілася гісторыя.

## Раздзел дзявяты. Палац вужынага караля

Мястэчка сустрэла цішынёй. Толькі вецер ганяў па апусцелых вуліцах рудое лісце ды ашмёткі садраных афішак пра візіты ў горад Б* заезджых магнетызёраў, спевакоў і дрэсіроўшчыкаў, вядома, праездам у Парыж альбо ў Вену.

Вена з універсітэтам і вальсам далёка, а тут было павятовае мястэчка, якое прыціхла ў трывозе. Багуслава ўспомніла верш без подпісу з адной левай газеткі:

Тут, у мястэчку, для шчасця – надзейны камплект:
Месца для танцаў, пякарня, шынок і аптэка.
Ёсць варажбітка, сказаць: ты кароль, не валет,
Ёсць пастарунак – вартуе спакой чалавека.
Кафешантану няма, ды вось-вось завядуць.
А балаганаў хапае. Вакол балаганы.
Маецца рэчка, каб з моста пляваць у ваду,
Ёсць і паэт. Дэманструе багемы заганы.
Млын вадзяны, як належыць, прытулак чарцей.
Могілкі ёсць, сінагога, царква і званіца.
Школа, дзе вучаць на мове чужынцаў дзяцей,
Пустка, дзе можна напіцца, кахацца, забыцца.
Тут, у мястэчку, не любяць складаных размоў.
Воля? Якая? Кнігарня? Навошта, спадарства?
Ціха рачулка нясе між крутых берагоў
Воды свае запляваныя ў соннае царства.
Можа, калісьці чыгунка сюды забрыдзе,
Можа, народзіцца геній у хатцы тутэйшай.
Ходзіць паэт з ліхтаром і шукае людзей,
І асыпаюцца лісцем маўклівыя вершы.

Багуслава, хоць усялякага набачылася за не вельмі доўгае жыццё, не магла ўявіць: няўжо знаёмыя ёй местачкоўцы будуць біць вокны сваім не багацейшым ад іх суседзям, з якімі сустракаліся кожны дзень на вуліцах і кірмашах, у якіх замаўлялі боты, сукенкі і тарты з крэмам безэ, толькі за тое, што тыя не так думаюць альбо ходзяць у іншы храм? Не, гэта ўявіць было немагчыма. Калі яны апынуліся на Беларусі, Багуславу вельмі дзівіла тое, пра што гаварылі Масевіч і Каганецкі, дзіўнае спалучэнне культур, якога не мелася ў глыбінцы Расіі. Каталікі, праваслаўныя, габрэі, мусульмане, лютэране... У мястэчку Б* усе па святах выходзілі на адзін пляц, каб паглядзець батлейку ці выбраць лепшы кавун. Усе віншавалі маладых, калі ішло вяселле, і спачувалі жалобнай працэсіі, незалежна ад таго, на якія могілкі нясуць нябожчыка.

Багуслава ведала, што рэвалюцыя непазбежная, і падчас яе будуць вялікія ахвяры. Але справакаваныя агентамі сутычкі – гэта было брыдка. Гадзюка раз на год са скуры лезе, а здраднік – кожны дзень.

У фотаатэлье Ніхель найперш кінуўся ў лабараторыю, дзверы грукнулі ўнізе, быццам вечка скляпення.

Каганецкі стаяў са змрочным выглядам пасярод пакоя, дзе столькі месцічаў увекавечыла сваё аблічча на фоне намаляваных мармуровых калонаў, кошыка штучных кветак на каванай падстаўцы і ўласнай значнасці для сусвету. Кацяняты на фотаздымках лупілі наіўныя вочы на вучонага госця, нібыта баяліся, што ён іх зараз класіфікуе. У куце красаваўся стандартны партрэт імператара, наклеены на кардонку.

– Ніхель хоча, каб мы пакуль лічыліся добранадзейнымі грамадзянамі, – з няёмкасцю прамовіла Багуслава, перахапіўшы скептычны позірк графа на царскі партрэт. – Нам цяпер гэта неабходна. Мы ні ў якім разе не мусім выклікаць падазрэнняў.

Каганецкі абняў яе і змусіў сустрэцца позіркам з ягонымі шэрымі вачыма.

– Я ж разумею, што ты ўблыталася ў нейкую небяспечную справу. Скажы, што вы рыхтуеце? Якім чынам цябе з гэтай авантуры выцягнуць?

Багуслава адчайна пакруціла галавой.

– Не магу сказаць...

Шымон расчаравана адпусціў яе, прайшоўся, пакульгваючы, па пакоі.

– Што ж, я ўсё роўна звязу цябе за мяжу адразу пасля вянчання, і хай твой настаўнік хоць...

Багута падскочыла да Шымона і ў спалоху закрыла яму рот далонёй.

– Ні слова... Ніхель не павінен ведаць, што я збіраюся з'ехаць з табой. І пра тое, што я пабачыла ў тваім фотаальбоме. Мы можам паспрабаваць толькі патаемна ўцячы. Інакш... Павер, табе лепей было б са мной не звязвацца.

Шымон, сын поўні, пацалаваў яе руку з пярсцёнкам, потым – вусны... Пацалунак зацягнуўся. Час прадказальна застыў, нібы жонка Лота, што азірнулася на палаючы горад.

– Я ж сказаў, не пакіну цябе... – прашаптаў Каганецкі, нарэшце адсланіўшыся. – Аднойчы я выкраў рэдкага белага тыгра з заапарку азіяцкага вяльможы, які збіраўся прынесці незвычайнага звера ў ахвяру мясцоваму бажаству. Мне ўсе казалі, што гэта глупства, каб яшчэ дзеля выратавання людзей так рызыкаваць – але я быў малады, адчайны, і мне хацелася справядлівасці нават для звера. Я выкраду цябе ў твайго Цэрбера і ўсіх вашых цэрберанятаў...

На хвілю ў гэта паверылася. Багуслава лёгка пацалавала графа ў куточак вуснаў, пацерлася шчакой аб падбароддзе, якое ўжо не было такім калючым – пагаліўся, дзікун... Побач з Шымонам у суровай рэвалюцыянерцы нібыта прачыналася "ўнутраная котка", хацелася лашчыцца, прыхінацца, грэцца аб яго, адчуваць ягоную скуру, дыханне, біццё сэрца... Няўжо гэта змогуць у яе адняць?

– Мы паспрабуем, мой ваўкалак... Абяцаю... Але гэта складаней, чым з тыграм.

А потым з'явілася цётка Параска, шчыльна абвязаная белай хусткай, у плюшавым каптанчыку, маленькая ростам, каржакаватая, з тых кабетаў, якія нібыта носяць на сабе ўсе клопаты зямныя, вырашаючы іх ціха, непрыкметна і менавіта так, як належыць. Прыслуга паставіла на падлогу кошык, накрыты хусткай. У пакоі з'явіўся пах свежага хлеба.

– А я ўсё чакала, калі вы вернецеся, вашамосць. Во, пабачыла, што коней у стайню паставілі, думаю, пайду, вячэру панам занясу. Страшна ж сёння ў горадзе, вокны б'юць.

– А хто б'е, цётачка Параска? – адразу папыталася Багуслава.

– А Бог іх ведае, панначка... – цётка пакорліва ўздыхнула. – Колька мой расказваў, у іх на будоўлю чалавек прыйшоў у картузе і расказваў, што нейкія сацалісты ў мястэчку развяліся, таму да нас цар-бацюхна прыехаць не хоча. Трэба тых заразаў выгнаць, тады цар з'явіцца і ўсім па срэбным келіху дасць. Пытаўся той у картузе, хто хоча сацалістаў паганяць, але

ніхто не азваўся, пару чалавек толькі апойкаў, ды адзін дужа злы ў іх ёсць, крывароты, цэглу цягае. Таму ўсё адно, каго біць.

Шымон трывожна перакінуўся позіркамі з Багуславай:

– А якія ж у мястэчку сацыялісты, цётачка? Называў іх той чалавек?

Прыслуга прыгладзіла рукой край бялюткай хусткі, быццам баялася, што з-пад яе выб'юцца неслухмяныя пасмачкі валасоў.

– Не, не называў. Але з тымі, хто згадзіўся, доўга гаварыў і спіс ім паказваў. Хто, значыць, у мястэчку вораг цару.

– І хто там быў, у спісе? – нецярпліва папыталася Багуслава. – Нас, выпадкам, не згадвалі?

Цётка некалькі разоў спалохана пераажагналася.

– Барані Божа, дзетачка... Чаго ж вы там будзеце? Не ведаю, хто. А вы, вашамосць, мусіць, не з нашых краёў? – цётка не змагла пераадолець цікавасць і звярнулася да Каганецкага, чый дарагі касцюм і ганарысты выгляд не маглі яе не ўсхваляваць.

– Я жаніх панны Багуславы, граф Шымон Каганецкі, – пакланіўся заолаг.

Ветліва так пакланіўся, усмешліва...

– Ці не з Жухавіч пан будзе? – неяк насцярожана прагучала.

– Гэта мой маёнтак, – стрымана адказаў Шымон.

Багуслава была ўпэўненая, што Параска, якая любіла пагаварыць на тэму – як знайсці паненцы добрага жаніха, узрадуецца, пачне віншаваць, распытваць, калі вяселле... А цётачка чамусьці збялела і, хаваючы вочы, схапілася за кошык:

– Ну, я пайду на варыўню, вячэру падрыхтую... Вады трэба нанасіць... Печку працепліць, а то хата ўжо выстыла... Я ўчора прапальвала, але дух выйшаў... Барані нас, Маці Божая... Святы Кіпрыяне, святая Іусцінія, святы Хрыстафор.... – спалоханае мармытанне прыслугі сціхла за дзвярыма на варыўню. Багуслава з няёмкасцю зірнула на Шымона – ці не зачапіла яго такое стаўленне цёткі, якая, падобна, начулася гісторый пра жухавіцкіх ваўкалакаў. Але Шымон толькі сумна ўсміхнуўся, і Багуслава абхапіла яго, прыціснулася, быццам хацела адагрэць.

– Выканай маю просьбу, калі ласка... – шапнуў ёй на вуха ваўкалак. – Прымер сукенку маёй маці...

Шылі, як па Багуце... Толькі рост трохі не супадаў: Багуслава была вышэйшай. Аголеныя плечы, карункавыя рукавы, доўгія, аж да костачак пальцаў, верх – паласа са срэбнага муару, расшытага перлінамі, талія заніжаная, як цяпер не носяць, мноства дробных гузікаў-перлінаў збягаюць ад выёміны між грудзямі ўніз, як скочваюцца расінкі...

– Паабяцай, што не будзеш фарбаваць валасы ў чорны колер... – прашаптаў Шымон, асцярожна, ледзь датыкаючыся, абводзячы далонямі абрысы фігуры нявесты.

– Можа, табе не спадабаецца... Мае валасы – попельныя... Бясколерныя...

– Спадабаецца... Любая мая мятлушка...

Хвіліны паўзлі марудна, як смаўжы. За вокнамі па-ранейшаму ціха, як не бывае ў мястэчку. Ні катрынкі, ні заклікаў тачыльшчыкаў, старызнікаў, малочнікаў, ні смеху дзятвы. Толькі завываў вецер, ды дзесьці адчайна брахаў сабака. Прыслухаешся – здаецца, чуваць далёкія крыкі... А можа,

мсціцца? У пажарнай частцы праз дарогу стаялі напагатове калёсы з бочкай, напоўненай вадой, і насосам, самотная фігура чарнела на вяршыні пажарнай каланчы.

– Праз гадзіну пачне цямнець, вось і ўсё абыдзецца, – сказаў Ніхель, які нарэшце выпаўз са скляпення, задаволены, як пацук з панскай каморы. Багуслава паверыла: магчыма, сюды непарадкі і не дойдуць – цэнтральная вуліца, начальства не захоча псаваць яе выгляд.

Колы самотнага экіпажа расплюхвалі лужыны на вуліцы нечакана гучна ў застрашлівай цішы. Едуць даволі хутка...

Экіпаж спыніўся ля фотаатэлье, і адразу ж у дзверы нехта застукаў.

– Адчыніце, дзеля Бога! Ёсць хто? Панна Багуслава, пан Ніхель, вы вярнуліся?

Міхал Калоцкі ўваліўся ў фотаатэлье, адразу сваім выглядам адпрэчыўшы надзею на “ўсё абыдзецца”. Потны, валасы ўскудлачаныя, на падрапанай шчацэ кроў, каўнер кашулі наросхрыст, гузікі вырваныя з мясам, быццам цягалі археолага за каўнер, зверху накінутае захляпанае гразёй чорнае паліто, а цёмныя вочы проста шалёныя. Як з ваўкалацкага вяселля.

– Дзе здымкі экспанатаў з Жухавіч? – голас, аднак, гучаў па-дзелавому адрывіста. – Давайце ўсё, што ёсць, у любым выглядзе. Негатывы, дык негатывы. У Піцеры праявяць.

Ніхель быў ветлівы, як гандляр падвялымі кветкамі.

– Што здарылася, пан Міхал? А дзе ваш шаноўны сябар, Давыд Масевіч?

– Давыд там, застаўся... У сваякоў, у доме з кніжнай крамай, – нервова махнуў рукой Калоцкі за вакно. – Упарты, як п’яны певень. Гаварыў яму – уцякай, не захацеў. А цяпер позна. Нейкая банда па вуліцах ходзіць, гарлаюць, што трэба з горада выганяць сацыялістаў. Як убачылі кнігі ў вітрыне – раз’юшыліся, і давай шкло біць. Хоць бы краму не падпалілі. Нікога з іх не ведаю, хіба пару апойкаў.

– А вы чаму ўцякаеце? – злосна спытала Багуслава, якая паспела пераапрануцца ў звыклы кардыган у краткі і дарожную брунатную спадніцу.

Калоцкі кінуў незадаволены позірк на яе, на графа, але калі і бачыў у тым шчаслівага суперніка, цяпер было не да рамантычных двубояў.

– Я тут нядобранадзейны, за мной паліцыя сочыць. Вось, толькі што спрабавалі збіць... Каменем шпурнулі, – Калоцкі паказаў на скрываўленую шчаку, якая пачала заўважна апухаць. – Мне хавацца ў мястэчку не выпадае. Не заб’юць – дык адлупцуюць да паўсмерці, а потым яшчэ паліцыя навесіць невядома што... А ў мяне праца, дысертацыя! За гэтыя фотаздымкі куратар з універсітэта абяцаў на кафедру ўзяць. Я служу навуцы! Давайце негатывы, і мы ў разліку. Хутчэй, мяне чакае экіпаж, пашкадавалі добрыя людзі, падвязуць да чыгункі. А коней і брычку, на якіх у Жухавічы ездзілі, самі вернеце Гаўрылу Лешчанцу. Мы з ім разлічыліся.

Ніхель падкруціў вусы і пайшоў па скрынкі ў сутарэнне. Каганецкі грэбліва прагаварыў:

– А хіба пан Масевіч не мае таксама права на карыстанне гэтымі здымкамі? Што ж вы яго абыходзіце?

Археолаг ад нецярпення прытупваў па падлозе чаравікам.

– Калі Давыд прыедзе ў Пецярбург, я, вядома, з ім падзялюся. Але ж ён пакуль толькі студэнт, манаграфій не піша.

– І, магчыма, вярнуцца ва ўніверсітэт пасля сённяшніх падзей яму не ўдасца, – змрочна зазначыла Багута. Калоцкі прыгладзіў дрыжачай рукой растрапаныя кудзеры, паправіў парваны каўнер.

– А што я мог зрабіць? Дазволіць сябе прыкончыць? Вас там не было, вы не бачылі, як гэта! Чалавек трыццаць з дубінкамі, дручкамі, сякерамі... Сярод іх падазроныя персоны, усіх пад'юджваюць. Пані Мамантавай, у якой на чытаннях Караленку абмяркоўвалі, вокны пабілі. Настаўніка Кагутова, які збіраў подпісы на скарзе супраць бурмістра, ледзь не затапталі. А кніжная крама Масевічаў – гэта ж "гнязды анархіі". Іх і так ледзь не штомесяц абшуквалі, колькі літаратуры сканфіскавалі! Давыд крычаў, што будзе абараняцца... Чым, чарніліцай з атрамантам? Апошняе, што я заўважыў – кнігі паліць пачалі. Усё, мне час...

Калоцкі падбег да Ніхеля, які вярнуўся ў пакой, выхапіў у таго з рук скрынкі з негатывамі і выскачыў за дзверы не развітваючыся. Адразу ж пачулася лясканне пугі, мокры стук капытоў і плёханне колаў па лужынах горада Б*.

Багуслава выскачыла за госцем на ганак, угледзелася ў той бок, адкуль прыехаў экіпаж. Прыцемак барвавеў. Пажар! Але фігура на каланчы, якую яшчэ трохі было відаць на фоне цёмна-сіняга неба, што абяцала выспеліць гронкі зорак, нават не зварухнулася.

– Вар'яты... – прамармытаў Каганецкі. – Сёння моцны вецер... Агонь не будзе разбіраць, які дом паліць.

Вярнуліся ў хату прыгнечаныя. Ніхель зараз жа зачыніў дзверы на засаўку.

– Усё, цяпер сядзім ціха. Багута, дарагая, пакажы пану Шымону свой пакой.

Ясна, спадзяваўся, што прага пабыць сам-насам, якую ён легка чытаў у іхніх рухах і позірках, пераб'е ўсе іншыя думкі. Але Багуслава ўспомніла Масевіча, і як ён тут стаяў, не вельмі прадстаўнічы на фоне плячыстага сябра, і, пераадольваючы страх, пагражаў ім з Ніхелем выкрыццём, і як захоплена распавядаў легенды і паданні, і пра сваё дзяцінства, спрабуючы пераканаць усіх – трэба любіць гэты край, гэты народ і нават гэтае мястэчка...

– Мы не можам проста так сядзець і чакаць, – прагаварыла Багуслава. – Трэба паглядзець, што там з Масевічам, магчыма, ён і ягоныя хатнія параненыя...

– Забудзься, – жорстка сказаў Ніхель. – Да вялікіх стратаў не дапусцяць. Ты ж чула – гэта ўсяго толькі правакацыя. Нагоняць жаўнераў, і будзе ціхенька, як заўсёды. Не стаў пад пагрозу Справу. Займіся жаніхом. Пан Каганецкі, – Варакса ветліва ўсміхнуўся графу. – Спадзяюся на вашу разважлівасць. Перацярпіце гэты дзень у замкнутай прасторы – вы ж звыклі.

За вакном нехта прабег, лямантуючы, войкаючы, але нягучна, як бы ў спалоху, што пачуюць. Крык аддаляўся, і ніводныя дзверы, ніводнае вакно не расчынілася. Ніхель не зварухнуўся, але важка прамовіў:

– Поспех нашай Справы прывядзе і да таго, каб падобнае больш не паўтаралася. Ты, Багута, хочаш вылечыць адну балячку, а трэба ацаляць усё цела ад воспы. Ідзіце, маладыя... Адпачніце. Назапасьце гнеў і нянавісць, каб спраўдзіць у больш спрыяльных умовах.

Пан Варакса павярнуўся і зноў рушыў у лабараторыю.

Багуслава вычакала, пакуль грукнуць дзверы, кінулася ўніз і замкнула іх на засаўку.

– Цяпер бяжым!

Перад тым, як выскачыць з атэлье, Каганецкі, з ружжом за спінай, прыпыніўся, каб сарваць са сцяны партрэт Багуславы.

Вецер збіваў з ног, цемра наплывала на горад, дзе яе было досыць у сэрцах. Сухую лістоту гнала па дарозе, як быццам ратаваліся ад будучага белага патопу зімы казачныя істоты, падобныя да гномаў.

– На адным кані далёка, вядома, не заедзем, – з сумнівам прагаварыў Каганецкі, сядлаючы свайго белага Баярда. – Але за горад як-небудзь выбярэмся, галоўнае – да карчмы дабрацца, там рамізнікі заўсёды спыняюцца.

Калісьці Багуслава разглядала малюнкі ў рыцарскіх раманах і ўяўляла, як, падобна іншым прыўкрасным дамам, стане падарожнічаць на адным кані са сваім рыцарам, гэтак грацыёзна седзячы побач. Рыцар быў, хаця й трохі кульгавы і без латаў, конь меўся, і нават белы, але сядзець удваіх у адным сядле аказалася страшэнна нязручна і мулка. Шымон кінуў на сядло складзеную папону, пасадзіў Багуславу перад сабой, абняў адной рукой:

– Пацярпі...

Патрапаў па шыі каня:

– І ты пацярпі, дарагі... Нейкі час будзе цяжкавата.

Грацыёзнасці відавочна не хапала. Затое збоку выкраданне нявесты выглядала як належыць, рамантычна.

Чым бліжэй яны пад'язджалі да другога канца горада, дзе месцілася кніжная лаўка, тым больш прыцемак расквечваўся барвовым і памаранчавым, неба пералівалася рознымі колерамі амаль па-святочнаму, але гэта было страшнае свята.

Яны ўжо амаль даехалі да ўскраіны, калі пачуўся адчайны крык:

– Супакойцеся, людзі! Успомніце, што вы не звяры! Што вы робіце, у доме жанчыны, старыя!

У адказ – бязладны гул грубых галасоў.

– Гэта Давыд!

А голас адчайна гарлаў:

– Людзі, суседзі! Дапамажыце! Не сядзіце, як здрайцы, не адседзіцеся па норах сваіх! Усе разам абаронімся!

Не трэба было ні аб чым адно з адным дамаўляцца, тлумачыць, пераконваць. Шымон павярнуў каня...

Першае, што яны пабачылі – языкі полымя высоўваліся з вокнаў, быццам у будынак загналі велізарнага звера, які там цалкам не змяшчаўся. Агонь уладарыў у разбітай вітрыне, ад статуі Мінервы застаўся толькі гіпсавы друз. Яшчэ больш дзіўным і вычварна-святочным рабіла пейзаж, што ўсё навокал было ўсыпанае белымі аркушамі паперы – у краме гандлявалі і канцылярскімі таварамі. Нехта, відаць, забаўляўся, учыняючы штучную завіруху, таму што нават ясень, які рос ля крамы, побач з самай дарогай, быў нібыта ў сумётах: у ягоныя густыя галінкі з сухімі рудаватымі завушніцамі паначапляласяя паперы, аркушы трымцелі на вятры, як белыя хустачкі тых, хто хоча здацца на літасць ворага.

Агонь шалеў. Людзі, што стаялі вакол, некаторыя з паходнямі ў руках, пачыналі адыходзіцца падалей. Мяркуючы па не вельмі асэнсаваных

тварах, перад “праведнай справай” ачышчальнікаў добра пачаставалі дармовай гарэлкай. Яны тапталіся па разадраных кнігах з абвугленымі старонкамі. Сярод гэтых кніг знаходзіліся, напэўна ж, працы прафесара Каганецкага.

– Так і трэба фармазонам! – віскнуў нехта, але крык не падхапілі. Проста змрочна паглядалі, як бы баючыся таго, што нарабілі.

– Вызваліце дзверы, нягоднікі! – у вакне паказаўся бледны твар Давыда. Вось яно што! Аўтадафе – гэта ўжо зусім не па-людску...

А пажарныя нібыта не бачаць! Ясна, знаку начальства не падае. Кніжная крама трохі наводдаль ад іншых дамоў, спадзяюцца, што згарыць “гняздо вальнадумства” без аніякай шкоды і “ў назіданне” іншым.

У паветры прагучаў стрэл. Людзі заазіраліся...

Белы конь змусіў нападнікаў разарваць кола. На кані прыскакалі двое: мужчына з гнеўным смуглявым тварам, шэрыя вочы яго свяціліся гневам, і дзяўчына з кароткімі чорнымі валасамі, гнуткая і спрытная, як змяюка. Абое саскочылі на зямлю проста перад крамаю, мужчына наставіў на натоўп ружжо:

– Разыдзіцеся! Вы што, на катаргу захацелі? Душагубцамі зрабіцца? Людзей жыўцом паліце?

У разбітай, разрабаванай краме за ягонай спінай вар'яцеў агонь, і прайсці праз яго было немагчыма. А дзверы збоку, якімі карысталіся жыхары дома, чые пакоі месціліся на другім паверсе, былі сапраўды заваленыя – да іх нацягалі ламачча, прыпёрлі перакуленай лаўкай. Багуслава таропка пачала расцягваць завал.

– Гэта таксама сацалісты! Фатографка-курва! – правішчэў голас злева з-за спінаў. – Бі іх!

Граф яшчэ раз стрэліў у паветра, цэлячы вышэй галоваў.

– А ну, разысціся! – грымнуў ён такім голасам, якім, напэўна, звык уціхамірваць дзікіх драпежнікаў. І двухногія драпежнікі горада Б* таксама трохі прыціхлі, пасунуліся назад, той-сёй і заазіраўся, ці праўда не сысці.

– Пан Шымон, злева! – крыкнуў Давыд і шпурнуў з вакна цяжкі прадмет, магчыма, падсвечнік, туды, адкуль таксама пачуўся стрэл – нехта з нападнікаў быў узброены.

Шымон адразу захінуў сабой Багуславу, якая, спяшаючыся, расцягвала завал. Граф справіўся б з гэтым хутчэй, але дужы суровы мужчына з ружжом уздзейнічае на натоўп куды лепш, чым танклявая дзяўчына з пісталецікам. Мігатлівыя водсветы пажару надавалі смугляваму чалавеку з перабітым носам падабенства з жалезнымі кандацьерамі і ландскнехтамі, сабакамі вайны сярэднявечча.

– Вар'яты!

У адказ у графа паляцеў камень. Спалоханы Баярд іржаў, біў капытамі, кідаўся па двары, таксама спрыяючы таму, што мярзотнікі адбегліся падалей.

На шчасце, дзверы ўдалося вызваліць. З іх адразу вываліліся задыханыя, заперханыя ад дыму людзі – сівы мужчына хіліў да сябе пераляканую немаладую кабету ў каптуры, другі, маладзейшы, хаваў за сабой хлопчыка гадоў дзесяці. Выбег і Давыд, наставіўшы на нападнікаў сапраўдную масайскую дзіду, упрыгожаную пукам рознакаляровых стужак, з шырокім лязом-наканечнікам. Рудыя валасы кніжніка смешна тапырыліся.

– Усё жыццё марыў, каб мяне вызваліў з асаджанага замка рыцар на белым кані, ды яшчэ разам з прыўкраснай дамай!

Этнограф не быў баязліўцам.

– Масевіч, выводзь сваякоў, мы затрымаем гадаў! – крыкнула Багуслава, пад прыкрыццём паваленай на бок лаўкі выхапіла пісталет і стрэлам збіла картуз з высокага хлапца. Шымон прыстроіўся побач і выбіў куляй у бялявага мужыка дручок. Мужык войкнуў і кінуўся прэч, схапіўшыся за руку. Другія нарэшце таксама ўсвядомілі небяспеку і шуганулі ўбакі, хаваючыся за дрэвы.

– Вось так і будзем хадзіць разам на паляванне ў джунглі, – задаволена прамовіў Каганецкі.

Багуслава зноў на хвілю ўявіла – якім можа быць жыццё разам з Шымонам, і ажно туга па тым, нявдзейсненым, перахапіла дыханне. Вось яны едуць конна па дарозе, дзесьці высока ў гарах, сонца ўзыходзіць, вакол ціха-ціха, паветра свежае, як сырадой, і так спакойна, так шчасна...

Вецер падхапіў чырвоныя штандары полымя, што высоўваліся з вокнаў блюзнерскага дома, і яны прагна выцягнуліся, загулі... Гарачыня рабілася амаль нясцерпнай, Багуслава адчувала, як ледзь не патрэскваюць ад жару валасы.

– Разыходзьцеся, людзі, Хрыстом Богам прашу! – пракрычаў Каганецкі. – Хопіць на сёння! Ідзіце па дамах, спаць!

Нападнікі бязладна загарлалі з-за плота, брудная лаянка мяшалася з пагрозамі ў бок сацыялістаў, іншаверцаў, іншаземцаў ды іншародцаў. Рэйд па выкараненні вальнадумцаў паграджаў перарасці ў пагром. Ачмурэлыя ад гарэлкі, гвалту і ўсведамлення слушнасці сваёй місіі тубыльцы не жадалі заканчваць начное свята. Багуслава пацэліла ў паходню ў руцэ высокага хлапца ў кажуху, і той ад спалоху і злосці шпурнуў яе ў бок сацыялістаў. Палка, абматаная прасмоленай палаючай анучай, застрала ў галінах ясеня. Адразу ж успыхнулі сухія галінкі і папяровыя лісты, што застралі ў іх, дрэва цяпер нагадвала вогненныя валасы багіні пекла...

І, як на бяду, усчаўся страшэнны вецер... Такі, які ломіць слабыя дрэвы і слабую волю падарожных. Вогненныя аркушы сарваліся з галля і паляцелі ў паветры, быццам лісты са скаргамі да анёльскага войска... Анёлы ж не толькі рахманыя ды замілаваныя. Сярод іх ёсць ваяры з вогненнымі мячамі ў руках, гатовыя да сканчэння свету караць зло.

– Княгіня Вольга так знішчыла горад драўлянаў... – нервова прагаварыла Багуслава. – Прывязалі вераб'ям пукі саломы, падпалілі – і ўсе стрэхі ў хуткім часе загарэліся...

– І нейкая вышэйшая справядлівасць у гэтым ёсць... – прамовіў Шымон, назіраючы, як расцвітаюць злавесныя чырвоныя кветкі на дахах дамоў па ўсёй вуліцы.

Вось цяпер звон пажарнай часткі аж захлынаўся, галосячы ва ўсё жалезнае горла... З'явіліся аднекуль і жаўнеры з крыкам: "Разысціся!".

Але пакуль тое настане, спіна калом стане. Вогненныя вершнікі скакалі над горадам, вецер шалеў, і хаця дзесьці згушчаўся прыцемак, тут было светла, як днём... Пакуль дым не прыбіўся да зямлі, як цмок. Але нават скрозь ягоную смярдзючую завесу бачылася, як дом за домам станавіліся ў вогненныя шыхты.

Нарэшце вогненны парад скончыўся, але гэта было дужа эфектнае заканчэнне – як феерверк у фінале балю. У канцы вуліцы светлы слуп

з шумам узняўся ў неба, быццам чарговы прарок удастоіўся размовы з анёламі.

– Завод гарыць!

Пад адчайны перазвон праехала падвода з бочкай, паскакалі конныя пажарныя.

Вуліца ажыла, адкрываліся вокны, дзверы, сплоханыя месцічы выбягалі з дамоў і адчайна прасілі дапамогі, адразу забыўшыся, як толькі што не зважалі на такія ж крыкі.

Вось калі горад Б* горка пашкадаваў, што не захацеў бараніць бліжніх сваіх ад купкі мярзотнікаў, што вырашыў ахвяраваць часткай сваёй душы дзеля абяцаных царскіх кубкаў. Маленькая ранка выявілася перарэзанай артэрыяй... За маўклівую зраду належала заплаціць.

Але плаціць не хацелася нікому. Асабліва начальству – вось нейкія ў мундзірах і паліто, перагаворваюцца, заскокваюць у экіпажы, мітусяцца, вырашаюць, што рабіць, хто акажацца вінаватым.

Бо рахункі былі буйныя: амаль дабудаваны супер-завод, мяркуючы па ўсім, палаў так, што добра, калі падмуркі застануцца. З ім згаралі надзеі на росквіт мястэчка, прыток капіталаў, уласную чыгуначную станцыю, кафэшантаны, тэатры і казіно... І, вядома, на візіт прадстаўніка імператарскай фаміліі, ухвалы з Пецярбурга і Масквы, ордэны і пасады, урачыстую цырымонію і грандыёзны баль, дзеля якога мясцовыя паненкі ўжо развучвалі вальсы, а шляхцюкі замаўлялі сурдуты.

Адчай, як вядома, абвастрае чуццё ў прыняцці рашэнняў. І вінаватыя былі знойдзены.

– Сацыялісты завод падпалілі! Вунь яны, фатографы!

Папраўдзе, фатографка была адна, але галоўнае, егеры гукнулі: “Ату!”

Багуслава ледзь не зарагатала ад абсурду сітуацыі. Бедны Шымон, тэрарызм, аказваецца, заразны, як і лікантропія.

А яна ўжо спадзявалася, што ім зараз, у агульнай паніцы і неразбярысе, удасца ўцячы... І зноў апынуліся ў становішчы абкладзенага звера, тым больш да ўзброеных калацінамі бабаяў мусілі далучыцца жаўнеры.

Ясна было, што іх задаволяць і трупы тэрарыстаў. Ад Ігната Грынявіцкага, які ўзарваў Аляксандра Другога, ім досыць было адной галавы – якую заспіртавалі і паказвалі на допытах сведкам.

На шчасце, гармідар у гэтай частцы горада Б* усё ўзмацняўся. Разгараліся пажары, сыпаўся попел і ахопленыя агнём незразумелыя ашмёткі, як на Пампею і Геркуланум. Нават п’яныя “ачышчальнікі” ўспомнілі, што ў кожнага дом, на які таксама мог перакінуцца пажар, і пашыбавалі правяраць бяспеку гасподы. Мала хто ўсведамляў, каго менавіта належыць цяпер хапаць. Дах дома з кніжнай крамай абрушыўся, узвіхурыўся попел, паляцелі іскры...

Шымон спрабаваў паклікаць спалоханага Баярда, гружанага сядзельнымі сумкамі, у адной з якіх ляжала светлая, амаль вясельная, сукенка. Невядома, ці ўдалося б беламу каню вывезці дваіх “тэрарыстаў”, але па вуліцы загрукаталі колы экіпажа, і адзін з жаўнераў, што бег на захоп зладзеяў, упаў носам у попел і пясок. Той, хто прыехаў на брычцы, не збіраўся палохаць, цэліцца ў картузы і паходні. Ён забіваў. І ўмеў гэта рабіць дасканала.

– Багута! Граф! Сюды!

Ніхель прытрымаў каня, на брычцы быў апушчаны скураны навес, і двое спрытных людзей змаглі ўскочыць у выратавальны экіпаж.

Фатограф упэўнена ўпраўляўся з гнядым паслухмяным канём, кіруючы яго па неасветленых вулках – Варакса шмат разоў прадумваў шлях адыходу пасля дыверсіі на адкрыцці дрэваапрацоўчага завода. Белы графскі конь, як і належыць вернаму слузе, скакаў за брычкай.

Якія розныя былі ў іх лёсы, у гэтых двух коней... Белы і гняды... Арыстакрат і прасталюдца конскага свету...

За горадам, не даязджаючы да карчмы Ёселя, Ніхель спыніў брычку.

– Да чыгуначнай станцыі ехаць не варта. Нас там дакладна будуць чакаць. Скіруемся туды, дзе бяспечна.

Багуслава ў прыцемку не магла разгледзець ягоны твар, голас настаўніка гучаў роўна, як заўсёды. Але ёй было страшна ўявіць, што хавалася за гэтым спакоем і роўняддзю.

Яна нават не адразу ўсведаміла, што яны едуць у напрамку да Жухавіч.

Каганецкі абняў Багуславу, сціснуў яе плячук, шапнуў:

– Нічога, пераначуем у маёнтку, заўтра адправімся ў бок Гародні. У медыцынскім інстытуце ў мяне найдзейныя сябры, дапамогуць. А там праз Польшчу – у Вену... Ты ўсё адно станеш Каганецкай.

– Не думаю, што Багуславе варта адпраўляцца ў Вену, – ветлівым цвёрдым голасам прамовіў Ніхель, які ўмеў расчуць нават найціхі шэпт. – Цаню ваш намер выканаць сваё абяцанне, граф, хаця вы не зусім далікатна ў адносінах да мяне яго выконваеце. Але пасля вянчання вы адправіцеся да сваіх малпаў адзін. Хіба ты не патлумачыла яму гэта, Багута?

Так, разумней за ўсё было б працягнуць гульню, зылгаць... Але не пасля падзей апошніх гадзінаў, падобных да начнога блёкату. Не пасля таго, як замкнула Ніхеля ў сутарэнні, як згарэў завод, а значыць, уся падрыхтоўка тэракту дарэмная... Багуслава і так выявіла сябе здрадніцай.

– Я паеду з ім, – прамовіла фатографка, намагаючыся, каб голас не дрыжэў. – Ты мусіў зразумець, Варакса, што нашы з табой шляхі адгэтуль разышліся.

Сказала – і аж зледзянела ўнутры ад уласнай смеласці. Ніхель памаўчаў, тады працягнуў гэтак жа спакойна:

– Не думаў калісьці пачуць ад цябе такія словы, дзяўчынка. А пра пана Шымона ты падумала? Бачыш, чым скончылася для яго блізкае знаёмства з табой? Ён зараз сам будзе аб'яўлены небяспечным злачынцам. Навошта было прадстаўляцца цётцы Парасцы? Першы жандар распытае – і ўсё, перастрасуць вашы Жухавічы, дабяруцца да Вены.

Сосны сашчаплялі над дарогай касцістыя лапы, між якімі праглядала яшчэ не начное, але ўжо цёмна-сіняе неба з цяжкімі кроплямі зораў – кожная, здавалася, гатовая вось-вось сарвацца і ўпасці на гэтую грэшную зямлю.

– Я змагу абараніць сябе і сваю жонку, пан Ніхель, – холадна прагаварыў граф. – У Еўропе мяне ведаюць як навукоўца, у мяне ёсць сябры, мяне паважаюць...

– Ці будзе іх павага распаўсюджвацца на вашу жонку? – пагрозліва прамовіў Ніхель. – Я разумею, вы – паляўнічы, падарожнік, шмат бачылі і пражылі. Але вы не ўсведамляеце да канца, што такое – чалавек з душой забойцы. Ты яму не спрабавала тлумачыць, Багута?

Раней пры падобных згадках Багуслава сціналася і вельмі дакладна ўсведамляла, што – інакшая, што ў яе свой, асаблівы і небяспечны шлях,

апраўданы толькі змаганнем у імя высокай мэты, і не для такіх – мяшчанскія радасці. І раней яна пакорліва прыняла б сваё наканаванне і рушыла далей за Ніхелем. Але цяпер жорстка прамовіла:

– Я не забойца, Варакса. Ты ілгаў мне. Ад самага пачатку ілгаў. Тая дзяўчынка, з якой я пабілася ў пансіёне, не памерла.

Варакса памаўчаў, трымаючы ў руках лейцы, як праўдзівы фурман. Белы Баярд, які перабіраў нагамі каля брычкі, фыркнуў, нібыта ад абурэння.

– Што гэта мяняе? Ты хацела яе забіць.

– Не прыкідвайся, што не разумееш! Навошта ты змусіў мяне столькі гадоў ачуваць сябе пачварай? Я амаль штоночы бачыла ў сне тую мёртвую пансіянерку!

Горла перахоплівала ад гневу і адчаю. Каганецкі сціснуў руку Багуславы, і яна змагла трохі выраўняць дыханне.

Вецер спрабаваў сарваць з шыі шалік, але толькі змушаў ягоныя канцы біцца і курчыцца, як ад болю.

– Табе не хапала цвёрдасці, – з жалем прагаварыў Ніхель. – У цябе таленавітае цела, добрая рэакцыя, каардынацыя... Але я заўсёды за табой дарабляў чорную працу. Ты не змагла нават смяротна параненага карчмара дабіць. Я спадзяваўся, усведамленне, што на тваім рахунку ўжо ёсць жыццё ворага, дапаможа табе ў Справе. Памыляўся. Ты такая ж, як твой бацька. Марцыян быў адважны, але занадта мягкацелы. Ён здаўся расійскім жаўнерам, калі прыгразілі, што пераб'юць прыслугу ў ягоным маёнтку. Ну, здаўся – а яны ўсё роўна ўсіх перастралялі, нібыта за супраціў. Слабак.

Шымон рэзка падаўся наперад:

– Гэта завецца высакароднасцю. Якасць, якая, здаецца, вам зусім не ўласцівая.

Ягоныя пальцы перапляліся з пальцамі Багуславы... Ніхель задумліва прамовіў:

– Што ж, мая кампанія, падобна, вам залішняя. Ды і мне, шчыра кажучы, хацелася б трохі пабыць наводдаль і абдумаць, што пачуў. Граф, вы не супраць заняць маё месца, а мне ці не дазволіце праехацца на вашым жарабцы? Я някепскі вершнік. Здаецца, коні адпачылі і можна рушыць далей.

Каганецкі не вагаўся і прыняў лейцы. Па праўдзе, так сапраўды было лепей. Яшчэ калі паднялі верх брычкі, каб захінуцца ад ветру, і запалілі ліхтары, сталася амаль утульна. Быццам яны былі ўдваіх ва ўсім свеце. Багуслава прыціснулася да графа, які абдымаў яе адной рукой, і не хацелася нават гадаць пра прышласць, таму што імгненне было напоўненым, як страмянны келіх у гасціннага шляхціца.

Яны выехалі на адкрытую прастору – тут пачыналіся балаты. За апошнія дні пяты раз праязджалі гэтай дарогай, нібыта вадзіў лясун.

– За намі пагоня, – напружана прамовіў Ніхель, і Багуслава, азірнуўшыся, пераканалася, што далёка-далёка рухаецца агеньчык. Гэта мог быць выпадковы мінак, але ў падарожных былі ўсе падставы для трывогі. Трэба хаця заехаць у лес... Коней прыспешылі, як маглі.

Колы падскоквалі на карчажынах... А вось і пругкая глеба – там, дзе кладка над дрыгвою. І тут зусім блізка прагучаў стрэл... І другі... Гняды конь рэзка хіснуўся ўбок, кола адляцела, і брычка пасунулася проста ў дрыгву, перакулілася...

Багуслава адразу па грудзі правалілася ў твань. Мокрая, слізкая, халодная смерць клікала на дно... Моцная рука пацягнула ўверх.

– Трымайся!

Шымон Каганецкі ўхапіўся за адзіную на краі дрыгвы асіну, што выгнулася дугою, але трывала, а другой рукой падцягваў да сябе Багуславу. Каля асіны ўзвышаўся валун з трэшчынай, што нагадвала вялікі крыж – нібыта гатовы надмагільны помнік. А ўсярэдзіне дрыгвы брычка паволі пагружалася ў чорную ваду, страшна хроп і іржаў гняды конь, касавурачыся цёмным вокам, у якім блішчэла зорка, толькі шыя небаракі і заставалася над зялёнай паверхняй. Бедны працаўнік-конь, наймальнікі якога нават не запаміналі ягонае імя.

На кладцы, спакойна назіраючы за відовішчам, стаяў Ніхель з пісталетам у руцэ.

– Навошта? – задыхаючыся, пракрычала Багуслава.

– Сама ведаеш, – ветліва адказаў Ніхель. – І мне, можа, упершыню шкада, што давядзецца выканаць свой доўг. Не меркаваў такога сыходу...

У голасе яго ўсё-ткі пачуўся цень тугі.

– Калі я загіну, Багуслава зноў будзе з вамі! – здушана прамовіў Шымон. – Дык хай – толькі я... Выцягніце яе!

– Не кажы такога, Шымон! – крыкнула Багута. – А ты, Варакса, будзь ты пракляты! Мой бацька ніколі б такое не ўчыніў!

Паспрабавала дастаць пісталет – але яго на месцы не аказалася. А ад шпурнутага з нязручнай пазіцыі стылету Ніхель лёгка ўхіліўся.

– Вось бачыце, граф, ваша прапанова няслушная, – скрозь зубы прагаварыў фатограф і выстралам перабіў тонкі ствол асіны... Стараючыся патрапіць як бліжэй да пальцаў графа.

Асінка, на якой усё яшчэ заставалася некалькі круглых дрыготкіх лістоў, выпрасталася, загайдалася, усё яшчэ скурчаная, усё яшчэ – дрэва здрады, а не выратавання.

Каганецкі распрастаў рукі па паверхні дрыгвы, што адразу паглынула яго па грудзі, спрабуючы запаволіць шлях уніз:

– Багута, не рабі рэзкіх рухаў, пастарайся супакоіцца, трымайся за мяне...

У твань упалі сядзельныя сумкі, знятыя з Баярда. Ясна: рэвалюцыянеры чужога не бяруць. І здраднікаў не шкадуюць. Непадалёк страшна заіржаў, забіўся гняды конь, і сціх... Дзе ж дно ў гэтай прорвы?

Ніхель апошні раз, седзячы на белым кані, які нібыта не заўважыў гібелі сутаварыша-плябея і бядотнае становішча нядаўняга гаспадара, зірнуў на дрыгву, у якой вось-вось павінны былі знікнуць два чалавекі. У прыцемку Багуслава не магла разгледзець выраз твару свайго апекуна – можа, і да лепшага. Яна чакала, што ён вось-вось іх даб'е.... Але стрэлаў не прагучала. Ці гэта была слабасць старога баевіка, ці, наадварот, жорсткасць – каб здраднікі памучыліся перад смерцю? Хто ведае... І вось ужо стукат капытоў усё аддаляецца і аддаляецца...

– Я ўсё роўна ні пра што не шкадую... – задыхана прагаварыў Шымон, спрабуючы асцярожна намацаць штосьці больш цвярдзейшае, чым багна.

Па твары Багуславы ўперамежку з балотнай вадой цяклі слёзы, грудзі перахоплівала плачам.

– Я ўсё-ткі забойца! Каб я цябе не пакахала... Каб не паехала другі раз у Жухавічы... Ты б, можа, выжыў! Няхай у лячэбніцы – але быў бы жывы!

– Глупства! Я проста не павінен быў вяртацца ў Б*, мусіў схапіць цябе ды звезці проста з Жухавіч за мяжу!

Бедаванне, як бы яно магло скласціся, заўсёды бясплённае.

Шымон ірвануўся да спакуснай карчажыны, але гэта аказалася толькі нейкая гнілая водарасць, і апусціўся ў ваду з галавой, так, што Багуслава адчайна закрычала, сама здзівіўшыся, які хрыплы ў яе голас. Але Каганецкі вынырнуў, на смуглявы твар, такі бледны ў свеце зорак, наліпла раска.

– Вось жа, родная зямелька нагадвае, што я ўсё-ткі належу ёй, а не малайскім джунглям, – задыхана прамовіў, адплёўваючыся, заолаг. – Паспрабую зняць пас... Выкарыстаем як вяроўку...

Прасвятая Багародзіца, не папусці... Даруй... І Багуслава закрычала – адчайна, з усяе моцы, як ніколі ў жыцці не даводзілася:

– Па-ма-жы-це!

Ёй было ўсё роўна, хто гэта пачуе, няхай і пагоня. Сапраўды, нехта едзе.

– Мы тут! Сюды!

– Панна Багуслава, граф! Я ж адразу за вамі, сказаць, што Калоцкі вас здаў, і на ўсіх станцыях вас будуць чакаць. Добра, дадумаўся, куды рушылі. А тут вось яно як... А Божухна...

Давыд Масевіч паставіў ліхтар на край кладкі, каля каменя з крыжам, і напружана ўглядаўся ўніз.

– Чакайце, я зараз...

Шматпакутная асінка ўсё-ткі скончыла свой век – этнограф, захлынаючыся ад кашлю, пераламаў-перасек яе ля камля з дапамогай вялікага нажа, прывязаў, спяшаючыся, на канец палкі аброць.

– Бярыцеся!

Шымон ірвануўся з усяе моцы...

– Атрымалася! Багуслава, падцягвайся...

Але калі ён зрабіў свой рэзкі рух наперад, Багуслава выпусціла яго, сваё адзінае апірышча... І цяпер у яе вачах імкліва згасалі зоры. У рот, нос залівалася смярдзючае балота, субстанцыя радзімы.

Яе зноў пацягнулі наверх. Багуслава пакутліва адперхвалася... Як холадна! Не адчуваецца ні рук, ні ног... Гэтай ноччу на траве мусіць быць шэрань, вясельны вэлюм смерці. Свядомасць адплывала некуды ў іншы свет, дзе няма ні бомбаў, ні жалезных клетак, ні пакорлівых мястэчак, ні іх ачышчальнікаў.

Шымон вярнуўся за ёю, а значыць, вымушаны быў кінуць выратавальную калаціну. Яны зноў тонуць у сэрцы дрыгвы. Як недарэчы здраджвае цела. Тады, калі сядзела на каменнай гаргулы, пратрымалася ўсю ноч. А тут, у ледзяной вадзе балота, хапіла пятнаццаці хвілінаў. Галасы даносіліся як скрозь вату.

– Вы надта далёка цяпер адплылі... Нічым не дастану!

– Давыд, я зараз штурхну Багуславу наперад... Будзе толькі адна спроба, на больш мяне не хопіць. Абвяжу яе пасам, а ты чапляй. Зрабі ўсё, каб яна жыла, абяцаеш? Гатовы?

Няўжо цела зноў ляжыць на цвёрдым? Нехта расціраў яе вушы, шчокі, каб прывесці да прытомнасці. Багуслава прыўзнялася, яе калаціла.

– Абхініцеся!

На плечы легла паліто, але цяпла не дало, нібыта не было больш у свеце ні цяпла, ні святла.

– Д-дзе? Шымон... Ён д-дзе?

Чаму Давыд хавае вочы?

Багуслава, спатыкаючыся, кінулася, ці хутчэй папаўзла, да дрыгвы. У святле ліхтара яе паверхня здавался такой роўнай і надзейнай, быццам па ёй можна хадзіць, бегаць, таньчыць, але таньчылі на ёй толькі балотныя агеньчыкі ды загубленыя душы.

– Я спрабаваў... Ледзь сам не патануў. Вось, нават сумкі выцягнуў. А пан Шымон адразу – з галавой, як толькі вас выштурхнуў... Больш нават не паказваўся на паверхні.

Мармытанні Давыда здаваліся блёкатам. І яна ірвалася туды, да свайго Вужынага караля, у ягоны бурштынавы палац, што на дне балота... А шчуплы, руды Масевіч, невядома, адкуль сіла ў яго ўзялася, не пускаў, і ўсё мармытаў пра тое, што трэба жыць.

## КНІГА ЗНЕШНЯГА КОЛА

### Раздзел другі. Сляды на твані

Гальяш з сілай правёў далонямі па твары:

– “Тытанік”, блін... Па-беларуску...

Я адклала ўбок зялёны сшытак з пажаўцелымі старонкамі, спісаны цвёрдым дробным почыркам. Усё роўна зараз ні слова вымавіць не магу. Толькі ўсхліпваць.

Сапраўды, “Тытанік” па-тутэйшаму. Заміж акіяна з чыстай вадзіцай – смярдзючая дрыгва. Хлябчыще і маўчыще.

За вокнамі зноў згушчалася восеньская цемра, але зор не было відаць. Адкуль зоры там, дзе лупяць штучныя абыякавыя вочы ліхтары ды клубіцца смуроднае дыханне машын? Гальяш усхапіўся з канапы, якую мы ўгвэзалі за суткі чытання аднойдзеных на антрэсолі дакументаў так, што варта было дзеля яе прыдумаць гіганцкую пральную машыну, і ўсхвалявана захадзіў па пакоі.

– Што за паскудства гэтыя сямейныя гісторыі! Недарэчныя, несправядлівыя смерці – і ніякага следу. Падумаць толькі, і гэты альбом з фотаздымкамі, і дзённік, калі не містыфікацыя, мусілі пабываць у дрыгве...

Я, выцершы слезы, ад якіх усё перад вачыма расплывалася, уважліва перагледзела старонкі: там-сям пакарабачаныя, з пацёкамі, яны ўсё-ткі захаваліся добра, атрамант не расплыўся нідзе.

– Напэўна, дарожныя сумкі графа Каганецкага былі з дыхтоўнай скуры, не прапускалі ваду. Таму і не патанулі.

Гальяш з размаху ўсеўся на канапу, аж спружыны віскнулі, нервова расшпіліў каўнер кашулі ў краткі. Цяпер ён яшчэ больш быў падобны да свайго продка з фотаздымка: ускудлачаныя русявыя валасы, высокі лоб, адчайныя шэрыя вочы на смуглявым абліччы.

– Там яшчэ штосьці напісана?

Я перагарнула апошнюю старонку.

– Так. Запіс зроблены праз год пасля папярэдняга.

Я адпіла даўно астылай гарбаты і зачытала:

– “23.10.1894. Дзеля чаго мне жыць, я зразумела толькі праз месяц пасля таго, як загінуў мой дарагі незабыўны Шымон. Цяпер, спадзяюся, я да канца свайго жыцця буду глядзець у *лю*быя шэрыя вочы – на твары

нашага сына. Давыд стрымаў слова, якое даў Шымону: ён самы адданы і верны чалавек на свеце. Мы перабраліся ў Вільню, Давыд перавёўся ў тутэйшы ўніверсітэт, падалей ад здрадніка Калоцкага. Бедны Давыдзе: ён зусім хворы, і нават не гады, дні палічаныя... Магчыма, я прыму ягоную прапанову аб фіктыўным шлюбе і ўсынаўленні: Ігнат мусіць вырасці ў бяспецы, без плямаў на паходжанні. Але сэрца маё засталося ў бурштынавым палацы. Падумаць толькі: нават белая сукенка ацалела з майго няздзейсненага вяселля! А адзінае маё каханне... Я спадзяюся толькі, што ўдасца зноў вярнуцца да тае кладкі над прорвай, дзе стаіць камень з крыжам, і выплакаць хоць частку слёзаў. Спадзяюся, мой сын і дзеці сына таксама не забудуць дарогі туды".

Мой голас зноў сарваўся.

– Значыць, мяркуючы па нашым прозвішчы, прабабка ўсё-ткі пабралася шлюбам з этнографам Масевічам, – задумліва прагаварыў Гальяш. – Але насамрэч мы – не Масевічы, а Каганецкія.

Я стрэсла з пледа ў краткі, якім была засланая канапа, крошкі і абгрызкі і расклала паперы з цэлафанавага скрутка.

– Та-ак, што з гэтых папер вынікае... Твой прадзед, Ігнат Шымонавіч, бачыш, імя па-бацьку ў яго ўсё-ткі захавалася, стаў выкладчыкам педтэхнікума. Вунь колькі грамат у яго... Вынаходнік, перадавік, удзельнік ВДНХ...

– Гэтую кватэру вылучылі менавіта яму, – пацвердзіў Гальяш. –Але дзед пра яго нічога не распавядаў.

Я вывучала пасьянс з чужых лёсаў, раскладзены на пледзе ў краткі.

– А не распавядаў таму, што твой прадзед быў арыштаваны ў 1937-м. Вось даведка: загінуў ад сардэчнай недастатковасці ў медпункце Сіблага ў 1942-м. Я такіх даведак нагледзелася. Закатуюць чалавека, расстраляюць – і пішуць сваякам: "ад сардэчнай недастатковасці". Добра, калі яшчэ адразу паведамяць. Здаралася, цягам гадоў слалі нябожчыку лісты і перадачы.

Гальяш узяў пажаўцелую паперу, як рэдкага павука:

– Цікава, прабабка Багуслава яшчэ жыла, калі яе сына, як і бацьку, пагналі ў Сібір?

Я ўявіла, што гэта магло значыць для няшчаснай жанчыны, і здрыганулася.

– Даведка пра рэабілітацыю Ігната Масевіча... Выдадзена жонцы, Ульяне Масевіч-Кароціч. О, цікавы дакумент... Копія скаргі на шкодніка Ігната Масевіча, супрацоўніка аддзела машынабудавання КП(б)Б, ад рабочага-вынаходніка Аляксея Хведаровіча самому Сталіну. Не, ты паслухай, якая жэсць: "Ваша искренность, Иосиф Виссарионович, и простота души к простым людям всего мира возбудили в моей душе мужество оторвать Вас на несколько минут от государственных дел"... Бла-бла-бла... "Я, простой рабочий в области изобретательской работы, задался целью быть настоящим изобретателем... Я хочу описать вам, Иосиф Виссарионович, судьбу одного моего изобретения, именуемого «Комбинированная машина для производства трудоемких работ». Машина предназначена для выполнения работ до тридцати наименований"... Бла-бла бла... "Мое образование состоит из 3-х классов церковно-приходской школы. И вот когда рабочий изобретатель к тому же малограмотный является в Комитет по изобретениям в области машиностроения с изобретением, имеющим большое значение для народного хозяйства нашей Родины, то вызвал простест

среди членов Комитета, имеющих специальное образование и занимающих высокие должности. Некоторые люди (И.С. Масевич), занимающие высокие должности, еще не лишены чванства и не могут равнодушно относиться к важным изобретениям, сделанным простыми людьми, и тормозят их продвижению...”

Я адарвалася ад даўжэзнага ліста на некалькіх аркушах, які пакідаў адчуванне, быццам цябе прымусілі есці крэйду.

– Нагадвае сцэну з рамана братоў Стругацкіх “Казка пра Тройку”... – змрочна азваўся Гальяш. – Там таксама быў такі вынаходнік, толькі замест “камбінаванай машыны для працаёмкіх работ” прынёс камісіі “эўрыстычную машыну”, адзін да аднаго старую машынку-друкарку, якая магла адказаць на любое пытанне, праўда, адказы друкаваў сам вынаходнік. Прынцып дзеяння дзед тлумачыў проста: “У ней внутре неонка”.

– А Хведаровіч свой цуда-агрэгат зрабіў з аўтамабільнага рухавіка. Але за гэтую “камбінаваную машыну” Ігната Масевіча, падобна, звольнілі з камітэту. Рэзалюцыя чырвоным алоўкам: “Неадкладна пакараць вінаватых у зацісканні рабочага вынаходніка”. Дзякуй Богу, што цяпер не трыццатыя гады. Колькі такіх Хведаровічаў пішуць у нашу рэдакцыю! Ім вяртаюць дурны рукапіс – яны цябе вінавацяць у антыдзяржаўнай дзейнасці. І нікога на тры літары не пашлеш, нават калі бачыш, што ўзровень – “у ней внутре неонка”. Хутчэй журналіста пакараюць “за абыякавыя адносіны да чытачоў”. А вось гэта ўжо тычыцца твайго дзеда. Таксама граматы... “Лепшаму выкладчыку вучэльні”...

– Дзед хацеў паступіць у Маскоўскі ўніверсітэт, – раптам сказаў Гальяш. – Я ўспомніў адну размову бабулі. У дзяцінстве, вядома, не звярнуў увагу... А бабуля распавядала, што дзед лічыў сваё жыццё сапсаваным, бо яго не прынялі на вучобу ў Маскву, потым не пусцілі на ўсесаюзную алімпіяду па фізіцы, дзе ён спадзяваўся заняць першае месца. Нешта з ягонай біяграфіяй было не так. Цяпер разумею – сын “ворага народа”.

– І акупацыю, магчыма, яны з маці пераажылі тут, у Мінску, – згадзілася я. – Ён жа малы быў... Добра, што ацалелі. Так што характару было дзе сапсавацца. Пра сваю прабабку і яе сям’ю нічога не ведаеш?

Гальяш пакруціў галавой, запусціў пальцы ў русявыя валасы, як у адчаі.

– Я ж сказаў, нічога! Ні пра каго!

Зноў ускочыў, захадзіў па пакоі, кусаючы вусны.

– А працы Шымона Каганецкага мусяць дзесьці быць! Цяпер мне здаецца, што я сустракаў гэтае прозвішча ў навуковай літаратуры. Абавязкова знайду... І... я павінен з’ездзіць у Жухавічы!

Шэрыя вочы глядзелі разгублена і адчайна.

– Добра, з’ездзім, – сказала я, намагаючыся, каб мая рэпліка прагучала не надта хутка і не надта радасна.

І тут зноў запілікаў скайп на ноўце. Маю патаемную радасць як абламала. На маніторы ззяў гожы твар Леры, яе цёмныя кудзеркі былі перацягнутыя зялёнай банданай с малюнкамі мядзведзікаў Тэдзі.

– Зая, а ты купіў ільняныя абрусы з сурвэткамі? Чатыры наборы, я ж прасіла.

Госпадзе, а яна ўжо з акцэнтам гаворыць! Ці за год набыла, ці падкрэслівае, што ўжо нетутэйшая?

Шымон стаў так, каб захіліць ад мяне ноўтбук, і я, узяўшы пусты

кубак, ціха выйшла на варыўню. Але ўсё роўна працягвала чуць размову, амаль аперэтачную.

– А што яшчэ з тваёй зачуханай Беларусі тут каго зацікавіць? Кніжкі пра Вялікае Княства Літоўскае? Цукеркі? О, дарэчы, цукерак набудзь. Толькі якіх-небудзь прыкольных. Ну, там, “Любімая Аленка”, з дзяўчынкай савецкай у хустачцы... Помню яшчэ смешны шакалад “Теленок Борька”. Увогуле, будзеш якія сувеніры купляць – лепей пабрутальней, пагрубей. Аўтэнтыка, этнаграфія, тыпу там лапці, каўшы... З савецкай сімволікай пакоціць.

– Слухай, гэтая “зачуханая Беларусь” яшчэ нядаўна была тваёй радзімай, тут твае бацькі жывуць, дзяды-прадзеды ў зямлі ляжаць.

– У цябе што, прыступ местачковага патрыятызму? Збегай на плошчу Незалежнасці, пакланіся помніку Леніну і ачуняй.

Далей я прапусціла частку размовы – таму што змусіла сябе адцягнуць увагу на агні, якія беглі па праспекце, нібыта адлучаныя цемрай ад машынаў, самі па сабе, балотныя агеньчыкі вялікага балота.

Чамусьці ўспомнілася, як некалькі год таму па гэткім жа начным праспекце мяне везлі ў бальніцу – падхапіла свіны грып. Дакладней, гэта мы адзін аднаму казалі – “свіны грып”, а міністэрства “па ахове здароўя ад грамадзянаў” сцвярджала, што гэта паніка, падрыўныя чуткі, ніякай эпідэміі... Людзі валіліся, як мухі ад дыхлафосу, у аптэках разабралі ўсе марлевыя павязкі і няшчасны арпетол, які нібыта падымаў імунітэт, а насамрэч хутчэй даваў надзею, што неяк усё ж лечышся. Бо тэмпература не збівалася, людзі згаралі з пнеўманіяй. Маладыя, моцныя, паміралі за некалькі дзён. І ніякія лекі не дапамагалі, таму што вакцыну ад “атыповай пнеўманіі” міністэрства не закупіла. Затое вытворцы арпетолу, арбідолу ды іншых шараговых прэпаратаў ад вірусаў азалаціліся.

Бязлюдныя вуліцы, фігуры з заматанымі да вачэй тварамі... Цішыня... Разгубленыя, злыя дактары, якім не дазволена пісаць у картках сапраўдны дыягназ...

Мяне везлі ў “хуткай”, я глядзела на жоўтыя агні праспекту, машыны, што праслізгвалі міма, і думала, што, магчыма, еду ў апошні шлях.

У бальніцы было пекла. Людзі з тэмпературай сорак градусаў па Цэльсіі сядзелі ў калідорах, абсоўваліся са сценаў. Асабліва цяжка хворым даставаліся інвалідныя крэслы. У многіх у руках цямнелі здымкі іх лёгкіх са сведчаннем страшнай хваробы. Кожны мусіў прайсці немудрагелісты шлях: аналізы – рэнтген – накіраванне ў палату... Хаця палаты даўно былі запоўненыя. Калідоры таксама. І чарга ў прыёмным пакоі амаль не рухалася, некаторыя сядзелі ў гэтых фарбаваных бляклай зялёнай фарбай сценах з раніцы... Я адчувала, што больш не вытрымаю. Адшукала, хістаючыся і трымаючыся за сцены, адзінага доктара – маладую дзяўчыну ў марлевай масцы... На маю абурана-адчайную просьбу – “ды чалавечнасць у вас ёсць ці не?”, доктар зарыдала. Яна тут таксама з раніцы, другія ўрачы пахварэлі. Лекаў няма. Месцаў у бальніцы няма... Выпісала мне хаця б накірунак на рэнтген.

Яшчэ праз гадзіну мне сказалі, што да пнеўманіі пакуль не дайшло, толькі бранхіт... Па шчаслівым, задыханым званку прыехала мая сяброўка Насця і забрала мяне на таксоўцы.

Цяпер я магу трохі ўявіць, што такое – смяротная хвароба і вызваленне ад яе. Як у графа з ягонай лікантропіяй.

Цікава, ці жыў бы граф Каганецкі на Беларусі? Ці прыехаў бы працаваць у наваствораны ўніверсітэт у 1920-х?

Вядома, старых спяцоў у трыццатых панішчылі як "ворагаў народа"... Але ж ён паспеў бы штось стварыць! Застацца ў гісторыі краю! Было б што адшукваць у архівах. А так – дзе тая Вена, дый нямецкую мову я ведаю на ўзроўні "іх бін аус Вайсрусланд", нічога не расчытаю. Каб хоць у Польшчы ягоная светласць на навуковай ніве падвізаўся...

Між тым скайпавая размова пагучнела так, што я не змагла далей прымушаць сябе не слухаць.

– А чым кепска напачатку – лабарантам? Не бэбі-сітэрам жа! І зарплата большая, чым у твайго прафесара, разоў у дзесяць! Які "гастарбайтэр"? Зноў пачынаеш? Ну, ведаеш, зая, свае амбіцыі пакінь у саўку, дзе атрымліваюць сто даляраў і ганарацца, што такія інтэлектуальныя і абраныя. Здагадалася: у цябе, як у жаніха перад вяселлем, капрызы псіхікі. Супакойся. Кахаю цябе. Цалую. Чакаю.

Гальяш зайшоў на кухню з такой фізіяноміяй, быццам адбыў урок нялюбай фізкультуры, дзе не змог падцягнуцца патрэбную колькасць разоў.

Жанчына не павінна змушаць мужчыну здаваць нарматывы. Паміж двума закаханымі ўсё – норма, усё – на вышэйшую адзнаку.

– Прабач... – мармытнуў біёлаг, кінуўшы вінаваты позірк. – І так нервуюся перад ад'ездам. А тут яшчэ жухавіцкая гісторыя...

Гальяш цяжка ўздыхнуў.

– Мне трэба ісці... – прагаварыла я, разумеючы, што заставацца нельга, і ён не папросіць, а каб папрасіў, мне належала б горда адмовіцца. Мінулая ноч мая прайшла тут – але мы пpыляглі толькі пад раніцу, на пару гадзінаў, у розных пакоях, не распранаючыся. І з гэтага таксама вынікала – не пашкодзіць добра выспацца і прывесці сябе да ладу. – Заўтра, калі не перадумаў, паедзем да мяне на радзіму, у горад Б*, адтуль дабярэмся да Энгельсаўкі.

– Давай хоць да тралейбуса правяду... – з няёмкасцю прамовіў Гальяш. – Цёмна... А ты не мая прабабка, стылет у рукаве не носіш.

Усю дарогу мы маўчалі... Але, упэўнена, думалі пра адно і тое ж: падзеі стогадовай даўніны пракручваліся ў свядомасці, як тэлесерыял. Фотаатэлье з выявамі кацянятаў, страшныя пост-мортэм, дзёрзкія студэнты, пусты маёнтак з зачараванымі рэчамі, бойка мужчыны і жанчыны перад камінам, жалезная клетка ў сутарэнні, пажар на заводзе, дрыгва, паверхня якой паволі зацiхае, пpыняўшы ахвяру... Я ўвесь час спалучала вычытаныя, уяўленыя карціны з сучаснымі краявідамі роднага мястэчка... І яны ніяк не спалучаліся. Ну хіба што ёсць у нас фабрыка па вытворчасці запалак. Але ці гэта мадыфікацыя таго самага дрэваапрацоўчага завода, які задумвалі век таму будаваць, я не ведала. Яшчэ хіба пачарнелая пажарная каланча на тым самым месцы тырчыць. Але нічога падобнага да будынка, у якім магло б месціцца фотаатэлье, насупраць яе няма. Шэры простакутнік Дома быта, у якім дакладна не замовіш ні сурдут, ні сукенку з турнюрам, гаражы ды пустка, на якой спачываюць іржавыя касцякі старых машын.

Ні пра тэракт на заводзе, ні пра тэрарыстаў у горадзе, ні пра пагромы ў нас нічога не расказвалі. Я не магла ўявіць, што сто гадоў таму ў маім Б* мелася капялюшнае атэлье, выпякаліся венскія булачкі, у кніжнай краме стаяла гіпсавая Мінерва і прадаваліся манаграфіі аўстрыйскага вучонага...

Ды ў нас апошнія дваццаць гадоў увогуле кніжнай крамы ў горадзе не было! Толькі аддзел у “супермаркеце” (бяру гэтае слова ў двухкоссе) з наборам дэтэктыўных томікаў Марыніных-Данцовых-Усцінавых. У нас, у горадзе Б*, балі? Карэты? Аркестр? Фотаатэлье з дэкаданснай дамай? Вось Дом культуры маецца. Бетонна-дыхтоўны, з вялікай актавай залай, на сцэне якой ладзяць канцэрты местачковыя таленты. Царква ёсць, так званая “мураўёўка”, касцёл захаваўся. Сінагогі даўно няма, дый габрэяў амаль не засталося. Нават мая лепшая сяброўка дзяцінства Іна з’ехала з бацькамі ў зямлю абетаваную, цяпер толькі лістуемся праз інтэрнэт. Толькі габрэйскія могілкі засталіся, за запалкавай фабрыкай, з надмагільнымі плітамі, што амальураслі ў зямлю. Звычайнае, ціхае мястэчка. З якога я так ірвалася з’ехаць у сталіцу.

Родны кут, родны кут... Ды ў мяне ўражанне, што ў беларусаў спаконвеку ў крыві іншае – “зваліць” з таго куточка...

Я ж нават калі захварэла на той свіны грып, бацькам не паведаміла. Не таму, што баялася – расхвалююцца, самі, не дай Бог, заразу падхопяць. А каб не пачалі адгаворваць ад вучобы так далёка. Не змусілі перавесціся бліжэй да дому, як адразу намаўлялі.

Для горада Б* у мяне адзін варыянт падзеяў: сталіца – гэта супер, там усё добра, і іначай быць не можа. Нават калі мне давядзецца варыць на абед уласныя чаравікі, не вярнуся ў зацень запалкавай фабрыкі.

І чым тады я лепшая ад Гальяша, якога спрабую прысароміць непатрыятычнымі паводзінамі?

У сваёй часовай кватэры, прапахлай спаленым мною пазаўчора амлетам, я доўга стаяла пад душам, змываючы стому і дарэмныя надзеі. З-за аднойдзенага сямейнага альбома ніхто ад’езд у Амерыку не адменіць. Але заўтра ў мяне будзе яшчэ адзін дзень побач з каханым чалавекам.

Так, яшчэ глыбей загразла ты, паненка, у сваёй дрыгве.

Гальяш чакаў мяне на аўтобуснай станцыі з кветкамі ў руках, быццам мы зараз пойдзем на спектакль.

На драму. У некалькіх актах. Да фіналу дапаўзае толькі адзіны другарадны персанаж.

– Ведаеш, чарга затрымалася: адна дзяўчына выкупіла білет на маршрутку па інтэрнэце, а касірка, немаладая цётка, ніяк не магла зразумець, дзе ж гэты білет цяпер узяць. Патрабавала ад дзяўчыны раздрукоўку, дакумент нейкі матэрыяльны, карацей. Дзеўка гаворыць код замовы – касірка: “Білет пакажыце!” Паўгадзіны разбіраліся, не разабраліся...

Гальяш быў зноў у кашулі ў кратку, толькі ўжо іншай, чорна-чырвонай, той самай, у якой сфатаграфаваўся разам з Лерай, у цёмна-шэрай куртцы з капюшонам, джынсы запраўленыя ў высокія чаравікі, падобныя да маіх. Я амаль чакала, што ў яго за спінай акрамя заплечніка будзе тырчэць ружжо.

Ружжа не было, затое фотаапарат, з прафесійным даўжэзным “ствалом”, меўся.

І адразу нацэліўся на мяне, каб занатаваць маё смешнае аблічча: бо я была ў матчыным капелюху з абвіслымі брыламі колеру зімняй вішні, які надта ўдала прыкрываў мае вечна хворыя вушы ад ветру, а яшчэ я абматалася шалікам у дробныя чорна-белыя шашачкі, так званай “арафаткай”. А з-пад капелюха звісаюць дзве рудыя, абы як заплеценыя коскі, перацягнутыя чорнымі гумкамі.

Я ледзь стрымалася, калі Гальяш пачаў, пасмейваючыся, тлумачыць пра “жывапіснасць” майго аблічча.

Спазнялася я проста, спадар. Іначай дзесяць разоў пераапранулася б, нафарбавалася, валасы падвіла, іншы капялюш, які некуды, як на злосць, заваліўся, надзела...

Пакуль ехалі, мы з дапамогай майго смартфона пашнырылі па сеціве. Энгельсаўка сапраўды раней была маёнткам Жухавічы. Нават прозвішча Каганецкіх згадвалася. Але з 1894 года яна ўжо належала Людвігу Боўнару. У адной судовай справе ён даказваў права на спадчыну. І валодаў доўга, гадоў дваццаць. Хто потым атрымаў маёнтак – я не ведала. Але па любому быў уладальнікам нядоўга. Рэвалюцыя, грамадзянская вайна... Немцы, палякі, бальшавікі... Будынак рэквізавалі, зладзілі ў ім бальніцу. Потым, у апошнюю вайну, немцы таксама размясцілі там свой шпіталь. Па чутках, была палата, у якой трымалі мясцовых дзетак, каб браць кроў для параненых акупантаў. Жах які! Маёнтак проста прыцягваў да сябе зло...

Ну а лясніцтва тут размясцілі пасля вайны.

Як толькі мы апынуліся ў Б*, Гальяш адразу пачаў шчоўкаць фотаапаратам... Аж няёмка. Знаёмыя месцічы ходзяць, касавурацца, а гэты здымае. Людзі ж застраманыя. Падумаюць, што праверка якая. А калі праверка, значыць, пасля вымовы ад начальства – разборкі, а тады і звальненне... А куды асабліва пойдзеш працаваць у гэтым мястэчку?

Таму я ўпарта цянула біёлага на другі прыпынак, дзе нам належала сесці на іншы аўтобус, які два разы на дзень ездзіў у Жухавічы. Так што да мяне дахаты, на шчасце, не было часу заходзіцца. Таму што як патлумачыць бацькам, чаму прывяла не свайго хлопца? І так суседзі нарасказваюць ім, наплявузгаюць... Вунь як дзівіцца паштарка, ледзь ровар у слуп не скіравала.

Ну навошта ён здымае і здымае гэты павалены плот са скурчанай ігрушай, ствол увесь у вузлах і трэшчынах, быццам паднялі са дна мора... Хатку, крытую даўняй дранкай... Аўтэнтыкі захацеў!

Я ніколі не жыла ў вясковай хаце. Бацька і маці пажаніліся яшчэ ва ўніверсітэце, а калі патрапілі сюды па размеркаванні, як маладым спецыялістам, ім адразу вылучылі аднапакаёўку з лоджыяй у двухпавярховым шэрым дамку, складзеным з сілікатных цаглінаў, мёртвых і шэрых, у адрозненне ад сапраўдных, чырвоных, са слядамі пальцаў майстра-цагельшчыка – з такіх будавалі замкі і храмы.

Як я марыла, каб побач быў замак! Нейкі час прымала за яго нават пажарную каланчу... І як замірала сэрца, калі дзесь у траве чырванелі патрушчаныя цагліны... Ці не рэшткі замка?

Можа, і таму я так захапілася гісторыяй і раскопваннем ейных падмуркаў?

Аўтобусік на Жухавічы трохся, быццам няспынна скардзіўся на неспакойную старасць. Я заглядзелася ў вакно – ні на што, проста бываюць такія моманты здранцвення, адсланення... І раптам усвядоміла, што Гальяш ужо нейкі час вывучае мяне нейкім дзіўным позіркам. Пабачыў, што я вярнулася з летуценняў, і спытаў:

– Паслухай, а навошта ты гэта ўсё робіш?

Я ўздрыгнула, як заспетая за нечым непрыстойным. Гэта ён пра што? Патэнцыйны граф крыва пасміхнуўся.

– Ну, едзеш са мной... Дакументы дапамагала разбіраць... Хату чысціла...

Я пастаралася, каб голас мне не здрадзіў.

– Павінна ж я расплаціцца за дармовае жыллё.

Біёлаг апусціў галаву, хмыкнуў, і зноў дзіўны позірк:

– Ну а калі б я скасаваў дамову, і ніякага дармовага жытла? Ты б са мной не паехала?

Няўжо ён падазрае... Няўжо я выдала неяк сябе, закаханая дурніца... І ён намякае, што мая такая ўвага яму непрыемная. Залішняя. Так, сабрацца... Мармытнуць абыякава:

– Мяне ўсё роўна цікавяць гістарычныя расследванні...

На шчасце, небяспечная размова перарвалася – мы прыехалі. Але на прыпынку апынуліся адны-аднюткія. Ды каму магло тут што спатрэбіцца – ні будынкаў, ні людзей, ля шашы бетонны слуп з памятай бляшанай шыльдай з раскладам аўтобусаў, лес, прарэзаны дарогай з коркай падсохлай гразі, у якой выразна адбіліся рубчыкі шынаў.

Па гэтай дарозе мы і рушылі. Гэта быў не той шлях, якім ехала ў Жухавічы брычка з фатографамі. Графскі дом паказаўся за плотам з бетонных квадрацікаў у профіль. Жалезныя вароты, яшчэ з бляшанымі зорачкамі на іх, ляжалі на зямлі ў якасці дыванка.

– Ну вось, мая спадчына... – насмешна-трывожна прамовіў Гальяш.

Тут сапраўды можна было ратавацца толькі іроніяй... Дом даўно пазбавіўся прыбудоваў і ўсялякіх архітэктурных лішкаў. Толькі аблезлыя калоны перад уваходам стаялі, як ногі даўно памерлага слана. Над дзвярыма, дзе калісьці красаваўся герб з ваўчынай пысай, бачыўся прамавугольны след ад сарванай шыльды і чорныя дзіркі мацаванняў. У некаторых вокнах першага паверха захаваліся краты ў выглядзе сонейка. Можа, бачылі такія, савецкага часу: у куце – круг, ад яго па ўсім перыметры разыходзяцца промні-прэнты. Быццам прыдумалі здзеклівы сімвал, згадваючы беларускі адраджэнцкі лозунг “Загляне сонца і ў наша ваконца”.

Ціха, бязлюдна... Толькі вецер шасціць сухімі лістамі.

Біёлаг, не адрываючыся, глядзеў на тое месца над дзвярыма, дзе вісеў калісьці герб.

– Паслухай, Сімка, калі я – нашчадак Каганецкіх, калі ўва мне іх кроў, значыць, мне маглі перадацца і іхнія якасці... Спадчынныя хваробы і праклёны...

– Гэта ты наконт чаго? – напружана папыталася я, надта ўжо сур’ёзны твар быў у майго спадарожніка. – Пра лікантропію? Здзекуешся? Ты ж вучоны... Нават у дзевятнаццатым стагоддзі разумныя людзі змаглі давесці, што ваўкалацтва няшчаснага графа – містыфікацыя.

Гальяш прайшоўся туды-сюды, неяк нервова азіраючыся на панылыя краявіды занядбанага радавога гнязда.

– Ну, нездарма ж у гербе была ваўчыная пыса. І ўсе гэтыя мясцовыя паданні... Выпадак у царкве... Калі прадзед выскачыў праз вакно. Багуслава, вядома, усё вытлумачыла галюцынагенамі, якімі паіў графа доктар Боўнар. Але ж і да жаніцьбы старэйшага Каганецкага са злавеснай Антанінай Боўнар з Шымонам не было ўсё гладка... А з яго бацькам, дзедам? Што за пачварная калекцыя? Няўжо яе збіралі толькі ад спалоху перад выпадкам са здраднікам Бекю, ад уражання містычным срэбным зліткам? Не веру... Гэта нейкая душэўная псота...

Я ажно разгубілася. Хлопец, якога я кахала, ніколі не даваў падставы западозрыць яго ў містыцы.

– Нагледзеўся серыялаў пра вампіраў ды іншую нячыстую сілу? Баішся, што ў цябе хвост вырасце?

Гальяш Масевіч, які насамрэч быў Каганецкім, закінуў твар да неба, якое было то безнадзейна шэрым, то з сінімі лапікамі волі.

– Госпадзе, ну як жа я не ўмею весці такія размовы...

Перавёў позірк на мяне.

– Магчыма, мае продкі проста пакутвалі на нейкую псіхічную хваробу, спадчынную манію.

Як жа мне хацелася абняць яго, прытуліцца, пагладзіць ягоны мужны твар, правесці пальцам па абрысе прамых густых броваў...

– Магчыма, у тваіх даўніх продкаў гэта была проста карысная баявая якасць. Хаця б тое самае берсеркерства – шал падчас бойкі, адсюль і легенды пра панішчаных чужынцаў. Пра гэта і ў дзённіку Багуславы гаворыцца.

Гальяш змрочна хмыкнуў.

– У такім выпадку, калі Каганецкія пачалі знявольваць у сабе звера, замест таго, каб ставіць яго на варту краю супраць чужынцаў, змусілі віхляць хвастом і слугаваць ім, звер ператварыўся ў праклён. У хваробу. Пачынаючы са здрадніка Радаслава Каганецкага, які выдаў філарэтаў.

Вецер рыўкамі гнаў па патрэсканым асфальце поліэтыленавы пакет, быццам прывід мядузы. Прывід пагардліва шаргатаў.

– Я кепска пераношу поўню... – Гальяш не ўсміхаўся. – Я гэта не адразу зразумеў. У пэўныя дні – бяссонне, начныя жахі...

– Ну і што? – здзівілася я. – У свеце хапае людзей, як гэта, селеназалежных. Адны балюча рэагуюць на ўспышкі на сонцы, другія – на фазы месяца.

– Я магу быць... жорсткім. Таму стараюся не біцца і не сварыцца.

Я шчыра не разумела, што яго трывожыць. Відаць, бабуля, а пасля тая самая Лера, убілі небараку ў галаву, што калі ён пярэчыць ім ці сярдуе – ён кепскі. Я проста не магла ўявіць яго, такога спакойнага, інтэлігентнага, у гневе.

– Буду ведаць, што ты – Халк, герой амерыканскіх коміксаў. І калі цябе раззлаваць, зробішся зялёны і вялізны.

Ветрык зноў прашамацеў па зарослым быльнягом двары маёнтка, быццам злодзей залез да паноў. Але ўпэўніўся, што красці няма чаго, і хуценька ўцёк. З галінкі сасны раптам сарвалася сарока, пранесла чужыя навіны і знікла ў лесе.

– Табе не страшна знаходзіцца тут, сам-насам са мной? – раптам папытаўся Гальяш. – Вунь на табе нават чырвоны каптурок адпаведна сітуацыі. А раптам ува мне прачнецца воўк?

Біёлаг крануў мой капялюшык колеру зімовай вішні за брыло, пагладзіў па касе – каб я не пафарбавалася, была б яна не рудой, а попельнай. Калі мне і было страшна – дык самой сябе, каб не захлынуцца пачуццямі. Таму што ўпершыню Гальяш дакранаўся да мяне не выпадкова.

– А Лера цябе баіцца?

Біёлаг не ўздрыгнуў, не адвярнуўся.

– Яна бачыць мяне толькі звонку, праз краты. А ты, здаецца, зайшла ў клетку.

– Багуслава не збаялася, і я не збаюся, – вымавілі мае непаслухмяныя вусны.

Патэнцыйны амерыканец зноў кінуў на мяне нейкі дзіўны позірк і рашуча штурхнуў аблезлыя дзверы графскага маёнтка. Яны былі замкнёныя, але чыста сімвалічна. Бо не забранае кратамі, з выбітай рамай акно справа ад дзвярэй сведчыла, што будынак даўно перастаў ад кагосьці абараняцца, як знявечаны жабрак, што ляжыць ля цвінтара і нават не спрабуе адсунуцца ад чужых крокаў.

Калідоры з дашчатай падлогай, стандартныя канторскія пакоі... Рэшткі выцвілых танных шпалераў, некалькі крэслаў з паламанымі ножкамі... Пад нагамі агідна, як косткі, хрумсцела бутэлечнае шкло. Абрыўкі газетаў, пустыя бляшанкі з-пад кансерваў, рыззё, падэшвы ад абутку... Усё назапашвалася гадамі. І характэрны для такіх памяшканняў пах: грамадскай прыбіральні і памыйкі. Цалкам магчыма, што ў гэтай кучы знаходзіліся і рэчы з чужым злом, сурокамі, праклёнамі... Такое ж нязводнае.

На другі паверх падняцца не атрымалася: лесвіца абрушылася, праз дзіравы дах пазірала катарактнымі вачыма неба.

Ходу ў сутарэнне таксама не знайшлі. Затое ў яго лёгка было залезці звонку, праз падвальнае вакно, таксама без кратаў, без шыбаў, з няроўнымі краямі абламанай цэглы. Мусіць, яго выламалі ў сцяне ўжо ў нашым стагоддзі – Багуслава ж не згадвала, што ў сутарэнні ёсць вокны. У Гальяша знайшоўся дыхтоўны ліхтарык, і хаця тут таксама ўсё засмечана, і нават валяліся іржавыя часткі ложкаў яшчэ бальнічнага перыяду маёнтка, готыкі адчувалася больш. Мяне перасмыкнула, калі я падумала, што, магчыма, менавіта тут фашысты трымалі няшчасных дзетак-донараў...

З-пад тынкоўкі агалілася амаль уся цэгла – а ёй стагоддзі тры, не менш. Быццам усё заліта запеклай крывёй. Каржакаватыя калоны, нават умураваныя ў іх жалезныя кольцы засталіся. Усё, як апісвала Багуслава Ніхель. Толькі клеткі няма.

Апошні з Каганецкіх рэзка слізгануў ліхтарыкам па сценах, быццам закрэсліваў іх.

– Ведаеш, усё чакаю, калі ж адчую покліч продкаў... і ніяк. Смурод, сум, бруд... Рушылі адсюль, Чырвоны Каптурык! А то ў мяне кіпці вырастуць.

Вось жа, далася яму тэорыя са спадчыннай лікантропіяй... Што праўда, чалавек, які ў дзяцінстве размаўляў у лазенцы з павукамі, а падрослы, трымае дома змей, не можа не валодаць чорным гумарам.

Стаўшы перад ганкам, мы яшчэ раз агледзелі будынак. Сіні лапік неба над напаўзруйнаваным дахам вызірнуў, як сцяг войска, якое ідзе на дапамогу абложнікам.

– Адрэстаўраваць – які б цуд атрымаўся! – услых падумала я. – Канец васямнаццатага стагоддзя. Вунь там яшчэ фрагменты фрызу...

– А ў мяне гэты дом не выклікае цёплых пачуццяў, – Гальяш апусціў фотаапарат, якім толькі што цэліў у заўважаны мной фрыз, падобны да следу ад шыны. – Пэўна, назапашаная колькасць зла зашкальвае. Падобнае я адчуваў, калі быў на экскурсіі ў маёнтку Салтычыхі – памятаеш, знакамітая расейская душагубка, якая прыгонных дзяўчатаў катавала? Кажуць, што там загубленыя душы проста віюцца, раяцца... Дый наўрад сюды рэстаўратары дойдуць. У нас жа лічаць, лепей занядбаныя руіны знесці ды на іх месцы новенькі дом з сілікатных блокаў збудаваць, – Гальяш падбіў нагой кавалак цагліны, і той адскочыў, як напалоханы звярок. – Памятаю, мы ездзілі ў заказнік Барбастэла, дзе зімоўе кажаноў, дужа рэдкіх – еўра-

пейскія чарнавушкі. Зімоўе проста ў старым форце Брэсцкай крэпасці. Аказалася, нейкія п'янтосы туды залезлі, скінулі шыфер – а там пачваркі нерухомыя! Ну і давай іх душыць, як булгакаўскі Шарыкаў катоў... Ледзь не сотню раздушаных звяркоў мы знайшлі. Міліцыя крымінальную справу завяла... Але, ведаеш, нават міліцыянты стрымлівалі ўсмешкі: знайшлі вучоныя дзівакі злачынства!

Гальяш спрытней закінуў заплечнік на спіну.

– Добра, хопіць з мяне агледзінаў спадчыны.

Проста ад ганку за агароджу, у лес вяла яшчэ адна дарога, у патрэсканай асфальтавай скуры, калісьці абсаджаная дрэвамі – ад іх засталіся адны пні, вакол тырчэлі голыя пруты кустоўя. Па гэтай дарозе, безумоўна, і прыехалі ў Жухавічы госці ў брычцы. А вось і пацверджанне – валун, ружовы, з выбоінамі, што нагадваюць вочы і шчыліну рота. Паводле апісанняў з зялёнага сшытка, зверху павінен быў ляжаць пляскаты камень-шапка... Стоп! З калекцыі Каганецкіх, які фатаграфавала Багуслава Ніхель!

Гальяш некалькі разоў таксама шчоўкнуў ружовы камень. Я выразна бачыла, што сітуацыя ўсхвалявала графскага нашчадка – хоць ён і спрабаваў выяўляць з сябе скептычнага такога, меланхалічнага маладзёна. Але вось, зноў кусае вусны, і цягнецца рукой адкінуць з ілба русявыя валасы, хаця іх зараз жа верне назад вецер.

– Цікава, ці выкарыстаў атрыманыя негатывы Міхал Калоцкі?

Гальяш не адгукнуўся, зноў аглядаючыся па баках, нібыта чакаў нападу. Сапраўды, у ім, як і ў ягоным продку з фотаздымка, прысутнічала нешта... звярынае. Небяспека, дужасць, грацыя, уласцівая драпежнікам. І адначасова безабароннасць: ані хітрасці, ані здольнасці прыстасоўвацца. Такія калі што вырашаць – на рагаціну палезуць, не збочаць. Замест інтрыгі – двубой. Расчаруецца – сыдзе.

Цікава, чым жа яго так зачапіла Лера? Адной гожасці для ваўкалака мала...

## Раздзел трэці. Вяртанне ваўкалака

Калісьці ў дзяцінстве я чытала казку, у якой раілі гераіні: заблукаеш – пакланіся на ўсе чатыры бакі і папрасі: “Лес, бацюхна, адпусці!”

Памятаючы гэты надзейны рэцэпт, я больш-менш спакойна паставілася да выбару маршруту.

Бо мы, не згаворваючыся, рушылі па дарозе, што вяла ад ганка Жухавіч праз лес. Па сумніўнай такой дарозе, якую чамусьці не паказваў навігатар на маім смартфоне. Дзесьці тут мы з маці калісьці збіралі грыбы... Але хіба я што толкам памятаю? У мяне ўвогуле, так бы мовіць, тапаграфічны крэтынізм. Мая мінская сяброўка дужа весяліцца, калі я, у дваццаць пяты раз ідучы да яе ў госці, усё блукаю паміж трох дамоў, гадаючы, каторы ейны.

Мапа сведчыла, што мусілі мы выйсці на шашу... Рана ці позна.

Асфальт закончыўся адразу за межамі маёнтка. Кіламетраў праз пяць я ўсвядоміла, што шаша з'явіцца хутчэй позна, чым рана. Неба зноў зацягнулі хмары. Гальяш кінуў на сухую траву, ля камлёў гонкіх соснаў, заплечнік.

– Спыняемся! Прабач, я цябе зусім загнаў. Я ж звык да вандровак...

У біёлагавым заплечніку знайшоўся і шаргатлівы бліскучы турысцкі

дыванок, які не прапускае холад, і тэрмас з гарбатай, і канапкі... Я магла дадаць толькі пачак печыва "Фестывальнае" і бутэльку мінералкі "Мінская-4".

Ідыётка, вядома... Нармальная дзеўка, выпраўляючыся ў вандроўку з хлопцам, ад якога так млее, піражкоў бы напякла, курыцу ў фальзе, віно... Гальяш сунуў мне ў руку канапку з вяндлінай і паловай салёнага агурка:

– Еш, Чырвоны Каптурок... А то занадта ты... эфемерная, адны вочы...

Было ціха-ціха, толькі вецер шаргатаў не абляцелымі яшчэ сухімі лістамі.

– Слухай, даўно хацеў спытаць – адкуль у цябе такая любоў да беларушчыны? – зноў гэты дзіўны позірк шэрых вачэй, нібыта на птушку невядомай пароды. – Прабач, але звычайна людзі з правінцыі так намагаюцца паказацца гарадскімі, сталічнымі... Нават акцэнт вынішчаюць.

– Разумееш, – я пакутліва шукала словы, – у сям'і маёй па-беларуску ніхто не размаўляў. Мама – настаўніца рускай мовы, бацька выкладаў матэматыку, якую я шчыра ненавіджу. А потым я даведалася, што адзін з маіх прадзедаў у дваццатых быў беларускім паэтам, сябрам літаратурнага аб'яднання ў Мсціслаўлі. Вучыўся там у педвучэльні. Калі пачаліся рэпрэсіі трыццатых, ягоных сяброў-паэтаў адзін за адным пахапалі, паарыштоўвалі. Каго расстралялі, каго – у лагеры... Напэўна, і дзеда цягалі, хаця і не забралі. Ён назаўсёды кінуў пісаць... Больш за тое, у яго засталося ўстойлівае перакананне, што беларуская мова – гэта небяспечна. І пасля вайны дачцэ сваёй ён, франтавік, гэта ўнушыў. А тая – сваёй дачцэ... Калі я пра ўсё гэта даведалася і знайшла старыя часопісы з публікацыямі прадзеда і ягоных забітых сяброў, мне падалося гэта настолькі несправядлівым...

Я пераламіла ў пальцах тонкую шурпатую галінку, падабраную ў траве.

– Уяві, колькі нашых такім чынам запалоханыя – проста генетычна. А цяпер нам трындзяць, што беларусы самі не хочуць сваёй мовы. Ты ж вось перажываеш, калі знікае нейкі від рукакрылых, ці там вераб'іных... Няўжо знікненне цэлай мовы, вялізнай жывой стыхіі, народа з ягонымі культурнымі адметнасцямі – меншая трагедыя?

Нашчадак Каганецкіх акуратна складаў у заплечнік недаедкі.

– А без пафасу можаш?

Я пакрыўджана ўскочыла з дыванка. Дарэмна... Усё дарэмна... Чужы... Не мой...

Мы ішлі моўчкі хвілінаў дваццаць. За гэты час не праехала ніводная машына.

– Я не хацеў цябе крыўдзіць... – ціха прамовіў мой спадарожнік. – Я ж таксама ў свой час... захапляўся, падзяляў... Пагоню на заплечнік нашыў. Н.Р.М. слухаў. А потым... Час ідзе, нічога не мяняецца, усе між сабой сварацца, нават унутры ўласных тусовак такая грызня ідзе... Вось звяры – яны паўсюль на адной мове гавораць. А тут Лера знайшла магчымасць працы для мяне за мяжой.

– Ты не падобны да таго, каго пхаюць па жыцці, быццам калёсцы.

Я ўсё яшчэ была злая і расчараваная і прыспешыла крок. Гальяш дагнаў мяне, крануў за плячо. Моцы скінуць ягоную руку я ў сабе, аднак, не знайшла.

– Лера гэта ведае, павер. Таму і нервуецца. Гуляе ў клапатлівую нявесту. Не ўсім жа пашчасціла быць такімі, як ты, Сімка...

Гэта ён пра што? Я рэзка спынілася і азірнулася. Шэрыя вочы глядзелі з сумам. Прагным сумам.

– У цябе ёсць нешта такое... Непарушнае... вартае... Камертон, з якім ты ўсё звяраеш. Унутраны компас... Так кажаны, сляпыя, няўклюдныя, смешныя, могуць арыентавацца ў самых складаных лабірынтах, у якіх загінуў бы і Мінатаўр. Я... зайздрошчу табе, Сімка.

Я раздражнёна насунула глыбей сваю дурацкую чырвоную шапку. Носьбіт высокай духоўнасці... Пасля таго, як я папрацавала ў дзяржаўным выданні, ад слова "духоўнасць" мяне ванітуе. Перабор там з гэтым словам. Калі няма чаго сказаць пра змест кнігі ці выставы, гавораць пра іх духоўнасць. Калі дзяўчына не падабаецца як... дзяўчына, самы час паразважаць пра яе высокія духоўныя якасці.

– Тут не лабірынт. Тут балота.

І як прыгаварыла... Таму што яно сапраўды пачалося... айчыннае балота. Лес раптам расступіўся ўбакі, нібыта нехта прыкрыкнуў на дрэвы, пагнаў далей, каб вызваліць месца для важнай дзеі. Купіны з сухой травой, няшчасныя асінкі, хмызняк ля дарогі... Праўда, вада між купінамі не блішчэла, зялёнай раскі таксама не відаць. Сушняк. Прывітанне меліяратарам.

– Тут водзяцца кулікі... – мармытаў за маёй спінай Гальяш і шчоўкаў, шчоўкаў фотаапаратам... А я думала, што, мабыць, гэта менавіта тое балота, дзе...

Раптам я рэзка спынілася. Нібыта ўдарылася аб нябачную сцяну.

На краі дарогі святлеў урослы ў зямлю камень, а да яго прыхілены жалобны вянок. З зялёнай штучнай хваіны, трохі выцвілай, прыкрашанай грубаватымі тканевымі кветкамі. Я ўпала на калені, адсоўваючы сухія сцяблінны, што перашкаджалі агледзець знаходку.

Да каменя была прымацаваная шыльда з жоўтага металу, а на ёй выгравіраваны надпіс:

"Сымон Антонавіч Каганецкі, прафесар. 1855-1893.

Багуслава Марцыянаўна Кленчыц-Масевіч. 1867-1934".

Гальяш навёў на камень фотаапарат, шчоўкнуў... І застыў у пакутлівым маўчанні.

– Значыць, яна ўсё-ткі адправілася да свайго вужынага караля... – прамармытаў ён. Мае вусны дрыжэлі.

– Мы ж не ведаем, ці сама кінулася ў дрыгву, ці, можа, згодна запавету яе тут пахавалі... Усё-ткі пражыла доўга.

Я дакранулася да каменя, у якім сапраўды пад шыльдай змяіліся накрыж трэшчыны. Восеньскі ветрык падзьмуў мне ў твар, быццам нехта прывітаўся.

– Мяне вось што больш цікавіць: хто гэтую шыльду зрабіў? Хто вянок прынёс? У гэтым жа годзе, мусіць, наведвалі. Бачыш, і месца расчышчанае. Каб усё зарасло – мы б гэтага каменя і не заўважылі б.

Я ўстала і азірнулася: дрыгвы ніякай, купіны, асінкі... А дзесьці пад імі ляжаць продкі майго ваўкалака. Сына поўні, унука балота...

Гальяш скінуў на зямлю заплечнік, як быццам вярнуўся дахаты.

– Малітвы ведаеш?

Я падумала і кіўнула. Не вялікая з мяне верніца, але заўсёды важу з сабой дарожны складны абразок, папяровы, а на адвароце – некалькі

малітваў. Зараз дастану, зачытаю, як умею... Можа, і за супакой штось успомніцца...

“Госпадзе, памяні душы спачылых рабоў тваіх...”

Мы сядзелі на бліскучым дыванку непадалёк ад помніка Шымону і Багуславе, быццам на Радуніцу ці Дзяды, і глядзелі на высахлае балота.

– Колькі таямніцаў тут застаецца... – задумліва гаварыў Гальяш. – Знайсці працы Шымона Каганецкага, працы Калоцкага, асобы невядомых, што даглядаюць гэты помнік... Дый пра лёс рэпрэсаванага прадзеда, Ігната Сымонавіча, даведацца варта... Дзе ягоная магіла? Можа, у Сібіры, непадалёк ад месцаў, дзе нарадзілася ў катаржным бараку ягоная маці і загінулі бабуля і дзед?

І тут зайграў мелодыйку “Лэт май піпл гоў” смартфон майго спадарожніка. Лера, вядома... Але Гальяш моўчкі паглядзеў на экранчык, на якім высвечвалася аблічча каханай, і адключыў сілкаванне.

– Тут магчымыя тры варыянты, пра невядомых... – я схавала рукі ў рукавах курткі, як у муфту. Усё-ткі вечарэла, пачало халадаць. – Пра месца гібелі графа ведала няшмат чалавек. Давыд Масевіч – і гэта могуць быць ягоныя сваякі, сама Багуслава – але апошні з роду ты, ну і Ніхель... Але ён мусіў памерці раней за тваю прабабку. Праўда, здараецца, асабліва злых людзей Бог трымае на гэтым свеце дужа доўга, як гнілы арэх, які ніхто не падбірае, і ён валяецца ў траве год за годам. Карацей, параспытваць трэба, пашукаць...

Гальяш з тугой глядзеў на купіны і асінкі. Страціў сваю раўнавагу ён у Жухавічах...

А між тым бледная зорка неахвотна зірнула ўніз, як быццам страшэнна ёй не хацелася так рана заступаць на начную варту. А вось амаль незаўважны, прывідны абрыс месяца... Поўня. Нешта рана... Я зірнула на гадзіннік: пяць вечара. І як бы мне ні хацелася і далей сядзець тут, на бліскучым турыстычным дыванку, побач з чужым жаніхом, час перарываць медытацыю ды выпраўляцца з гэтай пустэльнай дарогі да шашы. За столькі часу ніводнай машыны... Толькі цяпер, здаецца, матор гудзе...

І праўда, у бок Жухавіч кіравалася аўто. Чорны джып, падобны да сярдзітага бульдога. Можа, паляўнічыя?

Каля нас машына спынілася. Нязводны расійскі шансон распавядаў пра вабноты злодзейскага жыцця.

Девочки мы мурочки,
Гасим в пол окурочки,
Это вам не фраеров,
Приблатнёных к курочке.

Дзверы адчыніліся, і выйшаў кіроўца... У скураной куртцы, накінутай паўзверх чорнай майкі, з каротка стыжанай галавой і тварам, такім жа бульдогападобным, як джып.

– Маладыя людзі, не падкажаце, дзе тут бліжэйшы кемпінг? Навігатар здох, заблукалі...

А вочы ў заблукалага, як кавалкі празрыста-каламутнага бутэлечнага шкла. І нумары на машыне не беларускія. З усходу госці.

– Там, куды вы едзеце, кемпінга дакладна няма, – азірнуўшыся, спакойна адказаў Гальяш, нават не робячы спробы прыўстаць. – Вяртайцеся на шашу.

Але мінак не збіраўся так лёгка адчапляцца. Ён спыніўся позіркам на мне.

– А не жадаеце з намі праехацца? Нам бы чыста месца для пікніку знайсці. Шашлычок пасмажыць... Вы ж мясцовыя, падкажаце, дзе спыніцца.

Гальяш няспешна ўзняўся.

– Дзякуем за прапанову, але вы ўжо самі як-небудзь. Наперадзе – закінутае лясніцтва, пляцовак для шашлыка не бачыў.

А з джыпа вылез яшчэ адзін, таксама ў скураной куртцы, з пляскатым, як недапечаным, тварам:

– Ды кінь, добрая кампанія нікому не зашкодзіць, пацан. Ты нас з дзяўчынай пазнаём.

І – фокус атрымаўся! – побач з ім узнік яшчэ адзін асобнік жывёльнага віду хомо, хаця й не зусім сапіенс, дакладны блізняк таварышаў.

Тры джыпісты, тры вясёлых дрына...

– Дзяўчына, далучайцеся да нас! У нас каньяк, шакаладныя цукеркі... Сядзенні мяккія.

А вось цяпер – ой... Пясец прамым маршрутам з тундры.

З джыпа даносілася развясёлае:

Фильтруй базар свой, мухомор, когда быкуешь,
Получишь бритву в зеньки мерзкий фраерок.
Кого ты падла на панель стоишь фалуешь?
Беги пока перо не засадила в бок!"

Балота маўчала.

Я разгублена зірнула на Гальяша. Ён выпрастаўся, дастаў рукі з кішэняў... Так, ён дужы і плячысты, толькі адзін з прыхадняў не ніжэй за яго, але ж не баец... Тыповы такі малады высакалобы навуковец. Дый што адзін – супраць траіх? А вакол за колькі кіламетраў – ні душы, крычы – не крычы... Уцякаць? Я азірнулася цераз плячо: нароўная паверхня балота, у якім калісь бясследна патанула брычка з гнядым канём, не была падобнай да стадыёна... Але я, нязграбна прыўстаўшы, пачала ўсё-ткі патроху спаўзаць у той бок з адхону, трымаючыся адной рукой за камень з шыльдачкай.

– Дзяўчына да кампаній не прывыкла, яна сціплая. Вы, спадарства, на шашу вяртайцеся, там кавярні прыдарожныя... І дзяўчаты ёсць, пазнаёміцеся.

Гальяш гаварыў вельмі спакойна, ветліва, як быццам утаймоўваў дзікіх звяроў.

– А нам гэтая падабаецца! – заявіў трэці браток-блізнюк, з носам, расплюснутым так, быццам ягоным тварам раўнялі сцены, як кажуць, нарадзіла маці, ды не аблізала. – З коскамі, вачастая... Не бойся, красунька, з намі весела! Не пакрыўдзім! Потым дамоў цябе адвязем з музыкай! Кідай свайго фраера!

– Дзяўчына не хоча з вамі ехаць.

На гэты раз голас Гальяша гучаў важка і цвёрда. Кіроўца расплыўся ва ўсмешцы – відаць, бойка з фраерам таксама ўваходзіла ў вячэрнюю забаўляльную праграму

– А што ты за яе вырашаеш? Хто ты такі?

Калі Гальяша ўдарылі першы раз, я закрычала... Дакладней, заверашчала і кінулася на мярзотніка, заціснуўшы ў руках, як высветлілася пасля,

тэрмас... Ну што я, пяцьдзясят дзве кілі з тэрмасам, магла зрабіць з бандытамі? Але я была не здольная разважаць – бо крыўдзілі Яго!

І мяне з задавальненем абхапіў сваймі ручышчамі дзядзька з прыплюснутым носам. Я магла тузацца, брыкацца, круціцца – гэта было ўсё адно як патрапіць у цэментавы мяшок.

– Адпусці яе! – голас Гальяша гучаў пазрозліва нізка і хрыпла... Быццам з чужога горла.

– А то што ты зробіш?

І тады ён зароў... Звярыны, нізкі рык, але ні разу не ваўчынае выццё.

Прыхадні засмяяліся.

– О, як ты можаш! Як у рэкламе шакаладнага батончыка!

А я, выкручваючыся з абдоймаў бандыта, захлынаючыся ад агіднага паху каньяку, поту і рэзкай парфумы, бачыла тое, чаго не заўважалі яны. Як за спінай Гальяша ўсё больш выразна праступаў круглы твар поўні, і вочы ў яго рабіліся белымі... Выскальваліся зубы... На вуснах паказвалася пена...

Калі яго ўдарылі яшчэ раз – кулаком у грудзі – ён не зрабіў спробы ўхіліцца, але быццам не заўважыў удару. Нават не зварухнуўся, падобна, як бы ўдарылі ў дрэва. Так што бандыт нават са здзіўленнем паглядзеў на ўласны кулак.

Але надта доўга разглядаць працоўную частку свайго цела яму не давялося. Таму што Гальяш скочыў на іх... Не магу падабраць іншага слова.

Не, ён не аброс поўсцю, не займеў іклаў, не навучыўся рабіць эфектныя сальта... Проста ад усяе свядомасці ў яго як бы застаўся адзін інстынкт: знішчыць ворагаў. А цела само ведала, што рабіць. І гэта атрымлівалася страшна і бязлітасна.

Усё ў гэтай казцы было наадварот: Чырвоны Каптурык без піражкоў, высакародны воўк з піражкамі, злыя паляўнічыя з кулакамі...

Як і апісвалі паводзіны берсеркаў: неадчувальнасць да болю, незвычайная моц цягліцаў, падвышаная хуткасць рэакцыі... Песня з аўтамагнітолы пра фраера суправаджалася гэткім рэальным саунд-трэкам з баевікоў, у асноўным з тых словаў, якія цэнзары замяняюць піпіканнем. Цэнзурная частка гучала прыблізна так: "псіх пацан пад кайфам сука пусці больна сука псіх укусіў ён мяне ўкусіў руку зламаў псіх упораты неваліцца гад нічога не бярэ сука грышаня едзем ну іх беларусаў шалёных заводзь дзверцу адарваў сука балюча кроў жа ідзе ўкусіў зламаў сука".

Калі джып, з дзверкай, якая матлялася на адным мацаванні, з'ехаў туды, адкуль з'явіўся, адчайна падскокваючы ў каляінах, я стала перад сваім ваўкалакам.

Ну, напэўна, хтосьці мог і напалохацца, не ведаю. Вочы светлыя-светлыя, зрэнак амаль не відно, можна падумаць, што свецяцца, рот увесь у крыві... А галоўнае – рычыць. Па-звярынаму.

І глядзіць цяпер на мяне з гэтых светлых вачэй звер.

І цягне да мяне лапы...

Уцякай, Чырвоны Каптурок, сказала б мудрая казачная мараль.

Але я ніколі не любіла мараль у канцы казак. Асабліва пасля працы ў дзяржаўнай газеце.

І не было ў мяне чырвонага каптура, дарэчы, бо я згубіла яго, калі барукалася з бандытам. І не мелася ні боязі, ні агіды. Таму што я кахала так, што каб Гальяш ператварыўся і ў сапраўднага ваўка, пацягнулася б да яго, як да адзінага свайго сонейка...

А Гальяш стаяў і глядзеў, трохі пагойдаючыся, але я разумела, што ён мяне не бачыць. Ягоныя рукі пагрозна прыўзняліся... Магчыма, зараз ён успрымае мяне проста як яшчэ адну перашкоду... Тым больш трэба дапамагчы яму прыйсці да свядомасці, каб чагось кепскага не ўтварыў! Ступіла наперад, паклала рукі яму на плечы – а яны нават праз куртку адчуваліся, як каменныя, зазірнула ў твар і чамусьці ў мяне вырвалася:

– Шымон!

Я зараз жа паправілася:

– Гальяш! Гальяш! Ты мяне чуеш?

Скрозь выскаленыя зубы вырваўся звярыны рык. Але я нават не адхіснулася.

– Гальяш!

Ягоныя вочы пачалі трохі прыпадабняцца звычайным, шэрым... Раптам у іх мільгануў звярыны спалох... Паніка... Я паспешліва абцёрла ягоны твар ад чужой крыві ўласным шалікам-арафаткай:

– Усё добра! Я з табой!

Ён усё яшчэ баяўся – звер у ім баяўся... Як лунатык, калі, раптоўна абуджаны, бачыць сябе ў незнаёмым месцы... І такі жаль, такая любасць кроілі маё сэрца, што я, як апошняя дурніца, абшчаперыўшы яго, прыціснуўшыся, каб прагнаць ягоны спалох, пачала няўмела і бязладна цалаваць ягоную шыю, падбароддзе, вусны, яшчэ скрываўленыя, прыгаворваючы нешта супакаяльнае, вечную замову, словы якой прыходзяць да жанчыны ў патрэбны момант нібыта з сутарэнняў векавой памяці.

А потым яго сагнула напалам... І я прытрымлівала яго, яшчэ нядаўна напоўненага жывёльнай моцай, пакуль ён з агідай паласкаў рот гарбатай, жорстка адціраў рукі вільготнымі сурвэткамі... А потым спытаў:

– Табе... не страшна?

Нарэшце амаль сваім голасам, толькі нізкаватым і хрыплаватым.

– Не... – ціха адказала я і апусціла вочы... Горка, што больш я яго не пацалую, сорамна, што скарысталася непрытомнасцю, лашчыла чужога мужчыну... Як цяпер у вочы яму глядзець...

Але Гальяш прыўзняў мой твар за падбароддзе, і я сустрэлася позіркам з вачыма, зноў звыкла шэрымі:

– Ведаеш, я не пакіну цябе ў сваёй кватэры. Адну не пакіну. Дзе мне яшчэ адшукаць такую ўтаймавальніцу...

А праз стагоддзі – а менавіта столькі, па маіх адчуваннях, доўжыўся пацалунак, Гальяш пагладзіў мае растрапаныя косы.

– Ведаеш, аднойчы ў мяне нешта падобнае было. Але я стрымаўся, не дайшоў да шалу. Нягоднік, які напісаў на мяне данос, паспеў уцячы, а Лера адлівала мяне вадой. З фантана. Зачэрпвала шапачкай для басейна – збіралася вечарам схадзіць на плаванне – і плюх мне ў фізіяномію... А потым завяла да доктара. Мне забаранілі хваляваца. Таблеткі год глытаў. І я страшэнна баяўся, што звар'яцею.

Ясна, а Лера, зразумела, яго гэтым палохала, а сябе выдавала як адзіна магчымую выратаваўцу і захавальніцу таямніцы.

– Я ніколі не пасаджу цябе ў клетку, – прашаптала я.

– А калі мне стане горш? – жорстка спытаўся Гальяш. –Калі я стану небяспечны? Я ж шмат чытаў пра гэта... Лікантропія – як і парфірыя, хвароба цалкам рэальная. Форма псіхозу. Стагоддзе таму некаторыя лічылі яе формай істэрыі.

– Ты – такі тыповы беларус, – прамовіла я, праводзячы, як калісьці марыла, пальцам па ягоных густых бровах. – Нам увесь час унушалі, што мы – спакойныя, цярплівыя, талерантныя такія. А як толькі адыходзім ад гэтай нормы, пачынаем бараніць сваю годнасць – адмарозкі. Падонкі. Чаму мы павінны быць бяспечнымі, як кісель? Ешце нас лыжкай? Памятаеш рэпавую песню з прыпевам "Беларусы – шалёны народ"? Калі доўга заганяць у сябе гнеў, ён рана ці позна выбухне шалёным супрацівам. Я не баюся твайго звера. Не бойся і ты. Сёння ён нас выратаваў.

Мы стаялі над магілай двух закаханых, якая знаходзілася на дне высахлага балота.

Але цяпер, калі поўня ўсё больш выразна праяўлялася на восеньскім небе, быццам нехта ўсё бліжэй падносіў ліхтар з таго боку нацягнутага сіняга палатна, я бачыла, што паміж купінаў у некалькіх месцах паблісквае вада.

Дрыгва нікуды не падзелася.

І мы нікуды не падзенемся ад сваёй дрыгвы. І калі пчолы бароняць вуллі свае, то дрыгву бароняць ваўкалакі.

Ну гэта я ўжо так, сцябаюся.

Таму што шчаслівая.

Таму што побач са мной мой каханы, нашчадак племені неўраў, таму што зараз мы дойдзем да шашы, і спынім машыну, і даедзем да горада Б*, пад асфальтам якога дзесь таксама схаваная нейкая дрыгва, і я пазнаёмлю бацькоў са сваім хлопцам...

І няхай я не ведаю, паляціць ён паслязаўтра за дзесяць мораў ці не, урэшце мы з ім будзем жыць на Беларусі, бо яна жыве ў нас, дрыгва з уяўнай роўненькай паверхняй, па якой не варта прагульвацца. І кожны, пашукаўшы, знойдзе ў сямейных схովішчах дагератып, з якога гляне смелымі, дапытлівымі вачыма закатаваная гісторыя, і давядзецца адказваць, ці жыве Беларусь.

## ПАТАЕМНАЯ КНІГА

"Я – Радаслаў Анупрыевіч Каганецкі, шляхціц герба "Люпус"...

Я – Радаслаў Каганецкі, граф, стацкі радца, кавалер ордэна Святога Станіслава...

Я – Радаслаў, сын Анупрыя, унук Гальяша, бацька Антонія, звяно ў ланцугу роду... Іржавае звяно ў іржавым ланцугу...

Нашто я пішу пра сябе словы, якія маюць значэння не больш, чым рассыпаныя фальшывыя перліны? Пакуль блішчэлі, сабраныя ў каралі – былі каштоўнасцю, адзнакай самавітасці.

Але парвалася тонкая нітка, і вось яны ляжаць на камянях падлогі, і любы латруга бачыць, што яны ўсяго толькі падробка, нічога не вартая, не маючая назвы...

Я – нішто.

Багоўка, якая паспрабавала сцерці з бліскучых чырвоных крылцаў чорныя плямы, але паколькі яны і былі часткай крылаў – засталася вартым жалю чорным рабаком з абламанай здольнасцю лётаць.

Я ўсё жыццё ішоў насуперак свайму лёсу. Я не хацеў быць тым, кім мне наканавана, таму што ўважаў гэта за глупства і за грэх.

Мае продкі адзін за адным гінулі ў барацьбе бескарыснай і няўдзячнай, і ніхто не дажываў нават да сарака.

Самы стары ў родзе быў мой прадзед, які ў сорак пяць гадоў атрымаў шастапёрам па галаве падчас нямога сойму.

Мы ж, Каганецкія, не можам маўчаць, нават калі ўвесь сойм знямелы.

Бацька пайшоў за Касцюшкам.

Генерал Тадэвуш зазнаў паразу, але слава ягоная была большай, чым ягоная ганьба. Ён вызначыўся ў Амерыцы, пакрасаваўся ўдосталь на шахматнай дошцы часу ў лаўровым вянку... А ягоных пешак зжэрлі і забыліся на іх.

Я не хацеў быць пешкай. Я не хацеў паміраць у дваццаць пяць ці трыццаць з прыгожым лозунгам на разбітых вуснах. Не хацеў даваць волю гневу, які змушае нас адзін за адным кідацца на дзіды з белымі ад шалу вачыма... Я хацеў быць з Каралінай, вывучаць натуральныя навукі, сядзець вечарамі ля каміна і расказваць унукам казкі...

Мой унук палохаецца мяне, быццам звера. Караліна памерла са спалохам у вачах. Багацце, што прыплывала да мяне, я лёгка аддаваў нявартым за ігорным сталом, таму што набытае імі там, яно прыхоплівала з сабою частку майго праклёну, частку маёй пустэчы.

Яны ўсе думаюць, што я збіраю д'ябальскія рэчы, каб назапашваць сілу зла.

Хіба можна вылечыцца, назапашваючы хваробы?

Я проста запаўняю пустэчу ўнутры, выкупляючы грахі так, як параіў адзін юрад, а я дастаткова таксама юрад, каб яму паверыць. Перахопліваю лісты зла, якія былі пасланыя іншым адрасатам.

Хваравітае, балючае задавальненне – глядзець на рэчы, якімі загубленая чыясьці душа – таго, хто іх рабіў, замаўляў, зачароўваў. Краtаць смертаносныя экспанаты і адчуваць, што ты сам – жывы... Усё яшчэ жывы. У адрозненне ад тых высакародных юнакоў, што абяцалі ўсім здабыць шчасце і волю, а здабылі кайданы толькі для сябе.

Але я тых юнакоў не забіваў. Прынамсі, уласнаручна. Я забіў толькі аднойчы. Калі дазволіў радавому праклёну кіраваць сабой. Калі чужая кроў апякла мой рот, як воцат, а Караліна глядзела на мяне з захапленнем і жахам. Я ж заступіўся за яе гонар!

Толькі я не хацеў ні ў вязніцу, ні ў вар'ятню.

І я пагадзіўся, узамен за свабоду, каб мяне пасадзілі на ланцуг і ператварылі ў сабаку.

Яны маглі зрабіць жа гэта і літаральна...

А так – у мяне была пашана ў лаяльным грамадстве, пасада і тытул, землі і падданыя. Вядома, я маліўся. Я маліўся столькі, што каб за кожную малітву мне давалі кроплю вады – стварыў бы яшчэ адно возера. Слаў грошы кляштарам. Знаходзіў суцяшэнне ў Святым Пісанні, і спрабаваў зрабіцца рахманым і прабачаць ворагаў сваіх. Але заставаўся занадта ганарлівы. Таму калі мяне абражалі, проста маўчаў і адыходзіўся ўбок – разам з бяссілай нянавісцю.

Не, я ніколі не лічыў сябе здраднікам. Здрадзіць можна тым, хто табе быў дарагі, каму абяцаў сваю вернасць. А мне на ўсіх было начхаць. Я заўсёды быў сам па сабе. Пачварай. Зверам.

Hundswuth.

Так называлася мая спадчына.

Першы Каганецкі з нашага радаводу служыў князю Вітаўту і быў

сваяком паганскага жраца Ляздзейкі, якога лічылі сынам ваўка. Менавіта ад яго і перадалося нам тое, што я ў сабе ненавіджу. Я прачытаў у Ёзэфа Раўгемонта пра Hundswuth: “Бяда пачынаецца з укусу жывёлы. Праз працяглы час у ахвяры з'яўляюцца першыя сімптомы: няшчасныя баяцца дзённага святла, пагружацца ў ваду і пачынаюць кідацца, як у шаленстве, кусаць і кружыцца. На іх уласна нерухомых тварах спазмы цягліцаў уцягваюць вусны і агаляюць язык і зубы, пена выступае з рота, і жахлівыя гарлавыя гукі выдаюць гэтыя змучаныя істоты”.

У нас, якія носяць атруту ў крыві, прыступ выглядае не так. Мы не баімся святла, не баімся вады, і мы не ахвяры.

Але я больш не хачу быць забойцам. Я хачу парваць ланцуг. Я ненавіджу свой род, ненавіджу гэтую зямлю, за якую мусіў загінуць, як усе мае продкі.

Але калі мой сын першы раз прынёс выкуплены ім у Дрэздэне зачараваны прадмет, каб папоўніць маю калекцыю, я зразумеў, што бяссілы.

Мой сын, якому я перадаў свае погляды, і забараніў раз і назаўсёды ўдзельнічаць у бунтах, і загадаў пазбягаць вайсковай службы і двубояў, сварак і звадаў – усяго, што можа выклікаць гнеў і абудзіць радавы праклён, таксама будзе ўсё жыццё пакутваць і суцішваць у сабе звера, змірацца і запэўніваць сябе, што жыве, як належыць, і яго будзе смактаць унутры гэтая страшная пустэча... Якой не зведалі нашыя продкі, што лёгка паміралі і жылі весела і бясстрашна, хаця й нядоўга.

Яны ведалі, што іх стварылі як адмысловую зброю, і выконвалі сваё прызначэнне. У іх былі зацятыя ворагі і верныя сябры, жанчыны глядзелі на іх, як аднойчы на мяне мая Караліна – з захапленнем і дамешкам жаху, што толькі дадае вастрыні каханню...

Я надламаў сцябло роду. Стачыў звяно ланцуга.

Ці будзе аплочаная мая ахвяра? Ці знойдзе спакой душы хтосьці з маіх праўнукаў? Ці будзе гэтая зямля калісьці да нас ласкавай, ці перастане патрабаваць крывавых ахвяраў?

Не ведаю”.

*2013*

дэбют

Андрэй Захарэўскі



...Я разарвала вусны
і дастала мову...

# Край

***Навела***

Зямля Твая верыць у Цябе, superman. Камеры працуюць, сектары газаў пад ціскам, унутраныя матэры. У Цябе нішчымніца, а жаруць Цябе ж. Ці можаш Ты, супермадэль, суперажываць, хаця б адзін раз, можа, і апошні.

Я, канечне ж, у той пачатковай форме хадзіла на галаве і толькі і рабіла, што піло. Дык, праўда, і мяса было навалам, хапала крыві, нібы Яна ўся праходзіла праз Мяне. Я было гэтым сытае, Я купалася ў акрываўленым мясе, хацела ўсё гэта спыніць, хоць і пасля касы. Скажу шчыра, Я тады паспытала б бялка – яйка, клятчаткі раслiннай – пладоў – асабліва пладоў, якім можна ляжаць пад дрэвамі, у кустоўі, у травах, пладоў, якія можна збіраць без прывязанасці да чужога жыцця, без відавочнага гвалту, хлусні, у рэшце рэшт.

Там і з’явілася Яна. Здаецца, толькі так Мне і давялося забыцца першы раз у жыцці на ежу, адразу, дальбог, адразу Мой страваваод адчуў жарсць да Яе, і Мне хацелася быць з Ёю, можа, толькі з Ёю адною.

Яна павабіла Мяне. Я страціла прытомнасць праз Яе шаленства, але калі ачулася, то Яна ўжо ляжала са Мною, і з Яе ўлоння вырываўся стогн, як Яе рвалі, вырывалі з Яе ж. І нада Мною, над Намі Нехта душыўся паветрам. Ён абцугамі сціскаў Маю галаву і вось так пакрысе брыў, вымагаючы пры гэтым Мяне неяк утульней уладкоўвацца, увесь час выкручвацца. Так Я аказалася на вяршыні, у эпіцэнтры, у кульмінацыі жыцця, ува Мне нешта хацела. Я адбывалася.

Паўсюль разліваецца бель.

Яна і Ён стаялі: Яна размаўляла па тэлефоне, Ён глядзеў тэлевізію. Я моўчкі павіталася, Яны гэтаксама моўчкі адказалі. На стале, як заўсёды мусіць быць цяпер, чакала ежа: язык заліўны, вуха ў тлушчы – халоднае, і пакуль Яна грэе, Я смактала Яе, і прыйшоў Мой час – Я зрабіла чэрава.

– Я ведаю, Хто Вы, – сказала проста Ім.

– Хто, – пацікавіўся Ён.

– Вы... – хацелі пачуць тэрмін, але Я запнулася ў Сабе. У Іх проста няма выбару быць па-Свойму. Я Іх бачыла наскрозь. – Вы недалёкія. – Ён устаў, каб адрэзаць Мяне, і Я дадало: – У Вас Мая плоць...

Ён спыніўся.

– Так, – пагадзіўся Ён. – Вы – у Нас.

Падстава была відавочная – Ён працягвае:

– Вы – апошнія з... – яўген ікаў, – апошнія з Нас – першыя!

Я маўчала, каб не выдаць Сябе, не спаліцца. Аднак што ж Я магло сказаць, калі маўчала і Яна. Праўда, унутры нешта заварушылася, Мяне дакладна стукнула там, ударыла, але таксама ж нечакана па-змоўніцку змоўкла. А Я ўжо ўсё няслося:

– Нешта Мне нядобра, – сказала Я.

– Не пярэч! – прыкрыкнуў Ён. – Вы не спрабавалі яшчэ цяжкага хлеба!

А Яна маўчала. Можа, толькі Яна Мяне і бачыла.

Мяне сапраўды распірала і давялося пабыць ва ўборнай. Аднак там было ўсё суха ды пуста, да таго ж Я толкам не ведала, як мне зрабіць: укленчыць, сесці ці стаць. Пэўна, Само Я і ёсць спадзенне.

Свой погляд Яна трымала ўва Мне, ад гэтага Я не тое што не магло – не хацела рухацца, Я хацела вось так не быць і ўжо быць з Ёю, дзе б Я ні было. Канечне, Яна адразу ўсё зразумела і хацела Мне дапамагчы: Я так хацела. Як? чым Вы Мне дапаможаце? Унутры Мяне сядзіць такое, што Яно распірае Маё ўлонне, точыць. Хаця Вы Сваёй увагай да Мяне вельмі і вельмі любімы Мною. Што ж, гэта запалкі, запал. Але Ніхто, запомніце гэта, Ніхто не дасць рады, не ўзарве нутро, акрамя Мяне. Такім чынам, Я здагадалася, што ў Сваім становішчы неабходна вырвацца Мне.

Я ўпэўненае, такія цікавыя становішчы ўзнікалі і раней. Думаю цяпер, кожны раз нават. І хоць Яны адбываліся са Мною, але былі і Маімі, і чужымі. Сёння, прачнуўшыся, Я ўбачыла Сябе і заблыталася, як варыць стравы.

– Я здагадвалася, што з Вамі, – сказала Яна Мне ў вуха.

Я маўчала, Я не чакала, што Яна пачне балбатаць са Мною.

– Цяпер ведаю напэўна, – лапатала Яна далей.

– Што, – падказала Я Яе словы.

– Вы ў крытычным стане, – адказала Яна мнагазначна і ласкава.

– Няма ў Мяне нічога крытычнага! – крыкнула Я ў адказ, такая Ye ўлюбёнасць у Мяне, разам са Мною і ў Маё становішча злавала.

– Апошнім часам Вы загрубелі, – задумалася Яна.

Я змоўчала.

І так Мне захацелася расчыніць акно, што Я падумала было гэта зрабіць, ажно ўсё забіта:

– Вам трэба паверыць, – цяжка сказала Яна. І затыкнулася.

Згаладалае, Я намагалася думаць пра карані, Мяне кідала ад імені да імені. Да таго ж у Мяне былі накіраваныя чэргі, і газы гатовыя былі вырвацца вонкі, і выбіраць, мусіць, не даводзілася: разам са Мною ўзвышаўся радавы ствол. Я бралася і бралася ў цвет, Я налівалася зноў і зноў. Паглядзеўшы ўверх, Я ўбачыла над Сабою Яго. Ён падслухоўваў Нашую з Ёю размову. Я ведаю: Ён назірае за Мною.

Уласна, Ён і будзе Маім павераным. Я было каля Яго, Ён кінуў на Мяне Свой позірк, спыніўшыся на імгненне на жываце. Я бачу, што Ён усё ведае: Яна мае і на Яго вялікі ўплыў.

– Я раздзьмуваюся, раздаюся ў бакі, – сказала Я.

– Вы? – не здзівіўся Ён. – Апранайцеся! – папрасіў.

Я агарнулася рукамі, прыкрылася далонямі.

Яна стаяла за Мною і ўзняла-такі Мяне пад рукамі. Ён падышоў да Мяне, яшчэ раз поглядам абвёў Маё цела, спыніўся на нізе жывата, і пацягнуўся туды рукою і пальцамі намацаў пупавіну.

– Апупець можна! – як узрадваўся Ён!

Сам таго не ведаючы, Ён узяў у рукі Маю дзетароднасць, Мой плён, сціснуў там пальцамі, але адпусціў. Ён нічога не разумеў у гэтым.

– Вашыя ініцыялы? – заводзіла Мяне Яна.

– Пі, – паслухмяна сказала Я.

– Паша яўгена! – стральнула.

– Я не ведаю, – шчыра прызналася. Ад таго, што Ён зачапіў Маё шво, Маю мяжу, было складана нешта меркаваць яшчэ, але такі, – можа, гэта як і лічба “пі”. І Яно, гэтае ірацыянальнае слова, пэўна замоўчваецца, бо Яго нельга выказаць дарэшты, гэта ўсяго змушанае абагульненне. Таму што Я цяпер ніякага роду: мужчынскага, жаночага, сярэдняга паміж Імі і нават множнага, памножанага ўдвая, на бясконцасць, на нуль; унісекс.

Яна запомніла Мой бязглузды адказ, і Я пашкадавала, што сказала праўду. Згодны і Ён са Мною, бо тлумачыць, што Мая простатасць дэфармавалася да прымітывізму, ды, відаць, так, што існуе вялікая магчымасць склерозу. Ён параіў Мне быць з маткай.

Я перестала апынацца, Я распаўзалася.

З бельэтажа вібравала, і Я падымалася, бразгочучы ад кожнага пляскача, па гэтым пачуцці вібрацыі туды, дзе панаваў Ён і кіравала Яна. Зрэшты, дзе Я цяпер было, увесь час нешта адбывалася, бо звінела і білася цішыня, і басы гэтай цішыні аглушалі і – анямечвалі.

Яны – Яна і Ён – аб’явілі пра Маё – зорнае – з’яўленне, і сектары Мяне ўшчэнт агалілі, разглядаючы з усіх мажлівых вачэй, і цікавалі, нягледзячы на зімароднасць, за Мною. Увесь гэты цырк праз Мяне. Самі Яны нібы натхнёна маўчаць, але ніяк пра Сябе не гавораць, ніяк не выказваюць Сваіх думак, толькі самазадаволена глядзяць на “цуда-юда” – так Мяне называюць. Гэтая манія да вышыні завяла Мяне да вузкага праходу, ад якога залежыць Маё жыццё. Я заняло топ-пазіцыю і вырабляла ўсялякія сцэны, было як у

бязважкасці, але затрашчалі швы – уваччу Я таўсцела – і хутка стала Само Сабе ў цяжар. Я хацела ўспомніць, пра што думала, успамінала ключавыя словы, але страціла голас – Ён маўчаў. Нітка пачала ірвацца.

Вось Я, голае, – палічыла ў Сваім становішчы за лепшае не апранацца, пакуль не буду ясным, ці яснейшым, чым Я ёсць цяпер, – бачыла юпіцер з крыптонам, а не ўбачыла, як словы рэалізуюць Сябе: о, а і Я ж ё набор літар, і Мне жахліва было ад таго, што Я не побач з Усімі, не кантактую з Імі. Хто Я, які тэрмін Мой, Майго існавання? Адзінае, што заставалася зрабіць, – гэта сказаць. Я разарвала вусны і дастала мову – Я заспявала. Атрымаліся адно гукапераймальныя чалавечай мовы словы. Сапраўды, Мая *песенька спета*: сэнсы сышлі ад Мяне. Я пайшло б да касы, пайшло б радзіць жыта, Я імкнулася б пусціць карані, знайшоўшы іх такім чынам, але Ён скажа Мне асесці (“Асядзь!”) і прапануе прадаваць гэтае жыта, а плаціць Ён будзе Мне – рэштай Майго жыта, ужо падгнілага, згарэлага – пацярухай. Якой і буду плаціць за муку. “Трэба – трэба нарэшце вызначыцца, стаць пастаянным, пастаялым, а не хадзіць па вастрыі”.

Паслабелае ўмомант ад такіх слоў Я растваралася ў белі, ставала вадзяністым і празрыстым, сярэднерэчыўным чалавекам.

Аднак Яна Мяне затрымала і вызваліла. Я толькі азірнулася, як Яна кінулася да Маіх ног – душа ўпала ў пяткі. Моцна, моцна-моцна сашчапіла рукі вакол лытак, і так не адпускала, што Я, і да таго аселае, проста злягло і выцялася. Я было яшчэ белае, як палатно. Але ўсялякія карані рушыліся.

Вось тут і пачаліся схваткі. Я крычала і білася – і ўзрывалася і тушылася, аднак надарыўся абрэз: знянацку сустрэлася з Ім сам-насам:

– О не, тут Я Вам не памочнік, – Ён па-ідыёцку развёў рукамі. – Змагайцеся Самі. Тварэц Я. Адпачываючы. Сузіральнік.

Ён расклаў мальберт, узяў алей, чарніла і пачаў пісаць.

– Вы Нашыя, – енчыла і плакала плачам Яна: – ...Мае.

І амаль што прамільгнула думка забіцца за юпітэр з крыптонам, а Ён чакана-такі сказаў:

– Стаць!

І Я было ўсталявалася.

– Стаць на шлях да людзей! – з-за мальберта Ён трэснуў па Маёй галаве крывянкай, якую, мусіць, толькі што зрабіў. Гэта і быў цяжкі хлеб: хлеб з каўбасою. Што ж, Я паспрабавала стаць на Іх месца – і паляцелі яйкі і памідоры. Я закрывалася ў бялізну, як магло. А можа, і сапраўды, любая клетка – жыццё.

Я ў ліхаманцы шукала Сабе прызначэнне і шугалася, што, калі вось тут нечакана і Я сыходжу са сцэны, і страчваю цвёрдасць, і лячу, і ўсё ляціць у пух і прах. Ён нешта казаў пра вастрыё, Я ўбачыла Яго, ну канечне. Гэтым лязом Я ўзмахнула ясна пад Сабою і адраклося кроўных каленяў і свяшчэнных смяротных ядраў. Я сустрэла Свой новы год: Я страчвала дзявоцтва, Я пачувалася ўжо пэўна іншым.

Мяне вырывала і нястрымна кружыла, і ў той белізне не ставала ўва Мне ні канца, ні краю.



Атэна Фарухсад



...яна пхала сваё барбарства
мне ў рот...

# Пачатак

***З кнігі “Белая нізка”***

Мая сям’я прыехала сюды пад сцягам марксізму.

Маці адразу ж запоўніла дом лямцавымі гномікамі
Пачала ўзважваць плюсы і мінусы
пластыкавых калядных ялінак
нібы гэта яе праблема
Ад ідна разбірала доўгія ды кароткія галосныя
нібыта гукі, што выходзілі з яе вуснаў
маглі вымыць аліўкавы алей са скуры
Маці ліла адбельнік праз сінтаксіс
З другога боку працяжніка яе склады рабіліся бялейшымі
чым зіма поўначы
Маці будавала нам будучыню з дастатку ежы
У падвале прыгараднай вілы грувасціла бляшанкі кансерваў
нібыта перад вайной
Вечарамі шукала рэцэпты ды абірала бульбу
нібыта гэта яе гісторыя была зашыфраваная
у страве “спакуса Янсана”

*Пераклад з ангельскай Дзмітрыя ПЛАКСА.*

Толькі падумаць – я смактала тыя грудзі
Толькі падумаць – яна пхала сваё барбарства мне ў рот

Маці сказала: ты, здаецца, ніколі не задумвалася
што з твайго імя пачалася цывілізацыя
Маці сказала: Чарнота майго ўлоння – адзіная цемра,
якой ты не баішся

Маці сказала: Ты летуценніца, ты нарадзілася
вочы людзям касавурыць
Маці сказала: Каб ты ўмела бачыць,
што акалічнасці бываюць змякчальнымі
дык ты б аблягчыла маю адказнасць
Маці сказала: Шануй намаганні людзей, што стараюцца
сфармуляваць праўду, якую можна вытрымаць
Маці сказала: ты не была жывучая ад самага пачатку

Маці сказала: Адна жанчына пальцамі выціснула вочы сваёй маці,
каб тая не бачыла даччынай распусты

Бацька сказаў: Ты маеш схільнасць да метафізікі
Але я вучыў цябе структуры вытворчасці
калі ў цябе яшчэ не павыпадалі малочныя зубы
Маці сказала: Твой бацька жыў для Суднага дня
твая маці таксама, але яе прымусілі змяніць мэты

Маці сказала: У сне твайго бацькі вас караюць смерцю
У мроях твайго бацькі вы звёны радаводу рэвалюцыянераў
Бацька сказаў: Твая маці карміла цябе з імпартных срэбных лыжак
Твая маці была па ўсім тваім твары
шалёна выпроствала кудзеры

Маці сказала: Усё жыццё зайздросціла я траўмам твайго бацькі
пакуль не зразумела, што мае ўласныя нашмат значнейшыя
Маці сказала: Я ўбіла процьму грошай на твае ўрокі фартэпіяна
Але ты адмовішся граць на маім пахаванні

Маці ўзяла мару з бацькавых рук і сказала:
Ты не будзеш саладзейшы ад цукру
Прайдзіся кружок вакол дома, перш чым укалоць інсулін
Бацька сказаў: я пражыў жыццё, я пражыў жыццё

я зрабіў наканаваную мне частку
Нічога не засталося ад лёгкага хлеба маладосці

Маці сказала майму брату: сцеражыся незнаёмцаў
Памятай, што ў цябе не будзе да чаго вярнуцца
калі яны раптам стануць ворагамі
Брат сказаў: Я сніў нешта вельмі дзіўнае
Як ранак памёр у маіх вачах пакуль яшчэ не знік сон
Чалавецтва цукру і разні
Развітваючыся са святлом, я спазнаў усё

Маці сказала: З дзялення клетак
з генетычнага матэрыялу
з галавы твайго бацькі
Але не з мяне
Бацька сказаў: З барацьбы цывілізацый
з базавага антаганізму
з маёй стомленай галавы
Але не з яе



Артур Конан Дойл



...Гэта праблема на тры люлькі,
і я папрашу вас не размаўляць са мной
пяцьдзясят хвілінаў...

# Саюз рудых

***Апавяданне***

Летась у адзін з восеньскіх дзён я завітаў да майго сябра містэра Шэрлака Холмса і заспеў яго за гутаркай з мажным і чырванатварым немаладым джэнтльменам з вогненна-рудой чупрынай. Я выбачыўся за тое, што прыйшоў без папярэджання, і хацеў пайсці, але Холмс рашуча ўцягнуў мяне ў пакой і прычыніў за мною дзверы.

– Немагчыма ўявіць сабе лепшага выпадку для вашага візіту, дарагі Ўотсан, – сардэчна сказаў ён.

– Мне падалося, вы заняты.

– Так і ёсць. Вельмі.

– Тады я лепш пачакаю ў суседнім пакоі.

– Ні ў якім разе. Містэр Ўілсан, гэты джэнтльмен шматкроць дапамагаў мне ў самых паспяховых справах, і я не сумняюся, што ў вашым выпадку ён будзе мне надзвычай карысным.

Мажны джэнтльмен прыўзняўся з крэсла і адвесіў мне паклон, у яго маленькіх, заплылых тлушчам вачах бліснула цікавасць.

*Пераклад з ангельскай Алены КАЗЛОВАЙ.*

– Сядайце на казетку, – сказаў мне Холмс, заняўшы сваё месца ў фатэлі і злучыўшы пальцы рук лодачкай, як рабіў штораз, калі збіраўся паразважаць. – Я ведаю, дарагі Ўотсан, што вы падзяляеце маю прыхільнасць да ўсяго надзвычайнага, якое выбіваецца з тужлівай аднастайнасці шэрых будняў. Пра гэта сведчыць той імпэт, з якім вы ўзяліся апісваць і, калі даруеце мне такую заўвагу, часам падаваць мае сціплыя прыгоды занадта прыгожа.

– Мяне напраўду вельмі зацікавілі вашыя справы, – адказаў я.

– Памятаеце, днямі, акурат перад тым, як узяцца за вельмі простую справу міс Мэры Сазэрлэнд, я сказаў, што нават самае багатае ўяўленне не здольнае прапанаваць нам такіх дзіўных з’яваў і нечаканых акалічнасцяў, як гэта можа зрабіць жыццё.

– Сцвярджэнне, у якім я ўзяў на сябе смеласць сумнявацца.

– Так, доктар, але ўсё ж вам давядзецца пагадзіцца з маім меркаваннем, бо я магу падмацаваць яго такой колькасцю прыкладаў, што пад націскам фактаў вам не застанецца нічога іншага, як прызнаць, што я маю рацыю. Вось, напрыклад, містэр Джабез Ўілсан завітаў да мяне сёння раніцай. Мяркуючы па тым, што ён паспеў расказаць, яго выпадак можа стацца адным з самых цікавых і адметных за апошні час. Вам вядома, што, на маю думку, самыя дзіўныя і выключныя абставіны часцей датычаць дробных злачынстваў, а гэтым разам наогул незразумела, ці ўчыніў тут хто нешта дурное. Пакуль я не магу зрабіць з пачутага выснову, ёсць тут злы намер ці не, тым не менш, уласна падзеі – несумненна, адны з самых незвычайных, якія толькі могуць быць. Містэр Ўілсан, ці не зробіце ласку паўтарыць тое, што ўжо мне расказалі? Я прашу не толькі таму, што мой сябар доктар Ўотсан прапусціў пачатак гісторыі, але і таму, што асаблівы яе характар моцна мяне зацікавіў, і мне хочацца атрымаць як мага больш падрабязны аповед з вашых вуснаў. Зазвычай, калі я ў агульных рысах валодаю карцінай, гэтага даволі, каб я мог параўнаць выпадак з тысячамі падобных здарэнняў, што прыходзяць мне ў галаву. Але пакуль вымушаны прызнаць, што з такімі акалічнасцямі сутыкаюся ўпершыню.

Мажны кліент самазадаволена выпнуў грудзі і выцягнуў з унутранай кішэні паліто брудную пакамечаную газету. Пакуль ён, падаўшыся наперад і расправіўшы газетную старонку на калене, шукаў патрэбнае месца ў калонцы аб’яваў, я ўважліва разглядаў яго, спрабуючы па абліччы і вопратцы здагадацца, што за чалавек перада мной, як гэта рабіў Холмс.

Але намаганні мае былі не дужа плённымі. Увесь выгляд наведніка казаў, што мы маем справу з нічым не адметным шараговым брытанскім гандляром – тлустым, пыхлівым і тугім на розум. На ім былі мехаватыя шэрыя цвідавыя нагавіцы ў клетку, не сказаць, каб надта чысты чорны сурдут, гузікі якога ён расшпіліў, і шэра-карычневая камізэлька з цяжкім медным ланцужком, на якім вісела нейкае металічнае ўпрыгожанне з квадратнай адтулінай. Побач на фатэлі ляжалі ягоны паношаны цыліндр і выцвілае карычневае паліто з памятым аксамітным каўняром. Агляд не даў амаль нічога, можна было адзначыць хіба толькі неверагодную рудзізну валасоў і выраз прыкрасці і незадаволенасці на твары.

Мае спробы не засталіся таямніцай для пільнага вока Шэрлака Холмса. З усмешкай ён паківаў галавой, заўважыўшы мае цікаўныя пагляды.

– Апроч відавочных прыкметаў таго, што некалі ён займаўся фізічнай працай, цяпер нюхае тытунь, уваходзіць у масонскую ложу, пабываў у Кітаі і зусім нядаўна спісаў процьму папераў, я і сам не патраплю сказаць болей.

Містэр Джабез Ўілсан падскочыў на крэсле, усё яшчэ прыціскаючы да газеты ўказальны палец, але скіраваўшы погляд на майго сябра.

– Але як, напрамілы Бог, вы пра ўсё гэта даведаліся, містэр Холмс? – выгукнуў ён. – Як вы, напрыклад, здагадаліся, што я займаўся фізічнай працай? Бо гэта чысцюткая праўда – я пачынаў як карабельны цясляр.

– Па вашых руках, мой дружа. Вашая правая рука заўважна большая за левую. Вы шмат працавалі, таму цягліцы на правай больш развітыя.

– Ну, а пра тытунь тады і пра тое, што я масон?

– Мне не хочацца крыўдзіць вашую кемлівасць тлумачэннем, асабліва з улікам таго, што насуперак строгім правілам вашага ордэна вы носіце брошку з выявай цыркуля і навугольніка.

– Праўда вашая, зусім забыўся на гэта. А што наконт пісаніны?

– А пра што яшчэ можа сведчыць пацёртасць на пяць дзюймаў вашай правай манжэты і зашмальцаваная латка на левым рукаве каля локця ў тым месцы, якім вы абапіраліся на пісьмовы стол?

– Ну, а Кітай?

– Рыба, вытатуяваная над кісцю вашай рукі, магла быць зроблена толькі ў Кітаі. У свой час я крыху цікавіўся тэмай знакаў у татуажы і нават зрабіў свой унёсак у літаратуру па прадмеце. Фарбаванне рыбнай лускі ў далікатны ружовы колер характэрнае толькі для Кітаю. А калі ў дадатак я бачу кітайскую манету на вашым ланцужку для гадзінніка, пытанне робіцца яшчэ больш простым.

Містэр Джабез Ўілсан гучна зарагатаў.

– Гэта ж трэба! – выгукнуў ён. – Спачатку я быў падумаў, што вы адгадалі нейкім разумным спосабам, а цяпер бачу, што тут няма нічога такога.

– Я пачынаю падазраваць, Ўотсан, – сказаў Холмс, – што дарэмна ўсё патлумачыў. Ведаеце, *omne ignotum pro magnifico*. Калі-небудзь недарэчная шчырасць загубіць маю рэпутацыю. Вы не знайшлі аб'яву, містэр Ўілсан?

– Ды вось жа яна, – адказаў той, трымаючы тоўсты чырвоны палец пасярэдзіне калонкі. – Тая самая, з якой усё пачалося. Вы самі пачытайце, сэр.

Я ўзяў у яго газету і прачытаў наступнае:

*ВАКАНСІЯ Ў САЮЗЕ РУДЫХ: Паводле тэстамента нябожчыка Іезекіі Хопкінса (г. Лебанон, Пенсільванія, ЗША), адкрываецца новая вакансія для сябра Саюза. Заробак – 4 фунты на тыдзень, абавязкі – фармальныя. Прэтэндаваць на пасаду могуць фізічна і псіхічна здаровыя рудавалосыя мужчыны, не маладшыя за дваццаць адзін год. Заяўку неабходна падаць асабіста Дункану Росу ў панядзелак аб адзінаццатай па адрасе: Фліт-стрыт, Поўпс-корт, дом 7, кантора Саюза.*

– І што ўсё гэта значыць? – усклікнуў я, калі двойчы прабег вачыма незвычайную абвестку.

Холмс задаволена ўсміхнуўся і адкінуўся на спінку крэсла, як рабіў, калі быў у гуморы.

– Не надта шараговы выпадак, праўда? – сказаў ён. – Ну, а зараз, містэр Ўілсан, раскажыце пра сябе, чым і як вы жывяце і якім чынам гэтая аб'ява паўплывала на вашае жыццё. Але спачатку вы, доктар, запішыце назву газеты і дату яе выхаду.

– Гэта *"The Morning Chronicle"* за 27 кастрычніка 1890 г. Двухмесячнай даўніны выпуск.

– Выдатна. Вашая чарга, містэр Ўілсан.

– Ну, як я ўжо гаварыў вам, містэр Шэрлак Холмс, – пачаў Джабез Ўілсан, прамакнуўшы лоб насоўкай, – я трымаю невялікі ламбард на Кобург-сквер каля Сіці. Абарот не вельмі вялікі, і ў апошнія гады прыбытку хапае толькі

на пражыванне. Раней я яшчэ мог дазволіць сабе двух памочнікаў, цяпер жа магу ўтрымліваць усяго аднаго, і тое толькі таму, што ён пагадзіўся працаваць за палову заробка, каб мець магчымасць вучыцца нашай справе.

– Як завуць гэтага спагаднага маладзёна? – пацікавіўся Шэрлак Холмс.

– Завуць яго Вінсэнт Сполдынг, і я б не сказаў, што ён такі ўжо малады. Цяжка зразумець, колькі яму гадоў. Але галава ў яго працуе як трэба, містэр Холмс. Не сумняюся, што ён мог бы знайсці сабе месца лепей і зарабляць удвая болей, чым у мяне. Але калі ён задаволены, навошта мне падказваць яму такія думкі?

– І сапраўды, навошта? Здаецца, вам здорава пашанцавала займець работніка за палову рынкавага кошту. У яго ўзросце рэдка хто пагодзіцца на такія ўмовы. Нават не ведаю, што мяне дзівіць больш, вашая абвестка ці ваш памочнік.

– Але ж і ён не без хібаў, – сказаў містэр Ўілсан. – Трэба яшчэ пашукаць такога памяшанага на фатаграфіі. Пстрыкае паўсюль камерай у той час, як мусіць вучыцца, а потым бяжыць у склеп, як трус у нару, каб фотакарткі праяўляць. Гэта ягоны галоўны недахоп, але агулам ён добры працаўнік. Неблагі хлопец.

– Я так разумею, ён усё яшчэ з вамі?

– Са мной, сэр. Ён ды яшчэ дзяўчына чатырнаццаці гадоў, яна нам кухарыць і прыбірае. А больш у доме нікога няма, бо я ўдавец і дзяцей не маю. Жывем мы вельмі ціха, сэр, утрох, дах над галавой маем, па рахунках плоцім, вось і ўсе нашыя справы.

Толькі з гэтай абвесткі ўсё пайшло не так. Сполдынг прыйшоў на працу акурат роўна восем тыдняў таму з гэтай самай газетай у руцэ і кажа:

– Мець бы мне Божую ласку быць рудым, містэр Ўілсан.

– Гэта навошта? – пытаюся.

– А вось, – гаворыць, – тут у Саюзе рудых вакансія. Любому, хто яе атрымае, будуць плаціць кругленькую суму, і, наколькі разумею, месцаў больш, чым прэтэндэнтаў, таму апекуны не ведаюць, куды ім грошы падзець. Калі б толькі мае валасы змянілі колер, меў бы я добрую магчымасць крыху разжыцца манетай.

– Дык якая такая магчымасць? – пытаю яго. Рэч у тым, містэр Холмс, што я вялікі дамасед, кліенты самі да мяне ходзяць, а мне да іх хадзіць не даводзіцца. Часта я тыднямі за ганак не сунуся, таму не шмат ведаю, што адбываецца ў свеце і заўжды рады паслухаць пра навіны.

– Вы што, ніколі не чулі пра Саюз рудых? – кажа мне ён з вырачанымі вачыма.

– Ніколі.

– Дзіўна, што так, бо вы ж цалкам пасуеце на адну з іх вакансіяў.

– А колькі там плацяць?

– О, толькі пару соцень на год, але абавязкі лёгкія і асноўнай працы не замінаюць.

Няцяжка здагадацца, што тут я натапырыў вушы. Мае справы ўжо некалькі гадоў ішлі не найлепшым чынам, і дадатковая пара соцень прыйшлася б мне вельмі дарэчы.

– Раскажыце пра гэта падрабязней, – прашу я яго.

Ён мне паказвае абвестку і кажа:

– Самі можаце бачыць, што ў Саюзе ёсць вакансія. Вось адрас, куды звяртацца па інфармацыю. Як я разумею, Саюз заснаваны амерыканскім мільянерам Іезекіем Хопкінсам, які быў трохі дзівакаватым. Ён сам быў рудым і цёпла ставіўся да ўсіх рудавалосых, а калі памёр, высветлілася, што ўсю

сваю немалую маёмасць ён пакінуў апекунам, наказаўшы ім забяспечваць лёгкай падпрацоўкай людзей з такім колерам валасоў. Я чуў, што плоцяць там добра, а рабіць трэба мала.

– Але ж, – кажу, – тады б мільёны рудых адпраўлялі туды заявы.

– Не так шмат, як можа падацца, – ён мне адказвае. – Бяруць толькі лонданцаў і толькі поўнагадовых мужчынаў. Той амерыканец у маладосці пачынаў кар'еру ў Лондане і хацеў аддзячыць старому гораду. Да таго ж, я чуў, што не мае сэнсу падаваць на вакансію, калі ты рудаваты бландзін ці шатэн з рудым адлівам, карацей, нікому, апроч сапраўды яркіх, відавочных, вогненна-рудых нічога не свеціць. І калі б вам толькі захацелася падаць заяву, містэр Ўілсан, вас бы акурат узялі. Але, мабыць, вам не захочацца асабліва варушыцца дзеля нейкай пары соцень фунтаў на год.

Валасы ў мяне, джэнтльмены, як вы і самі можаце пераканацца, вельмі насычанага і багатага колеру, таму мне падалося, што калі справа менавіта ў гэтым, то ўжо я магу скласці канкурэнцыю каму заўгодна. Паколькі Вінсэнт Сполдынг выказаў вялікую абазнанасць у тэме, я падумаў, што ён можа быць мне карысным, таму загадаў яму зачыніць жалюзі і ўзяў яго з сабой. Ён быў вельмі рады выходнаму, мы замкнулі ламбард і выправіліся па адрасе, пазначаным у абвестцы.

Наўрад ці мне давядзецца яшчэ калі-небудзь убачыць такое відовішча, містэр Холмс. З поўначы, полудня, усходу і захаду цягнуліся ў Сіці ўсе, хто прачытаў абвестку і меў хаця б якую рудзізну. Фліт-стрыт была проста забітая рудымі, а Поўпс-корт нагадваў вулічны латок з апельсінамі. Я і не думаў, што ў краіне набярэцца столькі рудых, колькі прыйшло па адной-адзінай аб'яве. Там былі ўсе адценні: саламянае, лімоннае, апельсінавае, адценні цэглы, ірландскага сэтэра, пячонкі, гліны, але, як Сполдынг і казаў, сапраўднага вогненна-рудога колеру было не так і шмат. Калі я ўбачыў, як шмат ахвочых, то хацеў быў кінуць дурное і пайсці, але Сполдынг не жадаў пра гэта і чуць. Не ведаю, як яму гэта ўдалося, але ён уплішчыўся між людзей, пацягнуў мяне за сабой, прасоўваў наперад і неўзабаве правёў скрозь натоўп проста да сходаў. Там было дзве плыні: адны з надзеяй рухаліся ўверх, а іншыя з сумнымі тварамі спускаліся, але мы, як і раней, праслізнулі міма і хутка зайшлі ў кантору.

– Ваш расповед падаецца мне ў найвышэйшай ступені займальным, – зазначыў Холмс, калі ягоны кліент спыніўся, каб асвяжыць свае ўспаміны ладнай панюшкай тытуню. – Майце ж ласку, працягвайце свой надзвычай цікавы аповед.

– У канторы не было нічога, апроч пары драўляных крэслаў і простага стала, за якім сядзеў невысокі чалавек, яшчэ рудзейшы за мяне. Ён казаў некалькі словаў кожнаму кандыдату, які да яго падыходзіў, і штораз патрапляў знайсці нейкую хібу, якая рабіла таго непрыдатным. У такім святле атрымаць пасаду здавалася справай зусім нялёгкай. Тым не менш, калі падышла наша чарга, той карантыш паставіўся да мяне з нашмат большай прыхільнасцю, чым да ўсіх астатніх, і прычыніў дзверы, каб пагаварыць з намі прыватна.

– Гэта містэр Джабез Ўілсан, – сказаў мой памочнік, – ён жадае заняць вакансію ў Саюзе.

– І ён найлепшым чынам нам пасуе, – адказаў той. – Адпавядае ўсім патрабаванням. Не прыгадаю, каб я бачыў штосьці настолькі цудоўнае.

Ён адышоў на крок, задзёр галаву, нахіліўшы яе набок, і пачаў так захоплена разглядаць мае валасы, што я ажно засаромеўся. Потым ён нечакана рвануў наперад, сціснуў мне руку і цёпла павіншаваў з поспехам.

– Сумнявацца тут не даводзіцца, – сказаў ён. – І ўсё ж я спадзяюся, што вы прабачыце мне неабходныя меры перасцярогі.

З гэтымі словамі ён абедзвюма рукамі ўхапіў мяне за валоссе і цягнуў, пакуль я не ўскрыкнуў ад болю.

– Вашыя вочы ўвільгатніліся, – сказаў ён, калі адпусціў мяне. – Мяркую, усё так, як і мусіць быць. Але мы вымушаны быць асцярожнымі, бо двойчы нас падманвалі з дапамогай парыкоў і аднойчы – з дапамогай фарбы. Я мог бы расказаць вам гісторыі пра шавецкі воск, якія пазбавілі б вас веры ў чалавечую дабрадзейнасць.

Ён адышоў да акна і на ўсю моц крыкнуў, што вакансія занятая. Знізу пачуўся стогн расчаравання, і народ пачаў разыходзіцца ў розныя бакі, пакуль у ваколіцах не засталося ніводнага рудога, апроч мяне і майго наймальніка.

– Мяне завуць Дункан Рос, – сказаў ён, – і я сам адзін са стыпендыятаў фонду, які пакінуў наш высакародны дабрачынец. Вы жанаты, містэр Ўілсан? У вас ёсць дзеці?

Я адказаў, што не. Ягоны твар адразу ж спахмурнеў.

– Як недарэчы! – сказаў ён з прыкрасцю. – Гэта сапраўды вельмі важна! Мне шкада гэта чуць. Фонд, вядома ж, створаны для таго, каб рудыя множыліся і распаўсюджваліся і маглі ўтрымліваць свае сем'і. Так няўдала, што сродкі пойдуць на падтрымку халасцяка.

– У мяне пры гэтым выцягнуўся твар, містэр Холмс, бо я ўжо быў падумаў, што не лёс мне атрымаць гэтую працу. Але па нядоўгім роздуме той запэўніў мяне, што ўсё мусіць быць добра.

– Калі раптам што, – сказаў ён, – пярэчанні непазбежна будуць вельмі сур'ёзныя, але будзем цісснуць на тое, што вы чалавек з выключным колерам валасоў. Калі вы можаце прыступіць да сваіх новых абавязкаў?

– Невялікая нязручнасць у тым, што я ўжо маю бізнес, – заікнуўся я.

– О, пра гэта не хвалюйцеся, містэр Ўілсан! – сказаў Вінсэнт Сполдынг. – Я прасачу за ім замест вас.

– А якія гадзіны працоўныя? – запытаўся я.

– З дзясятай да другой.

– У ламбард людзі збольшага ходзяць па вечарах, містэр Холмс, галоўным чынам па чацвяргах і пятніцах перад заробкам, таму мне была б вельмі зручнай падпрацоўка ў ранішні час. Апроч таго, я ведаў, што памочнік мой – чалавек надзейны і дасць рады ў любой справе.

– Мне гэта вельмі пасуе, – сказаў я. – А плата якая?

– Чатыры фунты на тыдзень.

– А абавязкі?

– Чыста намінальныя.

– Што вы маеце на ўвазе пад намінальнымі абавязкамі?

– Ну, вам давядзецца прысутнічаць у канторы ці, прынамсі, у гэтым будынку ўвесь працоўны час. Калі сыдзеце, то назаўжды пазбавіцеся пасады. У тэстаменце гэты пункт вельмі ясна прапісаны. Калі пакідаеце кантору ў гэтыя гадзіны, то парушаеце ўмовы.

– Гэта ўсяго чатыры гадзіны на тыдзень, наўрад ці мне захочацца кудысьці пайсці, – сказаў я.

– Тут нішто не можа лічыцца выбачэннем, – сказаў Дункан Рос, – ані хвароба, ані справа, ані нешта іншае. Мусіце заставацца на месцы або губляеце пасаду.

– Дык а рабіць што трэба?

– Перапісваць энцыклапедыю “Брытаніка”. Вось тут у шафе стаіць першы том. Вы мусіце мець свае чарніла, асадкі і прамакальную паперу, мы вас забяспечваем вось гэтым сталом і крэслам. Заўтра зможаце пачаць?

– Вядома, – адказаў я.

– Ну, то да сустрэчы, містэр Джабез Ӯілсан, і дазвольце мне яшчэ раз павіншаваць вас з важнай пасадай, якую вам пашчасціла атрымаць.

Потым мы раскланяліся, і я са сваім памочнікам пайшоў дахаты, не ведаючы, што пасля ўсяго казаць ці рабіць, так я быў задаволены сваім шанцаваннем.

І вось я разважаў пра гэтую справу ўвесь дзень і ўжо ўвечары зноў быў не ў гуморы, бо цалкам пераканаў сябе, што ўся гэтая заварушка – мабыць, вялікая афера, нейкае махлярства, хоць для чаго яно патрэбнае, не мог уцяміць. Ва ўсё разам верылася цяжка – і ў тое, што нехта мог пакінуць такі тэстамент, і што вялікія грошы будуць плаціць за настолькі простую працу, як перапісванне энцыклапедыі “Брытаніка”. Вінсэнт Сполдынг, як мог, падбадзёрваў мяне, але перад сном я быў упэўнены, што выходжу з гэтай справы. Тым не менш, зранку я вырашыў усё-ткі схадзіць зірнуць на тую працу, купіў шклянку атраманту на пені, прыхапіў пер’евую асадку, сем вялікіх аркушаў паперы і выправіўся на Поўпс-корт.

Я быў прыемна здзіўлены, што ўсё выявілася так, як мы і дамаўляліся. Для мяне стаяў падрыхтаваны стол, і містэр Дункан Рос быў на месцы, каб праверыць, ці выйшаў я на працу. Ён разгарнуў перада мной энцыклапедыю на літары А і неўзабаве пайшоў, але час ад часу вяртаўся, каб паглядзець, ці ўсё добра. А другой ён пажадаў мне добрага дня, пахваліў за колькасць перапісанага і замкнуў кантору.

Так паўтаралася з дня ў дзень, містэр Холмс, а ў суботу мой кіраўнік паклаў мне на стол чатыры залатыя саверэны за тыднёвую працу. Гэтак жа было на наступным тыдні і яшчэ праз тыдзень. Штораніцы я прыходзіў а дзясятай і сыходзіў удзень а другой. Праз нейкі час містэр Дункан Рос прыходзіў ужо толькі адзін раз уранку, а потым і зусім перастаў прыходзіць. І ўсё ж, вядома, я не адважваўся пакідаць кабінет ані на імгненне, бо не ведаў, калі той можа завітаць, да таго ж пасада была настолькі добрая і так мне падыходзіла, што я ніколі не рызыкнуў бы страціць яе.

Гэтак прайшло восем тыдняў, і я ўжо быў перапісаў пра абатаў, і Абісінію, і абмундзіраванне, і археалогію, і архітэктуру і спадзяваўся пры належнай руплівасці неўзабаве дайсці да артыкулаў на “Б”. На перапіску пайшло даволі шмат паперы, спісаныя аркушы займалі амаль усю паліцу. І тут раптам прыйшоў канец усёй справе.

– Канец?

– Менавіта, сэр. Гэтай во самай раніцай. Як звычайна, я з’явіўся на працу а дзясятай, але дзверы былі зачыненыя і замкнёныя, а пасярэдзіне на іх прыбіта квадратная кардонка. Вось яна, можаце самі паглядзець.

Ён паказаў нам кавалак белага кардону памерам з аркуш для нататак. Надпіс быў наступны:

САЮЗ РУДЫХ<br>РАСПУШЧАНЫ<br>9 кастрычніка, 1890.

Мы з Шэрлакам Холмсам сузіралі гэтую абвестку і маркотны твар за ёю, пакуль камізм сітуацыі не перамог усе астатнія думкі і мы проста не зарагаталі.

– Не бачу тут нічога смешнага! – выгукнуў наш кліент, пачырванеўшы да самых кончыкаў свайго вогненнага валосся. – Калі не можаце прыдумаць нічога лепшага, як пасмяяцца, дык я магу пайсці да каго іншага.

– Не-не, – паспяшаўся супакоіць яго Холмс, вяртаючы кліента на крэсла,

з якога той ужо амаль ускочыў. – Ні за што на свеце мне б не хацелася прапусціць ваш выпадак. Ён надзвычайна цікавы. І ўсё ж ёсць у ім, калі вы прабачыце мне гэтыя словы, штосьці вясёлае. Прашу, раскажыце, што вы зрабілі, калі знайшлі гэтую кардонку на дзвярах?

– Я быў агаломшаны, сэр. Не ведаў, што і рабіць. Прайшоўся па канторах па суседстве, але, падобна, ніхто нічога не ведаў пра гэта. Нарэшце я зайшоў да домаўладальніка – гэта бухгалтар, які жыве на першым паверсе, – і спытаўся ў яго, што здарылася з Саюзам рудых. Той адказаў, што ніколі не чуў пра такую арганізацыю. Тады я спытаў, хто такі Дункан Рос. Ён сказаў, што ўпершыню чуе гэта імя.

– Гэта ж джэнтльмен з канторы №4, – сказаў я.

– Такі рудавалосы?

– Так.

– О, – сказаў ён, – яго завуць Ўільям Морыс. Ён адвакат і скарыстоўваў маё памяшканне часова, пакуль не будзе гатовая яго новая прыёмная. Ён выехаў учора.

– А дзе я магу яго знайсці?

– Ён даў мне новы адрас. Так, гэта Кінг-Эдвардс-стрыт, 17, каля сабора святога Паўла.

Я паехаў туды, містэр Холмс, але там толькі мануфактура па вырабе штучных каленных чашачак, дзе ніхто таксама ніколі не чуў ані пра містэра Ўільяма Морыса, ані пра Дункана Роса.

– І што вы зрабілі потым? – запытаўся Холмс.

– Паехаў дахаты на Сакс-Кобург-сквер, каб параіцца са сваім памочнікам. Але ён ніяк не змог дапамагчы. Толькі сказаў мне, што калі я пачакаю, то, мусіць, атрымаю поштай паведамленне. Але мяне гэта не задаволіла, містэр Холмс. Мне не хацелася губляць такое месца, і таму, ведаючы пра вас як пра добрага чалавека, гатовага даваць парады бедакам, якім патрэбна дапамога, я проста да вас і прыйшоў.

– І вельмі мудра зрабілі, – сказаў Холмс. – Ваш выпадак неверагодна адметны, і я з задавальненнем займуся ім. Мяркуючы па вашым расказе, наступствы гэтай гісторыі могуць быць больш сур'ёзнымі, чым можа падацца з першага погляду.

– Яшчэ б яны былі несур'ёзнымі! – абурыўся Джабез Ўілсан. – Я ж губляю чатыры фунты на тыдзень.

– Што тычыцца вас асабіста, не думаю, што вам варта скардзіцца на гэты дзіўны саюз, – зазначыў Холмс. – Наадварот, як я разумею, вы разбагацелі больш чым на трыццаць фунтаў, не кажучы ўжо пра грунтоўныя веды, якія набылі па ўсіх прадметах, што пачынаюцца на “А”. Тут вы ніяк не пацярпелі.

– Не, сэр. Але я хачу даведацца пра той Саюз, хто яны такія і чаго хацелі дамагчыся сваімі хітрыкамі – калі ўсё ж тут ёсць нейкія хітрыкі. Дарагаваты выйшаў у іх жарт, каштаваў ім трыццаць два фунты.

– Мы паспрабуем разабрацца з гэтым для вас. Для пачатку адкажыце мне на некалькі пытанняў, містэр Ўілсан. Гэты ваш памочнік, які ўпершыню прыцягнуў вашу ўвагу да абвесткі, на той момант даўно на вас працаваў?

– Дзесьці месяц.

– А як вы яго знайшлі?

– Па аб'яве.

– Ён быў адзіны, хто прыйшоў?

– Не, прэтэндэнтаў быў цэлы тузін.

– А чаму вы абралі менавіта яго?

– Бо ён меў досвед і прасіў мала.

– Паўзаробку, вы казалі.

– Так.

– Як выглядае гэты Вінсэнт Сполдынг?

– Нізкага росту, таўставаты, увішны такі, вусы ў яго не растуць, хоць яму пад трыццаць ужо. На лобе белы шнар ад кіслотнага апёку.

Холмс сядзеў у крэсле, заўважна ўзрушаны.

– Я так і думаў, – сказаў ён. – А вы не заўважылі, ці не пракалатыя ў яго вушы?

– Пракалатыя, сэр. Ён мне сказаў, што ў дзяцінстве іх пракалола яму цыганка.

– Хм! – Холмс задумаўся, адкінуўшыся на спінку крэсла. – Ён усё яшчэ з вамі?

– Вядома, сэр. Я толькі што яго пакінуў.

– А кліенты да вас хадзілі ў вашую адсутнасць?

– Тут можна не хвалявацца, сэр. Уранку працы збольшага не бывае.

– Што ж, фактаў даволі, містэр Ўілсан. Праз дзень-два я з задавальненнем паведамлю вам, да якіх высноў я прыйшоў. Сёння субота і, спадзяюся, да панядзелка ў нас ужо будзе разгадка.

– Ну, што думаеце, Ўотсан? – спытаўся Холмс, калі госць нас пакінуў.

– Не маю аніводнай думкі, – чэсна адказаў я. – Вельмі дзіўны выпадак.

– Звычайна, – сказаў Холмс, – чым дзіўнейшай падаецца справа, тым менш дзівосаў яна ўтрымлівае. Найцяжэй разабрацца з тыповымі, нічым не адметнымі злачынствамі, гэтак жа, як пазнаць чалавека з тыповым тварам. А тут, мяркую, я спраўлюся ў імгненне вока.

– З чаго ж вы тады пачняце? – запытаўся я.

– З курэння, – адказаў мне ён. – Гэта праблема на тры люлькі, і я папрашу вас не размаўляць са мной пяцьдзясят хвілінаў.

Ён згорбіўся на крэсле, узняўшы вострыя калені так, што ледзь не ўпіраўся ў іх сваім ястрабіным носам, заплюшчыў вочы і сцішыўся – яго чорная гліняная люлька нагадвала дзюбу нейкай дзіўнай птушкі. Я прыйшоў да высновы, што ён заснуў, і ўжо сам пачынаў вадзіць носам, калі раптам Холмс сарваўся з крэсла з выглядам чалавека, які на нешта рашыўся, і адклаў люльку на камін.

– Сарасатэ грае сёння ўвечары ў Сэнт-Джэймс-холе, – сказаў ён. – Ўотсан, як думаеце, вашы пацыенты абышліся б без вас некалькі гадзінаў?

– Я не заняты. Мая практыка не займае ў мяне шмат часу.

– Тады бярыце свой капялюш і складзіце мне кампанію. Спачатку мне трэба ў Сіці, а па дарозе можам дзе-небудзь паабедаць. Бачу, што ў праграме даволі шмат нямецкай музыкі, якая падабаецца мне больш за італьянскую ці французскую. У ёй больш рэфлексіі, а мне хочацца рэфлексаваць. Хадземце!

Мы дабраліся на метро да Олдэрсгейта, адтуль крыху прайшліся да Сакс-Кобург-сквер, дзе разыграліся падзеі, пра якія мы чулі ранкам. Раён выявіўся заняпалым і цесным, чатыры шэрагі старых будынкаў глядзелі на маленькі сквер, дзе за агароджай удзірванелы газон з некалькімі бляклымі кустамі лаўравішань змагаліся за жыццё ў неспрыяльных умовах атручанага чадам паветра. Тры пазалочаныя шары і карычневая шыльда з надпісам белай фарбай "ДЖАБЕЗ ЎІЛСАН" на вуглавым доме паказвалі на тое, што менавіта тут вядзе справу наш рудавалосы кліент. Шэрлак Холмс спыніўся і, нахіліўшы галаву набок, уважліва агледзеў будынак, пры гэтым вочы яго ярка блішчэлі пад прымружанымі павекамі. Потым ён нетаропка прайшоўся далей па вуліцы, а затым назад да рога, усё гэтак жа дапытліва паглядаючы на дамы. Нарэшце ён вярнуўся да ламбарда і, папярэдне двойчы ці тройчы моцна стукнуўшы па

ходніку кіем, падышоў да дзвярэй і пагрукаў. Іх імгненна адчыніў прыемны з твару чыста паголены хлопец, які запрасіў Холмса ўвайсці.

– Дзякуй, я проста хацеў спытацца, як прайсці адсюль да Стрэнда, – сказаў Холмс.

– Трэці паварот направа, чацвёрты налева, – хутка адказаў памочнік, зачыняючы дзверы.

– Кемлівы хлопец, – заўважыў Холмс, калі мы пайшлі адтуль. – Мяркую, чацвёрты па кемлівасці ў Лондане, а па дзёрзкасці можа прэтэндаваць і на трэцяе месца. Я ведаю пра яго тое-сёе.

– Відавочна, што памочнік містэра Ўілсана згуляў не апошнюю ролю ў таямнічай гісторыі з Саюзам рудых. Я ўпэўнены, што вы спыталіся пра дарогу, толькі каб разгледзець яго.

– Не яго.

– А што тады?

– Яго штаны на каленях.

– І што вы ўбачылі?

– Тое, што і чакаў убачыць.

– А чаму вы стукалі па ходніку?

– Дарагі доктар, цяпер час для назіранняў, а не для гутарак. Мы выведнікі ў тыле ворага. І мы ўжо штосьці ведаем пра Сакс-Кобург-сквер. А зараз давайце паглядзім, што месціцца па суседстве.

Вуліца, на якую мы выйшлі, павярнуўшы за рог закінутага раёна Сакс-Кобург-сквер, уяўляла сабой поўную яму супрацьлегласць – гэтак жа карціна адрозніваецца ад свайго адваротнага бока.

Гэта была адна з галоўных магістраляў Сіці, па якой транспарт рухаўся на поўнач і захад. Па дарозе шчыльнымі шэрагамі ў процілеглых кірунках ішлі дзве плыні экіпажаў, на ходніку было не праштурхнуцца ад працоўнага люду, які спяшаўся па сваіх справах. Калі мы глядзелі на шэраг дарагіх крамаў і велічных будынкаў, нават цяжка было ўявіць, што адваротным бокам яны выходзяць на непрыкметны і занядбаны сквер, які мы толькі што пакінулі.

– Дазвольце, я зраблю агляд, – сказаў Холмс, спыніўшыся на рагу і акідаючы вокам вуліцу. – Хачу запомніць парадак дамоў. Збіраць дакладныя веды пра Лондан – маё хобі. Вось тытунёвая крама Мортымера, газетны кіёск, Кобургскае аддзяленне Гарадскога і прыгараднага банка, вегетарыянская рэстарацыя, карэтнае дэпо Макфарлена. Далей пачынаецца наступны квартал. А зараз, доктар, паколькі мы з вамі зрабілі справу, час адпачыць. Спачатку – сэндвіч і філіжанка кавы, а потым – у свет чароўнай скрыпкі, дзе ўсё – слодыч, і далікатнасць, і гармонія, і няма ніякіх рудых кліентаў, якія б назалялі нам сваімі загадкамі.

Мой сябра быў заўзятым музыкам і пры тым не толькі здольным выканаўцам, але і кампазітарам немалога таленту. Рэшту дня ён прабавіў у партэры з выразам найвышэйшага шчасця, аддаючыся мелодыі і злёгку водзячы ў паветры доўгімі тонкімі пальцамі. У далікатнай усмешцы на твары, адсутным і летуценным поглядзе не было анічога ад учэпістага Холмса, нястомнага Холмса, кемлівага шпега, дапытлівага вышукальніка. Так выяўлялася дваістасць яго цэльнай натуры. Я часта думаў пра тое, што яго надзвычайная дакладнасць і востры розум сілкуюцца момантамі, калі паэтычна-сузіральны настрой цалкам валодае ім. Ён увесь час вагаўся паміж двума полюсамі: ад скрайняй млявасці да неўтаймаванай энергічнасці, і я добра ведаў пра тое, якая бура наспявае, калі днямі навылёт ён сядзіць у фатэлі, заглыблены ў свае музычныя імправізацыі ці старадрукі з гатычнымі літарамі. На змену гэтаму стану на яго раптам сыходзіла апантанасць пагоняй, і яго бліскучая логіка

ўзрастала да ўзроўню інтуіцыі, калі людзі, не знаёмыя з метадамі Холмса, пачыналі глядзець на яго з недаверам як на чалавека, чые веды пераўзыходзяць магчымасці простых смяротных. Калі я ўбачыў яго тым вечарам, настолькі аддадзенага музыцы ў Сент-Джэймс-холе, я зразумеў, што для тых, каго ён вырашыў упаляваць, надыходзяць змрочныя часіны.

– Вы, вядома, хочаце пайсці дахаты, доктар, – сказаў ён мне, калі мы выйшлі.

– Так, і туды таксама.

– А ў мяне ёсць справа на некалькі гадзінаў. Гісторыя на Кобург-сквер сур'ёзная.

– Чаму сур'ёзная?

– Тут плануецца буйное злачынства. Маю падставы думаць, што мы паспеем яго спыніць. Але тое, што сёння субота, усё ўскладняе. Увечары мне спатрэбіцца ваша дапамога.

– А якой гадзіне?

– А дзясятай будзе ў самы раз.

– Буду а дзясятай на Бэйкер-стрыт.

– Выдатна. І паслухайце, доктар, можа стацца, што там будзе небяспечна. Зрабіце ласку і пакладзіце ў кішэню рэвальвер, які застаўся ў вас пасля службы. Ён махнуў мне рукой, павярнуўся і імкліва знік у натоўпе.

Даю слова, што я не дурнейшы за іншых, але маючы справу з Шэрлакам Холмсам, я часта пачуваўся прыгнечаным праз пачуццё ўласнай тупасці. Вось жа, я чуў тое самае, што і ён, бачыў тое самае, але з ягоных слоў вынікала, што ён ясна бачыў не толькі ўжо здзейсненае, але і тое, што яшчэ мае здзейсніцца, у той час як для мяне ўсё заставалася гэткім жа заблытаным і абсурдным. Едучы дахаты ў Кенсінгтон, я спрабаваў прыгадаць усе дэталі гэтай гісторыі, ад дзіўнага расповеду рудавалосага капіявальніка энцыклапедыі да нашага візіту на Сакс-Кобург-сквер і тых злавесных словаў, якія сказаў мне Холмс на развітанне. Што за начная вылазка нас чакала, і чаму мне трэба было браць рэвальвер? Куды мы збіраліся ісці і што рабіць? Холмс даў зразумець, што той гладкашчокі памочнік у ламбардзе – грозны супернік, чалавек, які, магчыма, вядзе гульню з высокімі стаўкамі. У маёй галаве ніяк не складалася агульная карціна, і я роспачна здаўся, спадзеючыся, што ўначы атрымаю ўсе тлумачэнні.

А палове на дзясятую я выйшаў з дому і праз парк, а потым праз Оксфард-стрыт скіраваўся да Бэйкер-стрыт. Ля дзвярэй дома майго сябра стаялі два экіпажы, а калі я зайшоў у вітальню, то пачуў галасы зверху. Па лесвіцы я ўзняўся ў пакой Холмса і ўбачыў, што той ажыўлена гутарыць з двума наведнікамі – агентам паліцыі Пітэрам Джонсам і незнаёмым мне цыбатым і сумным чалавекам у бліскучым цыліндры і гнятліва бездакорным сурдуце.

– Ха! Уся кампанія ў зборы, – сказаў Холмс, зашпільваючы верхні гузік марской курткі і здымаючы з паліцы цяжкое дзяржальна ад паляўнiцкай пугі. – Ўотсан, вы, мусіць, памятаеце містэра Джонса са Скотланд-Ярда? Дазвольце вас прадставіць містэру Мэрывэзэру, які далучыцца да нашай сённяшняй вылазкі.

– Бачыце, доктар, мы зноў выходзім на паляванне разам, – сказаў Джонс з уласцівай яму фанабэрыяй. – Наш сябар выдатна ладзіць пагоні. Усё, што яму патрэбна – гэта каб бывалы ганчак дапамог яму загнаць звера.

– Спадзяюся, у паляванні мы не абмяжуемся дзікай гуссю, – змрочна заўважыў містэр Мэрывэзэр.

– Вы можаце цалкам давяраць містэру Холмсу, сэр, – звысака адказаў агент паліцыі. – У яго свая хітрая метода, магчыма, ён трохі зашмат тэарэтызуе і фантазіруе, калі мне будзе дазволена так сказаць, але падае спадзевы

як дэтэктыў. Варта згадаць хаця б тое, што ў справе з забойствам Шолта і скарбамі Агры ён раз ці два ледзь не абскакаў афіцыйны вышук.

– О, калі вы так кажаце, містэр Джонс, то ўсё добра, – пачціва сказаў незнаёмец. – І ўсё ж мне так шкада прапускаць гульню ў робер-брыдж. Гэта мая першая субота без брыджу за дваццаць сем гадоў.

– Мяркую, вы зразумееце, што вашая стаўка ў сённяшняй гульні нашмат вышэйшая за ўсе ранейшыя і што гульня больш захапляльная. Вы, містэр Мэрывэзэр, згуляеце на трыццаць тысяч фунтаў, а вы, містэр Джонс, на чалавека, да якога хочаце дабрацца.

– Джон Клэй, забойца, злодзей, махляр і фальшываманетчык. Гэта малады чалавек, містэр Мэрывэзэр, але ў сваёй прафесіі ён пераўзыйшоў усіх, сярод крымінальнікаў Лондана менавіта на яго я больш за ўсё жадаю надзець кайданкі. Ён адметны чалавек, гэты маладзён Джон Клэй. Яго дзед – герцаг, а сам ён вучыўся ў Ітане і Оксфардзе. Яго розум такі ж вёрткі, як і пальцы, і нягледзячы на тое, што яго след сустракаецца нам тут і там, мы ніяк не можам знайсці самога Клэя. На адным тыдні ён абкрадае багаты дом у Шатландыі, на наступным – збірае грошы на будаўніцтва дзіцячага дома ў Карнуоле. Я іду па ягоным следзе ўжо некалькі гадоў, але так ніколі і не бачыў яго на свае вочы.

– Спадзяюся, сёння мне выпадзе магчымасць вас прадставіць. Раз ці два я таксама сутыкаўся з тым, што ўчыніў Джон Клей, і пагаджуся, што ў сваёй прафесіі яму няма роўных. Між тым, цяпер палова на адзінаццатую, час выходзіць. Прапаную вам двум сесці ў першы экіпаж, а мы з Ўотсанам паедзем за вамі ў другім.

Падчас доўгай паездкі Шэрлак Холмс быў не асабліва гаваркі і, адкінуўшыся на спінку сядзення, вуркатаў мелодыі, пачутыя ўвечары. Колы кэба грукаталі па бясконцым лабірынце асветленых газавымі ліхтарамі вуліц, пакуль мы не прыбылі на Фарынгтан-стрыт.

– Адсюль ужо недалёка, – сказаў мой сябар. – Гэты Мэрывэзэр – дырэктар банка, ён асабіста зацікаўлены ў справе. Я падумаў, што добра будзе задзейнічаць і Джонса. Ён хлопец неблагі і, хоць у сваёй прафесіі абсалютны ідыёт, мае станоўчыя рысы. Ён бясстрашны, як бульдог, і ўчэпісты, як амар, калі ўжо нехта трапіцца яму ў клюшні. Дарэчы, мы ўжо прыехалі, вунь яны нас чакаюць.

Мы апынуліся на той самай люднай вуліцы, дзе былі раніцай. Адпусціўшы экіпажы, мы скіраваліся за містэрам Мэрывэзэрам, які правёў нас праз вузкі праход і бакавыя дзверы, якія ён адчыніў. За імі знаходзіўся кароткі калідор, які заканчваўся таўшчэзнай жалезнай брамай. Яе нам таксама адчынілі, і мы спусціліся па каменных прыступках пакручастай лесвіцы да другой вялізнай брамы. Містэр Мэрывэзэр спыніўся, каб запаліць ліхтар, а потым павёў нас праз цёмны праход, дзе пахла зямлёй, і, нарэшце, пасля трэціх дзвярэй, мы ўвайшлі ў нейкае шырокае сховішча ці склеп з мноствам вялікіх скрыняў, састаўленых адна на адну.

– Зверху да вас не проста прабрацца, – заўважыў Холмс, прыўзняўшы ліхтар, каб агледзецца.

– Знізу таксама, – адказаў містэр Мэрывэзэр і пагрукаў кіем па падлозе, выкладзенай плітамі. – Хм, што такое? Падобна, там паражня! – здзіўлена выгукнуў ён.

– Калі ласка, трошкі цішэй! – сярдзіта шыкнуў Холмс. – Вы толькі што рызыкавалі поспехам усёй нашай аперацыі. – Магу я папрасіць вас ласкава сесці вось на гэтыя скрыні і больш не ўмешвацца?

Паважны містэр Мэрывэзэр узбіўся на скрыню з вельмі пакрыўджаным выглядам, Холмс тым часам укленчыў на падлозе і, падсвечваючы ліхтаром,

уважліва агледзеў шчыліны паміж камянямі з дапамогай павелічальнага шкла. На гэта яму спатрэбілася некалькі секунд, пасля чаго ён зноў падхапіўся і сунуў лупу ў кішэню.

– Мы маем яшчэ прынамсі гадзіну, – сказаў ён. – Наўрад ці яны адважацца на нейкія крокі, пакуль наш добры гаспадар ламбарду не пакладзецца спаць. Але потым яны не будуць губляць ані хвіліны, бо, чым хутчэй яны зробяць справу, тым больш часу ў іх застанецца на ўцёкі. Цяпер, доктар, як вы безумоўна ўжо здагадаліся, мы знаходзімся ў сховішчы гарадскога аддзялення аднаго з галоўных лонданскіх банкаў. Містэр Мэрывэзэр – старшыня рады дырэктараў, і ён можа патлумачыць вам, чаму самыя дзёрзкія крымінальнікі Лондана сёння маюць асаблівую цікавасць менавіта да гэтага сховішча.

– Гэта ўсё праз наша французскае золата, – шапнуў дырэктар. – Нас неаднакроць папярэджвалі, што на яго могуць пакваліцца.

– Французскае золата?

– Менавіта. Некалькі месяцаў таму нам выпала магчымасць падмацаваць свае рэсурсы, і з гэтай мэтай мы пазычылі трыццаць тысячаў напалеандораў у Банка Францыі. Нейкім чынам вонкі прасачылася інфармацыя пра тое, што нам не давялося распакаваць грошы, і што яны ўсё яшчэ ляжаць у сховішчы. У скрыні, на якой я сяджу, утрымліваецца дзве тысячы напалеандораў, перакладзеных свінцовай фольгай. Наш залаты запас нашмат большы за той, што звычайна захоўваецца ў асобным банкаўскім аддзяленні, гэтая акалічнасць вельмі непакоіла раду дырэктараў.

– І далёка небеспадстаўна, – заўважыў Холмс. – А зараз самы час падрыхтавацца. Мяркую, што праз гадзіну справа ўжо будзе зроблена. Але пакуль што, містэр Мэрывэзэр, нам трэба прыкрыць ліхтар шторкай.

– І сядзець у цемры?

– На жаль. Я паклаў у кішэню калоду карт са спадзевам, што, паколькі нас акурат чацвёра, *partie carree*, магчыма, вы ўсё ж атрымаеце сваю партыю ў робер-брыдж. Але я бачу, што вораг ужо блізка, таму мы не можам рызыкаваць, пакідаючы святло. Перш за ўсё нам трэба заняць пазіцыі. Гэта дзёрзкія людзі, і, хоць мы будзем для іх нечаканай нязручнасцю, яны могуць быць небяспечнымі, калі не засцерагчыся. Я стану за гэтай скрыняй, а вас папрашу схавацца за вунь тымі. Калі я запалю святло, неадкладна хапайце злодзеяў. Ўотсан, калі яны стрэляць, не вагайцеся і страляйце ў іх таксама.

Я ўзвёў рэвальвер і паклаў яго на драўляную скрыню, за якой мне давялося скурчыцца. Холмс спусціў шторку ў лямпы, і нас агарнула абсалютная цемра, з якой я ніколі раней не сутыкаўся. Толькі пах гарачага металу сведчыў, што святло ўсё яшчэ было з намі, гатовае разліцца ў імгненне вока. Праз напружанае чаканне мае нервы былі напятыя, як струны, таму раптоўны змрок і халоднае сырое паветра сутарэнняў прымушалі мяне пачувацца прыгнечаным.

– Шлях да адступлення ў іх толькі адзін, – шапнуў Холмс. – Назад праз дом на Сакс-Кобург-сквер. – Спадзяюся, вы зрабілі тое, аб чым я вас прасіў, Джонс?

– Ля галоўнага ўвахода чакаюць інспектар і два афіцэры.

– Значыць, мы перакрылі ўсе выхады. Цяпер нам трэба стаіцца і чакаць.

Як толькі мы ператрывалі гэты час? Пазней, пераглядаючы свае запісы, я падлічыў, што прайшла толькі гадзіна пятнаццаць хвілінаў, але тады мне падалося, што прамінула амаль цэлая ноч і наверсе ўжо разгараўся світанак. Я стаміўся і здранцвеў, бо асцерагаўся варушыцца, але ўсё ж заставаўся ўвесь напагатове, мой слых так абвастрыўся, што я не толькі чуў сцішанае дыханне маіх кампаньёнаў, але і мог адрозніць глыбейшае і цяжкое дыханне мажнага Джонса ад тонкіх гукаў, якія выдаваў дырэктар банка. З майго месца я меў

магчымасць паглядаць паўзверх скрыні на падлогу. Раптоўна мой позірк ухапіў пробліск святла. Спярша гэта быў слабы бляск паміж каменнымі плітамі, які разросся ў жоўтую лінію, а потым знянацку бязгучна адкрылася нейкая адтуліна, адкуль паказалася рука, белая, падобная да жаночай, якая абмацала асветлены лапік падлогі. Каля хвіліны ці больш гэтая рука з рухавымі пальцамі вытыркалася з падлогі. Потым яна ўцягнулася гэтак жа нечакана, як і з’явілася, ізноў усё ахутала цемра, толькі тонкая палоска святла пазначала сабой расколіну паміж камянямі. Але цягнулася гэта нядоўга. Адзін з шырокіх белых камянёў цяжка пасунуўся ўгару і адваліўся ўбок, на яго месцы цяпер зеўрала квадратная дзіра, з якой струменілася святло ліхтара. Адтуль паказаўся гладкашчокі хлапечы твар і цікаўна агледзеўся, потым дзве рукі ўхапіліся за берагі праёма, паказаліся плечы і тулава, і, нарэшце, абапёршыся на калена, чалавек вылез цалкам. У наступны момант ён ужо стаяў побач з праёмам і выцягваў свайго супольніка, такога ж спрытнага і невысокага, як і ён сам, з вельмі светлай скурай і кучмай надзвычай рудога валосся.

– Усё чыста, – шапнуў ён. – Давай сюды стамеску і торбы. Вось жа чорт! Назад, Арчы, назад, я сам разбяруся!

Тут Шэрлак Холмс схапіў нязванага госця за каўнер. Яго прыяцель знік пад зямлёй, я чуў, як парвалася яго вопратка, бо Джонс паспеў учапіцца за яе. У промні ліхтара бліснула руля рэвальвера, але дзяржальна паляўніцкай пугі Холмса прыйшлося акурат па руцэ, якая яго трымала, і пісталет бразнуў аб каменную падлогу.

– Усё скончана, Джон Клэй, – спакойна рэзюмаваў Холмс. – У вас няма выйсця.

– Я разумею, – адказаў той з найвышэйшай вытрымкай. – Але прынамсі я рады, што мой сябар выбраўся, хаця, гляджу, вы захапілі ў палон фалду яго сурдута.

– На выхадзе яго чакаюць тры палісмены, – сказаў Холмс.

– Сапраўды? Падобна, што вы дасканала падрыхтаваліся. Мушу зрабіць вам камплімент.

– А я вам, – адказаў Холмс. – Ваша ідэя з Саюзам рудых вельмі свежая і ўдалая.

– Хутка вы зноў убачыцеся са сваім дружбаком, – сказаў Джонс. – У скоках у норы ён спрытнейшы за мяне. Але трымайцеся, калі я сам ладжу дэрбі.

– Прашу не чапаць мяне сваімі бруднымі рукамі, – сказаў наш палонны, калі Джонс замкнуў на яго руках кайданкі. – Хай будзе вам вядома, што ў маіх жылах цячэ каралеўская кроў. І калі звяртаецеся да мяне, заўжды кажыце “сэр” і “калі ласка”.

– Добра, – сказаў Джонс, уважліва зірнуўшы на яго і ухмыльнуўшыся. – Ну, што, сэр, калі ласка, крокам руш наверх, дзе вам пададуць кэб, які завязе вашу вялікасць у паліцэйскі пастарунак!

– Так ужо лепей, – сцішана сказаў Джон Клэй. Ён кіўнуў нам тром на развітанне і ціха выйшаў у суправаджэнні інспектара.

– Сапраўды, містэр Холмс, я не ведаю, як банк можа аддзячыць ці адплаціць вам, – сказаў містэр Мэрывэзэр, калі мы выходзілі са сховішча за імі. – Без сумневаў, вы раскрылі і змаглі прадухіліць найбольш дзёрзкую на маёй памяці спробу абрабаваць банк.

– Мне і самому трэба было звесці такія-сякія рахункі з містэрам Джонам Клэем, – сказаў Холмс. – Спадзяюся, банк мне кампенсуе невялікія выдаткі ў гэтай справе, але што тычыцца ўсяго астатняга, я ўжо шчодра ўзнагароджаны самой магчымасцю атрымаць такі унікальны досвед паслухаць цудоўную гісторыю пра Саюз рудых.

– Разумееце, Ўотсан, з самага пачатку было відавочна, што адзінай магчымай мэтай усяго гэтага фантастычнага пражэкту з Саюзам і перапісваннем энцыклапедыі было прыбраць з дарогі штодня на некалькі гадзінаў нашага не надта кемлівага ўладальніка ламбарда, – патлумачыў мне Холмс ужо на світанку, калі мы сядзелі з ім за келіхам віскі з содавай на Бэйкер-стрыт. – Абставілі ўсё незвычайным чынам, лепш і не прыдумаеш. Несумненна, ідэя прыйшла ў светлы розум Клэя дзякуючы колеру валасоў яго суўдзельніка. Чатыры фунты на тыдзень – прынада, якую яны скарысталі. Страта нязначная для тых, хто вядзе гульню на тысячы. Змясцілі абвестку, адзін з жулікаў зняў на сваё імя часовае памяшканне, а другі падштурхнуў уладальніка ламбарда адгукнуцца на яе. Такім чынам яны забяспечылі яго адсутнасць штораніцы. Як толькі я пачуў, што памочнік пагадзіўся працаваць за палову заробка, я зразумеў, што ён мае важкі матыў, каб заставацца ў доме.

– Але як вы зразумелі, у чым матыў?

– Калі б у доме жыла жанчына, я западозрыў бы банальную інтрыжку. Тым не менш, такая версія адпадала. Абарот у ламбарда невялікі, у доме няма нічога, што запатрабавала б такой грандыёзнай падрыхтоўкі і такіх выдаткаў. Тады гэта штосьці па-за домам. І што ж гэта? Я падумаў пра захапленне памочніка фатаграфіяй і яго наведваннях у склеп. Склеп! Вось і канец гэтай заблытанай вяровачкі. Я правёў маленькае следства, што да асобы гэтага загадкавага памочніка і вось што высветліў: мы маем справу з адным з самых разумных і дзёрзкіх крымінальнікаў Лондана. Ён чымсьці займаўся ў склепе, чымсьці, што займала ў яго шмат гадзінаў на дзень да канца месяца. І зноў пытанне: чым менавіта? Мне не прыйшло ў галаву нічога іншага, як падкоп у суседні будынак.

Я хацеў спраўдзіць гэтую думку, калі мы з вамі прыйшлі на месца падзеяў. Вы здзівіліся, калі я пагрукаў кіем па ходніку. Мне трэба было высветліць, спераду ці ззаду дома знаходзіцца склеп. Спераду яго не было. Тады я пазваніў у дом. Як я і спадзяваўся, адчыніў памочнік. Мы мелі некалькі завочных сутычак, але на вочы адно аднаго не бачылі. Мяне і не цікавіла, як ён выглядае. Я жадаў зірнуць на яго калені. Вы, мусіць, заўважылі, якія выцертыя, памятыя і брудныя былі ў яго штаны на каленях. Усё паказвала на тое, што ён прабавіў гадзіны за капаннем. Заставалася толькі высветліць, куды вядзе падземны ход. Я прайшоў да рога вуліцы, і калі, зазірнуўшы за яго, убачыў Гарадскі і прыгарадны банк, які суседнічае з ламбардам нашага сябра, я адразу ж зразумеў, што развязаў загадку. Калі пасля канцэрта вы паехалі дахаты, я наведаўся ў Скотланд-Ярд і да старшыні рады дырэктараў з вядомым вам вынікам.

– А як вы здагадаліся, што сваю вылазку яны плануюць на сёння?

– Калі кантору Саюза зачынілі, значыць, прысутнасць містэра Джабеза Ўілсана ім болей не перашкаджала, іншымі словамі, падкоп завершаны. Для іх важна было скарыстацца падземным ходам як мага хутчэй, пакуль яго не выкрылі і пакуль золата не перавезлі ў іншае месца. Субота пасавала ім найбольш, бо тады яны б мелі два дні на ўцёкі. Таму я чакаў іх менавіта сёння.

– Ваша логіка проста бліскучая, – усклікнуў я са шчырым захапленнем. – Ланцужок разважанняў вельмі доўгі, але вы не схібілі ані ў адным пункце.

– Мяне гэта ратуе ад нуды, – адказаў ён пазяхаючы. – Але як шкада! Адчуваю, што яна зноў на мяне находзіць. Маё жыццё – суцэльныя ўцёкі ад шэрасці існавання. Гэтыя маленькія загадкі дапамагаюць мне.

– А вы дапамагаеце чалавецтву змагацца са злом.

Ён паціснуў плячыма:

– Мабыць, ёсць з усяго гэтага нейкі плён. *“L’homme c’est rien – l’oeuvre c’est tout”*, як напісаў у лісце да Жорж Санд Густаў Флабэр.

запісы

Рыгор Барадулін



…усё ж такі я выхаваўся на сацрэалізме.
І сентыменталізм мне не вельмі па душы…

# “Вярніся, вясна мая!..”

***Студэнцкі дзённік***

*Укладанне і падрыхтоўка да друку Наталлі Давыдзенка.*

*Заўвагі Рыгора Барадуліна, Наталлі Давыдзенка, Ірыны Сляповіч.*

*З захаваннем асаблівасцяў аўтарскай мовы.*

*Трыма зорачкамі адзначаны дадатковыя запісы Р. Барадуліна; таксама ў тэксце друкуюцца вершы, якія не ўваходзілі ў зборнікі паэта.*

***1955 год***

*1 студзеня*

Новы год 1955! Што ён мне прынясе? Стары год быў для мяне шчаслівым. Я стаў студэнтам БДУ У. І. Леніна! Чакаю добрага ўсяго, як ад старога года, ад новага. З Генкам[1] гуляў у аднакурсніц. Так сабе.

*** Заінеўшыя дрэвы стаяць, як быццам мастак абмачыў свае пэндзлі ў дарагія бяліла. На хвіліну паставіў гэты пэндзлік і думае, якую карціну намаляваць. У творчай задуме...

---

[1] Гарбук Генадзь Міхайлавіч (н. 1934), аднакласнік. На той час студэнт Мінскага тэатральна-мастацкага інстытута. Акцёр Нацыянальнага Акадэмічнага тэатра імя Я. Купалы. Народны артыст БССР (1980). Лаўрэат Дзяржаўнай прэміі БССР (1966), Дзяржаўнай прэміі СССР (1984), Прэміі за духоўнае адраджэнне (2007).

*11 студзеня*

Быў на імянінах у А/ні/[1]. Вечар прайшоў вясёла. Гулялі ў пошту. Напісаў камплімент і атрымаў суровы адказ. А. спявала “Назначаю свидание”. Застаўся, як кажуць, пры сваіх інтарэсах.

***

У жыцці вельмі часта такое бывае:
Дзяўчына, якую душой пакахаеш, –
Як лялька пустая прывабнай красы...
На сонцы агнямі прыветнымі ззяе
І кропля халоднай расы.

*11 лютага*

Ужо пачаліся заняткі, а я шчэ дома. Ну, нічога, пабуду крыху. Ехаць немагчыма: дарогі развяло. Хоць пешадралам пры да Полацка. Глядзеў кінафільм “Байджу Байра”, гімн сапраўднаму мастацтву, каханню.

*** Зіма выцірае белым рукавом мяцеліц шыбы вокан-азёр. Быццам хлеба луста, усыпана густа неба соллю зор. Манетай згубленай срэбнай месяц на небе блішчыць. Карпаты гурбаў снегавых. Заінеўшыя дрэвы, як дзяды з сівымі брывамі.

*12 лютага*

Сёння хадзіў да Качаніхі[2]. Запісаў некалькі песень. Арыя “Пайшоў казёл ва гарод” – проста цудоўная. Хоць выконвай яе хорам пад кіраўніцтвам Лапацінай[3]. Сумнавата. Ужо прывык да дому. Шкада маці. Адна. Ні ёй вядзёрца вады хто прынясе.

*** Думка мільганула падаючай зоркай. Размова цячэ непрыкметна, як час.

Каўбасы, бы камеры аўтамашын, паважна ляжаць на стале (горамі ляжаць). Рыба сама ў рот просіцца: такая смачная.

*13 лютага*

Нарэшце выязджаю са сталіцы раёна. Праважала маці. Як яна клапоціцца! Колькі ласкі. Як багата сэрца роднай матулі! Прыехаў у Полацк. Сеў у Грамах. 8 гадзін сядзеў у Маладзечна.

*** Зіма змятае з полак апошні хлеб, як гаспадыня.

У горадзе і свісток міліцыянера гучыць салаўём.

*14 лютага*

У нядзелю адзначыў прыезд. Да мяне ў госці завітаў Хамёнак[4] з сябрам. Сёння заняткі прайшлі як звычайна. Сёння я бачыў А. Не знаю, чым яна мяне так прываражыла. Кахаю!

***Усмешка пуглівай птушкай прытаілася на губах: вось-вось пархне. Сэрца, як люстэрка, шмат вобразаў адбівае, ды ні адзін не запаў.

Зіма. Почка бэзу. Маленькая, стойка выносіць холад. Ды прыйдзе вясна, і з гэтай почкі разрасцецца вялікі пахучы букет. Так у каханні. Няяснае спачатку пачуццё разрастаецца ў буру.

Пры прывітанні дае руку з такім выглядам і так, бы дае патрымаць дыск сонца.

---

[1] Дуброўская Ганна, аднакурсніца.

[2] Качан Ганна, зямлячка.

[3] Заслужаны дзеяч мастацтва БССР Т. К. Лапаціна, кіраўнік Азяршчынскага народнага хору.

[4] Хамёнак Уладзімір, аднакласнік.

*18 лютага*

У кінатэатры паўторнага фільма глядзеў II серыі “Плата за страх”. Выключны па сваёй сіле. Рэалістычны. Добра паказвае капіталістычныя парадкі. Каб не памерці з голаду – нанімаўся на работу, дзе яўна пахне смерцю. Адначасова гімн смелым, неўнываючым.

*24 лютага*

Толькі ўявіць! Сёння маё 20-годдзе. Які слаўны юбілей. Жыццё. Тут непрыемнасць. Гавораць, пазбавілі стыпендыі на месяц за два прапушчаных дні. 24 чысла грошай нідзе не дастаць. Неяк сабраў 70 рублёў. Крыху прычасціліся. Весяліліся. Заўтра на лыжы.

*7 сакавіка*

Быў з Рысем[1] на вечары ў сваіх аднакурсніц. Весела і позна гулялі. Дамоў вяртаюся а 5 гадзіне. Вартаўніца жартуе, што ўжо 9 сакавіка, а вы шчэ гуляеце.

*8 сакавіка*

Купілі дзяўчатам падарунак: вазу з цукеркамі. Ніна не хацела браць вазу, але мы настоілі. Трэ было купіць падарунак А., але неяк няёмка: шчэ не прыме.

*1 красавіка*

2 разы абманулі. І што крыўдна – абманула дзяўчына.

*5 красавіка*

Хадзіў з хлопцамі ў педінстытут. Глядзеў кінафільм “Утаймавальніца тыграў”. Падабалася. Ёсць добрыя месцы, высмейваецца ўрапатрыятызм, трыбунны патрыятызм. Ідэя – рост маладых.

*** Дзе многа абяцанняў, там мала выкананняў.

Бо, як кажуць, грозен рак, ды на заднім плане вочы.

*6 красавіка*

Сёння надрукавалі мой верш “Я помню” ў газеце “Чырвоная змена”, на 2 стар. Віншаванні, кампліменты, падтруньванні. Я адчуваў сябе імяніннікам. Трэба шмат працаваць, чытаць, глядзець, запамінаць, прыглядацца, думаць. Размова з А.

*** Кожны жарт-досціп у яго вастрэй за восці.

*8 красавіка*

Хадзіў на “Караля Ліра” ў рускі драматычны. Падабалася. Многа моцных сцэн. Кістаў[2], як мне здаецца, выконваў роль добра. Чакаў гадзіну, пакуль апрануўся. Лажыўся спаць, Мандрык выцягнуў руку. Зрабіў “веласіпед”.

*9 красавіка*

Быў вечар, прысвечаны Жуль Верну. Даклад рабіў Шэўчанка[3]. Уступнае слова Гутарава[4]. Пасля Шэўчанкі выступіў Мікола Гамолка[5]. Узнёсла прачытаў урывак

---

[1] Адамовіч Рычард, аднакурснік і сябар; з Беласточчыны (Польшча).

[2] Кістаў Аляксандр Фёдаравіч (1903 – 1960), беларускі акцёр тэатра і кіно. Народны артыст БССР (1953).

[3] Шаўчэнка, выкладчык замежнай літаратуры.

[4] Гутараў Іван Васільевіч (1906 – 1967), з 1951 г. загадчык кафедры рускай літаратуры БДУ імя У. І. Леніна. Член-карэспандэнт АН БССР (1953), доктар філалагічных навук (1949), прафесар.

[5] Гамолка Мікола (Мікалай Іванавіч; 1922 – 1992), беларускі пісьменнік; на той час адказны сакратар часопіса “Бярозка”. Аповесць была надрукавана ў час. “Полымя” (1954).

з фантастычнай аповесці “За вялікую трасу”. Падзяліўся планамі. Сядзеў блізка каля А.

*10 красавіка*

Хадзіў к Рычарду ў госці. Павесяліліся. Ільінчык іграў на балалайцы. Рысь плясаў. Пісаў курсавую работу. Ненавіджу паўшых жанчын, як М-я. Вечарам далі невялічкі канцэрт. Разыгралі Мандрыка.

*11 красавіка*

Прачытаў новую паэму А. Куляшова “Грозная пушча”[1], мне спадабалася. Благародства душы савецкага чалавека – яе ідэя. Вечарам пісаў курсавую. Прыходзіў Круп-а к Рычарду, расказваў пра многае што.

*12 красавіка*

Устаў у 8.45. Васіль[2] з Ж.[3] смяюцца. Сорамна было б Жэню смяяцца, ноччу як паспіш так, дык потым не можаш устаць. За грашыма не пайшоў. Смецце, якое па закону дзяжурства ён павінен быў вынесці, не вынес, не дазваляе саліднасць. На дварэ ўжо вясна. Хораша! Ёсць і на нашым аддзяленні людзі! (Сл-а[4])***Паўпрэдыжаўрукі ў палях вясну апавясцілі. Нават пыл вясновы нам прыемны – як веснік вясны. Жывы, няўтомны, як жаўрук.

Вясной зямля, як маладая маці. Грудзі набрыналі сокам-малаком, які ўспоіць расліны, кветкі, маладыя пабегі.

*13 красавіка*

Хадзіў за Пецькавым[5] паліто. Не гатова. Прыехаў Рысь. Дума[6]. Пасля заняткаў быў вечар, прысвечаны Маякоўскаму. Даклад. Даўновядомы. Пасля аднайменны фільм. Харошы. А. на вечары не было. Сумна.

*14 красавіка*

Выйшла невялікая непрыемнасць з /Нілай/ Еўдакімчык. Дзяўчаты штосьці насплетнічалі. Тая напісала пісьмо пакрыўджанага чалавека. І тут дзяўчаты любяць распускаць языкі. Не! Прыгожа дзяўчына гордая, не тая, што ўсім даступна.

*15 красавіка*

Размова кароткая была з А. Вечарам прыходзіў Ж. Круп-ка, расказваў такое, што мяне ўзрушыла да самых асноў. Як шмат яшчэ паразітаў з чыстай знешнасцю і чорным, нізкім нутром. Мала шчэ я знаю жыццё. Ёсць работнікі ідэалагічнага фронту, якія, як кляшчы, сядзяць на шыі ў другога і на яго шыі спакойна едуць у рай дабрабыту.

*** Начальнік курыць пад аб’явай “Не курыць!”

Не верыцца, што гэткі фрукт на гародзе савецкім вырас. Чых начальства для яго вялікае свята: можна сказаць “Будзьце здаровы”. Бо як казалі: ён ў гэтай справе сабаку з’еў і сучкай закусіў.

---

[1] Куляшоў Аркадзь Аляксандравіч (1914 – 1978), беларускі паэт. Народны паэт БССР (1968). Лаўрэат Дзяржаўнай прэміі СССР (1946, 1949) і БССР імя Янкі Купалы (1970).

[2] Канапліцкі Васіль, аднакурснік.

[3] Клімаў Яўген, аднакурснік.

[4] Магчыма, Слагада Ніна, прафорг.

[5] Трафімаў П. А.

[6] Дума – выпіўка з сябрамі.

*16 красавіка*

Дзень прайшоў звычайна. Маці прыслала пасылачку і пісьмо ў ёй. У самой, пэўна, ужо амаль нічога няма, а ўсё-ткі мне шле. А. паехала дадому. Пільман[1] як назло ўсіх адзначыў, каго не было.

*17 красавіка*

Сплю. Без 10-ці 8 гадзін. Прыходзіць цёценька-сторож. Мне, выходзіць, трэ дзяжурыць. Ад 8 да 2 прыйшлося ішачыць. Потым з Васем /Канапліцкім/ "падумалі". Сасмажыў яешню. Дзяжурыў ва ўніверсітэце на вечары.

*18 красавіка*

Панядзелак. Самы цёмны дзень у нашым жыцці. Спец.[2] Уставай у 8. Не еўшы, ледзь прапаласкаўшы вочы, бяжы на лекцыі. Каюн[3] выклікаў, не знаю, плюс к таму разгубіўся. Сказаў, што запомніць і на экзаменах прыпомніць.

*** Усмешка па графіку, і тая стандартная, як даведка.

*19 красавіка*

Надрукавалі заметку ў газеце. Неяк няёмка. Перарабілі. Вышла, як ўсё роўна ў карэспандэнты наняўся. Прыехала /Аня/ з дому. Папрыгажэла. Сэрца гніе. Вечар сарваў. Кансультацыя па беларускай курсавой. Косця /Свёкла/ пазёр. К-о[4] праў наконт R.

*20 красавіка*

Ездзіў у "Чырвонку" к Івану[5]. Верш не ўдаўся. Сам адчуваю. Там сустрэў Смагаровіча[6]. У гэтым годзе выйдзе яго зборнік. Чытаў "Дон Кіхота"[7]. Падабаецца. Шкада, што часу няма. "Аўтаручка" павінна ўдасца. Але трэ настойлівасць і стаpанне.

*** Нагрувашчана вобразаў, нібы камення.

*21 красавіка*

Праходзяць практычныя па стараславянскай мове. Цяжка. Сядзіш як баран, як марсіянец ці дзікар у метро. Усё-ткі я трохі ўцяцерыўся. Не магу без А. І бачу, на ўзаемнасць нечага спадзявацца. Што ж, гвалтам мілым не будзеш. Мала што каму падабаецца. "Глаз видит, да зуб неймёт".

*22 красавіка*

Займаліся ў фізмаце. Якуб[8] чытаў развітальную лекцыю. Сядзелі пад самай столлю, як ва ўрадавай ложы. Перапрацоўваў верш. Дома з Рысем смажылі сала. За апошнія 2 рублі купілі батон. Сакратар[9] даў канцэрт.

---

[1] Пільман С. І., выкладчык лацінскай мовы.

[2] Заняткі па спецпадрыхтоўцы на ваеннай кафедры.

[3] Каюн, выкладчык кафедры ваеннай падрыхтоўкі.

[4] Клышка Анатоль Канстанцінавіч (н. 1935), аднакурснік. Беларускі крытык, пісьменнік, перакладчык.

[5] Калеснік Іван Іванавіч (1932 – 1979), беларускі паэт. У 1954 – 1961 гг. загадчык аддзела газ. "Чырвоная змена".

[6] Смагаровіч Марк Станіслававіч (н. 1927), беларускі паэт, былы партызан. Зборнік вершаў "Мой таварыш" (1955).

[7] Сэрвантэс Сааведра Мігель дэ (1547 – 1616), іспанскі пісьменнік. Раман "Хітрамудры ідальга Дон Кіхот Ламанчскі".

[8] Колас Якуб (сапр. Міцкевіч Канстанцін Міхайлавіч; 1882 – 1956), беларускі пісьменнік. Народны паэт БССР (1926). Акадэмік АН БССР (1928), віцэ-прэзідэнт АН БССР (з 1929).

[9] Мянушка Я. Клімава.

*23 красавіка*

Раніцой падрыхтаваў 2 параграфы па латыні. Варыў макарон. Апаздаў на зарубежную, не знаў, што лекцыя перанесена на гадзіну. Здаў Пільману 1 параграф. Перад А. ўся мая смеласць улятучваецца. Язык як чужы. Кепска быць навічком у каханні.

*24 красавіка*

Пісаў курсавую ў беларускім кабінеце. Перапісаў усю. Ніна прынесла сухароў якіхсьці. З апетытам елі. Вясёлае студэнцкае жыццё! Расказвалі пра блуканні Рыся. Потым прыйшоў дамой. Разыгрывалі розныя камедыі. Хлеба не было. Знайшоў кавалак сухара, размачыў і з'еў. Было сала, дык з салам з'еў. Цікава, сытна і разам з тым так вясёла.

*25 красавіка*

Адбываў катаргу па spezuse[1]. Сёння павінны атрымаць стыпендыю. Ды старaста штось праваронiў. Купіў "Прыгоды Тома Соера"[2]. У мяне на англійскай мове адаптыраваная такая кніга. Да 2-х ночы пераклаў 15 тыс. Быў камсамольскі сход. Штосьці нудны.

*26 красавіка*

Падняўся ў 10.45. Думаў, што шчэ 6 гадзін. Усё Сакратаравы "вуткі". Падлецы – ціхенька выйшлі, каб я не ўстаў. Быў на кансультацыі па taktyzy[3]. Здаў 15 тысяч. Быў фальклор. Пытаў у А. наконт курсавой. Кажа, што скора закончыць. Атрымалі стыпендыю. Купіў 2-гі том Купалы[4]. Была канферэнцыя. А. не было.

*27 красавіка*

Здаў Пільману 1 параграф. Здзіраў грошы за газету. Размовы. Настрой быў цудоўны. Згубіў 30 з гакам рублёў грошай. Дзе тонка – там і рвецца. Не так шкада тых грошай, як крыўдна, што такі варона. Маё сэрца ўсё-ткі не ў пакоі ад А. А яна нат і ўвагі не звяртае, а ў мяне адвагі не хапае.

*28 красавіка*

Хадзілі ў лазню. Косцю[5] купілі – мыў валасы клеем замест спецраствора для валасоў. На дварэ ўжо вясна. Душу разрываюць сваім шчэбетам шпакі. Былі на суботніку. Апаздаў на Фактаровіча[6]. Быў вечар. Правяраў Зосіну[7] работу. За сцяной музыка. Танцы. Я адзін.

*29 красавіка*

Была фізкультура. Паўлекцыі гулялі. Прыйшоў дадому – спрэчка за дзяжурства. Я шмат зразумеў, што нельга проціпастаўляць /сябе/ калектыву. Калектыў – усё, трэ перарабляць свой характар. Сам адчуваю – невыносны. Да 3 гадзін пісаў пошту.

---

[1] Заняткі па спецпадрыхтоўцы.

[2] Твэн Марк (сапр. Клеменс Самюэл; 1735 – 1810), амерыканскі пісьменнік.

[3] Заняткі па тактыцы.

[4] Купала Янка (сапр. Луцэвіч Іван Дамінікавіч; 1882 – 1942), беларускі паэт, драматург, публіцыст. Адзін з заснавальнікаў новай беларускай літаратуры і літаратурнай мовы. Народны паэт БССР (1925). Акадэмік АН БССР (1928) і АН УССР (1929).

[5] Свёкла Канстанцін, аднакурснік.

[6] Фактаровіч Давід Яўсеевіч (1917 – 1993), загадчык кафедры замежнай літаратуры; дацэнт.

[7] Грыц Зося, аднакурсніца.

*30 красавіка*

Настрой і заняткі перадсвяточныя. Было 3 лекцыі. Здаў курсавую. “Подписано – так с плеч долой”. Дружная жаркая вясна ўступае ў свае правы. Спяшае нагнаць усё ўпушчанае. Вечарам глядзеў “Рамео і Джульета” – кіно-балет. Балет я разумею столькі, колькі кітайскую мову. Так падабалася.

*** З выглядам важным, як слухач, які ў музыцы ні грама не разумее, хлопае і сур’ёзна глядзіць з разумным выразам.

*1 мая*

1 Мая! Колькі цеплыні, сонца, ласкі ў гэтых 2 словах! Быў на парадзе. Хораша. Перад парадам невялікая дума. У Рыся праводзіў гэта інтэрнацыянальнае свята. Усё вельмі добра. Былі Зося /Грыц/, Эла /Шалаева/, Ляля. Прыехалі літоўскія студэнты. Вясёлыя, харошыя хлопцы Костэс і Бронюс. Дамоў у 3 гадзіны.

*** А вакол для каханак сваіх салаўі серэнады спяваюць. А вішні, быццам маладухі, у белі-квецені стаяць.

*2 мая*

Устаў позна. Паслалі дзяжурыць у нархоз. Паўгадзіны пабыў і ўмыўся. Прыйшоў дадому. Задрамаў. Тут прыйшоў Генадзь /Гарбук/. Дума невялічкая. Потым пайшлі па Мінску. Зазірнулі ў “Нёман”. Якое шчасце адчуваць сябе, вярней, быць студэнтам! Якое ганаровае і разам з тым адказнае званне! Дамоў у 2.

*3 мая*

Зараз зубру спец. Страшэнна непрыемная рэч. Вясна з такімі пяшчотнымі, спакуслівымі ўсмешкамі. Ходзяць пахарашэўшыя дзяўчаты. Вясна. Сонца. Першая траўка. Парвалі аковы зялёныя лісткі. А тут сядзі гарбей. Плюс к таму фальклор 4-га ці 5-га чысла. Ідзе першы вясновы дождж. Першы гром. На практычных па фальклору спяваў “Перапёлку”, вясельную. Аж сам расчуліўся. Вясёла было.

*4 мая*

Вучыў спец., потым ўзяўся за фальклор. На лекцыі не хаджу. Трэ было здаць ведамасць узносаў. Пайшоў у аўдыторыі. Усе хлопцы прысутнічаюць. Ці я, ці яны штрэйкбрэхеры. А/ня/ сядзела з Б.

*5 мая*

“Что день грядущий мне готовит?” Сёння здаем фальклор. Прачытаў канспект. Быў на зарубежнай. Вось і я сяджу і расказваю. Кажа: “Хопіць”, – ставіць 5 і дабаўляе: “Вам за адны запісы 5 варта /паставіць/” (Грынблат[1]). Цяпер бы здаць спец.

*6 мая*

Спец. прыбліжаецца. Дні цякуць. Вучу. Аж у галаве дурна. Бачыў А., хвалюецца, як здаць фальклор. Ужо і дадому хочацца, і хаценне гэтае неяк сілы надае. Вечарам Рысь чытаў “сваю дыпломную”. Невялічкі вячэрні “агон” /выпіўка/ і нарэшце сон. За гэтыя дні палюбіў спец. Дарма ў гаду ленаваўся.

---

[1] Грынблат Майсей Якаўлевіч (1905 – 1983), беларускі фалькларыст, этнограф, гісторык. Супрацоўнік Інстытута мастацтвазнаўства, этнаграфіі і фальклору АН БССР. Лаўрэат Дзяржаўнай прэміі БССР (1986).

*7 мая*

Была Манецкая[1]. Прывезла перадачу. Эх, маці. У самой, пэўна, ужо няма сала і скавараду падмазаць, а мне шле. Дома ўсё па-старому. Мішка /Крывёнак/ хвалюецца. Ліда выйшла замуж.

*8 мая*

Вясна ідзе поўным ходам. Цяпер бы толькі пагуляць з дзяўчынай. А тут сядзі карпей. Ну, нічога. Потым навярстаем ўпушчанае. Праўда, душа к таму часу крыху зачарствее.

*9 мая*

Заўтра здаваць. Вучу. Васіль /Канапліцкі/ і Жэнька /Клімаў/ робяць "усяношныя". Васіль аж не распранаецца. Артылерыі баюся. Тактыка лягчэй.

*10 мая*

Каюн папутаў. Крычыць без толку. У білеце былі пытанні з залікам. Я гэта нават не паўтараў. Тактыку здаў на 5. Душа была ў пятках. Але нарэшце пасля маралаў /мараляў/ агульная – 4. Быў у АДА[2], глядзеў выстаўку польскага мастацтва і "Овод".

*11 мая*

Ніяк не магу ачухацца ад экзаменаў. Шкада Косці /Свёклы/. Паставілі 3. Ну, можа, дазволяць пераздаць.

*15 мая*

Паехалі ў калгас з канцэртам. Галавацяпы начальства. Выдумалі ў гарачы весні дзень ехаць з канцэртам. З'ездзілі і прыехалі, нічога не зрабіўшы. Ад пылі ў мяне быў і пінжак сівы, і твар сівы. І на зубах трашчэў пясок, як у жорнах жарства.

*22 мая*

Вучу зарубежную. Прачытаў "Песню аб Раландзе"[3]. Цудоўная. Зараз пачаў "Ад"[4], – сапраўды – пекла. Не магу закончыць "Аўтаручку".

*23 мая*

Сёння прачытаў "Ад". Геніяльна. Калі жыў, а зараз чытаеш з цікавасцю. Дантэ – геній! Твор мяне ўзрушыў. Шкада, што раней не прачытаў.

*24 мая*

Зноў чытаю.

*25 мая*

Атрымалі стыпендыю. Здаў залік па латыні Пільману. Здаваў 45 мінут. Вечарам хадзіў на "Добрую раніцу" (к/ф). Удалы вобраз бюракрата. Камедыя, увогуле, лёгкая. Не на поўную нагрузку.

*27 мая*

Сёння прыехала Аня /Міклашэўская/ з /Таццянай/ Крахоткай. Прывезла

---

[1] Манецкая Марыя, зямлячка.
[2] АДА – Акружны Дом афіцэраў.
[3] Сярэдневяковая французская эпічная паэма XI ст.
[4] Першая частка "Боскай камедыі" Дантэ Аліг'еры.

перадачу. Яны паступаюць на завочны бібфак. Не ведаю, як ужо ўдасца ім здаць. Здаў з патугамі залік па фізкультуры. І здаў залік па зарубежнай літаратуры Фактаровічу. Здаў паспяхова.

*28 чэрвеня*

Здаў апошні экзамен. Мовазнаўства – 5. Я ўжо другакурснік. Настрой цудоўны, толькі пamрачаецца – А. не здала.

*** "Раскажыце пісьмо Энгельса к М. Гарднеру". – "Чужых пісем не чытаю і Вам не раю".

Хаця перад табою кожны раз "Капітал", ды ў кішэні няма капейкі. Тысячы здаем /на занятках па англійскай мове/.

Зязюля кукуе. У кішэні ні рубля, ні капейкі. Прыехаў на возера, назад трэ зайцам. Ды нічога, што не звініць. Здаў на стыпендыю, ды плюс на павышаную. Хоць цяпер не звініць, затое потым палучыш.

Перад абаронай доктарскай "Кропка з коскай у Гамера".

*6 ліпеня*

Узяў білеты. Селі і благапалучна даехалі да сваёй сталіцы – Ушач.

*10 ліпеня*

Нядзеля. Раніцой купаўся. Днём пайшоў у цэнтр. Заходжу ў садзік. Сядзіць пара. Падыходжу бліжэй – Зіна[1]. Прывітаўся. "И счёл уместным – удалиться". Сапраўды – сустрэча!

*** Луг задыміўся сырадоем. Вецер, бы хлопчык капрызны, дзьме ў чашку з чаем і расплёсквае яго, дзьме на гладзь возера.

Дзетак, бы ў лузе кветак.

*14 жніўня*

Хадзіў на танцы на льнозавод. Там шло кіно. Чакалі. Хадзілі на возера. Жартавалі. R.[2] мне сказала: "А то", ну і я сказаў таксама. Патанцавалі. На машыне заехалі дамоў. Падводзіў дадому R. Цудоўныя вечары. Зорна, месячна. Толькі ў каханні прызнавацца.

*** "Змокну". – "Лілея ў расе шчэ прыгажэйшая..."

*16 жніўня*

Хадзіў у садзіку. Хтосьці мяне аклікае. Яна. Пасядзелі. Потым схадзілі на мост. Там былі танцы. Праканваіраваў дадому. Сустрэўся Жак Машчоў. Таксама, як і я, пад $t^0$. Калякалі з ім на мосце гадзіну. Успаміны прыемныя і горкія.

*** Сядзіць кляшчом на шыі маці. Маршчыны на твары. Бы там праехаў з разваротамі канавакапальнік. Чых гучны, бы стрэл з ружжа у пустым памяшканні.

*18 жніўня*

Зноў сустрэў яе. Зноў на мосце танцы.

Вербы ў нерашучасці нагнуліся к вадзе і баяцца акунуцца, халодная (восень). Алешнік ногі заматаў. У гусей лапкі пачырванелі ад холаду. Вецер рассыпае лістоту-лістоўкі, аб тым, што зіма наступае.

---

[1] Корабава Зінаіда, аднакласніца, якой Рыгор Барадулін сімпатызаваў у школе. Ёй прысвечаны вершы "Шыпшына" (1956), а таксама гл.: "Світанняў я з табой не сустракаў..." (1957) // Маладзік над стэпам. Мн., 1959. С. 49.

[2] Бутоўская Роза, аднакласніца, студэнтка Мінскага медыцынскага інстытута.

*10 верасня*

Хадзіў у рускі драмтэатр на "Варвары" Горкага. Страшэнная глыбіня! Артысты ігралі цудоўна. Асабліва Палосін[1].

*16 кастрычніка*

Быў на камедыі Астроўскага[2] "Сердце не камень". Цудоўная рэч, і артысты не адстаюць. Шкада, што ў Жарава[3] другарадная роля. На Жараве я памешаны. Вечарам прыйшоў Р. Я. Паспытаў "Біло міцне". Да поўначы расказвалі анекдоты.

*17 кастрычніка*

Па дарозе зазірнулі ў Апчак[4]. Паабедаў з хлопцамі. Потым з Падлужным[5] схадзілі да А/ні/. Пачаставаліся яблыкамі. На дарогу яна дала мне вялікі яблык і семак. Мне здалося, што яна мне зямны шар дала. Не, усё-ткі я да яе нераўнадушан. Паехаў Саша[6].

*** Уранку восень пастрашыць, што здае пазіцыі зіме (іней), а ўдзень адпусціць. Зноў сонца.

*23 кастрычніка*

Сёння апошні дзень. Работалі слаба. Гаспадыня выпіла шмат. Памагаў заганяць карову, карміць свінства. Даваў Орліку. Яна ляжыць і кажа: "Прыязджай да нас, ты як свой. Любачка".

*** Жанчына падобна на адуванчык. Пышны. Пакуль малады. Пастарэў – асыпаўся.

Хмары. Прырода прабуе фарбы. Якую падабраць, каб намаляваць карціну жыцця?

Журналіст здымаў з кніжкамі. Нарэшце, свінарку са свіннямі. Шкада, што няма фотаздымкаў з лазні, а то б і пад душам герой трымаў кнігі (ці чытаў).

*9 лістапада*

Хадзіў на "Выбачайце, калі ласка!"[7]. Вельмі /с/падабалася. Захапленне ад Глебава[8] і Дзядзюшкі![9] У кішэні ні капейкі. Плюс да таго, не ўзяў насоўкі. Адна камедыя на сцэне, другая са мной у зале. Хадзіў і сотні раз пераглядаў партрэты артыстаў.

*** "Гэта добра шчэ, што смяюцца. Вось я там як пашыў, дык усе плачуць".

"Будзем прыспасабліваца да местных умоў!" – ускрыкнуў рускі, прыбыўшы ў Індыю. Зняў штаны і пакіраваўся у падштаніках у тэатр.

---

[1] Палосін Яўгеній Максімавіч (1911/12 – 1981), акцёр Дзяржаўнага Рускага драматычнага тэатра імя А.М. Горкага. Народны артыст СССР (1969).

[2] Астроўскі Аляксандр Мікалаевіч (1823 – 1886), рускі драматург.

[3] Жараў Іван, акцёр Дзяржаўнага Рускага тэатра.

[4] З 24 верасня студэнты працавалі на ўборцы бульбы ў калгасе "Камінтэрн" у Мінскім раёне; вёскі Зарэчча, Апчак.

[5] Падлужны Аляксандр Іосіфавіч (1935 – 2005), аднакурснік. Беларускі мовазнавец. Акадэмік НАНБ (1994), доктар філалагічных навук (1982), прафесар.

[6] Булыка Аляксандр Мікалавіч (н. 1935), аднакурснік. Беларускі мовазнавец. Доктар філалагічных навук (1981), прафесар. Лаўрэат прэміі НАНБ (1998).

[7] П'еса А. Макаёнка. Макаёнак Андрэй Ягоравіч (1920 – 1982), беларускі драматург. Народны пісьменнік БССР (1977). Лаўрэат Літаратурнай прэміі імя Янкі Купалы (1962), Дзяржаўнай прэміі БССР імя Якуба Коласа (1974).

[8] Глебаў Глеб Паўлавіч (сапр. Сарокін; 1899 – 1967), беларускі акцёр. Народны артыст СССР (1948). Лаўрэат Дзяржаўнай прэміі СССР (1941, 1948).

[9] Дзядзюшка Уладзімір Іосіфавіч (1905 – 1973), беларускі акцёр. Народны артыст СССР (1971). Лаўрэат Дзяржаўнай прэміі СССР (1952).

*23 лістапада*

Пасылка ад маці. Сыр. Тое-сёе. 10 рублёў. Усё шле. Не можа нікога пусціць у Мінск, каб не пераслаць мне перадачы. Дзік расказаў не вельмі прыемнае. Цяжка.

*24 лістапада*

Хадзіў да Рымкі[1]. Дома ўсё ў парадку. Жак /Машчоў/ хворы. Сяджу на лекцыі дэкана[2]. А на душы кошкі скрабуць. Я, выявілася, прамяняны. І на каго? Што ж, гэта вынік маёй нясмеласці ў справах сур'ёзнага кахання.

*27 лістапада, нядзеля*

Выходны дзень. Кожны раз сабіраешся ў гэты дзень перавярнуць горы, а як выйдзе – пшык. Раніцай пайшоў з Вячаславам, купіў чаравікі. Вельмі рад. А то Мінск увесь абабегаў – нідзе няма. Прыйшоў дадому. Пачытаў трохі "Пана Тадэвуша"[3]. Потым з Алікам /Падлужным/ накіраваліся на пошукі лыжак. Ледзь знайшлі ў невялічкім ларочку. Тут успомніў: трэба сфатаграфавацца на камсамольскі білет. У фатаграфіі страшэнная чарга, чуць дастаяў. Зараз сяджу ў чытальнай зале. Неабходна вучыць English, але як на ліха штось не хочацца брацца. Але ўсё-ткі мушу: заўтра кантрольная работа. Дастанецца на арэхі.

*28 лістапада, панядзелак*

Закончыў "Пана Тадэвуша". Сіла. Аж сорамна, што да гэтых пор не прачытаў. Трэба ўжо было з/а/ гэты час перачытваць у які 7-мы раз. А я – першы. Ды, як кажуць, лепш пазней, чым ніколі. Колькі трапных дэталяў, мясцін. Партрэты як жывыя. Так і бачыш і Тадэвуша, і Зосю, і модніцу-какетку Тэлімену, і графа. А якім гімнам сапраўднаму мастацтву гучыць сцэна, дзе Янкель-цымбаліст іграе на вяселлі Зосі! Чытаючы, адчуваеш, што ўсе гэтыя персанажы аджываюць свой век. Тадэвуш і Зося, адчасці, нешта новае. Аб прыродзе і гаварыць няма чаго: яна жыве! Гэта ж навек запомніцца радок:

*И клевер покраснел, как юноша несмелый.*

А колькі іх! Шкада, што не магу чытаць у арыгінале Міцкевіча. Лекцыі прайшлі непрыкметна. Пісалі кантрольную па англійскай мове. Напэўна, кол, а можа, і з плюсам.

Вечарам быў канцэрт-вечар, прысвечаны Адаму Міцкевічу. Выступалі нашыя студэнты-палякі. Вельмі добра. Шкада, што я толькі палову зразумеў з таго, што яны гаварылі (выступалі на польскай мове). Выступалі артысты Белдзяржэстрады. Дай божа лепш.

Фактаровіч зрабіў уступную прамову ўзнёсла, з запалам, як заўсёды. Цікава і карысна. Чытаю Алейніка[4].

---

[1] Коршун Рыма, аднакласніца.

[2] Ларчанка Міхась (Міхаіл Рыгоравіч; 1907 – 1981), беларускі крытык і літаратуразнавец. У 1955 – 1971 гг. загадчык кафедры беларускай літаратуры і адначасова (да 1957) дэкан філалагічнага факультэта БДУ імя У. І. Леніна. Доктар філалагічных навук (1956).

[3] Паэма А. Міцкевіча. Міцкевіч Адам (1798 – 1855), польскі паэт, ураджэнец Беларусі, заснавальнік польскага рамантызму.

[4] Алейнік Барыс Ілліч (н. 1935), украінскі паэт. Лаўрэат Дзяржаўнай прэміі СССР (1975), Рэспубліканскай камсамольскай прэміі імя М. Астроўскага.

*29 лістапада, аўторак*

На Зазеку[1] чытаў Гётэ[2]. Неяк сумна. Адчуванне такое, як я не ў сваёй талерцы. Ну вось, думаю, кіну і думаць, гэта ж донкіхоцтва. Ды варта зірнуць на яе раз – і сам не свой. Страшэнна дурацкае становішча. Разумею, а змяніць не магу. Вечарам прыходжу дадому. У нас сядзіць Іван /Калеснік/. Прыходзіў да Мітрыя[3]. Пад мухай. Гаварыў, што чысла 15 верш дадуць у літстаронцы.

Потым пайшоў да Rysika /Адамовіча/; у 65 пакой. Там К. імянінніца. Пабег за градусамі. Прыехаў у магазін. Там Ніл[4]. Круціўся-круціўся – не хацеў перад ім браць. Ён кажа: “Пойдзем дадому”. Я як бы спахваціўся: “Ах, трэба ўзяць канцэнтрат”, – і чмыгнуў у штучны аддзел. Нясуся з R. у пакой. Адчыняю дзверы – Адамчык[5]. Я адразу сеў. Адной рукой трымаю бутэльку. Уваходзіць Галя. А R. як прычапіўся. У яго, кажа, бок баліць. Потым прычасціліся. Гулялі ў фанты. Спявалі. А. вельмі хораша, з пачуццём спявала “Марынікэ” і другія песні. Усё б слухаў і слухаў. Потым станцавалі некалькі танцаў.

*30 лістапада, серада*

На лекцыі закончыў “Конрада Валенрода”[6]. Я проста закахаўся ў Міцкевіча. Гэта ж глыбіня беспрадонная, гэта ж чарадзей! Для сапраўднага мастака час – нішто. Чытаеш і не можаш адарвацца. Вось гэта сапраўдная любў да Радзімы, любоў, у імя якой Валенрод ахвяруе ўсім сваім дарагім – жыццём, шчырым каханнем. Палоніць і вобраз /працяг абарваны/.

Потым была англійская. Раздала кантрольныя. Мне тройка. Лекцыя прайшла весела. Шмат жартавалі. Здаў сапраўды цудам “знакі”.

Потым вечарам варыў кашу. На кухні сабраўся амаль увесь наш курс дзяўчат. Рыма[7] пякла бліны. Я паспытаў адзін і сказаў, што солі трэба. Тут мне і падпусцілі кпіны. Для закаханага, кажуць, заўсёды ў страве солі мала.

Вечарам чытаў лірыку Гётэ. Трэба чытаць, чытаць і чытаць класікаў.

*1 снежня, чацвер*

Прыйшла тэлеграма сустракаць Гарбучыху[8]. 2 лекцыі праседзеў. Потым сабраўся ісці. І тут мне толькі цюкнула, што ўжо 7 гадзін і сустракаць позна. Пабег на аўтобусны вакзал. Там гавораць, што аўтобус полацкі прыйшоў у 6 гадзін. Паехаў да Генькі. Там якраз наладжвалася дума. Прыгасціўся. Маці прыслала хоць 2 кавалачкі сала. У самой няма, дык пазычыла. Не можа нікога прапусціць у Мінск, каб мне чаго-небудзь не перадаць.

Дадому прыехаў позна. Былі шансы прыехаць распранутым[9].

---

[1] Зазека Язэп (Іосіф Васільевіч; 1907 – 1977), беларускі пісьменнік. Выкладчык рускай літаратуры XIX ст.; кандыдат філалагічных навук, дацэнт.

[2] Гётэ Ёган Вольфганг (1749 – 1832), нямецкі пісьменнік, заснавальнік нямецкай літаратуры новага часу, мысляр, прыродазнавец.

[3] Супрун Дзмітрый Дзмітрыевіч, аднакурснік.

[4] Гілевіч Ніл Сымонавіч (н. 1931), на той час студэнт філфака БДУ. Беларускі паэт, фалькларыст, перакладчык. Кандыдат філалагічных навук, прафесар. Народны паэт БССР (1991). Лаўрэат Дзяржаўнай прэміі БССР імя Янкі Купалы (1980), Міжнароднай прэміі імя Х. Боцева (1986).

[5] Адамчык Вячаслаў Уладзіміравіч (1933 – 2001), на той час студэнт аддзялення журналістыкі філфака БДУ. Беларускі пісьменнік. Лаўрэат Літаратурнай прэміі імя Івана Мележа (1980), Дзяржаўнай прэміі БССР імя Якуба Коласа (1988).

[6] Паэма А. Міцкевіча.

[7] Клышко Рыма, аднакурсніца.

[8] Маці Г. Гарбука.

[9] Вечарамі па вуліцах хадзіць было небяспечна з-за частых рабаванняў.

...Смех у завалин,
и мысль от сохи,
и Ленин, и Сталин,
и эти стихи.

Ахматава пісала працытаваныя мной радкі ў тыя дні, калі стаяла ў чарзе, каб перадаць арыштаванаму сыну кавалак хлеба... Дык будзем судзіць?..

*1998*

### На Беларусь у Вільню…

Як успрымалі Вільню людзі, якія там нарадзіліся? Паэтка Наталля Арсеннева: “Больш як пятнаццаць год мне давялося жыць на чужыне, у Польшчы, але хоць раз на год я прыязджала на Беларусь, у сваю родную Вільню, або да мужавых бацькоў у Валожыншчыну” (“Між берагамі”, 1979).

Вось так успрымалі, і толькі так! Асабліва ў часы “Нашай Нівы” і ў міжваенны перыяд (1920-1939), калі ў Заходняй Беларусі Вільня была сталіцай культурнай аўтаноміі. Там усё засярэдзілася, там! Натуральна засярэдзілася – і натуральна Вільня стала сталіцай.

*1999*

### Лепш бы не ведаць…

У Народнай Рэспубліцы Балгарыі было 70 тысяч “стукачоў” – то бок, адзін на кожныя 130 чалавек! А сярод інтэлігенцыі – адзін на кожныя 10 чалавек. Удумацца толькі: кожны дзясяты інтэлігент – сакрэтны супрацоўнік Камітэта Бяспекі! Ну і “працаваў жа”: паведамляў, дакладваў, то бок – даносіў...

Як гэта кажуць: лепш бы не ведаць такое.

*1999*

### Вось вам і роля музыкі

Слухаў па радыё ўрыўкі нямецкіх патрыятычных песень і маршаў канца 1930-х гадоў. Гэта – страшна. Страшна ад закладзенай у іх сілы. Гэтыя рытмы, гэтыя выкрыкі... Устаяць цяжка. Масавы псіхоз непазбежны...

Вось вам і роля музыкі. Пад такую музыку пойдзеш не толькі nach osten. І ў пекла пойдзеш.

Славянская музыка – нават гераічная – зусім не тое.

*7.XI.2000*

### І гэта – па радыё!..

15-га лютага 2001 года, у 5:30 раніцы, па радыё прагучала вось такая песня (у выкананні групы “Агата Кристи”):

Улыбаются кошки,
Улыбаются мышки,
Улыбаются черви
В куче дерьма.

И влюбляются кошки,
И влюбляются мышки,
И влюбляются черви
В кучу дерьма...

Гэта прапагандысты культуры і мастацтва прапануюць замест паэзіі Пушкіна, Лермантава, Цютчава, Някрасава, Блока, Маякоўскага, Ясеніна, Пастарнака,

Твардоўскага, – калі браць толькі рускую паэзію, паколькі гэтая “черведерьмовая” песня складзена на мове рускага народа.

Не здзіўлюся, калі заўтра запросяць гэты “черведерьмовый” гурт спяваць у сталіцу нашай дзяржавы і над галоўным праспектам Мінска будуць вісець транспаранты, на якіх літарамі, велічынёй па сабаку, напісана: гурт “Агата Кристи”. Ну вядома, запросяць! Павінны ж і мінчане ведаць, як “улюбляются черви”.

*2001*

### Але ёсць і другое…

Калі мы не авалодваем такой міжнароднай мовай, як руская, мы адразаем сябе ад галоўнай крыніцы жыццёва неабходнай нам разнастайнай інфармацыі (навуковай, эканоміка-гаспадарчай, палітычнай, культурнай і г.д.). Нехта скажа: дзеля гэтага можна авалодаць і карыстацца ангельскай, яна пашырана ў свеце яшчэ больш, чым руская. Пагадзіцца з такім довадам нельга: сто і тысяча, і нават сто тысяч беларусаў могуць авалодаць ангельскай, але ўвесь беларускі народ на гэта проста не пойдзе, гэта нерэальна, ды і няма сэнсу.

Але ёсць і другое. Адвярнуцца нам ад рускай мовы – азначала б у вялікай меры пазбавіць сябе радасці знаёміцца з цудоўнымі скарбамі рускай літаратуры па арыгіналах, а не па перакладах на беларускую. Ды і колькі яе ў нас перакладаецца? Усю перакласці – і за сотні гадоў нерэальна.

Гэта ж датычыць і рускай песні. Хто з нас разлюбіць і адрыне рускую песню? Сапраўдную рускую песню, а не сучасныя, народжаныя “бледнай немаччу”, пародыі на яе...

О, сапраўдная руская песня! Дзеля цябе варта і добра вывучыць мову, каб ты магла як найглыбей запасці ў душу і сэрца.

*2001*

### Самае страшнае…

Самае страшнае, што прынесла і ўсталявала бальшавіцкая эпоха і паступова зрабіла нормай жыцця, і зрабіла псіхалогіяй звычайнага чалавека і ўсяго грамадства – гэта незалежнасць ад векавечных непарушных маральных законаў, прынцыпаў і нормаў агульнажыцця чалавечага, – ад тых самых Дзесяці запаведзяў, адступленне ад якіх – разбурэнне і гібель асобы, распад ўсяго і ўся, на чым грамадства трымаецца, можа трымацца, і калі сёння яшчэ трохі трымаецца – толькі ў той меры, у якой гэты распад яшчэ не стаў усёахопным, усёпранікальным, у якой меры яшчэ аказваецца яму супраціўленне. Кім аказваецца? Неабыдлелай часткай грамадства, перш за ўсё – сумленнай незапраданскай інтэлігенцыяй.

*10. XII. 2001*

### Слухайце – і вам аддасца!

Сёння, 17 лютага, слухаў, як адпраўляў святую імшу біскуп Гродзенскай дыяцэзіі Антоній Дзям’янка. Гучала, папросту кажучы, здорава! О, калі б нашыя людзі кожны дзень слухалі такія казані святароў! Якое процістаянне злу, п’янству, наркаманіі, распусце, карацей – Сатане, які хоча забіць чалавека ў чалавеку! А найперш – якая мова! Якая мова гучала! Часта чую: а дзе пачуць сапраўдную беларускую мову? А вось дзе! У Касцёле! Божа, як яна тут гучыць! Як соладка для душы! Сэрца млее і плача. Ад шчасця, што гэтая мова ёсць і я магу яе слухаць.

*(Працяг)* А сёння, 24 лютага, слухаў казані ксяндзоў Уладзіслава Завальнюка, Антонія Дзям’янкі, Яна Крэмца... слухаў – як песню, як гімн, які Божай сілай робіць у маёй душы штосьць такое, што я не магу вызначыць і сказаць, а толькі магу ціха, безгалоса плакаць – столькі чую вышэйшай праўды ў іхніх казанях, столькі

спрыяння і даравання маёй душы грэшнай!.. І я звяртаюся да ўсіх вас, людзі Беларусі: слухайце, слухайце, слухайце – ці вы праваслаўныя, ці вы каталікі, ці вы пратэстанты, ці вы якое іншае веры, але жывяце тут, на зямлі беларускай. І ёсць грамадзянамі нашай краіны, – слухайце мову зямлі гэтае, зямлі крывіцка-ліцвінска-беларускай! Слухайце, шаноўныя, – і вам аддасца! І вам аддасца!..

*2002*

### Кожны беларус павінен гэта ведаць

Далучыўшы гвалтам Вялікае Княства Літоўскае да Расейскай імперыі, Кацярына ІІ агаласіла ўказ: “...Великое Княжество Литовское впредь именовать только Белой Русью, а народ ее белорусами, чем на века привяжем ее к России. Замирить Белую Русь силой невозможно. Эту миссию мы возложим на русского чиновника, русского учителя, русского попа. Именно они отнимут у белоруссов не только их язык, но и саму память про самих себя” (1796).

Як у такім разе кажуць: каментар непатрэбны. Гадоў праз 70, задушыўшы паўстанне, якім кіраваў Кастусь Каліноўскі, губернатар Паўночна-Заходняга краю Мураўёў (Мураўёў-вешальнік) пісаў: “В Северо-Западном крае так называемый белорусский язык неабходимо нисвести на ничто, ибо, если этого не сделать, он постоянно будет инспирировать мысль об отдельном белорусском народе и о праве этого народа на этническую самостоятельность и национально-государственную сувереность, чего допустить нельзя”.

І зноў жа: каментар непатрэбны.

Але ведаць і помніць гэта мы, беларусы, павінны. Калі хочам заставацца сабою – свабодным, самастойным, паважаным у свеце народам.

*2002*

### Пра ВКЛ

На дварэ 1965 год, а мы ўсё яшчэ пішам і друкуем: “У Маскоўскую дзяржаву паслы ехалі праз Вялікае Княства Літоўскае, у склад якога ўваходзіла Беларусь” (“Полымя”, 1965, №4). Не пішам “ВКЛ – сярэдневяковая беларуская дзяржава, у склад якой уваходзіла Жамойція (сучасная Летува) і вялікая частка Украіны, а пішам “Беларусь уваходзіла”. У што ўваходзіла, куды? Беларусь у Беларусь? Нонсэнс! Але – гэта мы сёння паразумнелі і расплюшчылі вочы. А зусім яшчэ нядаўна, зусім нядаўна – у 1965-м! – не ведалі, хто куды ўваходзіў. Не ведалі элементарнай гісторыі сваёй краіны, свайго народа.

*2002*

### “Гори, гори…”

Калі перастане гучаць песня “Гори, гори, моя звезда”? Калі перастане існаваць Расія. Сёння яна гучыць так, як і тады, калі паявілася, – з тым жа болем, з той жа сардэчнай пранікнёнасцю, з той жа глыбінёй пачуцця. І слухаюць яе гэтак жа, з такім жа хваляваннем, як і сто гадоў назад. Тут справа вось у чым. На багатым-разбагатым Захадзе ніколі – падкрэсліваю: ніколі! – не магла і не можа паявіцца песня “Гори, гори, моя звезда”. Як ніколі не можа нарадзіцца Сяргей Ясенін. Хто гэтага не разумее – той не можа зразумець і самага галоўнага, што вызначае сутнасць рускай душы. І беларускай таксама.

*2003*

### Чаму трэба ведаць пра бітву пад Оршай

Шаноўныя! Вы падымаеце крык-гвалт і патрабуеце забараніць адлюстраванне ў падручніках бітвы пад Оршай 1514 года – пераможнай для беларусаў-ліцвіноў і

страшнай для маскоўскага цара. Але скажыце, калі ласка: вы ведаеце, што было б з Беларуссю, калі б не тая Перамога? Беларусі б не было. Мы страцілі б яе. Гэтак, як Смаленск, страцілі б і Віцебск, і Полацк, і Магілёў, ды і Мінск таксама.

Давайце пералічым, панове, колькі этнаграфічна-беларускіх зямель намі страчана за апошнія чатыры стагоддзі нашай трагічнай гісторыі. Страчаны адвеку-адроду беларускі Смаленск, адвеку-адроду беларускія Невель, Себеж, Дзвінск, адвеку-адроду беларускія Клінцы, Старадуб, Навазыбкаў, адвеку-адроду беларуская Вільня, адвеку-адроду беларуская Беласточчына... Спынімся на гэтым далёка не поўным пераліку. Якая яшчэ краіна ў свеце гэтак з усіх бакоў абкарнана, абрэзана, абскубана? Няма такой іншай краіны.

Ніхто з беларусаў не патрабуе сёння нанава перакройваць межы. Але што з намі рабілі – ведаць трэба. Для чаго? Для таго, каб не страціць усё астатняе – што засталося ад калісь вялікай Беларусі. Каб помніць, што апетыт на "смачны кавалак" у нашых суседзяў, на вялікі жаль, не прапаў. І што хапнуць гэты кавалак можна без штыкоў і танкаў.

*2004*

### І станавіцца нормай…

За апошнія два дзясяткі гадоў істотна перайначыліся ў лепшы бок гуманітарныя навукі ў Беларусі, асабліва – гісторыяграфія. Гэтыя перамены выспявалі яшчэ ў нетрах хрушчоўскай, а затым брэжнеўскай эпохі. З пачаткам перабудовы нашыя гуманітарныя навукі імкліва ірванулі наперад – да перагляду канцэпцый, тэарэтычных пастулатаў, ацэнак гістарычных фактаў. Вучоным, якія няйначай як вырваліся з руціны, стала ясна: далей так існаваць гуманітарная навука не можа! Бо – ганьба і сорам! Бо – свет і далей будзе глядзець на нас з пагардлівай насмешкай. Намаганнямі і старэйшых навукоўцаў і іх вучняў, маладых, былі пастаўлены заслоны перад напорамі хлусні, крывадушша, прыстасавальніцтва і элементарнай прафанацыі. Заслоны, вядома ж, не зусім шчыльныя, і ўсё ж, і ўсё ж!.. У асяроддзі навукоўцаў-гуманітарыяў зноў пачало адраджацца і станавіцца нормай пачуццё годнасці і гонару, якое было моцным у пакаленні М. Доўнар-Запольскага, У. Ігнатоўскага, А. Смоліча, В. Ластоўскага, С. Некрашэвіча... Зноў набывае сілу маральны крытэрый: "Не пераступі!.."

*2005*

### І не будзе спраўляцца, пакуль…

У Бярдзяева вычытаў: "Дзяржава не ёсць спосаб будаваць клазеты. Дзяржава ёсць вядомая каштоўнасць і пераследуе вялікія мэты ў гістарычным лёсе народаў і чалавецтва". Ну і якія ж мэты пераследуе сённяшняя беларуская дзяржава? Будаваць іменна клазеты... прабачце, лядовыя палацы. І клазеты, і палацы, вядома, будаваць трэба – асабліва клазеты, бо па заўвагах іншаземцаў, гасцей Беларусі, анідзе ў Еўропе няма такіх праблем з клазетамі, як у нас. Проста неверагодна, здзіўляюцца замежныя госці. Як бачым, нават і з роляю будаўніка клазетаў нашая дзяржава не спраўляецца.

І не будзе спраўляцца, пакуль не прыме разумны, асэнсаваны, рэалістычны курс развіцця эканомікі, культуры і палітычнай сістэмы, пакуль будзе трымацца даўно збанкрутаваных адміністрацыйна-камандных метадаў кіравання ва ўсіх сферах жыццядзейнасці нацыі.

*2010*

### Самыя любімыя, самыя дарагія!

Колькі гадоў слухаю па беларускім радыё перадачы "Сустрэчы з песнямі мінулых гадоў". Пажылыя і зусім старыя жыхары краіны просяць пусціць у эфір песні іх маладосці, – самыя любімыя, вядома ж, самыя дарагія сэрцу. Дзясяткі разоў прагучала па просьбе старэнькіх вясковых бабуль і вось гэтая любімая:

Чтобы здесь, в тайге, встали фабрики,
Встали новые города.
Расцветай, Сибирь, наша родина,
Та, что матерью мы зовем.

Вось так: Сібір – наша маці! Сібір, у якой сатлелі костачкі мільёнаў беларусаў. У тым ліку і бацькоў (ці блізкіх родных) гэтых бабулек.

З абязлюдзелай за вайну Беларусі дзясяткамі тысяч ехалі нашыя хлопцы і дзяўчаты абжываць Сібір. А дома – родная зямелька зарастала хмызнякамі. І каб табе адна песенька...

*2012*

## "Пакажыце кулакі, дзецюкі!"

Шосты з'езд пісьменнікаў Беларусі (1971), як і папярэдні Пяты (1966), быў для мяне, можна сказаць, праграмна-баявы: я зноў увесь пафас прамовы, дакладней, – увесь боль і гнеў, засяродзіў на адной галоўнай тэме: нашую родную беларускую мову, а значыць, нашую нацыянальную будучыню, трэба ратаваць ад пагібелі. Трэба біць і біць ва ўсе званы, каб людзі, грамадзяне Беларусі, пачулі і абудзіліся ад спячкі. Усе ў зале, у каго ў грудзях тахкала нераўнадушнае да нашага болю сэрца, успрынялі маё слова з гарачым пачуццём салідарнасці і ўдзячнасці. На перапынку многія падыходзілі, паціскалі руку, казалі добрыя словы. Падышла і Данута Бічэль. Таксама нешта сказала і працягнула складзены напалам аркушык.

– Вось, нешта напісалася, будзе дома час – пачытайце, калі ласка.

Я машынальна разгарнуў аркушык і ўбачыў... зграбна ад рукі напісаны верш. Нават першы радок паспеў перачытаць. "Што седзіце вы, злажыўшы рукі..." Далей чытаць не стаў, паколькі была просьба зрабіць гэта дома.

Ну, а дома прачытаў, – і раз, і другі, і трэці... Уразіў верш вельмі моцна. "Ну, Данута! Ну, малайчына! Вось якая нам трэба сёння паэзія! Не пішуць такую мужчыны – напісала жанчына". Што напісала менавіта Данута Бічэль – я не здзівіўся. Неабходная беларусам мужнасць у яе творчасці заяўляла аб сабе ўжо неаднойчы і дагэтуль. Па невядомых мне прычынах верш нідзе не друкаваўся, хоць прайшло ўжо больш за сорак гадоў, і цяпер, з дазволу Дануты Янаўны, я прапаную яго ўвазе чытачоў. Арыгінал твора загалоўка не мае, але мне здаецца, яму вельмі падышла б назва "Беларускім дзецюкам".

Што седзіце вы, злажыўшы рукі?
Хіба дзецюкі не з Белай Русі?
Па кутах пустыя жорны мелеце?
Сеяць так, як прадзеды, не ўмееце?
Не праглынецца хай слова вашае,
Хоць крыўдлівае, грубае – важкае.
Да не ўтапіць вам у стопцы думку.
Ад санлівага гультайства не пратухнеце.
Як не скамандуеце самі, не прытупнеце –
Ой, наскачацеся пад чужую дудку!
До з нагі на нагу перапінацца –
Хоць заплачце, як адвыклі смяяцца!
Як не ўмееце грымнуць, дык завыйце.
Ажывіце! Пакажыце кулакі, дзецюкі!

Як у такім разе звычайна кажуць: калі б не дата, можна было б быць пэўным, што верш напісаны сёння. Але, але! Не сёння, а сорак два гады назад. Сорак два! Новыя пакаленні дзецюкоў выраслі. І пасталелі. І ўжо старэюць. А Маці Беларусь усё чакае: ну, калі ж вы, дзецюкі, перастанеце скакаць пад чужую дудку?..

*2013*

Васіль Быкаў



...пер...

# Дзякаваць богу, ёсць яшчэ на свеце сяброўства

***Лісты з Гародні (1963-1977)***

*Заканчэнне. Пачатак у №№ 69-70.*

*Публікацыя і каментары Сяргея ШАПРАНА.*

***1973 год***

ТЭАДОРУ ВУЛЬФАВІЧУ

Дорогой Тэд!

Спасибо тебе за хорошие слова к празднику, которые нелишне выслушать в любое время. Я представляю твою беспокойную жизнь в этом кино, и хотя ты говоришь, что наша хуже, я все-таки думаю, что твоя, киношная, все же похуже литературной. Впрочем, это похоже на спор слепого с глухим – оба хороши.

Вот продолжаются мои мытарства со сценарием по «Сотникову». В Минске все уже готово – режиссер, группа, сценарий принят, начальство – за, так московский главк морит, не отказывает и не утверждает. Группа понемножку рассыпается,

ребята разбегаются на другие картины... Видно, ничего не выйдет, как не вышло с пьесой. Видно, не ко времени это.

Очень жаль, что не напечатана твоя повесть. Кажется мне, ты не проявил должной настойчивости, без которой поначалу не обойтись никому. Может, стоит попробовать еще постучаться куда-нибудь[1]? И в СП тогда было бы легче.

А я нынче в простое. Ничего не делаю, и так хорошо! Немного гриппую. Никуда не езжу.

Мой сердечный привет твоим Полине и Лене, при случае кланяйся от меня Юрию Осиповичу[2]. Давно его ничего не было в журналах, а жаль!

Успеха твоему фильму.

Будь здоров,

обнимаю – *Василь Быков.*

*28 января 73 г.*

---

Рукапісны тэкст. Арыгінал. Архіў В. Быкава.

## АЛЕСЮ БАЧЫЛУ[3]

Шаноўны Алесь Мікалаевіч!

Дзякуй за клопат. Адразу бяруся за справу, буду рабіць расклейку[4]. Амаль усе творы пойдуць з ранейшых выданняў (выдавецтва «Беларусь»), за выключэннем трох апавяданняў, надрукаваных у газетах петытам, таму іх прадстаўлю ў рукапісах (гэта каля 1[-га] аркуша).

Усё прывязу ў пачатку красавіка, пасля маскоўскага пленума СП.

З прывітаннем

*Васіль Быкаў.*

*21.III.73 г.*

---

Рукапісны тэкст. Арыгінал. БДАМЛМ. Ф. 323. Воп. 1. Адз. зах. 167. Арк. 1.

## МІХАІЛУ ЧВАНАВУ[5]

Дорогой Михаил!

Рассказ Ваш весьма неплохой, даже хороший, написан психологически, точно, сложно, глубоко, читается с интересом. Почти каждый образ в нем – свидетельство авторских способностей, весьма значительных. Многие места в нем мне очень нравятся, прекрасен образ осени, деревенской глуши, оч[ень] хороши Горохов и девушка, и хорошо, что они не встретились, не надо никаких встреч. Все очень убедительно и весомо, значительно. Мне не понравилась только сама концовка, особенно предпоследняя 19 стр[аница], на которой Вы после блестящих 18[-и] страниц сбиваетесь на банальщину. То, чем у вас кончается рассказ, каждый день написано в любой газете. Надобно иначе. А может, закончить где-то на стр. 18-й? Подумайте. И не надо этих деклараций относительно профессии, обычно это не более чем мальчишеское кокетство.

---

[1] Першая кніга Т. Вульфавіча пад назвай «Там, на войне» выйшла толькі ў 1991 г. Аўтар пакінуў такі надпіс на падараваным Быкаву экземпляры: «Дорогой Василь, не прошло и 25 лет, как появилась первая книга!» (Архіў В. Быкава).

[2] Юрый Восіпавіч Дамброўскі.

[3] Бачыла Алесь (Аляксандр Мікалаевіч; 1918-1983) – беларускі паэт, перакладчык; у 1972-1978 гг. – старшы рэдактар выдавецтва «Мастацкая літаратура».

[4] Размова ідзе пра падрыхтоўку Выбраных твораў у 2 т., выданне рыхтавалася ў «Мастацкай літаратуры» да 50-годдзя Быкава.

[5] Чванаў Міхаіл Андрэевіч (нар. у 1944) – расійскі пісьменнік.

Весь же рассказ, повторяю, до стр. 19-й прекрасен. Вы оч[ень] способный прозаик, талант Ваш оч[ень] глубок, постарайтесь распорядиться им достойным образом. Я очень надеюсь еще услышать о Вас.

А пока – дай Вам бог!

Не верьте там разным... Больше слушайте себя самого, талант Вам подскажет.

Жму Вашу руку.

*В. Быков.*

*20 апреля 73 г.*

---

Рукапісны тэкст. Копія. Архіў В. Быкава.

АЛЕСЮ БАЧЫЛУ

Шаноўны Алесь Мікалаевіч!

Сёння атрымаў Ваша не надта для мяне вясёлае пісьмо. «Праклятай вышыні», сапраўды, я раней не заяўляў і яе ў праспекце няма. На ёй я не настойваю. У першы том замест яе можна паставіць «Здраду».

Але «Круглянскі мост» я заяўляў, і на яго мне далі згоду Ткачоў і Хомчанка. Значыцца, цяпер ужо задні ход. Але я таксама не хлопчык і не пачатковец. Я не прасіў аб двухтомніку. Іншыя ў свае 50 год выдалі шматтомныя зборы твораў. А Быкаву не дадуць выдаць жалкія дзве кніжкі.

Алесь Мікалаевіч! Калі «Круглянскі мост» і «Праклятую вышыню» не пусцяць, паведаміце адразу. Я прыеду і забяру расклейку абодвух тамоў. Перавыдаваць старыя рэчы, каб на іх рабіла бізнес выдавецтва, і атрымліваць за іх капейкі я не хачу. Абыдуся без двухтомніка.

З павагай, *В. Быкаў.*

*2 мая 1973 г.*

---

Рукапісны тэкст. Арыгінал. БДАМЛМ. Ф. 323. Воп. 1. Адз. зах. 167. Арк. 2.

* * *

Дарагі Алесь Мікалаевіч!

Атрымаў Ваш ліст, дзякуй Вам за клопат. З «Праклятай вышынёй» я сёетое зрабіў, каб можна было спаслацца на тое, што аўтар перапрацаваў аповесць. Пульку не забівае Грыневіч, яе забірае з сабой Ванін, які адпраўляецца ў разведку. Перайначыў канцоўку, дзе з'яўляецца і Пулька, якую забіваюць немцы. Васюкоў распачынае з імі перастрэлку, далейшы лёс яго недаказаны.

Цяпер я мяркую так. Калі знімуць «Круглянскі мост» (да АТК[1] я звяртацца не буду), тады ў першы том трэба уставіць «Здраду», якую дасылаю. А «Праклятая вышыня» пяройдзе у другі том. Увогуле ўвесь план выдання будзе выглядаць так:

Том I

| | |
|---|---|
| Жураўліны крык | – 5,5 |
| Здрада | – 4,5 |
| Трэцяя ракета – 7 | |
| Альпійская балада | – 7 |
| Пастка | – 2,5 |
| | 24,5 арк. |

---

[1] Кузьмін Аляксандр Трыфанавіч (1918-2003) – беларускі партыйны і дзяржаўны дзеяч; у 1971-1986 гг. сакратар ЦК КПБ па ідэалогіі.

Том II

| | |
|---|---|
| Праклятая вышыня | – 5 |
| Сотнікаў | – 8,8 |
| Абеліск | – 3,8 |
| Дажыць да світання | – 7 |
| | 24,6 арк. |

Папраўкі дасылаю. Іх, мабыць, трэба ўклеіць ці ўкласці ў тэкст.

Калі ж не дадуць і «Праклятую вышыню», тады я не ведаю. Тады няма чаго і выдаваць. Тады ўжо я, мабыць, напэўна адмоўлюся ад выдання.

З павагай

*В. Быкаў.*

*16 мая 1973 г.*

Рукапісны тэкст. Арыгінал. БДАМЛМ. Ф. 323. Воп. 1. Адз. зах. 167. Арк. 3–3 ад.

* * *

Дарагі Алесь Мікалаевіч!

Атрымаў Ваша не дужа для мяне радаснае пісьмо. Што ж! Не прывыкаць...

Дасылаю 5 аркушаў апавяданняў. Пастаўце іх у такім парадку, напэўна, у канцы тома. Паводле майго падліку, у ім будзе 24,5 арк[ушаў]. Што і трэба.

І бывайце здаровы!

Калі што – пішыце.

З павагай

*Васіль.*

*9.VI.73 г.*

Рукапісны тэкст. БДАМЛМ. Ф. 323. Воп. 1. Адз. зах. 167. Арк. 4.

## ІГАРУ БАЖКО[1]

Дорогой Игорь Антонович!

Я получил и прочитал Ваше «Перекати-поле», хочу очень Вас похвалить. Конечно, это не повесть, но тем не менее это прекрасно во всех отношениях. Я не знаю, как это определить по жанру – то ли записки, то ли фрагменты, картинки детства, – но написаны они очень впечатляюще, вещно, серьезно и даже в ряде мест потрясающе своей оголенной правдивостью. Вообще все здорово! Я Вас поздравляю с удачей, удачей блестящей, большой, хотя Вы и написали о маленьких и, возможно, для малых. Но это – та большая литература, которая одинаково годится и для детей, и для взрослых.

Теперь – об издании. Тут я затрудняюсь сказать Вам что-либо обнадеживающее. Именно в силу специфических достоинств Вашей вещи, она может оказаться непроходной. Было бы, разумеется, очень печально. Но – попытайтесь! Где-куда? Мне думается, прежде всего надобно постучаться в журнал «Детская литература» в Москве, затем в «Юность». М[ожет] б[ыть], есть какая возможность в Одессе или в Киеве?

---

[1] Бажко Ігар Антонавіч (нар. у 1937) – украінскі мастак, скульптар, пісьменнік, піша на рускай мове. У 1985 г. Быкаў даў рэкамендацыю І. Бажко для ўступлення ў СП СССР, куды апошні, аднак, не быў прыняты.

И еще название. Надо другое. Это, по-моему, мало подходяще для такой вещи. Надо что-нибудь в стиле ее материала. Но это дело всегда поправимое.

Очень желаю Вам напечататься.

И будьте здоровы. И удачливы.

И – пишите еще. У Вас есть талант, серьезный и честный.

С приветом и наилучшими пожеланиями

*Василь Быков.*

*7 августа 73 г.*
*Гродно*

---

Рукапісны тэкст. Копія. Архіў В. Быкава.

## ВАЛЯНЦІНУ АСКОЦКАМУ

*12 августа 73 г.*

Валя, дорогой дружище!

Спасибо тебе за письмо, за хорошее отношение к статье[1]. Писать статей я не умею, не туда направлены мозги, как говорил один наш покойный профессор, но тут «Литературка» уломала, и мне неудобно было отказаться от такой кандидатуры, какой является С. П. Залыгин[2]. Человек и писатель он оч[ень] хороший, и я его люблю, хотя, конечно, эта любовь в творческом смысле больше внушена повестью «На Иртыше», чем романом «Южно-американский вариант» или даже «Соленая пядь». Ты прав, об этой повести у меня было написано больше, нежели о романах, но в редакции подрезали. Не знаю, м[ожет] б[ыть], автор иначе расценивает свой последний роман, или, б[ыть] м[ожет], я написал «не очень», но он мне что-то не написал, поэтому было бы неплохо, Валя, если бы ты позвонил ему и сказал от себя те слова о моей статье (по части, относящейся к роману), которые ты написал мне. Боюсь, что он сам (как это можно судить по его самооправдательной статье в «ЛитРоссии») не совсем представляет, что он написал, или не хочет сказать о том, хотя это, разумеется, не умаляет его авторской заслуги, ибо, как известно, часто устами таланта глаголет истина, а он и не подозревает о том.

№ 7 «Литобоза» я еще не видел[3], но увижу, у нас в продаже еще № 6. Мысль твоя о сборнике Быкова-критика весьма лестная, но какой же бес будет его издавать-то? Нет, с этим я подожду до лучших времен, если они когда-нибудь наступят. Вот в Минске к будущему году сдал двухтомник, из которого мне повыкидывали все, о чем когда-то хоть кем-нибудь было сказано неодобрительное слово. Поэтому ни «Мерт[вым] не б[ольно]», ни «Атака», ни «Круглянский мост» туда не вошли. А чтобы я не очень разбежался с рассказами, подрезали объем до 25 л[истов] на том. Вот так! Обидно немного, как вспомнишь, что другим у нас к их 50-летию поиздавали собрания сочинений, куда включили все, вплоть до заявлений в литфонд и докладов на разных заседаниях. Но я не кто-то и обижаться мне не годится.

Сижу дома, езжу по Неману, пытаюсь ловить рыбу, которая стала хитрее человека и упрямо не ловится. Приехал на месяц мой Сергей[2], окончил училище,

---

[1] Быков В. Зоркость исследователя, страсть художника // Литературная газета. 1973. 1 авг.

[2] Залыгін Сяргей Паўлавіч (1913-2000) – расійскі пісьменнік; галоўны рэдактар часопіса «Новый мир» (1986-1998); з ініцыятывы С. Залыгіна ў СССР у 1988 г. зноў пачалі друкаваць А. Салжаніцына.

[3] У часопісе «Литературное обозрение» (№ 7) быў надрукаваны артыкул Быкава «Как создавалась повесть “Сотников”».

[4] Старэйшы сын Сяргей Васільевіч Быкаў (нар. у 1952).

лейтенант, едет служить в Германию. Писать надоело, с весны валяю Ваньку. В конце августа, кажется, еду в Румынию. На дискуссию о соцреализме. Лет 10 назад принимал участие в подобной дискуссии в ЦДЛ с чехами. Надискусировали...

Ну – будь здоров! Привет Нине и твоим ребятам. Пусть они будут здоровы!

Обнимаю.

---

Рукапісны тэкст. Копія. Архіў В. Быкава.

## У ВЫДАВЕЦТВА «МАСТАЦКАЯ ЛІТАРАТУРА»

Анатацыя на кнігу В. Быкава «Месячнай ноччу»[1]

Кніга – адна аповесць памерам 10 аркушаў – напісана на тэму вайны. У цэнтры падзеі – трое партызанаў, якія, ратуючы параненых сваіх сяброў, трапляюць у складаную сітуацыю і праяўляюць вялікі савецкі патрыятызм, мужнасць і майстэрства. У часе лютае бойні з немцамі большасць з іх гіне, але партызан Ляўчук, намогшыся на амаль немагчымае, ратуе маладога хлопчыка, якому яшчэ жыць і які пасля будзе ўсё жыццё дзякаваць свайму выратоўцу.

Аповесць будзе здадзена ў II квартале 74 г.

*В. Быкаў.*

*28.X.73 г.*

---

Рукапісны тэкст. Арыгінал. БДАМЛМ. Ф. 120. Воп. 2. Адз. зах. 8. Арк. 24.

## ДЫРЭКТАРУ ВЫДАВЕЦТВА «МАСТАЦКАЯ ЛІТАРАТУРА»

### З А Я Ў К А

Прашу ўключыць у план выдання на 1975 год маю новую кнігу прозы пад назвай «Месячнай ноччу» ў складзе дзвюх[2] новых аповесцей, напісаных на матэрыяле мінулай вайны. Памер – каля 15[3] арк.

*В. Быкаў.*

*10 студзеня 1973 г.*

---

Машынапісны тэкст. Подпіс – аўтограф. Арыгінал. БДАМЛМ. Ф. 120. Воп. 2. Адз. зах. 8. Арк. 24.

## БУРАЎКІНЫМ

Дарагія

Бураўкіны – мужчыны і жанчыны, дарослыя і маленькія,

будзьце здаровыя і шчаслівыя ў Новым, 1974 годзе. Мы пастараемся таксама.

І памятайце: Нёман раскрываецца толькі ў трэці раз. А «Лопіс» – не ў першы.

Вашы *Быкавы-гродзенскія.*

---

Рукапісная паштоўка з выявай кветак і подпісам рукой В. Быкава: «Навагодні букет для Юлі». Арыгінал. Архіў Г. Бураўкіна.

---

[1] Працоўная назва аповесці «Воўчая зграя».
[2] «У складзе дзьвух» закрэслена.
[3] 15 папраўлена на 10.

***1974 год***

## АРКАДЗЮ КУЛЯШОВУ[1]

*да 6 лютага 1974 г.*

Дарагі і шаноўны
Аркадзь Аляксандравіч!
Вельмі жадаю Вам быць здаровым,
Быць мудрым, сумленным, добрым
І чалавечным, як і належыць сапраўды Народным паэтам,
Такім, якім Вы былі праз жыццё,
Жыццё для паэзіі, людскасці і народу,
Для сяброў таксама, якія ў Вас – на зайздрасць,
Каб гэты талент сяброўства ніколі ў Вас не згасаў,
Каб бралася чарка і за чаркай не сціхала бяседа,
Каб заўжды хацелася іншым Вас слухаць,
Чытаць Вас і проста на Вас пазіраць,
Як цяпер мне хочацца Вас пабачыць
І павіншаваць, і абняць, і выпіць за Вас
многа-многа і яшчэ трошачкі,
Ды змарыла хвароба і – кепскі настрой...
І я так зайздрошчу, хто з Вамі цяпер, –
Вашай мілай Аксане Фёдараўне і Вашай цудоўнай Валі,
І яшчэ многім-многім, хто цяпер там.
А я тут, але душа мая ў гэты час каля Вас.
Дык будзьце ж здаровы, і хай не міне Вас удача,
І трошачкі шчасця Вам і многа-многа паэзіі
Для ўцехі і радасці многім-многім у жыцці...

Прыхварэлы Ваш небарака *В. Быкаў.*

---

Машынапісны тэкст без даты. Подпіс – аўтограф. БДАМЛМ. Ф. 411. Воп. 1. Адз. зах. 165. Арк. 2.

## ВАЛЯНЦІНУ АСКОЦКАМУ

Валя, дорогой дружище!

Посылаю тебе перепечатку статьи, в которой я ничего не менял. Печатай, издавай на здоровье[2]. Сочувствую вашему семейному горю, что сказать в утешение? Видно, всем надобно пройти через это...

Я сижу эту зиму дома, написал небольшую повестушку под хлестким названием «Волчья стая». Но не об охоте – о войне. Не знаю, что из нее получится, хотя вещь эта вполне безобидная. Отдал Буравкину в «Маладосць»[3].

Завтра жду в Гродно Сашу А[дамовича] – на процесс полицаев-украинцев, чей батальон учинил расправу над Хатынью и хатынцами. Вот так. А мы 30 лет поносили за это немецких оккупантов.

---

[1] Куляшоў Аркадзь Аляксандравіч (1914-1978) – беларускі паэт, перакладчык; народны паэт БССР (1968). Нарадзіўся 6 лютага.

[2] Магчыма, размова ідзе пра артыкул Быкава «Как создавалась повесть “Сотников”» (надрукавана – Литература и современность. Сб. 13: Статьи о литературе 1973-1974 гг. М., 1975).

[3] У 1972-1978 гг. Г. Бураўкін быў галоўным рэдактарам часопіса «Маладосць». Аповесць «Воўчая зграя» надрукавана – Маладосць. 1974. № 7.

И еще – жду весны. Обнаружил к 50[-и] годам, что это – едва ли не единственная стоящая в жизни вещь. Весна, солнце, Неман и трава зеленая... Все сходится на этом клином, потому что, потому что... Сам знаешь, почему.

Мой сердечный привет Нине.

Обнимаю тебя, дружище.

*Василь Б.*

*13.II.74 г.*

Рукапісны тэкст. Копія. Архіў В. Быкава.

## МІХАІЛУ ЧВАНАВУ

Дорогой Миша!

Я с удовольствием перечитал Ваш рассказ, в котором и во второй раз нашел много отличных строк. Ваша очень хорошая душевность, ненавязчивая доверительность тона весьма подкупают. Хорош язык, фразы, образность видения мира. Но концовка по-прежнему слабовата, растворяется в ничто, авторское морализаторство в конце – ниже по уровню всего текста в целом. А надобно, чтобы было наоборот. Я не знаю, как сделать лучше, м[ожет] б[ыть], надо его просто отложить до времени и взяться за другое. Как-нибудь, возможно, концовка явится сама собой, без усилий со стороны автора.

А вот второй рассказ просто прекрасен. Замечательный рассказ! Я не вижу в нем недостатков, читать его было сплошным наслаждением, пиром души. Очень точно, очень емко, очень трогательно! И все так верно. Чувствую по себе, по своему опыту, мне тоже никогда не хотелось в детство, – по ряду причин я его ненавидел... Рассказ этот – свидетельство о том, что Вы можете. Можете многое. Только не надо растрачивать себя по пустякам, соберитесь с силами и напишите что-нибудь значительное, емкое и правдивое. Конечно, напечатать такое в наше время – дело весьма трудное, но это уже другой вопрос. Надо писать.

Как было бы хорошо напечатать «Билет».

Я очень желаю Вам всяческих успехов в этом деле, хочу, чтобы Вы как-нибудь наладили свое здоровье. Без этого, конечно, трудно всецело отдаться литературе. Она ведь тоже требует хорошего здоровья.

И будет надобность, пожалуйста, обращайтесь, присылайте. В смысле напечатания я слабый помощник, но советом, словом всегда буду рад Вам помочь.

Будьте здоровы!

С приветом *В. Быков.*

*3 апреля 74 г.*

Рукапісны тэкст. Копія. Архіў В. Быкава.

## ІГАРУ БАЖКО

Дорогой Игорь!

Сегодня получил и тотчас же прочитал Ваши рассказы, некоторые из которых заставили меня ощутить редко ощущаемую сейчас счастливую дрожь от соприкосновения с настоящим искусством, и я каждый раз только досадовал, что рассказ столь короток и этого прекрасного так мало. Хотелось читать и читать все такое же, все в этом же духе. Вы, как никто другой из ныне здравствующих

литераторов, умеете написать о человеке голую правду, беспристрастно и жестко, – именно то, что уже начисто вывелось в литературе. «Старуха», «Игрушки», «Девчата 47-го», «Чарлик», «Жаркое» – это маленькие шедевры, ей-богу, им нет цены. Я только жалел, что они такие крохотные, я бы некоторые из них на Вашем месте развил бы в небольшие повести (напр[имер], «Старуху»). Если из таких собрать маленькую книжечку, это будет жемчужина в русской л[итерату]ре, в которой уже столько драгоценностей. Я не преувеличиваю. Не знаю, какой Вы романист, но рассказчик великолепный (небывало великолепный). С Вами рядом можно поставить лишь Бабеля[1].

Ну, а дальше? – скажете Вы, и тут я замолкаю. Я не знаю, что дальше, потому что сегодня такие рассказы никто не напечатает. Это невозможно. Вас будут хвалить, но никто не подпишет в печать, а если бы и подписал, то снимет цензура. Вот теперь и решайте, как поступить с ними. Всей душой рад был бы помочь Вам, но ни моих сил, ни кого другого для этой помощи недостаточно. Здесь все бессильны перед Вашим большим, всамделишним, честным талантом, потому что он Вам и не позволит легко войти в литературе. Он будет Вас мучить и не даст Вам жить, пока Вы не растопчете его... Но растаптывать не надо, надо писать, надеяться хотя бы на знаменитый русский авось, если не на что больше.

Дорогой Игорь, пишите! Работайте! В этом горькая наша услада, наше упование и наша дыба. Что делать...

Может быть, у Вас есть какие-либо надобности или желания, удовлетворение которых мне по силам, – не стесняйтесь. Всегда готов Вам помочь всем, чем смогу, жаль что, не могу сделать главного... Но тут и я в таком же точно положении. Все под одним богом ходим.

И будьте здоровы. Верьте в себя. Пусть никакие редакторские отказы, литературно-материальные неудачи Вас не смущают. Хотя и не печатают, зато у Вас есть талант, которого нет у многих из тех, кто Вам отказывает. Этим, ей-богу, можно немножко утешиться.

Всем Вам хорошего, Игорь!

*В. Быков.*

*22.IV.74 г.*

---

Рукапісны тэкст. Копія. Архіў В. Быкава.

* * *

Дорогой Игорь!

Ваши рассказы по-прежнему хороши, некоторые потрясающи. Читая их, я думаю, как много бы преуспела наша литература, если бы... И еще я хочу верить, что такой талант, как Ваш, не должен остаться всуе. Не должно пропасть такое! Верьте в это и Вы и пишите.

Я не из тех авторов, которые каждый год издаются в различных издательствах, книг у меня не много, хотя написано в два раза больше. Посылаю Вам последнюю книжку на русском языке. А вот рассказов я давно уже не пишу и прислать чего-либо для газеты не имею. Что касается оформления, то Вы правы. Но тут все решают издательства. Мне трудно до них дотянуться, я не могу уберечь от них текст, где уж там думать о красивой обложке. А потом – красивая обложка у них как поощрение. Меня не поощряют, разумеется.

---

[1] Бабель Ісаак Эмануілавіч (1894-1940) – расійскі пісьменнік, драматург, найперш вядомы цыклам апавяданняў «Конармія».

Будьте здоровы и работайте. Пишите, Игорь, ей-бог, когда-нибудь придет и Ваш черед. Когда? – это уж другой вопрос.

Я жму Вашу руку.

*В. Быков.*

*17.V.74.*

Рукапісны тэкст. Копія. Архіў В. Быкава.

МАКСІМУ ТАНКУ

Дарагі Яўген Іванавіч,

дзякуй Вам за ўсе турботы, звязаныя з маім імем, – і за галасаванне, і за віншаванне[1] – мне гэта вельмі прыемна, вядома. У сваю чаргу хоць і са спазненнем віншую Вас[2] і абдымаю – гэта таксама прыемна, што адбылося іменна так, як адбылося, а не інакш, як таксама магло адбыцца. Ну але, значыцца, усё добра, цяпер абы здароўе, усё астатняе, як кажуць, прыкладзецца.

Яшчэ раз – дзякуй, Яўген Іванавіч.

Будзьце здаровы.

Ваш *Васіль Быкаў.*

*28.X.74 г.*

Рукапісны тэкст. Арыгінал. БДАМЛМ. Ф. 25. Воп. 4. Адз. зах. 153. Арк. 20.

***1975 год***

ІГАРУ БАЖКО

*2 апреля 1975 г.*

Дорогой Игорь Антонович!

С редким наслаждением за две ночи прочитал Ваш роман, который еще раз убедил меня в Вашем редком, прекрасном таланте. Так лаконично, точно, зримо, с хорошей иронией и еще с чем-то таким, что не имеет названия, но присутствует в каждой по-настоящему талантливой вещи. Мне близка эта тема и этот материал, потому что когда-то сам переживал нечто подобное (в 1947 г. после демобилизации из армии). Очень хороши все сцены в правлении колхоза и все образы, поданные по-булгаковски. Вся первая часть – несомненный шедевр, включая и купание в одежде, и случайные встречи в колхозе, и трагическая дорога в автобусе. И возвращение в город хорошо и все-все. Вторая часть тоже прекрасна, но прекрасна по-своему, поэтому материал романа несколько разламывается, в то время, когда первая часть лиро-сатиро-ирония и самоирония, то во второй части – самообретение, война, народ – все это в несколько ином, не сатирическом, ключе. Этот разлом надо, по-моему, не подчеркивать делением надвое, а замаскировать без выделения его во вторую часть и озаглавливания. Пусть просто все идет последовательно. Ну и потом немножко благополучный конец. Я не знаю, он хорош такой, но все же данный материал и самоирония, которую очень не хочется терять даже к финалу, предрасполагает к какому-то роковому конфликту в итоге. Ну, например: после стольких трудов, когда наконец все лица выписаны, приехал председатель и ему не понравилось. Платить он отказался и все пошло прахом. Я не думаю,

[1] Відаць, маецца на ўвазе ўганараванне Быкава Дзяржаўнай прэміяй СССР (за аповесці «Дажыць да світання» і «Абеліск»).

[2] Размова ідзе, магчыма, пра наданне М. Танку звання Героя Сацыялістычнай Працы.

что должно быть именно так, но должно быть нечто такое. Этого требует все предшествующее. Тогда будет цельное, гармония. Теперь же вторая часть и особенно финал – из другой вещи. Хорошей, хорошо написанной, серьезной, но другой – иной, чем I часть.

Это такие мои субъективные впечатления.

А вообще хорошо, и Вы молодец. Забыл еще сказать о ретроспекциях, которые интересны, значительны и решительно все хороши.

А вот напечатать... Боюсь, что увы! Непроходимая Ваша вещь. Что делать. Не вижу никакой возможности, хотя пытайтесь. Чем черт не шутит!

И – пишите, пишите! Несмотря ни на что. Я уверен, что рано или поздно Ваше имя засветит в литературе. И засветит по-настоящему. Надобно только работать и потерпеть немножко.

Будьте здоровы!

Обнимаю Вас.

*В. Быков.*

P. S. За приглашение напечататься спасибо. Но, к сожалению, нечего. На весь год завяз в кино и театре – будь они неладны. Прозу почти не писал.

Ваш *В.* Рукопись вышлю на днях.

---

Рукапісны тэкст. Копія. Архіў В. Быкава.

## ВАЛЯНЦІНУ АСКОЦКАМУ

Валя, дорогой дружище!

Давно уже не писал тебе, даже не ответил на твое письмо, так меня замотали дела и заботы, все малоприятные, если не сказать более. Пережил год непрерывных атак театралов, которые вытянули из меня душу, ничего не дав взамен. Одни огорчения. На премьере во МХАТе[1] я, конечно, не был – видел этот спектакль прежде, судьба его незавидная, хотя я так много вложил в него – времени и усилий. Другие же спектакли, идущие в Москве, имеют ко мне мало отношений, хотя на них и значится мое имя, но я к ним не имею почти никакого касательства. Все это плод всевозможных халтурщиков, иных с моего ведома, иных без оного, плод, сработанный к дате, ради галочки в плане. Я их не видел и видеть не хочу хотя бы потому, что все это – плохо.

Теперь вот кино. Снят более-менее сносно один фильм в Минске по «Волчьей стае»[2], на «Ленфильме» же после того, как там тоже вытянули из меня все жилы и сняли полкартины, фильм закрыли и режиссера сняли[3]. Надоело мне все это, ты не можешь себе представить как. А тут вот еще сидит очередной режиссер со студии им. Горького – вытягивает из меня по странице сценарий по «Обелиску». Можешь себе представить, каково мне. И отбиться совершенно невозможно, негде от них прятаться, просто насилуют – деликатно, но с мертвой хваткой. Все ждал лета, думал уйду по Неману, растворюсь в природе. Но лето выдалось варварское – с начала апреля холод, дожди и ветер. Неуютно на природе.

Ну да ладно, Валя, поплакался тебе в жилетку не для сочувствия – для объяснения моего длительного состояния.

---

[1] МХАТ паставіў п’есу «Последний шанс», якая была Быкавым напісана па матывах аповесці «Сотнікаў».

[2] Фільм «Волчья стая» пастаўлены кінарэжысёрам Б. Сцяпанавым на к/с «Беларусьфільм» у 1975 г.

[3] Размова ідзе, мусіць, пра экранізацыю аповесці «Дажыць да світання».

Все же кое-как прочитал за это время 3 романа трех Б. Б. Б.[1] Разные вещи, но роман Бондарева[2] мне понравился. Даже очень. Хотя, конечно, там много разного. И все-таки это талантливая вещь. Сам добиваю повесть[3], хотя совершенно не представляю, куда с ней сунуться в такое время. Приглашают-то многие журналы, но...

Как ты живешь, как журнальные дела – после ухода Пашкевича[4]? Тут он правит браво, кажется, переплюнет своего шефа.

В Союзе [писателей] у нас изменения: нач[альник] штаба стал Толя В.[5] Хорошо кируе. С ним рядом на должность зама (вместо Мележа[6]) недавно утвердили Чигринова[7], который год добивался того. Не знаю, что у них получится, ведь Ваня [Чигринов] – мужик с характером. Может не туда завернуть.

Дорогой Валя! При случае черкни пару слов, теперь я буду свободнее и более расположен к переписке, которую совсем забросил за эту весну.

Будь здоров, дорогой. Сердечный привет Нине Вас[ильевне], твоим ребятам.

Обнимаю,

*Василь.*

*9 июня 75 г.*

---

Рукапісны тэкст. Копія. Архіў В. Быкава.

## МІКАЛАЮ МАТУКОЎСКАМУ[8]

Коля, дорогой дружище!

Пару дней тому получил твое письмо, обстоятельное и разумное, за которое тебе спасибо. Купайся, загорай, набирайся сил для службы и творчества. Надеюсь, в тиши и одиночестве созреет кое-что для пера, а может, и начнешь что-то. Хотя там и суматошно, но эта суматоха идет рикошетом, и думается, там хорошо. Не то, что дома.

А я вот в трудах и заботах. К разным разностям добавились еще и семейные – 25 июля женится Сергей[9], который с июня в отпуске. Ну и – сам понимаешь, что с этим связано... О литературе я уже не думаю, о кино тоже. Хотя надо бы.

---

[1] Бакланаў Грыгорый Якаўлевіч (сапр. Фрыдман; 1923-2009), Багамолаў Уладзімір Восіпавіч (1926-2003), Бондараў Юрый Васільевіч (нар. у 1924) – расійскія пісьменнікі.

[2] Размова, мусіць, пра раман Ю. Бондарава «Берег».

[3] Аповесць «Яго батальён».

[4] Пашкевіч Нічыпар Еўдакімавіч (1924-2003) – беларускі крытык; у 1961-1969 гг. галоўны рэдактар газеты «Літаратура і мастацтва»; у 1969-1972 гг. рэдактар аддзела газеты «Правда» па аддзелу друку, крытыкі і бібліяграфіі; у 1972-1974 гг. 1-шы намеснік галоўнага рэдактара часопіса «Литературное обозрение»; у 1974-1976 гг. намеснік дырэктара Інстытута літаратуры імя Я. Купалы АН БССР.

[5] Размова ідзе пра Вярцінскага Анатоля Ільіча (нар. у 1931) – беларускага паэта; сакратара праўлення СП БССР (1975-1982).

[6] Мележ Іван Паўлавіч (1921-1976) – беларускі пісьменнік, драматург; народны пісьменнік Беларусі (1972); з 1966 г. сакратар, у 1971-1974 гг. намеснік старшыні праўлення СП БССР.

[7] Чыгрынаў Іван Гаўрылавіч (1934-1996) – беларускі пісьменнік, сцэнарыст; народны пісьменнік Беларусі (1994); з 1975 г. намеснік старшыні праўлення СП БССР, у 1976-1986 гг. сакратар праўлення СП БССР.

[8] Матукоўскі Мікалай Ягоравіч (1929-2001) – беларускі публіцыст, драматург, сцэнарыст; з 1966 г. уласны карэспандэнт, з 1970 г. – загадчык Беларускага аддзялення рэдакцыі газеты «Известия»; заслужаны дзеяч культуры БССР (1977).

[9] Старэйшы сын Быкава.

«Ленфильм», по-видимому, решил втихую похоронить фильм, Карпов[1] снимает. Был у него в Волковыске, пока впечатление неплохое. Актеров подобрать умеет, не то что Б. Степанов[2]. Но что выйдет – покажет конец, делу венец.

В Минске давно уже не был, но вчера был у меня день Толя В[ертинский]. Повеселились на Немане, вспоминали тебя и Буравкиных[3] (которым при случае привет). Погода у нас пока сносная, хотя вот уже второй день пасмурно. Были и дожди и даже бури, поломавшие мои яблони на даче. Но – такой хозяин, как говорит жена.

Представляю Крым, море и горы и завидую тебе...

Ну – обнимаю, друже, – купайся!

Будь.

*Василь.*

*21 июля 75 г.*

---

Рукапісны тэкст. Арыгінал. Архіў В. Быкава.

## ВАЛЯНЦІНУ АСКОЦКАМУ

Валя, дорогой дружище!

Давно уже не видел тебя, не разговаривал с тобой и не писал, и вот сегодня появилась такая потребность. Сижу дома, не совсем здоров, несколько растерзан делами и мыслями. Ялта в этот раз мне не удалась, было холодно, там простудился, искупавшись, в самом начале и весь срок был болен. Совершенно не работалось, не отдыхалось, не пилось даже. Не пришлось мне съездить и в Баку, куда я хотел. И все это проклятое кино!.. С театром я уже покончил, надеюсь в ближайшее время покончить с кино (будь оно проклято) и почувствовать себя человеком, если, конечно, не заниматься еще и литературой. А у меня эта осень совпала еще и с публикацией повести, что тоже не принесло бодрости. По всей видимости, повесть получилась малоудачная, во всяком случае, трудная для прохождения, два месяца в «Маладосці» ее обстругивают и все еще не подписали, хотя уже проходят все сроки (идет в №№ 11, 12). Остались рожки да ножки от первоначально написанного[4]. Не знаю, что получится в «Современнике», хотя редакция отнеслась оч[ень] хорошо, но как еще посмотрит цензура. Вот такие мои дела, Валя. А теперь я подхожу к нашему общему с тобой делу...

Знаешь, сколько я не прикидывал и не примеривал статью, ничего не получилось, и вот я понял, что и не получится. Валя, дорогой, освободи ты меня от этой статьи, я не смогу ее написать. Готов написать любую другую, может, рецензию, может, какое мнение в споре, но на данную тему – не могу. Как я представлю себе, что придется сослаться на одни имена и оставить за скобками другие, что кого-то и с кем-то надо соединить в одной обойме, а о ком-то лицемерить, других замалчивать, то я прихожу в ужас – она расстроит

---

[1] Карпаў Аляксандр Якаўлевіч (1922-1998) – рэжысёр, сцэнарыст; з 1956 г. рэжысёр к/с «Казахфильм»; з 1968 г. рэжысёр к/с «Беларусьфільм». Размова ідзе пра тэлевізійны фільм «Долгие версты войны».

[2] Сцяпанаў Барыс Міхайлавіч (1927-1992) – беларускі рэжысёр; заслужаны дзеяч мастацтваў БССР (1976). Паставіў на «Беларусьфільме» паводле сцэнарыяў Быкава фільмы «Альпийская баллада» (1966) і «Волчья стая» (1975).

[3] Маюцца на ўвазе Генадзь Мікалаевіч і Юлія Якаўлеўна Бураўкіны.

[4] Размова пра аповесць «Яго батальён», у якой падчас падрыхтоўкі публікацыі быў зменены фінал: па сведчанні тагачаснага галоўнага рэдактара «Маладосці» Г. Бураўкіна, у аповесці, каб яна прайшла цэнзуру, Быкаў быў вымушаны дадаць «Даведку з архіва», за што пасля крытыка неаднойчы папікала аўтара – пра гэта, да прыкладу, пісаў у артыкуле «Сквозь призму поликонфликтности» А. Бачароў (Октябрь. 1976. № 7).

весь строй моих друзей и знакомых, которые и без того уже не могут ужиться в одном городе, не только в одной статье. Не могу я этого, Валя, да и зачем это надо? Пойми мою озабоченность, дружище, я готов тебе отработать на другой теме и обещаю это сделать в декабре – быстро и безотказно. Конечно, я это чувствовал еще при первом разговоре нашем, но ведь ваш брат умеет навязать свою потребу, и вот теперь потеряно столько времени, а результат = 0. Извини меня, Валя, но ей богу, я пишу правду.

Надеюсь, у тебя все хорошо, ребята твои здоровы, Н[ина] В[асильевна] тоже, – мой им сердечный привет. Будем живы-здоровы, авось как-нибудь еще встретимся и выпьем по чарке, хотя возможность последнего с годами для меня все сужается. Но – как-нибудь!

На этом я заканчиваю и обнимаю тебя, дружище!

Не очень злись и не обижайся на меня,

твой *Василь.*

*21 ноября 75 г.*

---

Рукапісны тэкст. Копія. Архіў В. Быкава.

## ІГАРУ БАЖКО

Дорогой Игорь!

Посылаю Вам свою недавно вышедшую книжку, где только малая часть из того, что мной написано. Но что делать – такова наша доля. Очень хочется знать, какова судьба Вашего романа и вообще, как Вы живете-работаете? В общем, я кое-что представляю, но не унывайте. Вы – талант, несомненный и самобытный и, должно быть, знаете, каково приходилось таковым во все времена. В наше тем более.

Главное – работайте!

Я говорил о Вас в Москве, попробуйте послать кое-что в «Наш современник» с припиской, что сделать это Вам посоветовал Быков. Там собрались неплохие ребята и, если возможно, попробуют напечатать.

И – будьте здоровы!

Жму Вашу руку.

*В. Быков.*

*21.XI.75 г.*

---

Рукапісны тэкст. Копія. Архіў В. Быкава.

* * *

Дорогой Игорь!

Прочитал Ваши рассказы, которые, как всегда, обжигают саму душу своей прямотой, категоричностью и – талантом. Рассказы хороши все, хотя и разнохарактерны, разнотемны, но все хороши по-своему. Удивили несколько меня Ваши исторические темы – Христос, Ван Гог[1], Русь... Но и это очень любопытно и, главное, сработано талантливо – скупо, точно, многозначительно, как это Вы умеете делать.

Вот только – что делать с рассказами?

Как я тут ни прикидываю, все получается неудача, как опубликовать их – не знаю. Я уже Вам писал, что говорил о Вас в «Нашем современнике» зам[естителю] редактора А. Богданову, он заинтересовался, м[ожет] б[ыть], надо выбрать из

---

[1] Ван Гог Вінсэнт (1853-1890) – нідэрладскі мастак-постімпрэсіяніст.

написанного Вами десяток рассказов и послать им. А м[ожет] б[ыть] – роман? Правда, они ведь тоже связаны и не все могут, но... В другие места и соваться нечего, это я знаю.

В этом смысле Вам следует, очевидно, несколько собраться в одной какой-то теме, написать что-то покрупнее или если рассказы, то на одном материале, так оно возымеет большую пробиваемость, чем разбросанность в темах, времени и пространствах. Подумайте над этим. Если, конечно, есть такое желание и есть мысли.

Я очень желаю Вам удачи и первым делом пропечататься в Москве. Вы достойны того, хотя в этом и вся загвоздка.

А пока – работайте.

И – будьте здоровы.

Крепко жму Вашу талантливую руку – *Василь Быков.*

*16.XII.75 г.*

---

Рукапісны тэкст. Копія. Архіў В. Быкава.

***1976 год***

## АРКАДЗЮ КУЛЯШОВУ

Дарагі Аркадзь Аляксандравіч!

Толькі што прачытаў Ваш «Хамуціус» і спяшаюся падзякаваць Вам за хвіліны паэтычнай асалоды, якую Вы мне даставілі, і павіншаваць Вас з новай вялікай удачай. Я памятаю, як Вы мне гаварылі некалі пра свой намер – здзейснілі Вы яго бліскуча. Напружана, паэтычна, вельмі драматычна. Пры ўсёй пэўнай умоўнасці паэзіі наогул і Вашай паэтыкі ўражанне самае абвостранае, такое, нібы з'яўляешся гледачом і сведкам. Мне думаецца, удаліся ўсе вобразы, але, вядома, самая вялікая ўдача – Кастусь[1], такі ён самаадданы, няўрымслівы і, вядома, з харошым рамантычным флёрам, як і належыць такому герою. Чаруе таксама Марыся, моцнае ўражанне пакідае сваім драматычным напружаннем пісьмо Каліноўскага да Марысі – проста да дрыжыкаў у плячах. Многа ў нашай літаратуры напісана пра Каліноўскага, але я не ведаю нічога, што па сіле ўздзеяння эмацыянальнага можна было б паставіць побач з Вашым «Хамуціусам». Проста, паэтычна і выдатна. Дзякуй Вам, дарагі паэт!

І яшчэ – я вельмі жадаю Вам добрага здароўя, якое такое неабходнае Вам пры Вашай працавітасці. Хай не пакідае таксама Вас высокае натхненне. Упэўнены, што Вы яшчэ шмат што можаце і шмат што зробіце. У час добры!

Маё шчырае Вам шанаванне, дарагі Аркадзь Аляксандравіч!

І шчырае прывітанне Аксане Фёдараўне, якую я даўно ўжо не бачыў.

І прывітанне таксама Валі.

Абдымаю ўсіх,

Ваш *Васіль Быкаў.*

*6 студзеня 76 г.*

---

Рукапісны тэкст. Арыгінал. БДАМЛМ. Ф. 411. Воп. 1. Адз. зах. 165. Арк. 3-4.

---

[1] Паэма «Хамуціус» прысвечана Каліноўскаму Вінцэнту Канстанціну (1838-1864), беларускаму палітычнаму дзеячу, публіцысту і паэту, аднаму з кіраўнікоў паўстання 1863-1864 гг., які паводле пастановы царскага ваенна-палявога суда быў пакараны смерцю на шыбеніцы.

## ВАЛЯНЦІНУ АСКОЦКАМУ

*1 марта 76 г.*

Валя, дорогой дружище!

Спасибо тебе за такое обстоятельное письмо, принимаю все твои упреки относительно повести[1] и наших отношений. Несколько лет жизни я выбросил коту под хвост в образе театра и кино, которые не дали мне взамен ничего, кроме дули. Напрасно потраченные годы, горы бумаги, масса усилий, сведенных чиновниками и бездарями от кино к обычной серой халтуре. Будь они все прокляты! Из-за них ослабли мои сердечные и многолетние связи с немногочисленными моими друзьями в столице. В этом числе ты, дорогой мой друже.

Но теперь почти все позади. С театром я завязал, скоро разделаюсь с кино. Правда, не спешу броситься и в литературу, которая тоже недалеко отошла от вышеупомянутых искусств. (Но все же...) Хочу пару лет, если смогу, отдохнуть, побыть с самим собой и, по возможности, с природой.

«Его батальон» – пара слов о пехоте, которой досталось больше других в этой войне и о которой написано меньше других. Произошло это, по всей видимости, оттого, что она не дала своих литераторов, равных, скажем, Бакланову или Бондареву, вышедших из артиллерии, ее литадвокаты остались в земле. И вот я, которому довелось-таки повоевать в пехоте и который на своей шкуре знает, что это такое, я давно чувствовал свой долг, не мудрствуя лукаво, поведать несколько слов правды, как это было. И я не заботился в данном случае, как это будет воспринято (мог по опыту догадываться, как это будет воспринято) критиками и начальством, я должен был это сделать, чтобы освободить свою совесть. И я это сделал. Наверно, надо было сделать изящнее, не торопиться с публикацией и пр. Все это, по-видимому, правильно. Поэтому и та языковая шероховатость. Наверно, там этих шероховатостей побольше, чем ты обнаружил... Впрочем, их у меня всегда хватало...

А Пашкевич[2] был и остался газетчиком, секретарем партийной газеты, выше в своем литерат[урном] вкусе он не поднялся. Для него, как для какой-нибудь дамочки, все книги о войне на одно лицо – всюду стреляют. Впрочем, не откажешь его политическому нюху, тут он почуял, что эту вещь можно куснуть, тут промашки не будет. У него все – на расчете. Теперь он взялся хвалить Чигринова, потому как Чигринов – начальство[3].

Ну да черт с ними!

Валя, дружище, я вот все думал эти месяцы, что ты, может, обиделся на меня за отказ написать статью. Но действительно я не мог. Возможно, этим я подвел тебя, прости, пожалуйста. Я понимаю, как тебе нелегко в этом «Литобозе», где ты задержался к тому же. Я сочувствую тебе. И желаю как-нибудь выкарабкаться из него куда-либо, где поспокойнее.

Вот на этом я и заканчиваю.

Сердечный привет Нине Васильевне, ее помощнице, моему тезке[4]. (Выросли, наверно?)

Обнимаю тебя, дружище! Твой *Василь.*

Авось как-нибудь свидимся – пообстоятельнее.

---

Рукапісны тэкст. Копія. Архіў В. Быкава.

---

[1] Размова пра аповесць «Яго батальён».

[2] Н. Пашкевіч – беларускі крытык; з 1974 г. намеснік дырэктара Інстытута літаратуры імя Я. Купалы АН БССР, з 1976 г. – рэктар Мінскага інстытута культуры.

[3] У 1976-1986 гг. І. Чыгрынаў быў сакратаром праўлення СП БССР.

[4] Размова ідзе пра дзяцей В. Аскоцкага Ксенію і Васілія.

## НІЛУ ГІЛЕВІЧУ

Дарагі дружа Ніл!

Быў хворы, трохі падпаў духам і чытаў твой блакноцік, твае «Актавы»[1]. Скажу табе адразу: кранулі яны мяне да самай глыбіні душы, засмуцілі сваім сумам – харошым чалавечым сумам і смуткам. Вялікі ты малайчына, што неяк неўзаметку, спакваля напісаў столькі маленькіх цудаў – так усё проста, а так шчыра, глыбока па думцы і так кранае. Дай табе бог і надалей! І, мусіць, дасць. Сёння ўначы мне сніўся сон: нейчыя рукі гарталі таўшчэзныя тамы, ну як біблія па таўшчыні, і не адзін, а аж тры адразу, і на вокладцы аднаго я прачытаў вялікія на ўсю вокладку літары: Ніл Гілевіч. Яшчэ падумаў: глядзі ты, як выдалі Ніла – нібы Броўку[2]. Прачнуўшыся, падумаў: а што? Не цяпер, дык можа некалі і выдадуць цябе, браце, у такіх тамінах, старонак на тысячы, і ў такіх пераплётах.

Але не блага і ў такім маленькім блакноціку. Выдатны, браце, блакноцік!

А я кепска пераажыў гэтую зіму, усё нездаровілася, ды й цяпер не лепш сябе адчуваю. [...] У Мінску даўно ўжо не быў, нікога не бачу. Зрэдчасу пазвоніць Мікола[3], ад яго ж я дазнаўся аб тваім горы[4] – не дай бог такога нікому! Але што зробіш – жыццё толькі ў дзяцінстве здаецца вясёлаю штукай...

Хоць бы хутчэй вясна, сонейка, трава зялёная – самае вартае, мабыць, што дорыць жыццё. Шкада, у скупой малой дозе.

Дай бог табе здароўя, настрою і трошачкі вершаў. Такіх, як актавы.

Мой шчыры паклон Ніне[5]. Авось як-небудзь пабачымся. Трэба б адвесці душу...

Твой – *Васіль.*

*12.IV.76*

---

Рукапісны тэкст. Арыгінал. Архіў Н. Гілевіча.

## ІГАРУ БАЖКО

*23 мая 76 г.*

Игорь, дорогой дружище!

Рад был получить весточку от Вас и повесть, которую, разумеется, прочитал тут же, за два присеста. Как всегда, интересно, свежо, ни на что прежнее не похоже, что уже само по себе – свидетельство таланта оригинального и самобытного. Тема творчества, искусства – очень трудная тема и она редко кому удавалась. Вам удается, потому что, кроме нее, у Вас еще люди, характеры и их отношения, поданые без лицемерия, без фальши и натяжек. Мне оч[ень] нравится, что у Вас художник – всегда немножко с богемным туманцем в башке, этакий почти босяк, неудачник. Это отлично. В нашей л[итерату]ре уже воротит от благонамеренных типов, который один лучше другого.

Хорош автор-рассказчик, оч[ень] хорош дед и их взаимоотношения, хороша даже эпизодическая девушка, появилась однажды, а запоминается. Я думаю, что повесть надо и можно печатать, хотя тут снова набегают разные <u>но</u>, от автора, впрочем, не зависящие и к нему не относящиеся. М[ожет] б[ыть], стоит предложить

---

[1] Гілевіч Н. Актавы: лірычныя мініяцюры. Мінск, 1976.

[2] Броўка Пятрусь (Пётр Усцінавіч; 1905-1980) – беларускі паэт, перакладчык, грамадскі дзеяч; народны паэт БССР (1962); у 1948-1967 гг. старшыня праўлення СП БССР; у 1967-1980 гг. галоўны рэдактар «Беларускай Савецкай Энцыклапедыі».

[3] М. Матукоўскі.

[4] У красавіку 1976 г. памёр старэйшы брат Н. Гілевіча Леў Сымонавіч Гілевіч (нар. у 1929).

[5] Гілевіч Ніна Іванаўна (1931-2003) – жонка Н. Гілевіча.

в «Дружбу народов»? И еще – повестью, пожалуй, хотя и короткой называть не стоит, это просто добротный рассказ, в таком виде у него будет меньше претензий и большая проходимость.

Вот такие мои соображения по поводу «Козака».

И, пожалуйста, работайте, дерзайте, думайте. Мне очень верится в Ваш литературный талант, только не забрасывайте его. Авось еще пригодится.

Я в этом году плох, ничего не пишу, покончил с театром и кончаю с кино, которые, кроме разочарования, ничего другого принести не могут. Расклеилось здоровье к тому же...

А Вы – молодец, дорогой друг, дай Вам бог и надальше.

Я обнимаю Вас –

*Василь Быков.*

P. S. Ваша чудо-картина «Спас»[1] висит у меня на самой видной стене и я не устаю глядеть на нее. А гости-знакомые всегда набрасываются с вопросом: «Чья это?» – «Одного оч[ень] талантливого писателя», – отвечаю. Каков художник – им и так видно.

Бывайте!

*В. Б.*

---

Рукапісны тэкст. Копія. Архіў В. Быкава.

## АЛЕКСУ ЮШЧАНКУ[2]

*6 ліпеня 1976 г.*

Дарагі Олекса Яковіч!

Дзякуй Вам вялікае за баладу і за прысвячэнне яе Быкаву[3], мне гэта, вядома, вельмі прыемна. Тым больш, што балада мне надта спадабалася – паэтычная і шчырая, дужа лірычная. Праўда, гісторыя гэта здарылася са мной пад Кіраваградам не ўлетку, а зімой 1944 г., ну, але гэта вялікага значэння не мае, гэта твор самастойны, да таго ж паэтычны[4].

---

[1] Атрымаўшы ў падарунак карціну І. Бажко «Август» («Спас»), Быкаў даслаў тэлеграму: «Дорогой Игорь Антонович огромное вам спасибо за дорогой для меня подарок будьте здоровы и счастливы работайте надейтесь. Ваш Быков» (Без даты. Копія. Архіў В. Быкава).

[2] Юшчанка Алекса Якавіч (1971-2008) – украінскі паэт; заслужаны дзеяч культуры Беларусі і Украіны.

[3] Размова ідзе пра верш А. Юшчанкі «Обеліск в степу» з прысвячэннем: «Василю Бикову, білоруському письменникові».

[4] Размова пра падзеі студзеня 1944 г., калі Быкаў ледзь не загінуў пад гусеніцамі нямецкага танка і быў памылкова запісаны ў «Именной список безвозвратных потерь 399 стрелкового полка 111 стрелковой дивизии» з 12 снежня 1943 г. да 10 студзеня 1944 г., паводле якога лічыўся забіты 10 студзеня 1944 г. у раёне вёскі Вялікая Севярынка Кіраваградскай вобласці (Цэнтральны архіў Міністэрства абароны РФ. Ф. 33. Воп. 11458. Адз. зах. 290). У вершы А. Юшчанкі (пер. Р. Барадуліна):

*І нехта, як са жніўных ніў,*
*Акрыў хмурынкай, напаіў,*
*І жар пякельны астудзіў,*
*Не прывід гэта быў, не здзіў, –*
*А проста падпаўзло дзяўчо,*
*Прапала змроку кузлаччо!*
*Юнак русявы не пагас,*
*Недатыкальны быў запас*
*Цярпення... так цярпеў, трываў*
*Між стэпавых гаркавых траў,*
*Што ўчула дзяўчына адна –*
*Крынічкай стала давідна.*

З вялікай прыемнасцю мы правялі дні ўкраінскай культуры, пазнаёміліся з вялікім мастацтвам і выдатнымі хлопцамі. На Гродзеншчыне, дзе я жыву, былі Мікола Зарудны і Алекса Бандура[1]. Было дужа гарно.

З кніжкамі ў мяне горш справа, у гэтым годзе павінна выйсці ў Маскве аж 2 кніжкі, тады я прышлю Вам абавязкова. Але гэта будзе, мабыць, увосень.

А пакуль я з удзячнасцю і братняй любоўую абдымаю Вас, дарагі дружа!

Ваш

*Васіль Быкаў.*

---

Рукапісны тэкст. Копія. Архіў В. Быкава.

## ВАЛЯНЦІНУ АСКОЦКАМУ

Валя, дорогой дружище!

Получил твою книгу[2], спасибо. Книга выглядит весьма солидно, тянет на докторскую диссертацию, пожалуй. В общем, я тебя поздравляю, надеюсь, напишешь еще не одну такую, дай тебе бог!

А я вот не пишу, после съезда засел было за одну вещь, но оставил, стал ждать лета, которое в этом году, как ни в каком другом, то и дело отдает дождем и холодом. Циклон следует за циклоном, и вот уже середина августа, а там и осень...

В отпуск пока не собираюсь, жду, какая выпадет осень, пора бы кое-что написать. Но еще не столкнул со своей головы кино, жду – не дождусь, когда оно, наконец, кончится[3].

В Минске не бываю, наблюдаю со стороны, как лихо руководят молодые руководители. Пусть!

А как твои дела? Как твой новый статус в «Л[итературном] О[бозрении]»? Где твои ребята? Сердечный привет им и Нине Васильевне. Авось еще как-нибудь выпьем стопочку!

А пока обнимаю тебя,

будь – твой *Василь.*

*8.VIII.76*

---

Рукапісны тэкст. Копія. Архіў В. Быкава.

## МАКСІМУ ТАНКУ

*[Снежань 1976 г.]*

Першаму сакратару праўлення СП БССР Максіму Танку

Мы лічым, што ў рэспубліцы справа з нашай мовай – ненармальная, далей так быць не можа. Уносім прапанову склікаць у бліжэйшы час пленум СП БССР па гэтаму пытанню.

---

[1] Зарудны Мікола Якавіч (1991-1991) – украінскі пісьменнік, сцэнарыст. Бандура Аляксандр Іларыёнавіч (1918-2005) – украінскі выдавец, перакладчык.

[2] Мусіць, размова пра кнігу – Оскоцкий В. Богатство романа. М., 1976.

[3] У 1976 г. А. Карпавым быў пастаўлены трохсерыйны тэлефільм «Долгие версты войны» (сцэнарый быў напісаны Быкавым паводле аповесцей «Жураўліны крык» і «Проклятая вышыня»; 3-я серыя, «На восходе солнца», была знята па арыгінальным сцэнарыі Быкава). У 1977 г. адбыліся прэм’еры мастацкіх фільмаў «Обелиск» (рэж. Р. Віктараў) і «Восхождение» (рэж. Л. Шапіцька).

*В. Быкаў, А. Карпюк*[1]*, М. Дуброўскі*[2]*, Д. Бічэль-Загнетава*[3]*, А. Іверс*[4].

БДАМЛМ. Ф. 257. Воп. 1. Адз. зах. 153. Арк. 1.

ЯНКУ БРЫЛЮ

*[Снежань 1976 г.]*

Дарагі Іван Антонавіч,

вельмі жадаю Вам перамагчы ўсе хваробы ў Новым, 1977 годзе, быць здаровым і шчаслівым. І напісаць нешта, добрае і светлае, як Вы гэта ўмееце. Няхай Вам у Навагодні дзянёк засвеціць вясновае сонейка.

Са шчырасцю

Ваш *Васіль Быкаў.*

Рукапісная паштоўка без даты. Арыгінал. БДАМЛМ. Ф. 59. Воп. 2. Адз. зах. 87. Арк. 6.

***1977 год***

ВІТАЛІЮ ДАВЫДАВУ[5]

*5 января 77 г.*

Дорогой Виталий!

Вы прямо-таки растрогали меня своим поздравлением, хотя тут, м[ожет] б[ыть], телепатия, потому что как раз накануне я перелистал Вашу книжку, посмотрел фронтовые рисунки и кое-что перечитал, что сразу перенесло меня в другое время и другой мир чувств. Кроме того, в моем стеллаже давно красуется одна картинка, присланная Вами с Востока, я очень люблю ее рассматривать в минуты лености и самосозерцания. Вы правы, мы вступили в тот возраст, когда жить все трудней по разным причинам – внутренним и внешним, но что делать? Я все-таки завидую вам, художникам, для которых работа – гораздо больше наслаждение, чем для писателей их вымучивание мозгов. Писать тоже с каждым годом трудней...

Как-нибудь в этом году надо бы встретиться, в Москве, Друскенинкае или Гродно. А то действительно пройдет жизнь, затраченная на разные ненужные встречи и общения, а с кем надо – не встретишься. Это обидно.

Посылаю Вам мою книжку.

И спасибо Вам за память,

дружески обнимаю *Василь Быков.*

Рукапісны тэкст. Копія. Архіў В. Быкава.

[1] Карпюк Аляксей Нічыпаравіч (1920-1992) – беларускі пісьменнік; сакратар Гродзенскага абласнога аддзялення СП БССР (1965-1970, 1978-1992). Сябра Быкава ў гарадзенскі час яго жыцця.

[2] Дуброўскі Міхась (Міхаіл Георгіевіч; 1897-1983) – беларускі паэт, драматург; у 1950-1957 гг. старшы выкладчык Гродзенскага педінстытута імя Я. Купалы.

[3] Бічэль Данута Янаўна (нар. у 1938) – беларуская паэтка.

[4] Іверс Анатоль (сапр. Міско Іван Дарафеевіч; 1912-1999) – беларускі паэт; у 1976-1984 гг. сакратар Слонімскага раённага аддзялення Таварыства аховы помнікаў гісторыі і культуры.

[5] Давыдаў Віталій Цімафеевіч (1923-2007) – расійскі мастак; заслужаны мастак РСФСР (1975).

## ІГАРУ БАЖКО

Дорогой Игорь!

Как Вы живете, что пишете кистью и пером? Надеюсь, здоровье у Вас в норме и все прочее хорошо.

Недавно журнал «Смена» обратился ко мне написать вступление к Вашему рассказу «Музыка», что я, разумеется, сделал с удовольствием. Кроме того, всюду, где имеет смысл, говорю о Вас и Вашей прозе. Может быть, Вы наконец станете печататься в Москве.

Высылаю Вам копию моего «вступления» в «Смене».

И – ни пуха, ни пера Вам!

С приветом

*В. Быков.*

*24.I.77 г.*

### ИГОРЬ БОЖКО

Игорь Божко – художник по профессии, участник многих художественных выставок, довольно успешно занимается литературой, в частности, прозой. Я знаком со многим из того, что написал И. Божко: несколькими десятками рассказов, повестью, романом. Тематически литературное творчество Божко разнообразно, ему в одинаковой степени доступно для изображения как лично пережитое, так и «сочиненное»; материалом прошедших времен он пользуется с такой же свободой и легкостью, как и материалом современности. Нередко авторский взгляд в прозе И. Божко на характеры и ситуации спорен, иногда чрезмерно утрирован, но надо отдать должное этому даровитому автору – читать его всегда интересно. К тому же проза Божко – что является главным ее достоинством – всегда предельно достоверна, зачастую жестка до шокирующей оголенности характеров и ситуаций, но, как правило, за этой жесткостью – глубина осмысления жизни, верность гуманистическому началу творчества.

Следует еще отметить особую тему в творчестве одесского прозаика – тему искусства, быта и жизни художников, о которых автор пишет с завидным знанием дела. Напечатанный в Одессе роман о художниках при известных его недостатках – заметное явление в разработке данной темы, сложной и трудной для изображения средствами литературы.

Ныне на суд читателей «Смены» выносится один из небольших рассказов И. Божко, воскрешающий тему трудного послевоенного детства с его многочисленными лишениями, еще не зажившими ранами недавней войны и светлой искоркой всегда живущего в человеке стремления к будущему, таящему пусть слабую, но всегда живую надежду.

Желаю всесоюзному читателю радостного знакомства с прозой этого безусловно талантливого автора.

*В. Быков.*

*24.I.77*

---

Ліст – рукапісны тэкст; слова пра І. Бажко – машынапіс за подпісам В. Быкава. Копіі. Архіў В. Быкава.

## ВАЛЯНЦІНУ АСКОЦКАМУ

*14 февр[аля] 77 г.*

Валя, дорогой дружище!

Спасибо тебе за добрую память – газету получил, я знаю (заочно) этого автора,

он мне как-то писал. Повесть[1] встречена, как ты знаешь, довольно кисло, «ЛГ» и «Литроссия» ее замолчали, ну, и бог с ними. В Минске тоже кое-кто даже из моих друзей морщится, и я знаю почему, но не оправдываюсь. Стерплю. Не такое терпел! Чмыхало[2] я не знаю, встречался с ним единственный раз, когда он предложил поменяться часами (кстати, хорошие часы, прошли у меня 10 лет). Но не от тебя первого слышу такого рода отзыв о нем. Что ж, вполне возможно. В наше время возможно всё.

Вот хотел съездить в Москву на Совет по белорусской л[итерату]ре, повидаться да и взять по чарке, но свалил грипп проклятый, пришлось сдать билет. А жаль очень... В эту зиму мне не повезло со здоровьем – каждый месяц недели по две болею: то грипп, то катар, то моя астма разыгрывается. Плохи дела к старости. В Минске долго болел Брыль, но теперь, кажется, пошел на поправку. Алешу только (который Карпюк) никакая хвароба не берет, разве иногда прижимает начальство. Но теперь у него и с начальством – прочный мир.

Немного работаю, но больше кисну и жду лета и солнца. Оч[ень] долгая нынче зима...

Валя, дружище, спасибо тебе еще раз. Пиши при случае и настроении о себе и делах. Я ведь – ты знаешь – в дальнем далеко и один...

Сердечный привет Нине и вашим ребятам.

Обнимаю,

твой *Василь Быков.*

---

Рукапісны тэкст. Копія. Архіў В. Быкава.

## ІГАРУ БАЖКО

Дорогой Игорь!

Я немного подзадержался с ответом, хотя рассказы прочитал тотчас по получении. Рассказы совершенно в Вашем традиционном духе, спутать их с чьи-нибудь невозможно. Ближе всего к Вам (кажется, я уже писал Вам об этом) стоит Бабель, и это прекрасно. Эта замечательная традиция нашей л[итерату]ры была прервана в 30-е годы и утрачена. Будет замечательно, если Вы ее воскресите.

У меня решительно нет никаких возражений против того, что написано, иногда только как недостаток в рассказах – их незаконченность, фрагментарность («Ни о чем», «На работу, с работы...»), но и это само по себе значительно, неожиданно и – хорошо. «Везение Макара» – самая законченная вещь и вещь, полная смысла. Такого смысла могло бы хватить на повесть, если не роман о несостоявшемся художнике, здесь же спрессовано в 6 стр[аниц]. При всей его экстравагантности прекрасен «График».

Ну, а что с ними делать, я уже не знаю. Непроходимы они нигде и никак. Это точно.

Вот такие дела – радостные и печальные...

Я в эту зиму больше болел, одолели простуды, гриппы, астмы, бронхиты. Немножко, однако, работал. Но тоже, работа нынче – не в радость. Все по тем же причинам...

Очень желаю Вам, дорогой дружище, не терять себя и обрести свое. Хотя, конечно, это можно пожелать всякому. Ну хотя бы – быть здоровым!

С приветом – *В. Быков.*

*24.II.77 г.*

---

[1] Аповесць «Яго батальён».

[2] Чмыхала Анатолій Іванавіч (нар. у 1924) – расійскі пісьменнік.

Будем надеяться, в «Смене» пройдет и тогда лед тронется.

Рукапісны тэкст. Копія. Архіў В. Быкава.

## ІГАРУ ДЗЯДКОВУ[1]

Дорогой Игорь Александрович!

Шлю (наконец-то) обещанную книгу[2] и одновременно хочу поблагодарить Вас за все Ваши хорошие слова, сказанные в адрес ее автора[3]. Мне всегда очень радостно читать рецензии и статьи за Вашей подписью, потому что мысли, выражаемые Вами, очень уж подходяще кладутся и на мою душу. Дай бог Вам здоровья и бодрости и еще много строк в защиту беззащитного дитя нашего – литературы.

Надеюсь, когда-нибудь мы познакомимся, и я с радостью пожму Вашу руку[4].

А пока – будьте счастливы!

*В. Быков.*

*16.IV.77*

Рукапісны тэкст. Копія. Архіў В. Быкава.

* * *

*[3 мая 1977 г.]*

Дорогой Игорь!

Спасибо за письмо и поздравления. Относительно встречи – устроим. Где-нибудь летом. Может, привлечем Валент[ина][5]? Всегда к Вам с большой признательностью.

*Василь Быков.*

Рукапісная паштоўка без даты. На штэмпелі – 3.05.1977 г. Копія. Архіў В. Быкава.

## ВАЛЯНЦІНУ АСКОЦКАМУ

*[1977]*

Валя, дорогой дружище!

Спасибо тебе за письмо и за память, всегда рад весточке от тебя. Я сижу дома, немного пытаюсь работать, после Москвы никуда не ездил, настроение после той поездки по известным причинам паршивое. Мероприятий, правда, различного рода хватает и тут, темп их с каждым годом становится все более головокружительный. Так это здесь, в провинции, представляю, какой он в Москве.

И все-таки надо работать.

Тевекелян[6] мне писала, но пока «Н[овому] М[иру]» я предложить ничего не

---

[1] Дзядкоў Ігар Аляксандравіч (1934-1995) – расійскі крытык, літаратуразнавец; аўтар кніг: «Василь Быков: очерк творчества» (1980), «Василь Быков. Повесть о человеке, который выстоял» (1990).

[2] Быков В. Его батальон. М.: Молодая гвардия, 1976.

[3] Размова ідзе пра рэцэнзію на аповесць «Яго батальён»: Дедков И. Выше судьбы // Литературное обозрение. 1976. № 6. С. 32-34.

[4] Быкаў і Дзядкоў сустрэнуцца толькі ў чэрвені 1981 г.

[5] Відаць, маецца на ўвазе В. Аскоцкі.

[6] Цевекелян Дыяна Варткесаўна (1932-2011) – расійскі рэдактар; працавала ў часопісах «Москва» і «Новый мир»; галоўны рэдактар выдавецтва «СЛОВО / SLOVO». Першы літаратурны рэдактар рамана «Мастер и Маргарита» М. Булгакава; рэдактар першага Збору твораў Б. Пастарнака.

могу, то, над чем работаю, пообещал «Неве»[1], не хочу нарушать слова. Да и не знаю еще, что получится. Писать тоже с каждым годом не легче, хотя опыта, кажется, уже достаточно. Можно бы ехать на одном опыте...

Брыля жаль, он сильно приболел прошлой осенью, дай бог ему поправиться. Зимой мы с ним обменялись письмами по одному частному случаю. Недавно здесь (в Гродно) был В. Короткевич[2]. Умный, как бес, и талантливый человек, был бы совсем хорош, если бы не одна известная слабость. Да у кого нет слабости этой...

Валя, а как твоя поездка в Вильнюс? Помнится, ты говорил, но я забыл, когда это? Может, действительно, подскочишь в Гродно? От Вильнюса ведь 3 часа езды. Поездов много: в середине дня, в 20.30, ночью. Я был бы рад...

На этом я тебя обнимаю. Будь здоров, дружище. Привет Нине Васильевне и твоим славным ребятам. Как здоровье у Васи[3]?

Твой *Василь*.

---

Рукапісны тэкст. Копія. Архіў В. Быкава.

[1] Размова пра аповесць «Пайсці і не вярнуцца» (надрукавана – Нева. 1978. № 5; пер. на рускую мову аўтара).

[2] Караткевіч Уладзімір Сямёнавіч (1930-1984) – беларускі празаік, паэт, драматург.

[3] Сын В. Аскоцкага.



Вячаслаў Адамчык



...і сэрца, і вочы мае бачаць вас –
і дома, і на рабоце, і тады, калі ўстаяце,
і тады, калі кладзецеся спаць,
і адзетымі і голенькімі,
і добрымі і злымі...

# Лісты да жонкі

***Лісты да жонкі – Ніны Глобус напісаныя ў Маскве, дзе Вячаслаў Адамчык тым часам вучыўся на двухгадовых вышэйшых курсах Літаратурнага інстытута. Напісаныя яны да жонкі Ніны і сына Валодзі.***

***1963 год***

***

Даражэнькія, спяшаюся вам напісаць хоць колькі слоў, пакуль мяне не зваліў сон. Вельмі хочацца спаць – дарога, а потым работа: я нават яшчэ патрапіў з’ездзіць разам з усімі на «Плодовощ» і нарабіцца там аж да сёмага поту. Дарэчы, перад гэтым я атрымаў пакой у інтэрнаце, праўда, пакой каля самае кухні, і адтуль цягне пахамі круп. А цяпер вось што, а цяпер ужо дваццаць хвілін адзінаццатай, я пішу вам з гэтага пакоя.

Заўтра ў нас адкрыты партыйны сход – заняткаў не будзе. А так – лекцыі пачынаюцца з 10 і цягнуцца аж да 4 гадзін. Творчыя – панядзелак і аўторак, гэта вы ўжо ведаеце.

*Публікацыя Адама ГЛОБУСА.*

Адчуваю сябе ў Маскве ў інтэрнаце, наогул усюды, як у камандзіроўцы. Здаецца, дзён колькі пабуду і паеду дадому. Да вас.

А як жа вы маецеся. Сумуеце? Нашто? Гэта мне аднаму... Тут вось ужо і клопату колькі маю: трэба шчотку купіць, трэба шклянку, трэба каструлю, бо ўсё ж збіраюся трохі варыць і сам...

Вось і ўсе навіны. Заўтра пачую болей. Заўтра я прапісваюся – усяго на год, – і заўтра пытаю наконт стыпендыі. І заўтра напішу вам лісток.

А сёння – бывайце здаровы.

Трымайцеся. Не вешайце насы. Мы ўсе разам, калі не ў пакоі, дык у думках.

Цалую вас, абдымаю моцна.

Тата Слава.

*15.X.63*

*P. S.*

Заўтра думаю мяняць пакой.

*+ дадатак*

*(На асобным аркушыку):*

Нина, возьми в домоуправлении справку о семейном положении (та недействительная, имею в виду ту, что давал Литфонд).

Сходи в домоуправление по улице Я. Коласа, там я прописан был. Они должны дать. А может, и эти, что на Кузьмы Чорного, дадут.

Слава.

*P. S.* Если справки не будет, мне наз. стип. 100 рублей.

***

Мае любенькія, як жывы-здаровы?

Не засумавалі па мне. Я па вас – вельмі. Але сёння пачуў навіну, што праз тыдзень буду дома. Прыеду... (*расплылося*) на 10 дзён. Радуйцеся.

Тут адзінота. У дадатак, пагода гнілая і шэрая як сум: маросіць дождж, на вуліцах гразі па вушы. У такую пагоду я ж, як вядома, не хадок. А калі высунуўся на двор, трэба ўжо чысціцца.

Але Маскву я крыху агледзеў. Быў на Чырвонай плошчы, у ГУМе. Дома раскажу. Шукаў Сандзю – не знайшоў. Затое мае былыя аднакурснікі, што вучацца тут у Вышэйшай партыйнае школе, адшукалі мяне. Праўда, выпадкова. Быў у іх. Скажу шчыра: выкурыў адну цыгарэтку. Усяго адну. І болей не куру. Чэснае слова. І гарэлку не п'ю. Учора ўзяў толькі чарачку. Гэта ўчора ў Вышэйшай школе быў вечар. Такая, як даўней пісалі, вечарына беларусаў. Імпрэза. А як вы там трымаецеся? Можа, узялі каго на кватэру? Як жа ў вас выходзіць з садам і работаю? Ці рамантавалі нам кватэру? Ці ёсць у вас грошы?

Дарэчы, я напісаў рэцэнзію і адаслаў Шкрабу. Гэта тую – на Васілька.

Праслухаў першыя лекцыі. Нават Молеву, якой Караткевіч прысвячаў бадай што кожны свой верш. Уражанне пакуль што – няпэўнае. Зарубежная і руская літаратура чытаюцца неяк па-школьнаму.

Але добра, мае даражэнькія, мне пара спаць. Бачыце – перад сном я заўсёды вас успамінаю.

Валодзеў каменьчык я не згубіў. Ён у мяне ў чамадане.

Які падарунак вам тут купіць?

25 атрымаю грошы. Дарэчы, як там з даведкаю?

Усяго добрага. Папа Слава.

Абдымаю вас і цалую.

*20.X.63*

***

Дзень добры ў хату!

Спраўка... Няхай яна згарыць. Я вось толькі пасварыўся з начальствам. Тут яго не праб'еш. Яно бранёю прыкрыта. Яно тут умее трымацца, як і наогул уся Масква, я маю на ўвазе тых людзей, якія тут прыжыліся, каб нікуды не ехаць. Тут яны навучыліся гладка махляваць, гладка красці і, вядома, жыць. Тут бюракратызм болей салідны, чым дзе.



Ніна ГЛОБУС з сынам Валодзем

Вядома, я не злую на цябе, але хачу крышку папракнуць, што ты не прачытала ўважліва пісьмо: я пісаў, што даведка патрэбна з домакіраўніцтва. Можа, табе не даюць спраўку, што я не прапісаны?

Зрэшты, я прыеду на святы і вазьму, а калі табе ўдасца яе выслаць недзе 29-30 – высылай. Бо ў мяне вылічваць будуць і далей, калі я, нарэшце, не прадстаўлю яе.

*(Надпіс на палях: «Атрымаў многа пісем. Шчыра дзякую»)*

Яны (бухгалтэрыя) кажуць, што спраўка іншая, акрамя з «домоуправления», юрыдычнай сілы не мае. Мы вам верым, што ёсць сям'я, а нам рэвізоры не павераць. Усё.

Зрэшты, ліха яе бяры з гэтай спраўкай.

Учора шукаў – і, дарэчы, першы раз ехаў у метро, а метро – гэта тунэль, праз які мы ўжо ехалі на Каўказе, – «безразмерные чулки». Аб'ездзіў усю Маскву – не знайшоў. Спазніўся.

У магазіне «Сінтэтыка» каля МГУ яны былі і нават учора з раніцы. Пастараюся знайсці ўсё роўна, вядома, калі будзе спраўка.

А ведаеш, адкуль пішу пісьмо? З лекцыі па дыямату. Тут калмыкі адарвалі лектара ад асноўнага курсу, пытаюць, што гэта за «кремлёвские пайки», якія цяпер існуюць і якія атрымоўваюць нават работнікі «Огонька».

Вядома, Сафронаў пісаў нейкую песню, дарэчы, пра галоўнага бугалтара выдавецтва «Известия» нейкага Жукава, што не выплочваў грошай разам з Аджубеем.

За «пайкі» гэтыя плацяць. І потым ім скрутачкі развозяць па кватэрах. Кажуць, 90 рублёў прыраўніваецца да 200 нашых.

А ў Маскве простыя людзі душацца за белымі (13 кап.) батонамі, што даўно ўжо страцілі свой смак, той першы. За лапшою, за пшонкаю ў чаргу запісваюцца (спісак) за гадзіну – за дзве да таго, пакуль будуць прадаваць.

Выкладчык, нарэшце, заграз. Пайшла гаворка пра хлеб.

У мяне на яду ідзе 2 р. 50 к. Тры разы хаджу ў сталоўку і пасля абеда яшчэ хачу есці. Апетыт. У Мінску я перабіраў, шукаў нейкі трэф. Тут – няма калі і няма ў чым. Добра.

А што, Ніначка, ясі ты. Пэўна, галадаеш. Няма для каго варыць.

Разгаварыўся пра яду – і слюнкі пацяклі. Дарэчы, скора, – праз гадзіну – полудзень.

Калмык яшчэ ўсё дапякае выкладчыка. А мне няма калі ўмешвацца ў гэтую гутарку.

Аставайцеся жывы-здаровы.

Абдымаю вас.

Званок.

Вяртаюся да пісьма пасля лекцыяў і пасля таго, што мне, нарэшце, выплацілі розніцу. Мала. Атрымаў усяго 75 рублёў. 3 рублі даўгоў. 20 адаслаў вам. Я ведаю, што мала. Наогул, бачу, што вам жывецца крышку тугавата. Як жа мне выручаць вас? Рэцэнзіямі. Пішу другую: на Шыціка для «Маладосці». Буду нішчыць яго, каб застацца жыць самому. Гэта, вядома, гіпербала, фраза, поза. Але, калі падумаць, то – праўда.

У кожным гастраноме палюю за крупою і макаронамі – няма; у прамтаварных пытаю безразмерныя панчохі – таксама няма.

Пішу з Галоўпаштамта з вуліцы Горкага. Гэта недалёка ад Крамля. Нашыя курсы ў цэнтры горада, інтэрнат – на прадмесці. Да яго ідзе гадзіна, гэта ў адзін бок.

Бывайце.

Прыеду недзе 3-га, раніцай, а можа, 2 ці 4. Пішыце, што купіць, акрамя цукерак. Батонаў – ведаю сам.

*(па штэмпелі – 20.10.1963)*

***

Дзеньдобры, Ніначка!

Пісьмы твае, відаць, не ўсе да мяне даходзяць. Учора атрымаў тыя два твае лісткі, у якіх ты пісала, што перад гэтым, г.зн. 28, напісала мне пісьмо. А яго не было. Можа, заляжалася на пошце, а можа, хто, жадаючы зрабіць добрае, узяў ды забыўся мне аддаць.

Ты пішаш, што атрымала грошы, а Вовавы чаравікі? Я іх выслаў таксама 25, толькі вечарам. Спадзяюся, што да 30 або 1 ты іх ужо пакажаш Валодзьку. Як там у яго са здароўем? Чаму ён адзін дома?

Малюнак яго – пальмы, грыбок і жучок, усё, што ён там добра нарысаваў – ляжыць у мяне на стале. Падзякуй яму ад мяне. І няхай ён скарэй папраўляецца. Дзе ён прастудзіўся? Можа, тады ў нядзелю? І чаму ў іхнім садзе так холадна? Хто там вінаваты? Трэба напісаць у газету. Сабраць некалькі подпісаў і занесці ў рэдакцыю «Звязды», або «Сов. Белоруссии».

Ніначка, калі будзеш мець час, зрабі нават гэта сама. І дома табе, мусіць, абрыд гэты холад. Я ведаю. А ў мяне тут парыць, як у бані. Фортка адчынена дзень і ноч. Але мне ўсё роўна хочацца дадому. Нам удваіх з табою было б куды цяплей. Праўда. Засталося якіх 27 дзён. Скора, Ніначка, скора, галубка. Бачыш, як я лічу дні. Бачыш, як я тут нагараваўся, натужыўся без цябе.

Ты пытаеш, чаго прыедзе Бураўкін? У выдавецтва. Тады, у час нарады маладых, куды нас далікатна не пусцілі, яго вершы рэкамендавалі выдаць на рускай мове. Вось чаго ён і прыедзе.

Сёння другога, сёння Антон недзе збіраецца ў войска. Які ў яго быў настрой? Можа, ён і хоча крышку праветрыцца, можа, яму дома і абрыдзіла трохі. Ці не?

Дарэчы, я купіў і выслаў у Дзяржынск чаравікі. Цікава, ці атрымалі яны?

Напішы, Ніначка.

Што ты яшчэ хочаш ведаць? Рубашкі мае яшчэ не ўсе брудныя. Дацягну да 28. Шкарпэткі я ўжо сабе купіў. Чаравікі зімовыя аддаў на рамонт. Чхаць перастаў. Сумаваць і тужыць па табе – не. Гэта, мусіць, хвароба нязлечная.

Як там у вас з пагодаю? У нас сырасць. Халадэча.

Ну, бывайце жывенькі-здаровенькі.

Пісаў вам з Ленінскае бібліятэкі. Дарэчы, бачу тут і мінчан. Толькі не гаварыў, бо незнаёмы з імі.

Яшчэ раз аставайцеся жывы-здаровы.

Цалую вас і ў шчочкі, і ў вочкі.

Сына не, а цябе, Ніначка, яшчэ і шчыпаю, бо ты, мусіць, забылася, што я ўмею

шчыпацца і кусацца. Помніш, насіла сінякі там, дзе не трэба, а цяпер яны даўно сышлі – і ты забылася, пэўна. Не! Будуць новыя. Ведай...

*Слава*

Ці чытала ты, Ніначка, аповесць Брыля «Расчараванне», як яна раней называлася, калі была надрукавана ў часопісе «Полымя» (1959, здаецца), а цяпер пад новаю назвай «Апошняя сустрэча» змешчаная ў двухтомніку яго (том II, 1960 год).

Пачытай – вельмі цікавая ў сэнсе тым, што, па-моему, у нейкай долі аўтабіяграфічная (гэта ўсё было з аўтарам, і пра жонку ён гаворыць, і пра дзяцей). Там відаць Брыль, які хоча пераканаць сябе, што хадзіць жанатаму да другіх жанчын гэта нячэсна, нават таму, што жанчыны, якія і прымаюць чужых, так згодна і ласкава-пяшчотныя, з дробнаю душою. І Брыль так раздваіўся, што не ведае, як гэта расцаніць, і пачынае злавацца, і піша прыкладна такое: «...Яна прайшла, па-свойску цёпла апершыся аб Лёню ў вузкім праходзе» і «ён зноў убачыў разлік на ў[з]дзеянне». Злосць, публіцыстыка чыста звяздоўская. Ну і героя гэтая жанчына, вядома, не спакусіла. Ён помніў пра свой народ... сацыялістычную радзіму. Гэта потым, вядома, калі паляжаў з ёй у пасцелі. А сцэны, псіхалагічная матывіроўка ў асобных месцах глыбокія. Праўда, ёсць натуралізм, сялянская грубасць.

Добра:

– Ціха, каханне маё, ціхутка... Дай я сама... Пачакай...

Далей кепска:

Але ён памагаў.

А задума ў Брыля была ўсё ж добрая, усяму памяшала палітыка.

(На палях:

Я штосьці не прачытаў... , вось таму і.... )

*(па штэмпелі – 21.10)*

***

Мае родненькія!

Ад вас прыйшло пісьмо, непрачытанае. Нарэшце радасць. Праўда, і невялікая крыўда: няма даведкі. Паслязаўтра стыпендыя, і калі даведка не прыйдзе заўтра, я згінуў. Вылічаць 50 рублёў, а выплочваюць іх бог ведае калі. Так што на халадзільнік я нічога не дам. Але я гляджу, што вы настроены ваяўніча. Прыйдзецца ў некага пазычыць. Я гэта зраблю, прыехаўшы дадому. Уся надзея на рэцэнзію, якую яшчэ могуць, як кажуць, зарэзаць. І яна, мусіць, калі спадабаецца Шкрабе, усё роўна ў 12 нумар не трапіць.

Хоць я сёння званіў у «Полымя», праўда, крышку пазнавата і Шкрабы не застаў, але наказваў Берце (карэктарка), каб яна перадала аддзелу, што я прашу даваць мяне ў 12. Але там, пэўна, гэтых рэцэнзіяў – як завязаць – і мая не ўлезе. Бо на першы нумар я ім пішу другую. Ды на першы я дамовіўся з «Маладосцю». Рэцэнзія каштуе столькі, колькі гэткая «Украіна», дарэчы, якой я не бачыў.

Даведку, даведку...

Цяпер пра тое, што абяцаю і што раблю. Заадно хочацца спытаць: можа, Пташнікаў ажаніўся, што пачынае гаварыць ад імя гэтых «цупругаў» (па-нашаму варакомскаму). А так – пішу я вам праз дзень. І пра вас не забываюся, бо вас люблю. Люблю таксама моцна, як і заўсёды любіў і буцьму любіць. Калі гавару пра гэтае люблю, я заўсёды заікаюся, нават, бачыце, на паперы. А разу аднаго нейкі стары дзівак гаварыў, што пісаць пра гэта і гаварыць трэба, не думаючы доўга, тады выходзіць шчыра. Магу пабажыцца, што ён махляваў, стары атопак.

Але ўсяго добрага.

Аставайцеся жывы-здаровы.

Ваш тата.

*P.S.* Зарадку раблю. Вось паглядзіце: *(малюнак чалавечка)*

І вадою халоднаю «абліваюся». Але сілы яшчэ не нажыў. Але пакуль ехаць дадому, нешта вырасце на руках.

*(На палях):*

Малюнак Валодзі, дарэчы, ці гэта сам ён маляваў?, прыкалоў на сцяну.

*(Па штэмпелі – 22.10)*

***

Надпіс з талончыка аб грашовым пераводзе 20 рублёў *(ад 25.X.63):*

Дзень добры вам!

Даведку атрымаў. Не ведаю, што скажа галоўны бухгалтар. Грошы ў мяне... вылічылі, бо ў нас з вамі надта іх многа. Наогул, у гэтым годзе мне скрозь не вязе.

Вас пакінуў сумаваць і гараваць. Але скора прыеду. Мусіць, на 9 дзён. Раніцаю трэцяга спадзяюся быць дома.

Абдымаю вас здалёк.

*Тата.*

***

Добры вечар!

Хоць, дарэчы, вечар не такі ўжо і добры: на дварэ па вушы гразі, сёння цэлы дзень снег з дажджом. І халадэча страшэнная. Пачынаю нават думаць пра споднія порткі.

У пакоі, праўда, цёпла, хоць і не вельмі. Крышку холадна ад смутку і адзіноты. Але будзем трымацца... як той казаў.

Сёння цэлы дзень быў заняты гаспадаркаю. Купіў – пакуль купіў, дык колькі аб'ездзіў – шклянку, лыжку, шчотку. Так што прыжываюся...

Заўтра ўжо лекцыі. З 10 раніцы. Я нават перапісаў расклад і набыў сшыткі.

Вось што ў нас маюцца чытаць: палітэканомію, рускую (па выбару) мову, стылістыку, зарубежную літаратуру, эстэтыку, дзіямат, мастацтва, тэатр, тэорыю літаратуры, рускую літаратуру XIX стаг., спецкурсы па Пушкіну і Талстому, і яшчэ ў дадатак творчыя семінары.

Так што хопіць. У снежні экзамены і залікі. На студзень і люты – дадому. Вось і ўсё.

Стыпендыя кожны месяц – 25. Адзін раз, як і ты, Ніна, гаварыла, на рукі памерам 129 рублёў. Дарэчы, стыпендыю мне залічылі з 14. Хоць загада яшчэ не бачыў.

Вось і ўсё. Але перш, чым паставіць кропку, скажу, хоць і вам захочацца, што ем белыя булкі. Крупы – не бачыў. Астатняе ўсё ёсць.

Аставайцеся жывы здаровы.

Яшчэ ўспомніў – ці займаецеся фіззарадкай. Што чуваць у вас? Пішыце. Што купіць? Што на (*незарборліва*)?

Абдымаю і цалую.

*Тата Слава.*

*26.X.63*

*Масква*

***

Дзень добры, мае любыя і даражэнькія!

У нядзелю (гэта значыць трэцяга) буду дома. Ранічкаю. Навалюся на вас сонных і цёпленькіх. І з сённяшняга (ды дзе з сённяшняга!) дня пачынаю скакаць ад радасці, што нарэшце такі, – а разлука, здаецца, цягнулася не два тыдні, а

цэлы год, – убачу вас. Вось ужо і так уяўляю, як буду прыцiскаць вас да грудзей, цалаваць, абдымаць, і мы будзем усе ўтраіх разам, блізенька...

Вось як, мае даражэнькія.

А ці радуецеся вы?

Буду дома цэлых дзевяць дзён. Але пачынаю наракаць і бедаваць нават ужо цяпер, што гэта занадта мала.

Скарэй-скарэй гэтая субота!..

Бяда толькі, што я не зрабіў тое-сёе. Не назапасіўся батонамі (купляць буду пазней, бо счарсцвеюць), не набыў білет (пацікаўлюся ім заўтра) і для вас не падрыхтаваў падаруначкі. Дарэчы, для Валодзі купіў акварыум з дзвюма чырвоненькімі рыбкамі. Рыбкі, як і ўсе кітайскія рыбкі, – чырвоненькія, толькі нежывыя. Акварыум, як і кожны акварыум, з вадою, толькі можна насіць яго ў кішэні – маленькі.

Вось што я хацеў вам напісаць.

А цяпер жменьку іншых маскоўскіх навін.

Знайшоў Сандзю. Знайшоў сам; адрас ад Славы прыйшоў пазней. Быў у яго, ён – у мяне.

У Маскве чэргі за ўсім, нават за тортам, ды яшчэ якія. Наогул, Масква дзіўны і для мяне дваякі горад: па-руску вялікі, дзе-нідзе драўляны, нават з пеўнямі, з беднымі людзьмі, з клуначнікамі, з торбачнікамі, з п’янымі каля лікёра-гарэлачных аддзелаў у магазінах (дарэчы, і маладзенькія дзяўчаткі стаяць, хістаючыся і заплюшчыўшы вочы, толькі не ад сораму, вядома) і сучасны еўрапейскі з шкла і сталі, светлы і разадзеты па апошняй модзе, на шпілечках і далікатны.

Крэмль – гэта нешта даўняе, падфарбаванае. Пачынае падабацца неяк не адразу. Пачынаеш спачатку дзівіцца, чаму Плошча няроўная, чаму ёлачкі каля Маўзалея марныя і чаму на царкве Васілія Блажэннага намаляваны вазоны – так па-сялянску проста і прымітыўна, так, як гэта малявалі некалі на сценах і печах. У архітэктуры старых будынкаў многа ўсходняга. Гэта ўжо не падабаецца. І тады, успомніўшы тыя вазоны, думаем пра самабытнасць рускага мастацтва. І разам з тым пра рускую «жестокость», калі бачым «лобнае месца» і тую вежу, з якое цар глядзеў, як людзям адсякалі галовы, пазнейшы, вядома, не рабіў нават і гэтага – занадта многім пачалі адсякаць галовы.

Мяне, спадзяюся, тут памілуюць, прыеду да вас жывы і здаровы.

Бачыў нарэшце і метро. Падвал – светлы, абліцаваны ў мармур, распісаны рознымі ўзорамі. Гэта станцыі. Электрычка ідзе праз такі цёмны тунэль (падвал), праз які мы ехалі на Каўказе. Прыблізна, вядома.

Хопіць вам навін? Не?

Астатнія раскажу, як прыеду.

Мільён вам бусек.

Дарэчы, ці не пускаеце вы там паціхеньку дымок? Я не куру – слова гонару.

*Ваш тата Чэсік.*
*28.X.63*
*Масква*

***

Як жывы-здаровы, мае даражэнькія?

Што ў вас чуваць? Чаму не пішаце? А маіх пісем ці чакаеце? Мне тут ізноў нявесела аднаму. Хаджу па Маскве, думаю пра вас. Убачу што ў магазіне цікавае і мяркую сабе, што вот купіў бы вам, каб былі грошы. А потым думаю, як іх зарабіць – я ж гультай несусветны. Але нешта пішу, праўда, марудна.

Спраўку, дарэчы, нарэшце прынялі. Можа, пабаяліся, што сапраўды пайду ў

«Известия». Так што стыпуля будзе. А як у вас з грашыма? Але нашто я пытаю. Ці друкуюць там маю рэцэнзію? Я ім напішу крышку пазней.

Дома буду 30 або 31 снежня. Канікулы збіраюцца нам даць аж да 7 лютага. Залікі будуць у канцы снежня. Здаваць будзем пасля зяняткаў. Па шасці прадметах.

Як там у вас з дажджамі? Мусіць, капае на вас.

Дзе былі, куды вы хадзілі ў выхадны? (Серада маецца на ўвазе).

Пішыце мне пра ўсё, пішыце часцей.

Высылаю вам паштовую марку. Бачыце, ёй ужо 50 гадоў. Царская.

Выбачайце за пісьмо сумнае і кароткае. Сумнае, бо адзін у Маскве без вас, кароткае, бо пішу з паштамта, а тут таўкатня і суматаніна.

Цалую вас, абдымаю вас.

Жадаю вам здароўя, весялосці.

Прэч сум! Будзем усе мужнымі!

*Тата.*

*15.XI.63*

*Масква*

***

Добры вечар!

У мяне вечар, 10 гадзін.

Збіраўся вам напісаць, ды ўсё неяк не выпадала. Пішу вам з пошты. Забег сюды, каб усё ж вам напісаць колькі шчырых слоў. Шчырых, добрых, бо я вас люблю. І без вас тут сумую на адзіноце. Але, успамінаючы вас, заўсёды весялею, і ў думках абдымаю вас, і моцна-моцна цалую, і многа раз.

Сёння нядзеля, сёння вы змучыліся, напрацаваліся і, пэўна, спіце. Добрага сна вам!

А я сёння быў за горадам. Сандзя паклікаў пасядзець разам з курсантамі акадэміі ў музей, дарэчы, авіямузей, а ён знаходзіцца кіламетраў 40 ад Масквы.

Вярнуўся дадому ў 6 гадзін. Перасяліўся да гадзін 9. Цяпер жыву ў 238 пакоі. Ён далёка, хоць і не вельмі, ад кухні, і цяпер у мяне не будзе пахнуць цыбуляю.

Што ж яшчэ вам, мае любыя, напісаць? Ага!..

Варочаючыся дадому, зайшоў у Пакроўскую царкву (сабор Васілія Блажэннага на Краснай плошчы). Цяпер гэтая царква ператворана ў музей.

Дарэчы, учора нас, слухачоў, вазілі па Маскве і паказвалі архітэктурныя помнікі горада.

Вось і ўсе мае навіны.

Пішыце вы мне пра сваё жыццё-быццё. Пішыце кораценька, але часцей. Вашае маленькае пісямцо будзе для мяне вялікай радасцю.

Усяго добрага вам.

Яшчэ раз моцна абдымаю вас і цалую куды пападзе.

*Ваш добры тата.*

*17.XI.63*

*Масква*

Тут недзе вы знойдзеце маркі – ад мяне падарунак.

Дарэчы, у ГУМе шукаў, хоць і не купіў бы, бо засталося 7 рублёў (да стыпендыі дажыву), чаравікі. Не знайшоў. Знайшоў прыгожыя для Валодзі, калі да стыпендыі не разбяруць – куплю. Ландатону няма, ёсць хна. Да жаночых, як Александровіч казаў, намэдрыкаў, не прыглядаўся яшчэ.

Яшчэ раз – усяго добрага вам. Яшчэ раз цалую вас.

***

Іду на пошту, напісаў Яну пісьмо. Але, каб вы не сумавалі, і вам некалькі слоўцаў укіну ў паштовы яшчык, можа, зловіце ў Мінску. А то ж вам крыўдна, мае любыя, калі вечарам, цемнатою, навобмацак адчыніце скрыначку, а там – нічога няма.

Дык вось – лавіце сваю радасць.

Навін асаблівых у мяне няма, як няма нідзе ў Маскве ландатону. Вядома, усё ж маскоўскія дзяўчаты фарбуюцца. Хна ёсць, яе прывязу. Дарэчы, ведайце цяпер, што прыеду я недзе пад канец снежня. Можа, 27, можа, 28, можа, аж 30. Потым вам напішу дакладней.


А на гэтай старонцы пакідаю месца для абдымкаў і пацалункаў.
Абдымаю і цалую вас, і яшчэ.
Зноў абдымаю і цалую вас, і яшчэ раз, і так да канца . . .

Ваш тата Слава

Вось ён

Аркуш ліста В. Адамчыка ад 23.11.1963 г.

Як жа вы там жывяце? Я тут усё думаю, што кінуў вас «на произвол судьбы» і незнайся. Да гэтага неяк трохі не падазраваў, што з грашыма ў нас прыйдзецца гэтак туга, хоць з грашыма ў нас заўсёды было нялёгка. Цяпер жа стала горш. Дарэчы, 25 я вам прышлю 50 рублёў. Як жа мне перамагчы гэтую сваю маруднасць, ды нават не маруднасць, а гэтую лішнюю асцярожнасць да кожнага слова. Абрыдла яна мне, гэтая залішняя ўвага да кожнае кропкі і коскі. Страшна абрыдла. А вось пазбыцца яе цяжка. Буду набірацца нахабства. Прышоў, нарэшце, час неяк лягчэй і скарэй пісаць.

Пакой у мяне цяпер добры. За акном вуліца, шум машын, за акном жыццё, а там былі нейкія цёмныя двары і сметнікі, і пахла цыбуляю. Добра было б, каб на ложку сядзела, падкурчыўшы ногі, ты, Ніначка, з вязаннем, недзе тут хадзіў Воўка і прасіў у мяне карандаш і паперу, або марку. Добра было б...

Вось якая ідылія мяне разабрала.

Зрэшты, гэтае ўсё ў нас будзе ізноў.

Не сумуйце, не тужыце. Гэта заадно я і сябе супакойваю.

Ну... аставайцеся жывы-здаровы.

Цалую вас і ў вочкі, і ў ручкі, і ў ножкі. І яшчэ – шчыпаю вас, бо вы, мусіць, забыліся, што я ўмею шчыпацца. Не?

*Ваш тата Слава*
*20.XI.63*
*Масква*

***

Як жывы-здаровенькі!

Пакуль закіпіць вада на чай, я вам пісьмо за гэты час накрэмзаю. Пачынаю эканоміць свой дзень, а ён тут папраўдзе кароткі.

Шэсць гадзін лекцыі, дзве гадзіны на язду, адну – на сход. Вось і воля тутэйшая.

А як там у вас? Як працуецца? Вы ж там цяпер удваіх рабочыя?

Як выкручваецеся ў нядзелю, не на танцах, вядома, а ў сэнсе тым, што ў гэты дзень закрыты дзіцячы сад? Дзе ж бывае Валодзя? На рабоце?

Што робіце пасля работы? Спіце і вяжаце? Так?

А ці цёпла ў хаце, ці не цячэ столь? Нешта вы пра свой быт не пішаце. І наогул, рэдка пішаце. Што ў вас адбірае час?

Пішыце, мае даражэнькія. Можа, злыя за што-небудзь на мяне? Добра. Дапытвацца болей не буду.

У Маскве ідуць кіслыя абрыдлыя дажджы. У Маскве яшчэ цёпла, яшчэ не патрэбна зімовая шапка.

Але пачакайце. Недзе, мусіць, згарэў чайнік.

Не, не згарэў.

Дык вось. У Маскве скора месяц, а мала дзе быў. Не схадзіў у бібліятэку імя Леніна, у Трэцьякоўскую галерэю, у музей Пушкіна. Не глядзеў ні аднаго спектакля ў тутэйшых тэатрах, нават у Доме літаратараў не быў. Вось як. Усё трэба, усё збіраюся.

Куды ж ходзіце вы? Якую сувязь маеце з Дзяржынскам? Як там Антон, не ў войску? Што чуваць у свеце беларускай літаратуры і, у прыватнасці, у вузкім яе коле – «Полымі»?

А на гэтай старонцы пакідаю месца для абдымкаў і пацалункаў.

Абдымаю і цалую вас, і яшчэ раз абдымаю і цалую вас, і яшчэ раз, і так да канца................ .....

.......................................

*Ваш тата Слава.*

Вось ён *(далей ідзе малюнак чалавечка) падае вам рукі, дарэчы, хоча ўзяць у абдымкі*

*(Па штэмпелі – 23.11.63)*

***

Дабрыдзень!

У Маскве лёгкі сняжок і марозік. Лёгкі настрой. Я, стары, бегаючы за маладымі, угрэўся, прастыў і чхаю. А бегаў я, зразу агаворваюся, каб, крый бог, ты чаго кепскага не падумала, за Сандзям, а ён, вядома, за дзяўчатамі. Зрэшты, маскоўскія дзяўчаты, – а ёсць такія прыгажуні, перад якімі толькі ў сваіх творах падае на калені Валодзя Караткевіч, – падабаюцца і мне, як, пэўна, падабаюцца табе хлопцы з Мінска. Ты толькі лішне да іх не прыглядайся. Так, няўзнак, трохі, бо ведаеш, што я думаю пра цябе... Вось сёння іду вуліцаю Горкага і думаю. Трусіцца сняжок рэдкі. Ветрык мяце яго па шырокай і пустой вуліцы. Малады марозік. Настрой бадзёры. І пад гэты бадзёры і вясёлы настрой вось што думаю: як добра, як хораша было на гэтым мілым свеце, каб са мною ішла ты. І як з нейкае дзіцячае радасці спыніў бы цябе тут на людным тратуары, – і няхай глядзяць усе – даў бы табе буську. Вось на што я рашыўся б, пануры і маўклівы чалавек. Вось, як я люблю цябе, вось, як я пра цябе думаю. І мне заўсёды весела ад гэтых думак. Вось і цяпер, закрыю на хвіліну вочы – і ўспомніцца твой носік, строгая твая, ніжняя і добрая губка, успомніцца, якія мяккія і ласкавыя твае валасы, успомніцца нават тое, як ты саромеешся, калі раздзяешся і ідзеш купацца перада мною.

Але добра, Ніначка, мне пара спаць – позні вечар. Вось табе яшчэ песенька сумна-вясёлая ад мяне.

А за окном то дождь, то снег,
И спать пора, и никак не уснуть –
Всё тот же двор, всё тот же смех,
И (лишь) тебя не хватает чуть-чуть. (прапушчана слова)

А вось Валодзю зайчык:
*(малюнак зайчыка з капэрты)*
Ён барабаніць
*Ваш тата Слава*
*24.XI.63*

***

Добры дзень, любыя!

Выслаў вам грошы. 50 рублёў. Атрымаеце перавод, пэўна, разам з гэтым пісьмом, бо адпраўляю ўсё ў адзін час.

Што ты, Ніначка, пішаш наконт голаду і холаду. Няўжо ў Мінску няма цукру і масла? Можа, вам прыслаць? Недзе ў пачатку снежня маецца да мяне прыехаць Бураўкін, які дарма ўсё ніяк не надрукуе рэцэнзію. Нешта там хоча рэдактар скараціць. Дык вось усё цягнулі, каб атрымаць мой дазвол. Нарэшце, будуць друкаваць. Хай яе з гэтаю рэцэнзіяю. Дык вось, напішы, што тут купіць. Перадам праз Гену Бураўкіна.

Навін у мяне цікавых пакуль што няма. Жыву, адзін сумую, адзін радуюся. Успамінаю цябе і Валодзю. Абоіх вас люблю. Усё, што ёсць на свеце для мяне светлае і дарагое – гэта вы. Дык не гаруйце. Няхай над вамі заўсёды будзе яснае сонца. Няхай вас асвятляюць і мае надзеі-радасці.

Усяго добрага.

*Слава.*

*25.XI.63*

*Масква*

Шапку атрымаў. Нашу. Дзякую шчыра.

***

Дзень добры, Ніначка!

Маме купіў і паслаў чаравікі, проста ў Дзяржынск. Нашто, каб яны былі тут у мяне, або ляжалі ў цябе ў Мінску. 38 памер, кошт – 8,70 руб. Але мужчынскія. Жаночых не было такіх. І засталося ў мяне 40 рублёў. Да 15 дажыву, а там, можа, выратуе Сандзя. А там, можа, нарэшце будзе ганарар за рэцэнзію. Але чаго там гараваць. Ці першы раз, не такое пераЖылі. Толькі ты, любачка, не гаруй. Ведай, я цябе люблю, і калі падумаю пра цябе, мне заўсёды радасна.

Ты ў мяне гэтакая прыгожая, гэтакая ласкавая, гэтакая добрая, адзіная на ўсім вялікім свеце.

А свет не такі ўжо і благі.

Я ўсё наракаю на сябе, што падчас крыўдзіў цябе. Нашто і за што, каб хто спытаў. Проста ад свае злосці, якую я цяпер буду заўсёды праганяць. Нашто наогул злаваць – злосць нідзе не памагае. І ты ніколі не злуй на Валодзю. І я не буду. Не будзем злаваць. Добра?

Ну, усяго добрага.

*Слава.*

*26.XI.63*

*Масква*

***

*27.XI.63*

Мая галубка, ты пытаеш, ці люблю я цябе. Гэтаксама, як і раней любіў. Мне здаецца, што лепей, неяк цяжэй, харашэй, асабліва цяпер на адзіноце, у гэтым суме, у далечы. Хоць любіў цябе заўсёды. І заўсёды радаваўся сам сабе, што ты ў мяне гэтакая ласкавая, шчырая, сардэчная, мая самая прыгожая. Калі іду па Маскве, калі ўбачу нешта прыгожае на жанчыне, мне здаецца, мне хочацца, каб гэта ўсё было на табе. Мне здаецца, што ты за яе выглядала б куды прыгажэйшай, куды мілейшай. Я нават у думках сваіх патаемных і глыбокіх не дапускаю, што нехта ёсць за цябе прыгажэйшы. Нешта шчырае прымушае мяне думаць так, хоць ёсць на свеце і прыгожыя дзяўчаты, і яны падабаюцца мне, але ў мяне з табою ёсць нешта шчыра-блізкае, нешта добра прыемнае, і твой голас, і твае рукі, і твае

вусны. Я нават помню іх цяпло, іх ласкавы дотык – што астатнія жанчыны мне здаюцца халодна чужымі, хоць, можа, добрымі і прыгожымі.

Даруй, Ніначка, за гэтыя агульныя словы, але ж я хачу вельмі ласкава, шчыра сказаць табе, што я люблю цябе, вельмі шчыра, хораша, цябе адзіную мілую, самую-самую любімую.

Вось як! Цалую цябе ў вочкі, у носік, у лобік, у жывоцік, у каленца, у пальчык, кусаю за вушка, за бародку, за попку. Кусаюся нямоцна з ласкі, з любасці. Ну, верыш, міленькая мая, Ніначка-галубка, што я цябе люблю.

Я веру ў тое, што ты верыш.

Ніначка, дадому прыеду ў панядзелак 30 снежня. Якім доўгім будзе гэты месяц. Як хочацца быць разам з табою, блізенька-блізенька.

Аставайся жыва-здарова.

Яшчэ раз цалую цябе і Валодзьку нашага. Вітаю вас са снегам, з першым здаровым марозікам.

*Слава, твой на векі вечныя.*

***

Ніначка, мая ласкавая, дзеньдобры!

Атрымаў тэлеграму ўчора вечарам, сёння цэлы дзень, ну гадзіны тры, хадзіў па магазінах, камбінізона прыгожага нідзе не знайшоў.

Лічыцца мехавы – ёсць такія і каштуюць 35 р. з нечым, памер 26 – а на самой справе гэты мех, як у Янінай шубе, – штучны, рыжы і брыдкі. Я не рашыўся купляць. Дарэчы, чаму Адзе, яе маленькай дачцы, патрэбен такі. Ці, можа, я не зразумеў? Каму гэта? Чаму не паведамілі, які памер? Я глядзеў 26. І яшчэ адно, чаму не выслалі грошы. Я нават, прызнацца, і не рашыўся купляць, бо баяўся застацца без хлеба. Ёсць тут камбінізоны іншага фасону – шэрсць наверх. Таксама шэрсць штучная, але чорнага і сіня-шэрага колеру – 38 рублёў. Другіх не бачыў, хоць, праўда, не быў у магазіне на Ленінскім праспекце.

Ніначка, ці спадабаліся Валодзю чаравікі? А табе? Ці атрымала ты грошы?

Як твае і Валодзі здароўе? Чаму так холадна ў хаце? Часцей адкручвай пробкі.

У мяне пакой надта цёплы, холадна толькі ад таго, што ён пусты, што няма цябе, Валодзі.

Але скора ўбачымся. Яшчэ месяц. Я лічу дні. Дзень адышоў, і я рад, што бліжэй да гэтае сустрэчы, калі мы будзем разам, калі, нарэшце, буду абнімаць цябе, маю цёпленькую, добрую, ласкавую, і цалаваць у вочкі, у губкі, у носік, і як мне будзе салодка, мая адзіная, мая самая-самая-самая любая. Ніхто не любіў гэтак на свеце, як люблю цябе. Вось як.

Цалую яшчэ раз вас абоіх.

Цябе і Валодзьку.

*Ваш папа*

*28.XI.63*

У нас марозік – 16 градусаў. Прыемна, як віно.

***

Мая любая,

атрымаў пісьмо твае крышку злое, абыякавае, але на цябе не крыўдую.

Не, ніколечкі. Чым вось толькі табе дапамагчы. Якую, як кажуць, раду даць, каб крышачку падвесяліць цябе? Дома буду не 30, як пісаў, а недзе 28. Я так рвуся дадому, каб паглядзець на цябе. І колькі ў маёй душы было б весялосці, каб я вось раптам убачыў цябе, каб ты зайшла да мяне ў пакой. Ты была б сонцам.

Цэлым вялікім сонцам!

Але і тут – у адзіноце, у холадзе я адчуваю твае цяпло, мая любачка. Успамінаю

пра цябе з такой вялікай радасцю, што цяжка табе і ўявіць – і ў душы неяк адразу цяплее і настрой мой робіцца вясёлы. Вось чаму і пішацца іншы раз пісьмо табе з добрым настроем.

Наконт гэтага касцюма. Я нават і не ведаю, што рабіць. Прыгожых няма.

Добра, заўтра яшчэ раз схаджу ў магазін.

Памер 26. Куплю для дзяўчынкі, пэўна, ружовы.

Дарэчы, перасылка таксама за іх кошт.

7 дзень нараджэння ў Сандзі. Нешта ў знак павагі трэба было б прыпаднесці яму. Наогул я разгубіўся.

Позна. Аставайся жыва-здарова, любачка.

Беражы сябе, Валодзьку.

Абдымаю, цалую вас.

*29.XI.63 Слава*

Заўтра напішу больш падрабязнае пісьмо.

***

Ніначка, галубачка,

пара спаць, а мне не хочацца аднаму. Хочацца пагаварыць з табою, прытуліцца да цябе, да гэтакае цёпленькае, гладзенькае, шаўковае, ласкавенькае.

А лягу – буду думаць пра цябе, пра нашу хату – такую ўтульную, здаецца мне. І светлую, бо ты ў ёй.

Заўтра нядзеля, у цябе заўтра клопаты – рабочы дзень. Дарэчы, ты пісала, што паедзеш з Валодзькам у Дзяржынск. Можа, ты ўжо там. І дома весяла. Я вельмі рад, калі табе весяла. Ты прыгожая тады, калі ў цябе добры настрой, і сумнаю прыгожая, і злою. Усякаю.

А я заўтра збіраюся ў Ленінскую бібліятэку. Збіраюся пісаць апавяданне, якое ўжо развязалася, але ўсё ніяк не сыплецца як з мяшка.

Апавяданне пішу пра нас з табою. Праўда. Пра Скідзель, пра восень. Пра добрае чалавечае шчасце, пра каханне. Ці зразумеюць мяне ў рэдакцыі? Але чхаў я на іх. Я напішу пра тое, што я адчуў адзін раз у жыцці – вялікую чыстую радасць, асветленую табою. Як у мяне прад вачыма праяснеў свет, гэты хмуры свет і на які я хмура і з-пад ілба глядзеў.

Я тады зразумеў людзей, я любіў іх. Пра гэта варта напісаць. Над гэтакім апавяданнем я папрацую з радасцю, і гэтая радасць будзе двааякаю, не, траякаю: радасць добрага ўспаміна пра цябе, радасць успаміна пра нешта шчаслівае маё – і радасць працы. Вось як, даражэнькая.

Вядома, – тут будзе і адступленне ад праўды жыцця. Можа, і вуліца будзе не такою, і хата, і ноч, і месяц, і сонца. Але будзе праўдзівае адно – настрой. Плынь думак і настрою.

Ну, бывай здаровенькай,

мая каханая, мая адзінюсенькая.

Пара спаць. Дабранач!

Цалую цябе, абдымаю цябе праз тысячу вёрст.

І майго сынка, Валодзьку, цалую і абдымаю многа раз.

Так яму і прачытай.

*Папа Слава. 29.XI.63*

***

Дзеньдобры!

Крыўдуеш, Ніначка, што я мала пішу. Бадай кожны дзень па слоўцу ў паштовую скрынку кідаю. А ў нядзелю, здаецца, не пісаў. Нават не помню добра.

У панядзелак быў на тэлеграфе цэнтральным – напісаў, з нейкага паштовага

аддзялення, адкуль адсылаў Валодзевы чаравікі, – напісаў, у аўторак напісаў, учора напісаў, пазаўчора, здаецца, таксама. Сёння – зноў.

Ды мне сумна, мне чагосьці нехватае, я, здаецца, адчуваю, што не зрабіў чагосьці добрага, калі не напішу табе, мая любачка. Ды хіба ж я магу цябе забыць. Кожны вечар, варочаючыся ў інтэрнат з заняткаў, я з надзеяй думаю, як было добра, як было б мне радасна, каб я ішоў дадому да цябе, да Валодзі. Каб я пагаварыў з вамі. Не, «сварыцца» я не хачу. Я цяпер даю сабе зарок ніколі наогул з табой не «сварыцца» і не злаваць на цябе, а толькі любіць, шкадаваць. І так будзе. І так ёсць. І так было.

Але дзе я быў у нядзелю, пытаеш. З Сандзем, а разам з ім і яго нейкая знаёмая, ну, не нейкая, а дзеўка знаёмая, з якою ён, як цяпер кажуць, «гуляет» або «встречается» (словы, якія вызначаюць, па-мойму, не чалавечыя адносіны) хадзілі ў Трэцьякоўскую галерэю. Прабылі там гадзін тры. З раніцы я знаёміўся з Ленінскай бібліятэкай.

У панядзелак, атрымаўшы стыпендыю, хадзіў па магазінах. У ГУМ зойдзеш – і паўдня.

Я пісаў табе, але яшчэ раз напішу, што купіў маме чаравікі і адаслаў у Дзяржынск.

Шапку зімовую даўно нашу.

Пісьмы твае прыходзяць, шкада, Ніначка, што не кожны дзень.

У інтэрнаце ў нас цішыня. Усе пазашываюцца, як прусы ў (*неразборліва.*) і сядзяць.

Нас, беларусаў, – траіх. Я, Адамовіч, Мурaвейка. Бываю іншы вечар і ў таго і ў другога. Адамовіч збіраецца чытаць лекцыі ва ўніверсітэце. Яму нават прапанавалі загадваць кафедрай літаратуры народаў СССР. Адмовіўся.

Быў тут Васіль Быкаў. Гаварылі, нават па чарцы зрабілі. Не мы з ім удваіх, а ўсе – і Адамовіч, і Аскоцкі (Літгазета), Драч (украінскі задзірысты паэт) і яшчэ нехта.

З нашых слухачоў у мяне самы блізкі хлопец Муса Галі – башкірскі паэт – шчыры і слаўны хлопец.

Вось маё жыццё-быццё.

Пішацца слаба. Заняткі. Семінары. Сумятня. Адзінота. Гарэлкі не п'ю. Да дзяўчат не хаджу. Хлопец, як кажуць, пажондны. А можа, і дзівакаваты. Так цягне дадому. Так прывык жыць разам з табою, чуць цябе, бачыць, што іншага жыцця не ўяўляю. Наважыў зімою шукаць у Мінску работу.

У студзені мне прышлюць стыпендыю, а 30 снежня атрымаю 25. Ты не бядуй, Ніначка. Я ведаю, цяжка і табе.

Але пра гэтыя цяжкасці памяркуем разам, калі я прыеду, каб лепш іх ліквідаваць.

Ну, любачка, цалую цябе ў твае салодкія губкі, у добрыя вочкі.

Твой Слава.

І Валодзьку цалую, каб не крыўдаваў.

*1.XII.63*

***

Мая даражэнькая,

нарэшце, я стаміўся. Напісаў табе кіпу пісем і папраўдзе стаміўся, выпісаўся.

Бачыш як. А можа, і слова тое, якое ты кожны дзень чытаеш, крышку сцерлася для цябе і выліняла. Не?

Сёння цэлы дзень сядзеў у Ленінскай над апавяданнем, пра якое ты ўжо ведаеш, апавяданне пра радасць. Я толькі спадзяваўся, што будзе радасць, а нагнаў у яго столькі суму (старонак шэсць), вядома, суцяшаючы сябе, што пра вясёлае ўсё будзе канец, якога яшчэ не відаць. Але, здаецца, я дайшоў да таго месца, адкуль

сапраўды (гэта павінен адчуваць мой герой, ён ідзе да каханае) падзеі пойдуць сапраўды радасныя, і чым далей, тым болей. Такая мая задума.

Ніначка, як здароўе ў Валодзі? Ён кашляе? Ён не ходзіць у сад? І як у цябе самое адчуванне? Не хварэеш?

Трэба неяк сцерагчыся і берагчыся. Ну, не хварэйце, будзьце здаровенькімі, мае любыя, і вясёлымі.

Пісьмо мае – крышку вялае. Напісаўся, насядзеўся – вось і размякнуў. Зараз пайду на вуліцу. Занясу пісьмо на пошту.

Але ў мяне ёсць яшчэ многа сіл, каб абняць вас моцна-моцна, і пацалаваць вас, і пашкадаваць. І нават, калі хочаце ведаць, занесці з першага на пяты паверх. Праўда! А то вам там цяжка хадзіць па гэтай лесвіцы, ды, можа, яшчэ і ў цемнаце.

Падаю вам руку, калі цяжка, памагаю.

Адчуваеце, я нават развесяліўся. Дык не сумуйце, не гаруйце – я вас люблю, мае коцікі, тыя мяккія добрыя, вясновыя, на якія цёплым днём недзе ў красавіку перад маем прылятаюць добрыя пчолы. Вось якія вы коцікі – пахучыя, шчырыя. Тыя коцікі, ад якіх заўсёды вее цяплом, вясною, сонцам, першымі сарамлівымі фарбамі.

І яшчэ адзін сказ – я вас люблю, шкадую, помню, дума мая з вамі, і сэрца, і вочы мае бачаць вас – і дома, і на рабоце, і тады, калі ўстаяце, і тады, калі кладзецеся спаць, і адзетымі і голенькімі, і добрымі і злымі.

Ніначка, у Маскве прадаюцца мандарыны – прывязу на Новы год. Ёсць яблыкі, грушы. Ты мне павінна перад стыпендыяю, г.зн. недзе 20 снежня, напісаць, што я павінен купіць у Маскве. Ёсць тут у магазіне сінтэтычных тавараў і кофты прыгожыя, праўда, не часта і чарга за імі, і спадніцы, і чаравікі.

Вось падумай і напішы, што табе трэба. Толькі абавязкова рост і памер. Дарэчы, я і сам ведаю, што табе трэба. Паліто... Але я гавару пра драбнейшае.

Я ўспомніў пра халадзільнік. Колькі за яго павінны мы? У студзені заплацім. Мне дадому прышлюць стыпендыю.

Выбачай за прозу.

Яшчэ раз цалую цябе ў добрыя вочкі, у салодкія губкі. Прыеду дадому – ва ўсім разбяромся. Не бядуй, не гаруй. Я цябе люблю, я цябе шкадую, як ніхто нікога на свеце.

*Слава*
*3.XII.63*

***

Як жывы-здаровы? Чаму рэдка пішаце? Я ж вам штодня – пісямцо.

Няма ад вас весткі – я так і думаю, што вы там захварэлі, таму і маўчыце. Стогнеце, бядуеце паціхеньку і няма каму вас пашкадаваць. Праўда?

Патрывайце крышку – засталося дваццаць дзён – мы будзем разам. Не бедаваць, не стагнаць, вядома, а радавацца, што мы праўда такі нарэшце разам.

Учора быў выхадны – я не хадзіў на заняткі. Пісаў, сумаваў адзін, і ўсё, і, як заўсёды, думаў, як добра, каб вы былі са мною. Вам там, нябось, крышку лепш – вы ўдваіх.

Вечарам да мяне прыходзіў Сандзя, гаварылі, хадзілі па горадзе. Так прайшоў дзень.

Сёння я ў Ленінскай бібліятэцы. Крышку пішу, крышку чытаю Брыля і нейкія старадаўнія «Беларускія ведамасці». Заўтра ў нас семінар па дыямату. Зараз пайду дадому чытаць канспект.

Ніначка, ты пішаш мне, што бачылася з Паповым. Цікава, што казаў ён наконт маіх апавяданняў. Друкуюць іх там у «Нёмане» ці не?

А ў «ЛіМ» я і так не званіў. Відаць, яны так і не надрукавалі рэцэнзію, каб іх чорт пабраў.

Але сварыцца не буду.

Развітаюся з вамі да заўтрашняга дня.

Цалую цябе і Вовачку.

Мае любыя, я мала напісаў вам. Даруйце. Я ж і так вельмі многа гавару з вамі – у думках, вядома. І перад сном з крыўдаю абнімаю падушку і, вядома, тут жа ўспамінаю: «Так, як наш Валодзька».

Яшчэ раз цалую вас. І як хачу абняць – і адчуць, што вы каля мяне. І нам добра. І мы маўчым.

*Ваш папа Слава.*

*6.XII.63*

Пішы мне, мая галубка, мая любая, мая ласкавая. Кахаю цябе бясконца-бясконца... Цалую цябе ў добрыя вочкі, і помню, якія яны былі салёныя, калі я ад'язджаў з дому.

*Ліст Ніны Глобус да Чэся Адамчыка*

*****

*6.XII.63.*

*г. Мінск.*

*Славачка, мой галубок! Ты атрымаў маё злое пісьмо? Не злуй, ладна! Больш не буду злючкай. Трэба было мне пачакаць, супакоіцца, а потым пісаць пісьмо. А я напісала пад дрэнны настрой.*

*Ты пішы нам. Мы вельмі, вельмі рады кожнаму твайму слову, кожнай вестачцы ад цябе.*

*9-га да нас прыехала мама (баба Ядзя) праведаць нас. Ёй вельмі сумна. Антоша пайшоў служыць. Хата зусім апусцела. Апусцела яшчэ і таму, што цёця Броня атрымала аднапакаёвую кватэру і выбралася. Жылі яны з мамай вельмі дружна. Разыходзяцца, плачуць. Абедзвюм сумна.*

*Мама атрымала бацінкі і пісьмо. За ўсё табе вельмі ўдзячны.*

*Ты пытаеш пра здароўе Валодзі. Яшчэ кашляе. У сад ходзіць. Учора мы з ім хадзілі катацца на горку ў парку Чалюскінцаў з санкамі. Каталіся доўга. Не хацеў ісці дадому. Яму было горача, а ў мяне вельмі змерзлі ногі. Чуць адагрэла дома.*

*Ты пішаш, што ў апавяданне пра радасць нагнаў многа суму. Без суму не бывае радасці. Каб мы не ведалі суму, то як маглі б мы зведаць радасць.*

*Слава, а чаму ты ходзіш працаваць у бібліятэку? Што ў цябе дома няма ўмоў? Што табе мяшае?*

*Славачка, абавязкова прывязі Валодзю мандарынак і цікавых цукерак на ёлку. Добра?*

*Ты пытаеш, што купіць мне? Што купіш, тое будзе добра. Мне ўсё патрэбна. Абута я хаджу ў старэнькія гумовыя боты, нашу на работу адну, на каленях працёртую, спадніцу, або такое ж плацце і хаджу з той сумкай, з якой хадзіла на пляж. Проста сорамна з шубай насіць такую сумку. Ага, разбедавалася! Але за тое я за халадзільнік ужо разлічылася. Там крышку яшчэ павінна, але мама сказала, каб я больш не ўспаміналa. Вось за кватэру не плаціла, толькі за сад. Табе вышлю 12-га рублёў 10, добра? Ці мала? Гэта за баціначкі Вовіны.*

*Як святкавалі Сандзін дзень нараджэння?*

*Прывітанне табе ад Стральцовых, Раманавых, Пташнікава. Будзь здароў. Цалуем з Валодзем цябе, гладзім па галоўцы.*

*Твая сям'я.*

***

Галубка мая,
як жывецца вам?

Як ваша здаровейка?

Чаму маўчыце? Што робіце гэтымі днямі?

У мяне сёння нядзеля. Цяпер сіні вечар за акном.

Перад гэтым было крышку, можа, і занадта весела ў маім пакоі. Быў Сандзя са сваім таварышам і іхнія дзяўчаты. Прыйшлі яны сюды ўчора. Сандзю 27 год. З гэтага выпадку паднялі чарку. Танцавалі. Спявалі. І начавалі тут.

Выбачай, Ніначка, што я пішу табе пра чужую весялосць. Можа, там табе, мая любая, надта сумна. Можа, вы там яшчэ хварэеце ўсё. Шкада, што я не ведаю, як здароўе ў Валодзькі. Ці паправіўся, ці выздаравеў ён там?

Няма ад цябе пісямца. Пішы мне, мая прыгожая, самая ласкавая мая. Сумую тут, гарую без цябе. Цяпер і падумаць цяжка, што нехта можа без ніякага клопату жыць без сям'і.

Я звыкся, не ўяўляю цяпер, як гэта не бачыць цябе, не чуць твайго голасу, не адчуваць тваю ласку, тваё цяпло, не абдымаць цябе, не цалаваць, маю гэтакую добранькую, прыемна-цёпленькую.

Ты адзіная ў мяне, адзіная на ўсім свеце для мяне.

Цалую цябе ў прыгожыя вочкі, у салодкія губкі, у мілыя ручкі, у цёплыя ножкі, у мяккую спінку. Выбачай, дарагуська мая, за прыгожыя словы. Я люблю цябе. Мне хочацца сказаць табе ласкавае слова, хочацца, каб ты верыла ў гэта, каб ты адчувала маю дабрату і любасць.

Ну, аставайся здаровенька.

Не сумуй, глядзі Валодзьку, глядзі сябе. Не хварэй.

Яшчэ раз абдымаю цябе, – гладзенькую, добранькую, цёпленькую маю.

Цалую нашага сынка, Валодзьку, нашага мілага хлопчыка.

*Слава.*

*8.XII.63*

Засталося 19 дзён. Скора дома, скора разам.

***

Ніначка,

дзякую за пісьмы: і за злое, і за добрае. На цябе не крыўдую і не злую. Бо я, калі пачынаю злаваць, дык сапсую настрой і сабе, і другім, ды яшчэ надоўга. Мне трэба вучыцца быць добрым, гаварыць людзям прыязнае слова, – я ж гэта не ўмею, я ўмею адмаўляць, ганіць, зневажаць. Але мусіць, не толькі... Няўжо я табе, Ніначка, не сказаў добрае, ласкавае слова?.. Сказаў. Праўда. А калі не гаварыў падчас, дык думаў, што ты ў мяне самая прыгожая і разумная. І ведаю, чаму ў цябе кепскі настрой: работа, клопат дома, Валодзька нездаровы, я – недзе, з грашыма гэтая бяда. Раздумаешся пра ўсё – вось і засумуеш, зазлуеш. Але будзе ў нас і добрая хвіліна – і была яна, – і вясёлая. Свет не такі ўжо кепскі, як мы іншы раз яго малюем. Гэта праўда.

Ніначка, прыеду – уладзім усё. Пагаворым, памяркуем. У студзені з грашыма ў нас з табою стане лепш. І думаю я вось пра што... Калі на кінастудыі будзе месца – пайду туды на работу. Пра гэта мы яшчэ пагаворым разам. Што скажуць другія – чхаць.

27 або 28 буду дома. З 23 снежня да 26 здаём залікі. Цяпер у нас семінары, лекцыі. Вось такое і жыццё. Апавяданне – яшчэ ў дарозе. Напісаў цэлы сшытак, і яшчэ адзін будзе. Потым скарачу, калі што лішняе ёсць. Спісваю ўсё з цябе, бачыш, праз 700 кіламетраў. Не карыстаюся натурай, як мастакі старажытнай Грэцыі і Рыма. І ў іх некалі выйшла Венера Мілоская.

Што выйдзе ў мяне – не ведаю. Дэталі будзем удакладняць дома і звяраць – якая ў мяне памяць.

Ну, аставайся жыва-здарова.

Не гаруй. Цалую цябе і сынка Валодзьку.

Беражыце здароўе. Вось што.

*9.XII.63*

*Слава*

***

Ніначка,

а ты мяне не слухаеш. Палохаў рэмнем, а ты – сваё. Прыслала грошы. Дзякую, даражэнькая, а як жа сама жыць будзеш? Святым духам?

Але хопіць... Сварыцца не хачу. Хачу мірыцца з табою. Шкадаваць цябе хачу. Абнімаць цябе хачу. Тут Муса мяне ўсё дакарае: як гэта так – жонцы пішаш пра адно, а ў самога, нябось, усю ноч дзяўчаты рагочуць. Гэта ён пра Сандзевы імяніны. А адзін башкір дык проста сказаў: «Ну, беларусы...» Тут проста пра нас, як у Гаграх. Вядома, прайшла такая пляяда: Макаль, Габрусёў, Вольскі.

Я вось, усё кепскае скідаючы на другіх, успомніў Брыля. Ён неяк раз заўважыў: «Вось прыедзе такі (ну як я цяпер) дадому, прыгрэецца каля жонкі, і ціханька: я не, вунь той...». Самыя вялікія сплетнікі – гэта мужчыны. Вось што сказаў Брыль.

Ну дык я маўчу пра другіх. Хоць, праўда, ёсць тут адзін, што вітаецца са мною, як Кулакоўскі. (Помніш, як Кулакоўскі з некім вітаўся на вакзале). Вось і плётка.

Праўду Брыль казаў.

Я жартую, Ніначка, а табе, можа, не да жартаў. Але не трэба так моцна гараваць, галубка. Усё будзе добра. Праўда. А я цябе люблю... Ты ў мяне і прыгожанькая і разумненькая. Цалую цябе ў шчочку.

Ніначка, Рэня прыслала пісьмо, просіць, каб я для цёці Мілі і для яе хлопцаў купіў чаравікі. Вось і ўсе мае навіны. Дарэчы, ці носіць Валодзя тыя чаравікі, што я яму прыслаў. Ці не слізка яму ў іх. А лыжы мы яму наладзім. Якіх там дэталяў не хапае. Напішы. Тут у мяне пад бокам магазін спорттавараў.

Вяршок на ёлку мы, здаецца, летась пабілі, трэба, мусіць, купіць. Добра, што помнім. Распытаю пра ўсё перад стыпендыяю. Вось чую, што ў Беларусі сёння было 12-17 градусаў марозу. А мае вы даражэнькія, мерзнеце. Як жа вас нагрэць? А мне неяк і сорамна гаварыць, што ў пакоі вельмі цёпла. Каб вы там не прастудзіліся. Ды яшчэ гэтая бібліятэка...

Позна ўжо, Ніначка. Дабранач.

Пішы, як вы там з Валодзькам грэецеся.

*Ваш папа Слава*

*10.XII.63*

***

Ніначка,

паслухаўся цябе – мыюся. А пакуль вада грэецца – пішу. Дарэчы, па радыё чую нешта сваё на чужыне, і сваё кепскае – добрае: «Ой, шумяць лясы зялёныя».

Я нават заспяваў – вось які я нацыяналіст. У Маскве я не чуў беларускага слова. А ўсё ж сумую без яго.

Сёння бачыўся з Кулакоўскім, але ён гаварыў са мною і з Адамовічам чамусьці па-руску. Ва ўсякім выпадку, стараўся. Можа, дома ў Мінску я гэтага і не заўважыў бы. Дома нешта многага не заўважаеш...

Ніначка, а чаго гэта ты з нейкім, як кажуць, скептысам пішаш: «...можа, я нікому радасці не прыношу». А я з сынам што для цябе? Я пакрыўдзіўся. І Валодзьку скажу, што ты пра яго думаеш. Як гэта так, мая дурненькая? Ды ты – цэлая вялікая радасць для нас. Я ўсё гавару табе пра гэта, гавару...

Не, вось што я зраблю на добры лад. Вазьму спачатку рэмень – адлуплю,

проста па голенькай п..., а потым толькі пашкадую і суцешу. А то шкадуй цябе, гладзь па галоўцы, а ты...

Адным словам – заслужыла бярозавае кашы. І пакаштуеш, як прыеду дадому.

А цяпер вось што зрабі. Папрасі Пташнікава, каб ён узяў у Сачанкі мой зборнік – некалі Барыс казаў, што ён мае лішкі – і прышлі мне. Заадно прышлі і 12 нумар «Маладосці» (1962), які я аддаў Папову, дарэчы, і зборнік яму аддаў. Гэта трэба ўсё для Адамовіча – ён аддасць перакладчыцы.

Добра? І не крывіся, а выкупляй сваю віну.

І яшчэ не ўсё. Перагледзь мае паперы. Знайдзі адрас Медвядоўскага. Паглядзі там апавяданні, якія перадрукаваны – «Міг бліскавіцы», «Песня» (поўнасцю), «Па часе», «Што скажа яно», «Прыгаршчы жывое вады» – усё, што знойдзеш, і памяркуй, як усё гэта можна пераслаць мне. Добра?

Іду мыць-абмываць сябе. Выбачай, што не паспеў пагаварыць з табою.

І не чмыхай, што – бедненькая, забытая, закінутая, што ніхто не шкадуе. Усё гэта выдумала сама. Усё гэта няпраўда. Няўжо ў нас з табою не было радасці? Як гэта так? Ніначка... я разводжу рукамі. Не веру. Была, ёсць, будзе.

Дарэчы, сённяшняе тваё пісьмо прачытаў Адамовіч. Смешна, чытае чужое пісьмо і думае, што сваё. Дзівак чалавек. Нашы прозвішчы тут блытаюць, і маё пісьмо прынеслі яму. Я тут рагатаў з яго, а ён чырванеў, саромеўся і прасіў прабачэння. Ён чамусці пачаў чытаць з канца. Потым мне расказваў. Нябось прывык за два гады да пацалункаў. А Кулакоўскі дык зусім тут смешны – пазычыў штаны, каб канты не памнуць у касцюмных. «Братачка, як жа гэта перад жанчынамі ў портках з памятымі кантамі?»

Слова пра свой раман скажа (ён тут хоча выдаць «Растанемся ненадоўга»), а потым «От, каб дзе ўдаву... А то ж мне і пераначаваць няма дзе».

Шкада, што няма Макаёнка. Ён бы тут разыграў бы яго, як некалі ў рэстаране. Словам адным, «смешон старик».

Але хопіць гэтага смеху.

Цалую цябе ў носік. І ты ім вельмі не круці.

*Твой шчаслівы Слава.*

*10.XII.63*

***

Мае любыя!

У мяне тут клопат – ці не мерзнеце. У Маскве марозікі. Вось і думаю, як жа вас нагрэць. Пасылаю вам сваё цяпло і гэтыя кветкі (Размова ідзе пра кветкі на паштоўцы. – *А.Г.*) , як сімвал, што прыйдзе скора вясна, што будзем разам. Скора, мае любыя. Сёння не маю часу многа напісаць. Позна. Увесь вечар забраў Кулакоўскі. Ёсць навіны, пра якія ты, Ніначка, не пішаш, пэўна, не ведаеш.

Заўтра – будзе вам вялікае пісьмо, а сёння – цалую вас, абдымаю і іду спаць.

*Слава*

*11.XII.63*

***

Дзень добры, дарагуська!

Што робіш там? Пра што думаеш? Ці не забылася, што ёсць недзе на свеце я. Ці не змерзла? Мароз усё большае. Холадна ў кватэры? Грэйце ваду. Глядзіце за радыятарамі. Не прастуджвайцеся. Вось якія ўстаноўкі. А чым жа я болей вам памагу, любенькія? Словам, надзеяй!

Што чуваць у мяне? Чакаем сесіі. Ды можа не так сесіі, як тых апошніх дзён,

калі, пахадзіўшы па Маскве і што-небудзь купіўшы, можна будзе спакойна ехаць дадому. Засталося два тыдні.

Кулакоўскі пабыў тут пару дзён, і то кажа, што насумаваўся. Учора прасядзелі з ім цэлы вечар. Скардзіўся на «Полымя». І праўда, што за людзі ў рэдакцыі, не ўзялі на маё месца Кулакоўскага – ён прасіўся, і не адзін раз – а гэтую сіплую старушку Клышко, што толькі смярдзіць, як нешта гнілое. Смешна – адмовіць пісьменніку, ды яшчэ якому, а ўзяць нешта калялітаратурнае, ванючае.

У «Полымі», як я адчуваю, нелады, свара, нянавісць. Гэта было – цяпер пабольшала. І злосць і хітрасць.

На маё пісьмо хлопцы нават не адпісалі. Вядома, Пташнікаў там надуты, маўклівы. Ты чула, што яго «дело» разбіралі на партбюро. Дзяўчына, ці не тая рабенькая зязюля, паскардзілася ў Саюз, што Пташнікаў прымусіў яе зрабіць аборт і выгнаў. Наогул – гэтыя весткі надта гадкія. Чыгрынава хочуць там выжыць. «Полымя» – гнілое балота. Адзін перад адным хітруюць. Я ўяўляю, як цяпер Сачанка, нават пабойваецца загаварыць з Пташнікавым, каб не падумалі што-небудзь пра яго, каб не выгналі. Як ён цяпер кленчыць перад Скрыганом і лашчыцца да Клышко. Фу!

Цяпер жа Кулакоўскаму прапануюць месца ў «Полымі». Сам Танк. Хочуць скалупнуць або Пташнікава, або Чыгрынава. Але Кулакоўскі ўсё ж чалавек. Ён кажа: «Прасіўся, дакляравалі, а ўзялі Клышко, а вось цяпер заграбаць жар не пайду».

Дык вось што робіцца ў маладой літаратуры.

Дарэчы, Клышко трымаецца яшчэ ў кінастудыі. Вось дзеяч! На ўсе рукі майстар. І плавац, і лётаць, як гусак. Праўда, Адамовічу сказалі, каб ішоў на гэтае месца. Ён адмовіўся. Ёсць выпадак пагаварыць з ім на гэты конт.

Адамовічу прапанавалі кафедру літаратуры народаў СССР ва ўніверсітэце Ламаносава. Нашто яму гэтая кінастудыя.

Ніначка, ці знайшла мае кнігі? Ці прышлеш мне? Я ведаю, што табе не хочацца, але трэба. Адамовіч, калі захоча, можа дапамагчы. Ён добра памог Быкаву выйсці на ўсесаюзную арэну, а з гэтай арэны Быкаў і ціснe цяпер на беларускія падмосткі. Вось як. А мне не лішнім было надрукавацца ў Маскве, і табе, Ніначка, было б выгадна...

Ну, аставайся здаровенька. Цалую цябе, маю залаценькую, у шэрыя вочкі, у шыйку, у жывоцік, у каленца, у пальчык.

І яшчэ – кусаюся за п...

Пішы, як здаровейка ў Валодзі. Кашляе? Пасылаю яму марку і цалую яго. Малюнак яго – ваза (абстракцыянізм) вісіць у мяне на сцяне.

*Ваш папа Слава*
*12.XII.63*

***

Мая цёпленькая, родная,
прыгожая Ніначка!

Як жа ты грэешся з Валодзькам? Дзе, у каго? Дома? А дома, пэўна, холадна.

У Маскве марозы. І хоць я і мярзляк, але мне будзе цёпла, калі будзе цёпла вам абоім.

Каб вы хаця там не прастудзіліся. Каб былі здаровенькія.

Я адчуваю сябе добра, не хварэю, толькі чыхаю і то вельмі рэдка.

Пішу і вось чую, што пацяплее. У Маскве сёння 21, заўтра – 17. Пацяплее і ў Мінску, пэўна.

Ну, вось. У мяне адлягло на сэрцы.

Сёння – 13, дзень самы звычайны без навін. Я слухаў лекцыі, прышоў дадому, цяпер пішу вам.

Цікава, ці надрукавалі мяне ў «ЛіМе», ці ідуць апавяданні ў «Нёмане»?

Сюды прыязджаў супрацоўнік «Нёмана» Бурсаў, які мяне перакладаў, але са мною не бачыўся, быў заняты... Старажылы літінстытута казалі, што маё апавяданне «Срэбра на павуціне» ў сваім перакладзе ён аддаў у «Молодой колхозник» (з 1 нумара – «Заря»), і яно будзе надрукавана ў другім нумары.

Вось і ўсё, што хацеў распытаць і расказаць.

Цалую вас, любенькія, абдымаю, грэю... Разам цёпла, праўда? разам добра, праўда?

Скора будзем разам.

Мацуйцеся, не панікайце, не вешайце свае кароценькія носікі. Цалую вас у халодненькія носікі, хай не мерзнуць. Ваш папа Слава.

*13.12.63*

***

Дзень добры!

А дзень і праўда добры: нядзеля, пушысты сняжок, марозік. І радасць, што скора буду дома – засталося 10 дзён – што буду з вамі, блізенька, і цёпленька стане мне і падумаецца, што ніколі і нідзе далёка не быў ад вас. А цяпер цалую вас здалёк – у вочкі, у шчочкі, у ножкі, у ручкі – мае Ніначка і Валодзька. Мая сямейка –

*ваш папа Слава.*

*15.XII.63*

***

Дзень добры, мая «такая»!

Ну, такая, што не верыш мне. Ты – дзівачка, вось што табе скажу. І якую гэта фальш хочаш знайсці? І які табе ток больш за ўсё спадабаўся. Ці не тая пагроза, што я адлупцую цябе па голенькай і мяканькай попе. І трэба. Бо ты вельмі раскісла. Нешта хочаш сказаць, а ў вочы – баішся. Ну, напрыклад, наконт «філасофіі» жыцця. Трэба, Ніначка, жыць – і хораша адзывацца, і хораша думаць. У мяне, даражэнькая, гэта самы вялікі клопат. Бяда, што я непаваротлівы, заняты нейкаю драбнатою. Вось і памагай мне – выкарабкацца. Смялей. Толькі без злосці. Крыўдзіцца я на цябе не буду. А цяпер наконт курсаў. Знайду работу – не паеду. Пра гэта я гаварыў з Кулакоўскім, з Адамовічам. Абмяркуем яшчэ дома з табою.

На гэтых курсах у мяне ўзнікла так раптоўна і нечакана многа праблем, якіх я не прадбачыў. А нават такая з іх, што сядзець дома аднаму з дня ў дзень – надаядае, што сябе трэба трошкі падвясельваць. Што, нарэшце, я – чалавек і што, ліха яму, нарэшце, грэшны. І што – ніякі не святы. І што – без цябе кепска: хочацца твайго цяпла, ласкі. І што цябе я так моцна люблю. І тут скажу – дай бог, каб ты мяне так любіла. І гэта не фальш, мая нявера. А каб пакараць цябе, пісаць прыгожых слоў не буду. Буду – толькі суконныя і сухія. А грубы суконны абрэзак, ведай, падыходзіць толькі для аднаго – пачысціць чаравікі. А для душы патрэбна нешта мякка далікатнае, добрае, цёплае. Ага.

Пераканаў ці не? Мусіць, толькі крычаў, злаваў. А цяпер хачу памірыцца – дай мякенькія губкі – пацалую моцна-моцна, каб быў сінячок. І ў бародку хачу даць буську, і ў шыйку, і...

Учора, Ніначка, была нядзеля. Быў марозік з раніцы, сняжок. Я ішоў на пошту, крышку радасны, і паслаў вам паштоўку. Потым крышку пісаў, потым, вечарам, схадзіў у ЦДЛ (Цэнтральны дом літаратараў) на дзень паэзіі. Потым спаў. Прачнуўся – на зямлі панядзелак. А цяпер вось толькі вярнуўся са сталовай, куды хадзіў разам з Мусой (мусіць, трэба «а») Галі.

Кулакоўскі тут яшчэ ўсё жыве: знімае «птушкі», якіх наставіў рэдактар. Дарэчы, праз Кулакоўскага я і яшчэ тут адзін студэнт з Гродна сварыліся з камендантам. Студэнт прывёў Кулакоўскага ў інтэрнат, а я пасяліў у пакой (наш аднакурснік жыве недзе ў жонкі, а месца яго пустуе), у які, узяўшы хабар, вядома, камендант хацеў прывезці кагосьці другога. Вось чаму ён гразіўся нас пакараць. Але студэнт – хлопец яшчэ той – дакляраваў напісаць на каменданта ў міліцыю, што селіць прыезджых без прапіскі на 3-6 месяцаў, і той адразу абмяк, прыціх і... вядома, дазволіў.

Вось і ўсе навіны.

Апавяданняў яшчэ не палучыў. Трэба іх аддаць у выдавецтва «Савецкі пісьменнік». Перш – пагавару з Адамовічам – яго знаёмыя просяць што-небудзь для перакладу. Ён тут усё носіць Чыгрынава, які прыслаў яму усе свае талмуды, але Чыгрынава адхіляюць.

Я табе пісаў, што маё апавяданне «Срэбра на павуціне» І. Бурсаў аддаў у «Молодой колхозник» (назву часопісу мяняць не дазволілі). Не ведаю, што будзе. Там друкуюць Платонава (памёр) і Тэндракова. Куды ж мне да іх. Гэта – гіганты. Платонаў – у першы, Тэндракоў – у трэці. Калі я ў другі – паміж імі – гэта вялікі гонар.

*Твой Слава.*

*Для буські месца няма – бачыш.*

*16.XII.63*

***

Сямейка, дзень добры!

Навін – ніякіх: сядзеў дома, заходзіў у выдавецтва «Советский писатель», наконт зборніка – трэба здаваць, а з дому яшчэ нічога няма.

Ніначка, мусіць, не дастала мае кнігі.

Заадно хацеў здаць і вершы Дзергая, але зборнік не складзены, не ўзялі.

Ну, мая любенькая, скора будзем разам. Хочацца дадому, да вас. Насумаваўся.

Не прастуджвайцеся там. І аставайцеся здаровенькія.

Цалую вас у вочкі і шчочкі.

*17.XII.63*

*Ваш папа Слава.*

***

Нінуська, дзень добры!

Які там у цябе клопат? Чаму не пішаш мне? Чакаю тваіх пісем, а іх няма. Можа, пакрыўдзілася за што? Не?

І кнігі не высылаеш. Пасварыўся б з табою за гэта, але ж сам вінаваты, што не дагадаўся ўзяць рукапісы. Ведама – непрактычны чалавек. А тут якраз залікі на носе – 23 першы – спецкурс па Талстому, 26 апошні – гісторыя рускай літаратуры 19 стагоддзя. Так што заняцца выдавецкай справай і не будзе калі, але трэба. Трэба будзе яшчэ глянуць сёе-тое ў магазінах: і макароны нам патрэбны, і крупы, а за ўсім гэтакім тут чарга на паўкіламетра, як за безразмернымі панчохамі. Дарэчы, наконт гольфаў гаварыў са знаёмымі, можа, і купяць, бо гольфы – праблема нават для масквічоў. Пальчаткі глядзеў – чорных няма, аднак спадзяюся, што куплю таксама.

Ніначка, бачыў тут прыгожыя чорныя чаравікі, жаночыя, 36 памеру ў 32 рублі коштам і вельмі шкадаваў, што не было грошай – купіў бы. Тут іх носіць уся маскоўская жаночая палавіна. 25 у дзень стыпендыі я іх яшчэ пашукаю.

Нінуська, што такое спешнае трэба купіць для Валодзькі. Скажы. І скажы яму, што малюначак яго – ваза – вісіць у мяне на сцяне, і кожнаму, хто прыходзіць да мяне, я паказваю, якога ўжо выгадаваў мастака-абстракцыяніста, хлопчыка. Як жа ён там маецца? Ці атрымаў мае наклейкі?

Ну, бывай здаровенька. Чакай мяне дадому. Я цябе вельмі люблю – хоць і не верыш сабе – і цалую цябе, і кусаюся і абдымаюся, і сумую па табе, і мая дарога будзе вясці мяне ўсё жыццё толькі да цябе –

*Твой Слава (хоць імя маё сапраўднае Чэсік) на вякі.*

*18.XII.63*

*Масква.*

***

Мае даражэнькія,

што гэтак высока пазадзіралі носікі? Не пішаце. І круціце хвосцікамі – кнігу прыслалі, паперы прыслалі – і ні прывета і ні атвета, хоць бы слоўца. Нямая забастоўка? За што? І чаго надзьмуліся? На першы раз дарую – пішу. Бо хто ж вас пашкадуе, калі не я. Вы ж для мяне самыя родненькія... хоць заслужылі за такія выбрыкі бярозавае кашы.

Вось толькі здам залікі. А іх тут скінулі ў адну торбу – у панядзелак аж два – Талстой і рус. літ. XIX стаг. А на нядзелю Сандзя ўзяў білеты. У тэатр. Вядома, пайду. А ў суботу Кулакоўскі дае ад'езднае, а прыезднае будзе ў Шамякіна і Пестрака. Яны селяцца да нас у інтэрнат – няма месца ў гасцініцах.

А як жа жывецца вам?

Дарэчы, што рабіць з гэтым ганарарам? Куды яго вышлюць? Рэцэнзію маю сапсавалі паўнэт. Выкінулі маё, дарэчы, самае лепшае – дапісалі сваё, бездапаможнае: што гэта за пачатак? Нарабілі памылак. Але ліха з імі: гэтакія сілы, як у «ЛіМе», наўрад ці выпусцілі б насценную газету, а ім даверылі рэспубліканскую (далей закрэслена).

Добра, даражэнькія, скора буду дома, недзе 28 раніцай. Буду з вамі, а цяпер – у думках абдымаю вас і цалую.

Ніначка, мая пяшчотная, мая цёпленькая, мякенькая, як даўно не была пад галавою ў мяне твая ласкавая рука –

*твой Слава*

*20.XII.63*

***

Мае даражэнькія!

Пасылаю вам па бусьцы і надзею, што скора буду дома.

Навін мала. Учора, Ніначка, атрымаў тваё пісьмо.

Пальчаткі куплю. Спадзяюся – гольфы таксама. З Дзяржынску ёсць заказ купіць чаравікі – 37, 40 памер. Вось і ўвесь мой клопат.

Ну, не замярзайце, не хварэйце.

Яшчэ раз абдымаю вас і цалую ў добрыя вочкі.

*Ваш папа Слава*

*21.XII.63*

***

Нінуська, мая добранькая.

Ці не забылася, што на гэтым свеце гаруе і яшчэ ўсё шморгае носам – бо прастудзіўся – большы Адамчык. Не? Глядзі, добранькая... Ён жа тут усё ўспамінае цябе і хочацца яму пацалаваць цябе ў пяшчотную шчочку, у шэрыя вочкі. І думае ён, як ты жыва-здарова, як гадуеш сынка Валодзьку.

Вось як.

Ніначка, дома буду, пэўна, 28. 26 і 27 – аддаю на пакупкі, а можа, і адзін дзень. Бо 26 маюцца яшчэ быць заняткі, але на іх, пэўна, не пойдзем; хто ходзіць на лекцыі пасля залікаў.

Сёння ад Рэні атрымаў пісьмо. Піша, што Антон служыць у Карэліі, у глухамані, у стройбаце. Яму не пашанцавала, яго абманулі. Яны проста круцілі, каб зацягнуць яго ў войска. Зрок жа ў яго слабы, а ён, дзівак, мусіць, саромеецца прызнавацца. Я ведаю гэтую медкамімсію – з нашага мінскага райваенкамата паслалі служыць хлопца з прабітаю галавою. Антон, вядома, гэта зусім другое.

Ну, усяго добрага, мая галубка. Навіны адны – рыхтуемся з Мусой да залікаў. Праштудзіравалі рус. літ., застаўся яшчэ Талстой, а часу мала, як і заўсёды для шкаляра.

Цалую цябе яшчэ разок,
і Валодзьку цалую.
*Твой Слава.*
*22.XII.63*

***

Ніначка, любая,
дзівак ты вялікі – дзякую табе за шчырасць.

Праўда, мы старэем. Але чаго плакаць. А што быў «только семейный долг» – свіст, бо нічога ты, аказваецца, не бачыла. І на пошце трэба было прыглядзецца: да таго акенца, дзе можна атрымаць «до востребования», не падыходзіў, здаецца, з 58 года, ды такою рэчкаю пісьмы цяклі да мяне толькі твае (са Скідзеля).

Адкуль гэтая падазронасць? Дзівачка ты мая, і чаго ты ўцякала. Чаму не клікала мяне дадому. Я пэўна быў бы рады, а можа, і злы, падумаўшы пра тое самае, што і ты.

Ніначка, ты мая адзіная – нашто так, так абыякава нават груба закрэсліваць усё, дзівачка.

Што ж я ўтойваў і хаваў ад цябе? Адное: што ў тваім сэрцы быў нехта другі, можа не ў сэрцы, можа ў памяці. Ты зацята маўчала, я злаваў. Што ж, думаў і думаю я: усё будзе добра, калі ты будзеш шчыра і аддана кахаць мяне – я дарую ўсё, мне больш нічога не трэба ад цябе, мая любая. Я нікога не ведаў ні да цябе, ні пасля цябе. І які дзіўны, рады быў я, спазнаўшы першую блізкую радасць з табою. Я гэта помню, пра гэта можна толькі напісаць у апавяданні, калі яно ўдасца.

Дарэчы, і гэта ўсё я не таіў ад цябе.

А цяпер пра «юбку». Хіба я шкадаваў і шкадую? Вось зарабіць, вядома, цяжэй, чым шкадаваць. (Грошы маю на ўвазе).

Яшчэ раз – дзівачкаю ты стала без мяне і плаксіваю, і скептыкам, але ўсё ж тою самаю добраю, прыгожаю, ласкаваю, і цёпленькаю, і маладою (вось што ты сталееш, я не заўважаю). А падазронаю стала напэўна без мяне за гэты месяц. І я цябе люблю, і дазволь гаварыць тое, што ў мяне на сэрцы. Бо і праўда, некалі ачарствэю, састарэю, тады не скажу.

І біць цябе трэба і любіць трэба... І што мне рабіць з табою?

Але каб вось цяпер зайшла ў пакой – найперш абняў бы ды моцна-моцна даў бы буську.

Ну, заставайся здаровенька і глядзі Валодзьку, і шкадуй яго, і буську дай. Скажы, што прыслаў папа. Які ён ужо вялікі разумнік, наш сынок.

Вось я «и пофилософствовал». Дарэчы, залік па філасофіі я здаваў сягоння. Засталося яшчэ два – руская мова і стылістыка. Заўтра маюся іх здаваць, паслязаўтра прымушаюць сядзець на лекцыях, проста просяць. 28 – я дома. Ну, давай, галубка мая, памірымся – цалую цябе ў шэрыя вочкі (і які тут Чэхаў?), у цёпленькія і добрыя губкі, «што рэчут няпраўду», і ў шыйку, і ў жывоцік, і ў каленца, і ў пальчык –
*твой Слава.*
*24.XII.63.*

Тацяна Сапач



...Лепей буду адна.
Я сыходжу ў туман...

# Раннія вершы

## *Рукапіс, знойдзены ў бацькоўскай хаце*

***Паэтка Тацяна Сапач (26.8.1962 – 27.12.2010) за сваё жыццё пабачыла выдадзенымі два зборнікі ўласных вершаў: асноўны «Восень» (1991) і беларуска-англійскі «Няхай не пакіне нас восень / Do not abandon us, Autumn» (2008). З аднаго боку, лічылася, што ўсе вершы Тацяны надрукаваныя. З іншага – было незразумела, адкуль у вясковай дзяўчыны з мястэчка Маркава, якая адразу пасля школы скончыла журналістыку ў БДУ, такая высокая паэзія, такая дасканаласць верша, такая музыка слова – адразу, «без разгону».***

***Абедзве таямніцы раскрыліся сёлета вясною, калі ў хаце Таніных бацькоў адшукаўся рукапісны зборнік ранніх вершаў – ад зусім юных, школьных і традыцыйных да тых, у якіх пазнаецца аўтарка «Восені». (Некаторыя з гэтых твораў і друкаваліся ўжо ў маладзечанскай раёнцы задоўга да першага зборніка.)***

***У цэлым жа Раннія вершы складаюць поўны кантраст зборніку «Восень» – эстэцкаму, поўнаму філасофіі і***

***маркотных настрояў. Гэты – амаль цалкам пазітыўны, просты, «народны». Тут – спрадвечная беларуская чалавечая праграма – этычная і эстэтычная. Гэта як глеба, на якой вырасце Тацяніна высокае мастацтва чыстай красы.***

***Дапускаю, што да сёлетняй вясны ніхто й не здагадваўся пра існаванне Ранніх вершаў. Магчыма, пра рукапісны зборнік можна было б і не ўспамінаць, калі б вершы працягвалі пісаца, і эстэтычная карціна мела шанец на іншае завяршэнне. Але так не здарылася. І мы атрымалі завершанасць карціны не з працягу, а ад пачатку.***

***Тут няма яшчэ жорсткае моўнае дысцыпліны. Некалькі вершаў напісаныя па-руску. Няма тут ні грамадзянскіх кантэкстаў, ні гарадскіх матываў. Большасць вершаў напісаныя ў школьныя гады, апошнія – на самым пачатку студэнцтва. Гэтыя вершы – развітанне – з дзяцінствам, з вёскай, з блізкай прыродай. І ў развітанні гэтым шмат радасці і прадчування новага жыцця.***

**Сяргей Дубавец**

## *АБ ШЧАСЦІ*

Шчаслівы той, хто ўпершыню ў жыцці
Спазнае сам цану кавалка хлеба,
Хто зможа доўгі, цяжкі шлях прайсці –
Не проста жыць пад гэтым зорным небам.

Шчаслівы той, хто ў радасці спаткання
Празрыстую слязу крадком змахне,
І той, хто словы шчырыя прызнання
Шаптаў калісь, нібы ў салодкім сне,

І той, хто перапоўненай душой
У цішы ранка песню заспявае...
Ды ўсё ж найшчаслівейшы, пэўна, той,
Хто шчасце гэта для другіх стварае.

** * **

Я збіраю ў пярэсты букет
Краскі сціплыя роднага поля,
Што ўвабралі ў сябе сонца свет
І дыханне вятроў на прыволлі.

З-за пшанічнай сцяблінкі, здалёк –
Пэўна, шэптам сказаць нешта хоча –
Пазірае мне ў твар васілёк,
Як чыесьці вялікія вочы.

Нібы ў яркі агеньчык паўночны,
Што прыветна шле промні свае,
Я гляджу ў васільковыя вочы,
Ды ніяк не прыпомню: ў чые?

## АДЛЁТ ПТУШАК

Гуляе ў пажаўцелым лісці вецер,
Над полем пралятаюць журавы,
Схілілі вербы над ракою вецце,
Стаяць маўклівыя, пустыя паплавы.

Асеннім днём і радасна, і сумна
Глядзець, як адлятае шумны вырай,
І слухаць, як разважліва і ўдумна
Развітваецца з намі песняй шчырай.

Сумна таму, што восень наступае,
Лістота ціха падае на дол,
Буслы буслянку з жалем пакідаюць,
Сувой вятроў кудлаціць лес вакол.

А радасна, бо ведаем – вясною
Зноў вернуцца крылатыя сябры
З надзеяй, з марай, з першай баразною,
Што пракладзе араты-трактарыст.

Ляцяць, ляцяць гракі і гусі
Над шэрай, апусцелаю зямлёй,
Крычаць на развітанне дзякуй, мусіць,
Садам зжаўцелым і апырсканым расой.

І вераць птушкі, што вясна настане,
І будзе гэта на яву, не ў сне,
Аднойчы ранкам у смузе світання
Зноў песню шчасця прапяюць вясне.

## УСПАМІН

На бязмежных прасторах
любімай зямлі
Дні маленства шчаслівага
ўдаль праплылі.
Успамінамі поўняцца думкі мае,
І былое ў свядомасці зноў паўстае.
...Вось бягу я па роснай траве
напрасткі
Да жытнёвых палеткаў –
збіраць васількі,
У вачах – летуценнасць,
дзіцячыя мары,
Зззяе светлая ўсмешка
на радасным твары,

Загарэлыя рукі, а босыя ногі
Ўсё бягуць, не шукаючы
лепшай дарогі,
А на русай галоўцы –
з рамонкаў вянок,
У драбнюткіх вяснушках
кірпаты насок...
Падрасла я намнога –
мне ужо ўтрая болей,
І ў жыцці я не буду, напэўна,
ніколі
Бегаць так па калючай
ад росаў траве,
Што ў цудоўную казку
сцяжынкай заве...
Як зайздрошчу я той басаногай
дзяўчынцы,
Што па лузе бяжыць у
блакітнай хусцінцы!..

### *ВЕРАСЫ*

Верасы... Прыгадалі мне лета,
Лёгкі подых жартлівага ветру,
Цішыню і нясмелыя словы,
Сонца ўсход, нібы верас, ружовы.

Верасы, верысы... Каб вы зналі,
Колькі суму мне зноўку нагналі
Вашы кветкі пад колер світання.
Помню, зоркі на неба знікалі,
Мы апошнія словы сказалі,
І настала хвіліна расстання.

Заціхалі таропкія крокі –
Ты пайшоў у ружовыя сны.
...........................................
Зноў, як памяць аб леце далёкім,
Зацвілі па лясах верасы.

### *МНЕ ПРЫСНІЛАСЯ ЛЕТА*

За акном у белым плацці сцюжа
У віхурным танцы ліха кружыць,
Дзесь жалобна вецер завывае,
І снягі, снягі да небакраю.

Толькі мне чамусьці сніцца лета
(Мілае і радаснае, дзе ты?)
За акном – сняжынак рой імклівы...
Дык, навошта, сны,
ка мне прыйшлі вы?

Можа, гэта ён, мароз-гарэза,
Мне малюе іх чароўным пэндзлем?
Хоча ў хітрыя свае ён сеці
Заманіць буяючую квецень,
Потым ёю шыбы упрыгожваць
І красой іскрыстай заварожваць...
Вось чаму прыснілася мне лета –
Вокны ў лісце-папараць адзеты,
Толькі ззяюць не зялёным
шчасцем,
А халодным сіверным багаццем.

...Лета, лепш здалёк махай рукою,
Не прыходзь ка мне ў мароз зімою.
Не хачу, каб папараць замёрзла
І застыла прыгажосцю мёртвай.

### ЛЕТА

Імчыцца істужкай-сцяжынкай,
Прыціша хаду на хвілінку
І нам усміхнецца прыветна
Дзяўчынка-гарэзніца Лета.

Ва ўсмешцы іскрацца рамонкі
І смех, як крынічанька, звонкі.

Гараць васільковыя вочы,
Сама – як танюткі расточак,
А косы – пшанічны палетак –
Такая прыгожая Лета.

Суніцамі пахнуць далоні,
А ногі з травою гамоняць...
– Прысядзь, ты ж стамілася...
– Дзе там! –
Смяецца нястомная Лета.

Бяжыць і бяжыць па сцяжынцы
Дзяўчынка ў хусцінцы-дажджынцы.
Вясёлкавым ззяннем сагрэта
Дзяўчынка шчаслівая Лета.

* * *

Дарога, выгнуўшы спіну,
Нясе удалеч мой аўтобус.
Праз час і некалькі мінут
Я буду дома, буду дома.

Там, на аўтобусным прыпынку,
Ніхто-ніхто не сустракае
Сваю маленькую дзяўчынку
(Сямнаццаць хутка, а – малая).

Каб хоць у нечым быць дарослай,
Падфарбавала вейкі, вусны,
Бязлітасна абстрыгла косы
І стала рыжай з цёмна-русай.

Але для маці я малая
І па-ранейшаму дзяўчынка.
Чаму ж ніхто не сустракае
Там, на аўтобусным прыпынку?..

* * *

Едзем да дзядзькі, які з-за мяжы,
Пэўна, навёз чамаданы
Экстравагантных замежных “якшы”.
Эх, каб было па карману!

Маці ўздыхае. Купіць бы дачцэ
Туфлі на тонкім абцасе,
Дзіва-каралі, як сонца ў рацэ,
Каб зіхацелі на шчасце.

Каб жа вяскоўцы хаця
не згубіцца
Недзе ў далёкай нязнанай сталіцы
Паміж “маланак”
і фірменных джынсаў
У светла-шэрай дзіцячай
спаднічцы.

Толькі дзяўчына
ўпэўнена ў іншым:
Шэрань спаднічкі – не
шэрань душы.
Нешта ў блакнот, летуценная,
піша –
Думкі далёка ад модных “якшы”.

* * *

На душы –
калі не ноч, дык прыцемак,
Аднекуль стома,
як збавенне, прыйдзе...
І ужо не разабраць:
цябе пакрыўдзілі
Ці ты кагосьці без віны
пакрыўдзіў?

* * *

Я сыходжу ў туман.
Ахінаюся ім, нібы вэлюмам.
Быццам колас нязжаты, адна,
У густой сырадоевай белі...
Не, прабачце,
чаму ж я адна –
За празрыстай фіранкай тумана
Нехта зноўку гукае.
Адклікнуцца?
Лепей буду адна.
Я сыходжу ў туман...

***В. ДЗЯДКОВАЙ***

На будзённасць, дакучлівасць,
шэрую дробязнасць
Ціха ён ападаў,
таямнічы і велічны,
Чысты, белы, нянаскі,
Нібы з мары і вечнасці
іншай прыйшоўшы,
Ціха ён ападаў...
Цалаваў непрыкрытыя плечы рабін,
І яны, сарамлівыя, зноўку зардзеўшыся,
Апускалі дадолу махнатыя вейкі...
Ціха ён ападаў...
Мы кудысьці спяшаліся,
і спяшылі трамваі,
таксі і тралейбусы.
Мы яго не заўважылі –
мы кудысьці спяшаліся...
Ціха ён ападаў...
І дзяўчынка-падлетак
Прашаптала разгублена:
– Бачыце – снег!..

Мы спяшылі –
яе зразумець не паспелі.
А ў сувоі сняжынак
дажджом рассыпаліся слёзы...
...Я прыпомніла –
гэтак калісьці рассыпала
Жменю шчырасці ты
ў затуманены фальш.

### *ПРЫСВЯЧЭННЕ*

Назойлівыя, як сляпень у поўдзень,
Таўкуцца думкі, блытаныя, смутныя:
– Ці застанецца?
А ці з часам пройдзе?
Абернецца ці мёдам,
ці атрутаю?

Апалі пацеркі рабіны па зіме,
Агнём убогім дагараць на снезе.
А што ж рабіна?
Новыя прымерыць,
Старыя ж падсвядома перакрэсліць.

Не перакрэсленай,
не дагарэўшай быць, –
Патрэбнай, неабходнай,
як дыханне.
Не полымем сярод сумётаў стыць –
Ільдом гарэць.
Табе ад нейкай Тані.

** * **

Хачу туды, дзе сонца неспавітае,
Дзе боль і сум бязлітасна скаваны
Усмешкамі, нібыта ланцугамі,
Дзе нас няма, таму там, пэўна, лепш.

Стаю на строме, і мяне,
бяскрылую,
Дарэмна вецер адарваць стараецца
Ад безнадзейна сумнае зямлі.
Я рукі падыму... і не ўзлячу...

А там, унізе, нехта па-зямному,
Каб папярэдзіць блізкае падзенне,

Працягне рукі мне: “Лаўмо!”
Не зразумее,
Што я не падаць, а ляцець
збіралася.

* * *

Злітуйся, мама!
Не гавары:
– Вось ты і вырасла, доню...
...Ты – маладуха. І дзед не стары.
Бабка з хваробы не стогне.

Я шчэ змяшчаюся плаксай-гарошынкай
Ў створках нястомных далоняў.
...Злітуйся, мама! Не трэба, харошая –
“Ты ўжо дарослая, доню...”

Нехта пакрыўдзіў, і ноч напралёт
Кропіш падушку слязамі...
Цёплыя рукі. Прызнанне маё –
Я шчэ маленькая, мама...

* * *

*О.Т.*

Яшчэ не расцвітала рута-мята
Купальскай ноччу для яе ў лясах,
А ўжо вянок дзявочасці –
расплатай –
Яна на дзень заручын прынясла.

Няма пытання: любы
ці нялюбы...
А рэхам “го-орка!” над сталом
гуло
І некранута вішнявелі губы,
Ды соладка чамусьці не было...

* * *

Святла! І ветру! –
і вясна зрывае
Снягоў азызлых брудныя бінты.
Прастрэленая сонцам, ажывае.
А ў зрэнках здрадны халадок застыў.

Адчую кожнай найдрабнейшай
клеткай –
Жыву!
Вясна – дарога і трывога,
І хутка ўжо на скронях у планеты
Блакітнай жылкай запульсуе
Волга.

* * *

*А.Л.*

Пралескавымі пялёсткамі
асыпаліся вёсны,
Святочная сінеч нябёсаў
у мутнай вадзе адцвіла.
Заплямленыя воскам
праменняў, ляжаць барознамі
Маршчыны ля воч, як ростані –
Тужлівыя цені святла.

Каханне распята, як госпад,
на пыльным крыжы інтэр'еру.
Не любіць... Датлела вера...
Да ўласнага бог прыкут.
І сыплюцца ціха пялёсткі
І так не балюча раняць,
А восенню раны крывавяць,
Калінавым сокам цякуць.

* * *

У правалах вачэй, як у часу правалах
Між вады (ці бяды?) не знаходжу прычала.
Ўшчэнт – надзеі ладдзя ў акіяне адчаю! –
і правалы вачэй, як праспекты начамі –

Ні агня,
ні цяпла,
ні жыцця...
На калені!!
Разарвіце ў шматкі пратаколы сумненняў!
Пракляніце сябе і свае пакаленні,
Да касцей абгарыце на лёзах сумлення!

Непарочнасцю ззяла –
абалеілі звадамі,
за спіною шушукалі,
жэрлі паглядамі:

бач, знайшлася якая, да грэху няшчадная!
Ці падставілі рукі, калі яна падала?

Не патрэбны удачлівым слабыя ролі...
Не пускае да бога ключнік без пароля.
Перасуды – прысудам...
Страшней сутарэнняў...
Адпяваем высокае.
Славім падзенне!!

* * *

Калі бяссільны,
сілы не стае
Знайсці ў сабе насенне
спячай сілы
І разбудзіць яе, расцемяшыць,
растрэсці...

Не дагарэўшы, не кажыце,
што
датла згарэлі.
Можа стацца так,
што ссыпе вецер
вас пяском ганебным,
і вы не дагарыце,
а датлееце...

* * *

Дайце мне цішыні!
Не спыняйце гадзіннік,
Не завязвайце глоткі грымотам,
Не чапайце:
хай голасна скардзіцца сінеч,
Што над вухам равуць самалёты.

Шэпт – уголас, і думкі – уголас!
Гучней!
Сны і цені – уголас, уголас!
Стогалоса сцвярджайце, што вы...
Толькі мне –
Ці-шы-ні!..
Я знясілена-квола

На світанні прашу,
як галодны скарынку,

Цішыні – стаць дарослай
і
слабаю,
Каб пачуць і адчуць:
узлятаюць фламінга,
Белы пух пакідаючы яблыням.

* * *

*Сорвись теперь слеза с твоей ресницы –*
*И грузно покачнется шар земной.*
Вл. Савельев

Пахіснулася цяжка зямля.
Паралелі, як нервы, збаляць,
Абарвуцца...
Але неадрыўныя
Ад блакіту стрыжы легкакрылыя,

І пад стрэхі не вернуцца.
Гора мне! –
Будуць, помсцячы, крыламі чорнымі,
Хутаць неба жалобаю вечнаю.
Аплываюць грамнічныя свечкі –

Значыць, будуць грамы! Беражы,
Зберажы яго, слабая сіла!
Я б, напэўна, цябе не прасіла,
Каб магла без сустрэчы пражыць.



Валеры Дубоўскі



...чаму мы, беларусы, такія сціплыя...
Хлусіць пра нас ёмка, а напісаць праўду і сваё назваць сваім... няёмка...

# Цягам імгнення быцця

***Згадка пра апошнюю сустрэчу з Рыгорам Барадуліным***

Пакуль ліфт падымаецца, дзверы ў кватэру ўжо адчыненыя гаспадыняй. Валянціна Міхайлаўна ветліва сустракае і праводзіць да Дзядзькі Рыгора.

Звычайны па невялікасці сваёй мінскі пакойчык, які ўвабраў усё існаванне паэта: і мінулае, і сённяшняе, знітаванае з днём заўтрашнім.

Незвычайны каўчэг, на якім ратавалася, збіралася да купы, шукаючы духоўнага прытулку ў складаны, пераломны час свайго лёсу, усё беларускае. Свечка душы яго, дагараючы, грэла і далёка кідала святло на пуцявіну нашых сумневаў і спадзеваў.

У чатырнаццаць гадзінаў і дзесяць хвілінаў мы весела павіталіся. Словамі. Рукамі. Вачыма. Шчакой да шчакі, па традыцыі – трэйка.

Яму ніколі не хібіла напачатку параспытваць. Пра сям'ю, пра жыццё-быццё. І толькі затым, не надта шматслоўна, – пра сябе.

– Зяць в-вось сёння зайшоў... Хлопец Дамінікі. Асобна ад нас спрабуюць жыць. Справа маладая... Быццам бы хлопец добры... Дамініка Кумпяка (ката) з сабой забрала, а гэты вось з

намі... Рысік, – павярнуўшыся да пісьмовага стала, Барадулін махнуў рукой і смяхотна, лагодна закругліў. – Гняздзечка звіў дый дрыхне... Страмнік...

З пабытовых банальнасцей гаворка памалу перацякла да спраў больш сур'ёзных.

– Прачытаў, Дзядзька Рыгор, Вашую нізку ў «Новым часе». Дзякуй за асалоду...

– Яшчэ не бачыў, са спазненнем прыносяць... Хоць офіс іх побач...

– А за «Вушацкі словазбор» – асобны дзякуй. Чытаеш – душой купаешся. З мясцінаў майго дзяцінства быццам словы – са Шклоўшчыны, з Талачынскай, Аршанскай зямлі.

– Вушачы, Полаччына – побач... Адна гаворка, адна мова... Віцебшчына, Магілёўшчына, частка Міншчыны... Усё вельмі падобнае.


*Ля дома ў Вушачах. 31.07.2010*

– Лексіка адна. Толькі з дзясятак-другі знайшоў крыху інакш перакручаных слоў. Іншым разам адна літара, адзін гук іншыя – і новая афарбоўка.

– Крывіцкая зямля, прарадзіма. Побыт аднолькавы. А ў побыце слова кruцілася, шліфавалася... Ва ўжытку мова і развівалася. Цяпер таго няма... Чаму й хацелася захапіць, запісаць і пра гульні дзіцячыя, і пра ўсялякія пад'ялдычкі. Жніво – сваё жыццё мовы... Зіма – сваё... Пяшчота... Лаянка – сваё. Каляды тыя ж... Вось помніце, калядавалі?

– Валачыліся...

– Во-во, валачыліся...

– Валачобныя – людзі добрыя... – падтрымаў я.

– ...Валачыліся, замачыліся... – Дзядзька Рыгор заспяваў. Ціхім светлым голасам, з лёгкім, звычным і такім прывабным, набытым у апошнія, «бяззубыя», як ён казаў, гады, заіканнем, калі першы гук ці склад альбо нават слова разок-другі паўтараецца.

Рэфрэн спяваем разам: «Хрыстос васкрэс, Сын Божы».

Лёгка і да месца ён успомніў і дачытаў свой неверагодны беларускі рэп, як бы мовілі сучасныя тэлевізійныя маладзёны. (Але што гэта я! – нацыянальнае тэлебачанне не для нацыянальнага генія, Народнага паэта).

...Валачыліся, замачыліся.
Хрыстос васкрэс, Сын Божы.

Васілёва жонка прала тонка.
Хрыстос васкрэс, Сын Божы.

Прала тонка, бела бяліла.
Хрыстос васкрэс, Сын Божы.

Ой ляцела сойка праз Васілёва полька.
Хрыстос васкрэс, Сын Божы.

Дый украла сойка Васілёву жонку.
Хрыстос васкрэс, Сын Божы.

Хто не дасць яечка, той не засмяецца.
Хрыстос васкрэс, Сын Божы...

Прастора і час змяшаліся, перапляліся. Перакуліліся.

– А ў В-вас хадзілі? – Пытае.

– Яшчэ як! І мяне, малога, хлопцы старэйшыя з сабой бралі. Загваздка тут у чым? Бога ж, помніцца, у пяцідзясятыя гады не было. А быў Сталін. Двум неба замала. Мае бацькі, настаўнікі, мусілі былі даводзіць пра тое ў школе вясковым дзеткам, а ў клубе іх бацькам. Праўда, кут маці аздобіла бажніцай, хоць самога абраза ў хаце не было. Гадоў з пяці валачыўся з хлопцамі і прыносіў дамоў яйкі ды іншыя пачастункі. Завадатар нашай групоўкі калядоўшчыкаў вучыў меншых спяваць «Сын Бо-жэй». Маўляў, так жалобней і больш пададуць.

– А бажніца была, к-кажаце?.. Бо вымушаны былі для ўладаў пра адно казаць, а ў душы – вера... Жыла вера. Неба ж, яно заўсёды над намі... Вера р-ратуе чалавека... А мова – самасць нацыі. Галоўны ген.

– Дзядзька Рыгор, а я пару слоў з «Вушацкага словазбора» скарыстаў. У вершы.

– Дзякуй... Якія? Цікава.

– Наперасцігі, напераругу.

– Верш не памятаеце?

– Зблытаюся... Пісаў ноччу, колькі дзён таму...

– Наступным разам пачытайце, абавязкова...

– Праз тыдзень будзе, здаецца, фортка. Зазірну...

– І прыхапіце на паперцы, каб было запісана... Рукой...

Ён любіў слова не толькі чуць, але і бачыць. Літаральна свідраваў новы для яго тэкст і знікаў у ім. Учэпісты рэдактар, філолаг-аналітык, крытык, аўтар непераўзыйдзеных тэкстаў, ён чытаў, нашэптваў, думаў, вяртаўся ў пачатак...

Вершапісанне і вершачытанне. І ў тым, і ў другім ён быў майстар з майстроў.

– Што там на Украіне?

Тэлевізар Барадулін не глядзеў прынцыпова.

– Што? Імперыі злева, імперыя справа. На народ ім на...ць... Ірвуць, а бедны хахол са сваім шматам сала мітусіцца...

– Так і сала не хопіць... Цяжка маленькім народам сярод вялікіх. Глабальны свет – бяда для чалавека. Бог стварыў нас рознымі. Мовы розныя даў, звычаі...У адным месцы нешта абваліцца, не атрымаецца, у другім прыбудзе. У аднаго вочы зялёныя, у некага – як вішні...

Калі добрае – глабальнае, то добра. А раптам тхло якое?.. Сваё – зберагаць, і прыроду, і звычкі, і мову... Як Вы некалі казалі пра словы новыя, запазычанні?

– Навамодныя? Асабліва ў інфармацыйных тэхналогіях. Накшталт флэшка, абгрэйдзіць, клікнуць, мыла...

– В-вось апошнія два...

– Рэальна нашыя словы. Толькі клікнуць – не зусім тое, што раней. Мышкай клікнуць, на кампутары працуючы.

– А як падобна па сэнсе... са старым клікнуць. А мыла?



*Стол пісьменніка на лецішчы ў Вушачах. 23.08.2009*

– Мыла – ад e-mail, электронны адрас. Моладзь перацёрла, засвоіла і на табе – новае мыла. Гены пальцам не расціснеш.

– Што там яшчэ новага?

– Давялося прысутнічаць на імпрэзе з нагоды ўручэння штогадовай прэміі «Дзеяслова».

– І як?

– Нармальна... Абвясцілі... Нешта там уручылі. Адно толькі здзівіла... Акрамя намінантаў, рэдакцыі ды журы – амаль нікога з пісьменнікаў, пару чалавек. Дарэчы, і Пэн-цэнтр хутка збіраецца свае прэміі ўручыць...

– Хвароба нашая... Як пальцы растапыраныя... Такі час. Многія толькі сябе любімага бачаць. І ў літаратуры, і ў палітыцы... Стары саюз, новы саюз, Пэн-цэнтр... Маладыя некаторыя, ды й не адны яны... Маладыя, здаецца, залішне заходнія замашкі засвойваюць... Гэтыя стылі дзеля стылю... Бессэнсоўнасць... Сцёб... Не, трэба развіццё і пошук. Але ж ёсць святое ў кожнага народа... Імёны, здабыткі, падзеі... Усе мадэрнізмы даўно і не раз былі...



*З жонкай Валянцінай Міхайлаўнай*

Паўза. Рэплікі пра Рысіка. Пра надвор'е.

Субяседнік паглядам запрасіў да працягу.

І працяг быў.

– Дзядзька Рыгор, хто Вы?

Разгубленасць на стомленым твары.

– У с-сэнсе? Ч-чалавек...

– Чалавек. Які ёсць. А кім ёсць? Па крыві, па духу, па мове...

– Беларус... Крывіч... Мінчук... – Смяецца. – Дамавік.

– А яшчэ некалі сябе назвалі кшчоным паганцам... Яшчэ бацька, муж, дзядуля, паэт, сябар нячэснага купалаўскага саюза беларускіх пісьменнікаў. Ці мажліва, Вы ёсць абалонкай, празрыстай такой, ніякай?...

– Ратуй, Божа!..

Мы часта пачыналі такую нечаканую быццам гульню ў пытанні, якія хутка станавіліся дыялогам сур'ёзным. Гэтым разам вочы яго ўсмешліва загарэліся. Маўляў, давай стаў пытанне галоўнае.

– Дык вось: ці чыталі «Код адсутнасці» Валянціна Акудовіча?

– Н-не...

– Выйшла ягоная кніжка ў перакладзе на нямецкую ў Германіі. Прэзентацыю там наладзілі.

– Пра што яна?..

– Пра тое, што Вас, сям'і, сяброў, мяне, усіх беларусаў, можа й Рысіка, ён жа тутэйшы, няма. Беларусі ўвогуле, з усімі яе ластаўкамі і вершамі няма. У гісторыі мінулай і ў часе сённяшнім. Ні ў Еўропе, ні ў свеце...

– Б-брэд нейкі... І што тады ёсць?

– Код адсутнасці, прыдуманы Акудовічам-філосафам. Адсутнасці нацыі. І гэтую канцэпцыю ў апошнім нумары «Дзеяслова» (№ 67) крытычна разглядае ў сваім артыкуле Пётра Садоўскі. Палемізуе, вельмі аргументавана. Ён увогуле выдатна валодае мовай, логікай, грунтоўна ведае матэрыял, як беларускі, так і нямецкі.

– Мне гэты нумар пакуль не трапіў, – удакладніў суразмоўца.

Далей, па яго просьбе, як мага бліжэй да сэнсу кнігі і крытычнай публікацыі, я перадаў змест.

Рыгор Барадулін кідаў рэплікі, удакладняў. Гэтая тэма балюча кранула яго. Сэнс ягонага быцця, творчасці нібы знікаў. У канцы абмеркавання ён раптам схамянуўся і пагладзіў рыжага Рысіка (той цёрся, ходзячы васьмёркай, то аб ягоную нагу, то аб маю).

Пагладзіў і ўсміхнуўся з'едліва-іранічна:

– Кот адсутнасці...

Роспач з нагоды сітуацыі, што склалася гістарычна вакол мовы, нацыянальнай самасвядомасці, нашай беларускай самаідэнтыфікацыі, ішла поруч з іроніяй, самаіроніяй, трапным жартам і па-філасофску вялікім, одумным сподзевам на лепшую часіну.

Нечакана ён дадаў:

– А ведаеце?.. З такіх кніжак абсурдных вынікае і карысць... Яны правакуюць, раздражняюць... Б'юць па мазгах нармальнага знаўцу... Мабілізуюць, так бы мовіць... Вось бачыце – грунтоўны артыкул... у адказ.

На тым і пагадзіліся.

Ён ускінуў галаву і мягчэйшым тонам узгадаў:

– Учора Глеб заходзіў... З сыночкам. Такое дзіцянё! Глядзіш – маладзееш...

Дзядзька Рыгор вельмі шкадаваў, што не даў Бог яго роду працягнуцца па мужчынскай лініі. Безумоўна, без памяці любіў унучку Дамініку, неўпрыкмет падрослую, прывабную дзяўчыну з ягонымі – і крошкі падабрала – барадулінскімі рысамі. Але заўсёды вялізная радасць узнімала яго на нейкія крылы, калі нараджаўся ў каго сын ці ўнук. Пра майго ўнука заўсёды распытваў у дэталях, прасіў паказаць хоць у мабільніку фота. Цікавіўся, ці прайшоў хрост, дзе ўсё адбывалася. Адразу ж падпісаў сваю дзіцячую кніжку. Немаўлятка першыя паэтычныя словы ў жыцці пачуў барадулінскія.

Вось і цяпер запытаў:

– А калі Вы ўнука ў госці прывядзеце?

Абяцаў, што ў траўні.

Я разглядаў яго.

Просты чалавек. Просты побыт. Нататнікі, асадкі, паперы і паперкі, сувеніры. У рамачках – фотаздымкі родных, блізкіх, сяброў. Пісьмовы стол, шафы з кнігамі. Ложак, гасцёвае крэсла.

І атмасфера ўзвышэння. Нават у дробязях, без якіх вялікага не бывае.

Гаспадар даў дазвол рыжаму залезці мне на калена. Кот «адсутнасці»



*Рыгор БАРАДУЛІН з Алесем КАМОЦКІМ у Музеі камянёў*


*Одум. 09.10.2010*

ўладкаваўся, а Дзядзька Рыгор паклікаў жонку:

– Валя!

– Хвілінку!

Гаворка працягнулася. Пра падзеі, ідэі, кнігі. Усё, як падчас кожнай нашай сустрэчы. Успывалі нашымі суразмоўцамі то Канфуцый, то Катул, то Заратруста, то Купала з Багдановічам. Заходзілі – прысесці побач ды розуму ці хаця б роздуму павучыць – Скарына, Ніцшэ, Піцірым Сарокін. Дый Карл Маркс і многія іншыя.

– Х-ха! Як сцісла і шматзначна... – кінуў Барадулін неяк рэпліку пасля пачутай інфармацыі, як Маркс у свой час сказаў: ён адно толькі ведае дакладна, што ён не марксіст.

Рыгор Барадулін любіў прыносы новых вестак, ведаў «з волі». Бо нідзе па-за домам працяглы час не бываў. Кнігі ж, іншыя вялікія тэксты чытаць было не пад сілу.

Слухаў ён другога сакавіка яшчэ пра дзве прынесеныя цікавосткі.

– Ці чулі калі, Дзядзька Рыгор, пра габрэйскіх анёлаў?

– Цікава... Н-не... Не чуў.

– Існуе ў іх, тысячы гадоў існуе сістэма анёлаў. Са сваёй спецыялізацыяй. Адзін анёл – збаўца. Другі – анёл смерці, ён прымае нябожчыкаў. Яшчэ ёсць анёл, які нясе спакой, мір. Ёсць і анёл з абавязкамі мучыцеля. Кепскі, але справядлівы. Бо грэшнікаў у пекле смажыць. Ну і іншыя анёлы...

– Як мудра!..

– Не дарма ж яны Стары Запавет стварылі. Дый Новы... Але самае цікавае – ёсць анёл, які скідвае з нябёсаў ласункі... Дзеткам, калі яны пачынаюць вывучаць габрэйскую мову. Скідвае ласункі прама на альфабэт.

Слухач застыў у такім здзіўленні, якога дагэтуль ў яго не бачыў. А Барадулін меў вялікую здольнасць здзіўляцца.

На мяне глядзелі вочы Апостала, поўныя нейкага найвышняга, пазасветнага ведання-няведання, пачуцця нечаканасці, глыбіннай роспачы і суму. Вочы былі вільготныя.

Паклаўшы далонь на маю руку, ён толькі праз нейкую працяглую – пазачасную – паўзу, вочы ў вочы, прашаптаў:

– В-вось... В-вось якога анёла не хапае нам, беларусам...

Зноў памаўчалі.

– Ну нясу, нясу ўжо! – Гасцінная гаспадыня ўвайшла ў пакой з табурэткай і з “застоллем”. Яна даўно адчувала сэнс жыццёвых сітуацый мужа і паэта. Ведала, калі падтрымаць бяседу, а калі далікатна знікнуць і пакінуць мужчынаў з іх пытаннямі пра паэзію, палітыку, гісторыю. Гатуе Валянціна Міхайлаўна – смаката. Калі трэба – поўны варыянт, як на пагулянку. Калі трэба – гарбата. У выключных выпадках сам гаспадар наладжваў «чайную цырымонію» (пра яе можна распавесці іншым разам). Табурэт з застоллем – самы зручны, хуткі варыянт «для сваіх», калі галоўная страва – бяседа блізкіх людзей і не трэба дэманстраваць фармальную гасціннасць ды кухарскае майстэрства.

Мы прыселі.

– Хоць пяцьдзясят грамаў вазьміце? Дзень нараджэння ж быў. Грамульку дзеля сімволікі...

О! Барадулін – не толькі майстар кампліментаў у дачыненні да паняў і паненак. Сам непітушчы з сярэдзіны сямідзясятых гадоў, угаварыць ды пачаставаць любіў і умеў.

– З Негарэлага перадаў адзін добры чалавек. Самагоначка... Свежачок... Непачатая бутэлька...

Ён ведаў даўно, што да выпіўкі я аматар невялікі, але тут настойліва паўтарыў:

– Ну грамулечку, на адзін глык... З Быкаўскай чарачкі, калі ласка...

– Эх! За дзень народзінаў ды з Быкаўскай чарачкі... Раскажу хлопцам, як з Барадуліным у нядзелю нарэзаліся...

– Во-во!

Валянціна Міхайлаўна дапамагла мужу:

– Пад'язджай, Грыша...

Ён – на крэсле з колцамі, яна – на ложку. Мы з катом замкнулі трэці кут. Раскаркаваў, наліў адзін раз мне аднаму, пачуўшы ўпартае «на тры тосты якраз хопіць».

Пажаданні былі традыцыйныя: здароўя, дабра ў доме, спакою, творчага плёну на доўгія гады.

Закаркавалі бутэльку і са словамі «працягнем на васьмідзесяцігоддзе» я паставіў аквавіту на старое месца, злева ў кніжнай шафе. Нармальны, паэтычны і вясёлы нацюрморт.

Звычайная застольная, амаль вясковая гамонка. Калі лёгкі душэўны хмель – не гарэлачны! – лагодзіць, заспакойвае і дае рэдкае адчуванне чалавечага, жыццёвага харАства. Цягам такога імгнення быццам адбываецца тое, што ў храме называецца: радаванне.

Дзядзька Рыгор прымружыў вочы, крыху адкінуў галаву на спінку крэсла. Я занепакоіўся, запытаў у Валянціны Міхайлаўны, можа, пакласці яго на ложак.

– Не, – адказала яна, – з ім такое апошнім часам бывае... Гэта на хвілінку...

Запытаў і ў імянінніка, ці не стаміўся ён, сядзім жа трэцюю гадзіну.

– Н-не, – ён адкрыў вочы, – крэсла нязручнае.

Узнікла ажыўленне, як у гасподзе перад выхадам на сенакос. Жонка паказала, што і дзе ў ягоным крэсле нязручнае, замінае. Я, госць, пачаў вымяраць падлакотнікі і сказаў, што ёсць у мяне добры знаёмы, уласнік фірмы па вырабу добрай мэблі. Замовім нармалёвае крэсла для шаноўнага Рыгора Іванавіча па яго анатоміі. А колцы прывінціць не праблема, возьмуць ад офіснага крэсла. Прыкінулі калектыўны план дзеянняў.


*Смачныя парэчкі. Лецішча. 22.08.2009*

– Можа, заадно запытаеце ў гэтага знаёмага, – папрасіў гаспадар, – ці ёсць месца вольнае... Для зяця... Ён столяр з дыпломам... Працуе, але хоча нечага цікавейшага... І разрад добры.

Паклікалі хлопца, я запісаў дадзеныя. Паабяцаў патэлефанаваць.

Барадулін лёгка мог папрасіць нешта для іншага чалавека, неабавязкова блізкага. Ні разу нічога не папрасіў для сябе асабіста.

Жонка паэта працягнула свае бясконцыя хатнія хлопаты, пакінуўшы нас зноў удвух. Бачыў, што час падзякаваць за гасціннасць, але суразмоўца запытаў пра тое, што ў той дзень я вырашыў не абмяркоўваць, пакінуць на потым.

– Як там з прадмовай нашай?

Тут патрэбны невялікі каментар. Увосень з адным чалавекам мы пачалі падрыхтоўчую працу над новым выданнем. Пакуль я склаў канцэпт уступнага артыкула. Напісаць яго пагадзіўся Барадулін. Адразу, без упрошванняў і заклікаў. Тэма запала ў яго глыбока.



*Дзядзька Рыгор ля дрывотні. Лецішча. 22.08.2009*

Публікацыя (альбо некалькі публікацый) павінна сцісла, але грунтоўна, навукова, доказна і папулярна давесці да беларускамоўнага і рускамоўнага чытача праблему гістарычнага месца Беларусі ў дачыненні да свайго сучаснага і мінулага праз адносіны з суседнімі краінамі. Выразна асвяціць месца і ролю нашай дзяржавы і яе папярэдніцы – Вялікага Княства Літоўскага, Рускага і Жамойцкага ў гісторыі Еўропы. Звярнуць увагу на тое, як абыякава мы пакуль распараджаемся гэтым багаццем. Нават самі не ўсё ведаем пра сябе і дазваляем суседзям прысвойваць, прыпісваць да ўласнай гісторыі чужыя (нашыя) набыткі, рэанімаваць непраўдзівыя міфы на сваю карысць, ствараць новыя і распаўсюджваць у шматлікіх выданнях як адзіную ісціну.

У фокусе задуманай кнігі мяркуецца паставіць факты пра тое, як у беларусаўліцвінаў скралі саманазоў народа, назву дзяржавы, этнічныя тэрыторыі, выбітныя імёны, падзеі, якія паўплывалі на лёсы многіх дзяржаў, а таксама матэрыяльныя, духоўныя, культурныя каштоўнасці, расцягнутыя па свеце.

Хвілінаў дзесяць прагаварылі, перацёрлі найбольш вострыя моманты, якія намерваліся паставіць ва ўступе. Яшчэ раз удакладніў, як кажуць «у лоб», ці не баіцца наш народны, сусветна вядомы паэт, што на яго могуць пакрыўдзіцца некаторыя добра знаёмыя летувісы, палякі, расейцы за прамую пастаноўку пытанняў, за няёмкую для іх праўду.

– Даўно я нічога і нікога не баюся... Нават Яго, – паказаў Барадулін пальцам уверх. – Чаму мы, беларусы, такія сціплыя... Хлусіць пра нас ёмка, а напісаць праўду і сваё назваць сваім... няёмка. Не баюся... Калі не рабіць такой працы нам... Н-не ведаю, будзем мы тады і далей? В-вось... Сумняваюся...

Зайшла Валянціна Міхайлаўна. Закругліўся і я:

– Пайду ўжо, Дзядзька Рыгор, затлуміў надта...

– Ці ж гэта тлум... Дз-дзякуй.

Развіталіся, як і прывіталіся. Словамі. Рукамі. Шчакой да шчакі – тройчы. Вочы ў вочы.

– Дзякуй, дзякуй Вам... Каб было багата і касмата... Вам і ўсяму Вашаму прыроддзю...

І пацалаваў мне рукі. Як заўсёды. Таму гэтая святарская, святынская яго дзея не здзівіла. Здзівіла іншае. Ён чамусьці не папрасіў, а гэта адбывалася кожным разам пасля самых працяглых нават нашых сумесных развагаў, – не папрасіў: «Ну пасядзіце яшчэ, ну хвілінаў пятнаццаць хоць... пагаворым...»

Ліфт апусціўся. На экране мабільніка гадзіннік паказваў сямнаццаць гадзін дзесяць хвілін.

Праз паўгадзіны, калі ўжо ў сябе дома я прысеў з унукам і пачаў чытаць казку, зазвінеў мабільнік.

Барыс Пятровіч (Сачанка) прыцішаным голасам вымавіў кароткую фразу:

– Вы былі апошнім, з кім гаварыў Рыгор Іванавіч... Прыязджайце...

Пасля хуткага таксі, пасля майго спачування заплаканай Валянціне Міхайлаўне, пасля блытаных недарэчных слоў сяброў-пісьменнікаў, прадстаўніка пахавальнага бюро і некага яшчэ, праз гадзіну пасля майго віншавання і апошняга развітання з Дзядзькам Рыгорам, я зноў стаяў у ягоным пакойчыку.

Пустым без яго.

І ўнутры цябе – пустэльня.

З той жа Быкаўскай чарачкі, з той жа бутэлькі, прыхаванай намі да васьмідзесяцігоддзя, глыкнуў я надта ж горкі напой. Нешта коратка сказаў. Хоць слоў ужо не было і горла перахапіла. І іншыя зрабілі па глытку і коратка сказалі...

Для Яго ж пачалося маўчанне.

Маўчанне?

У паэзію Барадуліна, у слова Ягонае будуць учытвацца стагоддзі.

Учытвацца будуць беларусы, каб слухаць і пачуць сябе, каб адчуць сваю самасць.

P. S. *Два месяцы, пакрысе аднаўляў – імгненне за імгненнем – апошнія тры гадзіны жыцця вялікага нацыянальнага Паэта, генія-беларуса. Баяўся схлусіць, нешта ўпусціць ці, па звычцы некаторых літаратараў, прыдумаць, прыўкрасіць. Першыя запісы зрабіў у тры гадзіны той журботнай ночы трэцяга сакавіка.*

*Перад тым зняў дома са сцяны партрэт, зроблены мной у музеі камянёў і доўга ўглядаўся, учытваўся ў аўтограф, у важныя для мяне словы, пакінутыя маім хросным у літаратуры, старэйшым аднакрэўцам.*

*3 сакавіка – 5 траўня 2014 г.*

*Фотаздымкі Валерыя ДУБОЎСКАГА*



Ева Лявонава



...каб быць сваім паэтам,
трэба ў нейкай меры быць "непаэтам"...

# "Яны аднаго прызвання"

## *Творчая спадчына Якуба Коласа і Янкі Купалы ў прачытанні Алеся Разанава*

*Паводле «Нататак на дубовых лістах», «Што я мужык, усе тут знаюць...» і зномаў*

Абагульняючы праблему замацаванасці традыцый Янкі Купалы ў айчынным прыгожым пісьменстве, Я. Сіпакоў неяк зазначыў: «У творчасці Янкі Купалы, нібы ў адборным зерні, спадзяваным на сяўбу, ужо закладзена прадбачліва ўся нашая родная беларуская літаратура» [5, с. 361]. Тое ж самае сцвярджаюць пісьменнікі і вучоныя пра ролю Якуба Коласа (1882–1956) у літаратурным працэсе XX – пачатку XXI ст. – цытат такога кшталту можна прывесці безліч. Што паказальна, да спадчыны Янкі Купалы і Якуба Коласа звяртаюцца не толькі прыхільнікі ўсталяваных тыпаў мастацкага мыслення, але і самыя дзёрзкія рэфарматары літаратуры: адны – па прынцыпе прыцягнення, іншыя – па прынцыпе адштурхоўвання. Нябедная нашая літаратура і на такіх пісьменнікаў, якія гранічна ўважліва ставяцца да нацыянальных традыцыяў і адначасова ўпарта шукаюць шляхі

абнаўлення і ўзбагачэння беларускага мастацкага слова. Да апошніх, бясспрэчна, адносіцца і Алесь Разанаў.

Тэма спадчыны – адна з магістральных у творчасці А. Разанава. «Роднае ідзе сваімі каранямі ў даўніну, у род, у спрадвечнае, яно з цягам часу не старэе, але спрадвечнее» [3, с. 10]. Без спадчыны, даводзіць паэт, народ – сірата, ён асуджаны на духоўнае жабрацтва, пазбаўлены радовішча, не ўгрунтаваны ў рэчаіснасць, ён губляе сваю самабытнасць і сваё апірышча, абкрадаючы пры гэтым не толькі сябе, але і свет, рабуючы і сучаснасць, і будучыню, за што мусіць несці гістарычную адказнасць. Без спадчыны, без яе зберагання народ страчвае падставы на сваю прысутнасць у анталагічным працягу, бо працягу не можа быць без пачатку, без традыцыі, як не можа быць без яе чагосьці істотна новага або ўдасканаленага: апошняе пазнаецца, выяўляецца толькі ў супастаўленні са «здзейсненым і няздзейсненым» – са спадчынай; «...спадчына ёсць пераадоленнем нябыту» [3, с. 99].

Цягам усяго творчага шляху Алеся Разанава яго надзейнымі спадарожнікамі і дарадцамі былі і застаюцца класікі айчыннага прыгожага пісьменства Янка Купала і Якуб Колас. Часта менавіта побач адно з адным паэт называе іх імёны ў сваіх творах рознай жанравай прыналежнасці. У апублікаваных трыццаць гадоў таму «Нататках на дубовых лістах» (1982) ён згадвае вядомае азначэнне, якое ў свой час даў Максім Багдановіч музе Тараса Шаўчэнкі і ўкраінскай народнай паэзіі: «...двайною зоркаю ззяюць яны ў свеце мастацтваў і хараства» [1, с. 230]. «Тое самае, – піша А. Разанаў, – з не меншай падставаю, выпадае сказаць пра Якуба Коласа і Янку Купалу. Двое яны як адна з'ява, яны парныя, яны аднаго прызвання і "прызыву", яны – узаема: дапаўняюцца і адрозніваюцца, высвечваюцца і тлумачацца» [3, с. 4]. «Нататкі на дубовых лістах» і ёсць тлумачэннем творчай сутнасці абодвух беларускіх геніяў – па прынцыпе «ўзаема».

Адметнасць Коласа, паводле А. Разанава, – гэта своеасаблівая «земнасць», адданасць роднаму асяродку; яго ён памятае «спрадвечнай, унутранай, арганічнай», нават «цялеснай памяццю, якая не дазваляе яму ні прыстаць, ні заблытацца ў іншароднасці». «У Коласу цяжкасць: ягоная ўдзельная вага – вага глебы і глыбы». Яго стыхія – «не надзем'е (вышыня) і не падзем'е (глыбіня), а сфера, ураўнаважаная імі, – зямля». Тут, на зямлі, сярод звыклых для яе насельніка рэчаў, без якіх ён не ўяўляе свайго існавання, Колас знаходзіць натхненне, тут дзеіцца душэўна-духоўная праца творцы; калі ж і лунаюць яго думкі да неба, то і там ён «шукае рэчыўнасць, якая б мела дачыненне да зямлі» [3, с. 3], шукае свайго роду пасярэднікаў паміж небам і зямлёю, якія б далі яму магчымасць апынуцца ў роднай стыхіі, вярнуцца на зямлю, дакрануцца да яе – зорным святлом, хмарнай прахалодай, птушынымі крыламі, – у «незаземленым» небе яго насцігае знямога.

Пры гэтым Разанаў спецыяльна падкрэслівае, што Колас «не прыземлены, як часам даводзіцца чуць, а заземлены (!): прыхінаючыся бліжэй да зямлі, ён – тым самым – прыхінаецца бліжэй і да неба»; яго «небам», яго клопатам, стымулам да ўзыходжання, узнясення да высока-паэтычнага якраз і была зямля. «Вертыкаль, – зазначае Разанаў, – ператвараецца ў гарызанталь, гарызанталь у кропку, але ў гэтай кропцы шматмернасць» [3, с. 3].

Адпаведнае нават натхненне ў Коласа: яно па сваёй прыродзе – «засяроджанае і ўраўнаважанае», бо «не-гучнасць, не-актыўнасць, не-яркасць» напісанага Коласам тоіць у сабе «моц матэрыі». Невыпадкова і ўлюбёнае дрэва Коласа – дуб: «ён найтрывалейшы, найдужэйшы, найдаўжэйшы векам...». Разанаў і сам піша – звернем увагу – на «дубовых лістах», і «Нататкі» свае завяршае радкамі з Коласавых «Казак жыцця»: *І ўбачыла Дрэва, што сябры пакінулі яго. І яшчэ мацней зажурылася. Што рабіць? Пусціць глыбей карэнні ў зямлю...* [3, с. 6], – дадаючы, што гэта Коласаў «наказ-выснова» не толькі Дрэву, але і сабе самому, іначай кажучы – уласнае творчае крэда майстра.

Пісьмо Якуба Коласа аўтар «Нататак на дубовых лістах» вызначае як «тапаграфічнае»; не толькі па вобразнай сістэме, лічыць ён, але нават «па складу ягоных пачуццяў і думак можна вывучаць беларускі ландшафт, беларускі побыт, беларускую прыроду», з якімі Колас «спалучаны – зрошчаны – у адно цэлае» [3, с. 3], з якімі ён «тоесны», але з якіх, адначасна, вылучаны, ад якіх адасоблены – не толькі як кожны чалавек, але і як творца, як мастак, што той жа прыродай надзелены дакладнасцю і аб'ектыўнасцю поглядаў.

Стыхія ж Купалы, паводле Разанава, – неба, ён «парываецца ад зямлі, бо адчувае сябе паланёным земнасцю» [3, с. 3], і калі эмблематычнай самавыявай, «самахарактарыстыкай» Коласа з'яўляецца – паводле назвы аднаго з самых значных яго твораў – «новая зямля», то самавыявай, «самахарактарыстыкай» Купалы, па сутнасці, ёсць «новае неба».

Асаблівасці таго і іншага пісьменніка А. Разанаў спрабуе раскрыць на прыкладзе аднаго вобраза – хмары. Купала хмары (як і многія іншыя з'явы прыроды) нязменна сімвалізуе; вельмі часта (скажам тут ад сябе) ён дзейнічае як мастакі-экспрэсіяністы, якія – у асобах нямецкіх, аўстрыйскіх творцаў – у пачатку XX ст. з вялікім энтузіязмам успрынялі дэклараваную Фрыдрыхам Тэадорам Фішэрам, Тэадорам Ліпсам, Вільгельмам Ворынгерам канцэпцыю Einfühlung (само паняцце было ўпершыню выкарыстана раней, у 1873 г.). Згодна з гэтай канцэпцыяй, аб'ект мастацкага адлюстравання заўсёды павінен быць плёнам, вынікам, сфарміраваным не рэчаіснасцю, а самім мастаком, які як бы надае, як бы вяртае свае, выкліканыя пэўнымі рэчамі або з'явамі суб'ектыўныя адчуванні гэтым жа рэчам і з'явам [6, с. 142]. Янка Купала, паводле А. Разанава, якраз таксама «ўспрымае з'явы прыроды вельмі асабова, праз свой стан, праз сваё светаўспрыманне; напрыклад, хмары для яго заўсёды нясуць бяду і нягоды». Для Коласа ж хмары – з'ява цалкам канкрэтная, яны таксама могуць быць celoзнымі, але ў залежнасці не ад настрою або душэўнага стану паэта-назіральніка, а ад пары года, ад таго, «наколькі яны патрэбны зямлі, ураджаю, яму – коласу» [3, с. 4].

А. Разанаў адзначае, што ўсю творчасць Якуба Коласа скрозь прасякае вобраз дарогі. Кожны абазнаны ў паэзіі самога аўтара «Нататак» добра ведае, якое месца ў ёй займае гэты вобраз-матыў, дакладней кажучы – канцэпт, бо менавіта як канцэпт (прынамсі, у творчасці А. Разанава) ён, разам з іншымі складнікамі мастацкай сістэмы, можа быць спасцігнуты найбольш глыбока і шматгранна, ва ўсёй разнастайнасці сэнсаў і ва ўзаемасувязях з іншымі, сумежнымі канцэптамі. Нядзіўна, што вобраз дарогі ў Коласа прыцягнуў адмысловую ўвагу паэта – нашага сучасніка. Дарога, піша А. Разанаў, – «як перасяленне: вымушаная. Па ёй адыходзяць азіраючыся, шкадуючы тое, што застаецца (зрэшты, родны кут і ёсць якраз тое, што застаецца); адыходзяць нагамі, душой вяртаючыся. Адыход часавы, вяртанне вечнае. Менавіта дзякуючы вяртанню "старая" зямля пераўтвараецца ў "новую"» [3, с. 5]. У такой трактоўцы Коласавай дарогі нямала сугучнага самому Разанаву, і ўсё ж у яе бачанні ён бліжэй да Купалы. Аўтар «Нататак» не прапаноўвае сваёй інтэрпрэтацыі купалаўскага вобраза-матыва дарогі, аднак варта ўважліва паставіцца да яго ўласнай паэзіі, інтэрв'ю, эсэ, каб зразумець, што гэты вобраз у А. Разанава зместам, філасофіяй, паэтыкай у большай ступені судакранаецца менавіта з купалаўскім яго варыянтам. І вытокі вобраз *дарогі / шляху* ў Купалы і Разанава мае адны і тыя: яны палягаюць у Бібліі, у хрысціянстве.

А. Разанаў вылучае найбольш паказальныя эстэтыка-філасофскія якасці твораў Купалы і Коласа: «Рух Купалы ад тутэйшасці, Коласа – да тутэйшасці, для Купалы айчына т а м, для Коласа – т у т, Купала жывіцца энергіяй сонца, Колас – энергіяй зямлі, у зліцці з зямлёю Колас прадчувае сваю неўміручасць, Купала – згубу, Колас – круг, Купала – вастрыё, выйсце з круга, Купала часавы, Колас прасторавы. У Купалавай паэзіі мужык пераадольваецца ў імя сябе наступнага, у

імя сябе чалавека, у Коласа – у імя гэтага ж – адстойваецца: калі мужык найболей мужык, тады ён найболей і чалавек... Праблема і драма купалаўскага героя – што ён яшчэ той самы, коласаўскага – што ён ужо не той самы» [3, с. 4–5].

Абодвух класікаў А. Разанаў згадвае і ў дыялогу з Т. Чабан «Паэзія – у спасціжэнні паэзіі...» (1988), якраз спасылаючыся на «непрачытанасць» спадчыны, з той яе часткай уключна, пра якую «найбольш пісалася і гаварылася» [3, с. 20]; і ў эсэ «Жыта і васілёк. Слова пра Максіма Багдановіча» (1996), заўважаючы, што найперш дзякуючы гэтай трыядзе – Багдановічу, Купалу і Коласу – «сама Беларусь як з'ява выявілася, акрэслілася і ўзышла» [3, с. 86].

Постаці Купалы і Коласа паўстаюць – зноў па прынцыпе «ўзаема» – у зномах А. Разанава. «Два полюсы творчасці, – чытаем мы ў яго кнізе «Сума немагчымасцяў», – натхненне і засяроджанне, выйсце па-за сябе і ўвыйсце ў сябе, экстатычны і медытатыўны, ультрагукавы і інфрагукавы. Да першага полюса схіляліся Цётка і Купала, да другога – Багдановіч і Колас» [4, с. 31]. У адным з наступных зномаў А. Разанаў разважае пра ўнікальнасць, непаўторнасць, функцыянальную спецыфіку мастацкага слова, прамоўленага кожным сапраўдным талентам: «Як па чалавечых руках, вобліку, паставе можна пазнаць, чым гэты чалавек займаецца, так адны і тыя ж словы ў залежнасці ад таго, у якім тэксце знаходзяцца, выконваюць розныя работы: аратыя, звездары, кавалі... Слова Багушэвіча і Багдановіча. Слова "Новай зямлі" і "Сну на кургане"» [4, с. 35].

Неаднойчы ў сваіх зномах звяртаецца Алесь Разанаў да канкрэтных твораў Янкі Купалы. «Купалаўскі прарок з аднайменнага верша, – піша ён, – вястуе і прапаведуе "я к ш а л ё н ы". Пракрокі не памятаюць. Яны гавораць не сваё, не ад сябе. Памяць – набытак асобы» [4, с. 33].

Асабліва ўзрушаны, экспрэсіўны і, адначасова, глыбокасэнсавы знам стварае А. Разанаў з нагоды Купалавай паэмы «На куццю»; у гэтым зноме выкладзена, па сутнасці, канцэптуальнае разуменне сапраўднага, ісціннага таленту. Гэты знам А. Разанава ў пэўным сэнсе перагукваецца з яго ж эсэ «Скрыжаванне Францішка Багушэвіча» (1984, 1995), герой якога, заўважае А. Разанаў, не лічыў сябе мастаком, пісаў «як бы з нагоды», для свайго акружэння. «Але якраз у гэтым "не-мастацтве" знаходзіць і пазнае сябе тутэйшая рэчаіснасць. "Я не паэта", – па гэтай жа прычыне скажа пазней пра сябе і Янка Купала. / Заўсёды актуальная праблема творчасці: каб быць *сваім* паэтам, трэба ў нейкай меры быць "непаэтам"» [3, с. 13]. Іначай кажучы, пісаць не паводле пралічаных установак і платформаў, а паводле ўласнага сэрца (у народзе кажуць: як Бог на душу пакладзе), імкнучыся напоўніцу выявіць глыбінныя сутнасці чалавека і свету. Можна і версіфікатарам быць адмысловым, і ў надзённыя тэмы патрапляць, але пры гэтым нічога не дадаць да паэзіі.

Гаворачы пра адзіна ўцалелы верш Паўлюка Багрыма («Зайграй, зайграй, хлопча малы, / І ў скрыпачку і цымбалы, / А я зайграю ў дуду...»), А. Разанаў сцвярджае, што менавіта з гэтага твора, у якім выявіўся «сам дух беларушчыны», «дзіўным чынам выйшлі і адгукнуліся яму Багушэвічава "Дудка беларуская" і "Смык беларускі", Купалава "Жалейка", Цётчына "Скрыпка беларуская", Коласавы "Песні-жальбы"...». Багрым бачыцца А. Разанаву папярэднікам тых беларускіх паэтаў, якіх вабіла і вабіць неспазнанае, чароўнае, міфалагічнае; у ліку гэтых паэтаў аўтар зномаў называе і «містычнага Купалу» [4, с. 90].

Нагодай для ўзнікнення аднаго са зномаў А. Разанава паслужыў радок з «Кутка жаданняў» Анатоля Вярцінскага: «знайсці б пакойчык кутні». «Кутняе» ў вытлумачэнні А. Разанава – гэта штосьці, мы б сказалі, асноваўтваральнае, краевугольнае, што дзіўным, але і цалкам заканамерным чынам грунтуецца на родным і блізкім і ў той жа час «уваходзіць у іншае вымярэнне». Увасабленнямі «кутняга» бачацца паэту і «Мой дом» Янкі Купалы, і «Мой родны кут» Якуба Коласа [4, с. 102].

У святле абранай намі тэмы асаблівую цікавасць уяўляе эсэ Алеся Разанава

«Што я мужык, усе тут знаюць...», прысвечанае аналізу славутага верша Янкі Купалы «Мужык» і названае ці не самым вядомым – крылатым – першым радком гэтага верша. Напісана эсэ роўна дзесяццю гадамі пазней за «Нататкі на дубовых лістах», у 1992 г.; відавочна, творчасць Купалы працягвала хваляваць А. Разанава, вымагала ад яго новых роздумаў і разважанняў. На прыкладзе гэтага верша аўтар эсэ імкнецца паказаць, што, паводле яго слоў, знаёмы ледзь не кожнаму з нас твор насамрэч можа быць вядомы не сваімі глыбіннымі сутнасцямі, а «паверхняй», «моўнай абалонкай», тымі самымі «хрэстаматыйнымі стэрэатыпамі», якія не так дапамагалі, як замінялі «расчытаць» яго, убачыць яго сэнсавую шматузроўневасць.

А. Разанаў прыпадабняе «завучаны» тэкст да чалавечага цела, якое сам чалавек не ў стане ўбачыць «ва ўсёй відавочнасці», пакуль не адасобіць яго ад сябе – «даручыць» люстэрку або фотаздымку. Каб спасціжэнне тэксту адбылося ва ўсёй сэнсавай паўнаце апошняга, неабходна своеасаблівая дыстанцыя, закладзеная ў самім гэтым тэксце; іншымі словамі, нельга ўспрымаць твор ні як даастатку «свой», цалкам празрысты і зразумелы, ні як зусім чужы. Твор «творны» – і, значыць, адпачатку не можа не несці ў сабе штосьці знаёмае, блізкае; адначасова ён пераўзыходзіць сябе, перарастае свае ўласныя межы, сам «творыць сэнс» – на тое ён і твор. Жаданнем паразумецца з творам, высветліць яго прыхаваныя сутнасці і тлумачыць А. Разанаў свой «герменеўтычны» зварот да верша Янкі Купалы «Мужык».

Варта нагадаць, што верш «Мужык» быў першай публікацыяй Янкі Купалы; заўвагі наконт гэтага пакінуў сам аўтар. Так, у «Каментарыях» да першага тома 7-томнага Збору твораў класіка цытуецца яго белавы аўтограф: «Верш гэты быў надрукаваны ў Мінскай расейскай газеце “Северо-Западный край”, 15/V–1905 г. у № 746. Гэта першы мой выступ у беларускай літаратуры» [3, с. 450]. У лісце да свайго біёграфа Л. М. Клейнбарта ад 11 студзеня 1929 г. Янка Купала пісаў: «Калі з’явіўся ў 1905 годзе ў друку мой першы верш “Мужык”, я ўжо свядома ведаў, што і як мне пісаць» [2, с. 450]. Наступны друкаваны твор паэта з’явіцца, як вядома, толькі ў 1907 г. (верш «Касцу»).

Галоўнае, што прыцягвае да сябе ўвагу ў прачытанні Купалавага твора А. Разанавым (як, зрэшты, і ўсіх іншых тэкстаў, што станавіліся аб’ектам яго вытлумачэння), – гэта імкненне прапусціць яго праз падвоеную прызму – і канкрэтна-рэальнага, абумоўленага часам і абставінамі ўзнікнення, і ўніверсальнага, надчасавага, сутнаснага, таго, што робіць тэкст сучасным для кожнага, хто спрабуе ўвайсці ў «модус існавання самога верша».

Пры гэтым, натуральна, у полі зроку паэта нязменна знаходзіцца галоўны, загаловачны вобраз верша – вобраз мужыка, які, з аднаго боку, сведчыць «ад сябе і пра сябе», з другога – гаворыць пра свет, бо «прыводзіць словы свету», словы «кожнага» з гэтага свету («кожны знае»). «Кожны» пра яго, мужыка, мае сваё, звыкла-будзённае меркаванне, мерае на свой аршын, сваёй меркай, якая даўно склалася, сталася мянушкай; апошняя, аднак, не толькі і, бадай, не столькі пра мужыка дае ўяўленне, колькі пра сам гэты «свет».

«Імя, – заўважае А. Разанаў, – дыялог: яно спраўджваецца, калі на яго адзываюцца, калі прысутнічаюць абедзве “інстанцыі”: той, хто называе, і той, каго называюць, той, хто дае імя, і той, хто імя прымае...» [3, с. 28–29]. У дадзеным жа выпадку, працягвае аўтар нататак, «дыялог парушаны», а таму і імя абяртаецца мянушкай.

З якой прычыны, з чые віны парушаны «дыялог»? І хто насамрэч яго, гэты «маналагічны – парушаны – дыялог», вядзе? Адказ відавочны: гэта ён, мужык, шукае водгуку, прагне разумення, а не свет, здатны адно на смех і здзекі. Свет бесчалавечны, у ім – «чалавека няма»; распазнаць чалавека ў мужыку свет не здольны, бо самому яму не ўласцівыя зрок, памяць, душа, бо ён, свет, –

«перакулены». Але «перакулены» і мужык, які прымае непрымальнае – жорсткія «ўмовы свету» – і ў выніку праяўляецца як «чалавек частковы». Яго існаванне – «на мяжы»; з аднаго яе боку жывуць іншыя па прыродзе, але родныя па ўмовах існавання істоты, з якімі ён параўноўваецца («як той вол рабочы», «Як той у лесе чашчавік», «як сабака»), аднак яны, у адрозненне ад мужыка, саматоесныя. З другога боку гэтай «мяжы» – істоты, наадварот, родныя герою верша па прыродзе, але адрозныя па існаванні, – тыя, хто прысвоіў «слова і права слова», выштурхнуў мужыка «на ўскрай гаворкі і на ўскрай свету», ператварыў яго «ў аб'ект смеху, кпінаў, знявагі». Да яго і ставіцца варта адпаведным чынам – не прымаючы ўсур'ёз ні самога гэтага «блазана», ні яго гаворкі, якой ён, па ўласным прызнанні, не валодае («Не ходзіць гладка мой язык»). «Гаворка» ж ёсць той характарыстыкай, якая з «жывёльнага свету» вылучае, а да так званага «пісьменнага» свету – далучае. Не валодаючы словам належна, мужык пазнае сябе і не пазнае ў тым і ў іншым светах, прызнае іх і не прызнае, бо не супадае ні з тым, ні з другім.

Як і ў іншых сваіх герменеўтычных нататках, А. Разанаў аналізуе мастацкую з'яву па законах сілагістыкі, выкарыстоўваючы і адпаведныя паняцці – тэзы і антытэзы, сіметрыі і асіметрыі, «мінусавага сінтэзу» і «плюсавага сінтэзу». Тэзу і антытэзу, унутраную нязгоду розных пачаткаў ён бачыць у самім купалаўскім мужыку, які дзеля здабывання саматоеснасці, цэласнасці ўласнай асобы і ўласнага паднебнага становішча мусіць нейкім чынам зняць свой канфлікт з процілеглымі адзін аднаму светамі. А. Разанаў канстатуе прысутнасць у самім вершы двух выйсцяў, якія б маглі вырашыць праблему пакутлівай унутранай супярэчнасці героя. Адно палягае ў канчатковым падзенні, дэградацыі да ўзроўню «вала рабочага», сабакі ці ляснога чашчавіка («мінусавы сінтэз»), другое патрабуе інтэграцыі ў «пісьменны», панскі свет («плюсавы сінтэз»). Але ў абодвух выпадках мужыка чакае адна і тая ж відавочная доля – згуба, таму падобны механізм скасавання праблемы не можа яго задаволіць. Тым больш што купалаўскі герой ужо прадчувае трэцяе выйсце і патэнцыяльную мажлівасць яго рэалізацыі: «Гэтае выйсце ў чалавеку, выйсце – у чалавека» [3, с. 31].

Ні ў свеце бязмоўных жывёлін, ні ў свеце, у якім ладзяць паміж сабою толькі паны, падпанкі і паслугачы, «чалавека няма». Ён, чалавек, «у глыбіннай існасці самога мужыка, і той крык, што гатовы вырвацца з мужыцкіх грудзей, – скрытае сведчанне аб чалавеку, аб яго нараджэнні» [3, с. 31], – робіць выснову А. Разанаў, далей лагічна супакладаючы яе з сэнсам іншага вядомага купалаўскага верша – «А хто там ідзе?». У ім «беларускі народ, падаючыся ў свет, не проста перамяшчаецца ў знадворнай прасторы, а нараджаецца знутры самога сябе, знутры "агромністай такой грамады"» [3, с. 32].

Пакуль жа Купалаў мужык застаецца «паміж» – паміж двума небяспечнымі для яго светамі, паміж двума ўзорамі існавання, адзін з якіх узаконены прыродай, другі – грамадствам, і ні ў адным з іх мужыку «няма месца». Герой Купалы – «прыродна-грамадскі, ён – мяжа... Але мяжа – гэта і сінтэз, адзінае месца, дзе здзяйсняецца сэнс існавання і дзе захоўваецца магчымасць свядомасці» [3, с. 32], дзе ёсць надзея на паяднанне побыту з быццём, на іх «узаемапаразуменне», «узаемасупадзенне» ў жаданым і велічным плёне – у чалавеку.

Асаблівую ўвагу паэт-даследчык звяртае на рэфрэн – на гэты паўтор, гэты зневажальна-крыўдны прысуд: «Бо я мужык, дурны мужык». Два словы – «дурны мужык» – тут настолькі збліжаны, што ўспрымаюцца амаль як сінонімы, выдаюць у сваім спалучэнні на таўталогію і выклікаюць адчуванне безвыходнасці, замкнёнасці «пісьменнага» свету для мужыка.

Але, звяртае нашу ўвагу Разанаў, Купала нібы прыадчыняе заслону, нібы падказвае свайму герою ў ім жа самім патэнцыйна існы шлях з безвыходнасці, спосаб з-сябе-здабывання «таго, што мучыцца і вымаўляецца» і што ёсць новай

і надзвычайнай якасцю – «крыкам». Крык – гэта выклік, боль і бунт адначасна. Наяўны свет такога яшчэ не чуў і «водгуку» на яго не мае, затое «мае на яго і водгук і сябе новая рэчаіснасць, у якой мужык – ч а л а в е к» [3, с. 34].

Апрача таго, верш Купалы дае паэту-герменеўтыку нагоду паглыбіцца ў феномен «тутэйшасці». У творы насамрэч, як мы памятаем, паслядоўна акцэнтуецца паняцце «тут»: «Што я мужык, усе тут знаюць...», «Але хоць колькі жыць тут буду, / Як будзе век мой тут вялік...» Тутэйшасць у Купалы, паводле А. Разанава, – гэта «своеасаблівы кантынуум, у якім геаграфічнае не ведае, дзе яно, нацыянальнае – што яно, дэмаграфічнае – колькі яно», у якім «унутраныя меркі і гаранты... не суаднесены з вонкавымі» і ў якім, у адрозненне ад астатняга свету, прынцыпова актуальным з'яўляецца не аксіялагічнае пытанне «быць кімсьці (ці чымсьці)», а пытанне анталагічнае, «гамлетаўскае», – «быць ці не быць». Быць – значыць, займець «наступнасць», здабыць «новы сэнс» жыцця, «новую перспектыву», узняцца да чалавека. І паколькі гэтая велічыня – чалавек – належыць будучыні і яшчэ весціцца толькі адным «крыкам» («Я буду жыць, бо я мужык!»), яна ў Купалавым творы «застаецца па-за азначэннем»: «Які ён, што ён, дзе – ён выходзіць за межы верша і за межы свету» [3, с. 35].

Эсэ А. Разанава адметнае яшчэ і тым, што яно нязмушана ўводзіць верш «Мужык» у кантэксты – уласна Купалавай творчасці, усёй беларускай паэзіі і, нарэшце, у агульнакультурны кантэкст чалавецтва. Даследніцкая рэфлексія неаднойчы фіксуе сэнсавыя сувязі тэксту Купалы з яго ж вершам «А хто там ідзе?»; разасобленасць героя, яго несаматоеснасць і нятоеснасць свету, адрознасць ад «кожнага» з тых «усіх», што «смяюцца, пагарджаюць», а з іншага боку – імкненне «сваёю постаццю і сваёю істотаю ўвайсці» ў свет, «знайсціся для існавання» ў ім выклікаюць у аўтара нататак аналогію з вершам Купалы «Палац». У ім «жывая сялянская душа пярэчыць вабам палаца: "Штось да яго парывае і страша"» [3, с. 33].

Думка паэта-герменеўтыка сягае і да «жалейкі», і да «дудкі»: «Мужык – голас самога быцця. Яно знайшло ў мужыку адтуліну ("дудку", "жалейку") – каб выявіцца адтуль, каб загучаць, каб здзейсніцца і стаць сэнсоўным» [3, с. 36], – тым самым надаючы вобразу мужыка знакавую філасофска-эстэтычную сутнасць, якою надзелены Купалаў жа вобраз жалейкі і вобраз «дудкі беларускай» Францішка Багушэвіча. Постаць купалаўскага мужыка апынаецца ў А. Разанава ў адным шэрагу з вобразамі, створанымі Коласам, Цёткай, бо менавіта мужык стаўся «не толькі першым героем новай беларускай літаратуры і не толькі першым яе паэтам, але і першым яе сэнсатворцам і вытлумачальнікам сэнсу – герменеўтыкам» [3, с. 36]. Дарэчы, свядома ці не, думаецца – цалкам свядома (хаця б з улікам вызначэння аўтарам свайго эсэ як «герменеўтычных нататак», а галоўнае – па факце творчасці) А. Разанаў тут гаворыць і пра сябе – ён не толькі нагадвае пра ўласныя карані-вытокі, але і недвухсэнсава дае зразумець, што з'яўляецца прадаўжальнікам традыцый Янкі Купалы, традыцый беларускай літаратурнай класікі.

Інтэртэкстуальным чынам прысутнічае ў нататках Разанава народная казка: мужык параўноўваецца з казачным Іванкам-дурнем, якога выбірае жыццё, каб «паставіць... на самае адказнае месца і даць яму самую дзівосную магчымасць», недаступную яго братам-разумнікам з іх «самнымі паводзінамі» [3, с. 34].

Што да кантэксту еўрапейскага і агульначалавечага, то яго ўдзел у стварэнні парадыгматычнай прасторы эсэ пазначаны, у прыватнасці, праз ужо згаданую алюзію на шэкспіраўскага Гамлета з яго шырокавядомым «Быць ці не быць – вось у чым пытанне». Семантычна надзвычай істотная і паралель паміж Купалавым мужыком («яшчэ дарэшты не ўвасобленым, дарэшты не народжаным») і новазапаветным Іванам Хрысціцелем (Папярэднікам); кожны з іх – «сведчанне таго, што адбываецца, і вестка аб тым, што мае настаць» [3, с. 33].

Варта заўважыць: А. Разанаў мае рацыю і ў тым, што Купалаў верш, нягледзячы

на больш чым стогадовую гісторыю яго асэнсавання і вывучэння, яшчэ неаднойчы прыцягне да сябе ўвагу даследчыкаў. На наш погляд, заслугоўваюць больш пільнага да сябе стаўлення даследчыкаў іронія і самаіронія загаловачнага персанажа, прызначэнне і месца той і іншай у экспрэсіўнай структуры твора, суаднесенасць у вершы героя і аўтара, перазовы двух выпадкаў выкарыстання ў розных значэннях лексемы «крык». А. Разанаў, відавочна, апелюе да другога яе ўжывання; у першым жа выпадку слова «крык» ёсць сінонімам лаянкі («Бо зношу лаянку і крык...»); адмысловая таўталогія ў гэтым радку (крык успрымаецца як сінонім лаянкі) спрыяе ўзмацненню і выяўленню эмацыянальна-псіхалагічнага напружання, якое перажывае герой твора. Але ж ці выпадковае гэта двайное выкарыстанне Купалам аднаго слова ў розных зместавых сітуацыях, ці не ўзнікаюць паміж гэтымі рознымі «крыкамі» своеасаблівыя сэнсавыя перазовы-адштурхоўванні? І як разумець выраз «**адзін** (тут і далей вылучана намі. – *Е. Л.*) крык» у апошняй страфе верша («І кожны, хто мяне спытае, / Пачуе толькі **адзін** крык: / Што хоць мной кожны пагарджае, / Я буду жыць – бо я мужык!»)? Пачуе «**адзін** крык» – значыць, адзін з двух згаданых у вершы «крыкаў»? Не чыюсьці зневажальную лаянку ў бок мужыка, а мужыкова гнеўнае сцвярджэнне свайго права на жыццё, якім бы яно ні было? Ці сцвярджэнне права менавіта на жыццё, а не на выжыванне-існаванне? Або ў выразе «адзін **крык**» неабходна рабіць націск на другі яго складнік – на слова «крык»? Кожны пачуе толькі мужыкоў крык, суцэльны крык, які заглушыць сабою ўсё астатняе?

Нялішне падкрэсліць: уласная творчасць А. Разанава мае шмат пунктаў судакранання з літаратурнай спадчынай Янкі Купалы, – бадай, больш, чым з чыёй-небудзь іншай. У іх многа агульных тэм: паэта і паэзіі, духоўнай спадчыны і гістарычнай памяці, роднай мовы і мастацкага слова, радзімы і волі, нацыянальнага самавызначэння і адраджэння, асабістага выбару і інш. Тыпалогія мастацкай свядомасці Янкі Купалы і Алеся Разанава заслугоўвае, бясспрэчна, спецыяльнага грунтоўнага даследавання, прычым падставы для яго палягаюць не толькі ў праблемна-тэматычнай супольнасці іх твораў, але і ў пэўнай блізкасці іх паэтык.

У кожным разе выразна бачна, што герменеўтычныя нататкі і зномы Алеся Разанава не толькі праліваюць святло на канцэптуальныя складнікі твораў Купалы і Коласа, але і істотна дапаўняюць чытацкае ўяўленне пра паэта – нашага сучасніка. Падобныя «думанні» (А. Разанаў) важныя яшчэ і таму, што пераканаўча даводзяць: тое, што было напісана Янкам Купалам і Якубам Коласам на самым заранку як іх уласных мастакоўскіх лёсаў-шляхоў, так і новай беларускай літаратуры, тое, што мела сваім героем мужыка і сваёй тэмай – быццё мужыка, не было адно «мужычай», адно «сялянскай», нават адно беларускай паэзіяй; ставячы перадусім пытанні беларускага нацыянальнага адраджэння, гэтая паэзія ў той жа час спеліла пытанні агульналюдскія, універсальныя, сягала ў вялікую прастору сусветнага мастацтва слова.

Бібліяграфічныя спасылкі:

1. *Багдановіч М.* Краса и сила // Поўны зб. тв. : у 3 т. Мінск, 1993. Т. 2.
2. *Купала Я.* Зб. тв. : у 7 т. Т. 1 : Вершы. Пераклады: 1904–1907. Мінск, 1972.
3. *Разанаў А.* З апокрыфа ў канон: Гутаркі, выступленні, нататкі. Мінск, 2010.
4. *Разанаў А.* Сума немагчымасцяў: Зномы. Мінск, 2009.
5. *Сіпакоў Я.* Выбраныя творы : у 2 т. Мінск, 1997. Т. 2.
6. Энциклопедический словарь экспрессионизма. М., 2008.

Уладзімір Мароз



...жыццё
не вычэрпваецца
рэальнасцю...

# Паралельныя прамыя

***З аповедаў жыцця***

*

Вучаць у школе, што паралельныя прамыя не перасякаюцца.

Ясная справа, на тое яны і паралельныя.

Але гэта ў геаметрыі звычайнай, эўклідавай. У геаметрыі Лабачэўскага перасякацца могуць. Бо як жыццё больш складанае за нашы простыя ўяўленні, так і прастора – рэч неадназначная. Возьме ды і выгнецца нечакана і парушыць відавочную рацыю-логіку. І паралельныя прамыя таксама дзіўным чынам перасякуцца, а то і сальюцца, каб потым усё роўна разбегчыся.

Жыццё чалавека адносна, напрыклад, родных і блізкіх, знаёмых, таксама ідзе паралельна. Тое не дзіўна, бо шлях у кожнага свой. Але ж вяжуцца, вяжуцца вузельчыкі, і пасля датумкай яшчэ, чаму так адбываецца ў жыцці, па чыёй волі здараецца. Якраз па чыёй волі – з цягам часу і з умацаваннем веры зразумееш. Астатняе, напэўна, варта прымаць проста як факт, варты свайго аповеда.

Казаў мне мой старэйшы брат Алег, калі ўжо стаў студэнтам

хімічнага факультэта ва ўніверсітэце, што пайду я па яго сцежцы, па яго слядах. Рэч у тым, што дзядзька Барыс, мамін брат, калісьці скончыў хімфак, там засталіся аднакурснікі, якія выбіліся ў навуку і ў выкладанне. Дапамогуць паступіць. Бо і ў тыя часы (канец шасцідзясятых мінулага стагоддзя) паступіць у ВНУ зусім не проста, знаёмствы ды сувязі часта вырашальныя. Ці дапамог хто Алегу, не ведаю, бо ён вучыўся добра, залаты медаль атрымаў. І за мяне вырашыў: сцежка пратаптаная, куды ён (я) яшчэ сунецца?

Мне такое да сябе стаўленне было не да душы. А вось і не пайду па тваіх слядах! – адказваў рэзка. Малымі мы і біліся неаднойчы, была нейкая рэўнасць адзін да аднаго. Паводле Фрэйда – дык барацьба за матчыну ўвагу. Недзе тады пачало прыходзіць усведамленне, што старэйшы, першынец – улюблёнец мамы. Але маю рэўнасць змяншвала, што я любімы ўнук бабы Мані. Гэтым і дасягалася раўнавага. Праўда, у дарослым жыцці Алег чамусьці неаднойчы зазначаў, што яму ў дзяцінстве не хапіла любові, ласкі бацькоў. Дзіўна. А мне хапіла. Настолькі, што і да сёння дзялюся гэтай цеплынёй, любоўю з іншымі.

Проста тады ўжо, няхай і падсвядома, выспельвалася ў душы адчуванне, што ў мяне будзе свая каляіна ў жыцці, свой лёс.

Так і атрымалася – пайшоў я сваім шляхам. Выкіраваў да архітэктурнага факультэта БПІ, дзе блату ў сельскіх хлопцаў не магло быць па азначэнні. Факультэт прэстыжны, элітны, хапала ў стольным Мінску дзяцей не абы якіх бацькоў. Але савецкая сістэма рабіла рэверансы, дзеля прыліку бралі некалькі вяскоўцаў. Таго ж Славу са Смаленшчыны, сына трактарыста. Яшчэ каго. Мяне вось. Так што спрыянне ў нейкім сэнсе было, па малюнку адзін бал за вясковае паходжанне дадалі. А чарчэнне я сам здаў на выдатна, падрыхтаваны быў, ды і прасторавае ўяўленне меў, што тут вельмі істотна. Мне давалася ўявіць, як перасякаюцца складаныя аб'ёмы, знайсці кропку іх узаемасутыкнення. Мой залаты медаль даў магчымасць іспытаў больш не здаваць, хоць да агульнаадукацыйных я быў добра падрыхтаваны. Так і пайшлі мы з братам кожны сваёй сцежкай, тут якраз паралельныя не перасякліся.

Першы год студэнцтва жыў на вуліцы Усходняй, дзе здымалі пакойчык у прыватным доме з земляком з Целяханаў. Прозвішча ў яго было чыста беларускае – Колб. Ён паступіў на энергетычны. Жылі ад інстытута недалёка. Гэта быў захаваны кавалачак старога драўлянага вясковага Менску. Ад Багдана Хмяльніцкага Усходняя падымалася ўгору, дзе канчалася – не ведаю. За паўкіламетра ад дому нашых гаспадароў яна ўпіралася ў кінатэатр "Вымпел" паваеннай тыпавой пабудовы з дрэва, дзе толькі порцік з калонамі перад уваходам адпрэчваў уражанне вялікай стадолы. Ранічкай я рабіў прабежкі да яго і назад. Здаецца, навошта было бегаць, як старому? Ці то самадысцыплінай займаўся, каб быць у форме, ці ўжо заняткі самба падштурхоўвалі. Адно дакладна – хапіла той самадысцыпліны не нашмат – зацягвала студэнцкае жыццё з яго ўцехамі ды вінам раз-пораз. А якія пасля "чарніла" прабежкі?

Сёння той маёй першакурснай Усходняй практычна не згледзіш. Драўляных дамоў няма, згарэў даўно і кінатэатрык, куды я, негледзячы на блізкасць, завітваў не так і часта. Вуліца з такой назвай засталася, але пазнаць яе немагчыма. Універсам "Рыга", каменныя шматпавярховікі, якія вымкнулі за апошнія гады. Месца выгоднае – цэнтр горада побач, раён даволі ціхі. І так сталася, што праз трыццаць гадоў я зноў мог вярнуцца на Усходнюю жыць. Завязваўся вузельчык з паралельных, але аб тым пазней, так вымагае драматургія аповеда.

*

Пакуль паралельныя прамыя цягнуцца са студэнцкага жыцця.

Пасля трэцяга курса трапіў у будатрад у Казахстан. Архітэктурны факультэт

(самы нешматлікі ў політэхнічным, усяго тры групы на курсе) свайго атрада не меў. З нашых хто мог, уладкоўваўся мастакамі. Насценгазеты, афармленне сталовай ды ленінскага пакоя – людзі, якія ўмеюць маляваць, былі патрэбныя. Праўда, пры тым будаўнічую працу яны рабілі нароўні з іншымі. Да таго ж: як гэта студэнту не пабыць у будатрадзе? Грошай падзарабіць, якіх заўсёды бракуе. Бацькі дапамагаюць, але ж, акром мяне, у іх яшчэ трое сыноў.

Жылі і будавалі мы ў вёсцы Бярозаўка, у паўночна-заходнім Казахстане. Селішча было пераважна хахляцкае – цаліннікі. Казахі жылі асобна, далекавата. Але я кантакты з імі меў, нават намаляваў на заказ для іхняга вяселля карціны, якія потым віселі на сценах. Госцем, зразумела, не быў, але пасадзілі ў верандзе каля катла з бешбармакам, "каленвала" было ўдосталь. Нават перабраў, бо ў атрадзе лічыўся "сухі закон". Натуральна, парушалі мы яго зрэдчас з маім новым таварышам Віталікам. Аднойчы было тое ў лазні, якую рамантавалі. Працаваў з намі "сын палка" – была савецкая завядзёнка браць у атрад праблемнага падлетка на перавыхаванне. Апынулася ў нас пляшка гарэлкі, той жа страшны "каленвал" за тры шэсцьдзясят дзве. А ўмовы ніякія – сырая лазня. Чаму помніцца той момант? Бо першы раз выпіваў гарэлку "з гарла" ды без закускі. Апякла горла і нутро, ажно дух перахапіла, ледзьве назад не пайшла. І малы з намі выпіў, такое вось было перавыхаванне.

Калі коратка, усяго хапала ў будатрадзе, тым больш калектыў незнаёмы (будучыя энергетыкі), хоць і больш просты, чым студэнты-архітэктары. І праца зусім не лёгкая. Галоўнае, вынік – грошай зарабіў. І трэба ж было так здарыцца, што мой самы малодшы брат Ігар, калі вучыўся ў мединстытуце, у будатрад трапіў у тую ж Бярозаўку! Дзесяцігоддзе прайшло. Які вялікі, здаецца, Казахстан, а і тут паралельныя братоў перасякліся.

Перасякліся яны ў свой час і з малодшым братам Колем.

Летам пасля чацвёртага курса мы былі на практыцы ў праектным інстытуце ў Маскве. Спачатку жылі ў інтэрнаце нейкага ВНУ на Страмынцы каля Сакольнікаў, потым перакінулі нас за горад, у Ільінскае. Там інтэрнат уяўляў практычна драўляныя баракі. Але што да таго бесклапотнаму юнацтву? І тое, што электрычкай дабірацца да Казанскага вакзала амаль гадзіну, не абыходзіла. Побач Ільінскага быў самы малы маскоўскі аэрапорт "Быкава", Раменскае, вядомае сваім конезаводам, горад Жукоўскі. Дык вось, калі Колька выбраўся на будаўнічыя заробкі ў Маскоўшчыну, ён круціўся якраз у гэтых мясцінах. Гастарбайтэр, так бы мовіць. Доўгая была тая эміграцыя, не два месяцы, як у мяне, а гадоў васямнаццаць. Але вяртанне яго дадому, ужо ў XXI стагоддзі, ўсё ж адбылося.

*

Да жыццёвага ўвасаблення неадназначнасці паралельных прамых варта аднесці некалькі падобных сітуацый, якія тычацца майго начальніцтва. Першая выспелілася недзе пасярэдзіне вучобы. Прызначылі мяне старастам нашай трэцяй групы. Да слова, мы былі першымі студэнтамі архітэктурнага факультэта, у год майго паступлення ён вылучыўся з будаўнічага ў самастойны. Таму і групы называліся першай, другой і трэцяй, хоць мелі і афіцыйныя нумары з шасці лічбаў. Да мяне старастам быў Стась, старэйшы за ўсіх нас амаль на дзесяць гадоў хлопецмужчына са Смалявіч. Здаецца, яго выбралі членам прафкама інстытута, таму і вызвалілі ад старостава. А я быў актыўным студэнтам, добра вучыўся, павышаную стыпендыю атрымліваў, навуковай працай займаўся. У аднакурснікаў меў павагу, акром іншага, лічылі яны мяне за беларускага нацыяналіста, бо мову ведаў. Нефармальны лідар, як назвалі б цяпер. А тут і фармальна тое засведчылася пасля размовы ў дэкана і адпаведнага загада.

З нагоды гэтай пагулялі з маім сябрам Колем Дзятко па горадзе, выпілі па кілішку. Вяртаюся вечарам у прыўзнятым настроі ў свой інтэрнацкі пакой, а там гулянка. Жылі мы шчыльна, пяць чалавек. Два двухпавярховыя ложкі, адзін асобна, якраз мой. Стол цяпер пасярэдзіне, накрыты па-студэнцку небагата. Уласна, якраз Стась (жылі разам) адзначаў невясёлую дзя сябе падзею – канец староства. Што мне заставалася рабіць? Далучыўся. Па “чарніла” яшчэ бегалі, рэй памалу набываў гучнасць. Дашумеліся, што накрыў оператрад, былі такія з ліку студэнтаў для падтрымання парадку ў інтэрнатах. Своеасаблівыя міліцыянты-добраахвотнікі, якіх я з маімі таварышамі не любіў. Пратаколы склалі. Далей – чакай паведамлення ў дэканат, а там ужо будуць рабіць высновы. Мо каб аб гэтай прыкрай неспадзяванцы паведаміў адразу куратарцы, прытушылі б неяк сітуацыю. Але не сказаў, пасаромеўся, ды і спадзяванне было: можа, абыдзецца? Не абышлося. Такім чынам старастам я быў толькі адзін тыдзень. Непрыемна, але што гэта ў юнацтве – наперадзе цэлае жыццё! Тым больш нефармальнага лідарства ніхто ў мяне адняць не мог.

Не зразумеў я тады, што гэта быў знак. Аптымістычна меркаваў – у будучым выб’юся, займу нейкую пасаду... Хто ж не марыць аб вертыкальным складніку жыццёвага шляху? А каляіна церабілася сваім прадвызначаным, як цяпер зразумела, чынам. З трыццаці гадоў, калі пасля “Мінскпраекта” трапіў у Дзяржкіно БССР, пачалося ўсё нанова. Дакументальнае кіно поруч з літаратурай сталі маім жыццём, аб чым ніколі не шкадаваў. Наадварот, удзячны Госпаду за такі паваротак. На студыі “Летапіс”, куды ў 1988 годзе прывялі шляхі, да сярэдзіны дзевяностых фільмаў стала здымацца зусім няшмат, з дванаццаці рэдактараў засталося толькі два. Крызіс постсавецкі, ясная справа, добра, што зусім дакументальнае кіно не згасла. Неяк дырэктарка сказала, што мяне мяркуюць прызначыць галоўным рэдактарам, кабінет ужо рыхтуе. А далей цішыня – дзень, два, тры... Потым наш мастацкі кіраўнік Уладзімір Трафімавіч усё ж з доляй вінаватасці паведаміў, што галоўным рэдактарам будзе Самсон Германавіч, які працаваў да таго рэдактарам знікаючых тэлевізійных мастацкіх фільмаў.

Зразумела, сваім трэба паспрыяць, ды і да пенсіі чалавеку дацягнуць. А іншыя пацерпяць. Тут ужо да мяне дайшло, што не лёс быць начальнікам. Гасподзь даў яшчэ знак. Але тады зачапіла. Не скажу, што доўга маркоціўся, бо пісаліся сцэнарыі, здымаліся па іх фільмы, цікавых вандровак не бракавала, нягледзячы на вобмаль фінансаў. Ды і літаратурныя справы рухаліся – у 1993 годзе выйшлі адазу два зборнікі паэзіі. Галоўнае – рабілася беларуская справа, хоць у навакольным жыцці па вядомых прычынах яна пачала прыцïскацца, цішыцца. А крыўды з-за пасады не меў – колькі пераседжана ўтрох у кабінеце Самсона, колькі кавы выпіта, колькі высмалена цыгарэт, размоў перамоўлена!

*

Трэцяя паралельная прамая з жыццёвага сшытка ў лінейку накрэслілася, калі разганялі нашу “Бярозку”.

У рэдактара Уладзіміра Ягоўдзіка ў канцы года скончыўся кантракт, ён сыйшоў. Як намеснік галоўнага я паспеў выпусціць яшчэ тры нумары “Бярозкі”, пасля больш васьмі месяцаў займаўся ліквідацыяй юрыдычнай асобы, якой быў часопіс – бегаў па ўсялякіх установах, зачыняў рахунак, здаваў пячатку. Апошнім сыйшоў з карабля, а гэта справа капітанская. Суцяшаў такі момант слаба, знікала яшчэ адна выспачка шчырай беларушчыны.

Нашы паралельныя прамыя перасякліся з Уладзімірам Ягоўдзікам дзіўным чынам. Майму першынцу Цімоху ў 1986-м прыспеў час у школку. Толькі ў беларускую – тут варыянтаў для мяне не было, ды і жонка Вольга падтрымлівала. І што аказалася? На ўвесь Мінск знайшлі толькі адзін беларускамоўны клас – на вуліцы Уральскай, у 19-й школе. Не іншы канец горада, з Серабранкі шлях

просты трамваем, ды яшчэ два прыпынкі аўтобусам, але ж вазіць дзіця трэба, час траціць. На першай лінейцы прыглядваюся – а хто ж яшчэ з бацькоў? Тут убачыў Ягоўдзіка, твар знаёмы па фотаздымках з публікацый. Так знайшлі, як гавораць, адзін аднаго. Валодзя вазіў сваю Юлю з Валгаградскай, яму было яшчэ больш нязручна, чым мне. Пасля пачатковай школы Ягоўдзік аддаў дачку ў мастацкую гімназію-каледж імя Ахрэмчыка, а Цімох мой завяршаў сярэднюю адукацыю у ліцэі імя Якуба Коласа. Цікава, але пазней вучылася ў “парнаце”, як называлі вучэльню Ахрэмчыка, мая дачка Марына. Як і Юлю, яе шлях прывёў потым у Акадэмію мастацтваў, таксама на графіку.

Фармальныя зачэпкі, скажаце, аб такога кшталту перакрыжаваннях кожны можа распавесці са свайго жыцця. Спрачацца не буду, але ёсць невыпадковасць у тым, як людзі сыходзяцца, як завязваецца сяброўства на грунце супольных інтарэсаў, агульнай справы. Беларускай у гэтым выпадку. Ды проста ўзаемнай прыхільнасці. І таму зусім невыпадкова, што ў 1998 годзе, калі на кінастудыі працаваць стала немагчыма, задушна, я трапіў у “Бярозку”. Галоўны рэдактар Ягоўдзік прапанаваў. Потым неяк высветлілі, што яго, Бадака і мяне (уласна, утрох і рабілі часопіс), хоць мы і з розных мясцін родам, яднае беларуская рака Шчара.

Для мяне тыя пяць гадоў у “Бярозцы” сталіся цудоўнай часінай жыцця, якая прынесла знаёмства з выдатнымі творцамі, не толькі пісьменнікамі, але і мастакамі. Часінай плённай літаратурнай працы, што ўвасаблялася ў шматлікіх публікацыях і новых кнігах. Ды і на сцэнарыі калегі-кінадакументалісты не давалі забывацца. Жыццё наша ў старым Доме друку, дзе на месцы былых кабінетаў галоўнага рэдактара “Звязды” месцілася “Бярозка”, а яшчэ на калідоры – рэдакцыі “Раніцы”, “Вожыка”, “Алесі”, на два паверхі вышэй – “Зорькі”, было напоўненае будзённымі, радаснымі, трагічнымі (смерць Алеся Пісьмянкова) падзеямі. Тут асобны аповед патрэбны. Калісь прыйшла задума выявіць праявы жыцця і той звонку немудрагелісты, але знутры напружаны для беларусчыны час на зломе стагоддзяў у постмадэрнісцкай п’есе. З назваю “Калідор”. Выразна бачылася сцэнічная пабудова, дэкарацыі, якія не змяняюцца на працягу ўсяго спектакля. Пасярэдзіне ўмоўнае акно калідора, дзе каля падваконня адбываецца паленне і размовы ў цыгарэтнай смузе, з двух бакоў такія ж умоўныя рэдакцыйныя кабінеты, дзе таксама бясконцыя размовы, часам застоллі. Дзеянне праходзіць пачаргова то ў кабінеце, то каля акна, то ў іншым пакоі. Драматургічнае напружанне якраз у дыялогах – працоўных, бытавых, філасофскіх, якія павінны быць выпісаны вельмі стылёва, характарна для кожнага персанажа. Прататыпы – рэальныя людзі. Акром згаданых нас, Алесь Траяноўскі, Генадзь Бураўкін, Алесь Пісьмянкоў, Андрэй Федарэнка, Міхась Хамец, Алесь Наварыч, Уладзімір Савіч, Уладзімір Вішнеўскі, Анатоль Зэкаў. Эпізадычныя асобы, калі трэба, таксама з адметнымі рысамі рэальных людзей. Хоць увогуле ніхто нікога не пазнаў бы, бо згаданыя асобы, іх гісторыі, іх энергетыка – толькі штуршок для стварэння вобраза. Шкада, што я не драматург, выдатная экзістэнцыйная рэч магла б атрымацца. Не кідайце папрок, што кажу аб ненапісаным, нявздзейсненым. Сам разумею: напішы, а потым ужо гавары.

*

Дык буду пісаць пакуль тое, што ўмею лепш. У маёй Даманаўскай школе дырэктарам стаў нехта Бабіла. Аказалася, што яны з Ягоўдзікам вучыліся ў адной школе, толькі той быў маладзейшы крыху за Уладзіміра Іванавіча. А да Бабілы дырэктарам быў Уладзімір Самасюк. Калі я працаваў у “Мінскпраекце”, адным з калегаў па нашай трэцяй архітэктурнай майстэрні быў Міхаіл Самасюк. Літаральна ў адным пакоі сядзелі. Па ўзросце крыху старэйшы за мяне, скончыў Брэсцкі архітэктурна-будаўнічы інстытут. Трапіць у Мінск адтуль лічылася ўдачай.

Калі даведаўся, што я таксама з Брэсцкай вобласці, спытаўся – чаму ж у Брэст не паступаў? Інстытут гэты там толькі-толькі пачаў працаваць. Чаму-чаму? Для мяне пасля школы і пытанне так не стаяла – толькі ў Мінск. Значыць, амбіцыі меў ужо тады, комплексу правінцыйнасці не было. А калі і былі рэцыдывы, дык пасля вучобы, вандровак, адкрыццяў, багемных бадзянняў і знаёмстваў зніклі зусім. Сталічны архітэктар, самы прэстыжны праектны інстытут – чаго яшчэ жадаць? Міша такога не разумеў. Рупна працаваў, галоўнай мэтай было ўладкаваць кватэрнае пытанне, бо меў ужо сям'ю. У нейкі момант да мяне прычапіўся выраз "сціплая абаяльнасць буржуазіі". Гэта была назва фільма, якога я тады, каб і хацеў, то паглядзець не мог. Вельмі падабалася такое словазлучэнне, заварожвала нейкім сваім спакусным сэнсам. Часта паўтараў яго – да месца, не да месца. Астатнія архітэктары ў пакоі ўспрымалі спакойна, а Самасюка гэта нервавала. Нават зрываўся часам: Валодзя, кінь гэта паўтараць! Ну то і пакінуў пакрысе. Але і цяпер, праз трыццаць з гакам гадоў, падаецца, актуальнасць гэтага фразеалагізму ў нашых варунках не знікла. Не могуць правінцыялы сваёй гадоўлі і пустадомкі даўмець сціплай абаяльнасці буржуазіі, калгас трэба, ды ўсё. Дык вось, аказалася, што родны брат Мішы таксама пасля вучобы ў Брэсце трапіў па размеркаванні настаўнікам у Даманаўскую школу. Потым і дырэктарам стаў на некаторы час. Калі прыязджаў да бацькоў, пазнаёміліся, і ў школе выступаў на яго запрашэнне, і за сталом на юбілеях майго бацькі сядзелі. Спакойны чалавек, жонка абаяльная, дачок харошых вырасцілі. Падумалася – наколькі больш арганічнае жыццё на вёсцы, значна больш шанцаў жыць у суладдзі з душою, чымся ў мегаполісе, дзе вымушаны гнацца невядома за чым. Тут трэба немалыя высілкі, каб не паддацца спакусе гэтага руху, застацца самім сабою. Мішу пасля Мінскпраекта я не сустракаў, пытаўся пра яго лёс у Валодзі. Такія паралелі жыцця.

*

Паэт мусіць мець біяграфію, яму не варта прасядзець на адным месцы ўвесь свой працоўны век, дапусцім, у нейкай рэдакцыі ці выдавецтве. Іначай – дзе тое жыццё ўбачыш? Тут мае паралельныя прамыя крэсліліся належным чынам, сумавацъ і спыняцца не даводзілася.

Пачалося ўсё з размеркавання, дзе я ішоў чацвёртым па спісе з балам чатыры семдзесят два. Можна было пераздаць некалькі экзаменаў, каб бал вырас да чатырох сямідзесяці пяці, гэта дало б чырвоны дыплом. Але ўжо тады, дзякаваць Богу, разумеў, што не ў тым сутнасць, мітусіцца не стаў. За правы ж свае змагаўся, бо мяне, як іншагародняга (слоўца якое!), вымушалі з'ехаць у адзін з абласных гарадоў. Два разы не падпісваў паперы, на трэці раз прапанавалі працу на вытворча-тэхнічным аб'яднанні "Інтэграл". Што рабіць архітэктару на заводзе – невядома, але выбару не было, пагадзіўся. Галоўнае, у Мінску застаўся. Дарэчы, у грашовым плане выйграў, мае аднакурснікі атрымлівалі сто-сто пятнаццаць рублёў, а я сто шэсцьдзесят – сто семдзесят, бо прадпрыемства саліднае, саюзнага падпарадкавання, у асноўным працавала на "абаронку".

Праз год я пачаў рабіць захады адтуль сысці, якія завяршыліся поспехам, афіцыйным пераводам. Ліст аб адмацаванні прыйшоў ажно з Масквы, з адпаведнага міністэрства. А ў "Мінскпраекце" ўжо чакалі. Ішоў на працу да архітэктара, які праектаваў якраз Палац культуры таго ж "Інтэграла". Першы мой працоўны прытулак проста так не адпускаў. Нават прадстаўляў потым праект для грамадскасці ў інтэрнаце завода, суседнім з тым, дзе жыў калісьці сам. Паказваў макет, планы, расказваў, дзе што мае быць. На гэтым першым маім выступленні перад людзьмі была Вольга, ужо цяжарная нашым першынцам. Палац меўся паўстаць на горцы насупраць заводаў (іх у аб'яднанне ўваходзіла тры), архітэктуру на паперы меў нестандартную для такога кшталту будынкаў, але занадта накручаную, як на мой

погляд. Дарабляў праект, займаўся ў асноўным інтэр'ерамі. Мой ГАП (галоўны архітэктар праекта) быў чалавек сярэдняга ўзросту, але хворым на злую хваробу. Неўзабаве ён памёр, давялося ўжо ў дваццаць пяць гадоў сутыкнуцца першы раз з пахаваннямі на працы. Колькі потым было тых пахаванняў, на жаль, асабліва на кінастудыі! Далі мне іншага кіраўніка праекта, заказчыкі не раз падыходзілі, але справа пакрысе затухла. Не змаглі выбіць у Маскве фінансаванне для будаўніцтва, у савецкі час гэта было няпроста. Пайшла іншая работа, асабліва цікавай яна выдалася з плошчай Незалежнасці (тады Леніна), дзе на месцы цяперашняга падземнага гандлёвага цэнтра "Сталіца" мы ставілі будынак Урадавай бібліятэкі. На пэўнай стадыі таксама ўдзельнічаў у праектаванні Палаца Рэспублікі.

*

Але цяпер не ад тым.

На першае месца працы трапіў змушана. Сышоў самахоць, на другое месца трапіў па сваім жаданні. Кінуў зноў жа змушана. Я ўжо вучыўся завочна ў Літаратурным інстытуце, што ніяк не стасавалася з прафесіяй архітэктара. Але часы савецкія, нават другая адукацыя была за дзяржаўны кошт. "Мінскпраект" павінен быў аплачваць мне сесіі ў Маскве (трыццаць плюс дваццаць – пяцьдзесят дзён за год!), ды за дарогу, праўда, у адзін канец, калі не памыляюся. Навошта ім гэта? І вось аднойчы ў траўні, калі прыехаў, скончыўшы чацвёрты (і так доўга цярпелі!) курс, мяне выклікалі ў аддзел кадраў і паведамілі, што звальняюць па скарачэнні штатаў. Зразумела, сам меркаваў, што буду мяняць працу на літаратурную, але канктрэтных захадаў яшчэ не рабіў. Сталася нечаканасцю. Раіў начальнік аддзела напісаць заяву па ўласным жаданні, але я сказаў, каб запісалі як ёсць – па скарачэнні штатаў. Для біяграфіі творчага чалавека штрых нармальны.

Шукаў працу больш трох месяцаў, пакуль дзіўным чынам не трапіў у Дзяржкіно БССР. Змушана, бо іншага варыянту не было. Адтуль у 1988 годзе, калі ўжо вітала ў паветры неадваротнасць вялікіх падзей-перамен, самахоць пераводам пайшоў працаваць на кінастудыю "Беларусьфільм" на студыю дакументальных фільмаў "Летапіс". Нязмушана. Сышоў адтуль праз дзесяць гадоў змушана, як адзначана вышэй. Танула чарговая выспа беларускасці, беларускага духу і справы, якой была наша студыя "Летапіс". І так доўга пратрымаліся, калі браць адлік ад вядомага 1994 года. Першымі звольнілі начальнікаў, Трафімавіча і Самсона, недзе ў маі ці напачатку чэрвеня. Я даліпеў да кастрычніка, але ўжо без сілаў. І тут, калі льга было зняверыцца, Гасподзь адкрыў яшчэ адну беларускую выспачку – часопіс "Бярозка". Яна увайшла ў жыццё па ўласным жаданні. Як хораша тут было! Ды ўсё добрае сканчаецца, хоць пратрымаліся яшчэ пяць гадоў. Пакінуць давялося зноў жа змушана, не па сваёй волі.

І вось – дзіва! Я зноў трапіў на сваю родную студыю "Летапіс", ужо Нацыянальнай кінастудыі "Беларусьфільм"! Самахоць. На сваё ж месца – вядучым рэдактарам. То не бярыце на веру, што ў адну раку нельга ўступіць двойчы – па волі Госпада ўсё магчыма ў жыцці. Рэальна здарылася так, што рэдактарка, якая там працавала, самастойна вылучылася кандыдатам у дэпутаты гарсавета. Жадаў чалавек такога працягу сваёй кар'еры. Але праяўляць несанкцыянаваную ініцыятыву ў нас нельга, таму кіраўніцтва студыі папрасіла яе сысці, месца аказалася вольным.

*

Змушаныя і нязмушаныя сыходы і прыходы.

Так перакрыжоўваліся мае паралельныя прамыя датычна працоўнага жыцця. Каштавалі зрухі нерваў кожны раз, але заўсёды ўсё выходзіла да лепшага. Значыць, так і павінна было быць. Зноў апынуўшыся ў дакументальным кіно,

адчуў слушнасць такога стаўлення да начальніцтва: не абавязкова займаць пост, лепш мець рэальную ўладу, магчымасць кіраваць працэсам. Так вось было і ў мяне – планы, якія складаў, ніхто не крэсліў, іх проста зацвярджалі на кінастудыі і ў міністэрстве, можна было рабіць тое, што лічыў патрэбным. Можна было пакрысе вяртаць у дакументальнае кіно амаль зніклую ўжо беларускасць. Так і ўдавалася, нават чатыры гады пры Замяталіне, для якога Беларусі не існавала. Ён нічога не мог зрабіць, бо аргументаў супраць, акром нелюбові, не меў. Хіба што ў апошнія месяцы свайго дырэктарства ўжо не стрымліваўся і крычаў на мяне: "Вы всё врёте в истории, я вас уволю!" Дзе цяпер той Замяталін? А створаныя фільмы засталіся.

У працяг згадак аб месцах працы не магу не адзначыць цікавую акалічнасць – усе яны месціліся на праспекце, толькі "Інтэграл" быў на выселках, у Курасоўшчыне. Мінскпраект за Чырвоным касцёлам, Дзяржкіно на Карла Маркса блізу Камсамольскай і вежы з гадзіннікам. Стары Дом друку з "Бярозкай" на праспекце, кінастудыя зноў жа там. Ніякай псіхалагічнай напругі. Хоць кожны кавалак праспекта (для мяне ён і сёння Францішка Скарыны) меў сваю адметнасць, свой рытм жыцця, свае кропкі таварыскіх сутыкненняў за чаркай. Толькі паралелі, згаданыя тут, спрэс гарызантальныя, але адной роўняддзю не акрэсліваецца жыццёвы рух. Умацаваннем і узвышэннем духу ёсць вертыкаль. Спадзяюся, для мяне паралельнымі прыступкамі ўверх сталі напісаныя кнігі, створаныя фільмы, праца думкі – натуральныя для творцы спробы спасціжэння сэнсу існавання чалавека за зямлі.

Жыццёвы сшытак у паралельную лінейку між тым пісаўся сваім парадкам. Згадак да тэмы шмат. Вось і гэтая. Якраз у дзень Цімохава шлюбу, а тое адбылося 20 лютага 2005 года, Даніла каціў з Парыжа на радзіму. Ездзілі яны туды ад сваёй французскай школы, якая мела стасункі з каледжам у Францыі. Паўмесяца пайшло на вандроўку. Жыў у "прыкольным" (яго выраз) гарадку Ле Пюі. Калі прывёз праспекты і кнігу аб гэтым горадзе, то і мне стала зразумелым, што места сапраўды адметнае. Пасярод гор. На скалах стромкіх, што ўзвышаюцца над горадам, стаіць агромністая, не раўнуючы як статуя Свабоды ў Амерыцы ці Хрыста ў Бразіліі, скульптура Маці Божай Французскай (на адной вяршыні) і храм (на другой). У скульптуру можна ўвайсці, падняцца і ў вакенца пад рукою мадонны любавацца панарамаю дамкоў з чырвонаю дахоўкаю. Адным словам, пабыў малодшы сын у Францыі, мову папрактыкаваў. Пабачыў звычайнае французскае жыццё. На зваротнай дарозе заехалі ў Парыж (ад Ле Пюі 500 кіламетраў), быў у Луўры, Джаконду паглядзеў і сфатаграфаваў, заходзіў у Нотр Дам дэ Пары, стаяў каля Эйфелевай вежы. Камплект, адным словам.

Распавядаю аб гэтым, каб адзначыць цікавую дэталь. Каледж у Ле Пюі называўся... Лафаэт! Вось табе і маеш! Старэйшы брат вучыўся ў Лафаэт-каледжы. У Амерыцы. І малодшы брат сутыкнуўся з Лафаэт-каледжам. У Францыі. Праўда, Даніла гэтаму супадзенню не надаў увагі. "Ну і што?" – запытаўся ён. Але я ведаю загадку паралельных прамых, упэўнены, што нічога выпадковага не бывае.

Незвычайны быў гэты інсургент, генерал Лафаэт. За свабоду Амерыкі змагаўся, як і Касцюшка, таксама нацыянальным героем заакіянскім стаў. А пасля і на радзіме ва ўсялякіх іхніх рэвалюцыях вызначыўся. Падтрымліваў польска-ліцвінскі эміграцыйны асяродак у Парыжы (пасля паўстання 1831-32 гадоў). Магчыма, героі маіх эсэ "На абодвух паўшар'ях зямлі" і фільма "За брамай забытых мелодый" Ігнат Дамейка і Напалеон Орда былі з ім знаёмыя? Зноў жа тыя нябачныя повязі, якія нітуюць, завязваюць усё ў адзін вузел. Далёкія краіны, незнаёмыя людзі, гістарычныя асобы становяцца блізкімі, знаёмымі. Ці не цуд? Толькі шкада, што ў Амерыцы няма каледжа Касцюшкі.

Ігнату Дамейку яшчэ ўдзячны дзіўным чынам. У яго кнізе жыцця "Мае

падарожжы" прачытаў малітву: "Госпадзе Божа Ўсемагутны, у Святой Троіцы адзіны, учыні, каб думкі, мае словы і ўчынкі на служэнне Табе і хвалу Тваю былі скіраваныя і ніколі волі Тваёй святой не працівіліся". Яна была яго шчаслівым абярэгам усё жыццё. Прыйшліся такія словы да душы і мне, чытаю гэтую малітву кожнага разу ў машыне, калі саджуся за руль.

*

З цягам часу мацней пераконваешся, што ўсё ў нашым жыцці робіцца па волі Госпада. Калі верыш, што Ён вядзе цябе тваёй сцяжынай, усё лішняе ці неістотнае адпрэчваецца. Але ж чалавека тузае, яму ўсё нечага карціць. У дачыненні да сябе я называю гэта авантурызмам, праявы якога разнастайныя, пры тым зусім неабавязкова з цёмным адценнем. Гэтая якасць чалавека аднекуль збоку. Вось і дае Гасподзь плён (тэксты, кнігі, фільмы) за тваю рупнасць. Але тым жа і паказвае, што славы чакаць не варта, бо мітусня марная. Асабліва ў рэаліях нашых сённяшніх, калі беларушчына не ў фаворы. Ды адразу не даходзіць, слабы чалавек, славы якраз хочацца, імкнешся нейкіх знакаў-адзнакаў сваёй творчай працы.

Не пазбег і я такой спакусы. Маю на ўвазе вылучэнне на розныя прэміі. Першая спроба была ў 1994-м. Неяк пад канец 93-га ўспомнілі з Уладзімірам Трафімавічам і Самсонам за чарговым бясконцым кубачкам кавы ў прасмаленым пакоі аб дзяржаўнай прэміі, і вырашылі парупіцца. З іхняга боку, натуральна, узнікла прозвішча Жданоўскага. Сапраўды, яго апошнія фільмы складваліся ў пэўную суладнасць: "Дарога на Курапаты", "Жаўрукі Беларусі", "Успамін пра Міколу Равенскага". Залатвіўся пры вылучэнні і мой інтарэс. Я быў аўтарам сцэнарыя фільма аб Равенскім, а ў першых двух сааўтарам рэжысёра быў Лукашук. Такім чынам і нас уключылі ў спіс. Ды аператара Пятроўскага, з якім пастаянна працаваў Жданоўскі. Усё добра, але быў тут адзін нюанс. Не менш, калі не больш на той час прэміі заслугоўваў рэжысёр Гайдук, які зняў шмат фільмаў аб выбітных постацях беларускай мінуўшчыны, у тым ліку і з маім удзелам. Праўда, апошнім часам у нас супрацы не было, разышліся не з маёй ініцыятывы, таму вылучыцца з ім як аўтару сцэнарыя не выпадала. Натуральна, для мяне падыходзіў першы варыянт. Урэшце Гайдук вылучыўся ад Таварыства беларускай мовы, якое тады ачольваў герой яго фільма на Белвідэацэнтры Ніл Гілевіч, але прайграў. Станіслаў потым неаднойчы папракаў мяне ў здрадзе, аргументаў з майго боку слухаць не хацеў. Так думае і да сёння, хоць пасля майго вяртання на "Летапіс" мы зноў сышліся, выпіўшы міравую, знялі сумесна яшчэ шмат фільмаў. Але потым зноў творча разбегліся.

А тады справа рухалася сваім чынам. Прыйшоў час, камісія галасавала. Атрымаліся дзіўныя вынікі: мы ўтрох прайшлі, а Жданоўскі не дабраў галасоў. Зразумела, гэта было абсурдна, бо ў кіно галоўны чалавек – рэжысёр. Мажэйка патэлефанавала мне, павіншавала ўжо, але сказала, што маецца быццам быць перагаласаванне. Яно і прайшло. І што атрымалася? Мы ўсе аказаліся за бортам, застаўся адзін рэжысёр. Я адчуваў, што дабром не скончыцца пры тым перагаласаванні, але ціха спадзяваўся, што проста дададуць адно прозвішча, і застанемся мы ўсе. Але вядомаму паэту, які вёў рэй у камісіі з гэтай справай, здавалася інакш. Чаго ён і дамогся. Не ведаю, як Лукашук, а я перанёс навіну амаль абыякава, хіба з лёгкім шкадаванннем. Жыццё ад гэтага не спыняецца. А вось аператар перажываў проста балюча, скардзіўся мне, што ўжо трэці раз вылучаецца на дзяржпрэмію – і ніяк не можа атрымаць. Заставалася толькі паспачуваць чалавеку.

Убачыў потым неяк, што Лукашук у звестках пра сябе пазначае, што фільмы па яго сцэнарыях "Дарога на Курапаты" і "Жаўрукі Беларусі" адзначаны дзяржаўнай прэміяй. А чаму і не? – падумалася мне. Сцэнарыст з'яўляецца суб'ектам аўтарскага права ў кіно, калі яго фільмы ёсць у спісе, то можна і засведчыць такі

факт. З таго моманту і я стаў пісаць, што мой фільм як аўтара сцэнарыя “Успамін пра Міколу Равенскага” адзначаны прэміяй. Калі больш правільна, трэба дадаваць: “У ліку трох фільмаў Міхаіла Жданоўскага”. Але гэта доўга, ды і навошта згадваць іншае прозвішча ў звестках аб сабе? Пры гэтым слова “лаўрэат” я ніколі не пісаў, нікога не падманваў. Але ж людзям, якія бачаць словы “дзяржаўная прэмія”, карціць дадаць тое слова. Таму некалькі разоў нявыкрутка выходзіла, але я ніякай сваёй віны не бачыў і не адчуваў. Проста перастаў згадваць той фільм, калі людзі не разумеюць.

*

По вяртанні на “Летапіс” пайшлі новыя фільмы – згаладаўся я па сваім любімым дакументальным кіно. Адзін год было пяць фільмаў па маіх сцэнарыях, другі год ажно сем. На розных студыях.

Убіўся з галавою ў неабавязковыя надзённыя праблемы-мітрэнгі, а закон паралельных прамых пазачасавы, універсальны. Вось такая гісторыя адбылася аднойчы. Пачалося, калі прачытаў кнігу “Дыярыуш з XIX стагоддзя”, падпісаную мне аўтарам-выдаўцом Язэпам Янушкевічам. Гэта дзённік (1858-1860 гады) Міхаіла Галубовіча, на той час архіепіскапа мінскага. Цікавейшая кніга, дзе нават эратычныя моманты ёсць у запісах. Запоем адолеў, бо люблю шчырую мемуарна-дакументальную літаратуру. Калі працаваў над сцэнарыем аб Міхале Баброўскім, убачыў яго рапарт нумар васямнаццаць Быценьскаму (мае мясціны!) архімандрыту, епіскапу пінскаму Міхаілу Галубовічу, дзе паведамлялася пра Супрасльскі летапіс. Напісаны быў той рапарт у Шарашове 05.12.1839 года. А калі чытаў Янушкевічаву “Зямлю кенатафаў”, знайшоў у свайго таварыша цікавы дакумент аб тым, як мае мікалаеўскія землякі ў 1866 годзе пераходзілі ў праваслаўе. Гэта рапарт Станькаўскага благачыннага святара Пятра Трускоўскага. І каму? Зноў жа Міхаілу Галубовічу, на той час ужо архіепіскапу мінскаму і бабруйскаму. Натуральна, іерарх праваслаўнай царквы на Беларусі адразу даў ход рапарту, каб мікалаеўцы, крый Божа, не перадумалі раптам. Выснова адна – варта быццам выпадкова за нешта зачапіцца, як адразу тое атрымлівае працяг. Бо ўсё пераплецена – як у гэтым жыцці, так і ў жыцці пазамінулага стагоддзя.

Але ў гэтым жыцці, што больш відавочна, перакрыжаванні адбываюцца з рэальнымі людзьмі. У 2009 годзе ўдалося зняць фільм пра Віктара Казько, якога я люблю як чалавека і як выдатнага майстра слова, які піша ў сваім стылі “міфалагічнага рэалізму” (геніяльнае азначэнне Міхася Тычыны!). Недзе пад канец лютага з’ездзілі з Віктарам Апанасавічам на яго хутар, у Дудуткі. Хораша з’ездзілі, рамаў балконных дзесяць штук прывезлі, каб не зміналі ў горадзе. Патапталі з імі снег, пакуль пераносілі, бо да самой хаты яшчэ было не пад’ехаць. Потым пахадзілі каля і па-над Пціччу, пагрэліся ля каміна. Без чаркі, без чаркі! Бо я за рулём (заўвага для цікаўных). Адно з месцаў дзеяння будучага фільма стала для мяне больш зразумелым.

Але цікава іншае, зноў жа да паралельных прамых. З Казько, акрамя пісьменніцтва, тры вымаляваліся. Ён быў у дзетдоме, а я нарадзіўся пры дзетдоме і рос да сямі гадоў разам з дзетдомаўцамі. Вучыліся, толькі ў розныя, натуральна, гады ў адным Літаратурным інстытуце, які скончылі кожны ў трыццаць гадоў. І, нарэшце, стаж наш мінчукоўскі аднолькавы – з 1970 года. Ён з Сібіры вярнуўся ў беларускую сталіцу, а я з вёскі вучыцца ў БПІ. Вось яшчэ адзін доказ, што нічога выпадковага ў жыцці не бывае. А непасрэдна ў фільме скрыжаваліся потым духоўныя высілкі мае, рэжысёра Жэні Сяцько ды самога Віктара Апанасавіча, то і плён атрымаўся. Не са сваіх слоў кажу, шмат хто хваліў і віншаваў з карцінай, якая займела канчатковую назву з эпічным адценнем “Знакі лёсу. Віктар Казько”.

Тым і скончылася? Дзе там, нецікава было б. Хаджу ў свой час, думаю аб

тэксце, які будзеназывацца “Апокрыф Багдановіча”. Пра васілёк як сімвал Беларусі ды пра хрысціянства ў нашай літаратуры. Да канферэнцыі ў Маладзечне, як і паабяцаў Міхасю Казлоўскаму. Але і для сябе, бо ў такім ракурсе пра нашага “паэта чыстай красы” ніхто не пісаў яшчэ. А тут па дарозе на кінастудыю і назад, ды і дома, дачытваю твор Казько “Сказ пра ката, каторы смяяўся”. Першую часопісную палову прачытаў раней, а цяпер дачытваю другую – чым жа яно скончыцца? І што ж там на завяршэнне бачу? Васількі! “Пасярэдзіне нябеснага круга блакітна выклікальна і непахісна стаялі тры кусцікі самых звычайных, што ні на ёсць зямных васількоў”. Далей ідуць тры апошнія радкі “Слуцкіх ткачых”. А яшчэ далей – узвышэнне, узнясенне гэтага сімвала Беларусі (“сціплая, знакавая кветка гэтага куту, гэтага краю”) да містычных, метафізічных вышыняў. Як знак з нябёсаў, пасланне чалавеку, апошняе яму папярэджанне, каб адумаўся ў сваёй знішчальнай “руплівасці” на зямлі. Невытлумачальная, непазнавальная духоўная повязь між людзьмі. Думаеш аб гэтым, жывеш ім тым часам – і тут табе ад любімага пісьменніка і чалавека даецца пацверджанне тваіх думак. Акурат тады, калі трэба, ні раней, ні пазней.

*

Бадай, час і кропку ставіць, бо згадваць аб паралелях жыцця можна бясконца – колькі яшчэ за кадрам матэрыялу!

Аповед пачаўся з вуліцы Усходняй нездарма. Мы жылі ў Серабранцы, двухпакаёўку тую атрымалі ад Дзяржкіно БССР (праз два гады ад пачатку маёй працы – неверагодны для савецкага часу выпадак!), перад Марыніным нараджэннем. Дзеці падрасталі, цеснавата станавілася. А тут і Даніла з’явіўся на свет. Два хлопчыкі і дзяўчынка ды мы з жонкаю – двухпакаёўкі аніяк не хапае. Праўда, калі малодшаму было тры гады, Цімох з’ехаў на вучобу за мяжу. Тым не менш кватэрнае пытанне рабілася ўсё больш вострым. Заяву ў Саюз пісьменнікаў я падаў, калі выйшлі дзве кнігі, у 1993 годзе. Але справу не варушыў, не хацелася цягацца туды з пляшкамі, каб паскорыць. Ну, не цягнуліся ногі, можна і пачуццё годнасці сюды дадаць. У выніку сябрам Саюза стаў толькі ў 1997 годзе (і то Уладзя Арлоў падштурхнуў, дзякуй яму), такім чынам спазніўшыся заскочыць у апошні вагон, калі пісьменнікам давалі бясплатнае жыллё... Так і ляснуўся драматургічна лагічны фінальны эпізод, які б закальцоўваў аповед “Паралельныя прамыя”. Не скрыжаваліся яны ў гэтым выпадку ў прасторы, неспадзяванка прыкрая выйшла.

А кватэрнае пытанне, самае балючае для чалавека, усё ж вырашылася. Гасподзь бачыў нашую ўсё больш пільную патрэбу. На трэцюю прапанову Вользе з яе работы пабудавалі трохпакаёўку ў Сухарава. Крэдыт узялі, ды і на халтуры я зарабіў нечакана шмат грошай (хоць раз у жыцці, але такое бывае!). Калі наш вярстальнік яшчэ ў “Бярозцы” казаў, што будуецца дом на Каменнай Горцы, мне тое здавалася недзе за краем свету. Аказалася, зусім няблага, да метро чатыры прыпынкі. Абжыліся неяк адразу, мо паспрыяла і тое, што айцец Сергій, герой майго фільма, асвяціў наша жытло. А крэдыт ужо неаднойчы з’ядала інфляцыя: калі прыкінуць, то за чатыры гады ён патаннеў для нас у чатыры разы. Такая арыфметыка рэальнага беларускага жыцця. Тут да геаметрыі, тым больш Лабачэўскага, вельмі далёка. Але жыццё не вычэрпваецца рэальнасцю, яно ўбірае ў сябе ўсё, у тым ліку і ўвасабленне закона паралельных прамых. Паспрабуйце самі, кіруючыся гэтым законам, згадаць свой шлях, і вы абавязкова пераканаецеся ў слушнасці яго.

Сяржук Сыс



…Хацелася браць адразу ўсё,
што бачылі вочы, нягледзячы на адарваныя
вокладкі ды пашкамутаныя старонкі…

# Святло і шчасце кніжніка

### 1. Дзядзька Эдзік і пачатак хваробы

Мне з маленства шанцавала на кнігі. Па чарзе, у светлых пакоях некалькіх дамоў, дзе жылі бацькі, пакуль не адбудавалі ўласных цагляных харомаў на Лугавой вуліцы ў вёсцы Заспа, тулілася ў кутку спрадвечная "качэўніца" – драўляная "этажэрка" з чатырма паліцамі, на якой у два шэрагі стаялі кнігі. І хаця чытаць самастойна пачаў недзе ў шэсць гадоў, хатнія кнігі напачатку я проста гартаў, разглядаючы малюнкі ды фотаздымкі. Прынамсі, узгадваюцца вясёлыя малюнкі з чатырохтомніка карыкатурыста Херлуфа Бідструпа.

Тата мой Анатоль Сыс – няспраўджаны лётчык, вытураны за хуліганства з Акцюбінскага лётнага вучылішча ў войска, – і таму шмат кніг у нашай хатняй бібліятэчцы было прысвечана гісторыі авіяцыі, канструктарам і розным тыпам самалётаў. Трапляліся і нудныя мемуары, кшталту "Воспоминаний и размышлений" Георгія Жукава. Узгадваюцца і цікавыя рарытэты: шыкоўна ілюстраваныя – "Гасцінная Арктыка" Вільямура Стэфансана, 1935 года выдання, "Грабніца Тутанхамона" Говарда Картэра, 1959 года выдання, "Дзіцячыя

гады Багрова-ўнука” Сяргея Аксакава, здаецца, 1948 года, ды шмат іншага. Першая “хатняя” кніга, прачытаная яшчэ да школы ад “а” да “я” – “Рабінзон Круза” Даніэля Дэфо.

З беларускай літаратуры ў памяці засталіся некалькі імёнаў – томікі Івана Мележа, Івана Шамякіна, “Палескія рабінзоны” Янкі Маўра, яшчэ была кніжка Міклухі-Маклая, альбо пра яго (менавіта па-беларуску).

Памятаю яшчэ, што велізарную павагу выклікаў ў мяне “Орфографический словарь русского языка”. Кніга звычайнага, не энцыклапедычнага, памеру налічвала паўтары тысячы старонак і мела прыстойную вагу. У тыя часы слоўнік выкарыстоўваўся не па прамым прызначэнні, а як сховішча разнастайных кветак і лісточкаў, каб, падсушыўшы іх і сціснуўшы пад гнётам ожэгаўскага тома, далей рабіць з іх гербарыі.

Паколькі тыя сотні дзве кніг былі мною даследаваныя досыць хутка, а неспатольная прага нязведанага патрабавала “ежы для мазгоў”, дык неўзабаве паўстала пытанне: што рабіць далей? Нейкі час мне дазвалялася браць кнігі ў настаўніка нямецкай мовы Васіля Дрынеўскага, паважанага чалавека, былога франтавіка, які меў вялікую, на маё тагачаснае разуменне, бібліятэку. Ды здарылася непапраўнае. Аднойчы ўлетку, захапіўшы пазычаную ў Дрынеўскіх кнігу, збег да Дняпра купацца, дзе патрапіў пад лівень. Ратуючыся ад навальніцы ў карчах чырвонай лазы, зусім пра яе забыўся і кніга ўшчэнт размокла пад дажджом. Было вельмі сорамна, таму да Дрынеўскага больш не пайшоў.

У класе трэцім-чацвёртым у маім жыцці з’явіўся дзядзька Эдзік Ліхач. Ён быў загадчыкам вялікай кніжнай крамы ў нашай вёсцы. Штодзень на працу Эдзік Ліхач дабіраўся з Рэчыцы аўтобусам, а ўвечары вяртаўся дадому ў райцэнтр, парыпваючы драўляным пратэзам наназе. Інтэлігентны аматар ціхай чаркі дзядзька Эдзік сябраваў з гэтае нагоды з маім бацькам, і, відаць, таму заўжды прытрымліваў для мяне пад прылаўкам нешта з новых “дэфіцытных паступленняў”. “Кучараваму Сярожку” (так ён называў мяне часам) заставалася толькі знайсці грошы, а яны нейкім чынам знаходзіліся. Разам з раўналеткамі збіраў у занядбаным калгасным садзе апалыя яблыкі і здаваў габрэю-нарыхтоўшчыку Доўжыку, шукаў па вясковых вулках ды задворках бязладна параскіданыя п’янтосамі бутэлькі, якія каштавалі па 12 капеек. А яшчэ летам хадзіў з сябрамі працаваць у калгас “на сенакос”, што таксама давала магчымасць зарабіць чырвонец-другі. Вось такім чынам пачала фармавацца мая ўласная бібліятэка, якую напачатку трымаў пад “ключом”, замыкаючы вялікую шафу ад маладзейшых сясцёр маленькім замочкам. Звычайна ў дзядзькі Эдзіка набываў кнігі пра падарожжы, прыгодніцкія і гістарычныя, фантастыку. “Прыгоды Тома Сойера”, напрыклад. Узгадваюцца яшчэ такія тагачасныя набыткі, як “Апавяданні старога паляўнічага” Дзмітрыя Маміна-Сібірака, “Выбраныя навелы” О’Генры, “Айвенга” і “Квентын Дорвард” Вальтэра Скота, “Тэатр” ды “Малы куточак” Уільяма Сомерсэта Моэма, а таксама кнігі з серыі “Бібліятэка дзіцячай літаратуры народаў СССР”.

## 2. Першыя чытацкія крыўды

Мой першы візіт у школьную бібліятэку прыпаў на 1973 год, калі я перайшоў у чацвёрты клас. Чаму гэта адбылося менавіта ў чацвёртым? А вось чаму. Некалькі пачатковых класаў размяшчаліся над высокай дняпроўскай поймай, у старым загадкавым і шыкоўным панскім маёнтку, прыстасаваным пад школу. Частку былога маёнтка пана Вінчы займаў пад жытло сівы, як голуб, дырэктар Заспенскай школы Васіль Тарасавіч Кулінкін. Бібліятэка ж знаходзілася ў іншым, больш сучасным, двухпавярховым будынку на цэнтральнай вуліцы Заспы. Там я

пачаў вучыцца з чацвертага класа. Дарэчы, свой пачатак Заспенская школа бярэ з прыходскага вучылішча, адчыненага 1 верасня 1866 года.

У новай школе чамусьці пачаліся праблемы. Загадчыца бібліятэкі адразу ж адмовілася выдаваць мне "дарослыя" кнігі, да прыкладу Брэта Гарта, Герберта Уэлса, Джэка Лондана, настойліва прапаноўвала перайсці да дзіцячай літаратуры, якая месцілася на асобных паліцах. Памятаю, крыўда была моцная. Толькі праз нейкі час, пасля ўмяшальніцтва майго бацькі, настаўніка матэматыкі гэтай самай школы, мне было дазволена браць кнігі з паліцаў для старэйшых класаў. Але непаразуменні на гэтым не скончыліся: калі я здаваў пасля чытання томікі класікаў, бібліятэкарка не магла паверыць, што яны цалкам прачытаныя, і патрабавала, каб я пераказваў ёй змест. Каўтаючы слёзы, я змушаны быў падпарадкоўвацца, паколькі прага чытання была мацней за ўсё.

Такім чынам адбывалася маё знаёмства са зборамі твораў замежных аўтараў: Дыкенса, Уэлса, Купера, Лондана і многіх іншых.

Шчыра кажучы, першае знаёмства з творамі Джэка Лондана адбылося не зусім звычайна і не ў школе. Нярэдка падчас летніх канікулаў бацькі на некалькі тыдняў адвозілі мяне пагасцяваць да бабулі, Садаводавай Ганны, у вёску Дварэц, кіламетраў за 15 ад Заспы ў бок Лоева. Бабуля, якая пражыла 96 год, пахаваўшы трох мужоў, не ведала граматы, магла лічыць толькі грошы. Таму ейная старадаўняя хаціна, якая стаяла на высокай гары, парослай ляшчыннікам, была небагатая на кніжкі. Тут мне трапіла на вочы адна-адзінюткая зашмальцаваная кніга без вокладкі, без пачатку і канца. Чытаў я яе з захапленнем, пачынаючы з любой старонкі, не ведаючы ні назвы твора, ні яго аўтара. Толькі ў школе, калі ўзяўся перачытаць "усяго" Лондана, зразумеў, што кніжка тая – раман, які аўтар чамусьці назваў апавяданнем, "Джон – Ячменнае зерне".

Значна пазней, у студэнцтве, да твораў многіх з тых аўтараў я вяртаўся пасля неаднойчы.

Яшчэ адна маленькая арабеска. У школьнай кірзавай торбе, памятаю, доўга насіў невялікага фармату кніжачку – даведнік "Вооружение сухопутных сил США". Багата ілюстраваны, ды яшчэ з грыфам "Сакрэтна!", даведнік цікавіў не толькі мяне, але і многіх сябрукоў-аднакласнікаў. А вось куды ён затым падзеўся – прыгадаць цяпер не магу, як не прыгадаю і накірунку знікнення унікальнай і даволі рэдкай трохтомнай манаграфіі "Гісторыі фашызму" ў студэнцкія гады.

## 3. Святло ў бібліятэчным акне

Калі мой чытацкі інтарэс вырас настолькі, што школьная бібліятэка не магла яго болей задаволіць, – прыйшла чарга бібліятэкі вясковай. Яна месцілася на другім паверсе вялізнага, з калонамі і порцікам, Заспенскага Дома культуры. Бібліятэкарка Клаўдзія Саснок добра ведала маіх бацькоў, таму дазваляла мне, шасцікласніку, браць любыя, нават дарослыя, кнігі практычна ў неабмежаванай колькасці.

Аднае ношкі звычайна хапала, асабліва ўвосень і ўзімку, на тыдзень-два. Памятаю, што бібліятэка працавала толькі ўвечары, ды і то досыць нерэгулярна. Таму часта, з вялікім хваляваннем і надзеяй, я выходзіў надвячоркам з дому ў наш густы фруктовы сад, адкуль можна было ўгледзець такое жаданае святло ў вялікіх вокнах бібліятэкі.

І вось, гарыць, гарыць святло! Бібліятэка працуе. Цяпер толькі паспець! Забягаў хуценька ў хату, хапаў пакунак з кнігамі ды подбежкі ляцеў да клуба. Спыніўшыся на другім паверсе, пераводзіў дых, і, трымаючы марку, заходзіў у кніжны храм. Вось дзе душа мая расцякалася па паліцах, вось дзе быў я найшчаслівым на той час чалавекам на зямлі.

...Аднойчы маці паведаміла, што днямі размаўляла з бібліятэкаркай, якая запрасіла мяне (падлетка!) у бліжэйшы выходны прыйсці ў клуб, прыхапіўшы мех: аказваецца, нядаўна шмат кніг было спісана, і яны вялікай гурбай былі скінутыя на гарышчы клуба. Некалькі дзён, якія заставаліся да суботы, я пражыў нібыта ў сне.

Нарэшце ўзбіраюся па хісткай лесвіцы на змрочнае незнаёмнае гарышча. Вось яны, кнігі! Хацелася браць адразу ўсё, што бачылі вочы, нягледзячы на адарваныя вокладкі ды пашкамутаныя старонкі. Урэшце мяшок напоўніўся даверху. Толькі тады стала зразумела, што ўзваліць мех на падлеткавыя плечы проста немагчыма... Прыйшлося нешта пакідаць. Хіба што трэцяя частка выбранага ў той дзень патрапіла ў маю ўласную бібліятэку. Адзначу толькі адзін з многіх каштоўных набыткаў таго слаўнага паходу – маскоўскае выданне “Легендаў і міфаў Старажытнай Грэцыі” Мікалая Куна.

Хваравітая прага чытання аднойчы прывяла да таго, што ў пошуках цікавага чытва я неяк улетку дабраўся да суседняй вёскі Свірыдавічы, за 10 кіламетраў ад Заспы. Добра такі дапамагаў мне ў тых падарожжах ровар.

У тамтэйшай бібліятэцы напачатку вытрашчылі на мяне вочы, але нейкім чынам я пераканаў бібліятэкарку ў сваіх прыстойных намерах, і на маё прозвішча выпісалі чытацкі абанемент, дазволіўшы, праўда, узяць толькі адну кнігу. Гэта быў раман аднаго з самых вядомых вугорскіх пісьменнікаў Кальмана Міксата “Парасон святога Пятра”. Каюся, бібліятэкарка мела рацыю. Я настолькі ўпадабаў гэты раман, што ён і дагэтуль са мной. Знаходзячыся пад уражаннем ад гэтага твора, я нават напісаў тады некалькі вершаваных радкоў:

Я прачытаў аднойчы ў К. Міксата –
Што шмат дзяўчат, а з імі шмат бяды.
Пакуль растуць прыгожыя дзяўчаты –
Яны растуць для некага заўжды.

Варта ўзгадаць, што ў старэйшых класах, калі ўласная бібліятэка налічвала за тры сотні тамоў, мае замкнёныя на ключ “кніжныя фонды” нарэшце адкрыліся для чытачоў. У спецыяльна разлінаваным сшытку я пакідаў адзнакі: каму, калі і якая кніга выдавалася на карыстанне. Сярод чытачоў былі не толькі суседзі-аднагодкі, але і старэйшыя – студэнты інстытутаў ды ўніверсітэтаў, якія з’язджаліся ў Заспу на выходныя або на вакацыі. Ставіліся да мяне з павагаю, як да раўналетка і сапраўднага бібліятэкара.

## 4. Сяргей Ясенін і верш па-беларуску

Калі ўзгадваць усё паслядоўна і дакладна, дык гэты аповед будзе няпоўным без згадкі пра яшчэ адну крыніцу чытання – часопісы. Іх у нашым доме была вялікая процьма.

Пачынаючы, мабыць, ад майго 5 класа, некалькі год запар бацькі выпісвалі для мяне часопісы “Юный натураліст”, “Юный техник”, “Филателия СССР”. Але і гэтыя падпіскі былі толькі вяршыняю айсберга. Звычайна ўлетку, залазячы на гарышча хаты, я ўнураўся ў часопісныя падшыўкі, якія за немаведама колькі гадоў добра такі пазарасталі пылам. Вельмі падабаліся стосы часопіса “Техника – Молодежи”. Чытаў, вядома, не ўсё. Найбольш цікавілі тэматычныя серыйныя рубрыкі пра ваенныя самалёты, танкі, караблі. Памятаю, страшэнна захапіўся раздзелам “Анталогія таямнічых здарэнняў”. Урэшце рэшт павыдзіраў з часопісаў усе старонкі з гэтымі публікацыямі і паспрабаваў іх пераплесці ў асобную кнігу. Зразумела, што атрымалася не вельмі акуратна, але той эксперымент паклаў пачатак майму захапленню пераплётнай справай.

Пазней на маім даляглядзе пачалі з’яўляцца паасобныя нумары часопісаў “Наука и жизнь”, “Огонёк”, “Иностранная литература”. Відаць, яны былі прынесеныя аднекуль бацькам, які таксама часта нешта пачытваў, калі меў вольны час.

Яшчэ не магу прамінуць добрым успамінам кнігі і часопісы, якія траплялі ў мае рукі ў доме татавай маці – Кацярыны Уллянаўны. Бабуліна хата хавалася пад шатамі вялізных старадаўніх ліп на Гарадку – так называлі паўднёвую ўскраіну Заспы. Адтуль было вельмі блізка да Дняпра, куды мы выбіраліся амаль штодня купацца, таму летам часта наведваў не па-вясковаму ўтульны і дагледжаны дом бабулі. У памяці зафіксаваліся часопісныя падшыўкі “Молодой Гвардии” і “Смены”, а таксама зялёненькага колеру збор твораў Сяргея Ясеніна ў 5 тамах выдання 1968 года. Менавіта ад вершаў Ясеніна пачалося сапраўднае захапленне паэзіяй. Пад уплывам прачытанага нараджаліся ўласныя нясмелыя радочкі па-расейску. А вось першы верш на роднай беларускай мове быў напісаны толькі праз год, і ў 1975 годзе змешчаны ў газеце “Піянер Беларусі”, якую, дарэчы, я таксама выпісваў у тыя залатыя часы дзяцінства. Спрыяла пісанню на роднай мове настаўніца беларускай літаратуры, збіральніца гісторыі вёскі Заспа Ганна Ігнатаўна Цітавец.

А вось захапленне паэзіяй Сяргея Ясеніна аднойчы вылезла бокам. Настаўніца рускай літаратуры прапанавала ўсяму класу вывучыць на памяць па ўлюбёным вершы паэта. Выклікала на ўроку таксама і мяне. Аднак, замест таго, каб прадэкламаваць нешта кароценькае і лірычнае, я стаў на памяць чытаць вялікую “Баладу пра дваццаць шэсць”. У выніку атрымаў не “выдатна”, а толькі чацвёрку і быў моцна абураны.

## 5. Начныя таямніцы

У школьныя гады найлепей чыталася на гарышчы. Праўда, гэта толькі падчас вакацый, улетку. Зімой жа самым улюбёным месцам для чытання была нашая звычайная вясковая печ з вялікай ляжанкай.

Так хораша было, разлёгшыся на ейным цёплым улонні, чуйна слухаць, як у коміне гудзе начная завіруха, ды чытаць загадзя падрыхтаваную “Хаціну дзядзькі Тома” Бічэр-Стоў альбо “Прыгоды Гекльберы Фіна” Твэна.

На жаль, неаднойчы даводзілася ліхаманкава спыняць гэтую свяшчэнную дзею, як толькі з дальняга пакоя цішком падкрадвалася на кухню (дзе стаяла печ) маці і ўчыняла тэрор. Пазней, праз шмат гадоў, яна прызнавалася, што рабіла гэтак, шкадуючы мае вочы. Я ж, у такіх выпадках, прыбягаў да розных хітрыкаў: калі “канфіскоўвалася” чарговая чытанка кшталту апавяданняў улюбёнага майго Астапа Вішні, недзе ў посцілках, ці ў вязанках цыбулі, што віселі тамсама, на жэрдцы, была прыхаваная рэзервовая кніга. А калі маці катэгарычна загадвала патушыць святло – пад коўдрай неўзабаве запальваўся кішэнны ліхтарык. Гэтыя, на ўсю доўгую зімовую ноч чытанні – адныя з найсаладзейшых успамінаў маіх школьных гадоў.

На той час у мяне з’явілася кніга, якая “зносіла дах” і ўплывала на многія мае ўчынкі. Як цяпер памятаю ярка-чырвоную вокладку: “Дэрсу Узала” Уладзіміра Арсеньева.

*“З тых часоў усё часцей і часцей даводзілася чуць пра нейкіх людзей, якія хаваюцца ў тайзе. То бачылі іх саміх, то знаходзілі бівакі, лодкі, схаваныя ў кустах, і г.д. Гэта станавілася падазроным. Калі б гэта былі кітайцы, мы ўгледзелі б у іх хунхузаў. Але, мяркуючы па слядах, гэта былі рускія. Кожны дзень прыносіў штонебудзь новае. Нарэшце недахоп харчавання прымусіў гэтых таямнічых людзей выйсці з лесу. Некаторыя з іх з'явіліся да нас у бівак з просьбай прадаць ім сухароў. Натуральна, пачаліся роспыты, з якіх высветлілася наступнае. Уладзівасток у пачатку гэтага года абляцела чутка, што ў наваколлі заліва Джыгіт знаходзяцца*

*багатыя залатыя россыпы і нават алмазы. Натоўпы беспрацоўных у надзеі на хуткае і лёгкае ўзбагачэнне кінулася на ўзбярэжжа мора. Яны прабіраліся туды на лодках, шхунах і на параходах, невялікімі партыямі. Высадзіўшыся дзе-небудзь на бераг каля Джыгіта, яны пешшу, з клункамі за плячыма, употай прабіраліся да ўяўнага Эльдарада...”*

Захапіўшы шматкроць перачытаны томік, я часам выбіраўся за вёску на высокі дняпроўскі бераг і з вышыні стромы трывожна азіраў наваколле, спрабуючы ўбачыць на даляглядзе таямнічыя постаці. Іншым разам, на той жа строме, разам з сябрукамі праводзілі раскопы, выкарыстоўваючы кавалкі жалеза ці зламаную рыдлёўку. Зразумела, золата не траплялася, аднак бывалі і “каштоўныя” знаходкі: манета вартасцю тры капейкі з выяваю двухгаловага арла, жменькі гільзаў з часоў вайны, пласціначкі артылерыйскага пораху...

Цяпер, падчас сваіх рэдкіх візітаў на радзіму да маці, абавязкова гартаю нашыя сямейныя альбомы з фотаздымкамі, вывучаю сябе маленькага. І дзіва, на некаторых дзіцячых фотакартках заўважаю ў сваіх руках разгорнутую кнігу. Відаць, месцаў для чытання было ў мяне нашмат болей – магчыма, што ўся вёска Заспа і наваколле.

## 6. Набегі на “Універсітэцкую”

Многае змянілася ў маім жыцці пасля заканчэння сярэдняй школы. У тым самым 1979 годзе я паступіў на гісторыка-філалагічны факультэт Гомельскага дзяржаўнага ўніверсітэта. Чытаць ва ўніверы даводзілася шмат і рознага, але суцяшала тое, што мы вывучалі літаратуру. З найвялікшым захапленнем прачытваў і канспектаваў творы антычных аўтараў, старажытнабеларускую і “древнерусскую” літаратуры.

Расла, як трава пасля дажджу, і ўласная бібліятэка: у гэты “свядомы час” набываліся кнігі ў асноўным беларускіх аўтараў: Францішка Багушэвіча, шмат каго з “Бібліятэкі беларускай паэзіі”, якая выдавалася ў мініяцюрным фармаце, “Песня пра зубра” Міколы Гусоўскага. Пазнаёміўся тады з паэзіяй Рыгора Барадуліна, набыўшы ў краме ягоны зборнік вершаў “Вечалле”. Як рэліквію, песціў таксама двухтомны збор твораў Уладзіміра Караткевіча, не дазваляючы нікому знесці яго з інтэрнатаўскага пакоя.

Незабыўная кнігарня “Універсітэцкая” на Савецкай вуліцы ў Гомелі. Не толькі ў піўны бар пасля лекцый кіраваліся “філолухі”, але не праміналі і кнігарню. Прычым нярэдка паходы па кніжку здзяйсняліся цэлай кампаніяй. Некалькі разоў забягалі туды разам з аднагрупнікам і сябрам Алесем Бяляцкім, здаралася, што і Анатоль Сыс браў мяне з сабой. Адзін з такіх выпадкаў я прыгадваю ва ўспамінах пра Анатоля Сыса “Дагадзіў жа ты мне, Анатоль, дагадзіў...», апублікаваных у часопісе “Дзеяслоў” (№27):

*“Вясна, 1981 год. Гомель. Верагодна, быў травень, бо шчыра прыпякала лагоднае сонца. Цішком уцякаю з лекцыйнай пары ва ўніверсітэце – аднакурснікі зрабілі гэта раней і цяпер чакалі мяне ў піўбары пад назваю “Тэлевізар” з кухлямі піва. На ганку філфакаўскага корпусу “гомельскага ўнівермагу” перастрэў мяне Анатоль: “Што, ізноў піць сабраліся? Хадзем лепей са мной, тут недалёка”. (Сыс тады амаль, або наогул, не піў.) Зайшлі ва ўніверсітэцкую кнігарню, дзе ён падышоў да стэлажоў і, з гонарам разгарнуўшы адну з кніг, працягнуў яе мне. “Глядзі, бачыш, вось – Карал Сыс. Паэт з Чэхіі. А ты п’еш гэтыя сцыкі замест таго, каб пісаць. Старацца трэба, каб і на Беларусі такія Сысы былі, як гэты чэх”. Толіка распіраў гонар, быццам гэта ягоны том стаіць на паліцы. Блакітнага колеру кніга перакладаў з чэшскай мовы мела назву “Высокае неба”.*

А ад Анатоля Сыса з тых часоў мне дастаўся шыкоўны падарунак – першае выданне “Слоўніка сінонімаў і блізказначных слоў” Міхася Клышкі.

Тады ж на першым курсе ГДУ адбылася першая сустрэча з Кнігай кніг – “Бібліяй”.

Набегі гэтыя на кнігарню цікавым чынам паўтарыліся ў маім жыцці праз дзясятак гадоў, напрыканцы 80-х. Я працаваў тады ў “Гомельскай праўдзе” намеснікам... Барыса Пятровіча, а ён на той час быў адказным сакратаром абласной газеты, абазнаным у сучаснай літаратуры чалавекам і “невылечным” бібліяфілам. Увечары, скончыўшы працу, нярэдка мы накіроўваліся ва “Універсітэцкую”, дзе да самага закрыцця крамы абмяркоўвалі кніжныя навінкі, перабіралі дзясяткі аўтараў, каб набыць урэшце запаветны томік-другі. Прызнаюся, Пятровіч тады адкрываў для мяне цікавых аўтараў, пра існаванне якіх я анічога не ведаў.

## 7. Армейскі “Шлях-360”

У часе двухгадовай службы ў Савецкай Арміі ў 1981-83-м гадах магчымасцяў для чытання было небагата, аднак вольныя часіны цалкам аддаваліся гэтаму занятку. Бібліятэка вайсковай часці, якая базавалася ў гнілых балотах паміж Фінскім залівам і Ладагай, мела досыць сціплы выбар інтэлектуальнага чытва, неспазнанага мною да тае пары – “Сага пра Фарсайтаў” Джона Галсуорсі, “Ноч пяшчотная” Фрэнсіса Скота Фіцджэральда, “Над прорваю ў жыце” Джэрома Сэлінджэра. Гэта тое, што ўзгадваецца цяпер.

Многія кнігі ў войску я перачытваў па новым коле. Так вось нанова адкрыў для сябе раманы Стэйнбека “Зіма трывогі нашай”, Нэл Гарпер Лі “Забіць перасмешніка”, якія школьнікам прачытаў у часопісе “Иностранная литература”.

Найбольш упадабанае з ваеннай літаратуры – а розных мемуараў, кшталту “Руіны страляюць ва ўпор” Івана Новікава, у бібліятэцы была незлічоная колькасць – грунтоўнае даследванне пра Другую сусветную вайну ангельскага ваеннага гісторыка Б. Лідэла Гарта, якое проста так і называлася – “Другая сусветная вайна”.

Во, ледзь не забыўся. Яшчэ адно “вайсковае” адкрыццё – творчасць Сямёна Кірсанава. Збор твораў у 4 тамах гэтага цікавага расейскага паэта я прачытаў за два гады службы двойчы і шмат ягоных вершаў так да сёння і засталіся ў маёй памяці.

Кніг на беларускай мове тут спрадвеку не вялося. Выручаў мяне сябра, які пакуль што заставаўся на “гражданцы”, Алесь Бяляцкі. Ён метадычна і рэгулярна, на працягу ўсяго тэрміну службы дасылаў мне бандэролі з новымі часопісамі “Маладосць” і “Полымя”, а таксама самыя цікавыя паэтычныя навінкі тых часоў. Дзякуючы Алесю, да самага дэмбеля насіў за халяваю кірзавых ботаў “Шлях-360” Алеся Разанава.

Досыць незвычайны быў у мяне “дэмбель”: вёз дадому з войска ў чамадане некалькі дзясяткаў беларускіх кніжак. Часопісы, мусіць, засталіся ў “чырвоным кутку” казармы. Спадзяваўся я, што яшчэ накіруюць сюды не адну партыю беларусаў-навабранцаў, і некаму часопісы на роднай мове якраз прыдадуцца.

## 8. Кніжная ліхаманка 80-х

Адразу пасля службы ў войску я ўладкаваўся працаваць грузчыкам на Гомельскай кандытарскай фабрыцы “Спартак”. Жыў непадалёк ад працы, вядома ж падпольна, у студэнцкім інтэрнаце на вуліцы Савецкай разам з Алесем Бяляцкім і Едрусем Акуліным. Пакой размяшчаўся на другім паверсе інтэрната, і – вось яшчэ адно супадзенне! – якраз над кнігарняй “Універсітэцкая”, пра якую ўзгадвалася вышэй.

Менавіта тады, збольшага пад уплывам сяброў, фармаваліся мае чытацкія густы, адбыўся грунтоўны паварот да сучаснай беларускай літаратуры. Ад таго часу

пачаў набываць шматтомныя зборы твораў Івана Мележа, Уладзіміра Караткевіча, з'явіўся ў маёй бібліятэцы Васіль Быкаў у 4 тамах, "Беларускі савецкі нарыс" у 2 тамах, "Слоўнік беларускай мовы" Івана Насовіча ды шмат іншага. Да лепшых часінаў кнігі звозіліся ў бацькоўскі дом у Заспу.

Дзякуючы Алесю Бяляцкаму, адбывалася знаёмства з кнігамі забароненых аўтараў, якія не выдаваліся за савецкім часам, альбо з рэдкімі архіўнымі і маладаступнымі выданнямі. Цікава, што некаторыя кнігі былі проста перафатаграфаваныя і чыталіся на змацаванай скобамі фотапаперы. Менавіта ў такім "паліграфічным выкананні" я прачытаў "Адзін дзень Івана Дзянісавіча" Аляксандра Салжаніцына і "Мужыцкую праўду" Кастуся Каліноўскага.

"Дзеці Арбата" Анатоля Рыбакова, прачытаныя ў той час, таксама нейкім самапальным спосабам былі тыражаваныя.

Праца на кандытарскай фабрыцы чаргавалася дзённымі і начнымі зменамі па 12 гадзінаў, выходныя – таксама чаргаваліся, таму заставалася шмат вольнага часу. Сядаў уначы за столік на агульнай варыўні, дзе дазвалялася нават паліць, абкладаўся кнігамі і чытаў, ці – калі навальвалася натхненне – займаўся творчасцю. Такім грунтоўным чынам вывучаўся напрыклад "Расійска-Крыўскі (беларускі) слоўнік" Вацлава Ластоўскага, альбо малітоўнік для беларусаў "Божым шляхам", выдадзены ў Рыме ў 1946 годзе. Пазней да іх дадаўся і "Беларуска-расійскі слоўнік" Я. Станкевіча.

У Бяляцкага меўся таксама і беларускі "самвыдат".

Напачатку 80-х гадоў гонка за кнігамі ў Гомелі набыла характар масавай эпідэміі. Правакавалі яе збольшага тамтэйшыя мяшчане ў саўковым разуменні гэтага слова. Памятаю ад тае пары такі жарт: "Засталося набыць паўтары метры кніг і кніжныя паліцы ў зале будуць запоўненыя, як у людзей".

Нейкім чынам ахоплены кніжнай ліхаманкай быў і я. Рупліва збіраў макулатуру, цягаў цяжкія пакеты і мяхі ў прыёмны пункт, каб, здаўшы 25 кілаграмаў папяровай старызны, атрымаць запаветны талончык на набыццё "дэфіцытнай" кнігі. Аднак выбар быў зусім малы: "Фараон" Баляслава Пруса, "Легенды і міфы старажытнай Грэцыі" Мікалая Куна, ды нешта яшчэ са шматлікіх раманаў Морыса Друона, ці то "Лілія і леў", ці то "Калі кароль губіць Францыю". Пасля шматлікіх пераездаў з кватэры на кватэру ўсе гэтыя Друоны недзе падзеліся, ды я надта і не шкадую пра іх.

Усё адно "макулатурныя" кнігі тады набываліся па другім, трэцім, чацвёртым разе і адразу ж адносіліся ў кнігарні, дзе існавалі паліцы гэтак званага кнігаабмену. Такім чынам з'яўлялася магчымасць вымяняць свайго новенькага і лішняга "Фараона" на нешта іншае, больш цікавае.

Букіністычныя аддзелы ў кнігарнях цікавілі на той час мяне не надта, аднак і там нешта зрэдчас набывалася. Дагэтуль, напрыклад, недзе ў заспенскіх прыбудовах зацярушваецца пылам дарэвалюцыйнае выданне "Геаграфія Расійскай імперыі" ў 2 кнігах, набытае некалі ў Гомелі. Узгадваецца таксама прыдбаны выпадкова Поўны збор твораў Уладзіміра Маякоўскага ў 13 тамах, які таксама дзесьці пакінуў падчас шматлікіх сваіх перасяленняў.

Падпісныя выданні ў тыя гады для простых людзей часта разыгрываліся ў латарэю. На досвітку трэба было займаць вялізную чаргу каля адзінай гомельскай крамы "Падпісныя выданні" па вуліцы Савецкай. Затым афармляліся адмысловыя цэтлікі і круціўся празрысты барабан. Мне не надта шчасціла ў падпісную латарэю. Тае ўдачы ўсяго выпала – збор твораў у 3 тамах швейцарскага пісьменніка Макса Фрыша ды шасцітомнік Кнута Гамсуна.

Потым з'явілася сям'я, а неўзабаве і сталае жытло. Паступова новыя кнігі сталі набывацца больш сведама, па сталым роздуме. Хоць, што праўда, дык і цяпер, як кажуць: "Кнігі хату забіраюць". Але гэта ўжо зусім іншая гісторыя. Кропка.

*Снежань 2013 – студзень 2014 года.*

Яўген Рагін



...стагну па начах:

«Хлопцы, ды няма ўжо ніякіх сілаў!»...

# «Дыздзец пізайну!»

***ці Пачытаем рок-н-рол...***

Уладзімір Цэслер расказваў, што заўважыў на кімсьці майку з надпісам «Дыздзец пізайну!» і потым доўга перажываў, што не ён усё гэта прыдумаў. Цэслер, аказваецца, таксама любіць гуляць у словы. Гульняслоў! Ці словагул? У мамінай вёсцы сказалі б: «Гулёк!» Вось так усё жыццё і гуляемся: хто ў словы, фарбы і ноты, хто – у здрады, паклёпы і вылюдства.

У знаёмага, што любіць звяркоў, які ўжо год кватаруюць сабака Крызіс і котка Ідэалогія. Не тое, што жывуць ды спяць – нават сала са стала крадуць разам. Спаяная жыццёвай выгодай парачка: Крыз ды Іда... Гэтак і ў нашым людскім грамадстве: крызіс не абыходзіцца без ідэалогіі. За савецкім часам яна тлумачыла грамадзянам, чаму паліцы крамаў пустыя. Сёння ж, калі паліцы тыя чым толькі не напоўніліся, абрыда-ідэалогія шукае аргументы, каб хуценька давесці нам, чаму на нашыя заробкі мы тое крамнае багацце купіць не можам. І знаходзіць жа, пранцы на яе!

Мы са стрыечным братам нарадзіліся ў Ветцы (горад), мамы нашыя – у Купрэеўцы (вёска). Па мамах нас там і звалі з павагай: я – Тамарын, ён – Ленін... Напісаў, заўважыў, як камуністычным правадыром патыхнула, і яшчэ раз пераканаўся: мой варыянт родавай прыналежнасці ў вясковай варыяцыі – спакайнейшы... А зараз сяджу і думаю: як бы атаясамілі са мной маіх сыноў у той, даўно зніклай вёсцы? «Вунь Жэнікавы пайшлі» ці «Вось Яўгенавы наведаліся»? Шкада, не праверыш ужо. А так і будзеш да апошняга калупацца ў сабе: Жэнікам свой век пражыў ці Яўгенам.

Беларуская нацыянальная ідэя дакладна прапісана на пляшцы крышталаўскай гарэлкі «Тутэйшая»: «За людскасць і любоў». У нашай краіне дзе толькі праўду ні пішуць.

Усё жыццё імкнуся скласці са словаў музыку. Мо па той прычыне, што так і не асвоіў ноты і ў гітарных справах не стаўся віртуозам? Таму і імкнуся, каб хоць бы праз абзац, хоць у пары-тройцы сказаў штосьці ды склалася, штосьці ды прагучала: мо намёк на джаз-рок, а мо – на нясмелыя блюзавыя варыяцыі.

Тут галоўнае – словы ў сказе расставіць у пэўным парадку. Выказнік, азначэнне, акалічнасць, дзейнік – вось ужо і інверсійны акорд... Пачаць можна імкліва. Рассыпаць барабанным дробам жменю няпоўных сказаў. Партыю ўдарных падтрымае тлусты голас кантрабаса, замест нотаў у якога – сінекдаха, метанімія, аксюмаран... Хэдлайнавым гітарным рыфам прагучыць дыялог герояў: тут важна правільна раскідаць акцэнты па простай мове і аўтарскіх словах. Гэта як паяднаць губны гармонік са Стратакасцерам... І пабольш імправізацыі, пабольш здзеку з гіпербалы. Яна вытрывае, яна – гіпербала... А потым – паўза. І раптам недзе за кулісамі эмацыйным дуэтам, ненавязліва, пунктырам, ля-ля-ля: ледзь чутныя скрыпачка і саксафон – фон лірычнага адступлення. Духавыя – як духі, што граюць на душы... І не трэба баяцца паўтораў! Таўталогія – для ўзмацнення. Гэта як прыпеў, гэта як прыпеў, як прыпеў, прыпеў, прыпеў... Змест эпілогу – спружыністая кода з аглядкай на абыякавых крытыкаў: до-рэ-мі-до-рэ-до. Можна пакурыць...

Заходзьце, спадары. Сёння ў ссівелага журналіста – бенефіс. Заходзьце, пачытаем рок-н-рол!

«Я мужык-беларус, пан сахі і касы»... Вось грузінам дазволена з кінжаламі хадзіць. Маўляў, неад'емная дэталь паўнацэннага нацыянальнага аблічча. А нам, беларусам, што рабіць? Саху з сабой не пацягнеш – мулка ды цяжка. А вось касу – самае яно! Завострана, шматзначна... «Да вас кабета с касой прыйшла...» – «А няхай заходзіць: якраз бульбачкі зварыў! Пагаворым пра касінерскую некрапалічнасць сучаснай эсэістыкі».

Нескладаная салдацкая выснова: страляюць па тых, хто страляе... Тужліва і пастаянна прыношу дахаты паўнюткі падсумак некранутых патронаў. А хтосьці побач крычыць з радасным адчаем: «Патронаў! Патронаў давай!» І стрэлы, стрэлы, стрэлы... Вось так і суіснуем. Паралельна...

Ну, дзе ты пачуеш такія пытанні: «Каго ты еў?» і «Чым працуеш?» Толькі, падаецца, на вясковых абсягах Гомельшчыны. На чым заснавана такая дыялектная сказабудова? Ніяк не дацямлю. Упэўнены толькі, што хаваецца тут надзвычай глыбінны сэнс, закладзены яшчэ маімі продкамі. Мо ежа – галоўны жаданы, таму адушаўлёны (адухоўлены) вынік, а праца – толькі будзённы бяздушны ў прыземленасці сродак яго дасягнення? І жнеі калісьці спявалі не ад радасці працэсу, а толькі для таго, каб рытм не згубіць?

І выснова паралельная: вытокі класічнага англамоўнага хард-року шукаць варта ў нашых старадаўніх жніўных песнях.

Зноў сустрэў на прыпынку Валерыя Шкарубу: мы суседзі. Ён, на мой погляд, адзін са шчырых сённяшніх жывапісцаў. Не выдумляе веласіпеда, не займаецца безнадзейна «абстрактным цынізмам», а проста малюе Беларусь. Поле, лес, дарога. Трывожны настрой нейкага балючага чакання. У той жа час вельмі хочацца тут пабываць на яве. Каб да мастакоўскага нерва дадаць яшчэ і свой. Падаецца, гэта і называецца гаючай сілай мастацтва. Суперажыванне – заўжды згуба спакою, хоць і салодкі, але боль. А без болю якое выздараўленне?.. І вось падаецца ўжо, што з-за інеем напісанага хмызнячку выбіраецца на снежную цаліну не п'яны калгасны конюх на возе, а велічны Вялікі Князь на вытанчаным кані. Такой Беларусь была ці будзе? Была і будзе такой Беларусь!

У адной з вёсачак (не памятаю ўжо дзе) – тры жыхары. Бог ведае, як атрымалася, што бабуль гэтых завуць аднолькава. І каб не блытацца, дамовіліся кабеты: тая, што на адным вясковым канцы – Маня, на другім – Маруся, а пасярэдзіне, ля разваленага клуба, – Марыя... Збіраюцца над зарослай копанкай, доўга сядзяць на лаве, чакаюць аўталаўку, гарадскімі дзецьмі хваляцца. А пустазелле на адзінай пыльнай вуліцы – ледзь не ў рост чалавека... А што, нармальная беларуская дэмаграфічная сітуацыя. У гэтым паселішчы хоць людзі ёсць. А многія іншыя зніклі-сканалі разам з песнямі, танцамі, мудрасцю вясковай, мовай непаўторнай і жыццярадасным рыканнем калісьці бязмежнага свойскага статка.

Паміж Сянно і Маларытай, дзесьці ля Крэва, калі вельмі хацелася піва, пацягнула без дай прычыны да заімшэлага дзеда з надзвычайнай па велічыні цыгаркай. І вось жа, недарэка-эстэт, не знайшоў для яго лепшага пытання ў той спякотны дзень: «Дзядуля, а сэнс жыцця ў чым?» «Дый ідзі ты ў ср...ку, – адказаў той, гледзячы ў нікуды. – Вось сядай побач ды куры!» Дапіў я піва, дапаліў, і сорамна стала. Сэнс жыцця, відаць, у тым, каб не задаваць пытання пра сэнс жыцця. Сядзі сабе ды назірай нетаропка, як над замкавай гарой шалее лета.

Сустрэчная жанчына рассмяялася ледзь не ў твар. Агаломшыла і вывела з сябе. Імгненна праверыў, ці ўсё ў мяне зашпілена. Усё! Няўжо такі смешны. Глянуў у люстра вітрыны – не, хутчэй, страшны! Што такое?! Хто дазволіў?! Выклік грамадству ў маёй важкай і заўжды самотнай па прычыне агульнай духоўнай збяднеласці асобе! Вар'ятка! Доўга глядзеў услед. Смяялася нават спіна! Дагнаў, спыніў, нахаміў, абразіў, папярэдзіў: «Не вытыркацца!», кінуў заплаканай на шматлюдным ходніку – і, супакоіўшыся, мэтанакіравана і глыбакадумна рушыў далей, зашпілены, страшны і аднастайны ў непераможным жаданні зрабіць усіх вольнымі і шчаслівымі...

*З журналісцкага дзённіка.* 20 кастрычніка 2005 года. Быў надзвычай узрушаны хараством восеньскай прыроды ў Капыльскім раёне. Барва і золата лістоты. Кастрычніцкае гуллівае сонейка. Пяшчотны ветрык над радзімай Жылуновіча і Рамаоўскага. Настрой самы элегічны. Неўтаймоўнае жаданне напісаць эсэйку пра ўзвышанае, выскароднае і сапраўды беларускае... Але на падыходзе да вёскі Семежава знянацку быў абаср...ны пералётнымі птушкамі. Элегічны настрой знік увобмірг. Напісаў штосьці цьмянае і няўцямнае пра вялікую карысць аграгарадкоў. Няхай бы пералётныя восеньскія птушкі абаср...лі мяне яшчэ раз.

Гастранамічная заўвага: сённяшнюю танную беларускую гарэлку можна

ўжываць хіба што з мятага салдацкага кацялка, седзячы ў акопе на трупе зрынутага ворага – смак перамогі пераб'е сівушны смурод...

Надта цвярозая думка на сконе жыцця: для працы патрэбныя толькі аловак ды паперчына. Усё! А людзей іншым разам дык і не бачыў бы! Пазіцыя графамана-мізантропа вышэйшага кшталту...

У рэдакцыю «Роднага слова», дзе я працаваў намеснікам галоўнага рэдактара, прыйшоў Толя Сыс з Ларысай Раманавай. Сыс прынёс пляшку віна. Падчас перакуру папрасіў напісаць колькі словаў пра свой апошні зборнік (стаў ён сапраўды апошнім) і тут жа, нахаба, пад уласны рогат вывеў формулу маім здольнасцям: «Адзін Сыс = тры Рагіны». Нічога не маю супраць такога параўнання і па сёння, бо схіляю галаву перад паэтавым талентам. Але быў Сыс не толькі бліскучым паэтам. Сёе-тое паспеў зрабіць і ў раённай журналістыцы...

Ветка. Пачатак 80-х. Я – загадчык сельгасаддзела райгазеты «Перамога Кастрычніка». Тэлефанаванне ўвечары: «Я беларускі паэт Анатоль Сыс, хачу ў вас працаваць». І працаваў. Не доўга, недзе з год, а начаваць ездзіў у Гомель, ва ўніверсітэцкі інтэрнат. Чым ён тады здзівіў? Уседлівасцю ды адказнасцю. Рэдактар пастаянна патрабаваў ад нашага аддзела праблемных тэматычных артыкулаў. Ды каб пісалі іх не толькі мы, журналісты, але і пазаштатныя аўтары. Апошняе заданне было такім: прымусіць пазаштатнікаў (загадчыкаў мехдвароў і гаражоў, старшынь калгасаў і дырэктараў саўгасаў) падрыхтаваць серыю публікацый пра інжынерныя рацыяналізатарствы ды вынаходніцтвы. Заданне яшчэ тое. Усе разам саштурхнулі яго на беларускага паэта. Думалі, дуба дасць паэт. Але... Сеў Толя ціхенька за тэлефон і штосьці з тыдзень нудна мармытаў у слухаўку. А потым з месяц цягнуліся да яго сугнеістыя дзядзькі ў драпавых палітонах з зашмальцаванымі партфелямі, перадавалі стосікі камечаных спісаных папер. Я і па сёння не ведаю, як усё гэта атрымалася ў толькі што «спечанага» карэспандэнта сельгасаддзела. Але серыя артыкулаў падалася тады вельмі годнай ды разумнай...

А яшчэ – разам з Сысом боўталіся па раёне, бралі інтэрв'ю ў даярак ды камбайнёраў, бегалі ў знакамітую нашую кнігарню, багатую на дэфіцыты...

Быў тады Сыс, дарэчы, ціхмяным, крыху дзіўнаватым, не курыў і чарку амаль не браў, размову з любым незнаёмым пачынаў з фразы «Што параіш пачытаць?». Хто памятае такім Толю? Потым, у 90-х я патрапіў у някляеўскі «ЛіМ» (самыя лепшыя гады майго жыцця!), і да мяне ў аддзел публіцыстыкі Сыс пастаянна прыводзіў сяброў, каб я пацвердзіў ім, што паэт калісьці не лынды біў, а сапраўды працаваў... Пра кнігу «Сыс» я так нічога і не напісаў... Перачытаў гэтыя радкі і чамусьці вельмі стаміўся. Трэба Мінскам падыхаць...

Фізічнае штодзённае адчуванне: жыву цяпер за тых, каго ўжо няма побач і з кім столькі гадоў ламаў і еў нялёгкі журналісцкі акраец. За Ялько, Чумакова, Стрыжака, Пісьмянкова, Гаўрона, Сыса... А мо таму і жыву? Яны зараз расказваюць анёлам показкі і выпускаюць для апраметнай чарговую баявую насценгазету. А я стагну па начах: «Хлопцы, ды няма ўжо ніякіх сілаў!»

Памёр Гаўрыла Вашчанка. Барадач з вачыма колеру дняпроўскіх хваляў. Я яго называў палескім шкіперам. Апусцеў капітанскі мосцік у мастакоўскім шматпавярховіку па Сурганава. І катэр «Мацільда» (так звалі жонку Гаўрылы Харытонавіча) застаўся без галоўнага лоцмана. Што нас паядноўвала? Зямляцтва, чарнобыльская пажыццёвая пазнака, нечаканае і тужлівае бабыльства, неўтаймоўная любоў да буслоў? Відаць, усё адразу. Галоўным колерам ён лічыў колер зямлі. І кожны бусел, што будзе лунаць над ёй, – жывы помнік вялікаму мастаку.

Гэта хто сказаў, што нашым пакаленнем толькі гной заграбаць?! Ды не! Як так! Вось Пётра Васілеўскі, да прыкладу. Лысіна, барада і хітры позірк з-за шкельцаў. Беларус з медальным профілем варага. Вельмі інтэлігентны чалавек з прыстойнай сям'і. Кароль афарыстычнага мастацтвазнаўства. Па аўторках ходзіць у лазню. Па чацвяргах – на лацінскія танцы. Фраер з вышэйшай адукацыяй! У свой час быў станіўся ад радкоў, працаваў паштальёнам, вартаўніком, таптуном у калгасе імя Суворава (утаптваў сілас ў яму), пастухом... (З гэтай нагоды пастаянна згадвае Кіплінга: «Няма большага здзеку чым пасвіць дурняў».) У мінулым стагоддзі такіх называлі «мятушейся натурой». Але эстэцтвавацъ надакучыла, і зараз Пётра – вельмі спецыяльны карэспандэнт нашай шматпакутнай, аднак гордай «Культуры»... Дарэчы, даўно яго не бачыў. Дзе ён?

– Пятровіч, ты тут?

– А то... – раве ён з-за дзвюх перагародак рэдакцыйнай стадолы на чацвёртым паверсе Дома друку. Піша, напэўна, штосьці пра заняпад нонканфармізму ва ўмовах развіцця рынкавай эканомікі...

Значыць, жыццё працягваецца. І будзе працягвацца, дзякуй Богу, яшчэ пэўны час. А вы кажаце. Мы яшчэ ого!

Мае продкі-радзімічы былі яшчэ тымі зухамі. Умелі не толькі жыта даглядаць, але лічыліся яшчэ і адметнымі глінамесамі, іканапісцамі, разьбярамі... Пра абразы веткаўскай школы нават і казаць не буду. А вось пра тое, што муляры са Стаўбуна крэмль у Маскве будавалі, цяпер мала хто ведае. Кажуць, менавіта тады нарадзілася славутая наша рамесніцкая прымаўка: «Ды няхай рукі адсохнуць у таго, хто зробіць лепей!» І ўвогуле землякі спрадвек карміліся сезоннымі промысламі. Па Сажы, скажам, сплаўлялі лес. А потым з поўнымі гаманцамі дабіраліся дахаты па беражку. Менавіта тут кемлівыя габрэі будавалі шынкі. Асабліва расстараліся яны ў абсягах Прапойска (сённяшні Слаўгарад). Вось тут кішэні і гаманцы плытагонаў неўзабаве пусцелі. І зноў потым плылі па Сажы плыты...

Так і хочацца напісаць у традыцыях савецкай журналістыкі: «З той часіны ўсё істотна змянілася». Хочацца ды няможацца. Нічога не змянілася. У адной з вёсак пабачыў карцінку нібыта з ваеннага беларускага жыцця: на вуліцах – адны жанчыны ды дзеці, а з мужчынаў – толькі загадчык сельскага клуба. Нібыта аднарукі скамісаваны ўшчэнт інвалід. Дык дзе мужыкі? А на заробках у Расіі! Працуюць на фасадах, будаўнікамі, кіроўцамі, нават рабочымі-бутафорамі на «Масфільме». Замежнікі іх хваляць, уласныя рукі – каб не адсохлі! – берагуць. А нашыя дахаты гады ў рады вяртаюцца. І ўсё праз Прапойск. І потым зноў – на промыслы. Нічога не мяняецца ў гэтым свеце.

9 траўня. Ранак. Усе – на парад. Абед – усе з параду. Трапляю ў гэты святочны рух і я. Едзем у тралейбусе. Большасць пасажыраў: вясёлыя дзядулькі і бабулькі ў яркіх строях і з процьмай значкоў і юбілейных медалёў. Баявых узнагародаў, як ні напінаюся, не заўважаю.

І як упарты антонім усяму гэтаму светламу, вясенняму і пераможнаму – нізенькі шэранькі дзядок у сціплым чорным гарнітурчыку. Сядзіць у адзіноце, лысую галаву ў плечы ўцягвае, вочы прыплюшчвае. Няёмка яму, падаецца, ды няўтульна. І ўся астатняя грамада пачала за яго вокам чапляцца. Неяк зусім напружана ў салоне стала. І шэпты пачалі даносіцца: «Паліцай?» Дзядулька лысы ў пакамечаным спінжачку на бліжэйшым прыпынку шморгнуў з тралейбуса так, што ў дзіцяці панамку з галавы сарвала. Я і не паспеў за ім. Шкада. Відаць, не адзін неверагодны сюжэт для рамана ці аповесці знёс з сабой гэты таямнічы пасажыр. І па сёння ламаю галаву, хто ён такі, шэранькі кепска голены дзядок. А раптам сапраўдны ветэран, што не прызнае юбілейных бразготак? Вось мой

дзядзька, пяхотны капітан, менавіта такім і быў: за тры вайны толькі адзін ордэн зарабіў, бо не хацеў і не ўмеў штабныя зады лізаць... І адзіную баявую ўзнагароду дзеці сцягнулі. Так і хадзіў на парады неўганараваным... А яшчэ пра аднаго сапраўднага і дзіўнага ветэрана мне калісьці Віця Стрыжак расказваў. Той вясковы дзед піў штодня, а вось Свята Перамогі адзначаў тым, што і грама гарэлкі ў рот не браў. Сядзеў сабе ціхенька дома і плакаў. Як мяне цягне цяпер да такіх незразумелых ва ўласнай правільнасці асобаў! Напэўна, не стае ў маёй натуры чагосьці гэткага, шматзначна «няправільнага», што імгненна вылучае з натоўпу, прымушае задумацца не на хвілю, а на ўсё жыццё...

У тралейбусе заўважыў: дзяўчына штосьці хуценька занатоўвае на аркушыку. Прыгледзеўся: ноты! Кампазітарка, блін. Пазайздросціў: вось ёй нішто не замінае працаваць. Каб не забыцца і таксама ўключыцца ў працэс, знаёмы толькі для абраных, пазначыў сабе на скамечаным пачаку «Пэл Мэла», як у тралейбусе заўважыў, што нейкая дзяўчынка штосьці занатоўвае на аркушыку...

У вагонным купэ маладзён-нафтавік, што вяртаўся ў Беларусь, каб ажаніцца, запытаўся ў мяне, колькі разоў за жыццё я быў шчаслівым. Во маладзёны пайшлі! Над адказам на гэтае пытанне думаю і па сёння. Тут спачатку ў тэрмінах разабрацца б. Шчасце, па-мойму, выбуховая канцэнтрацыя радасці.

Калі грымнуў першы выбух? Гады ў чатыры, калі сеў на ровар – і паехаў... Гэта быў не проста выбух, а цвёрдае непахіснае перакананне, што я ўзняўся на нейкую прыступку і ніжэй ужо ніколі не саступлю. Напэўна, я пачаў тады станавіцца дарослым.

Другі выбух – гадоў у дзесяць. Я штосьці намаляваў і дзесьці перамог. Тады я ўпершыню, відаць, зразумеў, што ў творцы радасны, але цяжкі лёс.

Трэці – калі ажаніўся. Адчуў, што магу адказваць не толькі за сябе.

Чацвёрты і пяты – калі нараджаліся сыны. Стаць двойчы бацькам – не проста прыступка, гэта разуменне таго, што не маеш больш права на хлусню і няшчырасць, а адказ на кожнае сынава пытанне – неверагодны адказнасці іспыт...

Шосты выбух – састаўны, з некалькіх залпаў. Мае «лімаўскія» публіцыстычныя спробы пачалі станоўча ацэньваць Барадулін, Гілевіч, Брыль. Няўжо я таксама штосьці магу?

Ці не зашмат выбухаў на сярэднестатыстычнае жыццё? А ёсць жа яшчэ спакойнае, невыбуховае шчасце. Яно – як павеў ветрыку, хваля-другая – і яго ўжо няма, толькі пяшчотны неабавязковы ўспамін... Да прыкладу: прыгаршчы цёплых суніц з мамінай далані, і я, як жарабя, таўкуся носам ў гэты водар... Ці карась з лапаць, які я выцягваю з возера на вачах у бацькі, а лёска дрыжыць і б'ецца, бо на другім канцы яе – залатое трапяткое шчасце... Альбо жончыны валасы, расфарбаваныя сонечнымі промнямі, што лашчаць яе праз featureзнакаляровыя вітражы Гальшанскага касцёла... Ці штотыднёвыя паходы ў бібліятэкі, хоць на хатняй паліцы – стос нечытаных яшчэ кніг (а гэта ўжо – рэзервнае ціхае шчасце)... І менавіта яго, ціхае шчасце, меў на ўвазе дыялектолаг Юрка Чарнякевіч, калі распавёў, што ў пошуках песень і слоў узняўся на дняпрўскі бераг – і аслупянеў: да вясковых могілак падступіў жнівеньскі сад, і ў першароднай цішы на крыжы і помнікі мякка падаюць раз-пораз чырвоныя наліўныя яблыкі. І ў гэтых мяккіх ударах – нейкая рытмічная заканамернасць. А Юрка стаіць і плача. Спакойнае ціхае шчасце, дзе жыццё і смерць шчыльна збітыя ў адзін скрутак пад назовам «жыццё»...

І нічога я не распавёў пра свае выбуховыя ды ціхія шчасці таму вагоннаму маладзёну. Проста цягнік спыніўся, а мне трэба было выходзіць.



# Небяспечнае лета

## *Новыя выданні на кніжных паліцах «Дзеяслова»*

**Рыгор Барадулін. Сны сасны. – Мінск: Галіяфы, 2014.**




Пяцьдзясят дзевяць вершаў, столькі ж фотаздымкаў Вадзіма Грудзька на 159 старонках, плюс трыццаць хвілінаў паэзіі ў аўтарскім выкананні. І ўсё разам гэта — новая кніга і аўдыёдыск Рыгора Барадуліна «Сны сасны». Яе ўкладальнік і рэдактар-апякун — паэт, бард і сябар дзядзькі Рыгора Алесь Камоцкі.

«Гэтае выданне планавалася яшчэ чатыры гады таму, — прызнаўся спадар Алесь у гутарцы з карэспандэнтам газеты "Літаратурная Беларусь", — але тады не здзейснілася, замест яго з'явілася кніжка вершаказаў Рыгора Барадуліна «Навошта». Мінулай восенню пра «Сны сасны» ўспомнілася галоўным чынам з-за таго, што ўсе ўключаныя ў збор вершы сам паэт прачытаў перад мікрафонам. Я паабяцаў Барадуліну, што да наступнай восені кніжка пабачыць свет разам з аўдыёдыскам — у звыклым фармаце серыі, якая задумалася 10 гадоў таму, калі Рыгор Барадулін дапамагаў Вадзіму Грудзьку з падрыхтоўкай і напісаў прадмову да ягонага фотаальбома «Край», укладаннем якога выпала займацца мне. А цяпер, калі прыйшоў час выдаць кніжку Барадуліна, складзеную яшчэ ў 2010-м годзе, ужо Вадзім паспяшаўся на дапамогу. І я, памятаючы, як захапляўся Барадулін працамі Вадзіма, з радасцю гэтую дапамогу прыняў».

**Васіль Быкаў. Поўны збор твораў: у 14 т. – Мінск: Кнігазбор, 2014. – Т. 10, кн. 1: Маладыя гады (1985,2001). Артыкулы, эсэ, прадмовы, інтэрв'ю, гутаркі, аўтабіяграфіі, выступленні (1957–1980). – 540 с.**




Саюз беларускіх пісьменнікаў працягвае працу па ўкладанні і выданні Поўнага збора твораў народнага пісьменніка Беларусі Васіля Быкава. Выйшаў у свет чарговы – 10-ы – том, што стала выдатным падарункам чытачам Беларусі да 90-гадовага юбілею творцы. Выданне змяшчае публіцыстыку. Рэдкалегія вырашыла выдаць 10 том у некалькіх кнігах. У кнігу першую ўвайшлі аўтабіяграфічныя дыялогі Васіля Быкава з Алесем Адамовічам (1985, 2001) «Маладыя гады» ,знаёмыя чытачам "Дзеяслова" (гл. №70), а таксама шэраг артыкулаў, эсэ, прадмоў, інтэрв'ю, гутарак, аўтабіяграфій, выступленняў Васіля Быкава 1957–1980 гадоў.

Як і раней, выданне Поўнага збора твораў Васіля Быкава застаецца грамадскай акцыяй, і новы том будзе бясплатна перадавацца ў бібліятэкі Беларусі. Частка наклада паступіць і ў прыватны продаж.

**Вольга Гапеева. Сумны суп. – Мінск: Галіяфы, 2014. – 72 с. – (Бібліятэка Саюза беларускіх пісьменнікаў "Кнігарня пісьменніка". Падсерыя "Каляровы ровар"; вып. 4).**




Суплёт гісторый Вольгі Гапеевай, аб'яднаных назвай «Сумны суп», і ілюстрацыі да іх Марты Герашчанка, летась перамаглі ў літаратурным конкурсе Саюза беларускіх пісьменнікаў «Экслібрыс» імя Янкі Маўра і

атрымалі шанец выйсці асобнай кнігай. Мастацкае афармленне, зручны фармат, які прыемна трымаць у руках, і, вядома, самі тэксты — усё вабіць вока нават самага капрызлівага чытача.

Вольга Гапеева з задавальненнем распавяла пра свой новы праект:

– «Сумны суп» пісаўся ў даволі складаны для мяне час, але менавіта дзякуючы гэтым гісторыям я адчувала сябе лепш і была неяк больш «абароненай» пры сутыкненнях з гэтым «варожым і зласлівым» светам. Асабіста я вельмі люблю разумныя і шчырыя дзіцячыя кніжкі. Думаю, што кніжка можа быць цікавай для дарослых з пункту гледжання «вяртання»/«паглыблення» ў той свет, дзе суп сапраўды мог быць сумным ці вясёлым, дзе не было думак «гэта нейкі абсурд, такога не бывае». Хаця часта, калі дзеці пачынаюць сацыялізавацца, яны выяўляюцца яшчэ большымі дыктатарамі, якія не прымаюць «іншасці». Дзеці, спадзяюся, пабачаць розныя мадэлі для сябе і не будуць баяцца вырасці «нейкімі не такімі» ці «не як усе». Кнігі для дзяцей (як і для дарослых) павінны быць рознымі, бо мы ўсе розныя, камусьці падабаюцца нязграбныя, нагрувашчаныя разважанні, а хтосьці ў захапленні ад лёгкага мінімалізму. Спецыфіка творчага дуэту пісьменнік-мастак у неабходнасці паразумення і адкрытасці. Калі ёсць дыялог — тады ўсё атрымаецца.

**Аляксей Каўка. Мае беларусы: сустрэчы-ростані, допісы, прысвячэнні. – Масква: Альтэкс, 2013. – 352 с.**




Новую кнігу эсэіста, нястомнага даследніка беларускай літаратурнай спадчыны Аляксея Каўкі склалі ўспаміны пра сучаснікаў, “допісы пра вячыстасць мовы роднае”, тэксты, якія, перадусім, акрэсліваюць беларускую прысутнасць у Маскве. Асобна вылучаюцца партрэтныя замалёўкі дзеячоў нацыянальнае культуры, з якімі аўтару давялося быць знаёмым (З. Верас, К. Буйло, М. Улашчыка, Я. Брыля, Ю. Туронка, У. Калесніка, М. Ермаловіча, Г. Каханоўскага, Г. Кісялёва, В. Скалабана, М. Сяднёва і інш.). Як піша ў прадмове Віктар Чайчыц, “бел-чырвона-белаю стужкаю трапеча праз усе старонкі кнігі наша нацыянальная ідэя ў яе дзяржава- і культуратворчых парываннях, у гістарычным самасцвярджэнні краіны Беларусь...”

У кнізе шмат кранальных старонак, звязаных з асабістым жыццём аўтара. Аляксей Каўка выступіў тут яшчэ і як паэт(!) – кніга “Мае беларусы” завяршаецца вершаванымі прысвячэннямі (з загалоўкам, пазычаным у Сяргея Панізніка, – “Пры свячэнні”) блізкім аўтару па “духатворчых памкненнях” людзям.

Кніга прысвечана памяці маці – Ганны Маркаўны Атрашэўскай (Каўка).

**Тувэ Янсан. Небяспечнае лета. – Мінск: Зміцер Колас, 2014. – 140 с.**




Па-беларуску з’явілася кніга «Небяспечнае лета» фінскай пісьменніцы Тувэ Янсан, стогадовы юбілей якой сёлета святкуецца ва ўсім свеце, з ілюстрацыямі аўтаркі. Прыхільнікі мумітроляў ды іншых жыхароў Мумідола і яго ваколіцаў могуць папоўніць свае калекцыі мумікнігаў новым выданнем, якое выйшла ў перакладзе Алесі Башарымавай у выдавецтве Змітра Коласа.

Героі кнігі вымушаныя развітацца з бесклапотнасцю жыцця ў Мумідоле і прымераць на сябе новыя і часам нечаканыя ролі... Адрасуецца дзецям малодшага школьнага ўзросту, а таксама ўсім аматарам мумітроляў.



# Нашыя аўтары

**Адамчык Вячаслаў** – празаік, перакладчык, кінадраматург, публіцыст. Лаўрэат Дзяржаўнай прэміі Беларусі. Аўтар кніг апавяданняў «Свой чалавек», «Міг бліскавіцы», «Дзікі голуб», раманаў «Чужая бацькаўшчына», «Год нулявы», «І скажа той, хто народзіцца», «Голас крыві брата твайго». Нарадзіўся ў 1933 годзе ў вёсцы Babaкомшчына на Дзятлаўшчыне. Памёр у 2002 годзе.

**Александровіч Разалія** – філолаг, гісторык. Працуе ў галіне метадычнага забеспячэння адукацыі дзяцей дашкольнага ўзросту. Аўтар кнігі «Зямля з блакітнымі вачыма» (у суаўтарстве з Т. Нескаромнай). Мае шэраг публікацый у перыядычным друку, навуковых выданнях. Займаецца навуковым даследаваннем па тэме «Далучэнне дзяцей да гісторыі і культуры свайго этнаса: на прыкладзе сем'яў беларускіх татараў». Нарадзілася ў 1956 годзе ў Навагрудку. Жыве ў Мінску.

**Арабей Лідзія** — празаік, літаратуразнаўца, кандыдат філалагічных навук. Аўтар кніг «Калібры», «Мера часу», «Сузор'е Вялікай Мядзведзіцы», «Сярод ночы», «Пошукі кахання» і інш. Нарадзілася ў 1925 годзе ў вёсцы Нізок на Уздзеншчыне. Жыве ў Мінску.

**Барадулін Рыгор** — народны паэт Беларусі. Перакладчык, эсэіст. Лаўрэат Дзяржаўнай прэміі імя Янкі Купалы. Аўтар кніг паэзіі «Маладзік над стэпам», «Рунець, красавацъ, наліваццa!», «Нагбом», «Адам і Ева», «Рум», «Вечалле», «Евангелле ад мамы», «Здубавецце», «Руны Перуновы», «Ксты», «Anima», «Вушацкі словазбор» і інш. Нарадзіўся ў 1935 годзе на хутары Верасоўка на Ушаччыне. Памёр у 2014 годзе.

**Быкаў Васіль** — народны пісьменнік Беларусі. Празаік, публіцыст. Лаўрэат шматлікіх дзяржаўных і міжнародных літаратурных прэміяў. Аўтар кніг «Жураўліны крык», «Трэцяя ракета», «Альпійская балада», «Воўчая зграя», «Пайсці і не вярнуцца», «Знак бяды», «Кар'ер», «Сьцяна», «Пахаджане», «Доўгая дарога дадому» і інш. Нарадзіўся ў 1924 годзе ў вёсцы Бычкі на Ушаччыне. Памёр у 2003 годзе.

**Гілевіч Ніл** — народны паэт Беларусі. Заслужаны дзеяч навукі Беларусі. Драматург, перакладчык, фалькларыст, літаратуразнаўца. Лаўрэат Дзяржаўнай прэміі імя Янкі Купалы. Аўтар кніг «Песня ў дарогу», «Прадвесне ідзе па зямлі», «Перазовы», «Паэтыка беларускай народнай лірыкі», «Святлынь», «Родныя дзеці», «І чую я голас...», «Замова ад страху» і інш. Нарадзіўся ў 1931 годзе ў вёсцы Слабада на Лагойшчыне. Жыве ў Мінску.

**Дубавец Сяргей** — празаік, крытык, публіцыст, выдавец. Аўтар кніг «Практыкаванні», «Дзённік прыватнага чалавека», «Русская книга», «Вострая Брама», «Вершы», «Як?», «Errata» і інш. Нарадзіўся ў 1959 годзе ў Мазыры. Жыве ў Празе.

**Дубоўскі Валеры** – паэт, выдавец. Працаваў журналістам, кіраўніком у розных беларускіх перыядычных выданнях, дырэктарам выдавецтва «Беларусь». Аўтар кнігі вершаў «На пачатку маўчання». Нарадзіўся ў 1948 годзе ў вёсцы Хацькова на Шклоўшчыне. Жыве ў Мінску.

**Дубянецкая Галіна** —паэтка перакладчыца. Аўтарка кнігі «Анадыямэна». Нарадзілася ў 1962 годзе ў Мінску, дзе і жыве.

**Емяльянаў Алесь** – паэт. Аўтар кнігі «Парасонечнасць». Нарадзіўся ў 1987 годзе ў Крычаве. Жыве ў Мінску.

**Жыбуль Віктар** — паэт, перакладчык, літаратуразнаўца. Аўтар кніг «Калі ў хаце дыверсант», «Рогі гор», «Прыкры крык», «Дыяфрагма», «Стапеліі» і інш. Нарадзіўся ў 1978 годзе ў Мінску, дзе і жыве.

**Захарэўскі Андрэй** – празаік. Вучыўся ў Беларускім дзяржаўным педагагічным універсітэце. Працуе падсобным рабочым на заводзе. Нарадзіўся ў 1988 годзе ў Мінску, дзе і жыве.

**Казлова Алена** – празаік, перакладчык. Неаднаразовы пераможца розных літаратурных конкурсаў, у тым ліку «Нашай Нівы» і Беларускага ПЭН-цэнтра. Аўтарка кнігі «Дрэва Энталіпт». Нарадзілася ў 1981 годзе ў Магілёве. Жыве ў Мінску.

**Конан Дойл Артур** – празаік, паэт**.** У 1891 годзе выдаў першае апавяданне з серыі «Прыгоды Шэрлака Холмса» – «Скандал у Багеміі». Геніяльнаму дэтэктыву прысвечаныя чатыры раманы і пяць зборнікаў апавяданняў. У 1900 годзе Дойл як ваенны хірург адпраўляецца на англабурскую вайну. У 1902 годзе ён выпусціў кнігу, якая так і называецца – «Вайна ў Паўднёвай Афрыцы». Праз пэўны час пісьменнік атрымлівае дваранскае і рыцарскае званне, а таксама мянушку Патрыёт. У 1912 годзе выдаў навукова-фантастычную аповесць «Закінуты свет», якая адкрыла цыкл твораў пра прафесара Чэленджэра. Апошнім значным творам пісьменніка стала навукова-фантастычная аповесць «Маракотава бездань». Нарадзіўся ў 1859 годзе ў Эдынбургу. Памёр у 1930 годзе ад сардэчнага прыступу.

**Лявонава Ева** – літаратуразнаўца. Кандыдат філалагічных навук, прафесар кафедры «Гісторыя замежнай літаратуры» філалагічнага факультэта БДУ. Аўтарка 370-ці навуковых публікацый, шэрагу навуковых кніг, сярод якіх – «Плыні і постаці: З гісторыі сусветнай літаратуры другой паловы XIX-XX стст.», «Беларуская літаратура XX ст. і еўрапейскі літаратурны вопыт: Дапаможнік для студэнтаў», «Агульнае і адметнае: Творы беларускіх пісьменнікаў XX стагоддзя ў кантэксце сусветнай літаратуры». Нарадзілася ў Мінску, дзе і жыве.

**Мароз Уладзімір** – паэт, празаік, публіцыст, сцэнарыст. Аўтар кніг «Голас», «Рэй», «Хутаранская зорка», «Беларускі храм» і інш. Нарадзіўся ў 1953 годзе ў Косаве. Жыве ў Мінску.

**Міхно Уладзімір** — празаік, публіцыст. Аўтар кнігі «Горкі зефір». Нарадзіўся ў 1964 годзе ў вёсцы Чэрцы на Лепельшчыне. Жыве на Лепельшчыне.

**Пазьняк Зянон** — палітык, гісторык, паэт, фотамастак. Аўтар кніг «Браслаўшчына», «Рэха даўняга часу», «Сапраўднае аблічча», «Курапаты», «Глёрыя Патрыя», «Беларуска-расейская вайна» і інш. Нарадзіўся ў 1944 годзе ў мястэчку Суботнікі на Іўеўшчыне. Ад 1996 года ў палітычнай эміграцыі. Жыве ў Варшаве.

**Плакс Дзмітры** – паэт, перакладчык, мастак. Аўтар некалькіх кніг паэзіі, у тым ліку зборніка «Трыццаць тэкстаў» (Бібліятэчка «Дзеяслова»). Нарадзіўся ў 1970 годзе ў Мінску. Жыве і працуе ў Стакгольме.

**Рагін Яўген** — журналіст, публіцыст. Доўгі час быў супрацоўнікам тыднёвіка «Літаратура і мастацтва». Нарадзіўся ў 1960 годзе ў Ветцы на Гомельшчыне. Жыве ў Мінску.

**Рублеўская Людміла** — паэтка, празаік, крытык, драматург, нарысіст. Аўтарка кніг паэзіі «Крокі па старых лесвіцах», «Адукацыя», «Замак месячнага сяйва», прозы «Старасвецкія міфы горада Б*», «Сэрца мармуровага анёла», «Пярсцёнак апошняга імператара», «Шыпшына для пані», «Сутарэнні Ромула», «Ночы на Плябанскіх млынах» і інш. Нарадзілася ў 1965 годзе ў Мінску, дзе і жыве.

**Сапач Таццяна** – паэтка, журналістка, перакладчыца. Аўтарка кніг «Восень» і «Няхай не пакіне нас Восень». Адна з аўтарак перадачы «Палітычная геаграфія» на Радыё Свабода (з 2005 г.). Аўтарка праграмы «Віленскі сшытак» на Літоўскай нацыянальнай тэлевізіі (1991-2010). Нарадзілася ў 1962 годзе ў вёсцы Маркава на Маладэчаншчыне. Трагічна загінула ў 2010 годзе.

**Слінка Віктар** — паэт. Аўтар кніг паэзіі «Апошні снег», «Штольні вясны», «Арахна». Нарадзіўся ў 1972 годзе ў вёсцы Козікі Івацэвіцкага раёна, што на Брэстчыне. Жыве ў Мінску.

**Сыс Сяржук** — паэт, журналіст. Аўтар кнігі «Стрэмка». Нарадзіўся ў 1962 годзе ў вёсцы Заспа на Гомельшчыне. Жыве ў Мінску.

**Фарухсад Атэна** – паэтка, літаратурны крытык, перакладчыца. Публікавалася ў складзе паэычнага калектыву G=T=B=R=G. «Белая нізка» – яе першая кніга, выдадзеная ад уласнага імя. Нарадзілася ў 1983 годзе ў Стакгольме .

# Contents

## Слова ад «Дзеяслова»

***Шаноўныя чытачы!***

На «Дзеяслоў» ***можна падпісацца*** ў любым паштовым аддзяленьні Беларусі.

**Наш індэкс – 74813** (для індывідуальных падпісчыкаў),
**– 748132** (для ведамаснай падпіскі).

Чытайце «Дзеяслоў» таксама ў Інтэрнэце: **www.dziejaslou.by**


беражы лес – чытай кнігі на camunikat.org

camunikat.org


Да ведама аўтараў:
рукапісы не рэцэнзуюцца і не вяртаюцца.

Рэдакцыя не нясе адказнасці
за выкладзеныя ў аўтарскіх тэкстах факты.

Пры передруку
спасылка на «Дзеяслоў» абавязковая.


У «Дзеяслове» скарыстаныя фотаздымкі:
Юрыя Дзядзінкіна, Анатоля Клешчука, Яўгена Коктыша,
Уладзіміра Крука, Глеба Лабадзенкі, Віктара Стралкоўскага,
Сяргея Шапрана, з інтэрнэт-крыніцаў і архіва рэдакцыі.